# 11/2005

# ПОЛЫМЯ



**Казімір Камейша**
**Вячаслаў Дашкевіч**
**Змітрок Марозаў**
Вершы

**Таіса Бондар**
**Гульня ў падкіднога**
Раман (частка першая)

**Ян Скрыган**
Навелы (спадчына)

**Іван Шамякін**
**З дзённікаў**

**Уладзімір Логінаў**
**Хто робіць надвор'е?**

**Зіновій Прыгодзіч**
**Тры сустрэчы**
**з Міхасём Савіцкім**

**АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН**

* * *

Жыцця майго і смерці пераправы
і Сталінград дагэтуль сняцца мне...
Зваліўся я, падкошаны жалезам,
абняў рукамі родную зямлю.
Яна прапахла дымам і палыннай
слязою нашых матак і дзяцей.
Калі я моцна сціснуў яе ў жменьцы —
праз пальцы пырснула густая кроў!..
Не помню, як мяне на самалёце
вязлі ў шпіталь, далёка на Урал,
дзе па імшарах шэрых журавіны
цвітуць і спеюць позна, як і ў нас.
Як толькі ўбачыў стол аперацыйнай,
у вокнах — чарналапую тайгу.
Спакой навокал... Гэтак бела-бела,
нібы калыша воблака мяне...
Мае здранцвелыя разнялі пальцы —
пасыпалася на паркет зямля.
І жвір маўкліва, доўга разглядалі,
пасля сабраў у жменьку санітар.
Сівенькі, на майго падобны дзеда,
нячутна ён падаўся да дзвярэй.
А раненыя трызнілі аб Волзе...
За вокнамі агні
і чорны снег...

*1943*



60-годдзе
**ПЕРАМОГІ**

# ПОЛЫМЯ

11

(913)

2005

лістапад

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2005

# ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



## Казімір КАМЕЙША

### НЕМАНІНА*

За берагам Нёмна, дзе стогнуць лясы,
Узносячы ў Памяць галіны,
У цёмным спляценні здзічэлай лазы
Заснула мая Неманіна.

Я дзікасці зведаў, а сам не здзічэў
І бераг на здзек не пакінуў.
Спявае ці плача, а Нёман цячэ,
Мінае маю Неманіну.

Не чуў — салавей там даўно не пяе,
Над вокам яе засынае,
І ўсё, што шчасліва мінае яе,
Чамусьці мяне не мінае.

Зацягнута цінай, страшней ад балот,
Счарнелай вярбе па калена.
Жыве там шчупак, яшчэ з казкі былой,
Стары, як гнілое палена.

Ён, пэўна, прырос да карча плаўнікам,
Ці, можа, прыснуў на хвіліну.
Усё, што завецца вялікай ракой,
Мінула маю Неманіну.

---

*Камейша Казімір Вікенцьевіч нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у часопісе «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы», «Мембрана», «Нектар», «Тут мае вёсны прычалены», «Сябрына», «Плёс», «Галоўная вярста», «Пярэймы дня», «Кубак блакіту», «Лінія лёсу», кніг для дзяцей «Гаёўка», «Буслянка», «Дзятлава кузня», «Добры дзень, шафёр», «Крыгагром», кнігі прозы «Духмянае дзіва».*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

---

* Неманіна — так у прынёманскіх мясцінах завуць рачную старыцу.

Забавішся думкай у свеце старым,
Замрэш, як раса на пялёстку, —
І бачыш: лілея, як свечка, гарыць,
Ажно апякае стракозку.

Ці позна, ці рана яна расцвіла,
Я з летам спрачацца не буду,
Мне хопіць і гэтага нават святла,
Каб выйсці з адвечнага блуду.

Я выйду з тваіх берагоў, як з начы,
І ўбачу праз морак і ціну,
Што ты не памерла, — шуміш і крычыш,
Нямая мая Неманіна!

* * *

А паміж памяццю і снамі,
Як шрам, смыліць далёкі след.
А ў полі толькі пыл слупамі,
А ў садзе толькі пустацвет.

І між аблок дзядок сівенькі
З пустымі торбамі ідзе.
Зямля пустая і сявенька —
Ані зярнятка анідзе.

Жыві, цягні свой гуж, сямейка,
Ды лапаць долі свой пляці.
І толькі сонца, як капейка,
У воку сплаканым трымціць.

Не з іншага прыйшоў я свету,
І гэта мой таксама боль,
Што ў садзе многа пустацвету
І грады пляжыць градабой,

Што многа злосці ў чалавеку,
Што мала міласці зусім —
Ці будзь ты бедным, ці калекам,
Яе, бронь божа, не прасі.

Што паміж памяццю і снамі, —
Я добра ведаю даўно.
Не разумею я адно:
Што, людзі, дзеецца між намі?

* * *

Жыццё, заміраеш само ты,
Цябе не суцешыш нічым,
Калі «Анёл Панскі» самотна
Пад восеньскім небам гучыць.

Прыгорбленым ціхім радочкам
Зноў цягнецца дзень на клады.
І ўнучка за ручку,
І дочка,
А ўперадзе — век малады.

Не злічыш — яны не злічоны —
Сляды, па якіх ты ступаў.
Іх сумна ў працэсіі чорнай
Лісцём паўтарыў лістапад.

## ПРЫГАДКА

Любіў калісь я таўкатню вакзалаў,
Быў крэслам там звычайны чамадан,
А ў ім ляжаў брусок духмяны сала.
Сядзіш — ты сам сабе і кум, і пан.

Гукне гудок — і ты ўжо на падножцы,
Прыціснеш чуб чарнявы да акна.
Паклон мой нізкі новае дарожцы,
Хай будзе не апошняю яна.

Вясёла колы грукаюць на стыках
І аддаюцца песняю ў вушах.
Які ён, свет, і цесны, і вялікі!
Якая ты шырокая, душа!

Мільгаюць незнаёмыя супынкі,
А ёй, душы, супынку ўсё няма.
Вось абдыму паўсонную дзяўчынку,
Што да пляча схіляецца сама,

Сябе адчую гжэчным кавалерам
І столькі за дарогу нахлушу,
Што потым сам хлусні тае паверу.
Ах, ведайце шырокую душу!

Ляцець ёй трэба на крайсвет той самы
Праз ноч, дзе колы грукаюць званчэй.
А ў чамадане смачна пахне сала,
І ўсё жыццё наперадзе яшчэ.

Разбудзіць нехта:
— Хлопец, ты праехаў.
Гляджу:
пустэча й цемра ля пляча.
— А будзіць хто? — я запытаўся смехам.
— А будзіць ён, — мне адказалі, —
Час!

## НОЧ

Гэта ўсё не схопіш вокам,
Я тут вока не віню.
...Дыму п'янага аблокі,
Рэкі хісткія агню.

Тут усё крычыць, мігае,
Як шалёны той ручэй,
Што аднымі берагамі
У адзін бедлам цячэ.

Ах, якія шуры-муры!
Цесна целу і душы.
Ноч памятаю купюрай
У салончыку шуршыць.

Весяліся колькі хочаш,
І стараюцца хлюсты
Выпіць столькі жарсцяў ночы,
Каб да ранку не астыць.

І даляр, парваны кімсьці,
І пралітае віно...
Круціць, круціць горад-кіншчык
Каляровае кіно.

Блудзяць ногі, блудзяць рукі,
Закануркі ўсе не спяць.
Недакуркі, як гадзюкі,
У калюжынах сіпяць.

Стогнуць гумкі, стогнуць спражкі,
І спявае гнуткі стан.
З адкаркованае пляшкі
Б’е гарэзнасці фантан.

Толькі недзе бомж спрасоння
Уздыхне пад гэты шал.
Што там пляшка, калі сёння
Адкаркована душа.

Запарушыць вочы кветнік
У пакутлівай смузе,
І ўсё раніцай на сметнік
Заўтра горад адвязе.

## МАЙМУ НАСТАЎНІКУ

У час той бесклапотны —
Дзянькі я помню тыя —
Быў з намі не самотны
Настаўнік Саматыя.

Пахваліць пры нагодзе,
Ад сумнага заслоніць.
Вучыў ён смак знаходзіць
У нашым родным слове.

З тае пары й шукаю —
Аж слепнуць часам вочы.
Што згублена вякамі,
Усё ж знайду аднойчы.

За маладосць, за веру
Я вып’ю куфель боскі.
Ізноў вясна завеяй
Мяце мне ў твар пялёсткі.

Плывуць яны па хвалях,
Нібы ўспаміны тыя.
Няхай мой верш пахваліць
Настаўнік Саматыя!

* * *

Ля вясковае каплічкі
Зноў я сёння напаткаў
Твар знаёмай каталічкі:
Вочы — бляск маладзіка.

Дзе румянец цёплых раніц?
Я дарма яго шукаў.
Ціха выраніць ружанец
І збянтэжыцца рука.

Падыму і гляну ў вочы —
І сябе пабачу ў іх.
Ты сказаць мне нешта хочаш
І баішся слоў сваіх.

Згадак іншых мне не трэба,
Гэта чула ўся зямля,
Як арган грымотна з неба
Тваё імя прамаўляў.

Хай бы час хвілінай кожнай
Дадаваў вачам цяпла, —
Ты б вярбінкай велікоднай
Зноў у снах маіх расла.

Можа, заўтра мне прысніцца —
Лёгка казытне шчаку —
І слязінка на галінцы,
І пчала на каташку.

* * *

Хоць як быццам усё не чужое:
Гэты двор, гэты бор за смугой,
А жыву я цяпер за мяжою,
За мяжой маладосці сваёй.

Калі й цешаць, дык толькі ўспаміны.
Што ж, пабегаў,
як мог, паслужыў.
Ну дык як табе там на чужыне,
На якой ты зусім не чужы?

Час там мае другія спружыны,
Хоць кругамі аднымі снуе.
Іншы рух там зусім у сцяжынаў,
Нават правілы руху свае.

А чаго ж ты ляцеў і спяшаўся,
Грозным мытнікам нешта хлусіў?
Несці цяжар найцяжкі ты ўзяўся,
Калі ўзяўся — нясі.

Свет даўно ўжо не ў фарбах ружовых,
А ў тых шэрых, чужых, паўстае.
Не салодка мне там, за мяжою,
Ды і вам не пазбегнуць яе.

* * *

І запаліць вясна
Каташкі па нізоўі.
І заплача сасна
Залатою слязою.

Зойдзе сонца ў акно,
Гляне ў кожны закутак
І напоўніць віном
Следу снежнага кубак.

Скрып старэнькіх красён
Чуеш там, за дварамі?
Непаўторнае ўсё
Памяць зноў паўтарае.

## ВЕСНАВОЕ

Ці раз трывожна сойка
У шыбу дзюбай стукне,
Пакуль дажджы і сонца
Вясне пашыюць сукню,

Прышлюць з дзялянак мая
І шоўку, і атласу,
Ды скупа,
вельмі мала
Дадуць на шпацыр часу.

Ідзі хадой чароўнай,
Ды не глядзі звысоку.
І бэзам, і чаромхай
Гайдаюцца аблокі.

Спрыкмеціцца і ў смутку
Мне колер найдарожшы.
Сягоння ў кожным кубку
Вясны бушуюць дрожджы.

Яшчэ й мяне, старога,
Бунтоўнасць гэта вабіць.
Хачу зусім нямнога —
Прайсці пад ручку з Вамі,

Прысесці, прытуліцца
На лавачцы ўспаміну...
І цэлы век прамчыцца
За нейкую хвіліну.

* * *

Прырастае новы дзень,
Доўжыць крок да сонца.
Нітку ўсё даўжэй прадзе
З хмарных валаконцаў.

Плача, трубіць у бары
Новаю трубою,
Прарастаючы ў двары
Маладой травою,

Новым кругам — у ствале,
На ствале — галінай,
Новым хлебам на стале,
Новаю хвілінай.

Не шкадуем дужых ног —
Эх, хада зямная! —
Новай сцежкі бізуном
Час нас падганяе.

Глянеш: тлее, — не гарыць
Захаду лампада.
Нас зацягваюць віры
Рыжых лістападаў.

Ты святлом не мерай змрок,
Варажбой — павер'е.
...Засталося на глыток
Гойнага паветра.

* * *

Паэму з імёнаў дзявочых
Ты згадваць даўно неахвочы.

Дый сёння так міла і вабна
Прамовіцца даўняе — Ванда.

І лёгкая светлая сукня
Мільгне за варотамі сумна.

І вальсы, і лёгкія «полькі»...
А колькі было іх, а колькі!

Я луг прыгадаю вясновы
У яркай зялёнай абнове.

Ты бегла... Ты з сонцам гуляла
І ў травах прыколкі губляла.

Дзе ты пагубляла прыколкі,
Блішчаць майго шчасця асколкі.

## З ПЕРАЖЫТАГА

Відаць, я ў гэтым свеце не адзіны,
Хто марыў час калісьці пераняць,
А сам гады разменьваў на хвіліны
І столькі іх на марнасць размяняў.

У гэтым не шукаю апраўдання
І суцяшэння, мабыць, не знайду.
Здаецца мне, па кладачцы кахання
Я на спатканне даўняе іду.

Мой крок за мною нехта паўтарае,
Мой след яму мярэжыцца ўваччу.
Мая зіма даўно не за гарамі,
Хачу таго я сам, ці не хачу.

Згаджуся з мудрацамі: нельга двойчы
У тую ж у адну ступіць ваду.
Але ў хадзе жыццёвай ці аднойчы
Ступаў я ў тую ж у адну бяду.

І не крычаў: «Яе перамагу я», —
А ў роспачы да крыжа прыпадаў.
Адна бяда вяла бяду другую,
А беды ўсе — адна твая бяда.

І ўсе грахі мае — мой грэх адзіны.
Я і ў малітве тое паўтару.
Качу й качу свой камень пад гару,
Гады ператвараючы ў хвіліны.







Таіса БОНДАР

# ГУЛЬНЯ Ў ПАДКІДНОГА

*Раман*

## Частка першая

## Розыгрыш

Вечар упаўзаў у горад па ўсіх вуліцах і вулачках, ні на што, ні на каго не зважаючы. Ды і на што зважаць? На каго? Было б яшчэ неба чысцейшым, каб якой зорцы зрэдку падзівіцца, а то шэра і шэра. Ва ўсім, на ўсіх — звыклая шэрань. Нават бліскі фар ці асветленыя сям-там вокны — карціны не мянялі. Застаўленая карабкамі камяніц прастора выдавала жывою і нежывою адначасна, а знізу, з палопанага асфальту зацёртага між высокіх сцен дворыка ўвогуле ўспрымалася каменным мяшком, напоўненым гулам і гудам.

Статкі машын... Натоўпы людзей... Стужкі трамвайных рэек... Слупы ліхтароў... Пагляд адштурхоўваўся ад усяго, што трапляла на вочы, і саслізгваў у цёмную твань якой-небудзь пазаўчарашняй думкі. Міг-другі, і зноў — той жа рух, той жа рытм... Пакуль не завішчаць на бліжнім павароце тармазы ці не загалосіць паблізу, ачышчаючы шлях, сірэна. Хто прымружыць вочы, хто плечы ўнурыць, міжволі сцінаючыся і азіраючыся, а момант мінае, як мінуў папярэдні, як міне наступны. Падглядваць за катрым з іх можна, а навошта? Тая сцэнка, іншая, а герой — хто? Дзе?

---

*__Бондар Таіса Мікалаеўна__ нарадзілася 20 лютага 1945 года ў гарадскім пасёлку Рудзенск Мінскай вобласці. Скончыла факультэт англійскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў (1967). Настаўнічала ў горадзе Фалешты (Малдавія), загадвала аддзелам выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», была намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь», галоўным рэдактарам часопіса «Всемирная литература». Цяпер — дырэктар РВУ «Літаратура і Мастацтва».*

*Аўтар паэтычных кніг «Захапленне», «Акно ў восень», «...І голас набыла душа», «Святочны снег», «Чырвоны месяц года», «Спадчынны боль», «Адна», «Хачу назваць цябе каханым», «У час душы, мой час вячэрні», «Рагнеда», кніг прозы «Час, калі нас любілі», «Паветраны замак на дваіх», «Спакуса», «Ахвяры», «Павуцінне» і інш.*

*Лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» (2004).*

* * *

— Шаноўная публіка! Разыгрываецца драма...

— Трагедыя! — чуецца сіпенне аднекуль збоку.

— Разыгрываецца вострасюжэтная драма... — спрабуе пачаць спачатку дылда ў парыку часоў Людовіка, і каб льга было разгледзець пад маскаю спакойнай, упэўненай абыякавасці яго твар, стала б ясна: пярэчыць не выпадае, не варта...

— Трагедыя! — гучней пярэчыць-сіпіць тоўсты карантыш аднекуль у яго з-пад пахі і, адштурхнуты, не падае, а адкочваецца ўбок, каб гэпнуцца пасярод пляцоўкі, падкурчыць пад сябе ногі і абаперціся на іх локцямі, абхапіўшы далонямі твар.

— Шаноўная публіка! Разыгрываецца вясёлая драма, у якой на памінках па вялікай дзяржаве п'юць-гуляюць усе, прапіваючы рэшту страху перад усеуладнымі валадарамі гэтага свету, — тэатральна, ва ўсю моц голасу, абвяшчае дылда і, задаволены сам сабою, гучна смяецца. — Дзе ўжо ім, ха-ха-ха, уразумець-уцяміць, я к о м у валадару шлях расчышчаюць!

— Перад кім ты вылузваешся? — з ледзь прыхаванаю непрыязнасцю кідае рэпліку карантыш, не памяняўшы позы, нават не зварухнуўшыся.

— Як гэта перад кім? — заёрзаў той, азіраючыся. — Хіба публіка не сабралася? Ці мо занавес...

— Ага.

— Што — «ага»? Ага, публіка, ці ага...

Разыгрываючы здзіўленне, зрабіўшы колькі кругоў вакол той кропкі, дзе стаяў, а потым вакол карантыша, вось ужо шмыгае дылда носам, як шапку, сцягвае з галавы парык, шпурляе яго долу, пад ногі, і шырокім рукавом пачынае выціраць узмоклую пад парыком плешыну.

— Чорт ведае што... — бурчыць. — Перад кім вылузваюся? Нафіга гэтыя каралеўскія кудзеркі сучаснаму палітыку?

— Ага.

— Што — «ага»?

— Нафіга.

— Ды пайшоў ты! — незласліва агрызаецца, апускаючыся на падлогу непадалёку, дылда. — Няма ні з кім, ні перад кім іграць, а іграеш...

— Ты не іграеш, а ўсё больш каркаеш: драма... памінкі... Яшчэ чаго добрага, накаркаеш!

— Можна падумаць: ты што б іншае казаў, трапіўшы на авансцэну!

— Ты і ўзапраўду верыш, што трапіў на авансцэну жыцця, што мы на сцэне, а не ў закуліссі? — нейк лена, пацягваючыся, адказаў карантыш, і па ўсім было відаць, што яму даўно збрыдла гэта гульня.

— Пасады, кшталту маёй — ці тваёй! — абы-каму не даюцца.

— Сёння ёсць пасада, заўтра...

— Пад зад нагой? Ну, не-е! На тое і галава, каб сядзелася ўтульна... Аднаму каму паднясеш, другога каго падхваліш — глядзіш, і ты заўважаны кім трэба. А ўжо як заўважаны, дык і ўшанаваны. У свой час. Усё ў свой час!

— Палыселі, свайго часу чакаючы, — бурчыць карантыш, мяняючы позу на больш зручную. — А прыйдзе той час мо толькі для таго, каб нас уперад нагамі вынесці.

— За сябе кажы! — злуецца дылда. — Намеснік міністра не заўсёды міністрам становіцца, але і сваё рэдка ўпускае. Ён — я! — н а м е н к л а т у р а,

а каго здолею сыграць сёння ці заўтра, тое заўтра вырашыцца. Ужо ж, у хеўры адвергнутых не апынуся. І ты — калі будзеш за мяне, за маё змагацца! — не апынешся. А то смэркі развесіў, загундосіў: завышаем... падрываем... не заўважаем... А хто і чаго, запытаць, не заўважае? Ужо ж і сляпому відаць, што калос — на гліняных нагах: піхні — і рассыплецца!

— Мы што — ужо гатовы падпіхнуць? — палохаецца карантыш.

— Будзе каму падпіхнуць! — прыцішыў той голас. — Нам бы не прапусціць тую хвіліну, калі пасыплецца, каб сабе што якое прыхапіць. Скарбы ж нямераныя — у распыл пойдуць.

Карантыш з усёй сілы стараўся не паказаць, як напалоханы смеласцю пачутых слоў, і ў яго гэта атрымлівалася кепска, ненатуральна, ад чаго яго кідала то ў жар, то ў холад. Ён не заўважаў, што даўно зняў парык і марна спрабаваў уцерціся ім, паціху адсоўваючыся ад суразмоўніка.

— Шаноўная публіка! Разыгрываецца драма... — ускочыў на ногі той, адкрыта пасмейваючыся з карантыша.

— Ты што? Зусім збрэндзіў? Арты-ы-ыст!

— Мы ж не на сцэне. І не на пляцоўцы ў скверы, як разыграна, — уціраўся сурвэткаю дылда. — Мы ў кабінеце. У маім кабінеце! І няма чаго вочы пучыць! Сёння ніхто ні ад чаго не застрахаваны, і трэба быць гатовымі да ўсяго. І ў краіне, і ў партыі... На тое мы і служакі, каб службу несці. Дзе? Там, дзе патрабуецца. У закуліссі наменклатуры. У старым ці новым мундзіры. Ці ў парыку скамароха. Ці нават у яго пад нагамі. Дзе скажуць!

— Дык гэта розыгрыш?! — яўна ачуняў яго падначалены сябра. — Яшчэ адна імправізацыя для сцэны дзеля пацехі?

— Ты не зразумеў, — паморшчыўся дылда. — Прыйдзе час — зразумееш. А цяпер ідзі... Квартальную справаздачу ніхто за цябе не давядзе да патрэбных лічбаў. Ідзі, ідзі!

Сказаў — як адмахнуўся. А ад чаго адмахнуўся? Ад пастарэлага сябрука, які апошнім часам усё неахвотней падыгрываў яму? Ад разыгранага дыялога? Ад уласных думак, што міжволі выліліся падчас гэтага дыялога?

У пакоі сцёмнілася, а ўключыць святло — азначала ўключыцца ў рэальнасць гэтай шарай гадзіны, гэтага здоўжанага вечара, які так і не ўдалося разыграць, сыграць, як мізансцэну з драмы, з яшчэ не напісанай драмы пра найвялікшую ў свеце здраду — здраду самому сабе.

* * *

Іван Пекар вырас да намесніка міністра не проста па чыёй-небудзь там пратэкцыі (хоць і не без таго, як водзіцца), але найперш — дзякуючы артыстычным здольнасцям, унаследаваным хто ведае ад каго. Ужо ж, не ад бацькі — калгаснага скотніка (работніка малочнай фермы, як пісаў звычайна ў анкетах), бо той, колькі помніў яго, здаралася, і дзесяці фраз за дзень не сказаў — адно смактаў цыгарку, паплёўваючы. Ды і маці сярод вясковых баб нічым не вылучалася: у перадавых не хадзіла, але норму выконвала спраўна і на сваім гародзе не бур'яны, а бульбу ды жыта пасадзіць-пасеяць паспявала. Трое дзяцей, хворая свякроўка ды муж з вечнай самакруткаю ў зубах... Ці да гульні тут? Ці да песень? І свякроўку, і мужа, і малодшанькую дачку, якая шчэ дзіцем ціха, як свечачка, дагарэла ў яе на вачах, пахавала — а сама жыла,ніводнага з сыноў асабліва не турбуючы: у іх сваё жыццё, гарадское, у яе — сваё... Час кожным з іх распараджаўся па-свойму, і ніхто яму не ўказ. Паспрабуй абміні ці падмані!

Хоць, трэба сказаць, і абмінуць многія спрабавалі, і падмануць. Сяму-таму — а Іван Дылда якраз з іх ліку! — часам шэнціла ўхапіць крыху больш таго, што выпадала, але рэдка. У-га, дзе б ён апынуўся, калі б часцей мог удачу за хвост ухапіць! Не разумнейшыя ж за яго над ім стаялі, ролі распісвалі.

Вырас да намесніка міністра. Ужо за сорак. Далёка за сорак, калі не падыгрываць люстэрку. Заслугі перад партыяй маюцца. Кар'ерыстам перад начальствам не выглядае. Сям'я ўладкаваная. Гатоў выканаць любое заданне, сыграць любую ролю. Што яшчэ трэба для добрай біяграфіі? Ён служыць — яму служаць, ён падыгрывае — яму падыгрываюць... Пры чым тут ленінскія ідэалы, вышэйшыя партыйныя інтарэсы? Іван і па маладосці не дужа верыў, што сённяшняе пакаленне савецкіх людзей будзе, як заяўлялася, жыць пры камунізме, а пажыўшы, паназіраўшы за тымі, у чыё кола так упарта прабіваўся, працiскваўся, увогуле перастаў верыць у што б там ні было.

Перш, памятае, нудзіўся, азіраўся на свой адбітак у люстэрку: ці не спаўзла з твару адпаведная пасадзе сур'ёзнасць, потым знайшоў аднадумцаў — і супакоіўся. Верных ленінцаў сярод партыйцаў аказалася няшмат, калі ўвогуле былі...

* * *

Азваўся тэлефон. Узяўшы трубку, здзівіўся, што чуе не голас сакратаркі, як зазвычай, а грубаваты мужчынскі бас, але перапыніць сувязь і званком выклікаць Веру Паўлаўну з прыёмнай не паспеў: бас ракатаў ужо на ўвесь пакой:

— Не кідай трубку, гнусь! Думаеш, не знаем, чыёй жонкаю, як падсцілкай, карыстаешся? Думаеш, ніхто ніколі не ўзгадае, куды згвалтаваную малалетку запхнуў далей ад людскіх вачэй? Усё ўзгадаецца! Усё спомсціцца! І не табе аднаму, сакратар! Калос на гліняных нагах абрушыцца — і мы пахаваем вас пад яго абломкамі. Сцеражыся!

Ковачу здалося, што яшчэ міг-другі — і ён пазнае голас, пазнае таго, каму ён належыць, але раптоўна наступіла цішыня. Такая глыбокая, такая глухая цішыня, што ў першы момант ён як не захлынуўся ёю: нават дыханне перахапіла... Але ўжо ў наступны міг не збянтэжанасць, а гнеў дыктавалі патрэбныя дзеянні, патрэбныя рухі: званком выклікаў Веру Паўлаўну, адначасова набіраючы код сувязі.

— Падпалкоўнік Шэршань... — не паспеў завяршыць той даклад па форме.

— Разбярыцеся, падпалкоўнік, хто і адкуль толькі што званіў у мой кабінет па прамой сувязі! Як такое ўвогуле магло здарыцца? — жалезныя ноткі ў голасе не пакідалі сумнення ў тым, што загад тэрміновы і выкананне яго будзе пракантралявана. Ковач жа ніяк не адрэагаваў на сухое «Ёсць!», падняў пагляд і, крыху змякчыўшы тон, прадоўжыў: — Гэта пытанне і да вас, Вера Паўлаўна.

— Званкі па «вяртушцы» на прыёмную не выходзяць, Віктар Віктаравіч. Па гарадской лініі за апошнія паўгадзіны званілі двойчы — абодва званкі — з просьбаю аб кансультацыі.

— Так, так, так... — лёгенька пастукваў ён пальцамі па стосе папер на стале, так і не апусціўшыся ў крэсла. — Выклічце на шаснаццаць гадзін... Хоць не! З КДБ я сам звяжуся. А вы, Вера Паўлаўна, скажыце, каб прынеслі шклянку чаю. Моцнага чаю!

Настрой паляпшаўся. Мо таму, што пагрозы, адрасаваныя яму (і не толькі яму), не напужалі, а нечакана ўзбадзёрылі, вярнуўшы напружанне, напружанае прадчуванне новага вітка барацьбы, адсутнасць якой, як даўно ўжо заўважаў, злёгку прытупіла нюх — вастрыню ўспрымання жыцця і людзей. Не быў бы ён ганчаком вайсковай вывучкі, калі б не адчуў прыхаваную ў грубым звароце пагрозу — пагрозу не яму асабіста, а тым планам, якія ўжо абдумваліся разумнымі галовамі на выпадак... Выпадак мог і не паўстаць перад партыяй ва ўсёй яго неабвержнасці, але ўсё ішло да таго, што аддасць генсек краіну. Перш — уладу, потым — краіну... Не ўсім жа бегчы, як пацукам з карабля... А ўжо і бегчы, то не з пустымі рукамі і на запасны аэрадром!

Напружанне паступова саступала ўзрушэнню, але Ковач па-ранейшаму (адно зверыўся з графікам сустрэч на гэты дзень) мераў пакой спакойна, хоць і цяжкаватымі, крокамі. Зрэдку адхлёбваў з прынесенай шклянкі ў меру гарачы чай, зрэдку, калі паглядам чапляўся, застываў перад партрэтам, які вісеў над сталом, міжволі моршчыўся, але зноў працягваў рух — уздоўж пакоя і крыху наўскос, па дыяганалі, з канца ў канец.

Даўняя звычка абдумваць усё нахаду, па ходу, дапамагала і цяпер — думалася нязмушана, вольна, карціна вымалёўвалася хоць і груваcткая, але выразная. І не было ў той карціне месца ні таму, хто яшчэ задоўга да галоўных падзей баяўся іх наступстваў, ні таму, хто радаваўся іх набліжэнню, не думаючы, што апынецца яшчэ ніжэй і страціць нават сённяшні свой статус. Абраннікі фартуны заўжды, пры любым раскладзе — мечаныя. Хто кім ці хто чым — значэнне мае самае мізэрнае, галоўнае — тая самая адмеціна, што раней або пазней ці над ілбом, ці ў лёсе выяўляецца-пазначаецца. І ў народзе скрозь гэта ведалі. Ведалі — і асцерагаліся, не заступаючы дарогу, а то і абмінаючы яе, калі выпадала. Далей ад граху...

— Таварыш сакратар! Мы ўстанавілі, адкуль прайшоў званок.

— Дакладвайце, падпалкоўнік.

— Званок з нумара 081, зарэгістраванага на імя намесніка міністра прамысловасці.

— Звяжыцеся з кім належыць, няхай высветляць, хто званіў і як ён трапіў у кабінет намесніка міністра, — распарадзіўся Ковач, і нічым, ніводнай ноткаю ў голасе не азвалася ні яго лёгкае здзіўленне пачутым, ні падагрэты ім інтарэс да дробнага і, па сутнасці, не вартага павышанае ўвагі здарэння: загуляўся хтосьці, за ролю мсціўцы ўхапіўшыся... волі рэжысёрскай не чуе... Каб жа ўсё з такой, як тут, лёгкасцю льга было вылічыць і выправіць!

* * *

Рэпетыцыя з самага пачатку пайшла не так, як бачылася яму, рэжысёру. Ну, накрычаў на «любімца публікі»... Дык жа нельга ўвесь час іграць караля Ліра як якога-небудзь забулдыгу з сучаснай п'ескі, то паплёўваючы на далоні і прылізваючы распатланыя космы, то ікаючы на кожным слове! Ну, не падбадзёрыў, як зазвычай, прыму лёгкім пацалункам пры стрэчы ці шчасліваю ўсмешкаю потым, на адной з першых яе рэплік... Дык магла і сама падысці, чмокнуць у лысіну: ёсць за што быць удзячнаю! Ну, вылаяўся, не стрымаўшыся, калі Юра (каторы ўжо раз!) прапусціў сваю рэпліку... Дык ці першыня пачуць падобнае ў тэатры, падчас рэпетыцыі па новым спектаклі!

Не, справа яўна ў іншым, не залежным ні ад гэтага ранку, ні ад рэпетыцыі, ні ад настрою акцёраў. Як ён, Глінскі, думаў, справа ў «Каралі Ліры», у тым, што выбар — і калі? сёння? у часы перабудовы? — спыніўся менавіта на гэтай шэкспіраўскай п'есе. «Чаму — кароль Лір?», «Ты што — хочаш сказаць, што кароль — голы?», «Калі дазволена ўсё, ты хочаш схавацца ў схроне гісторыі?» — толькі і чуў увесь апошні месяц: ад каго са спачувальнымі ноткамі ў голасе, ад каго — з насмешлівымі... І не нагадваць жа ў адказ задужа «заклапочаным», што смяецца той, хто смяецца апошні! Шчыра ўжо даўно ніхто не смяецца, і кінутае натоўпам «усё дазволена» — зусім не азначае дазволу на ўсё і для ўсіх. Для такіх, як Глінскі, ніколі не патрабавалася нічыйго дазволу — ні ў адзін з часоў: мяняліся кіроўцы, накірункі, законы, пісаныя і няпісаныя, а кола эліты не шырэла і не звужалася. На сцэне звычайна працуюць выканаўцы, а не рэжысёры: плата акцёрам — кветкі, апладысменты публікі, узнагарода рэжысёру — улада над імі і публікаю. Расклад не толькі справядлівы, але і адзіна магчымы. І зусім неабавязкова (у вышэйшай ступені непажадана!) даводзіць гэта ўсім і кожнаму. Што на сцэне, што ў жыцці...

— Эд Саныч, перапынак зацягваецца.

— Завяршаем на сёння, — кіўнуў і, заўважыўшы спецыфічны рух брыва памочніка, пасміхнуўся. — Не ідзе, ты ж бачыш, Алег. Мо невялікую ракіроўку зрабіць, пераставіць некалькі фігур.

Апошняе сказаў сам сабе, хоць і не адвёў пагляду, якім звыкла падчышчаў светлацені на твары суразмоўніка, дакопваючыся да аднаму яму вядомай сутнасці таго.

— Ты... Вы сур'ёзна? — заёрзаў той пад занадта пільным паглядам. — Ужо ж і ў ігру ўсе ўвайшлі...

— Я думаю, — ледзь заўважным жэстам рукі ўжо, здавалася, адпусціў Глінскі памочніка, але ў апошні момант адгукаў назад. Гэтак жа, пры дапамозе жэста, своеасаблівага пашчоўквання пальцамі. — Усіх адпусці. Да мяне — Ліра.

— Ліра дык Ліра, — буркнуў, перасмыкнуўшы плячамі, Алег, і тут жа загукаў ва ўсю моц галасавых звязак: — Гукаў! Гукава — да рэжысёра! Усім астатнім — шчасліва! Да вечара!

— Як гэта — да вечара? — выбегла на авансцэну Ганна Шалевіч, і па ўсім было відаць, што звычайна з ёю, прымаю, лічыліся. — Мы ж не прагналі нашу сцэну.

— Заўтра пачнём прама з яе, — абняў жанчыну за плечы Алег, ціхенька падштурхваючы да кулісы. — Гукава знайшлі?

— Чаго мяне шукаць? Вось ён — я, і пытаюся: з якой прычыны гэтулькі шуму?

— Рэпетыцыю адмянілі... — адгукнулася Ганя.

— А вас рэжысёр чакае, — не даў ёй прадоўжыць Алег. — У зале. Пад лямпаю.

— А-а-а... — насмешліва працягнуў Гукаў, прыгожым тэатральным жэстам закідваючы крысо накідкі на плячо. — Разумею. Іду. Бягу!

Бегчы не стаў. Азірнуўся раз-другі назад, праводзячы паглядам памочніка, які па-ранейшаму прыабдымаў незадаволеную прыму за плечы. Звыкла пералічыў пяць нязручных прыступак, што вялі са сцэны ў залу. Спакойна, хоць крыху па-тэатральнаму запаволена, падышоў да Глінскага.

— Сядай, Павел Віктаравіч, — апярэдзіў яго рэпліку Глінскі. — Параіцца хачу.

— Параіцца? А я ўжо, грэшнай справай, думаў: пад разнос трапіў і гэты раз... Як надоечы...

— Надоечы я зразумеў, дзе і ў чым памыляюся ў трактоўцы спектакля, хоць па-новаму — новай карціны! — яшчэ не бачу. Так іграць, як мы сёння іграем, нельга. Гэта ясна. А як? Як іграць? Пры якім асвятленні? У якой часавай прасторы? З прыцэлам на што? На якую такую мараль? На якую публіку?

— Вядома, на якую, — яўна не чакаў ад рэжысёра ні такога павароту гаворкі, ні такога запалу Гукаў.

— Вядома, кажаш? — не прыцішваў наступу Глінскі. — Ды не! Публіка і думаць не думае, і ведаць не ведае ні таго, што «распалася повязь часоў», ні таго, што прыйдзе ўслед за распадам! Вось у чым праўда. Вось дзе сабака закапаны.

— Які сабака? — не знаходзіў ні патрэбных слоў, ні патрэбнай у дадзенай сітуацыі інтанацыі стары акцёр, і ад таго пачынаў злавацца: чаго ён прычапіўся да яго? Кароль Лір — не Шэкспір, а адзін з яго персанажаў...

— Ды не пра сабаку размова! — адмахнуўся Глінскі. — Вось ты думаеш: Кароль Лір — не Шэкспір, а адзін з яго персанажаў... А я больш скажу, — не заўважаў ён раптоўнага спалоху на твары акцёра. — Лір — не проста адзін з персанажаў, ён — адна з іпастасяў ч а л а в е к а, стварэння Божага, аголеная да канца, з жорсткай дакладнасцю хірурга. Так, так, хірурга, якім з'яўляецца любы геніяльны драматург, любы сапраўдны творца! І не сюсюкаць над чалавекам трэба, глупства яго, гнуснасць яго паэтычнасцю слоў прыкрываючы, а адкідваць, здзіраць адну за адной усе маскі, усе абалонкі, за стагоддзі паначапляныя, — і ў гразь іх! пад ногі! замест пустых спадзевак!

— А як жа запаведзі? — спрабаваў Гукаў хоць неяк падыграць рэжысёру.

— Два тысячагоддзі гэтыя запаведзі ўбіваюцца ў пустыя галовы, а дзікунства не менее. Мо час спыніцца, спыніць усе спробы — і паглядзець, хто яшчэ здатны падабраць уладу. Ужо ж, не Лір... Не чалавек...

— Не чалавек?! — агаломшана дзівіўся на яго Гукаў, не ў стане паверыць, што чуе гэта ад Глінскага, што спадобіўся пачуць гэткае не ад партнёра па спектаклі, па п'есе якога-небудзь звар'яцелага генія, а ў падобнай на спавядальную гаворцы. — Не чалавек, а хто?!

— Якая розніца! Бог... Сатана... Хтосьці з іх служак... — павярнуўся да яго ўсім тулавам Глінскі: як апрытомнеўшы раптам пасля гарачкавых слоў. — Трэба мяняць спектакль, мяняць героя, і мне хацелася б пачуць, што табе, Павел Віктаравіч, не падабаецца ў сённяшнім увасабленні яго. Чаго яму не стае? Больш выверанай рытмічнасці? Падсветкі сучаснасцю, сучаснымі праблемамі?

— Не разумею, чым праблемы сённяшняга дня адрозніваюцца ад праблем шэкспіраўскай эпохі... — буркнуў разгублены Гукаў. — Усё аддаўшы, аддаеш жыццё.

— Так, так. Усё аддаўшы, аддаеш жыццё!

Глінскі глыбока задумаўся, тут жа забыў, што не завяршыў гаворку з вядучым акцёрам (па сутнасці, і не пачынаў яе), што той увогуле быў увесь гэты час побач, на суседнім крэсле, — то выключаў лямпу на століку, то зноў уключаў, прыкрываючы вочы. Нават калі Гукаў, якому збрыдла назіраць за «творчымі мукамі» рэжысёра, спытаў, ці можа ён ісці адпачываць, як не чуў. Ды і не чуў, пэўна, бо ніяк не зрэагаваў ні на словы, ні на яго па акцёрску шумны адыход — то выключаў лямпу на століку, то ўключаў...

— Усё аддаўшы, аддаеш жыццё... А хто аддаў усё?! Вось пытанне, над якім варта разважаць і сам-насам з сабой, і са сцэны.

Сказаў гэта Глінскі або толькі падумаў, у пустой зале значэння не мела. Ён раптам зразумеў, чым незадаволены ў спектаклі, які ставіў: выпучанай, паказной трагедыйнасцю. Трагедыйнасцю, якая ў свеце, дзе ні на дзень не спыняліся войны і зверскія забойствы, а чалавечае жыццё часам не каштавала і ломанага гроша, успрымалася як фарс, як скамарошы розыгрыш у святле цыркавой арэны. Любы спектакль, урэшце, ні што іншае, як скамарошы розыгрыш: крыху больш, крыху менш патэтыкі — вось і ўся розніца ў падыходзе да перажытых ці перажываемых падзей. «Ніхто, павер, не вінаваты з нас, ніхто злачынства не ўчыніў, не чыніць!» Шэкспір ведаў, чаму ўклаў гэтыя словы ў вусны старога Ліра, перш чым той пакінуў гэты свет!

Думкі гаслі гэтак жа імгненна, як і ўспыхвалі, перапад напружання быў адчувальны, але Глінскі яшчэ нейкі час сядзеў, адкінуўшыся на спінку крэсла, упэўнены, што ўжо заўтра, на ранішняй рэпетыцыі, зламае ўсё напрацаванае трупаю за месяц, і хто б што яму ні даводзіў, спектакль выйдзе такім, якім убачыўся ў гэтыя хвіліны.

* * *

— Што гэта сёння найшло на Эд Саныча? То адно яму не так, то другое...

— Ды кінь ты, Любаша! — не пераставала ўзірацца ў люстэрка, у свой стомлены твар Саня. — Што надумае, тое і сыграе. Не першыня ж, на самай справе.

— Але ж Шэкспір! Разумееш? Упершыню ў трагедыі Шэкспіра ўся трупа занята — і ў якой трагедыі!

— Калі толькі ты сваю экзальтаванасць зацугляеш? — пстрыкнула вечкам пудраніцы тая, падняўшы на яе цёмны, злёгку захмелены позірк. — І ад аднаго ў цялячым захапленні, і ад другога, і яшчэ чорт знае ад чаго ці каго! А цябе ўсе проста выкарыстоўваюць.

— Зноў ты пачынаеш...

— Зноў! Ды мне б твой талент, тваю фізію, я б вакол сябе паўгорада закруціла б, ні ў чым сабе не адмаўляючы. А цябе выкліча якое-небудзь хамло, паабяцаўшы чарговую медальку пры выпадку на грудзі пачапіць, ты і бяжыш.

— Калі гэта я бегала? — пакрыўдзілася Люба. — Калі і хаджу наверх, то не за сябе — за трупу, за тэатр прашу.

— За тэатр... Што — няма каму за яго пашчыраваць? Адных памрэжаў паўтузіны набярэцца, а яшчэ ж дырэктар са сваёй світай і муміфікаваная прыма са сваімі апекунамі!

— Адкуль у табе столькі злосці, Саня? — дапівала каву Люба, спрабуючы адгарадзіцца ад сяброўкі звыклымі рухамі і не падымаючы на яе вачэй. — Ты ж нават таго, каго любіш, топчаш... Пакуль не ўтопчаш у гразь...

Апошнія словы прагучалі так ціха, што наўрад ці тая пачула іх, але і папярэднія, відаць, зачапілі штосьці балючае ў Санінай душы, бо яна раптам прыўзнялася, рэзкім рухам адсунуўшы свой кубак на сярэдзіну стала. Хацела адказаць штосьці, абурыцца, закрычаць — усё было напісана на пабялелым раптам твары, — але неагучаны крык толькі балюча скрывіў рот, і Саня знясілена гэпнулася назад у крэсла. Утаропіўшыся ў звычайна спагадлівую, мяккую сяброўку, маўчала колькі

хвілін, быццам збіралася з думкамі, потым ціха, неяк вельмі горка ўздыхнула. І — як захлынулася гэтым уздыхам. На вачах выступілі слёзы, шчокі сталі нервова ружавець.

— Ды ты што, Сань? Чаго ты? Я не хацела... Прабач!

Люба выглядала такой спалоханай (калі гэта было, каб сяброўка плакала!), такой няшчаснай (знайшла ў каго камень кінуць!), што самы час яе самую пашкадаваць. Шкадаваць не было каму. Саня ўсю волю збірала-напружвала, каб узяць сябе ў рукі і не расплакацца ўсур'ёз: сама ад сябе не чакала падобнай рэакцыі на нечаканы папрок... Не ўся праўда ў тым, што каго любіла, таго губіла...

Думка, перайначыўшы пачутае, паглыбіла горыч («Губіла?!»), але слёзы не праліліся, адступілі («Каго гэта я губіла, загубіла?»), і дыханне стала выраўнівацца. Калі ж разам з крэслам падсунулася да яе Люба і ціха, без слоў прабачэння, прыпала плячом да пляча, лёгка, быццам і не перажыла толькі што хвіліны надрыву, выпрасталася, насмешліва азвалася:

— Ранку пасля ўкусу залізваеш?

Тая не адхінулася, нават не ўздрыгнула: да насмешлівага тону Сані яна звыклая, ды і больш пасаваў ён ёй, чым істэрычнасць. Скажы ёй хто цяпер, што кіравалася адно эгаістычным разлікам (страціўшы апору, якую заўжды знаходзіла ў сяброўцы, яна канчаткова страціць душэўную раўнавагу), ні за што не пагадзілася б. Хоць так яно і было.

— Дурніцы мы — бабы, — падалася да разламанага бутэрброда Саня, раптам адчуўшы галоднае пасмоктванне пад лыжачкай. — Дурніцы, бо дазваляем не толькі карыстацца намі, а і выкарыстоўваць — там, дзе таму ці іншаму лысаму кабялю схочацца.

— Да матрыярхату свет не дажыве.

— Ды пляваць мне на свет! — жуючы, адказала тая амаль абыякава. — Пляваць, бо ён плюе на мяне. То з асалодаю, то з агідаю... Не цікавячыся тым, што я адчуваю, наткнуўшыся на чарговую «ўвагу» або знявагу.

— Не хочаш жа ты сказаць, што не жадаеш быць заўважанай? — вяла прадоўжыла гаворку Люба.

— Жадаеш... не жадаеш... Самае небяспечнае ў нашых жаданнях тое, што яны час ад часу збываюцца.

— Гэта нешта новае.

— Усё новае...

— Добра забытае старое, — падхапіла Люба, ацярэбліваючыся ад замерлага на адным градусе настрою. — А ты, як скрозь, мела на ўвазе мяне, мае жаданні, а не свае?

— Ды і свае, Гаруня.

— Ну-у, калі ты ўжо прозвішча маё ўзгадала, справы дрэнь. Ведаць бы яшчэ, у каго — у цябе, у мяне ці...

— Ці! — рэзка перапыніла яе Саня, чамусьці не падыграўшы сяброўцы, што канчаткова збіла тую з панталыку. — «Нядобрыя зноў думкі? Чалавек не вольны выбраць момант адыходу і тэрмін новага вяртання ў свет, дык, значыць, трэба быць заўжды гатовым...»

— Саня! Што ты сёння ўсё загадкі загадваеш? Штосьці здарылася? А? — раптам занепакоілася Люба, адсоўваючыся і зазіраючы сяброўцы ў твар. — Нейкая ты не такая...

— Ігнатаўна! — гукнула тая буфетчыцы. — Я сёння такая ці нейкая не такая?

— Ды вы заўсёды самая арыгінальная, Аляксандра Юр'еўна!

— Во! Голас народа, сяброўка... — даядала і яе бутэрброд, запіваючы гарбатаю, Саня. — А ты? загадкі... тэрмін...

— Пра тэрмін — не я, а Шэкспір, — прамаўляла, узіраючыся ў Саню, Люба. — Хоць я з ім згодна.

— З кім? — не зразумела тая.

— З Шэкспірам.

— А-а-а... Думаю, мы яго так і не сыграем на нашай сцэне.

— ?!

— Угу. Не праглыні мяне разам з непражаваным бутэрбродам, — хмыкнула Саня: такою агаломшанаю яе новым прароцтвам глядзелася Люба, што, здавалася, міг-другі — і гнеўныя іскры з вачэй пасыплюцца. — І ў геніяў бывае клімакс, а Эд Саныч — не геній, як сам пра сябе думае, і даўно не ставіў нічога выключнага.

— Ды ты... — захлынулася гнеўным абурэннем тая. — Ты проста ніяк не можаш забыць, што ён... што ў вас не склалася...

— Мо ведаеш, у к а г о з ім склалася? — і брывом не павяла Саня.

— У мяне!

— ?!

— Не ў тым, пра што ты падумала!

— Адкуль табе ведаць, пра што я падумала? — задумліва пакручвала пусты кубак у пальцах Саня. — У тым, каб пераспаць з рэжысёрам, ні граху, ні заслугі няма. Было б што абмяркоўваць! А вось на тое, што тычыцца тэатра — прафесіі! — заплюшчваецца грэх: ні часовая слепата, ні часовая замілаванасць не апраўдаюць потым правалу.

— Як ты можаш так гаварыць? — як заўжды, змірылася Люба з тым, што не за ёй будзе апошняе слова ў спрэчцы з сяброўкаю.

— А калі я гаварыла іншае? Зняўшы і выкінуўшы некалі ў маладосці ружовыя акуляры, я, спадзяюся, назаўсёды пазбавілася комплексу страху ці пазней аказацца пакінутай, адзінокай, няшчаснай. Мне здраджвалі — я здраджвала, мяне пакідалі — я пакідала... Ну і што? У чым тут трагедыя?

Люба маўчала. Сядзела, апусціўшы пагляд на дрогкія рукі, і ні словам, ні рухам не рэагавала на сказанае. Пярэчыць Сані тады, калі яна заводзілася, было справай марнай — ды і што б яна аспрэчыла? Яе ўпэўненасць у сваёй праваце? Яе падкрэсленую пагарду да любой слабасці? Яе непераможнае нежаданне прайграваць, нават калі прайграна ўсё? Яе жорсткасць, скіраваную не толькі на сябе?

— Не падабаецца мой максімалізм? — нахілілася да Любы праз стол Саня. — Што ж, не толькі табе не падабаецца. Але як жыць, як выжыць у сканструяваным мужыкамі свеце, не знаходзячы ў іх ні сілы, ні разумення, ні любві, калі самой — с а м о й! — не станавіцца дужай, упэўненай у сваёй сіле?

— «Мы плакалі, прыйшоўшы ў свет, — на прадстаўленне гэтае з шутамі...», — чамусьці ўспомніліся Любе словы з шэкспіраўскай п'есы, але прамаўляла яна іх так ціха, што словы быццам і не прагучалі.

— Што? — зрэагавала на непачутае Саня.

— Я толькі цяпер зразумела шэкспіраўскае: «Мы плакалі, прыйшоўшы ў свет, — на прадстаўленне гэтае з шутамі...»

Саня ўтаропілася ў яе, пакусваючы губу: не адразу ўцяміла, як і што адказаць. А Люба сумна ўсміхнулася і ціха дадала:

— А яшчэ кажаш: мы ніколі не сыграем Шэкспіра на нашай сцэне...

* * *

Вечар ціха пагойдваўся на густым вецці таполяў, на струменях пакуль яшчэ не выключанага фантана ў цэнтры сквера, на блісках фараў збоку праспекта, што зрэдку крамсалі нияркае святло ліхтароў, на лёгкім водгуллі крокаў, якое то цішылася, то зноў агучвала каменную павуціну алеяў, заглушаючы то ледзь чутны ўздых, то ледзь чутнае нашэптванне... З гадзіну, як абязлюдзелы сквер, звыклы да чаго заўгодна ў такі час, пасвойму абыякава, бязгучна дзівіўся на паэта (хто б яшчэ блукаў па сцёмненых алеях у адзіноце, мармычучы, складваючы адно да аднаго словы!), той жа не зважаў ні на бязлюддзе сквера, ні на павуціну дарожак, ні на час. Іх звёў, спалучыў гэты вечар, повязь магла абарвацца ў любое імгненне, і ў тым, што чаканае імгненне ўсё не наступала, была і свая прычына, і свая інтрыга. Вось толькі каму дакопвацца да тае прычыны, каму разблытваць тую інтрыгу?

Познім вечарам нават час запавольвае ходу: прырода рыхтуецца да сну, нягледзячы на ўсё яшчэ не аціхлы сям-там людскі тлум і рух крыху асалавелых ад мігцення агнёў легкавікоў. І ўсё ж гадзіннікі, што на вежах будынін ці спецыяльна ўстаноўленых тумбах, што на прыборных панелях аўто, звыкла адлюстроўвалі рух часу, адлічвалі яго прамежкі — і вечар паступова, хоць і непрыкметна, пераходзіў у ноч. У ноч, якая збудзіць чарговы летні месяц, хоць гэта адбудзецца толькі праз пяць-шэсць гадзін: перш трэба было заснуць... Гарадскому люду, гораду, ночы...

Але як заснуць пад мігценне светлафораў і бліскі фар? А тут яшчэ паэт са сваімі заклінаннямі!

Стас — а гэта менавіта ён, Стас Чарняеў, блукаў па скверы ўжо другую гадзіну! — перш навязаў сябе да вечара думкамі пра стрэчу, няхай нават выпадковую, з Любашай. Спектакль заканчваўся а дзесятай гадзіне, акцёры пакідалі тэатр хвілін праз сорак, так што напачатку Стаса чакала цэлая вечнасць, — думаць, марыць, мроіць ніхто не перашкаджаў, не перашкодзіў бы, нават калі б схацеў. Ды і хто схацеў бы — тут, у цэнтры Мінска, на сцёмненых алеях, што кружылі вакол старога фантана са скульптураю хлопчыка ў абдымку з лебедзем? Хлопчык абдымаў птушку, лебедзь пускаў струмень вады, вада ціха спявала... Каму якая справа да ўсяго гэтага, апроч паэта?

Словы прыходзілі — дакладней, усплывалі! — з самай глыбіні душы, і, каб не забыць ніводзін з радкоў, Стас прамармытваў іх па некалькі разоў, вывяраючы рытм крокамі. «Абы гучаў, гукаў — хоць чыйсьці кліч трывожны — душа, а не рука — лавіла водгук кожны, — не літасці нябёс — прасіла мукі новай... І зноў — ламаўся лёс, і — выжывала слова...» Ён не ведаў, ды і не хацеў ведаць, чые гэта словы, адкуль, чаму нараджаліся ў ім менавіта тут і цяпер, калі нават блакнота ў кішэні не знайшлося, — проста ўслухоўваўся ў сябе, баючыся штосьці ўпусціць. Упусціў, як аказалася, вечар...

Тэатр даўно патушыў агні, цёмны гмах яго высіўся на рагу сквера няўклюднай глыбаю, якая з-за дрэў і на фоне значна лепш асветленага пляца перад будынкам ЦК выглядала нават змрочнаю. Міжволі хацелася адвесці пагляд. Як ад чагосьці мёртвага. І згадка пра тое, што ў тэатры штодня, штовечар тоўпіліся людзі — шуты і трагікі, паненкі і куртызанкі, гандляркі і прайдзісветы! — прымаючы ўдзел у чарговым спектаклі трупы і публікі, уражання не мяняла. Не адмяняла. Адно што хімераў на сцэнах

і над імі не ставала! Дык і іх лёгка было ўявіць, пазіраючы са змрочнага закутка сквера.

Злавіўшы сябе на падобных думках — ухапіўшы адну з іх за чорны, як уяўлялася, хвост, — Стас зразумеў, што час выбірацца адсюль і шукаць чым даехаць дадому. Вечар адыходзіў у памяць, і марна азірацца на яго са шкадаваннем: Любу праводзіў пасля спектакля хтосьці іншы, імчацца, каб пастаяць пад яе вокнамі, пазнавата...

— Ба-а! Якія людзі!

З Гукавым, па ўсім відаць, на добрым падпітку, Стас сутыкнуўся так знянацку, што ні абмінуць, ні саслізнуць у цень таполі ўжо не выпадала. Думаць жа, што цяпер няхутка выбавіцца ад яго, было сабе даражэй. Таму спакойна прыпыніўся, дазволіў паляпаць сябе па спіне, усміхнуўся.

— З «Мутнага вока», няйначай, Павел Віктаравіч?

— А няхай яго мухі забадаюць! — пахітваўся той, усё стараючыся заваліцца яму на плячо ці зазірнуць у твар. — Зойдзеш чарачкаю пражыты дзень памянуць, а гэта — другая кампанія ўжо ў поўным складзе, і нагода — не з тых, якую можна праігнараваць.

— І якая ж сёння нагода? — спрабаваў Стас прасоўвацца ўбок тралейбуснага прыпынку, скіроўваючы туды ж і старога акцёра.

— Сёння? Не помню! І, заўваж, не ў тым справа, помніць ці не помніць Гукаў — я! — з якой нагоды піў. Ён — я! — заўсёды п'ём з радасці. З ра-дас-ці, малады чалавек! А гэта табе не шухры-мухры за будзь здароў!

— Вера раскрыльвае неба, небам світаюць гады... — мармытнуў Стас, узгадваючы занатаваныя ў памяці радкі, сам не ведаючы чаму.

— Слухай, ты — хто? — зноў устаў у яго на дарозе Гукаў. — Я цябе знаю?

— Мы сустракаліся. У тэатры.

— Так, так, так... Прыгадваю. Каля Любашы круціўся... Дык хто не круціўся? А? Загубіце дзеўку...

— Як гэта? — разгубіўся Стас, і калі стары не адказаў, а, топчучыся, адступіў, моўчкі замахаў у адказ рукамі, сам ухапіў яго за плечы, добратакі трасянуў. — Што вы сказалі? Хто загубіць?

— Вера раскрыльвае неба, небам світаюць гады... Я знаю, хто ты, — атрос той яго рукі. — Ты Стас. Паэт Божай ласкаю. І не станеш вялікім, не-а. Змушаны будзеш, як я, як усе мы, зарабляць на хлеб надзённы.

— Вы... Пры чым тут Любаша?

— Яна яшчэ не ведае, што яе зламалі. Знутры, — адмахнуўся і ад яго, і ад сказанага Гукаў, кіруючыся ў процілеглы ад праспекта бок. Але Стас не мог застацца з загаданаю загадкай сам-насам — ён павінен быў дазнацца, што той меў на ўвазе.

— Вы гаворыце пра яе, як пра цацку! Яна — не цацка, якую можна зламаць.

— Усе мы — цацкі ў руках лёсу, Стас, — не азірнуўся ні на яго крокі, ні на яго ўсхваляваны голас той. — Пражывеш з маё, каму іншаму пацвердзіш праўду слоў гэтых. Жыццё — гэта табе не шухры-мухры за будзь здароў!

Ён няроўнай паходкаю аддаляўся, а Стас як прырос да свайго гневу. «Стары дурань! Скамарох з прапітымі мазгамі!» — паўтараў і паўтараў у думках, не разумеючы, чаму так балюча асыпалася на яго цішыня.

* * *

Новае застолле... Звыклы гул галасоў... Нервовае брэньканне гітары... Люба, як звычайна ў такія вечары, спрабавала пераключыць увагу на штосьці глыбока сваё, унутранае, не залежнае ад натоўпу няпрошаных гасцей, сярод якіх было нават двое малазнаёмых. Калі ўдавалася, то тут жа ўзнікала старое шкадаванне з-за няўдалай спробы тры гады таму стварыць нарэшце сям'ю — і яна шарахалася ад гэтых думак, міжволі пачынала мітусіцца, перастаўляючы талеркі, ці надоўга, пакуль хто-небудзь не знаходзіў яе там, хавалася на кухні. Штосьці паласкала, штосьці пераціралa...

Пэўна ж, як цяпер разумела, намер выйсці замуж за вядомага журналіста-міжнародніка з афіцэрскімі пагонамі быў з самага пачатку недарэчны і беспаспяховы. Яна, актрыса драмтэатра, — і афіцэр Камітэта дзяржбяспекі... Заведамая лухта! Серж па-свойму кахаў яе, ні ад каго асабліва таго не ўтойваючы, але ён памятаў (і да скону схільны быў памятаць) апёкі, атрыманыя падчас першага шлюбу і цяжкога разводу. І гэта паўстала паміж імі з першай хвіліны знаёмства. Паўстала і так і не згладзілася. Ні ў самыя рамантычныя дні іх знаёмства, ні напярэдадні шлюбу, ад якога — у самую апошнюю хвіліну — хапіла сілы і розуму адмовіцца. Яна — актрыса, і нават калі б спатрэбіліся паперы аб «неразглашэнні» і «супрацоўніцтве», не магла даць гарантыі на той выпадак...

Дадумваць не стала. Ні шкадаваць асабліва не было аб чым, ні радавацца... Мо і стала б жыццё крыху больш ураўнаважаным, спакайнейшым (падобная да сённяшняй кампанія так позна ў кватэру яўна не ўвальвалася б!), ды жыццё актрысы скрозь ёй не належала. Або — або. Залатая сярэдзіна не для такіх, як яна. Любая спроба спраміць, змяніць сцежку, на якую ступіла, уступіўшы ў акцёрскае брацтва, заканчвалася паражэннем і слязьмі. Даўнімі — у падушку — слязьмі, калі раптам ясна бачылася, што тэатр — ніякое не брацтва, а, хутчэй ужо, гадзюшнік. Гадзюшнік амбіцый, дзе паражэнне магло азначаць і смерць, зусім не ўяўную. Як там — у Шэкспіра? «Калі надумаўся пакінуць свет, смяротнае — і ўяўнае памкненне»?

Талерка выслізнула з рук і бразнулася вобзем, рассыпаўшыся на друзкі так нечакана, што Люба і войкнуць не паспела. Застыла, пазіраючы то на мокрыя рукі, то на чарапкі на падлозе, быццам не ведала ні што рабіць з рукамі, ні як паставіцца да ўтворанага.

— Дапамагчы, Любоў Георгіеўна?

Падняла пагляд: адзін з двух малазнаёмых маладых людзей... Паэт, здаецца...

— Я тут жа ўсё збяру, калі вы скажаце, дзе ў вас сметніца, — ужо збіраў той чарапкі проста рукамі, — праз хвіліну ўсё будзе ззяць чысцінёю, як раней.

— Дзякуй, — атрэсла Люба нарэшце здранцвенне. — Мо дазволіце ўсё ж мне самой? Вы — госць...

— Я — Стас Чарняеў, — выпрастаўся той з поўнымі жменямі сабраных чарапкоў. — Паэт. І я люблю вас. Усе мае вершы прысвечаны вам. Толькі вам.

— Вось нават як! — пасміхнулася Люба, выціраючы рукі. — І прачытаць што знойдзецца?

Чакаю слоў, чужых, расстайных слоў:
Мо прынясуць палёгку, вырвуць з сэрца

Пяшчоту, што ўбіраецца у квецень,
Паверыўшы якомусьці са сноў.
Забыўся сон. Не збыўся. Ёсць жыццё.
Яго шляхі, нарэшце — будні проста,
З якімі не ўпраўляюся са ўзростам!
А тут — за квеценню ды за лісцём
Не тое што шляхоў, не разглядзець
Бяды, якая стукаецца ў дзверы
Пасланніцай даўно пазбытай веры
У выкупленне, што прыносіць смерць.
Была б вясна! Быў сон. У сэрцы ж зноў
З такой сляпой нястрымнасцю буяе
Пяшчота, бы не чую, бы не знаю
Нясказаных і прагучалых слоў.

Калі верш адгучаў, настала такая напружаная цішыня, што, здавалася, паветра вось-вось пачне крышыцца, асыпацца, — трэба было нешта рабіць, мусова нешта рабіць...

Першаю апамяталася Люба. Азірнулася на дзверы ў калідор, на пакой з гасцямі, адкуль даносіўся звыклы гул галасоў і ціхае брэньканне гітары, зірнула на крыху збянтэжанага ад уласнае смеласці паэта, заўсміхалася, толькі цяпер усвядоміўшы ўсю недарэчнасць ягонай постаці — з мокрымі чарапкамі ў руках...

— Ды высып ты свае чарапкі ў сметніцу! Памочнік!

— Канешне, канешне, — шукаў той сметніцу паглядам, пакуль Люба не падвяла яго да тумбачкі з прыадчыненымі дзверцамі. — Прабачце. Я выглядаю недарэчна... Знайшоў момант! З чарапкамі замест шампанскага...

— Ну, шампанскага я не п'ю. Не люблю, — падала хлопцу ручнік Люба і, пакуль той уціраўся, разглядвала яго: няма і трыццаці... цаны сабе не знае ні як мужчына, ні як паэт... — А прачытаны верш мне спадабаўся. Шмат у цябе такіх?

— Другі зборнік рыхтую. А вам... вам праўда спадабаўся верш?

— Не ведаю, ці дарэчы тут слова «спадабаўся». Гэта — сапраўдная паэзія, і калі вы падарыце мне пры наступнай стрэчы сваю кнігу...

— Абавязкова падару! Я цэлы свет падарыў бы вам, Любоў Георгіеўна!

— Думаю, кнігі будзе дастаткова, — паспрабавала яна астудзіць яго парыў, а калі заўважыла, што словы не падзейнічалі, рашуча і вонкава халадна падштурхнула да дзвярэй нецярплівым жэстам: — Ідзіце! Далучайцеся да астатніх, пакуль я не папрасіла ўсіх пакінуць мой дом.

— Канешне, канешне, — збянтэжыўся той.

— А мо ты ад майго імя выправадзіш...

— Лю-ба!

— Любаша! З кім ты там зачынілася?

— Мы патрабуем гаспадыню! — пачулася з калідора, і Люба адчайным рухам, які не схаваўся ад Стаса, зачыніла за ім дзверы і падперла іх спіной.

— Цс-с! Гаспадыня, змарыўшыся, заснула, і мы будзем парсюкамі ванючымі, калі не вымецемся з яе кватэры, — устаў на варце дзвярэй збоку калідора Стас. — Дзве гадзіны ночы, сябры! Глыбокая ноч!

— А ты смаркач яшчэ, каб камандаваць! — крыху прыцішыў голас адзін з нецярплівых (Люба адразу пазнала Пальчэўскага). — Хто ты такі, увогуле?

— Ты што, Юра, заліў вочы і не пазнаеш нашага маладога генія? — прыхінулася да хлопца Ганна, упэўненая, што ёй, як прыме, дазволена і ў гэтым доме, і паўсюль усё. — Стасу далі ад варот паварот, як бачыш. Вось мы яго і прыгрэем.

«Во лярва старая!» — мільганула ў думках без асаблівае злосці, але ў вачах сталі збірацца слёзы, і Люба рабіла аграмаднае намаганне, каб не расплакацца, не завыць уголас: прыйшлі... наеліся-напіліся... замест таго, каб дзякуй...

— Усё, усё, сябры! — гучным шэптам камандаваў Стас, спіной, праз дзверы, адчуўшы ўсю складанасць моманту. — Каго куды давезці, разбяромся па дарозе. Я да вашых паслуг, дамы! Вось так... Вось сюды... Я ўслед за вамі...

Голас цішэў, аддаляючыся, а хутка і зусім аціх. Бразнулі ўваходныя дзверы. Смех і глухія рэплікі яшчэ нейкі час трывожылі рэха — перш у пад'ездзе, потым у двары, куды вываліла кампанія, і стала ціха. Так ціха, што кроплі вады з кепска перакрытага крана падалі ў ракавіну, здавалася, аглушальна гучна. Падалі... скочваліся і падалі... І так не магло больш прадаўжацца, бо слёзы ўжо і так каціліся па шчоках. Каціліся, падалі... услед за кроплямі вады... апярэджваючы іх...

Званіў тэлефон. Недзе ў пакоі, недзе ў тым жыцці, якое яна аднойчы выбрала і якое так ніколі да канца і не прыняла, прызнавалася сабе ў тым або не, званіў і званіў тэлефон.

* * *

Нарада па ідэалогіі праходзіла ў звычайным рэжыме, нішто не патрабавала ні пазачарговых мер, ні тэрміновых рашэнняў, і Ковач дужа не ўслухоўваўся ў доўгія тлумачэнні дасланае з Масквы цыдулькі, якія ў вуснах Паўлюка (яго, загадчыка аддзела ЦК, шмат хто нават з высокіх партыйных чыноў непрыкрыта пабойваўся) гучалі амаль загадна і пярэчанняў, як заўжды, не выклікалі. Назіраць за ім было не дужа цікава: верны служака партыі, якому за сабачую вернасць спісваліся і залішняя часам жорсткасць у адносінах з падначаленымі, і залішняя заўзятасць у зборы кампрамату на ўсё і ўсіх, і залішне падкрэсленая ўпэўненасць у заўсёднай нязломнасці і незаменнасці. Дзіўна будзе, калі ён так і пражыве свой век, ні разу не азірнуўшыся на сотні, тысячы нязломных і незаменных, чые імёны ўтаптаны ў гразь. Перш — у кроў, потым у гразь... Хто, што ў жыцці мог калі-небудзь гарантаваць, хоць раней, хоць сёння?

Рэформы ў планах... Галоснасць абвешчана... У дэмакраты сёй-той спяшаецца запісацца... «Не па службе, а па розуме — трэба б партыйную чыстку праводзіць, — аглядваў сабраных у кабінеце журналістаў Ковач, пераводзячы позірк з аднаго на другога, — ды няма каму, відаць. Такім, як Паўлюк, разгарнуцца сёння ўжо не дадуць, а астатнія...»

Думка чамусьці балюча кальнула: сорак гадоў як у партыі, і раптам — сумненні?! Ну, не дайшоў да верхняй прыступкі па службовай лесвіцы... Дык жа, папраўдзе, не вельмі і шчыраваў, каго больш нахабнага наперад прапускаючы! Ведаў: не там верх, дзе лесвіца заканчваецца, а там, адкуль нельга ўпасці, коцячыся ўсё ніжэй і ніжэй. Было ж — і галовы каціліся. І не памятаць гэтага ці рабіць выгляд, што не памятаеш, — хоць і не адно і тое ж, але аднолькава непрымальнае. Для разумнага чалавека. У любы з часоў.

I час абвешчанай перабудовы быў бы нічым не лепшы, нічым не горшы за папярэднія ці наступныя часы, калі б перабудова тычылася не структуры грамадства, а структуры эканомікі, дзе змены наспелі даўно. А так... Ковачу не вельмі хацелася заглядваць за край бачнага: у тым і небяспека, што гэта край, мяжа, за якою магло аказацца што заўгодна. Нават крах краіны.

— Хачу папярэдзіць, — узвысіў голас Паўлюк, і Ковач, міжволі павярнуўшыся да яго, паспрабаваў звярнуць увагу на тое, што адбывалася: заўзятае следаванне новаму курсу на ўсеагульную галоснасць вітацца не будзе. Любы дазвол — не ўсёдазволенасць, і навыперадкі бегаць, як вядома, добра толькі на стадыёне. Краіна — не стадыён, і хто хоча ўтрымацца на службе, паперадзе бацькі ў пекла не палезе. Я, спадзяюся, ясна выказаўся? Ніхто не хоча запярэчыць?

Журналісты ніяк не зрэагавалі: хто разглядваў пазногці, хто сцяну, у якую ўпіраўся пагляд... Баяліся. Як і раней баяліся. І гэта было так відочна, што выклікала непрыемнае адчуванне. І не толькі ў Ковача. Усе — быццам саромеліся адно аднаго, хаваючы ад сябе саміх самую думку пра страх, запіхнуты ў самы цёмны куток душы: не праяўлены, не выказаны, ён праляжыць там столькі, колькі спатрэбіцца, як ляжаў дагэтуль, а за сценамі гэтага кабінета, гэтага будынка рэдка калі ўвогуле ўсплываў і ўзгадваўся.

— Гатовых прыняць удзел у абмеркаванні ці штосьці аспрэчыць са сказанага няма... — пачаў падводзіць вынік гаворкі ў бязмоўнай зале Паўлюк, каб перадаць права сказаць заключнае слова сакратару, і тут адбылося нечаканае — нечуванае ў гэтым будынку.

— А пытанне можна?

Усе, як па камандзе, павярнуліся на голас, і не на адным твары выбліснула і застыла здзіўленне: жанчына? Паўлюку? пытанне? у прысутнасці сакратара? І не выказаныя, пытанні віселі ў паветры, якое, здалося яшчэ больш загусла і пацяжэла.

— Пытайцеся, пытайцеся, Таццяна Васільеўна! — падбадзёрыў жанчыну Ковач, адразу ўспомніўшы яе імя і месца работы: намесніца Краўцова, былога яго памочніка, і тым крыху палепшыў абстаноўку. — Смелага куля баіцца...

— Ну, да куль, спадзяюся, не дойдзе, — усміхалася жанчына, хоць безумоўна, заўважыла, як збялеў Краўцоў, яе шэф, і напружыліся ўсе астатнія, пазіраючы не на сакратара, а на Паўлюка. — Сярод нас няма людзей выпадковых, не правераных на прафесіяналізм і вернасць Айчыне. Чаму ж нам не давяраюць, адпуджваючы ад галоснасці? Дык мо галоснасць і патрэбная адно таму, каб нарэшце сказаць з усёй партыйнай адказнасцю і адкрыта: штосьці не тое ў нашым каралеўстве, штосьці нядобрае.

Лёгкі шумок пакаціўся ад крэсла да крэсла, але Ковач адным паглядам спыніў яго, павярнуўшыся да жанчыны ўжо ў наступнае імгненне.

— Упэўнены, вы перабольшваеце наш недавер да журналістаў, Таццяна Васільеўна. А вось што вы маеце на ўвазе, перафразуючы Шэкспіра, хацелася б уразумець. Выкажыцеся ясней.

— Ідэя галоснасці, як і ідэя перабудовы, зарадзілася, на маю думку, не ў сэрцы партыі, а ў галовах нашых ворагаў. Яна падкінута нам. З Захаду. І калі мы заглынём нажыўку, то не будзем свабоднымі ні ў адным рашэнні, — Таццяна міжволі пачала запінацца ад хвалявання: сама ад сябе не чакала падобнай смеласці...

— Не згушчаеце фарбы? — зноў падтрымаў яе пытаннем Ковач.

— Таварыш сакратар... Віктар Віктаравіч! Ды забрадзіў ужо хмель: тое і глядзі, што моладзь пацягнецца да напояў ненашанскіх! Паслабленні павінны быць, ды разумныя. Выверaныя ўсім ходам нашай гісторыі. А не тыя, што правакуюць на вольніцу, разрываючы повязь паміж пакаленнямі, — старалася яна не пазіраць на Паўлюка, які, здавалася, зжыраў яе паглядам: і так словы захрасалі ў горле — не пракаўтнуць.

— Курс партыі не можа падвяргацца сумненням, — не прамінуў той перапыніць жанчыну, не прымаючы ні яе недысцыплінаванасці, ні яе імпэту не да месца.

— Гэта не сумненні, Валерый Юр'евіч, на якія не знаходзяць адказу многія камуністы і якія выклікаюць недаўменне. Калі курс партыі памяняўся — так рэзка мяняецца на нашых вачах! — а з камуністамі, з партыйнымі арганізацыямі не раяцца, не праводзячы ніякай растлумачальнай работы, пра якую галоснасць у сродках масавай інфармацыі можна гаварыць?

Жанчына села, у душы ўшчуваючы сябе за нястрыманасць: ведала ж, што і гэта спроба выклікаць дыскусію, як ранейшыя, акажацца няўдалаю і калегі ніяк не адгукнуцца на сказанае, не падтрымаюць!

— Мяркую, пытанне пастаўлена своечасова, — нечакана падтрымаў Ковач. — І ў бліжэйшы час, — павярнуўся да Паўлюка, у якога твар, што называецца, пайшоў плямінамі, — трэба ў рамках рэспубліканскага семінара правесці шырокую дыскусію, на якую запрасіць вучоных, выкладчыкаў ВНУ, ветэранаў партыі. Упэўнены, падчас гэтай дыскусіі маглі б быць выпрацаваны неабходныя рэкамендацыі для прэсы. І не толькі для прэсы.

— Будзем рыхтаваць, Віктар Віктаравіч.

— Завяршаючы ж сённяшнюю нараду, — прадоўжыў ён, — хачу заклікаць усіх да ўдумлівага, а не бяздушнага асэнсавання ўсіх працэсаў, якія адбываюцца ў партыі і краіне. Асэнсаванне не на старонках газет ці ў тэлестудыях — якраз з гэтым спяшацца не варта, — а ў душы. Усе мы носім партыйныя білеты, і пачуццё адказнасці перад партыяй павінна быць на першым месцы. Што не апраўдвае, як вы разумееце, безыніцыятыўнасці ці абыякавасці. З усімі невырашальнымі на ўзроўні міністэрстваў пытаннямі звяртайцеся да нас. У аддзел. Ці да мяне. Дарогу ведаеце.

— Матэрыялы нарады можна атрымаць у сакратарыяце, — падняўся Паўлюк. — Усім усяго добрага!

Кабінет, хоць народу было поўна, апусцеў неяк вельмі хутка і амаль бязгучна: нават крэсла ніводнае не азвалася. Адно што Паўлюк як падняўся з-за стала, завяршаючы пасяджэнне, так і стаяў у нерашучасці, не ведаючы, адпускае яго сакратар ці чакае пэўных тлумачэнняў. Паўза зацягвалася, і ён не вытрываў.

— Штосьці памылковае сказаў я ў часе гаворкі з галоўнымі рэдактарамі і іх намеснікамі, Віктар Віктаравіч?

— З чаго ты ўзяў? — усміхнуўся Ковач.

— Дык жа... Гэты дыялог з Голубевай...

— Нельга дапусціць, каб такія, як Голубева, перайшлі ў стан незадаволеных, з якіх ужо фарміруецца апазіцыя. І табе, Валерый Юр'евіч, гэта вядома лепш, чым каму, — вяла корпаючыся ў паперах, патлумачыў Ковач. — І табе, і мне — усім нам! — трэба вучыцца так разыгрываць любую сітуацыю, каб і сумнення ні ў каго не ўзнікала, што ёсць нейкае выйсце з яе, апроч таго, якое мы прапануем.

— Ды гнаць іх... — мармытнуў Паўлюк. — Туды, дзе чорт кароў пасвіць...

— Усіх не пагоніш. Бо і так можа выйсці, што самім там няроўным часам давядзецца апынуцца. Таму і кажу. Час ад часу ўсім знаёмую маску мяняць рэкамендуецца. На мякчэйшую... На весялейшую... На іншую!

— Ёсць.

— Ну, ну... Пабачым... — складваў сёе-тое з папер у папку Ковач. — На Краўцова цісні: вытрымае. А Голубеву не чапай: яна яшчэ спатрэбіцца. Не заўтра, паслязаўтра... Гульня толькі пачынаецца! Хто выйдзе з яе пераможцам, яшчэ далёка не ясна.

Апошнія фразы прагучалі ўжо пасля таго, як за Паўлюком зачыніліся дзверы — як сам сябе падбадзёрваў Ковач, думаючы пра сваё, ніяк не звязанае з нарадаю, што толькі што завяршылася.

* * *

Сказаць, што Ганя не любіла гастрольныя паездкі ў межах рэспублікі з-за дарожных нязручнасцей і неўладкаванага гатэльнага побыту — гэта нічога не сказаць. Яна — проста захворвала за некалькі дзён перад выездам, і не так угаворы сябе самой на працягу ўсіх гэтых дзён, як валявы націск дапамагаў выйсці з хворага стану і ўсё-ткі выправіцца на гастролі разам з трупаю. У дарозе ўсё станавілася на свае месцы: анекдоты, розыгрышы, жартаўлівыя заляцанні, найграныя споведзі — ігра, пачаўшыся, не заканчвалася да завяршэння выступленняў, і хоць гэта і выматвала да поўнай пустаты ўнутры, ды калі б не бясконцае тэатральнае дзейства, было б яшчэ горш і невыносней. А так... Ігра... Прадстаўленне... Тэатр! Жыццё вакол — тэатр, чаго ж чакаць ад скамарохаў?

Урэшце, усе (хоць кожны вёў сваю гульню на падмостках жыцця) прыходзілі на спектаклі, каб атрымаць асалоду ад разыгранай перад імі гісторыі чужога кахання, чужой драмы, — і не так важна, што ў ходзе спектакля хтосьці хаваў у вусы з'едлівую ўхмылку, а хтосьці цішком уціраў набеглую слязіну: і пасміхаўся кожны з самога сябе, і плакаў над сваім. У любым выпадку станавілася лягчэй адно ад думкі, што ты не адзін такі ў свеце, не адзін гаруеш са сваімі бедамі, не адзін радуешся маленькім радасцям, якія зрэдку выпадаюць. Ну, як тут не падыграць?

Падыграць — штука няхітрая. Хоць публіцы, хоць каму з партнёраў па спектаклі, разыграным на сцэне ці ў гасцінічным нумары. А потым? Сам-насам з сабой? Сам-насам з даўкай начной цішынёю? Калі ўсе, няхай нават перад самым золкам, пазасынаюць? З чым ужо з чым, а з бяссонніцаю Ганя змагацца ніколі не ўмела — здаралася, усё пражытае і перажытае па шматку перабярэ, перамацае думкаю, пакуль зможацца і засне. А ўжо тут, у Наваполацку, пасля ўчыненага Генікам...

Вярнулася адчуванне гідлівасці, калі, здавалася, яе вось-вось званітуе, і зноў давялося выходзіць на балкон, у ноч, якая ціха пагойдвалася над горадам, над Дзвіною, акрываючы іх усім сваім бяздонным небам. Небам, што жыло сваім уласным — таямнічым — жыццём, бо ледзь толькі Ганя абаперлася на парэнчы і падняла вочы, здалося, пагляд выслізнуў і тут жа патануў у срэбна-чорным ззянні яго — патануў, а ўсё рухаўся некуды ўглыб, у міжзорную пространь, уцягваючыся, урастаючы ў яе. І адразу зніклі ўсе думкі і шкадаванні — знікла само ўсведамленне канкрэтнасці, матэрыяльнасці перажываемых імгненняў! Так, быццам ноч чакала

менавіта гэтыя імгненні, каб твар у твар, вочы ў вочы з ёй, Ганяю, — з рабой Божай Ганнаю, як называлі яе часцяком сябры, — падзівіцца на беспрытульную душу яе, — падзівіцца і Гані паказаць. Зірні, маўляў, угледзься, уразумей, якая ты ў сапраўднасці — якой магла б быць, стаць!

Бо вось жа ўжо ахінала, ахутвала Ганю срэбна-чорнае — не, срэбнасіняе! — ззянне, і паўставала перад паглядам дзівосная, як на аточанай срэбрам іконе, постаць... Постаць маці? Сама Багародзіца?! Але ж Яна не трымала на руках дзіцёнка, Сына Божага ці Сына Чалавечага — проста ішла насустрач, не кранаючыся Зямлі, не атрасаючы зорнай мітусні з шырокага покрыва свайго, не набліжаючыся... Так, не набліжаючыся! Быццам іх сцяжыны не маглі ні сысціся, ні перасекчыся нідзе ў цэлым свеце, хоць сустрэча і адбылася, адбывалася тут і цяпер, на зыходзе ночы.

І думкі ў Гані не мільганула апусціцца на калені ці хоць пакланіцца Той, да Каго імкнула душа ад нараджэння, — само імкненне ўвысь, насустрач даўняй мары аб стрэчы, падтрымлівала, утрымлівала яе на крайку ночы, давала сілу не адводзіць пагляд, не агучваць маленне сэрца. Шчасця і так замнога, шчаслівыя імгненні доўжыліся і доўжыліся...

Усё жыццё прамільгнула за гэтыя імгненні перад паглядам душы, і нічога з таго, што выплывала з глыбіняў свядомасці, тут жа знікаючы, раствараючыся ў наступным вобразе, у наступнай карціне, не выклікала шкадавання. Ганя пазнавала сябе і ў басаногай дзяўчынцы, што з дзікунскімі крыкамі захаплення насілася па лужынах пад дажджом, і ў праўдалюбцы-школьніцы са старэнькім партфелем у руцэ, і ў цыбатай юнай спартсменцы пад валейбольнай сеткаю, і ў піянерважатай з вывадкам малых, і ў швачцы ў начным цэху, дзе пад гул машын нараджаліся і дужэлі мары пра сцэну, пра мноства роляў, якія яна некалі абавязкова сыграе на лепшай са сцэнаў, і ў студэнтцы-актрысулі, падманутай умела разыграным каханнем, і ў жанчыне-разводзёнцы, на твары якой ніводнае люстэрка не заўважыла б сляды слёз... Пазнавала — і ўсміхалася, калі паспявала ўсміхнуцца, кожнай з іх. Бо за кожнай — і гэта было невытлумачальна! — паўставала зіхоткая постаць Той, да Каго Ганя імкнула, колькі сябе памятала. Яна была перад ёю, хоць і ў некаторым аддаленні ад яе, і нішто ў гэту хвіліну не магло ўстаць паміж імі, засланіць ззянне, якім акрывала іх неба.

«Нішто? Нават тое, што адбылося пасярод ночы, гадзіны паўтары назад?» — вярнула свядомасць сваю страчаную ўладу над жанчынаю, і Ганя ўздрыгнула, быццам яе ўдарылі. Уздрыгнула, напружыла пагляд, чапляючыся ім за раптам апусцелы, хоць і пасвятлелы, далягляд, за нябеснае покрыва над ім, што шэрхла, шарэла проста на вачах, і толькі глыбокі горкі ўздых азваўся болем у грудзях. Ці то шчасця перажытых імгненняў сапраўды аказалася замнога — і душа надламалася, ці то ноч адгарала — адгарэла і засыпала шэрым попелам усё, што ўбачылася, або звідзілася.

Па ўсім было відно, што хутка пачне брацца на золак, і крыху азяблай Гані нічога не заставалася, як вярнуцца ў пакой і паспрабаваць сагрэцца. Залезці ў пасцель, сцяцца ў камячок, баронячыся ад згадкі, што зноў нагадала пра сябе, і сагрэцца. Мо і на душы палягчэла б, калі б цела перастала ўздрыгваць і пакрывацца мурашамі не так на перадсвітальны халадок, як на ўзгаданую абразу зрэагаваўшы.

Адчуванне цяпла і ўтульнасці хутка вярнулася, на душы лягчэй не стала. Горш таго! — перажытае, калі з ёй, актрысаю, узжадалі абысціся, як з вяхоткаю, падабранай на панелі. І хто?! Свае... Гэткія ж, як і яна, служкі сваёй прафесіі і сцэны!

Абурэнне ўспыхнула з новай сілай, і як ні сціналая яна ў камячок, як ні старалася атрэсціся ад яго і павярнуць думкі ў якоесьці іншае — любое іншае! — рэчышча, нічога не атрымлівалася. Зноў яна, паддаўшыся ўгаворам Геніка, уваходзіла ў паўлюкс, які займаў памрэж, зноў уся кампанія ўставала ёй насустрач, і яна ледзь не павярнула назад проста ад дзвярэй — здзівіла не так тое, што разам з акцёрамі ступіў ёй насустрач, пахітваючыся, намеснік міністра... Пекар... Чула пра яго нямала і рознае, сутыкалася чыста вонкава і здалёк...

— Во! — прыклаўся той да яе рукі. — Нарэшце сярод асалавелых ад гарэлкі фізій мужыкоў з'явіўся твар... Прабачце...

Ён пахіснуўся, і калі б Генік не падхапіў яго і не ўсадзіў у крэсла, пэўна, страціў бы і такую ненадзейную апору, як падлога пад нагамі. Ногі — не трымалі, рука ж паслухмяна пацягнулася да шклянкі, паслужліва напоўненай другім сабутыльнікам — драматургам... Ганя не адразу звярнула на яго ўвагу, уражаная не так відовішчам загулу (не гэткае даводзілася бачыць у «Мутным воку», куды сыходзілася ўся калятэатральная брація!), як гнусна-саладкаватаю атмасфераю таннага бардзеля, якая панавала ў пакоі, нягледзячы на адсутнасць жанчын.

«Бач! І гэны тут! Няйнакш, новую п'есу прадаць хоча...» — чамусьці з непрыязнасцю падумала пра мілейшага фанфарона, як усе называлі Жлуктава, Ганя, падшукваючы словы, каб павярнуцца і пайсці ў свой нумар. Але Генік па старой (такой старой, што адзін ён і ўзгадваў калі-нікалі) памяці абняў яе за плечы, на міг прытуліў да свайго пляча, шапнуў у самае вуха: «Не дрэйф... П'ём за яго кошт...»

— Той-сёй ужо напіўся, — адхінаючыся, кіўнула Ганя ўбок Гукава, які спаў у кутку кушэткі ў такой нязручнай позе, што толькі дзіву дацца. — Я пайду...

— Не, не, не! — тут жа падскочыў да яе памрэж. — Хоць на мінутку! Хоць на адзін тост, як той казаў...

— «Той» — гэта той, каго вы так ліслівa ўлагоджваеце... на карысць агульнай справы? — атрэсла цяпер ужо яго руку з пляча Ганя.

— Ганна Васільеўна!

— Раба Божая Ганна? — лыпнуў вачыма Гукаў. — Ганнуся! Яны мяне, старога, спойваюць, каб пераключыцца на цябе...

— Цябе споіш! — падсела яна да яго. — Ішоў бы спаць, Павел.

— Чаму ніхто не налівае даме? — стараўся выпрастацца, сесці раўней Гукаў. — Раба Божая Ганна — гэта вам не хухры-мухры за будзь здароў!

— Ужо наліта, — падаваў праз стол напалову напоўненую шклянку Жлуктаў. — А за што віп'ем, скажа Іван Георгіевіч.

— За цыцкі! За жаночыя цыцкі, мужыкі! За гэткія, як у... — запнуўся той, забыўшы імя актрысы. — За любыя!

— Ну-у-у-... — расчаравана адкінуўся назад, прываліўшыся да сцяны, Гукаў.

— Што «ну»? Што «ну»? — замітусіўся Генік, і Ганя гідліва паморшчылася, потым рэзка, адным глытком выпіла налітую гарэлку, таўханула Гукава.

— Пайшлі, кароль. Давяду да дзвярэй нумара.

Гэтак жа рэзка, адным рухам паднялася, тузанула старога за рукаў, змусіўшы зварухнуцца і пачаць падымацца. Потым усміхнулася Геніку, які падскочыў да яе з разгубленым тварам.

— А як жа Іван Георгіевіч? Ён жа хацеў... Мы хацелі...

— Чаго хацеў Іван Георгіевіч, трэба было хацець да таго, як набраўся, як свіння. Чаго хочаце вы? Ды вы ніколі нічога, апроч таннага поспеху і выпіўкі на халяву, не хацелі!

— Во адбрыла! — пахітваўся побач Гукаў, чапляючыся за яе. — А то ўздумалі падкласці бабу... Раба Божая Ганна — гэта табе, Генік, не хухры-мухры за будзь здароў! Будзь здароў!

— А як наконт бабы? — ікнуў, нават галавы не павярнуўшы ў іх бок, госць. — Што — я так і не патрымаюся за цыцкі? Вы абяцалі, мужыкі...

— Вось іх брудныя с... і заменяць іх табе! — адказала Ганя, адштурхнуўшы Геніка, і пайшла да дзвярэй. Ужо з парога, ледзь паспеўшы падхапіць пад руку Гукава, які пасунуўся за ёй і ледзь не бразнуўся вобзем, кінула: — Скаціна ты, Генік. Як і твой заступнік.

Пэўна ж, слёз Ганніных ніхто не бачыў, хоць яна з заплаканымі вачыма не адразу знайшла пакой Гукава. Не адразу, але знайшла. І калі той, асалавелы і раскіслы, нарэшце апынуўся на месцы, нават не развіталася са старым: дзе ўпадзе, там і засне...

«Спакайней, цішэй, раба Божая Ганна! Не табе першай, не табе апошняй плюнулі ў душу...» — угаворвала сябе і ў калідоры, і ў пакоі, і на балконе, куды адразу, зашчоўкнуўшы толькі замок, скіравалася, адчуўшы, што задыхаецца, задыхнецца, калі не ўздыхне на поўныя грудзі, каб адпусціў боль. Незнаёмы боль... Так, бы на часткі разрывалася душа, а яна нічым не магла дапамагчы ёй... сабе... Думкі блыталіся, невымаўленыя словы забівалі рот, непралітыя слёзы пяклі, выпякалі ўсё ўнутры.

— Цішэй... цішэй... — шаптала. — Ні зямля з-пад ног не выслізнула, ні неба на галаву не ўпала... Вунь яно, неба! Зорнае-зорнае... Агромністае-агромністае! Пасвятлее — і наступіць новы дзень...

Урэшце, Ганя так і не заўважыла, калі наступіў дзень.

* * *

— Таццяна Голубева. Таццяна Васільеўна, — падала руку памрэжу жанчына і ледзь стрымалася, каб не вырваць яе, калі той паднёс руку да губ. — Часопіс «Айчына»...

— Ну, хто ж не ведае ваш часопіс і вас, яго натхніцельку і кіраўніцу, Таццяна Васільеўна!

— Калі можна, пяройдзем на дзелавы тон... — разглядвала яна памрэжа з той цікаўнасцю, якую выклікаў бы незнаёмы від раптоўна сустрэтага насельніка іншай планеты: гэткі пяцідзесяцігадовы лысы «хлопчык», што заўжды на падхопе, — знешне да прытарнасці паслужлівы і ўсмешлівы, у душы — атрутна колкі і хітры. — Мне хацелася...

— Мне паведамілі, Таццяна Васільеўна, Эд Саныч... Прабачце, Эдуард Аляксандравіч, галоўны рэжысёр! — упаўнаважыў мяне зрабіць для вас усё, што пажадаеце.

— Так ужо і ўсё?

— Прашу ў кабінет, — выгнуўся той дугою. Усяго на міг. Бо ўжо ў наступны міг узвышаўся над ёю ва ўвесь свой немалы рост, адчыняючы дзверы. — Пакінеце парасон. Вып'еце што-небудзь лёгкае.

— Дзякуй, — павярнулася Таццяна спіной і да дзвярэй, і да свайго правадатага. — Але пройдзем адразу на сцэну, да артыстаў. У мяне мала часу, Алег...

— Алег! Проста Алег! — прычыніў той дзверы, скараючыся яе волі і незаўважным жэстам скіроўваючы Голубеву ўбок грымёрак даволі вузкім

калідорам. — Як скажаце, Таццяна Васільеўна, так і зробім. Акцёры пасля рэпетыцыі не разышліся. Эдуарда Аляксандравіча, праўда, выклікалі ў міністэрства. Але ўсё, што вам...

— Канешне, канешне. Дзякуй. Упэўнена, наперадзе — яшчэ не адна сустрэча... Хочам зрабіць сур'ёзны матэрыял пра новую пастаноўку.

— Адно тое, што вы самі...

— Чула: пераглядваецца канцэпцыя спектакля, — зноў перапыніла яго Голубева, і гэты раз даволі груба. Нават сама адчула. — Прабачце, не дала вам дагаварыць, Алег... Не люблю, ведаеце, бясконцага расшарквання. Справа ёсць справа. Нават калі знаходзішся ў нацыянальным тэатры.

— Прашу, — адвёў перад ёю кулісу памрэж. — Мне дазволена будзе прысутнічаць? Ці... У любым выпадку, калі мая прысутнасць неабавязковая, вас потым любы з прысутных праводзіць у мой кабінет.

Адчувалася, што «лысы хлопчык» злёгку пакрыўдзіўся ці рабіў выгляд, што пакрыўдзіўся, але ўсмешка, хоць і сухаватая, твару не пакідала. Голубева кіўнула яму, узіраючыся ў невялікую купку акцёраў, якія сядзелі хто на чым, і ўслед памрэжу галавы не павярнула.

— Добры дзень. Спадзяюся, вы не паміналі мяне нядобрым словам за тое, што змушаны былі затрымацца і чакаць? З Паўлам Віктаравічам мы даўнія знаёмцы, для тых, з кім я не сутыкалася, — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Айчына» Голубева. Таццяна Васільеўна, — шукала яна паглядам, дзе лепш размясціцца, каб бачыць усіх, хоць, урэшце, вымушана была апусціцца на вызваленае для яе крэсла побач з Гукавым. — Па Мінску чуткі папаўзлі, што вы тут класіку па-жывому рэзаць пачалі, геніяльны праект ажыццяўляючы.

— Ага. Геніяльны, — буркнуў Гукаў, бо ўсе астатнія, як згаварыўшыся, маўчалі: адно павіталіся з госцяю, а цяпер толькі разглядвалі яе, суадносячы ў думках тое, што чулі пра «жалезную лэдзі», і першыя свае ўражанні. Відаць, уражанні складваліся не на яе карысць, бо Ганна (не лічыла б яна сябе непераўзыдзенай прымаю!) абыякава адвяла пагляд, Генік, павярнуўшыся да Любы, штосьці шэптам пераказваў, а Ганя, хоць і пазірала ў іх бок, думала яўна пра сваё.

— І ў чым яна, геніяльнасць гэтая? — падшуквала словы Голубева, задаволеная, што падчас гэтай першай гаворкі не было рэжысёра. — У тым, каб вывернуць сярэдневяковую гісторыю і нацягнуць яе на зламаны войнамі хрыбет дваццатага стагоддзя?

— О-о-о! — падняў галаву Генік.

— Ці ў тым, каб адкінуць трагізм — не гэткае, маўляў, на нашай памяці адбывалася! — і разам з публікай пасмяяцца са старога трагіка з яго залішне эмацыянальным успрыманнем звычайнай сямейнай драмы — адной з тых, што лічыць не злічыць?

— Адкуль вы... — тузанулася Ганна, недаўменна азіраючыся на Геніка. — Няўжо ўвесь горад ужо ў курсе?

— У курсе чаго? — хмыкнула Саня. — Геніяльнасці новай трактоўкі п'есы?

— Вы...

— Аляксандра Юр'еўна, — падказаў Гукаў.

— Вы, Аляксандра Юр'еўна, напраўду лічыце трактоўку п'есы геніяльнай?

— Каго цікавіць мая думка?

— Ну, мяне ж цікавіць, — не адступалася Голубева.

— Вы — не рэжысёр, — залішне рэзка адгукнулася Саня і, каб неяк змякчыць сказанае, дадала: — Акцёры іграюць тое, і так, як бачыць і патрабуе рэжысёр. Сыграць жа мы, як вы разумееце, можам усё што заўгодна.

— Веру. Бачыла. Неаднойчы, — усміхнулася Голубева. — І ўсё ж ёсць — не можа не быць! — у вас і сваё бачанне. Няхай толькі на ўзроўні думкі. Не згоды ні нязгоды — вы ж сыграеце што заўгодна! — а думкі.

— А ў часопісе потым надрукуеце: акцёры іграюць тое, з чым унутрана не пагаджаюцца, — за ўсіх адказала Ганна. — Дык жа не ў гэтым справа. Зусім не ў гэтым.

— У чым жа?

— Таццяна, ты змушаеш рабу Божую Ганну выказацца смялей, чым яна намервалася, — умяшаўся Гукаў, бачачы пэўную насцярогу, а то і прыхаваную пагрозу, як у Сані, у позірках сяброў па сцэне.

— Раба Божая — не раба каго-небудзь са смертных, нават калі ад гэтага «каго-небудзь» залежыць на пэўным прамежку жыцця яе лёс.

Ганя не проста не пагадзілася з заступніцтвам Гукава («Чаго гэта ён так напужаўся?»), а зазлавала: у гаворцы між сабой каменя на камені не пакідалі ад прапанаванай канцэпцыі спектакля, абураючыся, а на пытанне каго старонняга гатовы былі шарахацца і хавацца? Напішуць, не напішуць... Голубева не выдавала дурніцаю, а ў тым, як узіралася яна ў іх, услухоўваючыся ў нявыказанае, яўна бачылася не адно жаданне разабрацца, зразумець, але і гатоўнасць прыняць іх думку, іх разуменне. Калі ўжо чуткі папаўзлі па Мінску...

— Ганя, мы ж не выслухалі нашу госцю, — паспрабавала выправіць сітуацыю Люба. — Мы нават не ведаем мэты яе прыходу ў тэатр. Ёй, пэўна ж, нецікавыя нашы стасункі і погляды. А Эд Саныч...

— Вось ужо каго-каго, а Эд Саныча нашы погляды ніколі не цікавілі і не зацікавяць!

— Факт, — паддакнуў прыме Генік, як, дарэчы, заўсёды рабіў.

— А я думаю...

— Па-а-авел Віктаравіч, — тэатральна ўзвыў Генік, паказваючы на гадзіннік, — давайце проста адкажам на пытанні... Таццяны Васільеўны, і ўсё! І не будзем высвятляць, хто пра што думае.

— Я думаю, — праігнараваў той яго патэтыку, — што тэатр — не балаган, дзе адно скамарохам месца. І трагедыя — хоць старая, хоць сучасная! — не шухры-мухры за будзь здароў, калі можна і жыццё і смерць асмейваць, не азіраючыся на ўласны шлях, не ўзгадваючы пра ўласную смерць, што не сёння, заўтра...

Гукаў адмахнуўся, палез у кішэню пінжака, каб выцягнуць трубку і хоць у пальцах яе пакруціць, як нельга прыпаліць, і нечакана прадоўжыў:

— Нічога звышардынарнага, урэшце, не адбываецца. І калі б табе, Таццяна, часцей выпадала зазіраць да нас за кулісы ці ў грымёркі, тако-о-ога б наслухалася! Ды гаворкі гаворкамі, а работа работай... Спектаклі, як бачыш, ідуць. Рыхтуецца новы... Рэпетыцыі штодня... Што яшчэ?

— Толькі тое, што гэта — рэпетыцыі «Караля Ліра». Упершыню ў гісторыі тэатра.

— Згодны, — павярнуўся да яе Гукаў. — Гэта не шухры-мухры за будзь здароў, і я не адмоўлюся ад ролі Ліра толькі таму, што рэжысёр бачыць караля шутом, старым шутом, які з'ехаў з глузду і аддаў царства, а потым і жыццё, дзеля пацехі публікі.

— О-о-о, штосьці новенькае...

— Старое як свет, — рэзка абарваў ён Геніка, не даўшы сябе перапыніць. — Вось толькі, відаць, дагналі нас часы, калі ўсё — на пацеху, усё — каб публіку весяліць. І не толькі ў тэатры — паўсюль. На плошчах, на экранах, у часопісах... Так, так, так, Таццяна, не ў крыўду табе будзь сказана, і ў часопісах! І да твайго часопіса, як бачна, чарга дайшла...

— З чаго ты ўзяў?

— З чаго ? У тэатр — падчас рэпетыцыі — прыходзіць — упершыню, заўваж! — не хтосьці з аддзела культуры, а намеснік галоўнага... І прычына, як я зразумеў, самая банальная: пайшлі чуткі! трагедыя Шэкспіра прачытваецца, як скамарошы розыгрыш! трупа не разумее рэжысёра!

— Усё так і ёсць, — сказала, як цвік забіла, Ганна.

— І гэта наша ўнутраная справа. Табе так не здаецца? — пакпіла, прыпудрываючы носік, Саня.

— Не знаю, што вам, бабам, здаецца, а мне, старому — і дадам: заслужанаму! — акцёру, раздзьмуты перабудоваю касцёр амбіцый не даспадобы, — сплюнуў Гукаў. — Хутка плюнуць не будзе куды, каб на генія не патрапіць, а ўся геніяльнасць сяго-таго ў адным слове ўмяшчаецца: брыдота!

— Во дае стары! — буркнуў, схіліўшыся да Сані, Генік.

— Сказанае можна аднесці да новай пастаноўкі ці гэта проста думкі ўслых? — звярталася Голубева ўжо толькі да Гукава, у душы папікаючы сябе за спробу выйсці на гаворку аб тым, што цікавіла, з наскоку, адразу з парога: па ўсім было відаць, што канцэпцыя спектакля нават тымі, хто заняты ў ёй у галоўных ролях, успрымаецца неадназначна. — Мая цікавасць, павер, падагрэта не чуткамі, і не жаданнем першай ухапіць штосьці смаленае, тым больш — за кошт аўтарытэту акцёраў. Адусюль плыве такое, што і падумаць страшна: а раптам захлынёмся? Не спахопімся своечасова — і захлынёмся брудам, пацехі дзеля... Вось чаму прыйшла да цябе.

— Мо астатнія тут увогуле толькі для масоўкі? — фыркнула Саня і, неяк грэбліва агладжваючы спадніцу, паднялася. — У мяне асабіста — больш ні хвілінкі вольнае.

— Канешне, канешне. Прабачце! — на міг схіліла ў яе бок галаў Голубева. — Гаворка толькі для зацікаўленых... Так што дзякуй. Дзякуй усім!

Усе, апроч Гукава, падняліся: хто звяраўся з гадзіннікам, хто збіраў свае паперчыны, перш чым развітацца. Ганна, якой муляла застацца (іх жа ўсіх папросту ветліва выpraваджвалі), не адразу, але рушыла за астатнімі. Азірнулася на Голубеву: тая схілілася да суразмоўніка і штосьці ціха даводзіла яму, ці то супакойваючы, ці то дапытваючы, і толькі ўзмахнула рукой, калі тая заўважыла яе марудлівасць.

— Ты што? Застаешся? — гукнула з калідора Люба.

Куліса захінулася. Стала ціха. Так, быццам сцэна зусім апусцела. Хоць крыху ўбаку ад пляміны святла ў цэнтры сцэнічнай пляцоўкі па-ранейшаму гаманілі двое — жанчына і мужчына. І ў гэтыя хвіліны не мела значэння, што яна — вядомая журналістка, а ён — народны артыст, што гаманілі яны пра адносіны да трагедыі Шэкспіра і магчымасць поспеху альбо правалу яе пастаноўкі ў Мінску. Голубева нічога не запісвала, стары акцёр нічога не сцвярджаў пэўна і безапеляцыйна — ён, здавалася, увогуле страціў усякую цікавасць да нечыяй там трактоўкі, быццам ніколі і на міг не губляў упэўненасці, што Лір на беларускай сцэне будзе такім, якім сыграе яго ён, Гукаў.

* * *

— Ды хто ён такі, гэты ваш Гукаў? — лена адмахваўся ад гаворкі Глінскі. — Ну, сорак гадоў на сцэне... Ну, народнага яму выбілі некалі... Дык не яму аднаму! А гады — той скарб, што належыць яму, акцёру, а не тэатру.

— Дык жа не сабе пад нос бурчыць, а на буйны паклёп...

— Ты ідзі, Ген. Я сам разбяруся.

Глінскі праводзіў паглядам Геніка да самых дзвярэй, потым лёгкім рухам рукі сцёр з твару пагардлівую ўсмешку, што нагадвала грымасу, і нягучна, але груба вылаяўся, памянуўшы далёкую прабабку ўсіх на свеце шутоў: і ходзяць, і гадзяць адзін на аднаго...

«Калі б вы ведалі, з якога смецця...» — выплыў з памяці ахматаўскі радок, і Глінскі стомлена адкінуўся на спінку крэсла, прыкрыў вочы, спрабуючы адключыцца ад занадта шэрай і бязраднаснай рэальнасці свайго, па ўсіх мерках, высокага становішча. Рэжысёр... Галоўны рэжысёр... Тэатр — не нейкі там тэатр марыянетак... А ўсё з марыянеткамі меў справу. Што тут, у тэатры, што вышэй.

«Калі б вы ведалі...» Ды ведаў, ведаў ён, з кім меў справу! З кім даводзілася мець справу тут, на зямлі, на гэтай смярдзючай грудцы гразі, на якой адно і льга зрэдку пацешыць сябе, спіхнуўшы каго з разумнікаў у змрок апраметнай, каб пад нагамі не блытаўся. Носіцца то адзін хто, то другі з думкаю на кульгавай кабыле яго аб'ехаць на якім з паваротаў шляху, а таго і не падазраюць, што і шлях, і любы паварот яго ў той ці іншы бок не так званай грамадскасцю вызначаюцца, нават не дзяржаўнымі дзеячамі самага высокага кшталту, а і м і — такімі, як ён, Глінскі. Абраннікамі. З незапамятных часоў, з жыцця ў жыццё, перадавалася гэта права на абранніцтва лепшым з лепшых у іх крузе — і нікому не разарваць гэты круг, покуль стаіць Зямля і кіруюць усім на зямлі грошы. Нікому са смертных.

Змовы, рэвалюцыі, войны, смерці... Калі трэба — мільёны смярцей! План падпарадкавання ўсіх дзяржаў, усіх народаў адной магутнай купцы Абраных прапісаны да дэталяў не сённяшнім днём, не ў апошнім стагоддзі. І — няўхільна выконваўся. Без якіх бы там ні было адхіленняў ці няўвязак. Так было скрозь. І ніхто не мог парушыць — і не парушаў! — рух па ўзведзенай на пачатку часоў лесвіцы здзяйсненняў і перамог, падножжа якой гублялася ў змроку прамінулых тысячагоддзяў. Прыступка за прыступкаю адольвалі яе не народы, як уяўлялася гісторыкам, падманутым грудамі пакінутых ці, дакладней, падкінутых, ім сведчанняў, а Пасвечаныя. Жрацы, Філосафы, Архітэктары, Папы, Пастыры... Ні займаемае месца, ні імя ніколі не мелі значэння! Іерархія выбудоўвалася па іншых прынцыпах, і таямніцу будовы не разгадаў дагэтуль ніводзін разумнік.

Урэшце, таямніца на тое і таямніца, каб, нават высвечаная з таго ці іншага ракурсу промнікам разумення, была здольная тут жа ачысціцца, адкінуць выяўлены фрагмент і зноў замкнуцца, стаць недасягальнай не толькі для позіркаў, але і для думкі. Пасвечаных жа ў таямніцу — у код, пад уздзеяннем якога адкрывалася б яна хоць адной гранню, — заўсёды было няшмат. Адзінкі. І яны — Зямлі не належалі...

Думкі забуксавалі, і Глінскі ўнутрана насцярожыўся: раптам перайшоў мяжу дазволенага? Міжволі ж паспрабаваў і сябе ўбачыць на лесвіцы Іерархіі... Але насцярога праз міг знікла, не закрануўшы свядомасці, і спакой вярнуўся. Хутка ён ужо зноў закалыхваў Глінскага на сваёй плыні:

блакітныя ўсплёскі то ўспыхвалі, то злёгку чэзлі, не згасаючы, а быццам аддаляючыся. Аддаляючыся і вабячы, уцягваючы яго ў незнаёмую духоўную прастрань.

І — ці тое, пра што думаў, выклікала адпаведную асацыяцыю, ці то збуджанае думкамі ўяўленне ўзялося маляваць жывую, рухомую карціну, але перад паглядам замест кабінета, застаўленага старой, ледзь не даваенных часоў, мэбляю, з’явілася бязмежная ў абодва канцы пірамідальная лесвіца. Яна ні на чым не трымалася, ні на што не абапіралася — проста імкнула адначасова ў абодва бакі. Дакладней, не сама лесвіца ўтварала гэты рух, а напачатку шматлікі, а потым, з кожнай новай прыступкаю, усё больш разрэджаны людскі натоўп. Натоўп паломнікаў, натоўп прэтэндэнтаў на вышэйшае становішча, агалцелы натоўп вечна галодных і незадаволеных... Вызначаць Глінскі не ўзяўся б, ды і не было на тое ні часу (усё рухалася, мянялася, знікала і зноў узнікала адначасова, аднамомантна), ні выяўленага праз волю жадання. Мільганула думка: дзе ў гэтым натоўпе ён, Глінскі? — ды мільганула і мільганула, згасшы незаўважнай іскаркай у густой цёмнай сінечы.

Выява лесвіцы не знікала. Наадварот — быццам набліжалася, узбуйняючы постаці. Мо толькі для таго, каб у нейкі момант убачыў ён твар натоўпу. Менавіта не кагосьці аднаго ў натоўпе, а — натоўпу. І відовішча аказалася мярзотным (якім яшчэ яно магло аказацца?!), калі, здавалася, усе грахоўныя памкненні, уся жывёльнасць людскіх істотаў увасабляліся ў паточаных чорнай злосцю рысах — усе штурхаліся, кожны груба адпіхваў іншага, працярэбліваючы сабе шлях угору, а рух, быццам замыкаючыся ў самім сабе, не доўжыўся, а закручваўся, скручваўся ў жахлівы клубок брудных, потных целаў. Піхні — і пакоціцца гэты клубок уніз, душачы, трушчачы тых, хто яшчэ не дапяў сюды, на вышыню пагляду...

Няйначай, думка нейкім чынам матэрыялізавалася, увасобіўшыся ў рух, жорсткі сваёй неадменнасцю, — натоўп адхлынуў, клубок целаў абрушыўся ўніз, крышачы ўсё на шляху. Бачылася гэта выразна, ва ўсёй жорсткай рэальнасці імгнення — і здзівіла Глінскага (калі б мог ён усведамляць цяпер здзіўленне) не аголеная, нічым жыццёва неабходным не выкліканая жорсткасць пакарання, не скрыўленыя, а то і вывернутыя невыноснай пакутаю смертнікаў твары збітых з ног, раздушаных гэткімі ж, як самі, гарапашнымі людзьмі, а тое, што ён пазіраў на ўсё з задавальненнем. Хоць калі задумацца...

Задумвацца ён не стаў — не тая мінута, як кажуць. Задавальненне ж, ледзь толькі крайком свядомасці ўлавіў яго, узмацнялася, расло. У нейкі міг з’явілася адчуванне, што гэта ён, Глінскі, з задавальненнем адкідвае, спіхвае з прыступак гэты натоўп, — усё з большай жорсткасцю, усё ніжэй і ніжэй. Пад ногі! У гразь! У ліпкі змрок апраметнай! Туды, адкуль спрабуюць выбрацца!

— Так, колькі б смутку ў сэрцы ні насіў, быць цвёрдым змусяць гэткія часы!

Хто гэта сказаў? Чаму словы раскатам перуна пракаціліся недзе ўгары, асыпаўшы Глінскага халоднымі іскрамі сінечы? Пры чым тут Шэкспір з яго Лірам? Лесвіца...

Лесвіца знікла. Уся карціна, так выразна бачная толькі што, знікла, і цішыня, пэўна ж, была ўяўнаю. Бо вось ужо слых улоўліваў нечыя крокі ў калідоры, гул горада за вокнамі, дзіўнае рытмічнае пастукванне... Не адразу і ўцяміў, што чуе ўдары ўласнага сэрца. Уцяміўшы, глыбока ўздыхнуў

і расплюшчыў вочы. Яшчэ падумаў: гэта адператамлення, але тут жа схамянуўся, адмахнуўся ад думкі, паспрабаваў аднавіць у памяці сцэну, якую толькі што назіраў аднекуль збоку ці зверху. Хоць мо дакладней: знутры... З глыбіні сканцэнтраванасці...

— Эдуард Аляксандравіч, ці можна?

— А-а, — паморшчыўся, пачуўшы голас сваёй прымы, Глінскі і, перш чым устаў насустрач Ганне, даланёю сцёр з твару і самы непрыкметны след раздражнення: з дамамі вечна трэба быць напагатове, каб ненарокам, па неасцярожнасці, не апынуцца раптам перад раз'юшанаю львіцаю. — Заходзь, Ганначка! Цалую ручкі... Цалую ручкі...

Цалаваў ён не ручкі, а шчочкі — ды якое гэта мела значэнне? Ганна адразу адмякла, адтала і... няхай часова, але схавала кіпцікі, якімі ўжо намервалася злёгку паказытаць яму бараду.

— З чым да мяне? З крыўдаю? З просьбаю?

— З прапановаю, — какетліва паправіла шалік прыма, усаджваючыся ў крэсла так, каб святло падала на твар крыху збоку. — Не ведаю, чаму ты сам не заўважаеш, што нашы актрысулі ўсё робяць, каб сарваць спектакль і як не цяпер, то падчас прэм'еры выставіць цябе — цябе, цябе, Эдуард, як бы ты да гэтага ні паставіўся! — недавукам і пыхліўцам. Я ўжо не кажу пра сябе!

— А што ў іх да цябе? — задумліва агладжваў бараду Глінскі, разглядваючы актрысу, як разглядваў бы казюрку, злоўленую сачком.

— Як што? Як гэта што? — заёрзала тая пад гэтым цяжкім паглядам. — Нельга сыграць ніводзін на свеце спектакль, калі табе не падыгрываюць партнёры! А тут у цябе гэткія выкрунтасы...

— Ну, якія такія выкрунтасы, радасць мая? Табе было б больш да спадобы проста далдоніць завучаны тэкст?

— Не пра мяне гаворка. Калі гэта я самавольнічала, тваю волю ігнаруючы?

— Было, было, — падняўся Глінскі, каб узяць са шкапчыка выпіўку. — Ды каб не ўспамінаць, — па чарцы каньяку... А?

— Ты мяне не даслухаў!

— Даслухаў, не даслухаў... — разліваў той каньяк. — Чаго і пра каго я ў тэатры не ведаю? Ды мне вядомы ўсе насмаркі і крытычныя дні нашых актрысуль, не тое што іх выказванні ці намеры! Упэўнены, што і яны, як і ты, дарагуша, памятаюць, хто ў тэатры гаспадар, чыя воля пануе з ранку да ночы. За гэта і вып'ем.

— За гэта? — вагалася тая.

— А за што? — пацвельваўся Глінскі, задаволена пасміхаючыся. — Усё жыццё — тэатр, а які тэатр — без рэжысёра? А, дарагуша?

— Нешта ты задужа вясёлы... — так і не выпіла Ганна, насцярожана назіраючы за рухамі Глінскага. — Няйначай, новую ахвяру знайшоў?

— Калі ты маеш на ўвазе новую бабу...

— Пляваць мне на тваіх баб, Эдуард! І даўно! Але калі ты ўздумаў пад руінамі свайго новага спектакля пахаваць маю мару пра новае званне, сцеражыся. Я занадта доўга ішла да яго, зашмат паклала...

— Ні-чо-га ні-ко-лі, дарагуша, ты не клала на алтар поспеху, апроч сябе самой, — наліваў сабе другую чарку Глінскі, — апроч свайго шыкоўнага без апраткі цела. Чаго ж раптам захвалявалася? Спалохалася, што старэеш?

— Ну і свіння ты, Глінскі! — ускочыла яна.

— Хіба я пярэчу? — цадзіў той каньяк, быццам пагладжваючы актрысу паглядам. — Са мной трэба ласкаю... Ці забыла?

— Ды пайшоў ты! — ужо ад дзвярэй кінула Ганна, не адразу вырваўшыся з яго ўчэпістага позірку. — З ім, як з чалавекам...

— У тым і памылка, — буркнуў Глінскі, адвярнуўшыся ад дзвярэй, перш чым яны зачыніліся. — У тым і памылка, дарагуша.

Ён узважыў у руцэ добра ўжо перапалавіненую бутэльку, зіркнуў на гадзіннік і, спакойна разваліўшыся ў крэсле, чарговы раз напоўніў чарку...

* * *

Званіў Стас. І Любу, якая ў кватэры была не адна, хоць і не напалохаў гэты званок, але насцярожыў: занадта пільна ўглядваўся ў яе, у яе жыццё прыблудны паэт, і кіравала ім яўна не толькі пачуццё што б ён сам ні гаварыў і ні думаў у тую ці іншую мінуту. Няйначай, прыглядваў за ёй. То перастрэне ў горадзе — быццам бы выпадкова, то названьвае ледзь не сярод ночы, то вакол дома яе бадзяецца... Канешне, можна было б пайсці на больш рашучыя процідзеянні, сказаць каму... з высокапастаўленых, ды іх Люба, хоць і прымала ў доме, баялася яшчэ больш, чым свайго маладога наглядчыка, і лепш не думаць ні пра яго, ні пра іх, нанач гледзячы.

— Хто там так позна, Любаша? — пачула голас Пекара з ваннай і ўздрыгнула ўсім целам.

— Саня. Сяброўка, — салгала, не задумваючыся, і пагладзіла даўно апушчаную трубку: ці то для большай пэўнасці, ці то з падсвядомым шкадаваннем.

— Я сей мамент! Ты ідзі, ідзі ў спальню.

Загад і ў малой ступені не паходзіў на просьбу, і Любе, якая ціха зглынула ўздых, нічога не заставалася, як прыглушыць святло ў кухні і ісці разбіраць паспець. Яна спрабавала падключыць, як рабіла звычайна, уяўленне і паставіцца да таго, што адбывалася і прадоўжыцца на працягу наступнай паўгадзіны, як да ролі, — да чарговай ролі, на якую пагадзілася і якую змушана была выканаць, пажадана — без адзінай фальшывай ноты. З кожным разам рабіць гэта было ўсё цяжэй: уяўленне прабуксоўвала, душа пачынала пратэставаць... Яе, Любу, выкарыстоўвалі, перадаючы з рук у рукі, і віной таму — яе страх. Так, так! Хацела яна ў тым сабе прызнацца або не, усяму віной — жывёльны страх, у які, як у пастку, загналі яе душу. З яе, Любінай, згоды загналі. Напачатку. На самым пачатку, калі ёй, наіўнай, здалося: за поспех на сцэне, за магчымасць увайсці ў кола набліжаных да ўлады людзей можна ахвяраваць усім, аддаць усё.

З чаго пайшло? З гатоўнасці пайсці на што заўгодна дзеля будучай славы — дзеля славы! Адкуль Любе тады, тры гады таму, было знаць, што з усяго ёй паабяцанага і сотай долі яна не атрымае, што давядзецца расплачвацца сабою ўсё жыццё! — перш за абяцанне, потым заплаціўшы, пачаўшы плаціць — хоць і ў думкаах не трымала, што будзе плаціць, — за страх? За страх, што адкрыецца ўся гнусная падаплёка яе двухмесячнага замежнага ваяжу, дзе давялося «тушыць» сексуальны жар вырваных з дому, з цёплых жончыных абдоймаў чыноўнікаў — аднаго за адным, па чарзе, хаваючы ўласны жах перад тым, што чынілася...

— Як? Ты яшчэ не ў ложку? — перапыніў яе думкі голас Пекара, і Люба, перш чым азірнулася на яго, незаўважна змахнула набеглыя слязіны. — Позна... Так што часу ў нас няшмат.

«Сухажылы, нахабны, упэўнены ў сваёй перавазе арангутанг...» — падумала яна, распранаючыся і прымружваючы вочы, каб не адкрыць, не адкрываць іх потым на працягу ўсіх наступных хвілін: цела скаралася чужой волі, душа, калі б магла, калі б мела неабходную сілу, пакінула б цела...

Жалобна зарыпеў ложак, сцялася ў ложку пад цяжарам распуснай грубай страсці Люба, збіраючы ўсю волю ў сцятыя кулачкі, каб не ўзвыць ад бездапаможнасці, ад бездапаможнай тугі па волі, па чыстым паветры любві, якога каторы ўжо год ёй так не ставала.

* * *

Дзіўны трохкутнік утваралі ў цэнтры горада гэтыя тры будыніны, аддзеленыя адна ад адной старым скверам. Цяжкі, груваскі гмах ЦК, цэнтральны ўваход у які ахоўвалі аграмадныя каменныя галовы (менавіта не бюсты, а галовы) правадыроў пралетарыяту, пампезны ў сваіх прэтэнзіях на архітэктурны шэдэўр тэатр з гэткай жа пампезнай прыбудоваю грамадскага туалета на рагу паміж сваім службовым уваходам і цэнтральны ўваходам у высокую партустанову, і па-канструктывісцку строгі шэры сталактыт Дома афіцэраў, да якога выкшталцона і па-свойму грацыёзна ляпіўся разам з узгоркам, дзе стаяў, былы архірэйскі дом. Мала хто пра гэта помніў, але сапраўды ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя тут мясціўся архірэйскі падворак, і тое, што сёння дом займаў Саюз тэатральных дзеячаў, адно з невялікіх памяшканняў на паўпадвальным паверсе за рыфлёнымі непразрыстымі аконнымі шыбінамі аддаўшы пад рэспектабельную забягалаўку, празваную ў народзе «Мутным вокам», было глыбока сімвалічна. Асабліва, калі накласці намаляваную на цэнтральным пагорку Мінска карціну на знак эзатэрычнага трохкутніка з вокам у верхнім куце.

Ну, ды такія асацыяцыі нават Стас рэдка спалучаў падчас разважанняў — з чаго б раптам? Калі было што містычнае ў «Мутным воку», зазірнуць куды заўжды знаходзілася нагода, то сама атмасфера там… Атмасфера элітарнага басяцтва, інакш не вызначыш: мэтры ад культуры з тужэй, чым у астатняй браціі, набітымі кашалькамі, заходзілі сюды рэдка — звычайна менш крэдытаздольная і больш кампанейская публіка збіралася, каб пагаманіць за чаркаю ці выпіць пад бясконцую гаману...

Гул галасоў, то ціхі, то грамчэйшы, як і воблікі цыгарэтнага дыму і лёгкага кухоннага чаду над галовамі, даўно не ўспрымаўся чымсьці неардынарным ці, тым больш, надакучлівым: дзеля сустрэч, выпадковых ці прызначаных, сюды, ва ўлонне старога пагорка, спускаліся... Калі ж звыклы голас выбухаў зрэдчас гнеўным крыкам ці істэрычным рогатам (здаралася і такое), парушальніка няпісаных правілаў паводзін тут жа ўціхамірвалі. Налівалі... Выводзіць каго нячаста даводзілася: усе ж, ведалі адно аднаго або не, — свае. А са сваімі — па-свойму і абыходзіліся. Не дапамагала чарка налітая, і мацюкамі абкласці маглі, гукнуўшы буфетчыцы: «Тома, заткні вушы!» І напіваліся, і цверазелі тут хутка. Мо таму, што ніхто нікога не выганяў, покуль вечар доўжыўся і было каму заплаціць за чарговую пляшку...

— Нешта ты невясёлы, Стас. І гэта — пасля чацвёртай чаркі? — распавёўшы ўсё, што хацеў, пра сваю новую п'есу і не дачакаўшыся сур'ёзнага водгуку ці хоць бы проста ўхвалы, азіраўся ў пошуках вясялейшай кампаніі Жлуктаў. — Прабач, што я ўсё пра сябе ды пра сваё... Ты — як? Што з кнігай?

— Днямі абяцалі сігнальны экземпляр.

— Ну-у, гэта ж падзея! Сама радавацца, а ты...

— Не зважай, — крыва ўсміхнуўся Стас, не здольны ўзяць сябе ў рукі пасля сутычкі з Генікам, які злосна шыпеў: «Шлюха! Ды Любаша — простая шлюха, а табе ўсё няймецца ўзвысіць яе, апець...» — З адным мярзотнікам не размінуўся, ідучы сюды.

— Плюнь! — махаў некаму драматург з таго кутка, куды яны ўплішчыліся, шукаючы вольнае месца. — Не адразу, не з маладых гадоў пачынаеш разумець, што ўсе людзі — мярзотныя па сваёй сутнасці істоты, але калі ўразумееш, жыць значна лягчэй. Ні на каго не ўскладаеш надзей, ніколі не падпускаеш бліжэй, чым на аплявуху.

— Жанчыне ж аплявуху не ўмажаш, — падумаў услых Стас і сам уздрыгнуў ад нечаканасці. — Я гэта.. Не ўсё ж аплявуха вырашае...

— Баба! Як жа я адразу не ўцяміў, тваю перакошаную фізію ўгледзеўшы? — усплёснуў рукамі і тут жа пачаў разліваць гарэлку па чарках. — Ды пра баб і ўвогуле думаць не варта. Замуляе — падкоцішся да якой на гадзінку, дужа не ўзіраючыся і не выбіраючы, а здаволішся — гуд бай, май бэбі! І не ўспомніш потым.

— Цынік ты, Жлуктаў.

— Я — цынік, ты — дурань... У чым розніца?

— У тым, што за дурня можна і пакрыўдзіцца, — не стаў піць Стас, нават чарку адсунуў крыху.

— Хочаш праўду? — зрабіў выгляд, што не заўважыў яго руху Жлуктаў, і наліў сабе яшчэ. — Дык хочаш — ці кішка тонкая, каб яе пераварыць?

— Адзін ужо сказаў... — буркнуў Стас, думаючы, як падняцца і прайсці між шчытна ссунутых крэслаў.

— Угу. Сказаў. А ты, паверыўшы, не паверыў...

— Ты — пра што? — тузануўся ён, зачапіўшы стол, і Жлуктаў ледзь паспеў утрымаць яго хісткую раўнавагу. — І ты — ўсё ведаеш?!

— А хто не ведае, стары! Ды выпі, ёш тваю! Выпі і плюнь. Шукаць небажыхарку сярод актрыс толькі паэту ў галаву прыйдзе, а рэальнасць...

— Паслаць бы вашу рэальнасць!

— Вось і пашлі. Адразу палягчэе, — шукаў на стале, чым прыкусіць, і, не знайшоўшы, зноў напоўніў чарку Жлуктаў. — Сюжэт твой і на драму не цягне, не тое што на трагедыю.

Стас моўчкі выпіў, моўчкі пасунуў чарку да Жлуктава, каб той зноў напоўніў яе: лягчэй ад гарэлкі не станавілася, але ж не сядзець як на пахаванні. Думка зачапіла, і чамусьці стала не па сабе. Якое пахаванне? Каго ён хавае? Што яму раптам убілася ў галаву? Ажно мурашкі па спіне папаўзлі... Міжволі пацягнуўся да ўжо амаль пустой пляшкі, хоць паўнюткая чарка стаяла перад ім.

— Цьфу ты!

— Даўно сплюнуў бы, — адгукнуўся Жлуктаў, хоць увесь гэты час штосьці запісваў на нейкім шматку паперы. — Бабы — толькі бабы, і ў пасцелі...

— Ды што ты ўсё пра пасцель? — ціха, неяк зусім безнадзейна запярэчыў Стас.

— Што азначае толькі адно: да пасцелі ў цябе не дайшло, — пасміхнуўся Жлуктаў крыху грэбліва. — Што, дарэчы, зусім не азначае, што трэба сядзець з пахавальнай мінай.

— І ты — пра пахаванне? — падняў на яго асалавелы пагляд ён.

— Я — пра баб-с! — рагатнуў той. — Хочаш, адну падкіну па-прыяцельску? Не Любаша, канешне, але, павер майму вопыту, хрэн за рэдзьку не саладзейшы.

— Ты не знаеш...

— Я?! Не знаю?! То-ом! Тома! — загукаў той праз увесь пакойчык. — Перадай нам сюды беленькую... Знаеш жа, за мной не заржавее. А то, ёш тваю, тут паэт, таго і чакай, вершамі пачне плакаць...

— Па-эт? Хто тут паэт, апроч мяне? — раўнуў хтосьці з-за дальняга століка, але яго тут жа асадзілі, супакоілі, перадаючы пляшку Жлуктаву.

— Прызнайся: плакаў калі-небудзь вершамі? — адкаркоўваў Жлуктаў бутэльку, адкаркаваў, зноў павярнуўся ўбок буфета. — Тома! Як не згарэў на попел, то аджалкуй нам шашлык з гуркам, а?

— Шашлык? Не-е-е... — затрос галавой Стас, моршчачыся.

— У цябе не пра шашлык пыталі, а пра вершы, — рабіў сваю справу Жлуктаў, напаўняючы чаркі. — Вершамі плакаць умееш? Як класікі ўмелі некалі?

— Плакаць? Але ж словы...

— Чытай, чытай!

— Пагляд, пагляд... Цяжар іх не ўтрымаць. Чыя ж, урэшце, гэта перамога? Нібы перад душой сваёю строгай стаю як ёсць. А радасці — няма. Ёсць толькі боль. Цяжкі, незразумелы, боль ва ўсім целе, цела ўсяго ўздоўж. І дождж, цяпер ужо бясконцы дождж, там, за акном. І гэты пэндзаль смелы: нічога — за паглядам — не міне, нічога не мяняючы, усё змяніць... З малітваю б упасці на калені перад табою — той, на палатне!

Стас чытаў нягучна, але ў пакоі раптам пацішэла, быццам усе ўслухоўваліся ў яго голас. Калі рэзка, крыху ўзвысіўшы голас, закончыў, хтосьці непадалёку колькі раз пляснуў у далоні, хтосьці азваўся: «Па-э-эт!», і гул аднавіўся, вечар пакаціўся наезджанай каляінаю. Чокаліся, пілі, гулі, кожны штосьці сваё даводзячы ўсім астатнім, — і каб позірк хто кінуў убок іх століка! Быццам і не гучаў толькі што верш (хоць колькі іх гучала ў гэтых сценах!), быццам і не абарвалася, абарваўшы апошні радок, нейкая тонкая струна ў сэрцы паэта (хто калі зважаў на чыё — ды і на сваё ўласнае! — сэрца?).

Дзіўна, але нават Жлуктаў у першую хвіліну не знайшоў што сказаць, — і гэта ён, драматург, які мог звязаць і развязаць любы вузельчык у любой чалавечай драме!

— Гэта праўда... пра Любу? — выціснуў з сябе Стас, зглынуўшы ўздых.

— Ды ты адзін, хто гэтага не ведаў... Том! Што з нашым шашлыком?

— Я пайду, — падняўся Стас. Падняўся з такой рашучасцю, што было ясна: утрымліваць марна. І Жлуктаў, якому збрыдла, папраўдзе, іграць ролю цынічнай нянькі, нават спробы не зрабіў. Павярнуўся разам з крэслам, каб прапусціць Стаса, і стаў азірацца, шукаючы, да каго са сваёй раскаркаванай пляшкаю прыстаць.

Стас, асалавелы не так ад выпітага, як ад удыхнутага (дым плаваў па пакоі цяжкім брудным ашмоццем), працісквауся да дзвярэй, ні на каго не пазіраючы, ні з кім не развітваючыся: на гэтым свяце вольніцы і загулу ён быў чужы. Па крайняй меры, сёння.

* * *

Тое, што Першы не выклікаў яго ў кабінет, а запрасіў прыехаць у нядзелю ў летнюю рэзідэнцыю, Ковача адразу насцярожыла: па ўсім відаць,

няпростая размова чакала... Паспрабаваў нават вызначыць мэту падобнага запрашэння ці хоць бы прычыну больш-менш выразную, але потым адмовіўся і ад спробы штосьці загадзя ўразумець, і ад самой думкі пра паездку. Сказана — прыедзе. Не на рыбалку ж запрашаўся: і кастрычніцкае надвор'е не спрыяла, і палітычнае... Палітычнае ўвогул псавалася, пагражаючы якім-небудзь катаклізмам. Прысмак здрады адчуваўся ледзь не ў кожным моўленым наверсе слове, і насцярога перапаўзала з аднаго кабінета ў другі — па ўсёй партыйнай вертыкалі. Перашэпты, шушуканні, першыя пошукі запаснога акопа ў выпадку чаго... Не трэба дужа ўзірацца, каб заўважыць, адкуль дзьмуў сіберны вецер.

Нядзеля выдалася бязветранай, хоць шэрань зацягнула ўсё неба з ночы. Раніцою ж, калі Ковач скіраваўся ў Дразды, пачало накрапваць. Дождж, не дождж... Спярша сыпалася драбнюткая сеянка, заўважная адно на лабавым шкле машыны, потым кроплі крыху пацяжэлі, і стаў чуцен лёгкі, асцярожны шолах. Мільганула нават думка: ехаць бы і ехаць вось так няспешна праз ранак, праз восень, забыўшыся на ўсе клопаты, на ўсё, што даводзілася і яшчэ давядзецца вырашаць! Ды дарога недалёкая: праз паўгадзіны «Волга» ўжо абмінала міліцэйскі пост, а яшчэ праз паўгадзіны перад ім патрэсквала паленне ў каміне, а на нізкім століку побач дыміўся кубак гарбаты.

— Нябось, здзівіўся, прымаючы запрашэнне прыехаць сюды? І для грыбоў, і для рыбалкі пазнавата...

Гаспадар сядзеў побач з камінам, зрэдку падварушваў паленне, дзівячыся на агонь, і сур'ёзную гаворку не пачынаў. Быццам адно для таго і прымаў Ковача, каб адагрэць і чаем напаіць. А той і да кубка не дакрануўся. Чакаў.

— Ды ты пі, пі гарбату, Віктар Віктаравіч! Сам заварваў. Па старым рэцэпце. Потым мы з табой пройдземся па алеях, падыхаем лясным паветрам, — не паварочваўся гаспадар, і толькі цяпер Ковач заўважыў, што апрануты ён у світэр і гатоў у любы момант падняцца і пакінуць утульны пакой. — Парасоны знойдуцца. Я, прызнацца, падрыхтаваў іх, зірнуўшы на неба.

— Дзякуй. І за запрашэнне, і за пачастунак, — адпіўшы з кубка колькі глыткоў, паставіў Ковач яго на стол і падняўся: упершыню трывожнае адчуванне нестандартнасці сітуацыі змянілася ў ім трывогаю. Штосьці, чаго ён не ведаў і што адбывалася ці ў самым хуткім часе адбудзецца, патрабавала поўнай сакрэтнасці: нездарма ж выходзілі яны пад дажджом прагуляцца!

Дождж хоць і не перастаў, але і не ўзмацніўся. З-за вялікага парасона неба не праглядвалася, ды і не шукаў Ковач яго паглядам, услухоўваючыся ў ціхі перастук кропель, у крокі, якімі яны мералі мокрую дарожку, услухоўваючыся ў маўчанне гаспадара. Калі той урэшце загаварыў, у голасе не чулася ні трывогі, ні напружання.

— Мяркую, ты, Віктар Віктаравіч, не можаш не здагадвацца, што вымагае нашай гаворкі тэт-а-тэт, далей ад чужых вачэй і вушэй, і разумееш, што не гукаў бы, каб не давяраў табе як раней, так і цяпер.

— Я высока цаню гэты давер. І не падвяду.

— Знаю. І таму хачу, каб слухаў і запамінаў. Не па пратаколе, а па сутнасці.

Нейкі час ён маўчаў. Ішоў, не запавольваючы крокаў і не паварочваючыся да Ковача, і нават шолах крокаў, шолах дажджавых кропель, здавалася, не парушалі цішыні.

— Цана свабоды — вечная пільнасць, казаў хтосьці з філосафаў, — прадоўжыў гаспадар, — і справядлівасць гэтага сцвярджэння адчуваецца асабліва ў нашы дні. Пільнасць, пільнасць і яшчэ раз пільнасць! Каб не застацца ў дурнях. Каб не аддаць усё, што такою працаю здабывалася.

— Усё так сур'ёзна? — не здолеў схаваць заклапочанасці Ковач.

— Вярхушка ўжо амаль нічым не кіруе, хоць многія — і мы! — па інерцыі падпарадкоўваемся. Робім выгляд, што падпарадкоўваемся! Але ж калі з-пад носа імкнуцца вынесці не толькі напрацаванае народам, а і на будучыню партыі, народа з Крамля замах робіцца, нельга жыць, быццам нічога не адбываецца. Мы проста абавязаны прадугледзець, прадухіліць што якое з магчымых наступстваў задуманага развалу краіны і абараніць, калі спатрэбіцца, сваіх. Сваіх людзей.

Зноў колькі хвілін чулася толькі пастукванне кропель, і Ковач не перапыняў узніклую паўзу, абдумваючы не пачутае (нічога новага — таго, чаго ён не знаў, — не прагучала), а магчымасць павароту гаворкі бліжэй да ўласных спраў і планаў. Хто ўспомніць пра іх, рэспубліканскіх лідэраў, у выпадку чаго? Хто да іх прыслухоўваецца сёння?

— Самастойнасці нам не стае! — нечакана вырвалася ў яго даўняе, не аднойчы абсмактанае ў думках.

— Правільна. Правільна мысліш, Віктар Віктаравіч, — запыніўся той, паварочваючыся да Ковача. — Нават тэатр марыянетак развальваецца, калі няма таго, хто ведае, калі і за якую вяровачку тузануць, каб дзеянне працягвалася. Што ўжо казаць пра краіну? Пра вялікую краіну! То змаразмелым старым дазвалялі тузаць сябе туды-сюды без толку і карысці, то мечанаму нячыстай сілай падкаблучніку аддалі ўладу, а цяпер дзівімся, што ўсё рассыпаецца.

— «Смела! — мільганула ў Ковача. — Відаць, і сапраўды справы дрэнь...»

— Вось і кажу, — рушыў той далей, атросшы парасон. — Галоўнаму перабудоўшчыку архітэктары гэтай перабудовы з Захаду шчодра заплацяць — Нобелеўскай прэміяй не абыдзецца! Тым, хто акружае яго сёння, мала што перападзе — і яны, разумеючы гэта, выходзяць, прадзіраюцца на авансцэну падзей самастойна і думаць не думаюць, чым усё абернецца. Чым можа абярнуцца... Рэспубліканскія ж партыйныя эліты — і наша ў тым ліку! — пакуль што толькі прыглядваюцца да сітуацыі. Чакаюць. А чаго чакаць? Таго, што ў выпадку змовы калякрэмлёўскіх арлоў застанёмся незапатрабаванымі ні ў Маскве, ні дома? Што апынёмся пад нагамі ў больш нахабных пераемнікаў, якіх самі гадавалі ў камсамольскіх школах? Што будзем пахаваны пад шалёнай плынню зняславы і нянавісці? Усё да таго ідзе.

— І выкліча хаос, калі выявіцца, — падумаў уголас Ковач і тут жа папікнуў сябе ў душы за нястрыманасць.

— Хаос... Хаос... — у галовах. І даўно ўжо, — зноў задумаўся Першы на хвіліну, перад тым чым прадоўжыў. — Давераных асоб, з кім можна гаварыць больш-менш адкрыта, няшмат. Мажліва, кола іх трэба яшчэ звузіць, пакідаючы толькі самых-самых. Верных — пры любых абставінах. Пры любым павароце падзей. З табой першым гавару, Віктар.

— Дзякуй. Я апраўдаю...

— Не спяшайся дзякаваць, бо на цябе ўскладваю немалыя спадзяванні: спатрэбіцца ж не толькі сіла душы, але і сіла волі, і вопыт работы ў органах, і ўменне маніпуліраваць патрэбнымі людзьмі на карысць спра-

вы, і актыўна задзейнічаная памяць. З гэтага дня — ні слова нідзе не занатоўваць! Увесь распрацаваны план дзеянняў, усе прозвішчы — у схронах памяці. Да таго моманту, калі што якое спатрэбіцца падняць і скарыстаць. Інакш — не тое што кагосьці са сваіх не далічымся, а і ворагаў новых нажывём раней часу. Задача на сёння: калі ўжо і не застацца на кані, то і пад канём, пад капытамі яго не апынуцца.

Не перапыняючы яго, Ковач слухаў уважліва і, як ні дзіўна, усё больш супакойваўся: тое, пра што не мог не думаць усе апошнія гады, набывала выразнасць, думкам адкрывалася новае рэчышча і, як аказалася, не з размытымі брудам і раскаю берагамі, а ўжо ўмацаванымі наколькі магчыма, і цяпер штосьці пачынала залежаць і ад яго, ад яго руплівасці і кемлівасці. Было ж — было, было! — рыхтаваўся шукаць нейкае выйсце самастойна, не давяраючы нікому. Не прызнаўся б, напэўна, у тым самому сабе (з кім жа тады ён працаваў?), а не давяраў, не верыў...

Што ўжо што, а кадэбісцкі нюх яму ніколі не здраджваў: не раз даводзілася пераконвацца, што самыя заўзятыя абаронцы ленінізму і чысціні партыйных шэрагаў без ценю сумнення пакідалі гэтыя шэрагі, здраджваючы і ідэі, і сваім паплечнікам за панюх тытуню... Ну, няхай не за яго, але цана заўсёды аказвалася мізэрнай: ніхто са здрадцаў каму б там ні было ці чаму б там ні было, па вялікім рахунку, ніколі і нідзе ў свеце не разжыўся на шчасце. Пакуль служылі — служылі. Пайшоўшы на здраду, і ў старых і ў новых гаспадароў выклікалі адно пагарду. З тым і жылі. Паблізу ад Крамля ці ў адной з рэзервацый заходняга раю, значэння не мела: на душу — на тое, што ўжо пушчана на распрадажу, — ніхто больш не квапіўся...

Думкі не перашкаджалі Ковачу ўважліва слухаць і запамінаць пачутае. Першачарговыя дзеянні, праверкі, сустрэчы, прозвішчы, банкаўскія рэквізіты... Усё вымагала канспірацыі, усё запатрабуе дадатковых высілкаў: спатрэбяцца не толькі рашучасць, адкрытая і непахісная, але і хітрасць. Абыгрываць жа збіраліся вядомых ігракоў і на іх полі, што заўсёды таіла небяспеку: любая ўцечка інфармацыі магла прывесці да краху. Не да пройгрышу, а менавіта да краху, і таму вывяраць і ўзважваць кожны рух, кожнае слова давядзецца пастаянна: чым менш пасвечаных, тым лепш.

— Чым менш пасвечаных, тым лепш, — пацвердзіў, замацаваў гэту думку Першы, завяршаючы гаворку.

— Ёсць.

— Застацца на абед не запрашаю: яшчэ адна сустрэча наперадзе. На развітанне скажу: думай. І дзейнічай. Так, як вызначана, — з асцярожнасцю, але няўхільна. Спатрэбіцца — знойдзецца магчымасць сустрэцца і пагаварыць.

— Ёсць, — зноў адгукнуўся Ковач.

— Не мы распачалі новарэвалюцыйную гульню, мы павінны ў той ці іншай ступені яе выйграць. Бо калі прайграем — і падчыстую! — адыграцца не дадуць.

«Не дадуць...» — пагадзіўся ў думках Ковач і потым, не адразу заўважыўшы, што думка не адпусціла, што два гэтыя словы перакочваліся ў мазгах і хвіліну, і другую, і трэцюю: не дадуць!

Машына з дазволенай хуткасцю рухалася ў накірунку горада, пакінуўшы ззаду асенні дождж, залітыя дажджом алеі загараднай сядзібы, доўгую гаворку з кіраўніком рэспублікі ўбаку ад чужых вушэй, а ён ніяк не мог пераключыцца на новую хвалю часу, на запозненую нядзельную раніцу, якая быццам не хацела аддаваць свае правы новаму дню.

* * *

— Што да сумленнасці — яна ў цане, тым большае, калі манарх здурнеў... — другі раз, быццам смакуючы, паўтарыў шэкспіраўскую фразу Гукаў, кіруючыся да выхада. Потым, перш чым выйшаў, азірнуўся на Любу, якая ўсё яшчэ корпалася ў сваім кутку. — Штосьці згубіла, Любаша?

— Ды завушніца недзе падзелася... Шкада будзе, калі не знайду.

— З маім зрокам дапамагчы не здолею.

— Не, не! Я зараз... Дзякуй! — Люба стомлена прысела на крэсла, на хвіліну прыкрыўшы вочы. Калі ж паднялася, вырашыўшы спыніць пошук, па ледзь заўважным бліску на падлозе адразу ўбачыла непадалёку тое, што шукала. Уздыхнула і, забыўшыся на завушніцы тут, на сцэне, скіравалася ў грымёрку: усе, відаць, разышліся, і яна спакойна, не спяшаючыся, прывядзе сябе ў божы выгляд.

Чамусьці ўзрадавалася, з калідора ўчуўшы Санін голас з грымёркі: з кімсьці яна размаўляла на павышаных танах... Яшчэ праз колькі крокаў стала выразна чуваць, з кім. З Ганнай. І тая ўзгадвала яе, Любіна, імя, што змусіла насцярожыцца, прыцішыць крокі і ўслухацца ў галасы: чым яна зноў некаму не дагадзіла?

— Ды адна ты і не ведаеш — ці прыкідваешся, што не ведаеш, — прычыны гэтае ўвагі, — пагардліва прамаўляла Ганна, раз-пораз хмыкаючы.

— Прычына адна: талент. Большы, чым у каго б там ні было, — у мяне, у цябе... Вось і душыць жаба зайздрасці, вось і плятуць абы-што!

— Як жа! Плятуць... Ды са шлюхамі лепш абыходзяцца, чым з нашай Любашаю!

— Ну і гнусь жа ты, Ганна! Баішся, што яна, маладзейшая і больш таленавітая, цябе з авансцэны ў цень адсуне? Што не цябе, а яе хутка прымаю будуць называць, узнагародзіўшы званнем народнай артысткі?

— А што? Ужо пра званне гаворка ідзе? — хіхікнула тая. — Неда-а-ца-ніла яе, аказваецца? Думала: за так, за пустыя абяцанкі кватэру сваю ператварыла ў таемны бардзель для чыноўных кабялёў, а ёй усё-ткі вырашылі заплаціць...

— Ды ты... Ты! — захлынулася гневам Саня. — На сябе азірніся! Выеш, як сука старая, не здольная ўкусіць ці хоць бы прылюдна абгаўкаць, а сваіх кабялёў ці палічыла? Ці падлічвала калі?

— Хто з нас не грашыў! І не ў падліках справа, — падкрэслена спакойна зрэагавала на яе выпад Ганна. — Вось сяброўку кінулася абараняць, а хіба ты — ці я! — не выбіралі, з кім спаць, з кім гуляць. А ў яе, дурніцы, нават не спыталі. Не пытаюцца...

Люба, якая стаяла, прыпаўшы да сцяны, перад самымі дзвярыма, не зачыненымі, а толькі прычыненымі (таму і чула ўсё выразна), адчувала, што вось-вось страціць прытомнасць: у чым, у чым, а ў тым, што тычылася таямніцы яе паводзінаў з высокапастаўленымі асобамі, яна і думкі не дапускала пра іх няпэўнасць ці, тым больш, адкрытасць для ўсіх і кожнага. Канфідыцыяльнасць ёй была абяцана... канфідыцыяльнасць і падтрымка ва ўсім...

«За што? За што?!» — білася ў ёй, разбіваючыся ў кроў, душа, даўно ўжо і так у шышках і драпінах ад сумненняў і няпэўных апраўданняў, і Люба прыцiскала абедзве рукі да грудзей з усёй сілаю, на якую цяпер была здатная, каб утрымаць сэрца, каб утрымацца на нагах і змусіць сябе зрабіць колькі крокаў — у пакой ці прэч ад яго.

— Ды калі хочаш ведаць, — спрабавала прыцішыць голас Ганна, бо ноты былі такімі высокімі, што ўжо нагадвалі віск, — любы з чыноўных кабялёў адмовіцца ад яе і ўсяго, што ёй наабяцаў, калі ўзнікне хоць самая малая пагроза спакою, упэўненасці ў яе маўчанні. Калі раптам хто-небудзь...

— І гэты «хто-небудзь» — ты?! — ускочыла Саня так рэзка, што перакінулася крэсла. — Пайшла прэч!

«Пайшла прэч... прэч... прэч...» — перакочвала гэты крык па калідоры рэха. Усё цяжэй і цяжэй. Прыгінаючы, прыціскаючы Любу да сцяны. Перш — да сцяны, потым — да падлогі, на якую апаўзала, асоўвалася яна, чапляючыся за свядомасць, як чаплялася б за апошнюю саломінку, і адштурхоўваючы чарнату. Чорную даўкую цішыню...

Дзіўная гэта была цішыня: ніводнага згуку не чула болей Люба ні з-за прычыненых дзвярэй грымёркі, ні з калідора ў абодва бакі ад яе, але, узнікшы немаведама адкуль, набліжалася, нарастала музыка, якую ўсё больш заглушаў барабанны перастук. Бам-бам, бум-бум! Бам... бам... прэч... прэч... Хто і куды яе праганяў? Што ад яе патрабавалі? Падняцца? Ісці? Бегчы... уцякаць...

Апошняе слова, апошні сколак думкі ярка ўспыхнуў, высвеціўшы недзе па-за свядомасцю карціну сонечнага зімовага ранку, праз які, выдзіраючыся з рук ганіцеляў, бегла яна, Люба. Захлыналася марозным паветрам, але бегла, уцякала, пакідаючы ззаду, на белым снезе, перш шматкі садранага, разадранага адзення, потым — ярка-чырвоныя і ўсё больш буйныя кроплі крыві. Яна крычала (ці гэта толькі здавалася ёй?), плакала — а снежны цалік перад ёю шырэў і шырэў, зліваючыся з краямі далягляду, з небам...

* * *

Прэм'ера «Караля Ліра» фурору не выклікала. Ці то таму, што чуткі самага рознага шкталту распаўзліся па Мінску задоўга да яе і сёй-той з начальства, перастрахаваўшыся, не прыйшоў. Ці то таму, што тэатральныя крытыкі як змовіліся не выказваць ацэнак, пакуль публіка не разбярэцца, што да чаго, і ў прэсе з'явіліся толькі кароткія паведамленні: спектакль адбыўся... заняты ў галоўных ролях... цікавая рэжысура... І ўсё на тым. Нават Эвеліна, якую Глінскі столькі абходжваў і агладжваў у свой час, не азвалася. Хоць на яе выходзілі... прапаноўвалі... Ён сам званіў! Няўжо ўзапраўду ў нечым памыліўся?

— Эд Саныч, да вас...

— Можна без прадстаўлення, — адным рухам галавы, здалося, адцясніла, выцесніла з дзвярэй сакратарку Эвеліна, высокая, мажная і, як заўсёды, грацыёзная ў сваім наймодным футры і футравым шыракаполым капелюшы. — Упэўнена, што мяне чакаюць.

Глінскі падхапіўся раней, чым усвядоміў сказанае, рушыўшы насустрач знакамітай крытыкесе з усёй магчымай да сябе галантнасцю: з Эвелінай трэба было іграць па яе правілах, не інакш, калі не хацеў прайграць загадзя.

— Якая радасць! Які сюрпрыз! — прыклаўся да абедзвюх яе рук Глінскі. — Не паверыш, але толькі што думаў пра цябе.

— Чаму ж не паверу? — скінула яна футра, якое, калі б гаспадар не падхапіў на ляту, упала б на падлогу. — Я нават ведаю, my dear, як я выглядала ў тваіх думках.

— Зусім так, як цяпер, — падсоўваў ён крэсла. — Варта ўзгадаць толькі імя — Эвеліна! — і ніводзін эпітэт нічога не дадасць і не зменіць. Кава?

— Каньяк! Памятаю, у цябе вадзіўся...

— Для самых дарагіх гасцей!

— Нязвыкла бачыць цябе няўпэўненым ў чымсьці, — так нечакана, што Глінскі ледзь чаркі не ўпусціў, падсумавала яна першыя хвіліны сустрэчы. — Што — не так? Ці ўсё — не так?

— Госпадзе, Эвеліна! — узмаліўся той. — Ну прыкрый трапяткімі вейкамі свой няўмольна востры позірк хоць да таго моманту, калі ў чарках каньяк забулькае. Потым — усё, што заўгодна. Бі! тапчыся! здзекуйся! — я ўвесь твой...

— А то мне табе расказваць, што найбольшае пакаранне для мастака — маўчанне. Сцяна маўчання вакол зробленага, — няспешна прамаўляла Эвеліна, назіраючы за рэжысёрам, за тым, як ён рыхтаваў няхітры пачастунак. — Сцяна, нават штучна, з загадзя спланаванае нагоды, узведзеная, — усё-ткі сцяна: ілбом упёршыся, яе не паваліць. І гэткаму ўпёртаму казлу, як ты, Эдуард, не паваліць...

— Мо па старой дружбе, — усаджваўся той паблізу, — скажаш, к і м спланаванае? Хоць... — прыўзняў сваю чарку, схіляючы голаў у яе бок, — хоць і так ясна.

— А калі ясна, то чаму ніякіх захадаў не робіш? Чаго чакаеш? — павольна, па глыточку, яўна смакуючы, адпівала яна прапанаваны каньяк.

— Што я, па-твойму, павінен рабіць?

— Ну-у, my dear! Не мне цябе вучыць.

— Зняць спектакль?! — прыўстаў Глінскі.

— Зняць.

— Пасля столькіх месяцаў працы над ім... — зжыраў ён Эвеліну паглядам.

— Ты забыў адзін з неабвержных законаў: варта прызнаць пройгрыш раней, чым пра яго загавораць усе навокал, — і ты ў выйгрышы. Паўза зацягваецца, Эдуард.

— Эвеліначка, я веру табе, як Богу, але ж... — не закончыў ён фразы, быццам наткнуўшыся на яе цяжкі позірк. — Няўжо ўсё так кепска?

— Не сёння-заўтра рассыплецца савецкая імперыя. Доўгі шлях барацьбы за гэта завяршаецца. Вось-вось завершыцца! — дзе фарсам, дзе трагедыяй, а дзе і крывёю... На казку попыту не будзе. А і будзе — не на старую, размытую слязьмі скамароха, а на новую, поўную жахаў і вольніцы. І дзівіць не тое, што ты звярнуўся да старога як свет, сюжэта, а тое, што не змог павярнуць яго ў наш час, у сённяшнюю рэальнасць. І гэта ты, Эдуард! — які можа практычна ўсё. Штосьці здарылася? Стаміўся? Страціў арыентацыю?

— Спачуваеш ці абвінавачваеш? — напоўніў ён сваю чарку, не прапаноўваючы (ведаў, што п'е толькі адну) Эвеліне.

— А ты чаго чакаеш? Спачування?

— Падтрымкі. Як раней. Як заўсёды.

— Хочаш ведаць, што я думаю? — гарэзліва абапёршыся локцем на стол, нахілілася яна ў яго бок. — Дык вось, думаю я, my dear, пра тое, што сёння выносіцца на авансцэну, на святло пражэктараў усё тое, што ўтойвалася, заганялася ў падтэкст, — і выносіцца смела, без аглядак на ідэалагічныя нормы і наштампаваныя традыцыі. Вычышчаць! разбураць! вынішчаць! — вось выклік для наступных дзесяцігоддзяў, і панясе штандар — ужо нясе! — мастацтва.

— Нават з тваіх прыгожых вуснаў, Эвеліна, гучыць пагрозліва, — прайшоўся па пакоі, потым зноў апусціўся на крэсла Глінскі. — Вось толькі ш т о вынішчаць, як усё, дагэтуль не вынішчанае, прагніло да кораня?

— Корань!

Глінскі і брывом не павёў на яе рашучае сцвярджэнне, але ўнутрана насцярожыўся і стаў узірацца ў даму ўважлівей: Эвеліна іграла, як здалося ў той момант, не сваю ролю. Але калі не сваю, то чыю? І чаго чакала ад яго? Якой рэплікі? Якой рэакцыі?

— Ты ж разумееш, my dear, не н а ш корань, а іхні, — спакойна пацвердзіла Эвеліна сказанае толькі што залішне эмацыянальна, з лёгкай усмешкаю назіраючы за рэжысёрам, які яўна не чакаў ні такога павароту гаворкі, ні таго, што загаворыць з ім пра гэта яна, жанчына. — І тут шэкспіраўскай метафорыкі мала. Метафарай нашага часу павінна стаць штосьці, накшталт: Богам абранаму народу — Богам створаны свет!

— Э-ве-ліна! — развёў рукамі Глінскі, жэстамі паказваючы, што кабінет маглі праслухоўваць, а тая зусім па-тэатральнаму рассмяялася.

— Я заслужыла другую чарку каньяку?

— Э-ве-ліна! — толькі развёў ён рукамі.

— Сказана: жанчынаю праз жанчыну... — задумліва разглядвала яна каньяк, злёгку пакручваючы чарку пальцамі. — Тэатральнай пляцоўкаю сёння ўвесь свет успрымаецца, і не грэх задумацца, што, якога спектаклю ў мініяцюры — у тэатры! — такая сцэна вымагае. Ды так, каб не мініяцюрным, не карлікавым ён выглядаў... Вось задача для такога рэжысёра, як ты, my dear.

— Таму і ўзяўся за «Караля Ліра», — падтрымаў гаворку Глінскі, хоць думаў пра сваё — дакладней, пра нечаканасць візіту Эвеліны і загадкавую няўцямнасць мэты яго: ні слова пра сам спектакль...

— Чаму ж не заўважыў супрацiўленне матэрыялу?

— Су-праціўленне? — перапытаў, выцярэбліваючыся з думак, — што ты маеш на ўвазе?

— Усё ў спектаклі працівіцца слову.

— ?!

— Дзеянне і гучанне тэксту не супадаюць. Часта не супадаюць, — крыху змякчыла яна ацэнку. — Няўжо сам, Эдуард, не заўважаеш? Усе — падкрэсліваю: усе акцёры! — іграюць адно, прамаўляюць другое, а думаюць... увогуле, здаецца, не думаюць.

— Думае рэжысёр!

— Рэжысёр, my dear, ажыццяўляе рэжысуру — тузае за вяровачкі, — адпіла яна невялікі глыточак з чаркі. — Тваё словы, дарэчы! Ты неаднойчы даводзіў мне, што любая ўлада — і ўлада над сцэнаю і публікай перад сцэнаю таксама! — гэта ўменне маніпуліраваць словамі, ідэямі, людзьмі. Калі ламаецца любое праціўленне, знешняе і ўнутранае. І ламаецца лёгка, без непамерных высілкаў, амаль незаўважна, у стылі загадзя пралічанай, разлічанай на выйгрыш гульні.

— Маналог класнай дамы...

— Што?

— Гэта маналог знакамітага крытыка, і ён, як я здагадваюся, не вымагае маёй рэплікі.

— Я чакала: ты нейк патлумачыш чаму, у нейкі момант упусціўшы рычагі ўплыву на трупу, развязаў з ёй вайну.

— Я? Вай-ну?! Госпадзе, Эвеліна! Чые байкі ты слухаеш? — амаль непадробна абурыўся ён. — Акцёрскі імпэт, піетэт перад Шэкспірам, перад тэатральнай «класікай», мажліва, перашкаджае — шкодзіць інтэрпрэтацыі спектакля, таму што я — рэжысёр! — не змог давесці кожнаму свой погляд, свае патрабаванні, але — вайна?! Да гэтага, мяркую, не дойдзе.

— Пры адной умове, — смакавала каньяк Эвеліна.

— І якой, калі не сакрэт?

— Ты адменіш спектакль. Да лепшых часоў, — зноў паспрабавала яна змякчыць вынесены вердыкт, усміхаючыся.

— І ты, канешне, ведаеш усё пра тыя часы, — буркнуў Глінскі, падліўшы колькі важкіх кропель у сваю чарку.

— Я — не ведаю. А ты, my dear, п а в і н е н ведаць! — і брывом не павяла Эвеліна на яго буркатню і незадаволенасць. — Калі возьмеш на дні тры адпачынак і наведаеш Вільнюс, усё ў святле гэтай паездкі ўявіцца іншым.

— Парада ці закамуфліраванае парадаю патрабаванне? — церабіў бародку Глінскі, стараючыся зразумець больш таго, што пачуў.

— Табе вырашаць, Эдуард, — паднялася тая. — Вырашыш ехаць, добрая кампанія знойдзецца.

— Я до-о-обра падумаю! — засмяяўся Глінскі. — Пасля такое сустрэчы, пасля такой гаворкі...

Ён немітусліва таптаўся вакол Эвеліны: прыклаўся да абедзвюх пульхных ручак, падаў футра, дапамагаючы апрануцца, цікаваў за кожным яе рухам, за кожным жэстам. Зрэдку адпіхваў недарэчнае ў гэту хвіліну пытанне: недаацэньваў ці пераацэньваў ён уплыў Эвеліны на падзеі апошняга часу? Зрэдку лавіў усмешлівы бліск яе позірку, міжволі схіляючы перад ім галаў, і пачынаў злаваць: паводзіць сябе, як хлопчык... а разабрацца: без дай прычыны...

— Мы недагаварылі, Эдуард, — абаперлася яна на яго локаць, лёгенька разварочваючы на сябе. — Наступны ход — твой, і час, як кажуць шахматысты, пайшоў.

— Што, калі прыеду да цябе вечарком? — паспрабаваў ён абняць Эвеліну.

— Прапанова не прымаецца, — рухам пляча атрэсла яна яго руку.

— Што, калі запрашу лэдзі ў рэстаран? — прадоўжыў ён гульню, праводзячы Эвеліну да дзвярэй.

— Надумаеш — запрасі, — чмокнула яна паветра каля шчакі Глінскага і выслізнула за дзверы, на міг апярэдзіўшы яго наступны крок.

Калі дзверы зачыніліся літаральна перад носам, нейкі час ён стаяў нерухома: думкі рушылі ўслед за Эвелінаю, а ён не мог ні вярнуць іх, ні ступіць да дзвярэй — з тым ці іншым намерам... Штосьці Эвеліна недагаворвала... Што?

* * *

Калі і выпадала Ковачу вольная хвіліна, то адно між двума тэлефоннымі званкамі або дзвюма прызначанымі загадзя стрэчамі: людзі! людзі! людзі! Кожнага трэба яшчэ раз праверыць, кранаючыся самых патаемных вузельчыкаў памяці, і ў выпадку чаго — адсеяць. Адхіліць. Цяпер ужо незваротна. Выпадковага ў іх рабоце і раней было няшмат, у сувязі ж з маскоўскімі палітычнымі бойкамі, пасля якіх разломы і шчыліны пайшлі па

ўсёй краіне, руйнуючы партыю, пільнасць патрабавалася ва ўсім. Ва ўсім і пастаянна. Памылкі, і самыя што ні на ёсць нязначныя, надалей проста недапушчальныя: на карту пастаўлена многае... Калі не ўсё. І нават здагадкі не павінна ні ў каго ўзнікнуць, што ў калідорах ЦК...

Дадумваць не стаў, хоць думкі не першы дзень мулялі, змушаючы сяды-тады і волю, валявы націск скарыстаць, каб даць ім адпачыць. Адпачыць... Выпрастацца ў крэсле ва ўвесь рост, закінуць рукі за галаву, прымружыць вочы і расслабіцца. Так, каб на хвіліну-другую адключыцца ад рэальнасці, убачыць лагчыну, зараснікі лотаці над ціхай рачулкаю, човен, сябе ў чоўне з самаробнай вудаю ў руцэ... Калі тое было, не мела значэння, колькі гадоў з таго дня мінула, лічыць не злічыць, а спакой вяртаўся, паглынаў яго, закалыхваў — хвіліну, другую... Больш — рэдка выпадала, але калі б не гэта здольнасць душы, уяўлення вяртацца ў адно з імгненняў пражытага, у памяць, ён не вытрываў бы шалёнага рытму працы — з дня ў дзень, з году ў год.

Вось і цяпер, пасля тэлефоннай размовы з маскоўскім стратэгам, калі ўсё гаварылася толькі для таго, каб нічога не сказаць («Вы ж глядзіце там!» — усё, што запомнілася), Ковач не стаў піць астылы чай, а крыху адсунуў крэсла ад стала і выпрастаўся ў ім ва ўвесь свой рост. Хрыбетнік — як мага прамейшы, галава — злёгку адкінутая на спінку крэсла... Прымружыў вочы, пачаў пагладжваць лоб над пераноссем, сціраючы з памяці ўсё, не вартае ўвагі сёння, цяпер — чакаючы ціхага ўсплёску святла, з якога выплыве спомін. Той ці іншы спомін... З мінулага ці з яшчэ непражытага…

Думка, крыху каструбаватая («Спомін… з непражытага…»), слізганула па краі свядомасці, не зачапіўшы, не парушыўшы засяроджанасці, і, здавалася, яшчэ міг-другі — і нішто не скране запоны цішыні. Але імгненне доўжылася, не пераходзячы ў наступнае, а ў цьмяным святле ніяк не магла акрэсліцца знаёмая далеч. Павольныя, ледзь заўважныя ў сваёй запаволенасці хвалі цяжкой непразрыстай сінечы падступалі, накочваліся бясконца — канца ім не было! — а час застыў, прыстыў да спыненага імгнення.

— Я палюбіла цябе… Люблю цябе ўсім сэрцам! А ты кінуў маё сэрца пад ногі натоўпу…

Голас прагучаў так выразна, што Ковач уздрыгнуў: там, у шэра-сініх хвалях цішыні нікога — нічога! — не было. Ды і адкуль чаму было ўзяцца, як яго самога ў гэты момант не ўгледзеў бы ніхто ні там, ні дзесьці ў іншым кутку часу?

— Ты прыйшоў… ты ўвайшоў у маё жыццё, перавярнуўшы, павярнуўшы наўстырч. Усё, чым жыла мая душа, аказалася зруйнаваным, раструшчаным, а я як аслепла: рвалася туды, куды мне ўваходу не было, куды мяне не пускалі. Ты — не пускаў! Любіў мяне — казаў, што любіў! — і не ўпускаў у сваё жыццё. Мажліва, не мог… Мажліва, не хацеў…

Ковач пазнаваў і не пазнаваў голас, узіраючыся ў цьмянае святло. Хто да яго звяртаўся? Адкуль?

— Адтуль, адкуль я ўжо не вярнуся. Не вярнуся… Хоць я так доўга чакала твайго прыходу, каб прыпасці да цябе, зліцца з табой — і стаць шчаслівай, самай шчаслівай жанчынаю ў свеце! Ты забыў, што прыходзіў… што абяцаў зноў прыйсці… Абяцаў — і больш не прыходзіў… пасылаў іншых…

Словы часам абрываліся, не дагучаўшы, і ён быў упэўнены, што расчуць усё да канца перашкаджала раздражненне, невядома чым выкліканае.

Чым? Нежаданнем успамінаць? Раптоўна збуджаным пачуццём незразумелай віны? Ці мала каму ён штосьці некалі абяцаў!

— Ты забыў… А я рабіла ўсё так, як ты хацеў, як перадаваў праз тых, каго пасылаў у мой дом…

«Ды нікога нікуды я не пасылаў! — абурыўся ў душы Ковач. — Толькі звар'яцелай ад адзіноцтва бабы мне не ставала!»

Абурэнне было непадробным: ён не мог уцяміць, у чым яго абвінавачвалі. І хто? Жанчына? Ён — жанаты. У яго сям'я. Двое дзяцей.

— Я палюбіла цябе… Люблю! І штодня, штоміг паміраю ад любві, растаптанай тымі, каму ты мяне аддаваў… аддаў… І нават калі б сказаў, што аддаваў на пагібель, я не запярэчыла б ! Любоў не можа абараняцца… абараняцца ад людзей… ад жорсткага свету… І гіне. Чуеш? Яна гіне — і губіць мяне. Пагубіць! Чуеш?

«Чуеш? чуеш?.. чуеш?..» — перакочвалася дзесьці глыбока ў ім рэха ледзь чутнага клічу, і Ковач адчуваў, як болем адгукаецца на яго сэрца.

— Што здарылася? Што павінна здарыцца?

Падумаў ён ці прамовіў, пэўна б не вызначыў. З-за разарванай пытаннямі запоны цьмянага святла выплывала карціна сквера, звычайна бачнага з акна яго кабінета, фантан, будыніна тэатра… Яшчэ да таго, як перш на каменнай сцяне будыніны, а потым на вышчарбленым асфальце з'явілася выява жаночага твару, Ковач зразумеў, каму належаў голас, хто звяртаўся да яго з памяці. Хоць хіба толькі з памяці?

— Лю-ба?! — ці то здзівіўся, ці то перапытаў здагадку Ковач, і цішыня выбухнула, на вачах развальваючыся на кавалкі, рассыпаючыся на друзкі. Лыпнуў вачамі, тузануўся ў крэсле, вяртаючы больш зручную позу: задрамаў ён, ці што?

Падаўся да кубка, але піць не стаў, а ўключыў сувязь з прыёмнай і папрасіў прынесці наноў завараны чай. Потым падняўся і, перасмыкнуўшы плячамі, пайшоў да акна. Нейкі час бяздумна, бяспамятна дзівіўся на заснежаны сквер, у цэнтры якога стаяў выключаны, укрыты ад халадоў фантан, на амаль бязлюдныя цяпер алеі, ачышчаныя ад снегу, на гмах нацыянальнага тэатра, які нечым няўлоўна нагадваў агромністую, завешаную ад адсутных гледачоў і акамянелую ў сваёй нерухомасці сцэну. Якога спектакля чакала яна? Чым — пражэктарамі ці вогнішчамі? — асвятліцца?

* * *

Здавалася, ночы не будзе канца: яна то правальвалася ў цішыню — і тады ўсё вакол мярцвела, пачынала раствараца ў дрогкай цемры, то з нейкай сляпой безвыходнасцю білася ў сцены, у вокны — і тады гучнеў, нарастаў халодны, нейкі металічны звон, ад якога было не ўкрыцца, не схавацца ні пад коўдраю, ні пад падушкамі. Любу як ліхаманка трэсла: перш яна не магла сагрэцца, потым аблівалася потам, скідвала з сябе ўсе коўдры — і ўсё на працягу некалькіх хвілін, а то і адной хвіліны. Незразумела, адкуль кожны раз бралася сіла на новы рух, але зноў і зноў яна саскоквала з ложка, каб, зрабіўшы круг па кватэры, знайсці ручнік ці любую сухую анучыну і ўцерціся, зноў і зноў пасля таго, як вярталіся дрыжыкі і пачынала ляскаць зубамі ад холаду, кідалася да ложка, накідвала, нацягвала на сябе ўсё, што трапляла пад руку.

Тэмпературу Люба не мерала, нейкім дзесятым пачуццём адчуваючы, што прастуда тут ні пры чым, — атрутнай стрэмкаю перасела ў душы

крыўда, і атрута болем расцякалася па раптам аслаблым целе, знясільваючы, нявечачы яго. Вось-вось, здавалася, абваліцца яно хоць на ложак, хоць на падлогу і пачне нерухомець, мярцвець — і нарэшце адпусціць душу, адпусціць жыццё на ўсе чатыры бакі, ажно не. Вярталася думка пра загнаны ў душу боль — вяртаўся боль — і стогнам адгукалася на яго жанчына.

А ноч доўжылася і доўжылася, стрэлкі гадзінніка быццам бы ўвогуле спыніліся... І — каб які нечаканы тэлефонны званок! Каб якая ратавальная думка! Не... Чым далей, тым горш. Калі стома або чарговы наступ ліхаманкі перапынялі яе кіданні па пакоях — з пакоя ў пакой, Любе пачыналі мроіцца нечыя постаці паблізу, нечыя твары. Мноства самых розных твараў! І ўсе схіляліся над ёю, па чарзе, а то і ўсе разам корчылі грымасы, крыва пасміхаліся, запаўняючы пакой спярша гэтымі абразлівымі ўсмешкамі, потым не менш абразлівымі словамі.

— Вы толькі зірніце на яе! Вяхотка, а туды ж! — пра любоў, пра слёзы па страчаным каханым...

— Званне выслужвала, перад кожным чыноўным кабялём спадніцу задзірала, перад кім іншым недатыкальную з сябе корчачы.

— Маладая, ды ранняя!

— Усім вочы не завяжаш: ба-а-ачылі — і... неаднойчы бачылі, як перш скача, а потым плача!

— Даскакалася...

— А гонару колькі! І той ёй не пара, і той не партнёр... Не тым заваблівалі, відаць. Не ўхваляць, а добра пужануць трэба было, каб у абдымкі трапіць.

— Ды не абдымаў шукалі...

Галасы таўклі цішыню, якая калючымі іголкамі асыпалася на Любу, і хутка яна перастала ўспрымаць сэнс слоў, сэнс таго, што адбывалася.

— Мама! ма-ма! — гукала тую, чыйго твару не памятала, а над ёю схіляўся перакошаны злосцю твар незнаёмай жанчыны.

— Любоў... Бач чаго захацела!

— Саня! Я збіралася ўсё табе расказаць... Абавязкова расказала б! — адпіхвала яна незнаёмы твар, звяртаючыся да сяброўкі, а ў адказ гучаў смех, чыйсьці істэрычны смех.

— Другая ганарылася б сонмам грашавітых палюбоўнікаў, а гэта апраўдваецца.. І перад кім!

— Я палюбіла цябе... Люблю цябе! Няўжо ты не адчуваеш, як я паміраю? — узгадвала Люба каханага, а сэрца спынялася, дыхаць не было чым.

Неймаверным намаганнем волі змусіла сябе ўстаць, уключыла святло, каб яшчэ раз пераканацца, што ў пакоі нікога не было, і зірнула на гадзіннік. Пяць гадзін раніцы... Улетку дзень бы ўжо займаўся, а цяпер... І цяпер яна магла апрануцца і пайсці на вуліцу. Прайсціся па ўсё яшчэ сонным горадзе, падыхаць чыстым марозным паветрам.

Думка падбадзёрыла. І яшчэ да таго, як прыйшло рашэнне, Люба пачала нацягваць боты, шукаць паглядам футра і шапку: на вуліцы, на марозе ўсё прыйдзе ў норму, усё нейкім чынам вытлумачыцца — і боль аціхне. Паціху, памалу адпусціць, вярнуўшы спакой. Хоць некалькі гадзін спакою, у якія льга будзе адпачыць, адаспацца. І тады... Тады яна здолее ўгаварыць душу змірыцца — прыняць адзіноту як належнае і змусіць яе дараваць адступніцтва сяброў, адступніцтва каханага. Каб жыць. Каб неяк жыць далей...

Спускаючыся па лесвіцы, Люба лічыла прыступкі. Чаплялася за парэнчы, змушала сябе ісці далей, рабіць крок за крокам і лічыць. Сто дзевяноста шэсць... сто дзевяноста сем... Лічбы свядомасцю не фіксаваліся, але думкі адганялі — і адно гэтым дапамагалі, падтрымлівалі, адлічваючы і прыступкі, і крокі, і імгненні, уціснутыя ў паўцёмны лесвічны прагал з усё яшчэ адключаным ліфтам.

Марознае паветра, ледзь толькі ўправілася Люба з цяжкімі ўваходнымі дзвярамі, апякло дыханне, змусіла страпянуцца, апрытомнець, узгадаць пра мэту сваіх дзеянняў. Прайсціся... аддыхацца... забыць пра начныя прывіды... суцішыць боль у грудзях... Словы, як толькі што лічбы, надавалі пэўны рытм руху, павольным, калі не запаволеным, крокам. Прайсціся... аддыхацца... забыць... Неглыбокі снежны покрыў, у які ўдрукоўваліся і словы, і крокі, ледзь прыкметна адбліскваў час ад часу сваімі сінімі крышталікамі, хоць Люба наўрад ці заўважала гэта. Ішла, куды ішла, — уздоўж доўгай сцяны. Калі сцяна заканчвалася, паварочвала, рухаючыся ўздоўж другой сцяны. Што гэта за сцены, чаму яна як навязана да іх увесь час, куды б ні паварочвала, не ведала. Ды і не хацела ведаць. Важнейшым здаваўся сам рух, павольны, але няспынны, — пакуль не пакінула сіла, пакуль не скавала стома, трэба было ісці. І ні аб чым не ўзгадваць, ні пра што не думаць!

Дзіўнае (калі б хто дзівіўся на яе ў гэтыя хвіліны) гэта кружэнне вакол дома — круг за кругам вакол дома, дзе жыла, — крыху запавольвалася, але Люба не магла спыніцца. Ледзьве ногі валакла ўжо, заграбаючы снег то адным, то другім ботам і раз-пораз спатыкаючыся, а ішла і ішла. Імкнулася прагуляцца па горадзе — вось і прагульвалася! У той бок ці іншы — якая розніца! Яна толькі ўзрадавалася б, калі б раптам заблудзілася ў бязлюднай шэрані гарадской прасторы. А яшчэ лепш — у бяздоннай шэрані ночы, адкуль ужо не выбралася б... Ды не гэта, не гэта змушала рухацца, бо вось жа ўжо заазіралася Люба, пазнаючы і не пазнаючы дом, няроўную сцежку, пратаптаную ёю ўздоўж дома, дзверы ў пад’езд. Вось ужо збірала апошнюю сілу, каб адолець некалькі прыступак да дзвярэй, адчыніць дзверы...

Яшчэ ў ліфце адчула, што задуха вяртаецца, што трэба расшпіліць футра і зняць шапку. Перад дзвярмі ў кватэру ўзгадала, што не ўзяла ключы, але дзверы, не прымкнёныя пры выхадзе, лёгка адчыніліся, упускаючы яе ў прыхожую.

— Вярнулася... вярнулася.. вярнулася... — засіпелі з усіх бакоў, здавалася, самі сцены, і Люба не вытрывала новага наступу думак: абхапіла галаву рукамі, сціснула яе, быццам хацела разгнесці, раструшчыць, каб нічога не чуць. Сіла пакідала яе — і трэба было паспець... Паспець вызбавіцца ад усяго, што тузала, мучыла, гняло!

На падлозе засталася кінутая шапка, потым — футра, потым — шалік, што, як удаўка, доўга працівіўся акалелым Любіным пальцам... Рух доўжыўся — і гэта было галоўным. Апошнім, на што яшчэ Люба была здатнаю цяпер.

— Дурніца! дурніца... дурніца... — падганялі думкі, а паветра не ставала, дыханне перапынялася.

Не ўціраючы слёз, якія залівалі шчокі, засцілі позірк, Люба навобмацак шукала шлях на балкон, натыкалася на крэслы, пераварочвала іх, не звяртаючы ўвагі на грукат, па сутнасці, і не заўважаючы яго. Доўга, адкашліваючыся, тузала цяжкую штору, якой звечара завесіла акно і

дзверы на балкон. І калі дзверы нарэшце адчыніліся, і свежае марознае паветра хлынула ў пакой, ледзь не збіваючы Любу з ног, раптам — і зусім нечакана — прыйшла палёгка. Ці то перадсвітальнае неба, да якога памкнулася душа, кранулася яе, супакойваючы, ці то там, за спіной, у пакоі, засталіся ўсе крыўды, усе балючыя згадкі і настаў час пакінуць іх назаўсёды, не вяртаючыся да іх ні ў думках, ні наяве, — Люба былому ўжо не належала. Яна рабіла і зрабіла, што магла, на што стала сілы, і цяпер не павінна нікому нічога. Слёзы высахлі, дыханне аднавілася, пагляд лунаў высока ў небе, між зорак, якія зачароўвалі, вабілі, гукалі яе кудысьці ў невядомыя прасторы.

Ніводнага свайго наступнага руху яна не ўсведамляла. І не магла ўсвядоміць, бо жыла толькі душа, і жыла ўжо ў іншай рэальнасці — нябеснай. Люба проста адштурхнулася ад пражытага — не ад парэнчаў балкона, а менавіта ад пражытага і перажытага за трыццаць гадоў і апошнія, атручаныя болем дні — і ўзляцела, паляцела ўслед за душою. І не было ў гэту хвіліну ніякага спачування целу, скаванаму, скурчанаму жахам падзення і потым уплішчанаму ў зямлю, прысыпаную снегам, побач з няроўнаю, натаптанаю ёю нядаўна сцежкаю. Яна рабіла і зрабіла, што магла, на што хапіла сілы...

* * *

Рэпетыцыя даўно ўжо павінна была пачацца, але «выхад» Эд Саныча, па якім звычайна звяралі гадзіннікі ўсе прысутныя, затрымліваўся, і адно гэта выклікала пытанне. Яшчэ больш загадкавай здавалася адсутнасць гераіні дня — Любы, чые партрэты красаваліся на першых паласах цэнтральных газет з нагоды прысваення ёй звання народнай артысткі БССР: з чаго б ёй не прыляцець на крылах славы своечасова, пакуль не сагрэлася падрыхтаванае шампанскае?

— Крылы славы... крылы славы... — бурчаў у адказ на Саніна пакепліванне Гукаў. — Калі ўзгадаць, чым, здараецца, яны запэцканыя...

— Мо Любашу разам з «рэжам» выклікалі наверх? — зрэагавала на нейкую сваю думку Ганна, падымаючы галаву і акідваючы позіркам прысутных з незразумелай трывогаю.

— Ага! Зранья! Тады ўжо хутчэй — сярод ночы! — фыркнула Саня, хоць для перасцярогі і адступіла крыху ўбок, абапёршыся на спрытна падстаўлены Генікам локаць. — Маглі б патэлефанаваць. Спіце, маўляў, даўжэй, даражэнькія: у нас свята...

— Свята — у тэатра! — сказаў, як адсек Гукаў. — І нават у такой зайздроснай душы, як твая, Саня, павінна ж хоць на міг ускалыхнуцца гордасць за наш, купалаўскі.

— Знайшоў дзе шчырасць шукаць!

Ганна нервавалася, і сама не вытлумачыла б, чаму. Ну, не адказаў тэлефон... Ну, спазняецца Люба... Дык жа горад, транспарт... Выпадковая стрэча ўрэшце!

Разумела: гэта не вытлумачэнне. Ні на якую сустрэчу з кім бы там ні было не прамяняла б Любаша рэпетыцыю: тэатр быў яе лёсам, яе жыццём — і адно смерць...

— Цьфу ты, насланнё! — адпюнулася яна ад недарэчнай думкі, не адразу заўважыўшы, што ўсе змоўклі і ўтарапіліся ў яе. — Што? Чаго вочы вылупілі?

— Ты сказала…

— Я нічога не казала! Я падумала… Я не ведаю, чым вытлумачыць узніклую сваю трывогу, а вы! Вы… — у Ганны пачыналася істэрыка, і зразумеў гэта толькі Гукаў, які падышоў, узяў яе рукі ў свае і стаў моўчкі ківаць на кожнае яе слова, супакойваючы. — Вы… Усе мы — чурбаны бяздушныя, калі маглі асудзіць, судзіць Любашу за мяккасць, за дабрату!

— Ды хто што казаў? — падміргнуў Сані Генік. — І каму з нас костачкі ў гэтым жыцці ні абмывалі?

— Прысядзь, раба Божая Ганна, — папрасіў Гукаў. — Пасядзі са старым. Удваіх і маўчаць лацвей.

— Ты не думаеш…

— Я думаю: хутка ўсё праясніцца, — хаваў ён раптам узніклую і ў яго ў душы трывогу. — Гэткая навіна для любога не хухры-мухры.

— Прыехаў! — высунуў галаву з-за кулісы хтосьці са статыстаў.

— Хто? Эдуард? — віхлянула клубамі Саня, атросшы Генікаву руку.

— Пайшоў да сябе… Твар чорны, як зямля… — пакаціўся шэпт ад аднаго да другога, і ўсё аціхла.

Саня дзвюма рукамі ўчапілася ў парэнчы крэсла, каб устаць, прыўстаць, і не змагла нават зварухнуцца. Яшчэ нічога не было сказана, а жах ужо ўціскаў яе ў крэсла: яна адчувала! прадчувала нядобрае! ёй не варта было пакідаць Любашу адну пасля той балючай размовы!

— Вазьмі, — падаў ёй Гукаў таблетку. Саня машынальна ўзяла і, зглынуўшы пераселы ў горле камяк горычы, паклала пад язык.

— А што здарылася? — падскочыў Генік. — Што адбываецца? Мы што — на пахаванні?

— Заткніся! — рэзка кінуў Гукаў, не павярнуўшы галавы.

— Эд Саныч… Эдуард Аляксандравіч! — кінулася насустрач рэжысёру Ганна, першаю ўгледзеўшы яго праз кулісы. — Мы вас зачакаліся! Мы ўсё падрыхтавалі, каб павіншаваць новую народную артыстку, а яе дасюль няма. І вы…

— Любы… Любові Георгіеўны больш няма, — адхінуў яе Глінскі, звяртаючыся да ўсіх. — Трагічны выпадак.

Усе, падрыхтаваныя для гэтай хвіліны словы зніклі, перш чым прыйшлі на памяць, і ён стаяў там, дзе спыніўся, за тры крокі ад знямелых акцёраў (дзве такога маштабу навіны для адной раніцы і для акцёраў замнога), і не ведаў, што шчэ казаць, куды сунуць рукі, якія раптам сталі перашкаджаць і няўклюдна торгаліся ў пошуку патрэбнага зараз жэста.

Колькі доўжылася агульнае зняменне, калі б раптоўна не ўскрыкнула, прыкрываючы рот далонню, Саня, невядома, але тут жа, быццам адчараваныя яе ўскрыкам, усе ажылі: хтосьці зашморгаў носам, хтосьці падаўся бліжэй да яе і Гукава, як адчуўшы, што ў гэту хвіліну не вакол рэжысёра, а менавіта вакол іх трэба згрупавацца, каб нейкім чынам, хоць бы і моўчкі, асэнсаваць толькі што пачутае і яшчэ да канца не ўсвядомленае.

— Забілі… усё-ткі забілі… — пахітвалася з боку ў бок Саня, абхапіўшы галаву рукамі.

— Хто?!

— За што?

— З чаго ты ўзяла? Нічога ж не вядома.

Пытанні наўрад ці дасягалі яе слыху, акружаючы хісткай цьмянаю сцяной, з-за якой Саня самастойна, без дапамогі, не выбралася б, і дапамога не змусіла сябе чакаць. Перш Гукаў, які не адходзіў ад Сані ні на крок,

прыўзняў, падняў яе з крэсла і абняў, тулячы да сябе. Потым і астатнія падаліся бліжэй, каб кранућца яе, пагладзіць па плячы, жэстам і словам выказаць спачуванне, паказаць, што гэта і іх боль, і іх страта.

Момант ісціны? Непадуладны кантролю эмацыянальны парыў? Патаемны, глыбока ў душу загнаны страх пакінутасці ці, больш таго, адвергнутасці людзьмі і небам у іх прэтэнзіях на жыццё і славу? Штосьці адгукнулася ў кожным з акцёраў у гэту хвіліну — штосьці, што перамагло ўсе іншыя прыхільнасці, пачуцці і страхі, падштурхнуўшы ўсіх з'яднацца, сплесці ўсе памкненні ў адно.

Глінскі, пра якога ўсе раптам забылі, пакінуўшы ў адзіноце там, дзе запыніла скіраваная на яго ўвага трупы, спярша нават разгубіўся: хіба не ён у тэатры галоўны? Хіба не ад яго залежала…

«Мабыць, не цяпер», — мільганула думка, і, асабліва не засяроджваючыся на ёй, Глінскі павярнуўся і пайшоў са сцэны. Мажліва, і чакаў, што хто-небудзь кінецца следам ці хоць бы пагукае, але і сабе не прызнаўся б у тым. Тым больш, што ніхто не пагукаў.

* * *

Вяла перабіраючы паперы на стале і не ўчытваючыся ні ў адну з іх, Пекар чакаў памочніка з дакладам і раз-пораз адплёўваўся ў душы ад непрыемных думак. А яны з упартай настойлівасцю вярталіся, атручваючы хвіліны, гадзіны каторы ўжо дзень. «І трэба ж было гэтай дурніцы менавіта цяпер, калі разглядвалася пытанне аб яго павышэнні, сігануць з балкона! Ды іншыя, не менш таленавітыя, дзесяцігоддзямі выслужвалі званне, а ёй… Тлумач цяпер, апраўдвайся!»

— Ат, Бог бацька! — адмахнуўся чарговы раз і рашуча адпіхнуў паперы: не да іх! Потым, пачуўшы прыглушаны голас памочніка за дзвярыма, гукнуў: — Што ты там топчашся, Іван? Заходзь. Дакладвай.

Той бачком праціснуўся ў прыадчыненыя дзверы і шчыльна зачыніў іх за сабой. Паспрабаваў выпрастацца, крыху развінуць плечы, але пад цяжкім позіркам Пекара гэтак жа, бачком, і наблізіўся да стала.

— Ну? Што нашкроб? — адсунуўся ад папер разам з крэслам, перакінуў нагу на нагу. — Сядай і выкладвай.

Пэўна ж, пасля дазволу прысесці ў Івана трохі адлягло ад душы: мо не будзе бос кідацца, як згаладалы сабака? А то ўчора… Дадумваць не стаў, бо ледзь толькі падняў пагляд над сталом, як словы самі, здэцца, пасыпаліся:

— Прэса, як загадана, адмоўчваецца. Калі што дзе і ўзнікае, то як спачуванне з нагоды трагічнага выпадку, недарэчнай выпадковасці. Інфармацыя праходзіць і сумніву не выклікае, бо, як справядліва лічыць абывацель, з нагоды прысваення звання народнай артысткі з балкона не выкідваюцца.

— Абстаноўка ў тэатры?

— Нервозная. Не ўсіх задавальняе афіцыйнае заключэнне, — разглядваў свае складзеныя на каленях рукі памочнік. — Сёй-той, хоць і не ў поўны голас, пагаворвае пра забойства… пра мажлівасць забойства маладой і таленавітай…

— Што за манера таптацца па ўласных словах? — паморшчыўся Пекар, адводзячы нарэшце позірк. — З Глінскім гаварыў? Яго думку выслухаў?

— Рэжысёр лічыць, што акцёрскаму асяроддзю трэба свядома падкінуць інфармацыю пра хваробу… пра нервовае захворванне актрысы,

якое яна ўмела хавала, пакуль удавалася… Мяркую, прапанова рызыкоўная, на мяжы скандала… — зноў пачаў заікацца той.

— Гледзячы як падаць, — не пагадзіўся з ім Пекар, здавалася, нават злёгку ажывіўшыся. — Калі ненавязліва… тонка… час ад часу абвяргаючы… чыста неафіцыйна…

Ён быццам забыў пра прысутнасць памочніка, разважаючы ўголас, і было відаць, што падкінутая ідэя яму спадабалася хоць бы тым, што прапаноўвала новы шлях для думкі, якая трэці дзень тапталася на адным і тым жа месцы. Тапталася менавіта таму, што рассеянасць, неасцярожнасць актрысы, якой вытлумачылі недарэчнае здарэнне, пакідалі за дужкамі шмат пытанняў. Хоць, пэўна, не менш пытанняў выклікала б і спасылка на нервовы стан ці, тым больш, нервовае захворванне: каму ў такім выпадку давалася званне народнай?

— Не, не! — адмахнуўся ад пытання. — Чым менш тлумачэнняў, тым лепш. Ёсць афіцыйная думка. — І ўсе — падкрэсліваю: усе! — павінны ад яе адштурхвацца.

— Рот жа ўсім не закрыеш, — асмеліўся запярэчыць памочнік.

— А хто кажа пра нейкія дзеянні? Тым больш сілавыя?

— Я мушу паправіцца… Замала часу мінула. Мо і не забудзецца ўсё з цягам дзён, але змуляецца, аціхне. Сёння ж… Цяпер…

— Што — сёння? — зноў пачаў губляць цярпенне Пекар. — Пра «сёння» і гаворка! Ёсць магчымасць штосьці змякчыць, выправіць?

— Калі мая думка ўзапраўду цікавіць, — раптам зазлаваў у душы той, — то, мяркую, не зашкодзіла б высокаму начальству з'явіцца ў тэатры, і не інкогніта, а адкрыта. Пайсці, пагутарыць з акцёрамі, а не толькі з рэжысёрам. Падтрымаць, паспачуваць іх гору: спачуванне часам дарагога каштуе. Асабліва, калі трэба адвесці цень сумнення альбо падазронасці.

— І ты на нешта намякаеш?

— А мне гэта навошта? А то не ведаю...

У голасе Івана нечакана з'явіліся жорсткія ноткі: збрыдла іграць, прыкідвацца дурнем... І перад кім? Перад гэтым блудлівым кабялём, што, нашкодзіўшы, гадзіць на ўласны след? Збрыдла! Трэба б паслаць і яго, і ўсіх астатніх да дзесятае чортавай бабкі і сысці!

Таго, чаго не дазволіла б зрабіць шматгадовая службовая вывучка, лёгка адолелі крыўда і абурэнне: плечы развінуліся, спіна выпрамілася, галава прыўзнялася, твар пасуровеў... Нават пагардлівая ўсмешка слізганула па твары, яшчэ больш змяніўшы звыклы выраз яго. Калі б Пекар зірнуў на памочніка ў гэты момант, моцна задумаўся б: каму ўжо каму, а Івану ён давяраў, аднойчы і назаўсёды вырашыўшы для сябе і лёс, і месца старога сябрука ў табелі рангаў, думаць не думаў, вядома, што таго магло не задавальняць прапанаванае і кімсьці там вызначанае.

— Зробім так, — прыпаліў ён цыгарэту, пасунуўшы пачак і запальнічку ўбок Івана. — Ты пойдзеш у тэатр...

— Але...

— Ты, — не даў яму аспрэчыць сваё рашэнне Пекар, — пойдзеш у тэатр. Афіцыйна або неафіцыйна — твая справа, а гаворка павінна адбыцца максімальна адкрытая і шчырая. Я... Я падключу Эвеліну і праз яе — іншых тэатральных крытыкаў, каб увесь бліжэйшы нумар «Тэатральнай Беларусі» быў прысвечаны купалаўцам, іх былой і новай славе.

Іван, адзначыўшы ў думках, што прапанова разумная, ніяк не адрэагаваў. Узяў цыгарэту, прыпаліў, зацягнуўся, шукаючы позіркам попельніцу, потым сеў яшчэ вальней, перакінуў нагу на нагу.

— Будзеш пярэчыць? — нарэшце заўважыў гаспадар кабінета змены ў паводзінах памочніка. — Ці літасціва пагодзішся? А то бачу: надзьмуўся, наструнішся...

— Плюнуць на ўсё хочацца.

— Плюнь! — засмяяўся той. — Супраць ветру, сам ведаеш...

— Ну-у, калі пад ветрам ты маеш на ўвазе сябе, небяспека невялікая, — нават не ўсміхнуўся ў адказ Іван. — Духу не хопіць.

— Ш-што?! — папярхнуўся смехам ці цыгарэтным дымам Пекар, бо тут жа закашляўся, выпучыўшы на яго вочы.

— Духу не хопіць, кажу. Быў — ды ўвесь выйшаў, — і брывом той не павёў, хоць і дзівіўся сам на сябе: столькі гадоў цярпеў, а тут як прарвала... — Любога, з кім зводзіла жыццё, з кім сутыкаўсяя, і ў грош ніколі не ставіў, а таго не заўважаў, што душа выпетрала і роля, якую выконваеш, даўно не па табе.

— Ды ты... Ты хоць ведаеш, што ў ЦК на разглядзе дакументы на маё павышэнне?! — узарваўся Пекар, нервова тушачы, трушчачы ў попельніцы акурак з такой злосцю, быццам яго, свайго намесніка, нішчыў. — Ды хто ты такі? Кім бы быў, калі б не мая падтрымка?

— Чалавекам, Чалавекам быў бы, — падняўся Іван, упершыню ў жыцці шчаслівы і, нягледзячы на прысутнасць Пекара, незалежны і ад яго, і ад ягоных загадаў. — Мяркую, у мяне ўсё яшчэ ёсць шанец. У адрозненне ад цябе.

Не гасячы цыгарэту, з цыгарэтаю ў руцэ пайшоў ён з кабінета — і ні голасу яго, ні постаці, пазіраючы ўслед, знямелы ад здзіўлення Пекар не пазнаваў. Больш не пазнаваў. Трыццаць гадоў побач — плячо ў плячо... Самы надзейны памочнік ва ўсіх справах і ўцехах... Ні словам ніколі не папракнуў, не папрасіў для сябе самога... Што, урэшце, здарылася? Што адбывалася і адбудзецца, калі пачынаюць бунтаваць самыя надзейныя?

Адказаў не было. Ён, Пекар, не ведаў. Мо таму, што пазіраў на спакойна, як заўсёды, зачыненыя Іванам дзверы і гэтак жа злосна, не шкадуючы сілы, трушчыў у попельніцы не дакураную падчас спрэчкі цыгарэту. Бунт? У яго ціхім ведамстве — бунт?!

* * *

Бунтам пахла паўсюдна: у калідорах ЦК, у ведамствах і ўстановах, у партыйных арганізацыях. Адны выходзілі з партыі, часам як мага эфектней — у разліку на рэакцыю публікі, другія прымерваліся да іншай у бліжэйшай перспектыве рэальнасці (а значыць, і да іншых пасад), трэція імкнуліся прыбраць да рук, прысвоіць што якое з таго, чым пагарджалі больш самавітыя. І ўсе як адзін прыслухоўваліся, прыглядваліся, прынюхваліся да няпэўных чутак то з Масквы, то з Кіева, то з суседняга кабінета.

Навіны не пахнуць, як вядома... Ды не! Гледзячы якая навіна! Нездарма кажуць: дыму без агню не бывае, а змены, рэформы, як правіла, не абыходзяцца без крыві. Ці, па меншай меры, без мардабою. І хто чыёй мордаю каляіны на шляху возьмецца згладжваць, наперад не вызначыш.

Стасу не падабаліся гэтыя разважанні, але думкам ён не працівіўся. Сядзеў, утаропіўшыся ў шклянку, і думаў. Так, як думалася. То пра адно, то пра другое. Старанна абмінаючы ўзгадкі пра Любу, пра жахлівы яе адыход. Усё астатняе, якою б крывёю ад яго ні патыхала, было менш жахлівым. Хоць бы таму, што ўсё-ткі паддавалася нейкаму вытлумачэнню. А тут... Тут без нячыстай сілы не абышлося!

Падняў галаву. Перасмыкнуў плячамі, каб атрэсці выпадковую ўзгадку, кволы цень яе, і зноў апусціў пагляд... Піць не стаў. Нават шклянку недапітую адсунуў, першы раз на тыдні ўсвядоміўшы і свой стан, і пагібельнасць падобнага стаўлення да праблемы. Не тое, каб зусім апрытомнеў пасля доўгага запою, схацеўшы жыць, цвяроза ўспрымаць жыццё, але маятнік, якім яно вымяралася, яўна прытармазіў і вось-вось павінен быў пачаць рухацца ў адваротны бок. Хвілінаю раней, хвілінаю пазней... Гэта ўжо не мела значэння.

— Стас?!

Вынырнуў са здранцвення не адразу. Калі ж пагляд, шкрабануўшы па процілеглай сцяне, па свяцільні, да яе прымацаванай, перамясціўся крыху ніжэй і ўбок, пазнаў Саню... Аляксандру Юр'еўну з купалаўскага і пачаў цяжка падымацца з крэсла. Каб павітацца. Каб прывітаць яе.

— Вы, Стас? З цяжкасцю, прызнацца, пазнала, — падышла да століка са шклянкаю соку Саня. — Мо вам не прыемная наша стрэча, тады...

— Не, не! Прысаджвайцеся! — гэпнуўся той на месца. — Піць больш не магу, а пагаманіць...

— А пагаманіць давядзецца: мы доўга не бачыліся, а чуткі... Чуткі я і раней цярпець не магла. Цяпер — больш, чым калі-небудзь.

— Чуткі? — спрабаваў настроіцца на гаворку Стас. — Хіба яшчэ не ўсё абгаджана і заплявана? Прабачце...

— Ты ўпэўнены, што хочаш са мной гаманіць? — раптам перайшла на «ты» Саня, нейкім сёмым пачуццём адчуўшы, убачыўшы тую глыбіню пакуты, з якой імкнуўся выбрацца Стас.

— Канешне. Калі вас не бянтэжаць ні мой стан, ні мой выгляд, Аляксандра Юр'еўна, — не адразу ўспомніў ён яе імя па бацьку. — Папраўдзе, і ўзгадаць цяжка, калі я апошні раз зазіраў у люстэрка. Усё каціўся, каціўся пад адхон... услед за абрынутым у сумёт часам...

Дагаворваў, нізка апусціўшы галаў, — быццам прыслухоўваўся да водгулля сказанага, да таго, як зрэагавала на забароненыя дагэтуль словы душа. І Саня, ад якой не схаваўся міг глыбокага ўнутранага напружання, перажытага Стасам, адгукнулася не адразу. Няспешна, па глытку, піла сок, разглядваючы паэта, яго схуднелы твар, цёмныя кругі пад вачамі, зблытаныя, не прыгладжаныя валасы, непаслухмяныя нервовыя пальцы, якія ён то сціскаў, то распроствоў... «Мо ніхто так, як Стас, не перажываў смерць Любашы», — мільганула думка, і Саня, хоць і адчула, што ў гэтай нечаканай выснове тоіцца папрок ёй самой, апраўдвацца нават у думках не стала. Быццам не адно гэты папрок заслужыла і даўно пагадзілася з ім.

— Бог мой, усяго два тыдні мінула, а думаецца пра ўсё, як пра штосьці, што даўно мінула! — не падумала, сказала. І — уздрыгнула, не ведаючы, як зрэагуе на яе словы Стас, але той толькі падняў ад стала пагляд і зірнуў у яе бок. Менавіта не на яе, а ў яе бок, таму што вочы па-ранейшаму засталіся згаслымі, без іскры цікавасці і гэта чамусьці абурыла яе. — Думаеш у сваёй гардыні, што табе горш за ўсіх? Думаеш, адзін ты любіў яе? Не ведаю, ці стане сказанае мною табе суцяшэннем, але скажу: Любаша была для мяне

ўсім тым, чаго не ставала ва мне самой, і я не проста любіла яе — я... шмат у чым менавіта я вінаватая ў тым, што адбылося.

— Вы?! — ад нечаканасці, ад нечаканае рэзкасці ў яе голасе, ад патрабавальнасці ў словах, звернутых да яго і ўсяго свету, ускінуўся Стас, свідруючы Саню паглядам, у якім мільгацелі шалёныя іскаркі. — Вы не можаце быць вінаватаю. Вы — адзіная, каго... каго Любоў Георгіеўна любіла.

— І адзіная, што магла яе ўратаваць, — шморгнула носам і хуценька адвярнулася, шукаючы ў сумачцы насоўку, Саня. — Вось што горай за гора, Стас. Вось чаму менавіта я магу сказаць табе: до! досыць!

— І розум тое кажа. А сэрца не пагаджаецца.

— Ты нават не разумееш, што шчаслівейшы — так, так, і ў горы шчаслівейшы! — заўважыўшы, што той збіраўся пярэчыць, павысіла голас Саня. — У цябе — талент, над табою няма рэжысёра, ты — вольны ўсе свае пачуцці, увесь свой боль выказаць у слове. Праз слова. А гэта — многага каштуе. Вышэй мо і няма нічога.

— Вы так рашуча сцвярджаеце... — не знайшоў, чым адказаць на падобную шчырасць Стас, хоць адчуваў, што словы яе ўплываюць на ўвесь настрой думак, што недзе ў іх, за імі — супакаенне. Абяцанне супакаення.

— Я шмат думала. Шмат перажыла за тыя дні і ночы, што прамінулі пасля забойства Любашы.

— За... забой-ства? — здавалася, не ўздрыгнуў, а здрыгануўся Стас і, каб схаваць разгубленасць, моцна абхапіў сябе рукамі.

— Неразуменне людское... Наша неразуменне забіла яе, — зрабіла Саня пэўнае душэўнае намаганне, каб прадоўжыць, як мага спакайней прадоўжыць: — Душэўна тонкія натуры — безабаронныя. Абсалютна безабаронныя! Не толькі жорсткасць, не толькі злосць людская раняць такія душы, а і любая несправядлівасць, любая няшчырасць, любая спроба за дабро адплаціць насмешкаю. Многія гэтага не разумеюць... Я, здавалася, разумела, а ў нейкі момант адступілася, адышла ўбок, замест таго, каб прыкрыць Любашу сабою.

— Вы нагаворваеце на сябе, — паспрабаваў перапыніць паток прызнанняў Стас, нарэшце заўважыўшы, як цяжка, як пакутна цяжка даецца ёй кожнае слова.

— Дзякуй, Стас. Але я ведаю, што гавару.

Саня змоўкла. Апусціўшы галаў, нейкі час маўчала, перабірала сказанае і нясказанае, прыйшоўшы да думкі, што карысць была хоць бы ў тым, што, здэцца, вывела Стаса з утрапення — змусіла зірнуць на ўсё не толькі праз сябе, праз сваё гора: дасць Бог, і ён, і яна сама акрыяюць, знойдуць у душы сілу прадоўжыць шлях, прадоўжыць працу.

Паўза, напэўна, дужа зацягнулася, бо калі Саня падняла пагляд на Стаса, то ўбачыла трывожны бляск у яго ў вачах. Паспрабавала ўсміхнуцца — і ўсміхнулася.

— Не напалохала цябе сваімі разважаннямі?

— У мяне яны яшчэ больш бездапаможныя, — не здолеў той усміхнуцца ў адказ.

— Я толькі цяпер задумалася, чаму яна... чаму мы выбралі сцэну, тэатр. Былі ж іншыя магчымасці, іншыя дарогі, — зноў думала ўголас Саня. — Святло пражэктараў, апладысменты, кветкі... Гэта вабіла, так, і было б смешна аспрэчваць падобную прывабнасць штодзённага... штовячэрняга свята. І ўсё ж, галоўнае — гульня. Вечная гульня ў стварэнне новага свету, якая давала і дае магчымасць штораз быць іншаю — не мя-

няючы ні знешнюю, ні ўнутраную структуру свайго жыцця, пражыць пэўны прамежак жыцця гераіні, усякі раз новай, незнаёмай. З гэтым мала што можна параўнаць.

— Але ж так заўсёды ў творчасці. У любой творчасці, — не вельмі ўпэўнена пагадзіўся Стас.

— Калі хтосьці не прысвойвае тваё права на творчасць, не патрабуе слепа следаваць сваім уласным уяўленням і патрабаванням. Нават у дробязях, у дэталях, у гучанні тваіх фраз. Так, быццам ты — не з племені акцёраў ці няхай нават простых скамарохаў, быццам ты — лялька. У касцюм таго ці іншага стагоддзя апранутая лялька з тэатра марыянетак.

— Жыццё — тэатр... — мармытнуў Стас і тут жа апамятаўся, нават пачырванеў. — Прабачце, Аляксандра Юр'еўна! Я перапыніў вашу думку... Неяк само вырвалася!

Саня піла сок, і заўважалася, што выказанае толькі што працягвае ў ёй вымалёўвацца, гучаць, доўжачы разважанне. Твар заставаўся спакойным, нават яшчэ паспакайнеў, і пазіраць на яго было прыемна. Ні пра што такое Стас, канешне, не думаў. Проста цішком узіраўся ў Саню, проста дзівіўся яе душэўнай сіле і адкрытасці: падышла да яго, загаварыла, суцешыла, не шкадуючы для яго дабрыні, разумеючы яго муку. Трэба б падзякаваць, а не мог. Не знаходзіў патрэбнай ноты. Не хацеў, каб гаворка перапынялася.

— Жыццё — тэатр, і ўсе ў ім — скамарохі... Сёння гэта часта — і не беспадстаўна — паўтараецца, — быццам пачуўшы яго нямую просьбу, прадоўжыла Саня. — Вось толькі тэатры розныя здаўна існавалі: драматычныя, музычныя, сатырычныя, эксперыментальныя... Страшна, калі ўсе яны раптам — па патрабаванні адпаведна настроенай публікі — ператвараюцца ў тэатры марыянетак, з тым, каб сцэна і зала зліліся ў жаданні іграць і перайграць уся і ўсіх. Калі не будзе ні акцёраў, ні гледачоў, а тыя, і другія акажуцца лялькамі ў спрытных руках якога-небудзь рэжысёра, свайго ці заезджага. Свят, свят, свят!

— Няўжо такое магчыма? На самай справе, магчыма? Мы ж — жывыя!

— Той, хто жывы, жыве. Змагаецца. Супрацьстаіць любому замаху на сваю індывідуальнасць. Не аддае каму б там ні было права на творчасць. І не адно табе кажу гэта, Стас, з усёй цвёрдасцю, на якую здатная, а і сабе.

— Няўжо такое магчыма? — зноў задумліва паўтарыў ён.

— Усё магчыма. На жаль. Ці на шчасце... Як для каго, напэўна. Але я пра іншае, Стас, — узіралася ў яго Саня.

— Пра іншае?

— Той, хто становіцца лялькаю ў чыіхсьці руках — па сваёй волі ці пад прымусам, — аднойчы ламаецца. Ламаецца, бо ніводная канструкцыя, апроч створанай Богам па Ягонай волі і ласцы, не мае сілы і ўстойлівасці, не можа вытрываць зменлівасці і жорсткасці жыцця. Не можа ў прынцыпе. А калі не пра прынцып, а пра чалавека разважаць, то творчую, тонкую чалавечую натуру, адораную Госпадам не толькі свабодай волі, а і асобым дарам, талентам, нішто не абараняе, не ратуе ад краху. Найперш — душэўнага. А ўжо за ім...

— За ім — беспрасветны змрок, — зноў пазмрачнеў Стас, хоць і адчуваў у сэрцы ўдзячнасць Сані за тое, што не пакінула яго сам-насам са сваімі думкамі і гаворка працягвалася.

— Беспрасветны тады, калі не асветлены нічыёй памяццю, — ледзь заўважна кранулася яна дрогкай рукі Стаса, быццам супакойвала, быццам

пералівала ў яго крупіцу сваёй сілы. — Ты напішаш... лепшыя свае вершы напішаш, Стас, прысвяціўшы іх памяці Любы. І ўсе будуць чытаць іх, узгадваючы вялікую актрысу, дзівячыся радкам, якія прадыктуе любоў.

— Так, так! Я напішу!

— Веру, Стас, — пагладзіла яна яго руку, падымаючыся. — А я запрашаю цябе на спектакль. Апошні спектакль па шэкспіраўскай п'есе, дзе Люба сыграе Кардэлію.

— Сы... сыграе?! — падымаўся той услед за ёю. — Ты... Вы што такое гаворыце?

— Яе не будзе, Стас. І ўсё ж — яна сыграе гэты спектакль! Гэта паклон наш ёй на расстанне. Прыходзь. Сам усё ўбачыш.

Саня пайшла да выхада, чамусьці, нягледзячы на стан паэта і яго разгубленасць, упэўненая, што ўсё будзе добра, што Стас прыйдзе на спектакль і потым напіша цудоўныя вершы, над якімі заплача не адна чуйная душа.

* * *

Слізгаючы паглядам па афішы, якая абвяшчала аб апошнім спектаклі па п'есе Шэкспіра «Кароль Лір», мала хто заўважаў, што ў ролі Кардэліі па-ранейшаму значылася Любоў Гаруня. А калі хто і заўважаў, то не надаваў асаблівага значэння: старая афіша, ранейшы склад трупы — не паспелі ці не схацелі мяняць... Пытанне, чаму ў сярэдзіне сезона гаворка ішла аб апошняй пастаноўцы, гэтаксама асабліва нікога не хвалявала: хто гэтым часам хадзіў у тэатр? Заўзятых тэатралаў, якія ведалі пра тэатр калі не ўсё, то многае, дзесяткі два набралася б, ды што яны маглі ў атмасферы агульнае абыякавасці да сваёй — і, тым больш, чужой — долі? У іх была свая роля, зусім нязначная, можна сказаць, незаўважная, і на авансцэне, чаго б ні тычылася, яны рэдка з'яўляліся. Адно каб кветкі каму з акцёраў перадаць.

Урэшце, афіша і афіша! Апошні спектакль дык апошні! Чуткі пра трагічную смерць адной з галоўных гераінь калі і не зусім аціхлі, то добра прывялі, а нечая задума... Якой новай задумаю можна ўзрушыць сучасную публіку?

Пэўная інтрыга, вядома, была. Адчувалася. У блізкіх да тэатра колах, сярод тых, хто асабіста, па ўзгодненай схеме, запрашаўся на спектакль у гэты вечар. Пасвечаных жа ў разгадку яе не набралася б і дзесятка. Ды і сярод іх двое-трое выглядалі залішне напружанымі і незадаволенымі: Саніна задумка... І яшчэ невядома, чаму раптам рэжысёр пагадзіўся з ёю, адступіўшы ад уласнае інтэрпрэтацыі.

Урэшце, Стас над такімі рэчамі не задумваўся: напярэдадні пазваніла Саня, нагадала пра запрашэнне — хіба мог ён не пайсці? Хіба мог прапусціць спектакль, прысвечаны памяці Любашы? Надламаная трагедыяй душа паціху распроствалася, звыкалася з прыступамі болю і праваламі ў пустату, адкуль патыхала холадам і адчаем, наноў вучылася прамаўляць да неба. Паэзія, хоць і нячаста, гасцявала ў яго заваленым кнігамі пакойчыку — і тады нараджаліся сумныя, шчымлівыя радкі. «Ноч заварвае чорную каву, чорны дзёгаць бяссонных хвілін, ледзь прыгубіўшы, штосьці пра славу, пра пакутніцтва шэпча зямлі. А якая ў тым слава — памерці? Дзень прачнецца папросту раней, каб паспець тую плямінку сцерці, што зашэрхне крывёй на сцяне. Разагнуўшыся — гэткага гора! — нават не

прыгадае імя, што насіў толькі ўчора. Учора... Ноч нясе шкадаванні дарма: я прымаю і гэту пакуту. Веру ў пеўчую долю сваю і па кроплі — па слову! — атруту з пераможнай усмешкаю п'ю...»

*З пераможнай усмешкаю? Гэта наўрад ці. І ўсё ж* цем паціху адступала, упускаючы ў душу святло, — і жыццё аднаўляла свае ранейшыя прэтэнзіі і прапановы. Іх можна было не прымаць, але незаўважнымі яны больш не з'яўляліся, і значыць, прыйдзе — ужо набліжаўся! — час, калі ўсе правы жыцця на яго адновяцца. Адновяцца, аднаўляючы інтарэс да ўсяго навокал. Найперш — праз паэзію, праз слова.

— І па кроплі — па слову! — атруту з пераможнай усмешкаю п'ю... — паўтарыў заключныя радкі верша ўголас, заўважыўшы гэта толькі па рэакцыі пасажыраў тралейбуса, які пад'язджаў да цэнтральнай плошчы, і папракнуў сябе ў душы: занадта засяроджваўся на сабе, на сваім — добра, што выходзіў якраз на гэтым прыпынку і не трэба прабачацца.

Саскочыў з прыступкі на зацярушаны снегам асфальт, удыхнуў паветра на поўныя грудзі і, агледзеўшыся (раптам хто са знаёмцаў дзе паблізу?), няспешна пакрочыў убок сквера. Думкі пачалі рассыпацца, і Стас рабіў немалыя намаганні, каб утрымліваць увагу і не наткнуцца на каго з прахожых. Лягчэй стала, калі ўвайшоў у сквер і, трымаючыся краю алеі, яшчэ больш запаволіў хаду: раптам нахлынулі ўспаміны, узгадаліся доўгія вечары, праведзеныя тут, пад старымі таполямі і ліпамі, сам-насам з паэзіяй, у чаканні Любы. Нейкім крайком свядомасці адзначыў, што боль, як звычайна раней у падобныя хвіліны, не азваўся ў душы, і толькі ціха ўздыхнуў. Быццам у адказ на ўздых, наперадзе асыпаўся зіхоткім срэбным воблачкам іней, і Стас прыпыніўся, задраў галаву і доўга дзівіўся на цёмныя вершаліны, падсвечаныя знізу святлом ліхтароў і бела-блакітным атачэннем намерзлага на галіны інею: усё хацелася дамкнуць паглядам да высокага неба, убачыць зорны россып па ім. Не адразу, не ў першую хвіліну, але праз пэўны час, калі перастаў заўважаць каго б там ні было паблізу ці воддаль, усё ж убачыў — і неба, і зоркі сям-там, у прагалах паміж галінамі, высока ўгары.

Паўгадзіны мінула ці крыху больш, але зрушыўся Стас з месца адно тады, калі холад да яго дабраўся і стала зябка. Пацепваў па ходу плячамі, памахваў рукамі, адганяючы хвіліны засяроджанасці і спрабуючы вызначыць, прыпазняўся ён на спектакль ці паспяваў. Калі меркаваць па тым, што сквер амаль абязлюдзеў і перад уваходам у тэатр ніхто не маячыў, — прыпазняўся.

Цяжкія дзверы не паддаваліся. На спробы Стаса дастукацца да вахцёра ніхто не абзываўся. Здалося нават, што там, за дзвярмі, у тэатры, нікога і не было, а спектакль прызначаўся не на гэты дзень — на іншы. Але будыніна заззяла ўсімі вокнамі, ледзь толькі ён адышоўся і падняў пагляд, — і каб думка якая пра магчымае выйсце! Час назад не адкруціш, але штосьці ж ён мог зрабіць!

Незразумела адкуль узніклая злосць не давала супакоіцца, змірыцца — ён таптаўся каля ўвахода, раз-пораз зіркаючы на асветленую афішу, пакуль раптам не спыніўся перад ёй. Што яго запыніла, не ведаў. А позірк слізгаў па тэксце — спярша хутка і бяздумна, потым усё павольней...

— Кардэлія — народная артыстка Любоў Гаруня, — прачытаў уголас, раз і другі раз, і ўсё ніяк не мог уцяміць значэння прачытанага: Любоў Гаруня? Люба?! Але ж яна... Яна ніколі не іграла ў званні народнай... Яна не паспела... не ведала...

Думкі таўкліся адна ўкруг адной, пакуль раптам не адхлынулі ўсе разам, пакінуўшы ў ім пустату. І рэальнасць паведамленага ў афішы падалася самай што ні на ёсць рэальнай, і Стас кінуўся да дзвярэй, пачаў малаціць па іх кулакамі. Потым, узгадаўшы, што ёсць яшчэ адзін уваход у тэатр — службовы, кінуўся бегчы ўздоўж сцяны, каб апынуцца там, перад ім, і ўсё ж дастукацца да каго-небудзь з вахцёраў, патрапіць у залу і ўбачыць Любу.

* * *

Глінскі нерваваўся. Мала таго, што выслухаў перад спектаклем доўгую натацыю ад Пекара, у якой, нягледзячы на тэлефонныя «праслушкі», вядомыя абодвум, гучалі толькі нелітаратурныя выразы і словы, дык і залу запоўніла ўсё больш журналісцкая публіка. «Зляцеліся, няйначай, як груганнё на мярцвячыну... Нябось, і тое, што ён, рэжысёр, ад вачэй хаваецца, заўважылі!» — лаяў сябе ў думках Глінскі і так, і гэтак, хоць і разумеў, што позна і карысці аніякай. Не адмяняць жа, на самай справе, спектакль пры біткам набітай зале! Не толькі журналісты не ўспрымуць...

Мёртвая цішыня панавала ў тэатры. Не, спектакль ішоў, акцёры жылі спектаклем, перажываючы ўсё, што адбывалася ў часы Шэкспіра, без адзінай нацяжкі, без аднюткага збою: і іх галасы, і голас Любы з магнітафоннай стужкі чуліся і ў зале, і тут, за сцэнаю, у прапахлым пылам закуліссі, ясна і выразна, а ўражанне, што вакол стаяла мёртвая цішыня, не знікала.

— Цьфу, чорт! — нягучна вылаяўся Глінскі, не ўпэўнены, што вытрывае ўсё да канца, што не сарвецца. — Дай бабе веры...

Вядома, тлумачэнне ўсяму простае: калі ўжо і развітвацца са спектаклем, то эфектна — па-тэатральнаму эфектна. І незадаволены Глінскі (тут ён не падманваўся!) зусім не ад таго, што званіў раз'юшаны праяўленаю ініцыятываю Пекар, а хутчэй таму, што ініцыятыва гэта сыходзіла не ад яго, рэжысёра, а ад занятых у спектаклі акцёраў. Як змовіліся, паставіўшы яго перад выбарам: сыграюць без актрысы, якая замяніла б Любу, ці ўвогуле адмовяцца іграць... Нават Ганна ўступіла ў змову! Нават Генік лапатаў пра абавязак перад памяццю! Быццам яму, Глінскаму, не муляла памяць...

Вось і даў згоду. А з чым, запытацца, пагаджаўся? З тым, каб распаўзлася чутка аб задуманым па горадзе, не абмінуўшы высокіх кабінетаў? З тым, каб успыхнуў нездаровы інтарэс прэсы? Каб зрэагавала як ніколі гнеўна начальства? Зрэагавала. Пекар дагаварыўся да таго, што ў бязволлі і некампетэнтнасці абвінаваціў. Яго, Глінскага?! І хто?! Чыноўны пацук з даўно вышчарбленымі ад залішняй сквапнасці зубамі!

Злосць саступала абурэнню, і Глінскі зноў мераў цёмную пляцоўку закулісся шырокімі ўпэўненымі крокамі. Урэшце, Пекар — толькі Пекар! Хоць пакуль і пры пасадзе. І хто-хто, а галоўны рэжысёр галоўнага нацыянальнага тэатра яму не па зубах. І зубы ўжо не ранейшыя, і за Глінскага заступіцца было каму. І ў Мінску, і (калі што якое) у Маскве. Так што самы час плюнуць на ўсё і выйсці на людзі. Не ў ложу, вядома, не пад прыцэл журналістаў, але бліжэй да акцёраў, да сваіх, што б яны часам пра яго ні думалі...

Прайшоўшы на сцэну, стаіўшыся за бліжняй кулісаю, Глінскі ўважліва агледзеў залу — той край яе, які быў відзён з яго месца. Адна-

чыў лёгкае напружанне, якое дзіўнымі хвалямі перацякала з канца ў канец памяшкання. Заўважыў, што некаторыя гледачы, не зважаючы на слёзы, плакалі. І каб крэсла дзе зарыпела! каб шолах дзе абудзіўся!

Ён, дзівячыся, перавёў увагу на сцэну. Прыслухаўся нарэшце да акцёраў, як бы збоку, адасоблена, успрымаючы іх ігру, іх рэплікі. Спектакль завяршаўся. Ігралася апошняя сцэна трагедыі. Менавіта трагедыі! — і ні час, ні месца, дзе адбываліся тыя далёкія падзеі, не мелі ў гэтыя хвіліны значэння: на сцэне гінула жыццё і перамагала саму смерць любоў. Стары Лір (і думкі не ўзнікла, што гэта толькі вобраз, таленавіта ўвасоблены акцёрам!), які, перажыўшы і сваю славу, і сваё вар'яцтва, спяшаўся да любай дачкі, прыспешваў і сцежку, і сэрца. І ў той напружанай цішыні, якой дыхала зала, здавалася, чуўся кожны ўдар бацькоўскага сэрца, кожны ўсё цішэйшы ўсплёск яго.

— Зладзеі і забойцы! Я б яе
Уратаваў ад роспачы і смерці...
Кардэлія, Кардэлія, крыху —
Хвілінку — пачакай! Што ты сказала?
О гэты пекны, чысты галасок...

Гукаў пераўзышоў самога сябе: шалёна-спакойны бляск вачэй, святло радаснага чакання на твары, шчасце стрэчы ў кожным руху пасля таго, як вынеслі мёртвую Кардэлію, і любоў, любоў! Здавалася, любоў тачылася з кожнай тканкі, з кожнага моўленага і нямоўленага слова, з кожнага пагляду... Гэта зачароўвала — зачаравала нават Глінскага, які і не думаў пра такую глыбіню тэксту, кантэксту п'есы, калі браўся за пастаноўку: наўрад ці ўсведамляючы гэта, не зводзіў вачэй з распатланага, з дзівосна прасветленага хвілінамі стрэчы з дачкою старога, быццам баяўся ўпусціць нейкую нябачную нітачку падзеі, быццам, як і ўсе прысутныя, баяўся нават уздыхнуць.

Сіла мастацтва, неверагодная сіла таленту пераўвасаблення былі такімі, што нават калі прагучала апошняя рэпліка спектакля і акцёры застылі ў тых позах, у якіх яна кожнага заспела, зала не скалыхнулася. Маўчала. І некалькі кароткіх імгненняў бязмернай, бязмежнай, як здалося, цішыні, доўжыліся цэлую вечнасць.

Дзе — на сцэне ці сярод гледачоў — азваўся першы рух, першы згук, ніхто не вызначыў бы. Але ўжо ў наступнае імгненне цішыня выбухнула: шквал апладысментаў узарваў яе. Людзі ўставалі, без адзінага воклічу — і таму неяк асабліва ўрачыста — апладзіравалі. Хвіліну, другую, трэцюю... Акцёры раз-пораз выходзілі на авансцэну, кланяліся, не адразу разгінаючыся. Быццам вытрымлівалі паўзу, каб усвядоміць да канца, што спектакль завершаны, сыграны, і мэты сваёй яны дасягнулі.

Занавес закрываўся і зноў адкрываўся. Хтосьці выпхнуў з-за кулісы рэжысёра, змусіўшы выйсці на паклон разам з акцёрамі, і той, агаломшаны нечаканым поспехам спектакля, падпарадкаваўся. Выйшаў, пакланіўся, зноў і зноў узіраўся ў твары людзей у зале, якія не спяшаліся разыходзіцца: даўно ён не бачыў такіх твараў, такой рэакцыі залы на спектакль. І ўжо ж, калі б сказаў яму хто ў гэтыя хвіліны, што няма ў тым яго заслугі, што акцёры ігралі с в о й спектакль, па-свойму — так, як разумелі і адчувалі, Глінскі, вядома, пакрыўдзіўся б. Але ніхто нічога не сказаў, і стомленыя акцёры разыходзіліся па грымёрках гэтак жа моўчкі, як гледачы пакідалі перш залу, потым вестыбюль тэатра. Не адзін з іх за дзвярмі

міжволі азіраўся на афішу, дзе значылася, што ролю Кардэліі выконвала ў спектаклі народная артыстка БССР Любоў Гаруня.

* * *

Газеты пісалі пра спектакль купалаўцаў, сыграны без адной з галоўных гераінь, стрымана, без асабістых эмоцый: ці то сама незвычайнасць падзеі перашкаджала выказацца з большым захапленнем альбо з большай насцярогаю, ці то папярэджанне, якое сыходзіла зверху, спрацавала, але і слоў і ацэнак прагучала няшмат, а вядучыя тэатральныя крытыкі ўвогуле адмаўчаліся. Сяго-таго з іх, як Эвеліну Райскую, давялося асаджваць, але вынікам Ковач быў задаволены і ў думках нават пахваліў Пекара, якога рэдка ўспрымаў усур'ёз: з узніклай сітуацыі той выйшаў гэтым разам без асаблівых страт, мо таму, што сам з племені скамарохаў...

Думка чамусьці не выклікала ўсмешкі, хоць Пекар і ўбачыўся ў момант, калі яна мільганула, у скамарошай шапцы са званцамі, і Ковача гэта зачапіла: ён што — сапраўды ўсур'ёз успрымаў тэатральную эпапею любві і адпомсты? Толькі гэтага цяпер не ставала! Падобных гісторый — толькі што воддаль ад падмосткаў! — лічыць не пералічыць...

— Не трэба дакладваць, — пачуўся голас Першага, і перш чым адчыніліся і потым шчыльна зачыніліся за ім двайныя дзверы, Ковач паспеў падхапіцца і зрабіць тыя некалькі крокаў, што падзялялі іх.

— Вы маглі выклікаць мяне, — схіліў галаву, вітаючыся, і потым пацісную пададзеную руку.

— У цябе спакайней, — пайшоў той да стала і апусціўся на крайняе, дальняе ад стала крэсла, жэстам прапануючы Ковачу сесці насупраць. — Дакладваць абстаноўку не абавязкова. Ведаю. Трэба яшчэ раз нагадаць табе пра мэту тваёй паездкі ў Маскву.

— ?!

— На нараду, дзе будуць абмяркоўвацца вынікі рэферэндуму, — не даў ён Ковачу магчымасці здзівіцца ці штосьці спытаць, а, прадоўжыўшы, паклаў на стол і пасунуў у яго бок паперчыну, аркуш з тэкстам, напісаным ад рукі. — Пазіцыя рэспублікі выразна акрэсленая і нязменная: вынікі галасавання гавораць самі за сябе, але могуць быць іншымі ўнесеныя карэктывы.

— Так, так, — ківаў Ковач, прабягаючы напісанае і адрасаванае яму асабіста, дзе паведамлялася: «Курс на распад СССР будзе падтрыманы Украінаю. Не напрамую, але цвёрда. Там хочуць скарыстаць сітуацыю і замацавацца ў статусе незалежнай краіны. Прашу абдумаць наш курс і з прапановамі (пажадана мець некалькі варыянтаў) у нядзелю — да мяне. На прыродзе ўсё абгаворым».

— Наша рашэнне, — убачыўшы, што нататка прачытаная, забраў той яе ў Ковача, — прынята, і мяняцца не будзе. З гэтым і паедзеш.

— Ёсць, — па-вайсковаму адказаў Ковач, але штосьці, відаць, мільганула ў яго на твары, бо Іван Кузьміч ледзь заўважна ўсміхнуўся, перш чым спытаў:

— Што? Кепска выглядаю?

— Ды не... — сумеўся Ковач.

— Кепска. Ведаю. Работы шмат. А да паездкі рыхтуйся!

— Ужо прыступіў.

Ковач праводзіў Першага да парога, адчыніў перад ім дзверы і потым, калі застаўся ў кабінеце адзін, доўга стаяў за два-тры крокі ад акна, узіраючыся ў бачную праз яго лапіну неба. Думаў, як ні дзіўна, не пра тое, што прагучала ці не прагучала колькі хвілін таму, а пра даўняе сваё захапленне парашутнымі скачкамі, калі не толькі пагляду, а і душы, здавалася, адкрываліся такія прасторы, такія вышыні, што ажно дух займала.

«Старэю...» — мільганула ў думках, але ўздых утрымаць Ковач усё ж здолеў: знайшоў час маладыя гады ўзгадваць!

А лапіна неба шырылася, павялічвалася — і вось ужо лёгка пагойдваліся побач аблачынкі, вось ужо плыла празрыстая, прасвечаная наскрозь зыркімі сонечнымі промнямі сінеча, бязмежная ва ўсе чатыры бакі, пакалыхваючы яго. Ні зямлі ўнізе, ні яркага купала парашута над галавою — неба і неба!

Дзіўнае адчуванне лёгкасці, здавалася, ужо забытае пачуццё злітнасці з вышынёю не адпускалі — і імгненні цяклі праз яго незаўважна, і сонечныя бліскі плёскаліся паблізу. Нібы спомін пра палёт абярнуўся самім палётам, вярнуўшы далёкую радасць.

— Ты прыняў маю любоў... Ты абяцаў вярнуцца ў мае абдымкі...

Словы прагучалі хоць і ціха, быццам аднекуль здалёк, але так выразна, што Ковач заазіраўся, не адразу зразумеўшы, чаму з ледзь чутным звонам рассыпалася, асыпалася доле празрыстая сінеча неба, чаму перарваўся палёт, знікла адчуванне бязважкасці і зноў азваўся ў грудзях стары боль.

«Які палёт? Чый голас? — зазлаваў, папікнуў сам сябе ў душы Ковач. — Не ставала яшчэ з глузду з'ехаць!»

Але і тады, калі ён адвярнуўся ад акна і заняў сваё месца за сталом, каб абдумаць адзін-два хады хуткага, па ўсім відаць, візіту ў Маскву, засяродзіцца на рабоце не змог. Напэўна, не збягаць трэба было ўвесь час ад споміну, ад пытанняў, якія яны заўсёды нечакана высвечвалі, а паспрабаваць разабрацца, на што натыкаўся ў сваіх разважаннях, ледзь толькі азіраўся назад, на некалькі гадоў назад...

Што, урэшце, здарылася тады? І калі — тады? Ён і ў тэатры нячаста бываў, звычайна — з якой афіцыйнай нагоды, калі яго адсутнасць успрынялася б пэўным выклікам, і з натоўпу жанчын (а тым больш — актрыс) вылучаў каго-небудзь ад выпадку да выпадку, і то чыста вонкава. Па крайняй меры, нічога дзіўнага ў тым, што не адразу і ўспомніў кароткі флірт з адной з актрыс купалаўскага тэатра, не бачыў: калі б не фізічная — недарэчная! — смерць яе, то ўсё дарэшты сцерлася б з памяці непрыкметна, без аніводнае ўзгадкі.

Ковач вынуў з шуфляды пачак цыгарэт і запальнічку, падсунуў бліжэй да сябе попельніцу. Потым адкінуўся на спінку крэсла, перакінуў нагу на нагу. Памарудзіў, вырашаючы, ці варта курыць (курыў цяпер рэдка — толькі калі нерваваўся), і ўсё ж пстрыкнуў запальнічкай. Прыкурыў не адразу, нейкі час проста дзівіўся на агеньчык, які ледзь заўважна паміргваў (быццам падміргваў), але калі зрабіў першую зацяжку, то адчуў асалоду: атрута атрутаю, а штосьці абуджала — штосьці выцягвала з глыбіні забытага, узбуджаючы і супакойваючы адначасова.

«Старэеш, браце! — пакпіў з сябе. — Ад адной зацяжкі рассіропіўся, як маладзён». Але асалода не знікла, і колькі хвілін, расслабіўшыся, ён адпачываў нават ад думак. Хітраваў крыху, вядома, бо намерваўся ж разабрацца з успамінамі, але прыспешваць іх, баронячыся невядома ад чаго, не хацеў. Усё даспявала ў свой час, думкі таксама...

Даводзілася напружваць памяць, каб аднавіць падзеі мінулага хоць бы ў нейкім парадку: ні падзеямі тыя некалькі стрэч не ўспрымаліся і тады і цяпер, ні ў больш-менш выразную карціну споміну не складваліся. Так... Урыўкі... Імгненні...

Прывабілі ўвагу, памятаў, радасны бляск у вачах актрысы і тое, што гэты бляск быццам наліпаў на яго, узвышаючы і амаладжваючы адначасова. Ён нават не адразу зразумеў, у чым справа, адкуль з'явілася маладая зухаватасць, але паводзіны яўна мяняліся, настрой паляпшаўся і хацелася жартаваць, паддражніваць памочніка, які, улавіўшы гэты яго настрой, завіхаўся каля актрыс, вынаходзіў усё новыя прычыны для таго, каб вечар прадоўжыўся дзе-небудзь у невялікім рэстаранчыку. Прычыны хапіла б і самай недарэчнай, але жанр, як кажуць, патрабаваў.

Рэстаран... Рэстаран ніхто асабліва не выбіраў: у падобных выпадках выкарыстоўваўся загарадны, пад Заслаўем, на беразе Мінскага мора, дзе мелася не толькі закрытая ад старонніх позіркаў зала... Усё — як зазвычай. Усё — па вышэйшым разрадзе. Ковачу мо таму, што нячаста дазваляў сабе падобныя вечары, усё падабалася: і вячэра, і вясёлыя байкі, і дрогкае плечыка актрысы, якая, апынуўшыся побач, хінулася да яго і пазірала радасна, наіўна-закахана. Наіўна закаханая цнатлівасць актрысы, пэўна ж, была найграная: хто дзе страчаў цнатлівую актрысу! Але ў той вечар хацелася верыць нават у гэта.

«Люба, Любоў!» — пры знаёмстве назвалася жанчына, і так потым і называў яе Ковач: Люба-Любоў. Што ж да любві... Хто гаварыў пра любоў?

Увогуле, цяжэй за ўсё ўспомніць, пра што гаварылі яны падчас тых дзвюх-трох сустрэч: словы (як для яго, Ковача, то абсалютна пэўна) ніколі не мелі асаблівага значэння ў адносінах з жанчынаю. А тут — актрыса... лялька ў мужчынскіх руках... Вядома, лапатала штосьці на сваёй птушынай мове, перш чым пачынала стагнаць у ягоных руках, але і ў галаву не прыйшло б усур'ёз услухоўвацца ў падсаладжаныя момантам словы! Разумеў, што за ўсё трэба плаціць, і амаль адразу, без доўгіх роспытаў, ведаў, чаго ад яго чакала Люба-Любоў: усе яны чакалі і прагнулі аднаго — вядомасці. Славы! І не тлумачыць жа прыгожай жанчыне, распаленай страсцю, што і вядомасць, і слава не варты ніводнага з такіх імгненняў, — калі наогул чаго-небудзь варты...

Ковач глыбока зацягнуўся, нават папярхнуўся дымам — і рашуча патушыў цыгарэту: знайшоў чым бавіцца, забыўшыся на ўзрост? Што было — было. Ён — заплаціў за кароткія ўцехі напоўніцу, і хто б мог яго папракнуць? Хто — з тых, каго яна потым прывячала ў сваім ложку?

— Ты казаў, што любіш... — зноў з'явіўся, прагучаў у ім голас.

— Кожны чуе тое, што прагне пачуць, — не стаў адмахвацца ад думкі Ковач. — Ні розніца ва ўзросце, ні неадпаведнасць уяўленага рэальнасці не спыняе.

— Рэальнасць у любві — сама любоў.

— Скамечаная пасцель, падкамечаныя збуджанай у целе жарсцю абяцанні і прызнанні — не любоў, і толькі наіўныя дурніцы вераць у прызнанні цела, — невядома каму патлумачыў Ковач, міжволі нядобрым словам памянуўшы таго, хто скіроўваў на гэту ўяўную спрэчку яго думкі. — І толькі такія старыя дурні, як я, потым пачынаюць апраўдвацца хто ведае за што!

— Апраўдваецца той, хто вінаваты, — мякка папракнуў голас, які і жаночым наўрад ці выдаваў з усёю пэўнасцю.

— Ві-на-ваты?! За што? За тое, што не адпіхнуў прыгожую жанчыну, якая ліпла да мяне? Што разлічыўся за любоў тым, чаго прасілі? Што не азірнуўся, аднойчы развітаўшыся назусім? — ён быццам абкручваў сябе непрагучалымі і ад таго яшчэ больш даўкімі пытаннямі, хоць і адчуваў, што зноў навальваецца незразумелая стома. Цяжкая, непад'ёмная стома...

Міжволі прыкрыў вочы. Нават далонню — паверх павекаў. І не проста адкінуўся на высокую спінку крэсла, а як уплішчыўся ў яе ўсім цяжарам цела. Здэцца, каб можна, зліўся б з ёю, шукаючы ці то абароны, ці то спакою — хвіліны спакойнага адпачынку. Але думкі вярэдзілі душу, малюючы, выяўляючы то адну карціну, то другую. Дакладней, не карціны, а фрагменты іх, якія самой гэтай фрагментарнасцю нагадвалі нейкія сколкі, абрыўкі, чарапкі цэлага. Чаго — цэлага, у думках не чыталася. Мо таму, што Ковач і не хацеў нічога прачытваць ці ўдакладняць. Галоўным скрозь была работа, а побыт, сям'я — тым больш, выпадковыя знаёмствы! — заставаліся калі і не па-за свядомасцю, то ўжо ж, не на пярэднім плане яе. Партыя развальвалася, улада ледзьве ліпела, ужо амаль няздольная прадухіліць распад краіны ці хоць бы не застацца каля разбітага карыта, а думкі разбрыдаліся — расцякаліся хто ведае куды...

— Апраўдваецца той, хто вінаваты, — вярнулася ўжо прагучалае колькі хвілін таму, і гэты раз Ковач ніяк не зрэагаваў на словы: апраўдвацца — перад кім? Перад ахвяраю ўласнага глупства? Перад сабою?

— Прэч! Прэч усе ўзгадкі! — мовіў уголас і рашуча выпрастаўся ў крэсле. Пакратаў плячамі, быццам гэтымі няспешнымі рухамі атрасаўся ад здранцвення, і, уключыўшы сувязь з прыёмнай, загадаў выклікаць машыну.

* * *

Эвеліна, разваліўшыся ў крэсле так вальяжна, як магла толькі яна, пакручвала ў пальцах цыгарэту, нібы раздумвала, прыпальваць яе ці пакласці ў пачак і засяродзіцца на тым, што, часам зрываючыся на фальцэт, даводзіў ёй Пекар. Але цяпер гэта давала занятак пальцам і, калі яна над чым і раздумвала ў гэту хвіліну, то над тым, чаму такія чыноўныя пацукі, як ён, аказваюцца ва ўрадавых структурах: прагрызаюць сабе дарогу, ці што? Акцёрам некалі хацеў стаць — не стаў, не пацягнуў. У рэжысёры спрабаваў падацца — на партыйную работу вылучылі. А там прасцей: сачы, каму, дзе і як прыслужыць — і ўся работа. За каго даведкі пісаў, каму дзве-тры ідэйкі ў даклад падкідваў, а з кім вышэй і ў верных лакеях пахадзіць год-другі не саромеўся...

— Ты не слухаеш мяне, Эвеліна! — перастаў Пекар размахваць рукамі і ўтаропіўся ў жанчыну.

— Пакуль што не было чаго слухаць, — прыўзняла яна цяжкія ад тушы вейкі. — Супакоішся — скажаш. Пашукаў бы лепш агню.

Гаварыла ленавата, разглядвала колішняга свайго палюбоўніка калі і не грэбліва, то без імпэту. Пастарэў... Мяшкі пад вачамі... За дамачкамі наўрад ці ўхлёствае, як раней: няма чаго прад'явіць...

— З мяне скуру здымаюць, а ёй хаханькі!

— У такіх, як ты, my dear, новая скура тут жа вырастае, так што скарга не прымаецца, — не ўсміхнулася Эвеліна і, назіраючы, як ён корпаецца ў шуфлядзе ў пошуку запалак, спакойна адкрыла сумачку і ўзяла за-

пальнічку. — Чаго ты ўсхадзіўся, быццам пораху пад хвост сыпанулі? Даручана правесці выхаваўчую гутарку — праводзь. А то: нігілізм! западэншчына! знявага ўлады, вінаватай за амаральнасць усіх і кожнага!

— Дык ты ўсё-ткі чула ўсё, што я думаю...

— Ты ніколі ні пра што не думаеш, my dear, і мы абое гэта ведаем, — пстрыкнула яна запальнічкаю, і хутка прыемны пах дарагога тытуню паплыў над сталом, каля якога сядзела ў залішне вольнай для начальніцкага кабінета позе. — Ты паўтараеш тое, што кажуць твае начальнікі, паплечнікі ці сабутыльнікі. І правільна робіш! Так лягчэй. І бяспечней. Калі ўсур'ёз успрымаеш сваю пасаду.

— Хто каго выхоўвае? — гэпнуўся Пекар на крэсла насупраць, наперад пагадзіўшыся, што ніякая гаворка ні да чаго не прывядзе. — Не я ж, а ты напісала: «У нас няма палітыкаў, ёсць партфункцыянеры».

— І што? Я схлусіла?

— А вось яшчэ шэдэўр: «Любая імперыя хавае сябе пад сваімі абломкамі, сённяшні час — не выключэнне», — моршчыўся, удыхаючы цыгарэтны дым, Пекар. — Маеш на ўвазе...

— Ты цудоўна разумееш, што я маю на ўвазе! Даўно быў у Прастольнай?

— Пры чым тут...

— Пры тым, што ніводзін з былых не патлумачыць — не ведае! — хто сёння на перадавой, хто ў абозе: старыя разумнікі павыміралі, новыя да новага прыглядваюцца, кішэні расшываючы.

— Пры чым тут... — зноў недагаварыў ён.

— Даць цыгарэту? А то храпамі, як конь, паводзіш, — перакінула нагу на нагу Эвеліна.

— Не, не! — як спалохаўся, падхапіўшыся і вяртаючыся на сваё месца, той. — Кінуў. Завязаў. І не загаворвай мне зубы, Эвеліна! З чаго табе раптам схацелася чужых гусей дражніць?

— Чужых? Ужо — чужых?! — засмяялася яна. — А як жа з вядомым: «Усё вакол народнае, усё вакол маё»? Ці пасля таго, як маскі аказаліся намаляванымі і пацяклі, стала відаць, што не сваю ролю ўвесь час іграў?

— Э-ве-ліна! — ёрзаў Пекар, даўно не рады, што па настойлівай просьбе зверху запрасіў да сябе на гаворку гэтую... гэтую аўтарку... А то ён Эвеліну не ведаў! Ды яна такіх, як ён, дзесятак вакол сябе пакладзе!

— Што? Штаны замулялі? — весялілася тая, не знаходзячы ў душы ні кроплі патолі: Пекару міністрам ужо не стаць, а без высокага крэсла ён і выведзенага яйка не каштаваў. — Заму-у-лялі! Адно і суцяшэнне, што не аднаму табе.

— Якая ж ты ўсё-ткі дрэнь! — зазлаваў Пекар, забыўшыся на меры перасцярогі. — Вечна выстаўляеш сябе перад любым з нас непадступнай амазонкаю, а сама з таго ж цеста, што і ўсе. З таго ж, што і ўсе, родненькая!

— Мо і з таго ж, ды не ўсім па зубах, — бліснула злосным позіркам Эвеліна і тут жа зноў засмяялася. — А пра амазонку — ты ў самую кропку, my dear! Я ўсё ніяк не магла вызначыць ролю, што падышла б мне, а ты, аказваецца, бачыў... Убачыў!

— Для нечага ж я тут сяджу, — астываў той (ці, дакладней, астуджваў сябе пасля ўспышкі). — Прашу прабачэння за няструманасць, але і ў ЦК узгрэлі, і ты... Хоць бы для прыстойнасці змоўчала!

— Божа мой! Ты, Пекар, яшчэ такія словы, як прыстойнасць, памятаеш?

— Паслухай, Эвеліна. Не ведаю, якая муха цябе ўкусіла і што табе ўздумалася высвятляць у адносінах паміж чыноўніцтвам і ўладаю ме-

навіта цяпер, калі і так усё хістка, але спадзяюся, што індульгенцыю ты на ўсякі выпадак прыдбала. Раптам абернецца ўсё не так, як вымалявала?

— Маляваць і без мяне было каму, — прытушыла цыгарэту і задумліва разглядвала Пекара Эвеліна. — А наконт індульгенцыі... Хто калі ў гэтым свеце звяртаў увагу на нечыя граматы і дазволы? Ты яшчэ ўбачыш, як будуць паліць партбілеты тыя, хто душы сваёй не шкадаваў каб займець іх. Ужо сёй-той адхрышчваецца ад прыналежнасці да партыйнай касты, не надта таячыся ад астатніх. Быццам выклік кідаючы грамадству: хто — наступны?! Не ты, my dear?

Пекар не адказаў. Не так з боязі, як ад нечаканасці павароту гаворкі: замест таго, каб прыняць (хоць бы вонкава!) ушчуванні, якіх сваім артыкулам заслужыла, пацвельваецца, як заўжды...

— Пагарджаць такімі, як ты, лёгка, а даводзіцца ж мець справу сядытады, — прадоўжыла, адвярнуўшыся, Эвеліна. — І няхай бы толькі ў ложку! — там хоць ініцыятыву льга ўзяць на сябе, а то і ў жыцці, і ў прафесіі. Вось ад чаго нос верне.

— Цябе б на маё месца! — буркнуў той.

— А то ты яго аддаў бы! — нават не ўсміхнулася яна. — Зубамі ўчапіўся б у выпадку чаго: столькі пагарды сцярпеў, каб выбіцца, столькі чыноўных задоў вылізаў!

— Ды ты... Ты!

— Дагаворвай, my dear. Нічога новага не скажаш, бо і ў душы і ў думках калі не сцервай, то прыгожай сукаю даўно такіх, як я, называеш. Хоць і ведаеш, што пазногціка майго не варты. Ні ў справе, ні ў ложку.

Пекар, якога душыла злосць, сарваўся з месца, падскочыў да яе і, наткнуўшыся на яе халодную пагарду, не адразу знайшоўся, як, чым адказаць: не размазваць жа аплявуху па гэтым прыгожым твары, каб іскры з вачэй сыпанулі! — і выхаванне не тое, і твар не той.

Эвеліна зноў пстрыкнула запальнічкай, прыкурыла новую цыгарэту і няспешна адкінулася на спінку крэсла, з-пад паўапушчаных вейкаў назіраючы за ім, за яго таптаннем вакол стала, вакол яе крэсла. Калі надакучыла, выпрасталася, пакратала плячамі, падняла пагляд.

— Мяркую, гаворка завершана?

— Гаворка?! — узрадаваўся той, што напружаныя хвіліны маўчання мінулі. — Ды ты нічога з таго, што я казаў, і на дух не ўспрыняла, не тое што...

— Калі гэта я ўсур'ёз успрымала твае словы, my dear? — грацыёзна, як котка, пацягнулася яна. — Ты ж проста рупар таго, хто на прыступку вышэй: уключаць — гаворыш, выключаць — шукаеш няспраўнасць. І марна робіш выгляд, што пакрыўдзіўся: не гэткае цярпеў і церпіш штодня, абы крэсла не забралі.

— Крэсла... крэсла... — зноў гэпнуўся той на крэсла насупраць. — Тут паленым з апраметнай запахне, калі што...

— Паленым? З апраметнай? — пасунула яна яму цыгарэты і запальнічку. — А мы дзе, па-твойму, жылі і жывём? У райскіх кушчах?

— Райскіх, не райскіх, але ж пэўнасць ва ўсім нейкая была, — павагаўшыся, узяў той цыгарэту і закурыў. — Была — і заканчваецца. Чорт галаву зломіць, куляючыся паміж супрацьлегла рознымі рашэннямі і патрабаваннямі! З Дома — адно, з Масквы — другое...

— Фігара тут, Фігара там... Не спрабаваў спыніцца?

— Спыніцца дзе? Для чаго? — не разумеў ён.

— Ды проста спыніцца, — злёгку пацвельвалася Эвеліна. — Адных пасляць у адзін бок, другіх — у другі. Можна ж і не агучваючы, калі словы ў горле ад страху захраснуць. Няўжо ніводнага разу не замуляла вымацюкацца ў адказ на чыё-небудзь распараджэнне?

— Ага, — закашляўся той, але цыгарэту не патушыў, — і ў той жа дзень апынуцца...

— Там, дзе чорт свіней гадуе, — дагаварыла за яго Эвеліна, пасміхнуўшыся. — Дык шмат хто апынецца там неўзабаве. На пацеху новай публіцы.

— Яшчэ накаркаеш! — жэстам паказаў ён угору, нагадваючы, што кабінет мог праслухоўвацца. — Ужо сёння публіцы дагадзіць немагчыма. Калі ты — пра тэатр.

— Тэатр выраджаецца, — выпускала яна колцы дыму і дзівілася на іх неяк залішне сур'ёзна. — Як і грамадства. А натоўпы... тыя, каго мы схільныя лічыць публікаю, шчэмяцца на сцэну, выцясняючы прафесіяналаў. І якімі оргіямі гэта завершыцца ў хуткім часе, ніхто не возьмецца прадказваць. Ніх-то!

— Ну-у, ты ж узялася, — буркнуў той, узгадаўшы мэту загадзя спланаванае сустрэчы. — Артыкул нават для пасвечаных залішне рэзкі, а ўжо начальства...

— С... мне на тваё начальства, my dear!

— Эве-лі-на! — рашуча патушыў Пекар цыгарэту, папракаючы сябе ў душы: рассіропіўся! былое ўзгадаў! усякую лухту выслухоўвае! — Ты ж ва ўстанове...

— А-а-а! — засмяялася яна. — А я і забыла, што яна яшчэ стаіць, яшчэ не рассыпалася на друзкі, твая ўстанова! Што ж ты, намеснік міністра, не абяцаеш мне новае званне за згоду супрацоўнічаць? Бізун адляскаў — дзе пернік? Ці ты не ўпаўнаважаны раздаваць пернікі?

— Эвеліна Анатольеўна, — перайшоў той на афіцыйны тон, ледзь толькі заняў сваё звыклае месца. — Я ўпаўнаважаны сказаць вам, што сваім злосным пяром вы дыскрэдытуеце дзяржаўнае выданне, і наперад...

— ?!

— І наперад, — не даў ён сябе перапыніць, — папрасіў бы вас не падстаўляць супрацоўнікаў і галоўнага рэдактара часопіса, якім, у адрозненне ад вас, ёсць што губляць.

— Ды пайшоў ты! — паднялася і, кінуўшы непатушаную цыгарэту ў попельніцу, пайшла Эвеліна да выхада. — Чытай свае пропаведзі каму іншаму — каму дурнейшаму! Ка-азёл!

Апошняе прагучала якраз у той момант, калі адчыніліся дзверы ў пакой сакратаркі, і ніхто там, у пакоі, як ён разумеў, вушэй не затыкаў. Пекар ажно зубамі скрыгануў, заціскаючы ў роце брудныя мацюкі, якія з задавальненнем шпурнуў бы ўслед гэтай раз'юшанай ведзьме: і нож бы ўсадзіла па самую ручку ў грудзі, пасміхаючыся!

Азвалася сэрца, і ён змусіў сябе апусціцца ў крэсла і адсунуць шуфляду: недзе там ляжала за паперамі ўпакоўка валідолу...

— Усё ў парадку? — зазірнула ў дзверы сакратарка.

— Так, так, — змусіў ён сябе ўсміхнуцца. — Вы ж ведаеце пра імпульсіўнасць характару Эвеліны... Анатольеўны.

З палёгкаю ўздыхнуў пасля таго, як і за ёю зачыніліся дзверы. Паклаў таблетку пад язык. Паспрабаваў расслабіцца, выкінуць з галавы толькі што адыграную сцэну, і тут жа з недаўменнем заўважыў: і ён думае пра перажытае, як пра спектакль...

* * *

Для наведвання могілак Саня выбрала будні дзень. І нават сябрам не сказала, збіраючыся да Любашы: хацела пабыць у палоне соснаў, адной, сам-насам са спомінамі, і пагаманіць з Любашаю хоць у думках. Не так пагаманіць, як пажаліцца. На людскую абыякавасць. На адзіноцтва, якое засягвала ўсё глыбей. На ўласнае бяссілле там, дзе патрабаваліся воля і нязломная сіла. На тэатральныя будні, урэшце!

Будні, будзённая руціна, ад якой і раней цяжка было адкаснуцца, цяпер паглынула ўсё: на рэпетыцыях і акцёры, і рэпетытары пазяхалі, спектаклі ішлі ў паўпустой зале, пра перспектывы новай пастаноўкі ніхто не абзываўся, пазбягаючы пры стрэчы з галоўным рэжысёрам не толькі намёкаў, але і бяскрыўдных пытанняў: любое пытанне магло выклікаць буру, а новую буру ніхто ўвогуле не перажыў бы. Вось і адводзілі позіркі пры стрэчы, вось і пазяхалі, хаваючы раздражнёнасць ці хандру — абы дзень да вечара, абы вечар без лаянкі...

«У царкву трэба б схадзіць! Намерыцца — і пайсці...» — мільганула ў душы, і ў Сані ад нечаканасці думкі нават дыханне на міг перахапіла: падказка ці знак які?

Засяроджвацца на думцы не стала: ведала, што вернецца да яе ў больш зручны момант, у якую цішэйшую хвіліну. Бо хоць і не біткам набіты аўтобус, а і цяпер, удзень, штурханіны хапала. Асабліва на прыпынках. Усе некуды спяшаліся: некаму мусова трэба было ехаць, некаму карцела выйсці. Да рэплік самых нецярплівых лепш было ўвогуле не прыслухоўвацца. Што Саня і рабіла.

Бліжэй да канечнага прыпынку стала спакайней, і, узіраючыся ў акно, у тлумнае жыццё праспекта, Саня бачыла зусім не тое, што мільгала перад паглядам: выразна, да асобных дэталей моднай блакітнай кофтачкі і самых тонкіх рысаў твару паўставала перад ёю Любаша. Так, так, аўтобус рухаўся, гарадскія кварталы адзін за адным заставаліся ззаду, а яна — такая, якой упершыню ўбачыла яе Саня непадалёку ад увахода ў тэатральна-мастацкі інстытут, — стаяла, лёгенька, у такт адной ёй чутнай мелодыі пахітваючыся. Быццам прытанцоўваючы... І ўсміхалася. Не ёй, Сані (хоць, мажліва, і ёй), а гораду, вясноваму дню, ліпам, на якіх прадзёўбвалася лісце, небу без адзінае аблачынкі... Сваёй маладосці, адным словам! І столькі чыстага святла было ў ёй, столькі іскрыстай радасці выплёсквалася праз усмешку, праз ясны позірк, што Саня вачэй не магла адвесці.

— Вы што, не выходзіце? Канечны прыпынак!

Зірнула ўслед жанчыне з ванзэлкамі, якая працісквалася ў дзверы, і тут жа зразумела, што, апроч яе, у салоне ўжо нікога не было.

— Так, так, — таропка пацвердзіла свой намер пакінуць аўтобус, хоць, хутчэй, з нечым іншым пагаджалася, згадаўшы свае думкі.

Ад прыпынку да брамы Маскоўскіх могілак — невялікі прамежак шляху, і на ўсім прамежку — нікога, ніводнага чалавечка. Саня ўздыхнула, быццам (няхай і не прызналася б у тым нават сабе) нейкім крайком душы спадзявалася, што Любаша чакала яе тут, — стаяла ж яна толькі што перад паглядам! усміхалася! Уздых не прынёс палёгкі, але прыспешыў — і Саня пайшла ўбок пляцоўкі перад далекаватаю адсюль брамаю, дзівячыся адно на сосны. На сосны і неба над імі, чыстае-чыстае, без адзінай аблачынкі.

Пра што думала? Ды ні пра што. Няспешна ішла, забыўшыся на час, які застаўся там, у горадзе, на тлумным праспекце, і не меў да яе ніякага дачынення. Набліжаючыся, вышэлі маўклівыя, прысыпаныя снегам сосны — нават сонечныя водбліскі, здавалася, прыстылі да цяжкіх галін і ніводным усплёскам не парушалі гэтай маўклівасці, маўклівай журботнай велічы месца. І хоць не першы раз наведвала яго Саня, міжволі адчувала ціхае ўзрушэнне, і сустрэча з памяццю, якая прывабіла думкі, ужо ўяўлялася сустрэчай з цішынёю. З той цішынёю, што з кожным крокам ўсё шчытней ахінала, атуляла, абдымала яе, а ў хуткім часе, пасля таго, як прайшла Саня праз браму і ступіла на заснежаную алею, паглынула ўсё. І мінулае, і цяперашняе.

Удыхаючы марознае паветра і дзівячыся на водсветы неба паўсюль — на сумётах праваруч і леваруч ад руху, на камлях і галінах соснаў, шукала паглядам патрэбную сцежку. І наўрад ці адшукала б адразу (столькі снегу панамятала ўкруг!), калі б не ўбачыла грудок з вянкоў і кветак, толькі злёгку прыцярушаных інеем, метраў за дваццаць ад цэнтральнай алеі.

— Я прыйшла, Любаша! Ты пагукала мяне — і я прыйшла... — падумала ці прашаптала Саня, і рэха думкі, крануўшы нахіленую цяжарам наліплага снегу галіну, асыпалася празрыстай аблачынкаю інею проста на плечы.

Непадалёку заценькала сініца, ёй азвалася другая — і зноў усё аціхла. Ледзь чутна парыпваў снег пад нагамі, глыбела, запавольваючыся, дыханне. Бязгучна пырхалі вакол сонечныя бліскі, і крокі Саніны цішэлі, цішэлі. Пакуль увогуле не аціхлі, прыстыўшы да пратаптанае ў снезе сцежкі.

Перш чым пакласці ружовыя гваздзікі, Саня намерылася змахнуць іней з прымерзлых да грудка кветчын, але штосьці ўтрымала руку. Упалі, рассыпаўшыся круга, гваздзікі, і калі яна выпрасталася і падняла пагляд, то знямела ад нечаканасці. Спачатку — ад нечаканасці, якая нават напужала яе ў першы момант, потым — ад захаплення, якое межавала з містычным жахам. Саня не трызніла, не! Яна нават вачэй не заплюшчыла, знерухомеўшы. І калі б раптам уздумала спытаць, што азначала сцэна, якая паўстала перад паглядам, пытаць не было б у каго: нікога — на ўсёй бачнай прасторы могілак. Нікога, апроч...

Розум адмаўляўся верыць, а душа ўжо цягнулася да таго, што адкрывалася ёй: крокі за тры ад сцежкі — там, дзе толькі што ўзвышаўся над грудаю кветак драўляны крыж, бачыліся ёй дзве постаці ў белым. Адна — зіхоткая — уся акружаная ззяннем! — стаяла тварам да той, што ўкленчвала, і Саня чамусьці баялася паверыць у т а к у ю стрэчу, у т а к о е шчасце. І сама б укленчыла, апусцілася на калені проста ў снег, калі б здольная была зварухнуцца. Яна і ўсвядоміць не магла ўзніклае жаданне, не тое што выканаць.

Ад Маці Божае (ад каго ж яшчэ?!) сыходзіла такое яркае ззянне, што часам усё патанала ў ім, — і толькі душа Саніна сваім нястрымным парываннем прарывала ўзніклую запону. Больш таго: усё-ткі ўставала перад Багародзіцаю (не Саня, а душа яе) — і ўразумець, як падобнае магло адбывацца, калі ўвогуле адбывалася, не дадзена нікому са смертных: ні ёй, ні кам б там ні было. Ды ў гэты момант і не хацела Саня нічога разумець: не розум — сэрца валодала цяпер усімі правамі...

«Ты давярала жыццю, а не ўласнаму сэрцу, — гучалі ў ёй словы. — Але толькі сэрца можа крануцца прамень Ісціны, прамень Любві».

«Любаша загінула ад нелюбві», — міжволі запярэчыла яна ў душы, тут жа спалохаўшыся, сцяўшыся ў чаканні адказу.

«Шлях заўсёды вядзе чалавека ад нелюбві да Любві. Тут, на Зямлі, вонкава, рух можа перапыняцца, нават перарвацца на адно-два імгненні, вяртаючы таго, хто заблукаў, на адно-два жыцці назад, але рух прадоўжыцца. Абавязкова прадоўжыцца, каб выправіць часовую, выкліканую часовай апантанасцю крывізну думкі, аднавіць абламаную прыступку росту, аднавіць радасць быцця. Разуменне гэтага прыходзіць праз пакуту, так. Але сіла — і сіла любві таксама! — адно пакутаю прырастае. Пакутаю, прынятаю з радасцю і тым самым радасцю пераадоленаю...»

«Якая радасць у тым, каб памерці маладою?» — мільганула ў ёй нязгода.

«Той, хто апынуўся ў тупіку, змушаны вяртацца назад і пачынаць усё спачатку. З любві, а не з нелюбві».

«Я любіла яе!»

«Любіш... Любіш і будзеш любіць», — мякка азвалася на яе вокліч пространь, і раптам такім цяплом, такім шчасцем напоўнілася душа, што, здаецца, і вытрываць немагчыма. Саня захлыналася шчасцем, плакала ад шчасця, не чуючы гарачых — гаючых — слёз, узіраючыся ў сляпучае ззянне непадалёку — у Тую, ад Каго яно сыходзіла, лілося на зямлю, і бачыла то Любашу, то сябе на каленях перад Ёю.

«Маці Божая! Святая Багародзіца!» — прасіла Саня, а чаго прасіла, і сама не ведала.

Перш чым пачало згасаць ззянне, адчула бязважкі дотык рукі... ці толькі пяшчотнага павеву... Схіліла галаў, на міг убачыла сваю маці, яшчэ маладую, і сябе, малую, заплаканую, у яе на руках. Памкнулася ўцерці слязінкі, потым, верачы і не верачы пагляду, ціха пагукала:

— Мама!

Гучна зацэнькалі ў адказ сініцы — чародка іх успырхнула з нізка навіслае над сцежкаю галіны, гучна зарыпеў пад нечымі крокамі снег крыху воддаль, і цішыня растварылася ў гуках зімовага дня, якія раптам быццам ажылі, вяртаючы і яе, Саню, да рэальнасці гэтых пражываемых хвілін.

— Мама! — ужо адно сцятымі вуснамі паўтарыла яна і толькі тады заўважыла, што стаіць на каленях проста ў сумёце, за крок ад прыцярушанага інеем крыжа, невядома як там апынуўшыся, невядома чаму гукаючы да маці, памерлай пазалетась: прыйшла ж на магілу Любашы, да яе...

Падымалася няспешна, спрабуючы ўспомніць штосьці важнае і імгненна забытае. Потым яшчэ хвілінку пастаяла моўчкі і, не крануўшыся крыжа, стала выбірацца з сумёту на сцежку. Хацела паправіць шаль, якая спаўзла на каўнер футра, але так і не паправіла. Пагляд упёрся ў фота, якога дагэтуль не бачыла з-за ссунутых вянкоў: Любаша ўсміхалася ёй з фота светла і радасна, і Саня не вытрымала — заплакала ўголас, наўзрыд, не хаваючыся.

* * *

Вярнуўся з Масквы Ковач з цяжкім сэрцам: ведаў, бачыў ужо, што ішоў развал партыі, але не думаў, што працэс зайшоў так далёка і, па сутнасці, стаў незваротным. Каб утрымаць ці, тым больш, выправіць сітуацыю, трэба было прымяніць сілу, сілавое ўздзеянне — ды хто б яе пры-

мяніў, як былы генсек даўно хадзіў з падцятым хвастом не толькі перад лідэрамі заходніх краін, а і перад арангутангамі мясцовага разліву, якія рваліся да ўлады, ламаючы, крышачы ўсё без разбору? Трыкалор, сцяг свабоднай Расіі, вочы засціў, а тое і ў галаву не прыходзіла, што ні свабоду, ні свабодную Расію з латак потым не сшыеш: то адзін шывок разыдзецца, то другі. І што потым папрэ праз дзіркі, утвораныя разрывамі, аднаму д'яблу адгэтуль відаць...

Думкі тузалі, як ні бараніўся ад іх, як ні стараўся з іх выбавіцца. І хоць у купэ ехаў адзін і хуткі цягнік мерна адстукваў начныя кіламетры, сон не ішоў: бакі змуляў Ковач, варочаючыся, а сну не было ні ў адным воку.

— Скамарохі! Шуты гарохавыя! — нягучна вылаяўся, каторы раз падымаючыся, каб булькнуць у шклянку каньяку: не было выпадку, каб піў калі адзін, а тут... А тут гатовы пляшку залпам асушыць, абы даць душы адпачынак!

Пляшка паціху пусцела — думкі, хоць крыху і запаволілі цяжкі свой рэй, не адпускалі. І ціснулі на душу, прыгнечвалі, каменя на камені не пакідаючы ад колішніх спадзевак: яны, паточаныя рознымі пражэктамі перабудоўшчыкаў, і раней не вельмі ўсцешвалі, цяпер жа, пасля сустрэч не адно з кіроўцамі перабудовы, а і з сябрамі, што належалі да «старой гвардыі» і так і не ўпісаліся ў новыя часы, як ні перажывалі за згвалтаваную дзяржаву, ад спадзевак і ўвогуле нічога не засталося. Непрафесіяналізм ва ўсім... Ды што там — непрафесіяналізм?! Местачковасць! Местачковая прага вылезці «на самы верх», красавацца перад усім светам! То адзін, то другі прадстаўнік гэтага «свету» прагматычна адхопліваў, аддзіраў кус за кусам ад таго, што складала Савецкі Саюз, а ім у адказ толькі дзякавалі... І ў вернасці «дэмакратычным» ідэалам кляліся...

— Цьфу! — сплюнуў Ковач горкую думку, перш чым, моршчачыся, дапіў каньяк, і зноў распластаўся на мулкім вагонным матрацы.

Ляскаталі колы. Парыпвала недзе над дзвярмі кепска замацаваная панелька. Пахістваўся раскалыханы рухам цягніка змрок, які запаўняў купэ, і, зрэдку раздзіраемы на колькі імгненняў бліскамі ліхтароў за чыгуначным палатном, дзесьці над соннай, засыпанай снегам станцыяй, быццам пакрэктваў у адказ на ўвагу Ковача. Увагу няпэўную, расплывістую, як сама ноч, што не ўтрымлівала цягнік, а неслася ўслед за ім — па ягоных думках, праз ягоныя думкі... І ці лёткі рух гэты, ці выпіты каньяк — а мо і тое, і другое разам? — уплывалі на іх, але хутка Ковач ўжо нічога не ўзгадваў, нічога не ўспрымаў, апроч пaляскваня колаў і пахітвання спаласаванага промнямі ліхтароў змроку побач. Побач — і над сабой...

Праўда, зрабіўшы пэўнае намаганне, заўважыў: над ім змрок здаваўся бяздонным. Быццам не стрэшка вагона, а начны прасцяг пакалыхваўся ўгары. Усё вышэй і вышэй. Так што ў хуткім часе пагляд проста не дацягваўся да нейкай мяжы яго — тануў, патанаў у бязмежжы, перш цёмным, амаль чорным, потым усё больш разрэджаным і пасвятлелым. «Ноч мінае, ці што?» — мільганула далёкае і нібыта чужое, незнаёмае недаўменне: ён жа толькі прылёг, толькі збіраўся прыкрыць вочы краем ручніка і чарговы раз паспрабаваць заснуць!

Мяжа паміж яваю і сном чэзла, знікала, але гэтага Ковач ужо не ўсведамляў. Вышыня — ці, дакладней, глыбіня — уцягвала, зацягвала ў свае тоні пражытае і перадуманае, зацягвала яго самога, і з'явілася дзіўнае адчуванне лёгкасці. Так, нібы ён раптоўна выбавіўся ад усіх повязей з жыц-

цём — і адпачываў. І было не важна, колькі такіх хвілін адпачынку выпала яму гэтым разам, — яны выпалі, доўжыліся, кіруючыся нечым па-за яго свядомасцю, па-за рэаліямі здоўжанай ночы.

Хоць якія ўжо там рэаліі! Усёй рэальнасці, што паляскванне жалеза, ды і яно хутка пачало нагадваць паляскванне бізуна, перш — па камені, потым — па нечыіх стогнах. Удар за ўдарам — рытмічна, няўхільна, бязлітасна, і што самае дзіўнае: рэха іх іскрамі рассыпалася кругa, каб праз міг-другі яркія іскры-бліскі ўзмывалі ўгору, застываючы там россыпамі зорак. Самых сапраўдных зорак і зорачак! Яны нават паміргвалі...

— Гэта яшчэ што за чартаўшчына? — не пацікавіўся, а, хутчэй, абурыўся Ковач, шукаючы паглядам відочную праяву хоць бы якой прычыны: нечым жа гэта павінна было вытлумачвацца!

— Ну, чаму адразу — чартаўшчына? Тэатр. Тэатральны эфект, — прыйшло тлумачэнне, і Ковачу ў галаву не стукнула задумацца, адкуль — прыйшло.

— Тэ-атр? — перапытаў, азіраючыся.

Здалося, менавіта тое, што заазіраўся, змяніла бачную карціну. Змяніла кардынальна. Бо вось ужо — ні цёмнай пространі вакол, ні паміргвання зорак, ні іскраў ці іскрачак. Змрок раптоўна саступіў святлу, і калі спачатку святло было цьмяным, халодным, то ў наступныя імгненні значна пацяплела, паступова набіраючы яркасць, і адразу выразна ўбачыўся брукаваны пляц, каменная сцяна высокай будыніны за ім, рухомыя цені на сцяне.

Ковач напружана ўзіраўся ў іх, каб зразумець, дзе іх гаспадары і хто яны, а святло ярчэла — і так хутка, што, здавалася, вось-вось выбухне, як выбухнула б ад перанапружання электралямпачка. Ён нават заплюшчыў вочы, перасцерагаючыся, але перасцярога аказалася марнаю, бо, і не пазіраючы, усё да драбязінкі і ледзь заўважнай шчэрбінкі на каменнай сцяне выразна бачыў.

«Ат!» — адмахнуўся, скараючыся непазбежнаму, узгадваючы, што ўвогуле збіраўся заснуць, адпачыць, а не бадзяцца думкамі хто ведае пад чыімі сценамі...

«Хіба зусім незнаёмая сцяна? — пакпіў нехта нябачны. — І зубцы яе нічога не нагадваюць?»

«Якія яшчэ зубцы?» — не зразумеў ён, але тут жа пазнаў чырвоную зубчастую сцяну, і плошчу, і цёмную ўсечаную піраміду маўзалея, і постаці наверсе... Хоць наконт таго, чые постаці, мо і памыляўся: адразу, з усёй пэўнасцю сцвярджаць не ўзяўся б. Ці мала хто там стаяў! Ды і ці стаяў, невядома: цені на сцяне зніклі, яны з'явіліся...

«Дурню сёе-тое з неверагоднага паказаць хочуць, а ён за разважанні чапляецца», — азвалася цішыня, і Ковач не знайшоў, чым адказаць: што — адказваць? каму?

А дзеянне ўжо было запушчана, спружына пачала раскручвацца, і хоць адчуванне калі не ўдзелу, то прысутнасці падчас разыгранага дзеяння заставалася, нідзе і ніяк ён сябе больш не ўсведамляў, ні з чым і ні з кім не атаясамліваў. Усё адбывалася без яго ўдзелу і неўзапраўду — так, нібы разыгрываўся дзіўны спектакль тэатра марыянетак, дзеючыя акцёры якога заставаліся за шырмаю (дакладней, за каменнымі парэнчамі маўзалейнай трыбуны), а ўсе ролі выконвалі марыянеткі. Лялькі!

Вядома, кожная лялька нагадвала аднаго з вядомых лідэраў партыі і дзяржавы, але пэўны час, пэўныя абставіны не ўплывалі ні на іх вобра-

зы, ні на іх паводзіны. Хто ў вайсковым фрэнчы ўзору дваццатых гадоў, хто ў цывільным, хто ў форме военачальніка, завешанай гірляндамі ўзнагарод самага рознага кшталту, хто ў акулярах, якія засланялі ўвесь твар, а то і ўсю постаць. Іх можна было назваць. Пайменна. Але імёны ў гэтым спектаклі не мелі ніякага значэння для ходу дзеяння: і сюжэт, і акцёры, няхай і ў пазнавальных ролях занятыя, — выдавалі вечнымі, вечна запатрабаванымі. Ды так яно і было, бо ў сляпой і жорсткай барацьбе за ўладу паўсюдна, дзе мелася хоць якая вышэйшая прыступка, працаваў адзін і той жа закон: хто — каго. Сродкі маглі быць любымі: пераможцаў не судзілі... Звычайна, не было каму судзіць...

Зразумець, што адбывалася на імправізаванай сцэне, Ковач нават не памкнуўся. Мо таму, што не бачыў сябе, свайго месца ці ролі ні на трыбуне, ні сярод публікі, хоць нейкім чынам не толькі прысутнічаў, але і быў задзейнічаны ва ўсім. Калі верыць адчуванню і пагляду. Усё — проста на вачах — мянялася, жыло і знікала па нечай волі, быццам хто нябачны тузаў за нябачныя матузкі, сціраў ці мяняў дэкарацыі, асуджаў — каго на жыццё лакея, каго на смерць. І адно і другое выглядала скамарошым розыгрышам. Яно б і нічога, калі б крыху на ніжэйшым узроўні — не на фоне крамлёўскай сцяны — ішоў гэты розыгрыш, а то атрымлівалася, не проста лёс таго ці іншага правадыра высвечваў і падсвечваў, а лёсам дзяржавы забаўляўся нябачны рэжысёр. То раптам шчытна, плячо да пляча, ссоўваў доўгую шарэнгу малых і большых правадыроў у купку, і тады ўсе бачыліся на адзін твар, і твар гэты нагадваў ці то зьлепленую абы з чаго маску, ці то морду нейкага монстра. А то пачынаў перастаўляць фігуркі, увесь час мяняючы месцамі, быццам разыгрываў вядомую толькі яму шахматную партыю, — і тады то адна, то другая постаць дзе паступова, дзе раптоўна знікала. Знікала ў прамым сэнсе — прыплюснутая цяжкой каракулевай шапкаю, ці здушаная накручанымі на вушы дужкамі агромністых, ва ўсесь твар, акуляраў, ці раструшчаная ссунутымі тулавамі паплечнікаў, у той міг ужо былых...

Пры ўсёй фантасмагарычнасці карціна была жывою. І, больш таго, усё відочней уцягвала Ковача ў сваё дзеянне, хоць ён па-ранейшаму нідзе, ні за чыімі плячамі, і ценю свайго не знаходзіў: і ранг не той, і роля не вызначаная... Наконт ролі, вядома, мог і памыляцца (для нечага ж яму гэты спектакль наладзілі!), а рангам далёка не дацягваўся да крамлёўскіх дзеячаў — хоць прамінулы час узяць, хоць цяперашні. Разагнаць бы іх, як зграю крумкачоў, ускормленую на бедах людскіх, ды не было каму. Не мечанаму ж! Стаіць асобна, вылучаючыся хіба што адноснай маладосцю, а ў вачах — джалы чужых маланак: пабліскваюць, палохаючы, вытыркаюцца з усіх бакоў, нават з-пад шапкі, пагражаючы спаліць усё «кідрэні фені» што тут, пад крамлёўскай сцяною, што на ўсіх абсягах краіны за ёю, — цьфу на нячысціка!

Ковач сплюнуў так рашуча, што перш затанцавала над ім выкліканае гэтым абуральным рухам рэха, а потым, ужо ў адказ на яго, пасыпаліся камяні са сцяны — сама сцяна пасыпалася, завальваючы скрышанымі цаглінамі і розным друзам і трыбуну, і плошчу, і прасцяг вакол. «Сапраўдны каменяпад!» — падумаў, міжволі спрабуючы ўцягнуць галаву ў плечы і хоць неяк прыкрыцца рукамі. А цагліны, дробячыся, ужо траплялі і па ім, пэўна, бо хоць вонкава гэта ніяк не ўспрымалася (сябе ж, сваёй постаці не бачыў), але балючыя дотыкі Ковач адчуваў усё выразней.

— Ды прачынайцеся, мужчына! Мінск! Прыехалі!

— А? Што? — лыпаў вачыма ён раз ад разу і ўсё ніяк не мог прачнуцца, а калі ўсё-ткі расплюшчыўся, то ўбачыў усмешлівы твар праведніцы і вялізную сонечную пляміну за ім, на процілеглай сцяне купэ.

* * *

Афішу, якая з'явілася напярэдадні, і з'явілася не публічна, не на афішных тумбах, а ў калідорах установ (і то — выбарачна), і афішаю цяжка назваць. Так... Абвестка, што калі і прыцягвала ўвагу, то сваёю нязвыклай навязлівасцю. Нават крыклівасцю. «Розыгрыш! У БДТ — розыгрыш!» — вялікімі літарамі рознага колеру і рознай канфігурацыі стракацеў плакат, а далей — па ўсім перыметры — скамарошыя заклікі: «Калі не навязаны страхам да мінулага — прыходзь! Калі не баішся пазнаць сябе ў адным з персанажаў і ўмазаць яму аплявуху — прыходзь і дзейнічай! Калі збрыдла балота будзённасці — падары сабе свята! Калі хочаш уразумець, з чым сутыкнешся заўтра, — плюнь на ўсе сумненні і будзь з намі!» І — усё. Ні дзень не пазначаны, ні час, ні дзейныя асобы. Быццам і тыя, хто будзе на сцэне, і тыя, хто знойдзе месца ў зале, ведалі ўсё, што трэба ведаць, а астатнім і тлумачыць не варта было.

Хоць навошта тады сама гэта абвестка? Нейчы жарт? Але ж за падобныя жартачкі...

Урэшце, хоць перабудова і буксавала, жыццё — мянялася. Мянялася, мяняючы і людзей, і іх прэтэнзіі і запатрабаванні: выходзіла, свет жыў інакшай, іншымі каштоўнасцямі, і, на думку абывацеля, калі апярэдзіць каго з бліжніх, то магло і падфарціць выбіцца нарэшце ў людзі, набыўшы сякое-такое дабро. А жарт... Калі пільнасці не губляць, то і падчас розыгрышу чым-небудзь разжывешся. Не медзяком, дык словам.

«Ро-зыг-рыш... Ведама, знайшлі, чым здзівіць! Усё жыццё чалавечае — суцэльны розыгрыш: то Бог, то д'ябал забаўляюцца з чалавекам. А ўжо як самі чалавекі возьмуцца...»

Думкі не перашкаджалі Івану займацца няхітрымі чыноўніцкімі справамі: паперчына — сюды, паперчына — туды, тэлефонная гаворка з адным, кабінетная разборка з другім. Рабочы дзень завяршаўся тым, чым і пачынаўся, і ад дакукі ўжо зводзіла скулы. «Мо зазірнуць у тэатр? І начальству будзе што пераказаць...» — падумаў адно для таго, каб памяняць кірунак думкі, але ідэя нечакана спадабалася: як не развеецца, то хоць сведкам стане!

Сведкам — чаго? Для чаго? Падобныя пытанні ў галаву не прыйшлі. Сведкам дык сведкам. Не першыня. За тое і цанілі на службе. Спатрэбіцца — скажа што якое, не спатрэбіцца — забудзе і ніколі не ўзгадае. Нават для пацехі — тады, калі адчуе (як часта адчуваў) сваю перавагу над усімі начальнікамі і начальнікамі начальнікаў. Сабе даражэй выходзіла. І карысці аніякай.

— Правільна мысліш, таварыш! — падбадзёрыў сябе ўголас і тут жа чмыхнуў, пакасіўшыся на шкляную дзверку шафы, дзе, хоць і цьмяна, люстраваўся яго торс, увянчаны буйною аблыселаю галавой. — Ну, ну!

Ніхто яго не прыспешваў, нішто не перашкаджала. Нават думкі аціхлі і пэўны час не абзываліся. Вечар выдаўся па-вясноваму цёплы, нетаропкія крокі супадалі з рытмам нетаропкіх хвілін, і ён, чаго даўно не адчуваў у такой меры, адпачываў: пагляд немітусліва кранаўся то ліповага вецця над галавою, то зыркай вітрыны, у якой пакалыхваліся яго адбіткі, і зноў

бязмэтна лунаў паперадзе. Ногі самі знаходзілі патрэбны паварот з адной вуліцы на другую. Хады той з праспекта на праспект! — перш праз мост, потым праз сквер і цэнтральную плошчу...

— Добры вечар, — машынальна адказаў на нейчае прывітанне, і галавы не павярнуўшы: не хацелася прыпыняцца, ублытвацца ў неабавязковую і нікому не патрэбную гаворку з кім бы там ні было — нашто ж паварочвацца? Падсвядомая мэта вяла яго, жаданне або нежаданне застацца ў нешта не пасвечаным, пекараўскі памочнік нават не задумваўся — ішоў і ішоў!

Калі крокі за тры-чатыры ад увахода ў тэатр узгадаў раптам, што ні білета, ні запрашэння на гэты вечар не меў, хады не запаволіў. Адно перасмыкнуў плячамі і падаўся да дзвярэй. Як не хлусіла абвестка і «розыгрыш» пачнецца а дзевятнаццатай гадзіне (звычайна ўсе спектаклі пачыналіся ў гэты час), то да пачатку заставалася хвілін пятнаццаць. Якраз каб адшукаць вольнае крэсла. Ці выбраць з незанятых — зручнейшае.

«Чаго табе няймецца?» — пацікавіўся ўнутраны голас, але так ціха, так нясмела, што і зважаць Іван на пытанне не стаў.

Ступіў да двух малойцаў пры ўваходзе ў фае (здалося, нават знаёмых), пачуў спакойна патрабавальнае: «Ваша пасведчанне!» і дастаў з кішэні дакумент. Тыя расступіліся, упускаючы яго, і Іван Сымонавіч упершыню падзівіўся з сябе, са свайго рашэння, нікім, нават Пекарам, не санкцыянаванага: з ягоным вопытам, з ягонай заўсёднаю асцярогай ва ўсім, што не сыходзіла непасрэдна ад начальства, асмеліцца на такі самастойны крок?

«Ну, не вяртацца ж назад, паўз адметна безаблічных ахоўнікаў!» — падбадзёрыў сябе ў думках, перадаўшы плашч гардэробшчыцы і рушыўшы наверх. Ступаў няспешна, нават прыступкі лічыў, каб не думаць, чаму ні ў раздзявальні, ні ў круглым фае перад дзвярмі ў тэатральную залу нікога не было.

— Смялей! Розыгрыш пачынаецца!

Крутнуў галавою, каб зразумець, адкуль прагучаў голас, і спатыкнуўся. Падумаў, што трэба спыніцца і, пакуль не позна, павярнуць назад, але замест гэтага ступіў яшчэ крок-другі і тузануў дзверы. Яны паддаліся лёгка, у ахвоту, і яму нічога не заставалася, як увайсці ў паўцёмную залу, дзе, апроч асветленага квадрата сцэны, ніводнага, нават хліпкага, агеньчыка не было. Памкнуўся слізгануць куды-небудзь убок і пашукаць месца ў апошнім радзе, а ногі ўжо неслі наперад. Далей і наперад. Быццам і гэта хвіліна, і ўсе астатнія былі дакладна спланаваныя і вызначаныя. Кім? Да якой мяжы? З якой нагоды? Пытанні нават не ўзнікалі. Ішоў па лёгкім схіле падлогі ўніз, стараючыся хоць бакавым зрокам угледзець што якое вакол: цёмныя постаці, нічым, нават водбліскамі яркага квадрата асветленай сцэны не падсвечаныя і таму невыразныя твары, зрэдчас — пустыя прагалы крэслаў...

Штуршка ў плечы не адчуў, але ў нейкі момант павярнуў да аднаго з гэтых прагалаў і, прыгінаючыся, уцягваючы галаву ў плечы, прайшоў колькі метраў, перш чым апусціцца на адно з сядзенняў. Калі ж нарэшце ўсеўся, з палёгкаю ўздыхнуў: хоць перад позіркам тых, хто ўжо знаходзіўся ў зале, мільгаць перастаў!

«А чаму так ціха?» — варухнулася першая думка, і ён як мага непрыкметней заазіраўся, пазнаўшы, як яму здалосяя, у паўзмроку сяго-таго з чыноўных людзей самага высокага рангу. Калі ж позірк вярнуўся да ярка асвет-

ленай сцэны, здзіўлена адзначыў, што на падмостках поўна акцёраў і яны не стаялі на адным месцы, а рухаліся, пераходзілі ад адной групы да другой, жэстыкулявалі і, пэўна, штосьці прамаўлялі, — ніводнага ж гуку ён не чуў.

Пачаў узірацца больш пільна. Каб хоць неяк вызначыцца ў разуменні таго, што адбывалася. Там. На падмостках, што і тэатральную сцэну ў звыклым сэнсе гэтага слова мала чым нагадвалі: ні завесы, ні кулісаў, ні дэкарацый. У глыбіні прасторы, не да сцяны нават, а проста да вяровак, на якіх звычайна замацоўваліся дэкарацыі, быў падчэплены няроўны кавалак палатна (хутчэй ужо, дзяругі), на якім агромністымі літарамі было напісана: «Прэч! Годзе!» Каго ці чаго гэта тычылася, каму і што муляла ў гэтым ці іншым свеце, вызначыць ён не ўзяўся б: задужа стракатаю выглядала публіка ў касцюмах ледзь не ўсіх вядомых з гісторыі краю эпох. Гамонкі ж іх ён па-ранейшаму не чуў, у нейкі момант падумаўшы нават: мо са слыхам што здарылася?

Раптам — зусім нечакана — аднекуль з глыбіні сцэны вырваўся прамень святла, скіраваны на залу, і няспешны рух яго над радамі крэслаў выклікаў пэўную рэакцыю гледачоў (дакладней, напэўна, было б сказаць: удзельнікаў розыгрышу!). Пачуўся нават лёгкі шум, і Іван Сымонавіч узрадаваўся, што запона цішыні нарэшце ўпала і хоць нешта стала даходзіць да слыху.

Павёў галавою следам за промнем пражэктара, але, наткнуўшыся на колькі недаўменных позіркаў знаёмых і яўна невыпадковых тут чыноўнікаў, тузануўся і застыў: для чаго іх усіх сабралі ў тэатры? Хто сабраў? Здалося, міг-другі — і недаўменне залы выбухне, узарве прастору, і ён міжволі сцяўся, уцягнуў галаву ў плечы.

— Увага на сцэну! — загрымеў нейчы голас, змусіўшы ўсіх, нават адчайных смельчакоў, сцяцца ў крэслах.

— Сэнс жыцця залежыць не ад таго, ш т о, а ад таго, х т о яго вызначае. Дурні думаюць: Прырода...

На падмостках пачало разгортвацца дзеянне, у якім — па крузе — былі занятыя ўсе: сексуальнае дзейства змянялася палатаю з рожаніцаю, вучэльняю, любоўнымі гульнямі, бойкаю маладых самцоў, разагрэтых выпіўкаю, забойствам, пахаваннем, турэмным заключэннем і вяселлем пераможцы, потым — зноў сексуальным дзействам... І ўсё — няспешна, пад няспешнае кружэнне падмосткаў і нейкую рваную — то шчымлівую, то груба агрэсіўную — мелодыю, у якую ўпляталіся то стогны, то грубыя выкрыкі, то гарачы шэпт, то няўцямныя праклёны. Няспешна... Круг за кругам... Усё больш бянтэжачы, а потым і прыгнятаючы.

— Сэнс жыцця, — зноў грымнула, здавалася, адусюль, — залежыць не ад таго, ш т о, а ад таго, х т о яго вызначае. Гарапашнікі вераць: Айцец Нябесны...

Сцэна гэтак жа павольна, з ранейшым натужным рыпам паварочвалася, але дзейныя асобы, скінуўшы ранейшую апратку проста пад ногі і апынуўшыся хто ў белых, хто ў чорных хітонах, на кожны ўзмах рук сталі нагадваць чорных і белых анёлаў-птушак, што ўтваралі своеасаблівае кола, а каля ног іхніх, на голых дошках, «чалавекі» адольвалі жыццёвы шлях — перш на карачках, потым на каленях. Адольвалі цяжка, задыхаліся, ускідваючы сяды-тады галовы, тут жа вінавата апускалі іх, пакорныя ўзмаху белага ці чорнага «крыла». І хоць шлях быў той жа — ад нараджэння да смерці, кожны зрух на ім, кожны крок замольваўся і ад таго здаваўся бязглуздым, а то і крамольным.

«Анёлы» ж то змешваліся, то штурхаліся, выштурхоўваючы адзін аднаго за межы круга, то, прыкрыўшыся рукавом, цішком пахіхіквалі, а то і піхалі каго нагою, калі бядотнік занадта набліжаўся ці залішне смела ўскідваў галаву.

Гнюснае відовішча, як да яго ні пастаўся, і калі б не боязь прыцягнуць агульную ўвагу, Іван Сымонавіч паспрабаваў бы ціхенька выбрацца з паўцёмнай і паўпустой, як цяпер бачылася, залы. А святло і там, на сцэне, раптам заміргала. Нават згасла на некалькі імгненняў. Калі ж зноў — і яшчэ ярчэй — успыхнула, усё на падмостках змянілася раптоўна і абсалютна кардынальна: ні анёлаў, ні чалавечкаў...

— Сэнс жыцця залежыць не ад таго, ш т о, а ад таго, х т о яго вызначае, — прагучала гучна, выразна, і голас здаўся знаёмым. — Рэвалюцыянеры мяркуюць: правадыр...

Не паспелі адгучаць словы, як усчаўся гучны смех; свіст і выкрыкі перапыняліся гучнымі апладысментамі. Натоўп, у які ператварыліся ўсе ўдзельнікі новай дзеі, перамяшчаўся па сцэне нерытмічна — хаос, здавалася, нарастаў. Але ў нейкі момант усё аціхла і пад пакалыхванне сцягоў, пашытых з рознакаляровых шматкоў, і папяровых пугалаў партыйных кіраўнікоў рэспублікі і краіны наперад выйшаў высокі худы інтэлігент з прыкрытым маскаю тварам: пінжак — наросхліст, кашуля-вышыванка расшпіленая.

— Сэнс жыцця? Барацьба! Пастаянная — штодзённая! — барацьба за тое, каб людзьмі звацца і не хадзіць у прыкарытніках, а адбіраць і адабраць у тых, што ўявілі сябе гаспадарамі і мараць уехаць у рай на нашых карках, і гэта права, і ўладу, і саму зямлю нашу. А то памянялі буржуйскія світкі на бальшавіцкія фрэнчы, якія не так у ахвоту, як пад прымусам няпісаных правілаў даношваюць, а ўжо да новага маскараду рыхтуюцца, усіх вас за дурняў трымаючы. Так, так, за дурняў! — хто б з вас і што пра сябе ні думаў. Іх мы — прадстаўнікі новай сілы — змяцём, а вам, калі не ўстанеце ні бок рэвалюцыі, зноў, і цяпер да скону, давядзецца працісквацца да карыта праз кпіны і тумакі маладзейшых і дужэйшых. Як — перспектыва? Падабаецца?

Смех і свіст сталі грамчэйшымі. Натоўп на падмостках ашалела забаўляўся, раздзіраючы на шматкі папяровыя пугалы, звязваючы сцягі і сцяжкі ў адно пярэстае палотнішча і абвіваючы ім тых, хто хоць на міг губляў пільнасць. Тыя тузаліся, спрабуючы вырвацца, — і рогат грамчэў. У выніку — у ковах вузлаватага палотнішча і гэтага рогату засталася толькі адна постаць у белым хітоне. Яна проста перастала супраціўляцца і асунулася на падлогу, няздольная ў тым кокане, у якім апынулася, зрабіць і адзін крок.

Пра жанчыну тут жа ўсе забылі. Частка занятых у апошняй мізансцэне акцёраў сцэну пакінула, тыя ж, што групаваліся вакол лысага з плямінаю праз усю галаву «правадыра», сышліся ў цэнтры і нарэшце павярнуліся да залы. Да апусцелай ужо залы, бо нават Іван Сымонавіч, які так і не насмеліўся прайсці паўз крэслы да выхаду, не тырчэў у сваім крэсле, а, уцяўшы галаву, у няўцямным страху даўно споўз з яго і ўплішчыўся паміж радамі, як мага ніжэй да падлогі. Праўда, тады, калі цікаўнасць перамагала страх, зіркаў праз шчыліну паміж пярэднімі крэсламі на сцэну, супакойваючы дрыжыкі ў каленях салдацкай замоваю: з зямлі не згоняць, далей, чым на фронт, не пашлюць...

Тыя ж, на сцэне, пасцягвалі маскі зацятых і добра пазнавальных бунтаўшчыкоў нацыянальнай закваскі, аказаліся — усе як адзін! — членамі

Бюро ЦК, і Іван Сымонавіч, убачыўшы чарговы акт сцэнічнага пераўвасаблення, не сказаць, каб дужа здзівіўся: нездарма ж голас сяго-таго здаваўся знаёмым, чутым раней. Адно што страх змяніўся сорамам: сагнуўся ў тры пагібелі, поўзае пад крэслам, замест таго каб дома сядзець на ўтульнай канапе перад тэлевізарам з пляшкаю піва ў руцэ!

— Гля! — гукнуў гаспадар сцэны. — Разбегліся са страху, падтрымліваючы штаны!

— Мо даць святло ў залу?

— Нашто? І так усе засвяціліся: хоць з аднаго, хоць з другога боку зірнуць... Думаў: мала хто паддасца на правакацыю, ажно ёсць, ёсць смельчакі ў чыноўніцкіх акопах!

— Але ж не дачакаліся завяршэння розыгрышу — не паапладзіравалі сваім кіраўнікам, угледзеўшы іх на падмостках, — засмяяўся хтосьці. — Калі яшчэ такая нагода надарыцца?

— Ты каго меў на ўвазе, памінаючы кіраўнікоў? — патушыў яго смех Гаспадар.

— Дык жа... Дык жа адкрылі мы перад залаю твары... — мармытнуў той, хаваючыся за спіны.

Цяпер засмяяліся ўсе. Ці — амаль усе.

— Ён думае...

— Ён напраўду думае, што скінутыя ўсе маскі!

— Сляпы!

— Ты што — спаў увесь гэты час?

Смех і кпіны не аціхалі. Купка акцёраў — ці тых, хто выдаваў сябе за іх? — скіравалася ўглыб сцэны, сцягваючы з твараў маскі высокіх партыйных начальнікаў і адзін за адным знікаючы ў цемрадзі, але гэтага Іван Сымонавіч ужо не бачыў: не азіраючыся, ён на карачках прабіраўся да праходу і потым да выхада і думаў толькі аб адным: гэта павінна закончыцца! некалі ж павінна закончыцца!

***Працяг будзе.***





## Вячаслаў ДАШКЕВІЧ

### СЦЯГ

Кужаль белы. Кроў Хрыстова.
Ў сэрцах — лепшай долі прага.
Сёння кожны мае слова.
Сёння — Дзень народзін Сцяга.

Ўсе, каму Айчына міла,
Станьма ў гурмы неадольныя.
Нас не зломіць злая сіла.
Нас мільёны. І мы — вольныя!

Мы не статак. Мы — народ.
Прэч, драты ахоўныя!
І на захад, і на ўсход
Мы глядзім як роўныя.

Кужаль белы. Кроў Хрыстова.
Ў сэрцах — лепшай долі прага.
Сёння кожны мае слова.
Сёння — Дзень народзін Сцяга.

* * *

Тое, што было вясёлым нашым полем,
Стала несуцешным і бясконцым болем.
Крылляў жа няма, каб мігам праляцець.
Мо бухнуць у траву і звар'яцець?

---

*__Дашкевіч Вячаслаў Іосіфавіч__ нарадзіўся 15 красавіка 1941 года ў вёсцы Дзякшняны Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці. Працаваў трактарыстам. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1965). Быў спартыўным журналістам, тэлевядучым, навуковым супрацоўнікам Інстытута філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, галоўным рэдактарам газеты «Веды» і часопіса «Крыніца».*

*Друкаваўся ў калектыўным зборніку «Нашчадкі», выдаў кнігу паэзіі «Загадка Атлантыды».*

Не, шэпча неба мне, трымайся, брат, —
Дачка з унучкаю не вернуцца назад.
Ім не паможаш аніяк слязьмі.
Вазьмі сябе ў рукі, вазьмі.
Устань і цярпліва наперад ідзі.
Іх вачыма на свет глядзі.
Кветак духмяных нарві палявых.
Бач прад сабою не мёртвых — жывых.
І не забудзь, што спрадвеку вядома:
Ты шчэ ў гасцях, яны — ужо дома.

* * *

***Памяці ўнучкі***

Якое Бог пашле
Апошняе мне слова?
Мама...Радзіма...Мова…
Калі ж усё грымне
Занадта хутка,
Я выдыхну толькі адно:
Анютка...

* * *

У зялёным гаёчку
зязюля кувала.
Бабка мне песню
яе пераклала:
« — Я—куб! Дай круп.
— Я—кіх?
— Су—хіх».
«Ці можна,—
страпянуўся я, —
так паўтарыць
і салаўя?»
«Ты што? —
зірнула бабка строга,—
маўчы...
Не гневай, дзетка, Бога».

## ІКАР

Дэману іншаму мроіцца,
Што ён — Святая Троіца.
Прычына падзення Ікара —
Няўмольная Боская кара.

За ўяўную веліч расплата.
Сонца не вінавата.
Сонца тут ні пры чым.
Глянем угору і памаўчым...

## АДЗІНОТА

Адзінота —
вельмі цяжкая работа
для вачэй.
Закрываеш — і не робіцца лягчэй.
Паўстае былое да драбніц.
Колькі наляцела во сініц!
Дзёўбаюць на шыбках нашай хаткі
з інею дзівосныя аплаткі.
Адзінота —
вельмі цяжкая работа
для вушэй.
Захінаеш — і не робіцца цішэй.
«Не дражні, сынок, сінічак і не кліч...
Збегай, хоць дзве лустачкі пазыч.
Людскія суседзі, дзякуй Богу!» —
кажа мама, гледзячы ў падлогу...
Адзінота — вельмі цяжкая работа
для душы.
Хопіць!
Больш нічога ўжо не варушы.

* * *

Да роднай хаты па цаліку
Ледзьве цягнуся ў поўнай знямозе.
Мама, выйдзі, падай руку!
...Мармур гурбы ляжыць на парозе.

* * *

Работа, да якой я
заўсёды гатовы:
Падносіць да прыпечка
пахкія дровы,
На ладным кані
дзірваны араць,
Белы наліў
у кош абіраць,
Са студні глыбокай
выкручваць ваду...
Паклічце —
з ахвотай прыйду.

## ПОЎНЮ ЗАКРЫЛА...

— Ой, Пётра, падчас
незабыўнага ладу калгаснага
я нават ценю баялася ўласнага...
— Дзе ж таму, Наста,
ценю было упасці?
Мы ж з табой ноччу
хадзілі красці.
— Во як цяпер
твой язык замянціў!
Мусіць, забыў,
як нам месяц свяціў?
Выгляне зыркі
раптам з-пад хмар,
хоць ты кашом яго
ціха апяр.
— Як жа...Стаялі
ў разорах ракам....
Цень ад нас клаўся —
вярста, пэўна, з гакам.
Лёгка злавіць нас
тады маглі.
Помніш Антося? —
далі два гады...
— Кепска, Пятрок,
мы з табою жылі.
Кралі картоплю,
месяц клялі.
— Няма ў нас тае ўжо,
Настачка,злосці...
Усё, што было —
было ў маладосці.
...Поўню закрыла
цёмная хмара.
На вузенькай лаўцы —
старэнькая пара.

## ХУЛІГАНУ

Бі па галаве — зажыве.
Бі ў грудзі — вецер астудзіць.
Бі ніжэй пояса — не бойся.
Бі...
Стала ямчэй?
Воўк тваіх не захоча вачэй.

* * *

Не чапайце сівых валуноў.
Не варочайце іх на другі бок.
Покуль мох нарасце наноў,
Уладарыць наўкол будзе цмок.

* * *

Падчас невыноснага гора
Знікаюць і час, і прастора.
Што застаецца замест?
Памяці ўласнай вогненны змест.
Затым паступова
З яго нараджаецца Першае Слова.
Слова адзінае — Бог.
Інакш бы я выжыць не змог.





Іван СТАДОЛЬНІК

# АПАВЯДАННІ

## ДЗЯДЗЬКА МІНЬКА

Аляксей толькі звёў вочы, як адразу прачнуўся: яму здалося, нібыта на яго нехта глядзіць. Ды такімі вялікімі-вялікімі вачыма, сінімі, як у яго маці. Ён ажно злякнуўся: няўжо і сапраўды гэта маці? Аляксей яшчэ шырэй расплюшчыў вочы, абвёў пільным позіркам усю хату, але навокал нікога не было. І ўсё ж адчуванне, што на яго нехта глядзіць, доўга не пакідала Аляксея, нават устрывожыла.

Толькі потым да яго дайшло, што гэта праз густую цёмна-зялёную лістоту сліў, яблыняў шчодра цэдзіцца ў вокны блакітнае святло ліпеньскай раніцы.

Хата стаіць крыху воддаль ад вуліцы, даўшы месца даволі ладнаму агародчыку. Некалі ў дзяцінстве пасадзіў Аляксей тут каля плота з дзесятак сліў — тоненькіх у палец дубчыкаў. Цяпер многія слівы пассыхалі ад старасці, але панапускалі атожылля на ўвесь агародчык.

Аляксей разам з маці вырывалі іх, высякалі, але гэта мала дапамагала. Пад восень яны ўжо выступалі суцэльнай шчоткай. Потым, як Аляксей паехаў у горад, маці цалкам запусціла агародчык пад сад, у дадатак пасадзіла і сама некалькі яблынь.

Сёння ўпершыню ў сваёй роднай хаце Аляксей не мог заснуць аж да раніцы: і ложак з мяккімі пуховымі падушкамі здаваўся мулкім, калючым, і па целе нібыта бегалі мурашкі. Так і варочаўся ўсю ноч, а калі пад раніцу крыху супакоіўся і звёў вочы, дык нешта во прымроілася. Гэты незразумелы пагляд.

---

***Стадольнік Іван Канстанцінавіч*** *нарадзіўся ў 1941 г. у вёсцы Янкі Докшыцкага раёна на Віцебшчыне. У 1959 г. скончыў Докшыцкую СШ. Працаваў на асваенні цаліны ў Казахстане, потым скончыў Полацкае медвучылішча і працаваў у Мосарскай сельскай бальніцы Глыбоцкага раёна, вучыўся завочна на факультэце журналістыкі БДУ. З 1967 г. працаваў у рэспубліканскім друку. Сябра СП Беларусі з 1980 г.*

*Аўтар зборнікаў апавяданняў «Хачу табе шчасця», сатыры і гумару «Як тут не смяяцца», «Лістапад на пачатку лета».*

...Надвячоркам Аляксей прывёз маці сена. Настрой у яго быў добры: яшчэ заставаўся цэлы тыдзень адпачынку, а ён нават паспеў перакрыць хлеў.

Заўтра рашыў схадзіць па грыбы, казалі, у лесе як насыпана лісічак.

Калі заканчваў вяршыць стажок, маці нечакана папрасіла:

— Зрабі ты яшчэ мне, сынок, і лазню, каб, як прыедзеш, было дзе памыцца.

Алёша тады і не вытрываў:

— На сёлета хопіць з мяне. Малы пеклаваў — і цяпер ішач: і на рабоце, і тут! Ніколі водпуску, як людзі, не адгуляю. Грошы прышлю — можна і наняць каго!

— Што тыя грошы... У мяне і свае ёсць. Распанелі цяпер усе, — сумна паглядаючы на Аляксея, сказала маці.

І цяпер, раніцай, ён быў такі ж узбуджаны, як і звечара. Не было той млявасці, разбітасці, якая бывае пры звычайнай бяссонніцы, не балела і галава. Толькі ўсё цела неяк гудзела, нібыта ў ім хто нацягнуў безліч сталёвых струн. Хутка апрануўшыся, на дыбачках, стараючыся не разбудзіць маці, пайшоў да дзвярэй.

— Паспаў бы яшчэ, сынок. Рана, — глухім сонным голасам адазвалася маці з-за грубкі і дадала:

— Можа б, дзядзьку Міньку паклікаў — ён і памог бы, і пакіраваў.

Голас быў мяккі і ласкавы, як і заўсёды, калі Алёшу чакала нейкая справа.

— Добра, мама, я пагляджу. Калі трэба будзе — паклічу, — супакоіў ён яе і выйшаў.

Дзядзька Мінька — старэйшы брат маці. Жыве пры двух меншых сёстрах бабылём. Сёстры таксама адзінокія — пабіла ў вайну іхніх кавалераў.

Дзядзька — адменны майстар і заўсёды гатовы дапамагчы Алёшу. Але той у рабоце з ім ніяк не ладзіць.

Летась пайшоў Алёша з дзядзькам секчы латы на страху, дык той абвадзіў яго да паўдня па лесе, усё выбіраў, каб дрэва было і смалістае, і драбнаслой, і роўнае, як струна. Гэтак яны не высеклі і дзесятка лат, і то за вярсту ад дарогі. У Алёшы тады перагарэла ўсё ўсярэдзіне: заканчваўся водпуск, а страху недакрытай не пакінеш. І ён тады сказаў дзядьку, што астатнія латы дасячэ ля дарогі без усялякага выбару, абы хутчэй было. Дзядзька сварыўся-сварыўся на яго, а потым плюнуў на ўсё і пайшоў дамоў. Алёша ў той жа дзень і дасек астатнія латы, і дамоў прывёз іх, і пачасаў. Дзядзька і блізка не падыходзіў, бо глядзець не мог на такую работу пляменніка. Назаўтра Алёша папрасіў стрыечнага брата Івана, і яны за два дні накрылі шыферам усю хату.

Дзядзька яшчэ больш пакрыўдзіўся, калі даведаўся, што Алёша пусціў на страху частку старых гнілаватых лат, каб не часаць новыя. Ён нават не пайшоў праводзіць пляменніка да аўтобуснага прыпынку, калі той ад'язджаў у горад. Але сёлета дзядзька зноў добры з Алёшам, утаймаваўся.

Алёша вырашыў спачатку падкласці каменні пад падмурак той, амаль што непатрэбнай, лазні. Узяўся каціць першы камень. Хоць і не дужа ён быў вялікі, як паглядзець, а цяжкі неймаверна. Аляксей, ашчапіўшы рукамі гладкі халодны бок камянюкі, напружваўся з усіх сіл, але ледзь перавярнуў на другі бок.

«Не тое, дык тое нешта творыцца!» — упадаючы ўжо ў роспач, што работа ідзе не так гладка, як хацелася, нервуючыся, падумаў Аляксей

і азірнуўся па баках, каб выбраць яшчэ меншыя каменні, і тут згледзеў, што па вуліцы ідзе дзядзька Мінька ў шэрым сваім пінжаку і такой жа шэрай шапцы. Ішоў ён памалу, як бы да нечага прыглядваючыся, а насупраць Аляксея дык і зусім прыпыніўся, глядзеў на сестрыну хату, на ліпу, як быццам толькі цяпер заўважыў пляменніка, і гучна, як часта бывае ў вёсцы, прывітаўся:

— Памагай Бог!

— Аляксей ажно разгубіўся ад такога прывітання і, сам таго не хочучы, адказаў:

— Казаў Бог, каб і сам памог!

— Ты ж не просіш, — вяла прабурчэў дзядзька. — Хіба што толькі пакірую. А што? Лазню рабіць будзеш?

— Думаю во, — адказаў Аляксей, — усё разам прыспічыла.

— Яе даўно трэба ставіць, а то такі зруб гніе, карабаціцца. Я дык хіба толькі тапор паспрабую, ці добра бярэ. Учора якраз навастрыў у кузні,— адразу ажывіўся дзядзька і, не чакаючы запрашэння, пашыбаваў на выган да Аляксея. І толькі цяпер Аляксей прыкмеціў, што дзядзька паверх пінжака быў падперазаны дзягай, а з-за яе тырчэў тапор.

— Гэтыя камяні пад вугал выбіраў сам? Тры нічога сабе, а чацвёрты нікуды не варты. Бачыш — збоку трэшчына, і зярністы яшчэ, трыццаць гадоў не пастаіць — рассыплецца на жвір.

— Фі! Трыццаць, — прысвіснуў Аляксей, — праз трыццаць і лазня, можа, не спатрэбіцца.

— Карэлы будзеш хадзіць?

— Мне яна і цяпер не трэба. У мяне ў кватэры ванна, а калі што, дык і ў сауну схаджу.

— А ты што думаеш? У горадзе так і звякуеш, і дзеці твае?

Аляксей спахапіўся, успомніўшы, што ўвязвацца ў спрэчку з дзядзькам — пустая справа. Толькі час змарнуеш, а то яшчэ і зусім можна ўгнявіць старога. Ён ніякага іншага прытулку не прызнае, апроч сваёй вёскі. З маладосці ўсюды пабываў: і ў Польшчы, і на Урале, а дамоў вярнуўся век дажываць. Такой думкі ён і пра ўсіх. І Аляксей перавёў гаворку на іншае:

— А я во ўзяўся гэты каціць — дух вон, — паказаў ён вачыма на камень. Малы здаецца, а такі цяжкі.

— Трывалы, дык і цяжкі. Усё трывалае цяжкае, — неяк узбадзёрана сказаў дзядзька. — Аляксею рупіла хутчэй узяцца за справу.

— Удваіх, думаю, прыкоцім.

— А навошта жыліцца? Нясі вяроўку — нешта прыдумаем. Вяроўка ёсць?

— Во вяроўка, — збегаўшы ў хату і падаючы дзядзьку лейцы, сказаў Аляксей.

— Ну і маладзец... так вяроўку скрыпаць! — пакруціў галавой дзядзька. Звязаць па-людску не мог. Колькі цябе я ні вучыў, а ты ўсё за сваё, стаханавец!.. Гэтае слова ў дзядзькі лічылася самым абразлівым.

— Некалі было, — апраўдваўся Аляксей.

— Некалі. Раскрыпвай цяпер. Я тваю дурную работу перарабляць буду?

Вяроўка і праўда была страшэнна заблытаная. І, чым больш стараўся Аляксей хутчэй раскрыпаць яе, тым больш яна заблытвалася. Гэта выводзіла яго з сябе, ажно хацелася заплакаць, кінуць-рынуць усё. І брала злосць: нашто навязаўся яшчэ і дзядзька.

Раптам у нос ударыў пах свежага дыму. Аляксей інтуітыўна зірнуў на комін — няўжо загарэлася што блізка? Ёкнула сэрца. Аляксей азірнуўся наўкола: нідзе ніякага дыму не было відаць. Зноў глянуў на комін. І толькі цяпер ужо выразна ўбачыў над ім шэры слупок, які тут жа зліваўся з гэткім жа шэрым небам. Маці паліла ў печы.

— Ну, вось разблытаў, — нарэшце з палёгкай уздыхнуў Аляксей, — падаючы дзядзьку вяроўку.

— Разблытаў, разблытаў! А лягчэй было б не разблытваць, а звязаць, як людзі. Глядзі, як гэта робіцца. А яшчэ вучоны!.. — бурчэў сабе пад нос дзядзька, у каторы раз паказваючы, як звязваць вяроўку, колцамі навіваючы яе на руку, потым абкручваючы некалькі разоў, тугавата сагнуўшы на меншай палавіне, як сноп вязьмом і, прасунуўшы ў пятлю канец, зацягнуў яго. Потым дзядзька пацягнуў за канец з другога боку, і вяроўка зноў рассыпалася колцамі:

— На, завязвай, а я пагляджу, ці навучыўся ты чаму талковаму. Вучоны!..

У Аляксея гарэла ўсё ўсярэдзіне ад крыўды на гэту дзядзькаву вольнасць. Знайшоў час вучыць, як вяроўку звязваць. Быў бы час, і ўчора звязаў бы, хацелася сказаць дзядзьку, але Аляксей устрымаўся.

— Так, так, — ківаў галавой дзядзька, не зводзячы вачэй з Аляксеевых рук, і той ледзь не рассмяяўся з гэтай дзядзькавай сур'ёзнасці.

І добры гэты дзядзька Мінька, і смешны, і нудны да слёз. Аляксееву вучоную прафесію ён усур'ёз не ўспрымае. Толькі і пільнуецца навучыць, як зруб ставіць, як страху крыць і нават хату спраўляць, не гаворачы ўжо пра арбу ды касьбу. Гэта ўжо ў яго само сабой зразумела. І ўсё хоча, каб Аляксей рабіў гэта, як запраўскі майстар, і зусім не думае, што ў яго, Аляксея, няма на гэта не толькі жадання, але і часу.

* * *

Дзядька неўзабаве па прыходзе «тых саветаў» развёўся з жонкай. З'ява па тым часе ў былой Заходняй Беларусі была выключная і даволі ганебная, лічылася вялікім грахом. І, каб яму кожны не тыкаў пальцам, завербаваўся на Поўнач.

Павезлі яго адбудоўваць былы фінскі горад Выбарг.

Прывезлі пад вечар, размясцілі ў нейкім бараку, далі сёе-тое пасцельнае, звадзілі ў сталоўку, а потым пачалі дапытвацца ва ўсіх, хто якой спецыяльнасцю валодае. Дайшла чарга да дзядзькі.

Да гэтага дзядзька, жывучы ўвесь час у вёсцы і не чуў слова «прафесія», таму толькі моўчкі пацiснуў плячыма. Тады яму пачалі задаваць пытанні, вядома, па-руску. Дагэтуль дзядзька не чуў рускай мовы, ведаў толькі беларускую, ды сёе-тое разумеў па-польску. Таму яго адказы былі даволі наіўныя і смешныя.

— Такелажник?

Дзядзька, думаў-думаў і дадумаўся, што ў яго дапытваюцца, ці лазіў ён у такі, дзе звычайна захоўвалі збожжа.

— О, Божа барані! — хрысціцца дзядзька, — і ў такі не лазіў, і ў свірны, нават у чужы сад. У нас грэх было красці.

— Тогда, может, арматурщик? — пытаецца начальнік. Дзядзька думае, думае і не можа здагадацца, што гэта такое, круціць галавой:

— Не.

Чамусьці начальства называла такія прафесіі, пра якія дзядзька нават не чуў. Хаця быў выдатным сталяром, цесляром, словам, майстрам на ўсе рукі.

Нарэшце начальнік угадвае дзядзькаў занятак:

— Плотник?

— О, плотнік?! Плотнік! Любы плот магу загарадзіць. Залюбуешся.

Мусіць, гэты дзядзькаў адказ задаволіў прараба, і ён сказаў:

— Хорошо. Оформляем плотником.

Але тут зноў выйшла закавыка. Начальнік запытаўся:

— А какой разряд?

Дзядзька ўпершыню чуў гэтае слова. Даўгавата думаў, і нарэшце прыйшла здагадка, што начальнік пытаецца, ці ўмее ён разраджаць вінтоўку:

— І зараджаць магу, і разраджаць. У войску ж служыў.

Не думаў і не гадаў тады дзядзька, што сказанае ім пра войска магло абярнуцца яму ў лепшым выпадку лагерам, а то і смерцю. Бо служыў жа ён у войску польскім. Але прараб, мусіць, падумаў, што мае справу з нейкім дзіваком, і спыніў свой допыт.

— Хорошо, — сказаў ён, — даем тебе первый разряд, а там посмотрим.

Дзядзька шчыра падзякаваў начальніку, не ведаючы, што той прысудзіў яму самы нізкі разрад.

Прараб выклікаў брыгадзіра, пазнаёміў яго з дзядзькам. І брыгадзір адразу ж павёў яго ў новы дом, дзе трэба было класці падлогу. Паказаў, дзе ляжаць дошкі, цвікі, малаткі, і пайшоў. Дзядзька таксама падыбаў у свой інтэрнат спаць. Прачнуўся, калі было ўжо светла і не на жарт перапалохаўся, што ўпершыню ў жыцці даў такога маху: праспаў працу. Не ведаў дзядзька, што на Поўначы бываюць белыя ночы і што ён зусім не праспаў, а ўстаў вельмі рана. Дрыжучы ад страху, кумільгом кінуўся ён у той будынак, які паказваў брыгадзір. І супакоіўся, калі ўбачыў, што ў будынку нікога няма. Хуценька ўзяўся за справу. Прыбіўшы апошнюю дошку ў чацвёртым па ліку пакоі, ён пачуў нейчыя галасы. І таксама спалохаўся незнаёмай тупатні. Гэта ў дзевяць гадзін раніцы ішла на працу яго брыгада з ужо знаёмым дзядзьку брыгадзірам.

І брыгадзір, і ўся брыгада ледзь не трацілі прытомнасць, гадаючы, што за цуд адбыўся. Убачыўшы дзядзьку, брыгадзір пачаў крычаць:

— Ты что наделал? Ты понимаешь, что в два раза перевыполнил норму всей бригады?!

Думаючы, што ўчыніў нейкую крамолу, дзядзька ледзь не плакаў:

— Вінаваты, прабачце, больш такога не будзе.

Але звестка пра «подзвіг» дзядзькі ўмомант абляцела ледзь не ўвесь Выбарг. «Правінніка» адразу выклікалі ў нейкае высокае ўпраўленне, напачатку ўгледзеўшы ў ім шпіёна: маўляў, чаму ён утаіў свой разрад. Але чамусьці ўсё абышлося. Можа, выратавала дзядзьку яго наіўнасць ці недасведчанасць у прафесіях. І «плотніку» тут жа прысвоілі аж сёмы разрад. Самы-самы высокі. І перавялі на другі аб'ект, каб не адлупцавалі калегі за такое незвычайнае старанне.

Хоць і абяцаў дзядзька больш не шчыраваць, але не ўтрымаўся. І на новым месцы яго чакала пакаранне ад таварышаў за дзіўную працавітасць. Але да гэтага не дайшло, бо пачалася вайна.

Дзядзьку не паслалі на фронт, а далі бронь і адправілі ў Ніжні Тагіл на сакрэтны механічны завод, на якім выраблялі снарады для «кацюш». Там дзядзька грузіў ноччу снарады. А днём збіваў скрыні для іх. Ледзь не памёр з голаду. Але ён, як іншыя, не курыў, не піў, сумеў купіць двух сабак і з'еў іх.

Яму ў стаж не ўвайшлі гады працы ў Ніжнім Тагіле, бо завод быў сакрэтны. І, колькі ён ні пісаў у архівы, усюды адказвалі, што яго на заводзе не было. І толькі пасля таго, як ён адшукаў свой ваенны білет, дзе было ўказана, што ён узнагароджаны медалём «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне», дзе быў пазначаны і нумар таго медаля, і Алякей даслаў просьбу, спаслаўшыся на нумар медаля, у Вярхоўны Савет СССР, літаральна праз некалькі тыдняў дзядзьку прызначылі вялікую па тым часе пенсію. Але ён яе не атрымаў. Памёр.

* * *

Узыходзіла сонца. Яно, нібы прытаіўшыся за далёкім лесам, чакала, калі хто выйдзе, і сыпанула безліч промняў яму ў вочы, умомант развеяла блакітную засяроджанасць летняй раніцы. Кругом ужо шчабяталі, пасвіствалі птушкі, нібы спяшаліся ў ахвоту павесяліцца. З поля плыў чысты пах кветак.

## БЫЛО І ТАКОЕ...

Перад самай Петрусёвай вёскай на скрыжаванні двух гасцінцаў, Бярэзінскага і Камайскага, — помнік загінуўшым у вайну землякам. Помнік стандартны. Бетонны баец з аўтаматам і схіленай у жалобе галавой. На п'едэстале прозвішчы і імёны франтавікоў і партызан з ягонай і суседніх вёсак.

Клін, на якім стаіць помнік, абгароджаны нізенькім плотам, пафарбаваным у брудна-балотны колер. Па баках некалькі бярозак, дзве лаўкі. Дакладней, не лаўкі, а па дзве жэрдкі на бетонных стаўбунах, астатнія паламаныя, як і многія штакеціны плота.

Сярод шматлікіх прозвішчаў — і прозвішча Петрусёвага бацькі, які за месяц да Перамогі склаў галаву пры штурме Кёнігсберга. Якраз насупраць помніка былыя соткі Петрусёвай маці. І, пакуль жыла маці, ён па некалькі разоў на год прыязджаў урабляць іх. І кожны раз падыходзіў да помніка, чытаў прозвішчы, і заўсёды было такое адчуванне, што бачыць гэтыя прозвішчы тут упершыню. Цяпер прыязджае радзей.

Спачатку, як і некалі, ідзе да помніка, колькі часу моўчкі стаіць перад ім, перачытвае прозвішчы і потым, калі душа напоўніцца нейкай незразумелай яму важкасцю, ідзе на магільнік да маці і як бы нясе ёй з трымценнем сэрца часцінку бацькавай душы.

Вось прыехаў і цяпер. Але на гэты раз каля помніка ўжо быў згорблены, ссівелы чалавек з ордэнскімі планкамі на цёмна-шэрым пінжаку. А ля агароджы стаяў чырвоны «Масквіч».

Чалавек сядзеў на адной з паламаных лавак і глядзеў на вёску, якая за апошнія дваццаць гадоў ператварылася ў сучасны пасёлак з цаглянымі дамамі. І, каб не родная састарэлая хата і некалькі суседскіх, Пятрусь ніколі б не пазнаў сваю вёску.

Чалавек яўна ўзрадаваўся Петрусёваму прыходу і піскляватым старэчым голасам як бы праспяваў:

— Скажыце, вы тутэйшы?

— Тутэйшы, — адказаў Пятрусь.

Чалавек паказаў рукой на мураванкі, якія падступалі да самага гасцінца і ледзь не дабіраліся да суседняй вёскі Козікі, і зноў спытаў:

— А гэта вёска Янкі?

— Янкі.

Дзядок, крыва ўсміхнуўшыся, працягваў:

—Ай-яй-яй, як усё перамянілася. Вакол жа некалі лясы былі. А цяпер во на ўказальніку прачытаў — і вачам сваім не паверыў. Усе вёскі кругом як на далоні. А Нябышына не відаць адсюль?

— Не, не відаць, — адказаў Пятрусь і запытаўся: — А вы з тутэйшых мясцін?

— Не, ваяваў тут. Партызаніў. Дык з-за гэтых вашых паршывых Янкоў і Нябышына мяне ледзь двойчы не расстралялі свае. Колькі мая падрыўная група ні ставіла тут мінаў, ніводная не ўзарвалася. Мяне ледзь у правакатары не залічылі. Але неяк абышлося.

Мужчына не па гадах жвава падхапіўся і пашыбаваў да помніка.Тыцнуўшы пальцам у тое месца, дзе было напісана «Лабынька Фёдар Данілавіч», запытаў:

— А гэты з Янкоў?

— З Янкоў.

— Ён у маёй групе быў. Пасля прапаў без вестак.

— Не, не прапаў, — удакладніў Пятрусь. — За дзень да вызвалення вёскі ён трапіў у палон да літоўскіх ці латышскіх легіянераў, і яны яго закатавалі. Мой бацька з ягоным ноччу забралі і пахавалі тут, на мясцовых могілках.

У мужчыны раптоўна зайгралі на паморшчаных, але яшчэ чырвоных шчоках жаўлакі. Ён ледзь чутна скрыгатнуў устаўнымі зубамі і зноў тыцнуў пальцам у прозвішча.

— Здраднік! Усе вашы янкоўцы здраднікі! Я потым дачуўся, што яны паказвалі немцам, дзе мы ставім міны. Шкада, што позна дачуўся, а то б іх усіх перакасіў з аўтамата. І праклятыя Янкі спаліў бы датла.

Пятрусь ведаў: чалавек не проста так гаварыў. За які год да вызвалення камендант Докшыц выдаў загад, што, калі бліжэй за кіламетр ад любой вёскі падарвецца на міне хоць адна машына ці фурманка, ці будзе забіты хоць адзін салдат, вёска пойдзе дымам разам з людзьмі як «бандыцкая». Вось тады, каб ўратаваць вёску, мужчыны па начах пачалі дзяжурыць ля гасцінца ў спецыяльна замаскіраваных схованках. А Федзя, будучы у групе падрыўнікоў, забягаючы на хвіліну дамоў, паведамляў бацьку, калі і дзе будзе пастаўлена міна.

Ранічкай едуць на машынах ці на фурманках немцы. Мужчыны спыняюць іх, паведамляючы:

— Пан, там міна.

— О, гут-гут. Данке! — ляпаюць па плячы немцы, частуюць цыгарэтамі, цукеркамі «бом-бом», а «мінёры» размініраваюць дарогу, і машыны едуць далей. Такое рабілі не толькі жыхары Янкоў, але і Дубавога, і Козік, і некаторыя яшчэ, з жахам назіраючы, як недзе недалёка гараць вёскі. Значыць, ля іх спрацавалі міны.

Козікі і Дубавое ўцалелі аж да вызвалення. Не пашанцавала толькі Янкам. І, казалі, вінаваты ў гэтым той жа Федзя, які ахвяраваў дзеля іх сваім жыццём.

Калі яго схапілі легіянеры і доўга катавалі, ён, не вытрываўшы, сказаў, што родам з Янкоў. Адступаючы, вылюдкі і спалілі ўшчэнт вёску. Праўда, без людзей.

Петруся вельмі зацікавіў гэты чалавек. Ён шмат чуў гісторый пра Шунеўку, і пра Дабрунь, і пра Залатуну, і пра іншыя спаленыя вёскі. Пра гэта хадзілі розныя чуткі. А тут жывая гісторыя.

— Вы ж ведалі пра загад каменданта? — спытаў Пятрусь, прысеўшы побач са старым.

Мужчына хітравата прыжмурыў вочы і, як усё роўна ўтойваючы пад доўгімі сівымі бровамі нейкую нікім нязведаную мудрасць, сказаў:

— Ведалі. Таму і стараліся выклікаць у людзей нянавісць да акупантаў.

Пра Нябышына Пятрусь чуў вельмі мала. Яно далекавата ад Янкоў. Кіламетраў сем ці болей. Нехта расказваў, што вёска ацалела, нават калі партызаны знішчылі каля яе бацюшку. Пятрусь пра гэта і запытаўся ў чалавека.

— Ну, было гэта ў пачатку лета, — пачаў апавядаць той. — Ноч цёплая-цёплая. Паставілі супрацьтанкавую міну. Спічонак з Дарафеевым заснулі. Я застаўся пільнаваць, каб не наехаў хто з мясцовых жыхароў. А калі пачуецца шум матора — даць знаць хлопцам, каб своечасова ўцячы. Маладыя, яны заснулі мёртвым сном. Віднее. Вейкі зліпаюцца, як намагнічаныя, не разамкнуць. І раптам — «бух» — я ўскочыў. Нічога не магу зразумець: усё вакол белае. Быццам зіма наступіла. На ўзбочыне паўразарваны конь адной нагой трэпае. На другім баку дарогі, што бліжэй да мяне, нешта круглае валяецца. Пхнуў нагой — барадатая чалавечая галава. Тут ужо і хлопцы паўскоквалі. Усе разам цямім, што да чаго. У рэшце рэшт дакумекалі, што гэта быў поп. Пазней даведаліся, што ён ехаў з млына, вёз муку. Дык вось і наехаў на нашу міну. Далажылі начальству, думалі, нічога не будзе. Не ведалі, што ўжо быў загад з Масквы, каб схіліць на свой бок вернікаў, не чапаць папоў. Цудам мінуў расстрэлу. Гаўптвахтай адрабіўся.

— Недзе так і Шунеўку спалілі? — спытаў Пятрусь.

— Шунеўку спалілі таксама з-за нашай міны. Але яшчэ там маладая настаўніца-патрыётка не то застрэліла, не то абварыла кіпенем нямецкага афіцэра.

— І імя гераіні, мусіць, ніхто не ведае?

Мужчына нічога не адказаў. Толькі зморшчыўся, прыжмурыўшы левае вока, зірнуў на п'едэстал помніка і працадзіў скрозь зубы:

— А гэтым пашанцавала. Бач, героямі сталі. Здраднікі няшчасныя! Даведайся я раней — іншае б ім месца было, іншая слава.

— І вы ў гэта шчыра верыце? — здзіўлена запытаў Пятрусь.

Чалавек змоўчаў.

Пятрусь падняўся з лаўкі. Устаў і чалавек. Не развітваючыся, яны пайшлі кожны сваёй дарогай. Чалавек — да чырвонага «Масквіча», Пятрусь — да маці... на магілкі... Толькі цяпер з нейкім новым, незразумелым цяжарам у сэрцы.

# АДНОЙЧЫ ВОСЕННЮ

Была позняя восень. Канец лістапада. Сцяпан Сцяпанавіч Янкоўскі на гэты раз прыехаў на дачу пазнавата, у другой палове дня. Надвор'е было выдатнае, і ён вырашыў пераначаваць на сваёй «фазэндзе», тым больш, што засумаваў па ёй, даўгавата не быўшы.

Добра прапаліў грубку, нагрэў ля яе пасцельнае прычындалле, выключыў святло і ўлёгся на канапе.

Хацеў хутчэй заснуць, каб заўтра раней устаць, сёе-тое зрабіць і завідна паехаць дамоў: пачаўся дождж з вялікім снегападам.

Сцяпан зазірнуў у акно, нейкае імгненне любуючыся бязладным танцам густых сняжынак з кроплямі дажджу, і зноў уключыў святло. Неонавая лямпа дзённага святла, як заўсёды, весела і ўрачыста задрынкала і похапкам асвяціла пакой.

Праз нейкі час у сярэдзіне корпуса лямпы прачнулася ці ажыла вялікая муха, а можа, нават і чмель, і радасна залапатала крыльцамі, зазумкала, пырхаючы сярод ззяючых неонавых трубак.

Гэтыя лапатанні, зумканні пачалі ўжо было раздражняць Сцяпана, але раздражненне хутка прайшло, калі ён узяўся чытаць газету. Праўда, час ад часу чуў, як з парывамі ветру шапоча за акном дождж са снегам.

Янкоўскі тады пачынаў трывожыцца, што пад раніцу можа пайсці снег і замяце дарогу. А ісці да электрычкі добрых чатыры кіламетры. Паспадзяваўшыся на сённяшняе сонечнае надвор'е, ён, як той дурань, абуў лёгкія летнія чаравікі.

Раптам на двары пачаўся спачатку далекаваты, а потым ужо і блізкі грукат. Як усё роўна грымнуў гром.

Сцяпан насцярожыўся: у такую пару грому не павінна быць!.. Прыслухаўся, чакаючы, ці не ідзе паблізу якая машына. І раптам яго пакрысе пачаў апаноўваць страх. У такую пару самы разгул зладзеяў, якія абкрадваюць дачы.

Але раптоўна гром-грукат прапаў, і пачуўся нейкі зумлівы, металічны, як у робата, голас:

— Ты грэшнік, — неяк уладарна, безапеляцыйна прагучаў ён.

Янкоўскі чамусьці вельмі спакойна працягваў чытаць, нібы гэта было нейкае недарэчнае зумканне той жа мухі ці чмяля ў свяцільніку. Але праз якую хвіліну зноў паўтарыўся гром, але ўжо не такі далёкі, а грымеў, як быццам недзе над страхой хаты. А праз нейкі момант зноў загучаў голас, таксама ўжо блізкі і намнога гучнейшы:

— Ты грэшнік!..

Сцяпан Сцяпанавіч не на жарт затрывожыўся, зразумеўшы, што гэта не сон, не блюзненне.

— Хто гэта? — сцішана запытаў ён, цяпер чамусьці без усякай трывогі, а нават з пачуццём нейкай невядомай таемнай радасці.

— Бог... — адказаў голас і без усялякага перадыху працягваў гаварыць: — Ты грэшнік і будзеш жыць дзевяноста два гады.

Дзіўна: ён, Сцяпан, адукаваны, пажылы ўжо чалавек, праўда, калісьці не вельмі заядлы атэіст, адразу паверыў, што гутарыць з ім Сам Бог, і сцішана, нібы бяздумна, сказаў:

— Божачка!.. Ды, як жа гэта? Я і сапраўды вялікі грэшнік, дык чаму ж Ты столькі многа даеш мне жыцця? Мне і так ужо пяцьдзесят.

— Ты грэшнік. І будзеш жыць дзевяноста два гады, — як не слухаючы Сцяпана, яшчэ гучней працягваў гаварыць металічны голас.

Сцяпан задумаўся, чаму Бог яму, грэшніку, дае доўгае жыццё...

— Дзякуй, Божачка!.. Дзякуй, Святы!..

І потым машынальна спытаў:

— А колькі жонцы жыць?

— Пяцьдесят шэсць.

— Што? — як акамянеў Сцяпан.

— Пяцьдзесят шэсць! — спакойна, але цвёрда паўтарыў голас.

— Ой, Божачка, яна ж мая равесніца. Вазьмі хаця б дзесяць маіх гадоў і прыбаў ёй.

Голас не гучаў з паўхвіліны, але потым аб'явіўся зноў:

— Добра. Прыбаўляю дзесяць гадоў. Але не з тваіх. Твае ўсё роўна дзевяноста два.

— Дзякую, Божачка! — нібы абвеяны нейкім лагодненькім цёплым ветрыкам, як не сваім голасам працягваў ён.

— А маёй старэйшай дачушцы Наташцы колькі дасі?

— Семдзесят восем.

— Ой! — не чуючы свайго голасу, залямантаваў Сцяпан. — Дабаў хоць дзесятак... З маіх!..

— Не дабаўлю! — раўнадушна прагучаў голас.

— А другой дачушцы, Настачцы? — ужо ў роспачы прашаптаў Сцяпан.

— Восемдзесят адзін.

Сцяпан зразумеў, што, як ні малі, як ні прасі, Бог нічога не дабавіць, і з нейкай асаблівай трывогай, з бояззю, адчуваючы, як нешта тухне ў ягонай душы, запытаўся:

— А ўнучку Сцяпанку?

У пакоі ўсталявалася гнятлівая цішыня, вось-вось гатовая смяртэльным цяжарам абрынуцца на Сцяпана. І ён адчайна закрычаў:

— А Сцяпанку? А Сцяпанку? Сцяпанку!..

Ціхая, даўкая, нейкая смяротна пагражальная цішыня акружыла Сцяпана. І ён, паклаўшы газету пад падушку, выключыў святло і, накрыўшыся ватнай коўдрай ледзь не з галавой, стараўся заснуць... Але не заснуў аж да самай раніцы.

...З таго часу прайшло ўжо ледзь не дзесяць гадоў, але Янкоўскі амаль нікому не расказвае пра тое, што з ім здарылася аднойчы восенню на дачы. Баіцца, што не паверыць. Засмяюць. Скажуць, што ўсё прысніў, ці выдумаў, ці быў п'яны, ці ўвогуле прыблюзніў...

Сцяпан і сам хоча думаць, што гэта быў сон або якое-небудзь трызненне. Але ўвесь час яму не дае спакою трывожная, ледзь не жахлівая думка: чаму голас не сказаў пра гады жыцця ўнука?





Змітрок МАРОЗАЎ

# «ЖЫВУ, ПАКУТУЮ, ЛЮБЛЮ...»

## ХРАМ

Я збудаваў свой храм са слоў прыгожых,
Нібы з цаглін, апаленых агнём...
Было ў тым храме вусцішна і гожа
Завейнай ноччу, навальнічным днём.

Свае пачуцці, мары і памкненні
За сцены храма я не адпускаў,
А слухаў толькі музыку натхнення,
На мітусню ж увагі не звяртаў.

Але аднойчы ноччу Шляхам Млечным
Сышоў, як прывід, старац да мяне:
«Твой храм — турма, а ты ў ім — вязень вечны», —
Пачуў я ціхі голас, як у сне.

«Зямлі ты зрокся, чалавеча мілы,
Не чуеш стогнаў гоняў і бароў.
Каму касіць? Каму араць? З магілаў
Ты не падымеш песняй плугароў».

Быў гэты вырак, як пад сэрца ножык,
Як перуновы стрэл сярод зімы...
Я зруйнаваў свой храм са слоў прыгожых
І абрабіў пад жыта дол нямы.

---

*__Марозаў Дзмітрый Дзмітрыевіч__ нарадзіўся 2 студзеня 1954 года ў пасёлку Язбы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1975). Працаваў аграномам у калгасах на Магілёўшчыне, пэўны час быў на камсамольскай рабоце. З 1986 года працуе ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь.*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Пад небам буслiным», «Хлебны верасень», «Ачышчэнне сяўбой», «Сын чалавечы», «Баліць душа па Беларусі», «Акварэлі пачуцця», першага ў славянскай паэзіі вянка вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы» і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1988) і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (1995).*

Рунець яму ціхмяным днём асеннім,
Шаптацца жыту з ветрам веснавым...
Мае ж пачуцці, мроі і памкненні
Над ім паплачуць дожджыкам жывым.

* * *

На асфальце тлум і шум,
Драмы...
Адмалі маю душу,
Мама, —
У чужога, усяго
Злога.
Адмалі дзеля свайго
Бога.
Ты — апошні абярог
Хаты,
Дзе чысцей нябёс парог
Таты...
Ні аб чым не папрашу
Болей...
Адмалі маю душу
Ў болю.

## ЧОРНЫ БУСЕЛ

Чорны бусел заблудзіўся ў небе —
Не знайшоў радзіннага гнязда,
І людзей, што дбалі век аб хлебе,
Паланіла злыбеда-бяда.
А бяда Чарнобылем завецца.
Паліць сэрцы люты сухавей...
Хто памёр — ніколі не прачнецца, —
Мо таму і чуем: «Там лацвей».
А жывым — жывое: дбаць аб хлебе
І маліцца за малых дзяцей...
Чорны бусел заблудзіўся ў небе
Над зямлёй няспраўджаных надзей.

* * *

Зноў людства моліцца грашам,
І абясцэнілася слова.
Безабаронная душа
Блукае ў поцемках жыццёвых.

Куды ідзём? Шукаць у чым
Сваё апірышча на свеце?..
Усім знямелым і сляпым
Купалы зорка ясна свеціць.

* * *

У пошуку ўяўнай свабоды,
Багацця і славы пустой
Як шмат нарабілі мы шкоды
Адвечнай прыродзе жывой.

Яна нас карае за гэта
І ў новым стагоддзі радзей
На свет нараджае паэтаў,
Хто словам бароніць людзей.

* * *

Мне з памяці не сцерці
Тых, хто ў нябыт пайшоў...
Вучуся жыць у смерці
Каля сівых крыжоў.

А паміраць вучуся
Я ў мудрага жыцця...
Мо зноў на свет з'яўлюся
Аднойчы з небыцця?

З усмешкаю дзіцяці,
З русявым каласком,
З прачулай песняй маці,
З прасветленым радком.

## АБУДЖЭННЕ

Калі абуджаюцца кветкі ад сну
І жаўранак першы над рунню зялёнай
Світальным званочкам вітае вясну, —
Душа напаўняецца песняй натхнёнай.

На струнах абуджанага пачуцця
Прырода шэдэўры такія ствараае,
Што хочацца верыць у вечнасць жыцця,
Якое да зор чалавека ўздымае.

## СКУЛЬПТУРЫ

*(Дыптых)*

I

Хлопчык з лебедзем. Фантаны
Граюць весела ў цішы
Для шчаслівых закаханых,
Для здарожанай душы.

Хлопчык з лебедзем зліліся,
Як блізняты-спарышы...

Чалавеча, прыпыніся,
Слоў паспешных не кажы.

Памаўчы. І ў зморы-млосці
Анікога не віні, —
Каля вечнай прыгажосці
Чуйным сэрцам адпачні.

**II**

Дзяўчынка з парасонам
У скверы гарадскім.
Пад дожджыкам зялёным,
Пад ветрам веснавым.

Глядзіць, нібы жывая,
На нашу мітусню...
Здаецца, што спявае
Нягучна песню дню.

Тут, горадам стамлёны,
Раблюся маладым...
Пад дожджыкам зялёным,
Пад ветрам веснавым.

* * *

Аб неўтаймоўнай радасці жыцця
Спяваюць вусны весняга лісця.
А восень гэткай радасці не знае
І нам лісцё пад ногі атрасае.

* * *

Гучала музыка ў цішы
Начнога саду.
Твой голас, родны і чужы,
Быў мне не рады.

Не адчуваў я больш у ім
Цяпла былога...
У зорным вобразе тваім —
Сябе самога.

Магічнай поўні варажба
Нас чаравала,
Ты штось казала, а сама,
Бы ў сне, лунала.

Цябе я слухаў і маўчаў...
І мог адчуць я,
Як вобраз іншы хваляваў
Твае пачуцці.

* * *

Адпалалі кветкі лугавыя,
Прамільгнула лета, быццам сон.
Ды прыроды дзіўная стыхія
Шчэ мацней бярэ мяне ў палон.

Маладога верасня пяшчота —
Колькі ў ёй спакою і святла!
Аздабляе клёнаў пазалота
Краявід зарэчнага сяла.

Як чаўны былінныя, аблокі
Да чужых сплываюць берагоў...
Дух прыроды, вольны і высокі,
Напаўняе сэрца да краёў.

* * *

Зноў аблашчыла сонца вясновае
Ля ціхмянай ракі вербалоз.
Бачу вочы твае васільковыя —
Дзве крынічкі, паўнюткія слёз.

Як ахвяра густой павуцінаю,
Ты аблытана хіжай маной,
Толькі ведай, цябе не пакіну я,
Як раней, я — з табой, ты — са мной.

Дык не плач. Глянь, як сонца гуллівае
Снег зганяе з рачных берагоў...
Гэтак вось твае сэрца чуллівае
Ад балючых пазбавіцца слоў.

* * *

Жыву, пакутую, люблю,
Малюся коласу і Богу,
З трывог і радасцей ляплю
Днём і ўначы сябе самога.

Жадаю зазірнуць у век,
Які пражыць не давядзецца...
І ўсё ж я проста чалавек,
Гляджу на свет вачыма сэрца.







# ПЕРААДОЛЕННЕ НАКАНАВАНАГА

*(Да стагоддзя Яна Скрыгана)*

Калі памірае Творца, людзі часта пачынаюць задумвацца, што ж было страсцю яго жыцця. Здаецца, страсцю жыцця Яна Скрыгана было само жыццё.

Без дакучлівай павучальнасці, без амбіцыйнай прэтэнзіі на арыгінальнасць карпатліва занатоўваў ён на старонках Вялікай Кнігі Быцця свае маргіналіі: назіранні, уражанні, роздум. Сцілом пісьменніка рухала імкненне прывесці ў гарманічнае суладдзе думкі, эмоцыі і слова.

А яшчэ на пачатку жыццёвай дарогі была здзіўляючая, моцная, сапраўды кармічная повязь з бацькам, які, зразумела, не мог ведаць, што сучасныя астролагі назавуць знак, пад якім нарадзіліся людзі ў другой палове лістапада, знакам «спаленай дарогі». Гэта ён, Аляксей Скрыган (так ласкава памінаў бацьку сын (16 лістапада 1905 года*) адразу пасля народзін дзіцяці, ратуючы сваю будучыню (бо ў сям'і было ўжо пяць дачок, а хлопчыкі ўсе паміралі), прыслухаўшыся да парад мудрых людзей, кінуўся досвіткам па восеньскім бездарожжы на скрыжаванне шляхоў, каб прасіць першага сустрэтага стаць нованароджанаму за хроснага бацьку. Гэта ён, непісьменны селянін з вёскі Труханавічы Капыльскага раёна, марыў даць свайму спадкаемцу добрую адукацыю: запрасіў за рэпетытара мясцовага бацюшку, прывозіў амаль штотыдзень харчы ў Слуцк, дзе Янка пасля заканчэння царкоўна-прыходскай школы вучыўся нядоўга ў гімназіі, затым у школе другой ступені, яшчэ пазней у сельскагаспадарчым тэхнікуме. Абодвум ім, бацьку і сыну, якія знаходзіліся тады на адлегласці з дзесятак кіламетраў, наканавана было пазбегнуць смерці ў адзін і той жа дзень — не ўтапіцца ў ледзяной рачной палонцы.

Праўда, бацькоўскае жаданне бачыць сына гаспадаром не спраўдзілася. Скрыган-малодшы ведаў, што «гаспадара з яго не будзе». Зямля заўсёды была магнітным прыцягальнікам для кожнай беларускай сялянскай сям'і. Не была выключэннем у гэтым плане і сям'я Скрыганоў. На банкаўскую пазыку выкупілі кавалак самай таннай зямелькі (абы бо-

---

* Даверымся гэтай даце, бо ў сям'і Скрыганоў дзень нараджэння Яна Аляксеевіча адзначалі менавіта ў гэты дзень, хаця ў аўтабіяграфіі «Свая аповесць», змешчанай у зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі», пазначана 23 лістапада.

лей!) ды і клалі сілы, каб з дня ў дзень, да знямогі, да сёмага поту ўрабляць «няўдобіцу». Штовечар у сясцёр ад працы пальцы не гнуліся, ад стомы заплюшчваліся вочы, маці ж Варвара часцяком плакала. І ўсё з-за «работы на капейку».

Душа ж маладога чалавека рвалася да волі і радасці, ёю рухала прага навукі і вялікае жаданне пабачыць свет. Дарадцамі зрабіліся кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Льва Талстога, Байрана, якія хлопец ухітраўся выменьваць на хатнія харчы.

Гады вучобы ў Слуцку, а пасля на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні БДУ ў Мінску сталі гадамі нястрыманага імкнення спраўдзіцца, даказаць сябе і другім, чаго ты варты. Яны вырвалі з беспрасвету марнасці працы на бацькоўскай зямлі і ўвялі ў «бурапенную» стыхію маладнякоўскага сцвярджэння прывабна-прыцягальнай камуністычнай ідэі пераўтварэння свету, якая, як здавалася і шчыра верылася, — дасягальная.

Пазнейшыя апавяданні-ўспаміны Яна Скрыгана захавалі для сённяшняга чытача шматлікія праўдзівыя падрабязнасці з тагачаснага літаратурнага жыцця рэспублікі, ажывілі настроі, пачуцці і памкненні, якія валодалі рознымі пакаленнямі айчынных творцаў. У іх аўтар здолеў зафіксаваць і ўтрымаць уражанні ад бачанага і перажытага тады, пакінуўшы сапраўдныя ўзоры мастацка-дакументальнай «спавядальнай» прозы. Дарункам лёсу стала асабістае знаёмства з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Кузьмой Чорным, у якога «ва ўсім — як ён гаварыў, як слухаў і нават як маўчаў — было нешта патрэбнае, нейкая блізкая <...> праўда».

Вострая назіральнасць, чалавечая і мастакоўская праніклівасць, уменне быць дакладным у міні-характарыстыках дазволілі пісьменніку аднавіць аблічча і асаблівасці характараў многіх сваіх знаёмцаў: «нарачанскага чараўніка» Міхася Лынькова; «цалкам захопленага паэзіяй барацьбы, наступу, услаўлення часу» Петруся Броўкі; Лукаша Калюгі — пісьменніка «культурнага па мысленні і па філасофскай напоўненасці»; Сымона Барана, які з лёгкай рукі Яна Аляксеевіча стаў падпісваццa Сымон Баранавых; «чулага сэрцам, даверлівага» Алеся Пальчэўскага; блізкага сябра Заіра Азгура, з якім доўгі час яны «былі проста спарышы»; Міколы Нікановіча, які «пісаў з пякельнай асалодай»; Змітрака Астапенкі, «фантазіі ў якога былі заўсёды вельмі крылатыя»; лідэра літкамуны Паўлюка Шукайлы, які «ў вершах прызнаваў толькі бунт»; Васіля Каваля, у творах якога месцілася «ўся вёска, яе побыт, паэтыка і песенны лад»; нават горкавядомага Лукаша Бэндэ, які ўжо «кружыў над літаратурай, як коршак», і многіх іншых.

Той час быў поўны эмацыянальнага напалу, радаснага трымцення, што жылі ў парываннях выказаць бачанае ў слове — сваім, асобым, свежанепаўторным. Як пацерка да пацеркі, лёгка нанізваліся радкі вершаў, што сапраўды лёгка бывае ў маладосці. Хаця тыя раннія творы больш цешылі самалюбства аўтара, чым выўлялі яго самабытную індывідуальнасць. Пасля спробы пісаць «пад некага» ці займацца літкамунаўскім штучным наватарствам прыйшло роздумнае расчараванне, бо ўжо нарадзілася адчуванне, згадка: жыццё — класічна прасцей за штучнасць выдумкі, і яно ж, жыццё, — значна складаней за просталінейнасць простасці. Першыя творы пісьменнік падпісваў звыклымі для слыху беларусаў імёнамі: Ян Відук, Я. Відук, Я. Крушына, Аўлас і дзед Аўлас (разам з П. Броўкам), а таксама задзірыста, з выклікам — Пірат.

Яшчэ і сёння некаторыя даследчыкі творчасці Яна Скрыгана шукаюць адказ на пытанне, чаму ў апошнія гады жыцця ён, ужо вядомы беларускі празаік Янка Скрыган, вярнуўся да імя сваёй літаратурнай маладосці — Ян. Хаця сам творца растлумачыў тую метамарфозу ў апавяданні «Імя» (1979—1983), са зместу якога робіцца ясна, што адкрыты, шчыры ў сваіх памкненнях і думках малады літаратар, тактоўны і паважны, выхаваны мудрым народным асяроддзем інтэлігент у першым пакаленні не мог сабе дазволіць падпісвацца імем Янка таму, што ў роднай літаратуры быў Янка Купала і «нікому другому гэткім імем карыстацца няможна». Пазнейшыя развагі прывялі да «экскурсіі ў тапаніміку», з якой вынікала, што Янка — памяншальная форма, якой на Капыльшчыне, як правіла, звалі падлеткаў. Да таго ж вычытаў у аўтарытэтным «Слоўніку асабовых уласных імёнаў» М. Судніка, што ўсе Петрусі, Міхасі, Юрасі, Алесі з'яўляюцца «імёнамі гутарковымі і размоўнымі, юрыдычна неправамоцнымі». Тады прыйшло абурэнне: «Дык што, — значыць, наша літаратура яшчэ падлетковая? Нясталая? <…> Ці не вельмі мы спяшаемся ўсё папраўляць нашу мову? <…> Хіба такія імёны, як Міхал, Якуб, Язэп, напрыклад, не могуць аставацца сярод законных? Як Васіль, Рыгор, Аркадзь. У іх жа і шырокае народнае бытаванне, і сталасць формы, і класічная наша літаратура». Канец ваганням паклаў дакумент, што цудам захаваўся сярод іншых папер, — першы білет члена Саюза пісьменнікаў, падпісаны М. Горкім у студзені 1935 года і выдазены Скрыгану Яну Аляксеевічу.

Дарэчы, гэты невялічкі па памеры ды вельмі характэрны па сваёй жанравай спецыфіцы для ўсёй скрыганоўскай прозы твор дае нам упэўніцца ў жаданні аўтара быць дакладным і шчырым. Дакладным і шчырым ён імкнуўся заставацца заўсёды.

Тады ж, у другой палове дваццатых, шмат друкуючыся ў перыёдыцы як паэт, паспрабаваў сілы ў прозе. Апавяданне «Таіса», якое напісалася літаральна за адну ноч, стала празаічным стартам. Нарэшце з'явіліся і кнігі: зборнікі нарысаў «Шугае сонца», «Недапісаны профіль»; зборнікі апавяданняў, навел і аповесцей «Затока ў бурах», «Каця Лапянкова», «Сустрэчы». Сам сабе найвышэйшы крытык, Ян Скрыган зазначыў у 60-х, што «шмат там было бездапаможнага глупства». Тым не менш з вышыні сённяшняй навуковай думкі літаратуразнаўцы (В. Каваленка, В. Жураўлёў, С. Андраюк, М. Мішчанчук, Б. Бур'ян, Г. Шупенька, Л. Савік і інш.) справядліва зазначаюць, што тагачасныя празаічныя мастацкія рэчы пісьменніка поўняцца невыдуманымі рэаліямі жыцця, падкупляюць шчырасцю і чысцінёй пачуццяў.

Надышоў 1936 год... Ён перакрэсліў працу над задуманым раманам пра козыраўскіх партызан, разлучыў з маладой жонкай, вырваў з «інтэлектуальнага клімату», актыўнай грамадскай дзейнасці і закінуў у «дзіўную, як пісаў Аляксандр Салжаніцын у сваім «Архіпелагу ГУЛАГу», краіну, геаграфіяй разадранай у архіпелаг, але псіхалогіяй скаванай у кантынент, — амаль нябачную, амаль неасязальную краіну, якую насяляў народ зэкаў», тых, «хто ехаў сюды паміраць».

Арыштаваны 13 лістапада 1936 года ў Доме творчасці пісьменнікаў пад Пухавічамі, Ян Скрыган вымушаны быў васемнаццаць з лішкам гадоў правесці ў тым архіпелагу: у сібірскіх лагерах, на вольным пасяленні ва Узбекістане, Эстоніі, пасля паўторнага арышту зноў у Сібіры; паспеў памяняць там з дзесятак прафесій (цесляра, землякопа, будаўніка, вадавоза,

сплаўшчыка, конюха, бухгалтара, планавіка, рэвізора) і пры гэтым «ціхенька і пашаноўна дзякаваў бацьку, што ён з малых гадоў прывучыў усё рабіць» (ап. »Узнагарода»). Увесь гэты час мужна ішоў па гарачых асмалках сваёй «спаленай дарогі», ішоў годна, не наракаючы, не скардзячыся, што пякельны жар невыносны, што ён забівае, і знаходзіў сілы, а значыць духоўную моц, найперш заставацца чалавекам.

Мужнасць спатрэбілася і тады, калі пасля поўнай рэабілітацыі апынуўся ў Мінску, зноў уключыўся ў актыўную працу. Працаваў многа і аддана: рэдактарам Дзяржвыдавецтва БССР (1955—1959), літкансультантам Саюза пісьменніка Беларусі (1959), рэдактарам і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» (1959—1967), загадчыкам літаратурна-кантрольнай рэдакцыі ў выдавецтве «Беларуская савецкая энцыклапедыя» (1967—1975), яшчэ дзесяць гадоў адказным сакратаром камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (1975—1985).

Тым часам бясконцая чарада вобразаў, што раіліся ў памяці, не давала спакою, падштурхоўвала да творчасці. Прыхапкамі, часцей гадзінамі, адваяванымі ў ночы, ён натхняўся гоманам галасоў, што поўнілі цішыню творчай адзіноты, пераконваўся логікай ці здзіўляўся алагізмам паводзін персанажаў, якія прасіліся, каб хутчэй надаў ім на чыстым аркушы паперы «цялесую абалонку».

Ён ведаў бясцэнную цану адзіноты — часіны творчага гарэння, пужлівасць Музы, калі «ў цябе свой свет: твае ўяўленні», і сам стараўся нічым не патрывожыць спакой другіх людзей. Таму, каб, крый Божа, не парушыць працэс творчага натхнення Івана Мележа, які жыў паверхам ніжэй, і перацягвалі ў кватэры Яна Скрыгана піяніста з аднаго пакоя ў другі (далей ад мележаўскага кабінета) і як мага паніжалі гук прайгральніка.

Музыка... Яе любілі, з ёй жылі Скрыганы. Асабліва многа гучала музыкі класічнай — Вердзі, Сара-Сатэ, Сен-Санс, Чайкоўскі, Грычанінаў. Вялікія, чорныя, паласатыя вінілавыя пласцінкі з любасцю купляліся, дарыліся на святы, ашчадна захоўваліся. Часцей гучалі музычныя опусы Эдварда Грыга. Зразумела, гэта была не выпадковасць, як усё невыпадковае ў жыцці. «Песня Сольвейг» мо мроілася яшчэ ў ГУЛАГу, у першую чаргу дорачы надзею-спадзяванне: «Зима пролетит, а за ней придет весна...» і «абуджаючы ў душы боль страты, адчай і бясконцую просьбу» (ап. «Песня Сольвейг»). Грыгаўскія камерныя ды вакальныя творы, відаць, імпанавалі сваім лірычным настроем, хараством вобразаў паўночнай прыроды, самабытным знітаваннем фальклорных мелодый з набыткамі класічных еўрапейскіх музычных накірункаў. Дачка Галя яшчэ з дзяцінства запомніла, што за калыханку ў яе быў знакаміты грыгаўскі нарвежскі танец ля мажор, які, гушкаючы, ціхенька напяваў ёй бацька. Магчыма таму, яна, любае птушаня Яна Скрыгана, сталеючы, і абрала за прафесію жыцця музыказнаўства, панесла ў свет не мудрасць друкаванага слова, а чароўнасць знакаў нотнага стану.

Так наладжвалася духоўная повязь новых пакаленняў, далей працягвалася кармічная еднасць бацькі і дзіцяці. Бацькоўскія любоў і клопат прымусілі (не, не прымусілі, а натуральна падказалі) Галіне Янаўне замацаваць за ўласнымі ўжо дзецьмі сваё прозвішча, каб не згас род Скрыганоў. І можна ўявіць, якім радасным узрушэннем, неспадзяваным шчасцем стаў для Яна Аляксеевіча і яго сямейнікаў ліст з Германіі, атрыманы ў 1963 годзе. Яго даслаў на адрас Саюза пісьменнікаў двац-

цацішасцігадовы сын Яна Скрыгана ад першага шлюбу, які ўбачыў знаёмае роднае прозвішча на вокладцы выпадкова трапіўшай у рукі кнігі. У далёкім скрушным 1936 годзе з'яўленне таго хлопчыка на свет было толькі ў праекце, але з лагернай, нямаведама якім шляхам перададзенай весткі, Скрыган даведаўся пра яго народзіны, а яшчэ даведаўся пра гібель жонкі і сына.

Адным словам, усе дзеці (свае і чужыя) заўсёды заставаліся дарагімі, чаканымі, непакінутымі і не абыдзенымі пяшчотай і ўвагай.

Плён пісьменніцкай дзейнасці Яна Аляксеевіча ўжо быў адзначаны ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Тувінскай АССР, лаўрэацтвам за працу ў «БелСЭ», званнем Заслужанага работніка культуры Беларусі, на кніжных паліцах занялі належнае месца ягоныя «кніжныя дзеткі» — двухтомнік выбраных твораў (1975), выпакутаваныя сэрцам зборнікі «Кругі» (1969), «Некалькі хвілін чужога жыцця» (1979), а думкі ўсё пераносілі ў прасторы і часе, вяртаючы да вусцішных успамінаў. У запаветнай «Шуфлядзе», як ахрысціў сваю мастацкую майстэрню пісьменнік, да гэтай пары засталіся не надрукаванымі васемнаццаць даверліва-спавядальных апавяданняў, поўных зведанага гаркавага смаку пражытага і пражытага часу, а таксама пранізліва-светлага жыццелюбства.

Толькі два з іх вяртаюць у дзяцінства празаіка («Чарнуха», «Шуканне камянёў»), пераважная ж большасць астатніх прысвечана паказу блуканняў былога палітвязня па пакутах.

«Трэба хоць трошкі ўспомніць», «Эстонія», «Блуканні» — падобныя да старонак дзённікавага запісу. Першае перадае стан разгубленасці чалавека ад нечаканага арышту і адначасова яго спакой, бо ніякага злачынства ён, вядома, не зрабіў, а яшчэ адчуванне бязвіннай вінаватасці перад першай сям'ёй, якой у яго «больш не будзе» і на якую ён кладзе «не толькі бяду, а — ганьбу». Лаканізм падзейнай асновы апавядання «Эстонія» таксама падпітваецца псіхалагічнай дакладнасцю перажыванняў аўтара-героя пры паўторным арышце: задавальненне ад працы на пасадзе галоўбуха сланцавахімічнага камбіната ўКівіылі, разуменне ў адносінах з падначаленымі, трывога ад няпэўнасці становішча, боязь за новую сям'ю. А ў фінале без каментару падаюцца жорсткія словы чэкіста: «Вы арыштаваны» ды жончын шэпт-абярог скрозь слёзы: «Памятай, дзе б ты ні быў, я да цябе прыеду». Каб захаваць сям'ю разам, выратаваць сына Аліка і зусім маленькую Галачку ад немінуючай ростані (падказаў міласэрны чалавек), бо членаў сямей рэпрэсаваных, як правіла, ссылалі ў розныя месцы, а дзяцей накіроўвалі ў розныя дзіцячыя інтэрнаты, Ганна Міхайлаўна і сапраўды ў даволі хуткім часе апынулася з мужам у Сібіры. Надзейнай сяброўцы, ахоўніцы душэўнага спакою і хатняга цяпла, любай Ганначцы Ян Аляксеевіч быў удзячны заўсёды. «Ты выратавала мне жыццё», — сказаў ён пры іх «сібірскім» спатканні.

Некалі з скрыганоўскага эмацыянальнага пасылу прагучала і пазней паўтаралася падчас пісьменніцкіх застолляў-вечарын сакавітае, непаўторна выразнае — «Сма-ка-та-а!». Прычым слова гэтае для самога «пасыльнага» магло азначаць не толькі незвычайнасць прысмакаў на стале, але і ўжывацца ў дачыненні да нейкай прыроднай з'явы, прачытанай кнігі, нават да выгляду дзіцяці ці жанчыны.

Дастаеўскае «прыгажосць выратуе свет» сапраўды аказалася трывалым пастулатам у часе. Бо ўбачыць, адчуць, уразіцца прыгажосцю, калі вакол жорсткае здранцвенне напаўбыцця, відаць, пад сілу толькі Творцу. Пе-

раадолець наканаванасць спаленай нелюдзямі дарогі ў будучыню неверагодна цяжка. Ратавацца можна хіба, толькі чэрпаючы з уласных духоўных рэсурсаў. І ён чэрпаў — з людской загартоўкі сваёй, з гуманнага разумення законаў свету, з аксіёматычных прынцыпаў народнай маралі. Таму і жанчына, як першапачатак жыцця, як носьбітка непераможнй веры ў лепшае, заўсёды прыцягвала ўвагу, не давала мажлівасці забыцца, што ты чалавек, што ты мужчына. Ганна Ларына, якая стала «падканвойніцай» за тое, што была жонкай Бухарына («Ганна Ларына»); невядомая толькі аднойчы ўбачаная прыгажуня, якая нечакана пачала лаяцца на грубым зэкаўскім слэнгу, але і гэтым не здолела разбурыць ужо створаны пісьменніцкім уяўленнем вобраз («Узнагарода»); і тая, што праліла незразумелыя слёзы, калі выпадкова даведалася, хто ж у ананімных запісках нясе ёй трывогу і радасць усведамлення сваёй жаночай прыцягальнасці («Неразгаданыя слёзы»); і загадчыца сталоўкі Муза, якая кінула ў райкаме свой партбілет, прамяняўшы ўсталяванасць хатняга дабрабыту, знешнюю прыстойнасць сямейных адносін на хісткую магчымасць знайсці «рай у шалашы», а галоўнае — магчымасць застацца сама сабой («Муза»), — гэта жанчыны, якія ў пэўнай ступені сталі знакавымі асобамі на жыццёвым шляху пісьменніка, якому тады трэба было выжыць, выстаяць. Хутчэй за ўсё, яны і ўспомніліся напрыканцы ўжо пераадоленай наканаванасці дарогі, бо некалі далі вачам, істоце ўсёй нават не фізічным дотыкам, а толькі сваёй прысутнасцю мажлівасць зноў перажыць імгненні вечнасці, мажлівасць зноў адчуць смак сапраўднага жыцця.

Калі перагортваеш старонкі апошніх апавяданняў-споведзяў Яна Скрыгана, усведамляеш, што яму вельмі важна было на схіле год выказаць словы ўдзячнасці ўсім добрым людзям, якія сустракаліся ў яго жыццёвым падарожжы, паспець аддаць ім даніну сваёй шчырай павагі.

Памяць аўтара захавала першы, адзначаны свядомасцю выпадак, «калі людзі», з тае строгае пасады, якую яны займаюць, не пазбаўлены чалавечнасці» («Трэба хоць трошкі ўспомніць»). Згадаліся словы невядомага канваіра, які дазволіў аддаць знясіленаму, апухламу ад голаду лагерніку знойдзены ім качан капусты і пры гэтым назваў чалавекам, а не «зняволеным, не арыштантам, як звычайна, заведзена» («Качан мёрзлай капусты»). Вядома, успомніліся і тыя, што жылі побач «у душна напакаваных людзьмі бараках», з дня ў дзень разам «дзяўблі мерзлую зямлю», разам перажывалі «і хваробы, і абмарожванні, і паміранні». Ім, пакінуўшым сваю зямлю «па волі часу і падзей», летуценна бачыліся «бясконца дарагія родныя нівы, лугі, кветкі і травы, раніцы і вечары, вузкія сцежкі сярод жытоў і хаты»; ім былі «чутны нашы песні», ім свяціла «наша сонца — як надзея, як права аставацца людзьмі» («Свая аповесць»). «Талкавіты, душэўны» брыгадзір Прахор Тарасаў, прыцягальны «нейкай ціхай, спакойнай душэўнасцю» дзесятнік Зайцаў, «мілы душэўны» прараб Пятро Крывец з Заходняй Беларусі, былы сакратар Ленінградскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Анатоль Гарэлаў — «здзіўляючай сумленнасці чалавек», сусед па нарах, «спрактыкаваны, добры, адукаваны» Арлоў, які некалі, «відаць, сам грашыў вершамі», і многія-многія іншыя — персанажы маргінальныя. Аднак, дзякуючы іх прысутнасці ў творах, больш раскрываецца характар самога аўтара, менавіта ягоная дабрыня і спагада, інтэлігентнасць і глыбокая чалавечнасць.

І толькі адна мініяцюра, што займае няпоўную друкаваную старонку, мае назву «Нелюдзі». Іх, нелюдзяў, як зазначае Ян Аляксеевіч, у яго жыцці

было двое. Першы — былы сусед па кватэры, шчыры, «здавалася, сябар, паэт». Другі — следчы, «дзяржаўны цынік і правакатар», які збіваў да крыві, «абліваў халоднай вадой. Саджаў на ножку перакуленага табурэта, на некалькі гадзін саджаў у карцар, такі вузкі, што ў ім нельга было паварушыцца. І калі ты не меў сілы ўжо стаяць, ты вісеў, здушаны яго цеснатою да болю ва ўсім целе».

Жанрава-стылёвую спецыфіку твораў Яна Скрыгана літаратуразнаўцы часта вызначаюць як «мастацкую нарысавасць». Сапраўды шматграннасць яго паэтыкавых форм (ад навелістычна сціслых мініяцюр да аўтабіяграфічных нататкаў) ніяк не ўкладаецца ў традыцыйнае ўяўленне пра нарыс. І ўсё ж іменна з нарысам, эсэ родніць іх асаблівае стаўленне да матэрыялу, яго «фактычнасць», дэталізаваная дакладнасць, хаця і паэтычна выражаная. Увогуле ж, як пісаў Янка Брыль: «Калі прыняць талстоўскі крытэрый акрэслівання сапраўднага мастацтва — значнасць зместу, шчырасць аўтара і прыгажосць формы, — найлепшыя апавяданні Скрыгана вытрымліваюць такую праверку».

Апошнім творам празаіка таксама характэрная наяўнасць звыклай сюжэтнай будовы белетрыстычных жанраў, разгортванне аповеду ад рэальнай асобы самога аўтара, што надае гэтым сапраўдным дакументам часу эмацыянальны напал і псіхалагічнае напаўненне. Пры гранічнай канкрэтнасці і нават натуралістычнасці ў падачы фактаў рэчаіснасці Ян Скрыган звычайна абірае толькі ўнутрана значныя з'явы, якія прызначаны асэнсаваць пэўны абагульняючы тэзіс («Кохія», «Качан мёрзлай капусты»). І тады знешне строга рэалістычны аповед набывае шырокі ўнутраны змест, які выходзіць далёка за рамкі дадзенай фабулы, хаця ён і не паддаецца абстрактнаму адлучэнню ад непасрэднай тканіны твора. Іменна ў гэтым бачыцца блізкасць некаторых апошніх твораў да народнй прытчы (але без яе дыдактыкі) ці паэтычнага міфа (але без яго рэлігійна-містычнай афарбоўкі). Пацверджаннем таму могуць быць апавяданні «Кохія» і «Паўночнае дзіва».

У кабінеце Яна Аляксеевіча, на якой кватэры яго сям'я ні ўладкоўвалася б, на сцяне ля пісьмога стала, так, каб быў перад вачыма, стаяў у вазачцы кусцік кохіі. На першы погляд не кідкая, не кожным заўважаная адразу, з празрыстымі лісцікамі ды драбнюткімі кветачкамі расліна, што звычайна прыжываецца на камяніцах Сярэдняй Азіі, у суровым сібірскім клімаце ці сцелецца ў нашых агародах ды на сметніках. Для яго ж яна была знакам, што ў свеце «маўклiва гаспадарыць час і памяць». «Кохія» — сама назва, мусіць, поўніла душу мастака радасным здзіўленнем адкрыцця, прымушала верыць у ласкавасць, спагадлівасць свету ды нагадвала пра салагерніка Кузьму Карнеева, які і пазнаёміў з той кветкай, ашчадна і замілавана гадаваў яе там, за калючым дротам, але не ўратаваў. Пры адным з чарговых вобыскаў вырвалі жывую, поўную далікатнага хараства істоту з вазона, бо ўжо «вельмі раскашавацца пачалі паны зняволеныя».

Гэты эпізод з паднявольнага жыцця, які лёг у аснову апавядання «Кохія», кранае першапачатковай прастатой кожнага слова, што прымушае скалануцца душу ад немага плачу Кузьмы, ад невыказаных адкрыта, але зразумелых пачуццяў аўтара, ад жахлівай ненатуральнасці навязанага чалавеку існавання.

Калі ўважліва ўгледзецца ў твар Яна Аляксеевіча на фотаздымку, што застаўся ў яго крымінальнай справе № 9049, становіцца відавочна,

як неймаверна цяжка было ацалець чалавеку ў тых невыносна жахлівых умовах, у якія ён быў пастаўлены. І ўсё-такі пакутнік з такімі вачыма, у якіх, як сказаў бы Кузьма Чорны, «месціцца скруха ўсяго свету», не пераставаў верыць у справядлівасць, у праўду, у шчырасць людзей, якія яго акалялі, а яшчэ ў тое, што «час і чалавечая прырода самі па сабе робяць вялікія цуды».

Аднойчы ўбачанае «змаганне колераў» паўночнага ззяння («Паўночнае дзіва»), дзе не знайшлося месца толькі чорнаму ды беламу, бо «не маглі яны быць прывычнымі ў гэтым трапяткім каляровым пажарышчы неба», прымусіла скамянець ад магутна-дзівоснай красы відовішча, што далёка ад мілай Бацькаўшчыны, у пакутным беспрасвеце гвалтоўна замкнёнай прасторы падаравала хвіліны радасці, адчування паўнаты існавання. У кантэксце твора яно прачытваецца як вялікае змаганне і перамога ў ім Святла над Цемрай.

Дзякуючы мастакоўскаму зроку Яна Скрыгана, апісанне непаўторнай прыроднай з'явы поўніцца катарсіснай сілай уздзеяння, дазваляючы прычыніцца душой да пražывання... 

Сакрэт маўленчага майстэрства празаіка хаваецца ў незвычайнай прастаце і дакладнасці словаўжывання, у максімальнай сціслаці і празрыстасці сінтаксісу, у апоры на жывую размоўную «народную» стыхію, якая для яго не гульня з арнаментальнымі выкрутасамі, а крыніца трапных і яркіх па сваёй выразнасці, засвоеных з дзяцінства выразаў сакавітай случанскай гаворкі. «Лірычна задуменны і ўважна наглядальны празаік Ян Скрыган, па словах Заіра Азгура, запрашае да чытання сваіх твораў дакладнасцю карцін, што паўстаюць з-пад яго пяра, і нечаканасцю становішча, у якім мы як бы знянацку застаём персанажаў ягоных навел, апавяданняў, аповесцей. Ці не таму старонкі ягоных твораў гэтак уражваюць, што ён валодае чарадзействам рэльефнага слоўнага відарысу!»

І сёння, ужо ў XXI стагоддзі, калі спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Творцы, высокая культура стылю яго прозы падкупляе сваёй гнуткасцю, гранічнай эканомнасцю вобразных сродкаў, максімальнай адэкватнасцю «маўленчага» адлюстравання таму, што адлюстроўваецца. Мастакоўскае слова Яна Скрыгана цешыць дзівоснай мілатой гучання роднай мовы, даючы мажлівасць зведаць «сма-ка-ту-у» Жыцця.

*Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў*
***Людмілы КАРПАВАЙ.***



Ян СКРЫГАН

# НАВЕЛЫ

## ТРЭБА ХОЦЬ ТРОШКІ ЎСПОМНІЦЬ

### 1

Першы пісьменніцкі Дом творчасці таго далёкага часу — 1936 года — быў недзе пад Пухавічамі. У колішнім панскім маёнтку. Дом вялікі, двухпавярховы з рознымі пакоямі і заламі, дзе можна было і спакойна працаваць, і адпачываць думкаю. Быў вялікі сад з дарожкамі, з кветнікамі і альтанкамі; была не то рэчка, не то рэчачка з гарбатым пешаходным мастком цераз яе; і была ціхая дарожка ў мястэчка, пры якой стаяла невялікая не то будка, не то крамка, дзе можна было купіць і віна і гарэлкі.

Я прыехаў сюды папрацаваць, бо была нейкая важная тэма для газеты «Літаратура і мастацтва», якая патрабавала неадкладнага клопату. Знарок прыехаў адзін, і вельмі скора адчуў сябе вінаватым перад жонкаю, што не ўзяў яе з сабою. Аказалася, што на ўвесь Дом творчасці я быў адзіны і працавальшчык, і адпачывальшчык. І ўчора даў тэлеграму дадому, каб яна прыехала. Дзеля гэтага схадзіў у краму і купіў «самага лепшага», як параілі там, віна.

Чакаючы, вядомая рэч, міжволі ўспаміналася, як мы пазналіся і як пажаніліся. Яе звалі Галяй. Яна была адзіная дачка ў вельмі незвычайнай сям'і. Бацька — Гаммер — паходзіў з тых немцаў, што некалі кухарылі пры рускіх царах. Часам ён, дзеля жартаў, любіў успомніць, можа, сапраўдашні, а можа, прыдуманы выпадак, што здарыўся пры нейкім цары. Снедаючы, у далікатным печыве цар наткнуўся на запечанага таракана. Тут жа ён грозна крыкнуў на кухара — што гэта значыць!

— Разынка, Ваша Вялікасць! — весела адказаў кухар, выкалупаў таракана з печыва і праглынуў яго.

Гэта з сямейнай гісторыі Галінага бацькі. А маці была з французаў, якіх таксама запрашалі калісь для выхавання дзяцей. Калі бацька быў, пасутнасці, звычайным дабрадушным чыноўнікам, то маці сваю французскасць шанавала з вялікаю годнасцю. Яна нідзе не працавала, лічыла, што яе найбольшы абавязак у тым, каб трымаць у парадку дом і выхоўваць дачку. І праўда, у доме заўсёды была нейкая вельмі патрэбная прастата і вольнасць. А дачка ніколі нідзе не вучылася, не канчала ніякіх ні школ, ні інстытутаў, але была першакласна адукаванай і простай. Усё гэта дало ёй маміна выхаванне. Яна працавала ў Дзяржаўным выдавецтве машыністкаю. І здзіўляла тым, што, не так даўно будучы жыхаркаю Смаленска, вельмі пісьменна друкавала па-беларуску. Словам, мы не толькі з ёю здружыліся, а — пажаніліся.

Усё гэта цяпер успамінаючы, я чакаў яе заўтра да сябе.

Але недзе пад вечар зайшоў да мяне загадчык Дома творчасці з незнаёмым чалавекам. І той незнаёмы чалавек паказаў дакумент на тое,

што павінен мяне арыштаваць. Дырэктар разгублена і ашаломлена стаяў моўчкі.

Чамусьці я вельмі спакойна і абыякава сустрэў гэтую навіну. У мяне была бязмежная ўпэўненасць, што гэта проста памылка і яна адразу ж высветліцца. Я не мог прыдумаць сабе аніякай віны.

Начаваў я ў мясцовым Допры, бо на Мінск у гэтую пару цягнікоў не было. І ўспомніў, што сям'я дома цяпер будзе не толькі без мяне, але і без грошай. Грашовая кніжка была пры мне, я падпісаў некалькі чэкаў на ўсю суму сваіх зберажэнняў і папрасіў свайго канваіра, каб ён занёс яе дадому. Ён зрабіў гэта. І гэта быў першы выпадак, адзначаны мною, калі людзі, з тае строгае пасады, якую яны займаюць, не пазбаўлены чалавечнасці.

Ці трэба расказваць, як успрымалася і як прыжывалася новая, нікім і ніколі не чаканая акалічнасць, калі чалавек не разумее чаму, чаго і навошта робіцца арыштантам, адразу — нечалавекам? О, якое гэта страшнае крушэнне! Галоўнае, што ты не ведаеш, навошта гэта, чаму і за што? Што здарылася? Дзе, у чым прычына? Дзе закон? Дзе абарона? Як жа абараніцца і засцерагчы сябе?

Толькі назаўтра раніцаю канваір завёз мяне ў Мінск. У вядомую ўсім установу. Уваход на рагу вуліц Цэнтральнай і Валадарскага. Вядомая рэч: адразу ў адзіночку.

Толькі цяпер мяне адразу ахапіла трывога. Толькі цяпер дайшла да ўсведамлення сур'ёзнасць мае бяды. Толькі цяпер, першы раз я ўсвядоміў, што сям'і ў мяне больш не будзе. Што яны цяпер перажываюць найстрашнейшую сямейную бяду. І што я на іх кладу не толькі бяду, а — ганьбу.

Я шнураваў па камеры, упершыню ўяўляючы, як людзі бываюць вымушаны развітацца з жыццём. Што гэта зусім не цяжка — развітацца з сабою. Куды цяжэй — як? Якім спосабам? Нездарма ж раз-пораз у вочка ў дзвярах заглядае вартавы. Мабыць, такія думкі завітваюць не толькі да мяне...

## 2

Першы следчы ў мяне быў Цімафееў. Я ўпэўнены, што калі б ён вёў маю справу, то ўсё было б і граматна, і справядліва, і чалавечна. Гэта быў ужо даволі пажылы чалавек. Ён са мною проста, як кажуць, бяседаваў на тэму на той час модную: кругом ворагі, кругом здраднікі, прадажнікі, асабліва беларускія нацыяналісты. Не можа быць, каб гэтая тэма мяне абышла: у чымсьці і мяне яна кранлася. Дык вось: з кім, як, на якую тэму. Тым больш, што галоўны ж нацыяналіст, Цішка Гартны, таксама сядзіць, ён жа нешта раскажа. Калі я сумленны, то павінен сам, усё, што ведаю, — расказаць. А я папраўдзе быў далёкі ад такіх «небяспечных» тэм, ні з кім, нідзе, ніколі не гаварыў. Нашы з ім гутаркі з гэтай тэмы пачыналіся, і нічым не канчаліся; ніякай падпольшчыны, падазроных гаворак ні з кім і ніколі ў мяне не было. Выключаючы хіба адзін выпадак, які я палічыў бяздумным жартам з боку Зміцера Астапенкі. Але ж гэта быў проста дурны жарт.

А было так. Мы з ім кватаравалі ў сваіх гаспадынь за вакзалам. Аднаго разу ішоў я з Дома пісьменнікаў дадому, і па дарозе мяне нагнаў Астапенка. Ідзем, нешта гамонім па дарозе, і недзе ўжо блізка каля вакзала Астапенка, нешта жартаўліва расказваючы, раптам кажа:

— Слухай, Янка, паступай у ГАБ.

— Што за ГАБ такі? — пытаюся ў Астапенкі.

— Група Адданых Бацькаўшчыне, — сказаў Астапенка і разрагатаўся.

Я тут жа суняўся і строга, нават сярдзіта кажу Астапенку:

— Каб такіх жартаў я ад цябе больш не чуў!

— Не, дык я ж жартую! — разрагатаўся Астапенка. — А ты, аказваецца, надта пужлівы.

Гэта было каля вакзала. Далей мы ішлі нейкі час моўчкі. Я падумаў, што Астапенка вельмі любіць вострыя жарты: ён не раз мне гаварыў, як у думках ён лётае на прыдуманым ім аэраплане па чужых краінах, спускаецца недзе ў чужых гарадах. Што ён можа спусціцца на тым аэраплане на любой плошчы любой сталіцы свету, бо ён ведае тыя гарады як свае пяць пальцаў. «Хочаш, я нарысую табе план любой сталіцы свету, з назвамі плошчаў, вуліц».

Фантазіі ў яго былі заўсёды вельмі крылатыя, у гэтым яму можна было пазайздросціць.

**7.05.92**

## НЕЛЮДЗІ

Самыя страшныя ў маім жыцці былі два чалавекі. Першы — мой сусед па кватэры ў Мінску і, здавалася, сябар, паэт. І прафесійны правакатар. Другі — мой следчы: гэта ўжо дзяржаўны цынік і правакатар.

Першы кожны раз правакаваў як бы жартам, але гэты жарт трымаў на патрэбу ў запасе. Другі — як следчы — будаваў на гэтым свой стыль: абавязкова зрабіць з чалавека злачынца. Няважна, вінаваты ён ці не. Павінен быць вінаваты!

Божачка, як ён здзекаваўся! Біў, абліваў халоднаю вадою. Саджаў на ножку перакуленага табурэта, на некалькі гадзін саджаў у карцар, такі вузкі, што ў ім нельга было павярнуцца. І калі ты не меў сілы ўжо стаяць, ты вісеў, здушаны яго цеснатою да болю ва ўсім целе.

І было зусім нечакана, што допыты раптам спыніліся. Недзе, мабыць, на месяц ці больш. І раптам выклікаў на допыт новы следчы, каб абвясціць пра канец следства. Трэба было падпісаць пра гэта пратакол. Я адмовіўся падпісваць, бо там былі скрозь выдумка і паклёп. Тады следчы выклікаў «сведку» — гэта быў той самы мой сябар. Ён сцвярджаў, што ў пратаколах допыту ўсё правільна, што следства ішло нармальна.

І была яшчэ адна, апошняя сустрэча з ім. Аказалася, што яго накіравалі за мяжу. У Чэхаславакію. Гэта было ў турме. Ён прайшоў паўз мяне ў бушлаце па-дарожнаму, з торбаю за плячамі. Мабыць, і там была ў яго тая самая місія інфарматара.

Ён там быў забіты пры першых жа сутычках чэхаў з немцамі. Няйначай свае ж і забілі...

**15.08.92**

## ЭСТОНІЯ

Усё было добра ў Фергане. І служба па душы, і людзі, з якімі знаўся. Тут пачалася ў мяне і сям'я. Новая. Бо першая — загінула. Не фізічна, але так распарадзіўся час. Пра гэта трэба расказваць асобна.

Дырэктар нашага прадпрыемства Уладзімір Кучарэнка працаваў, па сутнасці, часова. Ён быў глыбока вучоным чалавекам якраз па той галіне,

дзеля якой будаваўся завод. І вось нарэшце аж праз некалькі гадоў главк спецыяліста знайшоў. Чалавек падкрэслена строгі, партыйны, вядома. Першае, з чаго ён пачаў сваю дзейнасць, — з чысткі апарату, заводакіраўніцтва. Я, вядома, аказаўся чалавекам непажаданым.

Гэта было страшна зноў. Нават страшней як было, бо пад небяспеку падпадала ўжо другая мая сям'я: жонка Ганна, яе хлопчык Алік і наша дачушка Галачка.

Але выручыла нечаканасць.

У лагеры адбываў таксама свой час інжынер-будаўнік высокай кваліфікацыі Сцяпан Фядорчанка. Ён вызваліўся на колькі месяцаў раней за мяне, паехаў у Эстонію. Мы перапісваліся. Ён спыніўся ў гарадкуКівіылі, уладкаваўся на работу па спецыяльнасці — узначальвае гарадскі будаўнічы трэст. Пісаў пра самое мястэчка — што гэта цэнтр сланцавай прамысловасці, на базе якой існуе вялікі сланцахімічны камбінат. Пра гэта ён сказаў невыпадкова: што няйначай як там ёсць патрэба ў бухгалтарах. Бо не так даўно яшчэ здабыча сланца была там справаю прыватнаю, і бухгалтэрыі, сапраўднай, бадай што не існавала.

Як жа дарэчы прыйшоўся мне гэты ліст! І мы, з новаю маёю сям'ёю, асмеліліся пусціцца ў далёкую пуцявіну. Як заўсёды знайшліся і добрыя людзі: яны перадалі нам у дарогу каністру тутэйшага спірту. О, як гэта нас выручыла: і пры перасадках, і пры ўладкаванні ў спакайнейшым месцы ў вагоне.

На камбінаце нас прынялі вельмі ахвоча: тут жа была знойдзена кватэра, я быў адразу прызначаны бухгалтарам у цэх па здабычы сланца і падземнага транспарту. Але бухгалтэрыі там папраўдзе як бы і не было. Трэба было пачынаць усё з самага пачатку. З курсаў. Каб людзі ведалі, што такое баланс, праводка, сальдавая і абаротная ведамасць, абаротны і шахматны баланс. Каб у цэнтральную бухгалтэрыю камбіната мы здавалі сапраўдны баланс з усімі расшыфроўкамі і дадаткамі.

І праз тры месяцы я прынёс у цэнтральную бухгалтэрыю камбіната справаздачу з усімі расшыфроўкамі і дадаткамі. Пасаду галоўнага бухгалтара камбіната выконваў часова бухгалтар з міністэрства, бо тутэйшая, камбінатаўская бухгалтарка запусціла ўсю справаздачу і з паўгода як кінула работу і з'ехала. Ён і з мяне пацяшаўся, як з няўмекі.

— Ну паказвайце, паказвайце, што вы там прынеслі, дарагі таварыш, — гаварыў ён, разгортваючы маю справаздачу, і раптам сціх, замаўчаў...

Няйначай, як па яго рэкамендацыі дырэктар камбіната Фердынант Меттус, чалавек разумны, далікатны, светлабровы, прыгожы, выклікаў мяне і папытаўся, ці не мог бы я стаць за галоўбуха камбіната...

Вядомая рэч, што не ўсё гэта так скора і лёгка рабілася, як гаворыцца. Трэба было найперш авалодаць аб'ёмам работы: і адносіны з банкам, і крэдытоы, і дэбіторы, і пастаўшчыкі, і даўгі. На першым часе я прыходзіў з работы толькі каб пераначаваць.

А час ішоў.

І, нарэшце, мяне радавала, што я рэгулярна пачаў атрымліваць грошы з банка на зарплату. Хоць гэта нясціпла гаварыць, але было прыемна, калі часам пасля палучкі ў кабінет да мяне заходзілі дэпутацыі з рабочых і запрашалі пайсці з імі разам паабедаць. «Вельмі просім, ну хоць адну шкляначку віна выпіце з намі», прасілі яны. Прызнаюся, можа, я і нядобра зрабіў, але ніразу на іхнюю просьбу не адгукнуўся.

Словам, усё ішлося як след. І на рабоце, і ў сям'і. Аня таксама ўладкавалася на работу. І дзеці былі — хто ў школе, хто ў садзіку. Ды вось аднаго разу рассыльная, адчыніўшы дзверы, сказала:

— Вас просіць зайсці Пэўзнер.

Гэта — намеснік дырэктара.

Зайшоў. Пэўзнер стаяў блізка пры стале з ваенным чалавекам. Ваенны папытаўся, ці з сабою ў мяне пашпарт. Я дастаў, аддаў яму.

— Вы арыштаваны, — сказаў ваенны, рукою дакранаючыся да кабуры...

Вось так скончылася маё гасцяванне ў Эстоніі. Яшчэ добра, што чэкіст згадзіўся зайсці са мною дадому, каб я мог пераадзецца адпаведна таму, дзе цяпер мне давядзецца быць. Дома быў Алежка, я папрасіў яго збегаць на работу да мамы і сказаць, каб яна скоранька ішла дадому. Вядома, яна тут жа прыбегла... Калі я выходзіў з дому, скрозь слёзы яна сказала: «Памятай, дзе б ты ні быў, я да цябе прыеду».

**1992**

# КАЧАН МЁРЗЛАЙ КАПУСТЫ

Доўга я не мог даўмецца, што са мною робіцца. Усё як бы нармальна, а чую, што мне цяжка і падняцца на свае верхнія нары, і павярнуцца на чужы голас, і нават паварушыцца на пасцелі, не кажучы ўжо, што цяжка на рабоце, увесь час дзяўбаючы мёрзлую зямлю.

Словам, я наракаў на работу. І дзівіўся: як жа так? Я нічым не хварэю, і з цела не худы, і твар, калі ўмываюся, то чую, што ён нармальны. А сілы няма.

Поруч са мною на верхніх нарах месціўся чалавек няпэўнай каўказскай нацыянальнасці, пажылы, з коратка пастрыганымі вусікамі, Араў. Мне здаваўся ён чалавекам спрактыкаваным, добрым, адукаваным, бо гаварыў па-руску вельмі чыста, як самы інтэлігентны рускі чалавек. На работу ён не хадзіў, нейкі інтэрас меў тут жа, па бараку. Часта гаварыў то з днявальным, то з капцёрам ці з дзяжурным. Даставаў часам якіх ласункаў з чужых пасылак. Мне падумалася, што пра свае трывогі варта з ім пагаварыць.

Аднаго разу з сваіх вандровак Араў прынёс невялікі аскепак люстэрачка і брытву. Люстэрачка прымацаваў да стаяка на нарах і пачаў брыцца. Я папрасіў, каб у люстэрачка ён даў паглядзецца і мне. І аж спужаўся, зірнуўшы: я зразумеў, што мая раздабрэласць як з цела, так і з твару, не што іншае як апуханне. Ад голаду.

Трэба было нешта рабіць, неяк ратавацца. І ўсё роўна як бог папраўдзе існуе, ён пачуў маю трывогу і зрабіў цуд. Назаўтра ж нашу брыгаду ўвечары ахова вяла з работы. Ужо недалёка ад варот (я ішоў у калоне крайні), тут скрозь гарэлі ўжо ліхтары, і ў гэтым не вельмі яркім святле бадай што каля самага тропу я ўбачыў качан капусты. Няйначай, як яго адабралі ў брыгадзе, што прайшла перад намі. Добры, пукаты, свежы, марозны-пругкі качан капусты. Мне трэба было зрабіць толькі адзін крок убок, каб забраць яго. Я добра памятаў прыслоўе, якое паўтаралася канвоем кожны раз перад кожнаю дарогаю, што крок налева з шарэнгі або крок направа ад нашага кірунку лічыцца за ўцёкі і зброя ўжываецца адразу ж. І, нічога гэтага не памятаючы, я ўсё ж зрабіў гэты крок і падняў качан.

— Калона — стой! — імгненна пачулася каманда канвою.

Тут жа да мяне падбеглі з карабінамі два стралкі: і той, што ішоў з правага боку ззаду, і пярэдні. Задні забраў у мяне качан, пакруціў яго ў руках, паціскаў, кругом абмацаў, перадаў першаму. Тое самае зрабіў і першы. Уся калона стаяла ціха, ужо ўсе ведалі, чаго мы спыніліся. Абодва канваіры аглядалі качан доўга, як след. Я горка думаў, як цяжка мне будзе апраўдвацца перад брыгадаю, што гэтак недарэчна правінаваціўся. Нарэшце першы канваір, апошні раз крутнуўшы  качан у руках, вярнуў яго назад другому, ціха сказаўшы:

— Аддай яго чалавеку.

Не зняволенаму, не арыштанту, як звычайна заведзена, а — чалавеку. Я толькі гэта пачуў.

Качан быў цвёрды, як жалезны. Пасля вячэры я садраў з яго толькі адзін ліст, халодны, ледзяны, і патрошку-патрошку адкусваў. Ён быў салодкі. Мабыць, уся свежая, перамарожаная капуста бывае такая салодкая? — пытаўся я ў самога сябе і даваўся дзіву, што не ведаў. Я баяўся многа есці, але з'еў увесь ліст.

А качан палажыў пад падушку. Яна была з саломы, вельмі ўжо перацёртай, і акуратненька абхапіла качан. Цяпер я мог заснуць.

Але што ў мяне быў за сон, не разгадаю. Я быдта глядзеў на самога сябе зверху. Быдта я спаў. Галава мая была ў яркім святле, трохі павернутая ўбок. Мне відно было сваё вуха, чутачку растуленыя губы і заплюшчаныя вочы. Я роўна, спакойна дыхаю. На пляскатай саламянай падушцы сярэдзіна цвёрда выпуклена, і я ведаю, што гэта ад качана капусты, які ляжыць пад ёю. І супакойваюся.

Потым яркая пляма святла, у якой ляжала мая галава, паволі патухла. Мне таксама хацелася спаць.

**3.02.—2.03.—92**

# КОХІЯ

Я не ведаў, што гэта за расліна. З такою нетутэйшаю назваю. І не ведаў бы, калі б не здарэнне.

Нашу брыгаду канторскіх работнікаў лагера вадзілі на работу пад канвоем: штораніцы —  туды і штовечар — назад. У канторы вокны былі з кратамі — каб ніхто не падумаў, што можна ўцячы. Ды ніхто ўцякаць і не збіраўся, бо ўсё наваколле — гэта лагер. Зона. Але парадак — ёсць парадак.

Кузьма Карнееў быў бухгалтарам вытворчага аддзела. Па сутнасці, у яго аддзеле — уся працоўная дзейнасць гаспадаркі — работы хапала. Але ніхто ніколі не чуў і не бачыў, каб Кузьма журыўся, бедаваў ці скардзіўся. Ён быў чалавек прыгожы, чулы, просты, яму можна было б даваць усе пахвальныя эпітэты. Яго ўсе любілі.

А ён вельмі любіў кветкі. На рабоце яго месца было каля акна, і ўсё тое акно было застаўлена вялікімі і малымі вазонамі, якія ён штодня паліваў, з кожным то ласкава, то пагрозліва гаворачы. І яны як бы слухаліся яго: цвілі і красавалі.

Жылі мы ў закрытай зоне, у земляным доўгім бараку, месціліся на верхніх нарах у самым канцы. Якраз пры Кузьмовай пасцелі, у схілістым земляным даху было таксама глыбокае акно. І, вядомая рэч, яно было

занята раскошным вазонам. Першы раз бачыў я такую паэтычную расліну з далікатным, празрыстым, падобным на лёгкі цень ці на пух квітненнем. Я любіў глядзець на яе, яна спараджала ў душы патрэбу ў далікатнасці, ласкавасці, чуласці. Мабыць, і ў самога Кузьмы было такое адчуванне, бо ён з ёю і гаварыў, і кожны раз як бы гладзіў ці папраўляў якую найбольш упартую галінку. І, вядома, палівау, стараючыся, каб у вазоне было і не надта вільготна, і не суха. Ён вельмі пільнаваўся патрэбнай меры. І, увечары, калі брыгаду прыводзілі з работы, ён першым чынам даглядаў гэты вазон.

І вось аднаго разу, калі прывялі канторскую брыгаду з работы, Кузьма не ўбачыў вазона на сваім месцы. Вазон валяўся на нарах, вырваны з пасудзіны разам з тугім камяком чорнай зямлі, пранізанай аголеным карэннем.

Божа, да чаго цяжка было глядзець, як балесна і нема плакаў Кузьма, падбіраючы аголеную расліну і ладзячы яе назад, у вазон.

Стары аднаногі днявальны Ермачэнка пакорліва сіліўся растлумачыць, што вобыск рабіла цэлая брыгада. «Вельмі раскашавацца пачалі паны зняволеныя», — казаў іхні старшыня. А па мне, дык нечага, мабыць, шукалі...

Не ведаю чаму, можа, проста як патрэба нешта душэўнае памятаць, але ў мяне і сёння на сцяне, над пісьмовым сталом, на зграбна выштукаванай вузкай палічцы, у высокай узнёслай металічнай вазе стаіць гэтакі ж самы куст кохіі, як бы сцвярджаючы, што ў свеце маўкліва гаспадарыць толькі час і памяць.

**3.03.92 г.**

## ПАЛЯРНАЕ ДЗІВА

Я памятаў, што жонка пры апошнім нашым спатканні на чыгуначных пуцях, калі мы маглі глядзець адно на аднаго толькі здалёк, пад вартаю ахоўніка ў дзвярах таварнага вагона, што тады яна перадала мне ў дарогу турысцкі мяшок, палажыўшы ў яго як сваю памяць шкарпэткі, насавыя хустачкі, пальчаткі, шалік...

Цяпер гэты мяшок ляжаў у мяне ў галавах. Калі я стаў сапраўдным лагернікам, то туды ж палажыў і ўсё знятае з сябе хатняе, абмундзіраваўшыся ў казённае: бушлат, ватовыя штаны, валёнкі і зімовую шапку. Я памятаў пра сваё хатняе адзенне спадзяючыся, што можа, дасць бог, усё гэта мне яшчэ спатрэбіцца. Бесперастанку я пісаў заявы і просьбы ў Вярхоўныя Саветы, Пракуратуры і Народныя Суды Саюза і Рэспублік з просьбаю, каб пераглядзелі маю справу. Недзе ў спадзяваннях нясмела думалася, што там, наверсе, усё ж знойдзецца чулы і справядлівы чалавек і асмеліцца абараніць праўду. І я вярнуся дадому ва ўсім сваім, хатнім адзеўку, як бы са мною ніякай бяды і не было.

Але ж дзеля гэтага трэба выжыць. Качана капусты хапіла мне ненадоўга, дый якая там была ад яго дапамога? А што ж і як рабіць дзеля гэтага? Няйначай як трэба пагаварыць з маім добрым суседам Аравым.

— Усё гэтае тваё дабро трэба прадаць, давай яго сюды, — сказаў Араў, выслухаўшы, што ў мяшку ў мяне ляжаць мае хатнія рэчы. — І прыкупляць хоць бы па пайцы хлеба. А яшчэ лепш каб чаго і скаромнага.

Сёе-тое мы з ім разам з мяшка і выбралі.

Назаўтра ўвечары, калі нас прывялі з работы, лежачы на нарах, Араў сказаў, што зарабіў мне трыццаць рублёў. І передаў складзеныя паперкі. Іх аказалася на дваццаць сем рублёў.

Я зразумеў, што траяк ён пакінуў сабе за паслугу. Прызнаюся, мяне гэта збянтэжыла. Нават пакрыўдзіла: чаму ён не захацеў, каб такой далікатнасцю як падзяка распарадзіўся я сам? Гэта ж вельмі не па-сяброўску! Гэта пахіснула ўсю маю прыязнасць да яго. Я ж думаў, каб не толькі падзякаваць грашыма, а сказаць і нейкае добрае слова. Са шкадаваннем падумалася, што з гэтага часу не вельмі ўхвальна я буду меркаваць пра яго. Але тут жа падумалася і іначай: што гэта проста тутэйшая завядзёнка. І што мне самому патроху трэба прывыкаць да гэтага. Ці тое яшчэ давядзецца ўбачыць і перажыць самому.

Тым часам Араў памог мне і даставаць тыя пайкі, і напытаць скаромніны...

Час і чалавечая прырода самі па сабе робяць вялікія цуды. Я папраўдзе неўзаметку акрыяў. Зноў ажывіліся і мары, і спадзяванні. Успомніўся чамусьці універсітэт, сябры, з якімі вучыўся, — Пятрусь Броўка, Васіль Каваль, Сымон Куніцкі. Нашы настаўнікі — Сямён Вальфсон, Язэп Лёсік. Дом пісьменніка і людзі, якія там бывалі, — Міхась Лынькоў, Платон Галавач, і заўсёды з кіёчкам Янка Купала. Свая футурысцкая суполка «Беларуская літкамуна», агністы яе кіраўнік Паўлюк Шукайла, наша маладое літаратурнае бунтарства ў пошуках навізны. Пра ўсё гэта мне было прыемна расказваць нават Араву. Я заўважыў, што гэта яму падабаецца, няйначай як грашыў вершамі таксама.

Гэтым мы займаліся і сёння. Нарэшце замоўклі. І па цішыні на нарах можна было здагадацца, што барак ужо спіць. Божа, да чаго я люблю хвіліны, калі астаешся зусім адзін, або няхай сабе гэта будзе сярод людзей, але ты нічога не чуеш і не бачыш, у цябе свой свет: тваё ўяўленне. Як лёгка ў такія хвіліны ты ўмееш сягаць, як многа бачыш і ведаеш, як прасторна і шчасліва жывеш...

У стане вось гэтакай ілюзорнасці, спароджанай барачнай цішынёю, самотным святлом начных лямпак над нарамі і маімі ціхімі марамі, я падняўся з пасцелі і выйшаў з барака. І здзівіўся, што ў такі позны начны час на вуліцы як удзень светла. Што такое? Дайшоўшы да месца, куды звычайна ходзяць перад сном, я павярнуўся тварам на поўнач, каб зачыніцца, і радасна здагадаўся, што бачу паўночнае ззянне, пра якое ведаў толькі з літаратуры. Я закамянеў, здзіўлены і зачараваны. Я ўбачыў дзіва, пра якое нават баюся, што не здолею расказаць. Але перш паспрабую зазірнуць у энцыклапедыю. На жаль, у навуковай мове нават на кропельку няма ні ўзрушанасці, ні красы. Вось як напісана:

«Палярнае ззянне — гэта свячэнне верхніх слаёў атмасферы на вышыні 100—1000 км у выніку ўзаемадзеяння сонечнай плазмы з магнітасферай Зямлі.

Назіраецца праз суткі ці двое пасля ўзнікнення храмасфернай успышкі на Сонцы. Сумарная магутнасць карпускулярных патокаў, што выклікаюць П. з., на працягу некалькіх гадзін можа дасягаць $10^{14}$ ват. Найб. часта П. з. узнікаюць у зонах П. з., размешчаных на адлегласці 23° ад полюсаў геамагнітных (паўн. геамагн. полюс знаходзіцца ў Паўн. Грэнландыі). У гады высокай сонечнай актыўнасці іх можна назіраць да геа-

магнітшырот 20—30°, г. зн. і на Беларусі. Назіранні П. з. — эфект. сродак вывучэння фізікі верхняй атмасферы».

Мне ж гэта вунь як убачылася.

На вуліцы было холадна, зябка. Я выскачыў у ніжняй бялізне. Мяне ўсяго праймаў холад, я чуў, што калачуся, але стаяў як укапаны і глядзеў у неба. Божа, якое яно было шырокае і як магутна кіпелі і мяняліся ў ім фарбы. Адкуль, недзе з-за гарызонту, з-за зямлі падымаліся ўгору шырокія каляровыя палосы святла, яны ўвесь час мігцелі, калаціліся і мяняліся ў сіле бляску і колераў, успыхваючы то ярка і магутна, то затухаючы і пераходзячы ў кволасць, у нечаканасць. Каляровыя ўспышкі то залівалі ўсё неба, то падалі за гарызонт, каб там перамяшацца ў новыя колеры. Колеры як бы змагаліся між сабою, спяшаючыся адзін аднаго перасіліць. Не было толькі двух колераў: чорнага і белага, бо не маглі яны быць прывычнымі ў гэтым трапяткім каляровым пажары неба.

Не ведаю, не памятаю, як я мог пакінуць гэтае відовішча. Памятаю толькі, што мяне наскрозь праймаў холад і ў здранцвенні дробна-дробна ляскалі зубы.

Вунь як даўно і далёка гэта было. І калі я цяпер часам успамінаю тыя свае прапашчыя дваццаць гадоў, то сам сябе суцяшаю хоць бы тым, што іменна ў Сібіры ўбачыў такое непаўторнае дзіва, як палярнае ззянне.





# АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ

## (1941—1970)

Ён не пражыў і трыццаці гадоў, але ў паэзіі зрабіў шмат. У паэта можа быць у актыве некалькі — два, тры, пяць і больш — выдатных вершаў і ў той жа час не быць свайго магнітнага поля. У Анатоля яно якраз існуе. Пра гэта сведчыць і першы зборнік паэта «Азбука» (1966 г.), адрэдагаваны на грамадскіх асновах Анатолем Вялюгіным. Кнігу, благаславёную майстрам, заўважыла крытыка. Як сцвярджала яна, былі ў вершах уплывы, але паэт настойліва шукаў сябе:

Я ведаю,
 што некалі я вырасту
І што мяне няўдача не саб'е.
Я ад памылак
 усё роўна вырвуся
І адшукаю ў барацьбе
 сябе!

І сёння мы з прыемнасцю адзначаем, што паэт адшукаў сябе. Можа, дапамог таму і сам яго характар. А. Сербантовіч быў з тых «яршыстых», смелых і бескампрамісных людзей, хлусня і страх для якіх былі непрымальнымі. Як не ўспомніць тут радкі Аляксея Пысіна:

Што світанне ў вербах тоіць,
Што малюе цень сасны?
Толя,
 Толя Сербантовіч
Узыходзіць з баразны.

Быццам бы шаптанне дрэва,
Быццам выдых позніх траў.
— Шкадаваць мяне не трэба,
Сам я іншых шкадаваў.

Вось яршысты ўжо, як выклік,
Вось і мае кулакі:
— Не глядзі, што ты вялікі,
Я не дам табе рукі.

Тут увесь ён, Толя Сербантовіч. Ён, і праўда, не падаў аднойчы рукі жывому класіку, калі той працягнуў сваю. І неаднойчы меў смеласць публічна назваць бяздарнае бяздарным.

З Анатолем Сербантовічам пазнаёміў нас студэнцкі інтэрнат БДУ па вуліцы Свярдлова ў 1962 годзе. Ён на выгляд і сапраўды быў яршысты. Каржакаваты, моцна складзены, вельмі рэзкі, з задзёрыстым позіркам вачэй, Анатоль у любую хвіліну мог успыхнуць. А дабрыні ў сэрцы было шмат. Кнігі тады А. Сербантовіч яшчэ не меў, але ўжо, як казалі, хадзіў у «класіках». За плячыма ў яго была праца грузчыкам у саўгасе. І яго будучая «Азбука» складвалася з тых прапісных літар, у якіх і заключана само жыццё. Наогул, як сапраўдны грамадзянін, любой працы ён не баяўся і ніколі не саромеўся. Заканфліктаваўшы ў рэдакцыі з начальствам, пайшоў працаваць вартаўніком на лікёра-гарэлачны завод «Крышталь». І паэзія яго ад гэтага не прайграла. Тры гады армейскай службы разлучылі нас з А. Сербантовічам. А ў 1966 годзе я трымаў ужо ў руках ягоную «Азбуку».

Гэтым часам пісалася яго «Міннае поле», што выйдзе двума гадамі пазней. Добрая частка вершаў была ўжо напісана ў агульным сшытку, які адначасова ці не служыў і канспектам для лекцый. Марозным зімовым вечарам гэтыя творы чытаў ён услых на кватэры ў В. Макарэвіча. Голас паэта крыху дрыжэў і мяняўся, калі ён выгукваў:

Чаму у нас паэтаў — як бяроз,
Чаму у нас бяроз — нібы паэтаў?..

У старым Каралішчавіцкім Доме творчасці быў я сведкам таго, як працуе паэт. Нібыта хацеў ён прадэманстраваць мне гэта. Пасля веснавога салодкага паветра мне гэтак жа салодка спалася, а ён, не разуваючыся, цэлую ноч хадзіў па рассохлых палавіцах пакоя, цяжка грукаючы чаравікамі і ўзрываючы мой сон. На стале, як малітоўнік, ляжаў раскрыты том Паўла Васільева. А раніцой чытаў мне тыя начныя вершы. Было іх каля дзесятка. Быў у тым ліку і жартоўны «Маналог алкаголіка»:

Давайце ўбок адкінем жарты:
Бутэлька, як ні гавары,
Падобна вельмі на гранату,
Што узрывае нас знутры.

— Не надрукуюць, — песімістычна сказаў я.

— Паглядзім! — адказаў ён.

Балазе абышлося, верш быў надрукаваны. Наогул, пастаяць за сябе А. Сербантовіч умеў. Нам, яго сябрам, такой смеласці не хапала.

Нязвычна пісаць гэтыя радкі ў строгай мемуарнай манеры ўздыху. Але памяць, і яго паэзія, і лёс яго патрабуюць гэтага.

Для таленту Анатоля Сербантовіча толькі надыходзіла шчаслівая пара росквіту. Дрэва яго паэзіі, што так шчыра каранілася на роднай зямлі, аж перапаўнялі маладыя сокі жыцця. Яно вырастала і галінілася... Паэт, якому яшчэ не споўнілася і трыццаці, чакаў сваёй трэцяй кнігі. У ёй павінен быў сказаць нешта важкае і значнае, сказаць па-свойму шчыра, вобразна і пераканаўча. Як і ўсе паэты, Анатоль Сербантовіч любіў нечаканыя, паэтычныя назвы. Гэтай кнізе ён даў назву «Пярсцёнак». Пісалася і наступная, але ўсе планы і задумы, якіх у Анатоля Сербантовіча было так многа, перакрэсліла заўчасная смерць... Гэта здарылася напярэдадні вес-

навога абуджэння, у канцы сакавіка 1970 года. «Памёр Толя Сербантовіч... Вестка сцебанула, нібы электрычны ток. Ніяк не хацелася верыць, ніяк не хацелася змірыцца», — пісаў у прадмове да кнігі паэт Аляксей Пысін, старэйшы таварыш А. Сербантовіча.

Зборнік «Пярсцёнак» выйшаў з друку пасля смерці паэта. На вокладцы гэтага светлага томіка — паўкруг выбуховага полымя, якім заняўся пярсцёнак. Яно вырываецца з вокладкі, і гарачае дыханне яго адчуваецца на кожнай старонцы кнігі. Гартаеш іх і зноў, як калісьці, чуеш звонкі і празрысты голас паэта:

Гэта — поле. Тое — неба,
Ну, а луг мне — не пазнаць:
Паласатая, як зебра,
У пакосах сенажаць.

А на лузе, там, за рэчкай,
Не ўладарыла каса,
Недаспелаю парэчкай
Ярка свеціцца раса.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Гэта ўсё — мая крыніца,
Гэта тое, чым жыву.
І ляціць мая сініца
Нада мной у сіняву.

Як сапраўды, усё тут падобна на крынічны струмень, чысты і люстраны. Ёсць ціхае захапленне вечным хараством жыцця, а ў самой настраёвасці адчуваецца роздум чалавека-жыццялюба, чый корань тут, на шчаслівай бацькоўскай зямлі.

Анатоль Сербантовіч не шукаў у паэзіі лёгкіх пратаптаных сцежак. Ён крочыў сваім, яшчэ няходжаным шляхам. Такім быў і ў жыцці. Ён цураўся ўсяго таго, што даецца лёгка. У працы, сярод людзей, вучыўся разуменню жыцця, пазнаваў цану дабрыні і чысціні чалавека. У вершы «Чысціня» паэт скажа:

І не па рангу, не па чыну,
Калі што-небудзь і цаню —
Цаню я простую жанчыну,
Яе любоў і чысціню!

Гэта былі словы і пра сваю родную маці, і пра тысячы іншых жанок, што яшчэ і сёння берагуць пажоўклыя лісты пахаванак. Паэзіі Анатоль Сербантовіч аддаваў сябе поўнасцю. Пацвярджэнне гэтаму — словы самога паэта: «Паэзіі я па праву поўнасцю аддаю сябе...»

Паэзію А. Сербантовіч шукаў і знаходзіў усюды, здавалася б, у самым будзённым. Уражлівае вока прыкмячала яе ў звычайнай працы грузчыка, у кірмашовым гомане, у простым дзявочым імені вагоннай правадніцы. Яго вельмі захапляла родная прырода, яе фарбы і гукі. Але захапленне ў Сербантовіча — толькі першая ступень пры напісанні вершаў. У кожным яго творы ёсць роздум чалавека заклапочанага і засяроджанага, ёсць свае адносіны да жыцця і яго праяў.

Рака часу рухомая, але паэт застаецца ў сваім часе. Пры жыцці Сербантовіча яшчэ не стаяла так востра, як сёння, экалагічная праблема. І мы не знойдзем у яго вершаў на гэту тэму, але боль за ўсё роднае на Зямлі падсвядома прысутнічае ў яго радках: «Асцярожна, людзі, асцярожна!..»

Ён не дажыў да Чарнобыльскай трагедыі. Гэта бяда была ўжо па-за берагам яго жыцця, але сваё «асцярожна, людзі» ён пасылаў у наш сённяшні дзень.

У Анатоля Сербантовіча выкрышталізоўваўся свой паэтычны почырк, уласцівы толькі яму аднаму. Гэтым і цікавы паэт. Сіла мастацтва і лёс самога мастака... Мусіць, ёсць штосьці суадноснае ў гэтых двух паняццях. Думае пра гэта і А. Сербантовіч. Ён напіша вершы «Смерць мастака», «У паэтаў ёсць такое права...», «Незразумелыя вы, геніі...», «Дабрыдзень, слава!..», «Так стараўся...» Гэта — не паўтарэнне самога сябе. Гэта — проста разважлівасць, спроба прааналізаваць адвечнае і загадкавае. У апошнім са згаданых вершаў паэт нібы напрарочыць сабе:

Тых, з кім дзеліцца неба сакрэтам,
Маладым забірае зямля.

Вершы, паэмы, вянкі санетаў — на ўсё знаходзіў час Анатоль Сербантовіч. Незадоўга да смерці ў рэдакцыю часопіса «Маладосць» ён прынёс карэктуру вянка санетаў «Курганы». Сакратар часопіса аж ахнуў — санеты былі амаль занава перапісаны. А гэта сцверджанне таго, як настойліва працаваў над словам паэт.

Жыццё яго было імгненным, як росчырк каметы. Але след каметы застаўся на зямлі і ў нашых сэрцах. Песня паэта, жывая і бадзёрая, часам самотная, народжаная ля ціхай вёскі Ордаць на Магілёўшчыне, ідзе разам з намі па жыцці.

***Прадмова і падрыхтоўка тэкстаў Казіміра Камейшы.***

## БАЛАДА ПРА ЎЗАРАНУЮ ЗЯМЛЮ

...Павялі аўтаматы палонных.
Пыл з-пад ног закурыўся, як смерч.
Па зялёнай зямлі
ў калонах
На смерць.

Доўга ў лагеры мацалі мускулы.
Аж да ночы цягнуўся глум.
А пасля асудзілі:
— Рускіх
Запражом,
нібы коней,
у плуг...

Запрагалі.
І спіны, як кратэры,
Задымілі ў людзей на палях.
І да вечара
шэрым халатам
Разараная легла зямля...

Нашы лётчыкі там пралятал,
Самалёты пагрозна гулі,
Бо за Эльбай унізе ляжалі
Ў арыштанцкім халаце палі...

## ПІГМЕІ

Пігмеі, як метэарыты,
Ля самых сонечных планет.
І іх пігмейскія арбіты
Праходзяць нават ля мяне.

Яны ўсміхнуцца нам умеюць,
Хоць іх заўсёды мучыць злосць,
Што на зямлі не ўсе пігмеі,
Што на зямлі і людзі ёсць.

Нічога ўгору не паднялі,
Людзям нічога не даюць.
Яны бяздарнасць гучна хваляць,
А талент ціха аплююць.

Баюся тых, хто спрытна хлусіць,
Баюся я святош малых.
І сёння больш за ўсё баюся
Пігмейскай хітрай пахвалы.

* * *

Жыве ў табе твая жанчына.
Яна — залог той дабраты,
З якой упэўненасць магчыма,
Калі ідзеш па свеце ты.

Яна твая любоў і права,
Калі званы ў руках гудуць.
І ты замахваешся правай,
А левай хочаш прыгарнуць.

Не расцякаўся каб і верыў,
Што порах твой сухі яшчэ,
Яна — выток і твой жа бераг,
Дзе ты упэўнена цячэш.

І — помні, прагнучы свабоды,
Калі хто-небудзь з ног саб'е,
Што з двух адзін удар заўсёды
Яна прымае на сябе.

Ну, а калі без дай прычыны
Цябе захочуць апляваць,
Пачне тваёй рукой жанчына
Крышыць усё і бунтаваць!

## НЯМА МЯНЕ

Чаму і як — мне невядома,
Ніхто не верыць напавер...
Згубілася у ваенкома
Мая папера між папер.

Мяне абходзіцьаднагодак
З татуіроўкай: Калыма.
І я стаю ля увахода,
А мне гавораць:
— Вас няма.

Шукай, палкоўнік, я не згодны,
Не па маёй такой віне
Дайшоў ты аж да ўзнагародных.
Няма мяне... Няма мяне...

І як я мог, і дзе згубіўся —
Няўжо нікога не кране?
Я не ўтапіўся, не разбіўся.
...Няма мяне... Няма мяне...

Няма ні тут, ні там, за дымкай.
Няма ў дзярах, няма ў акне.
Няма мяне ў тваіх абдымках.
Няма мяне... Няма мяне.

І толькі там, пазней, з палёгкай
У сне, што прыйдзе незнарок,
Убачыш, як душа далёка
Да зор ляціць, як матылёк.

## ТАЛІСМАН

Як знаходка, порт Находка
Для баркасаў у туман.
На грудзях у аднагодка
Невялічкі талісман.

На яго маліцца рана:
Бачыў бераг, бачыў дно.
І пад гэтым талісманам
Сэрца ходзіць хадуном.

І на круг не спадзяецца —
На яго няма правоў,
Хоць рукой падаць, здаецца,
Да Японскіх астравоў.

Перыскопы. Трубы. Рэі.
Незнаёмая рука.
Штосьці вочы пакрывелі
У чужога рыбака.

І вялікім талісманам
Тут, на шыі у зямлі,
На шнурку Курыл туманных
Залаціцца Сахалін!

* * *

То мора, то бераг, то востраў зялёны,
То нават травінкі не ўбачыш нідзе.
Учора ад слёз тваіх быў я салёны,
А сёння плыву па салёнай вадзе.

Учора, як вожык, стаяў на абрыве,
Балючы, калючы — у стрэлах дажджу,
А сёння, вясёлы, на ўсё, што абрыдла, —
Шчаслівы і новы — з абрыву гляджу.

Учора пакляўся, што ездзіць не буду,
А рэйкі звіняць і звіняць, як чмялі,
Што сёння паеду, а заўтра забуду
Не толькі цябе, а усё на зямлі!

Цыбатае сонца на ворыве чорным
Клякоча, як бусел, — пяе для жывых,
І робіць такое, за што яшчэ ўчора,
Відаць, не знасіла б сваёй галавы!

* * *

Пытанне рубам: хто каго,
А не чаго і як!
І падымаецца агонь —
Чужой бяды маяк.

У саламяных правадах,
Прабіўшы навылёт,
Сіпіць пажарная вада,
Як раззлаваны кот.

І вось, падобны на каня, —
Залатагрывы госць —
Агонь гудзе супраць агня,
Як часам злосць на злосць.

Разбіўшы купал цішыні,
Ударыць лоб у лоб.
Захрубасцяць увышыні
Вяршаліны, як шкло.

І гора некаму ізноў —
Таму, хто праг паліць,
А апынуўся між агнёў,
Якія не заліць!







Іван ШАМЯКІН

# З ДЗЁННІКАЎ

## СШЫТАК ДВАНАЦЦАТЫ

**14 снежня 1997 года**

12-га прыйшоў з прыёму ў Прэзідэнта, пазваніў, і мне адчыніла Маша. Шокавы стан перажыў. Напярэдадні быў у бальніцы, гутарыў з урачом, які сказаў, што на наступным тыдні адпусцяць Марыю Філатаўну дадому дзён на 10—15, няхай адпачне, потым паўтораць курс лячэння. І раптам такая нечаканая выпіска. Чаму так паспешліва? І радасна, і страшна.

А ў аўторак трэба было б (так урач сказаў) везці на аналізы. Праблема. Машына, адзяванне, там пад'ём на дзевяты паверх. А зараз пагаварыў з Ігарам Багданавічам, на шчасце, можна аналізы зрабіць тут, у Лечкамісіі. Тут лабарантку могуць прыслаць на дом. Усё можна зрабіць прасцей.

Маша трымаецца мужна. Слабенькая, але сама сабе варыць кашу, ходзіць па кватэры, глядзіць тэлевізар. Хвароба яе можа перайсці ў хранічную, а з хранічнай жывуць гадамі. Праўда, узрост. У 77 на многа разлічваць нельга. Але думка пра смерць яе не дае ні сну, ні спакою. Пра ўласную смерць столькі не думаю, разважаю па-філасофску: колькі адмерана вышэйшымі сіламі — Богам, Прыродай. Усяму жывому прыходзіць канец.

Прэзідэнт прыняў рускіх пісьменнікаў і нашых чалавек сем. Гаварыў ён цікава і на гасцей зрабіў уражанне. Неаднойчы ўспомніў маё прозвішча, часам і крытычна, але ў добрым кантэксце.

Я ў заключэнні свайго выступлення сказаў: «Аляксандр Рыгоравіч, перадаю просьбу пісьменнікаў. Зрабіце так, каб Дом літаратараў застаўся Домам літаратараў — цэнтрам беларускай літаратуры, культуры».

Зрэагаваў амаль раздражнёна. Сказаў: «Дом застанецца, СП застанецца, але Дом больш не будзе прыстанкам апазіцыі, якая збіраецца, каб паліваць гразёю прэзідэнта, дзяржаву і вас у тым ліку. І сказаў моцныя словы пра крытыкаў — прыхільнікаў Сораса, Пазняка, Шушкевіча».

Словы Прэзідэнта маглі б заспакоіць. Застацца СП можа, але без арэнднай платы не здолее аплаціць ні цяпла, ні святла. Чыноўнікі дакажуць неправамоцназдольнасць СП, і яго загоняць куды-небудзь у захудалы куток у тры-чатыры пакоі. А гэта будзе развалам Саюза. А ён так патрэбны! Моладзі! Без арганізацыі мы — аморфная маса, кожны будзе прыстасоўвацца як можа. А выдавацца будуць топалі; нейкі Топаль за апошнія гады выпусціў у Беларусі 32 кнігі (!).

На вячэры, якая адбылася з рускімі пісьменнікамі ў «Заслаўі-3», дзе яны жылі, Някляеў раптам кажа мне: «Правакацыйнае пытанне вы падкінулі Прэзідэнту». — «Якое?» — бадай спалохаўся я. «Пра Дом». — «Чаму ж яно правакацыйнае?» — «Выклікала агонь...»

На каго? На Быкава, Барадуліна? Але іх прозвішчы Лукашэнка не называў, больш таго, ва ўступным слове выказаўся пра Васіля Уладзіміравіча паважліва, ацаніўшы яго талент.

Зуёнак выступіў на прыёме пасля мяне і пра ДЛ — ні слова. Нікога, выходзіць, не турбуе яго лёс. Мне аднаму трэба? Колькі мне засталося жыць? Клопат — адкуль пахаваюць? Смешна. Пахаваюць неяк.

Здаецца, што група «правых» (хоць ці вызначаецца іх кірунак? І ўвогуле, хто ў наш час левы, хто правы?) зацікаўлена, каб ДЛ забралі, у іх была б падстава вінаваціць Прэзідэнта яшчэ ў адным «смяротным граху». Няўжо ў акружэнні кіраўніка не разумеюць гэтага? Няхай Ціцянкоў зашораны, але ж ёсць там ідыёлагі.

Адразу пусцілі чутку, абсалютна нерэальную, што рускія прыехалі з мэтай аб'яднання Саюзаў РФ і РБ. І тут жа следам за Ганічавым і Распуціным (а можа, і раней) з'явіўся наш даўні сябра, ідыёлаг сацрэалізму, а ў сапраўднасці агент сіянізму, хоць і выдае сябе за рускага, Юрый Сураўцаў. Некалі ён вучыў нас, як пісаць (абвяшчаўся галоўным тэарэтыкам нацыянальных літаратур). Чаму вучыць цяпер? Як не даць аб'яднацца Расіі і Беларусі? Баяцца яны такога аб'яднання. А раптам і Украіна далучыцца! Магутны славянскі саюз быў бы! А хіба ён трэба ЗША, Германіі?!

Так пачаў сшытак 12-ты. Не лепшы сшытак. Клетка перашкаджае, люблю чыстую паперу. Раманы, аповесці ўсё жыццё пісаў на самай добрай, якая была, паперы.

Прыехала сваццця Лілія Сцяпанаўна — паглядзець на ўнука. Дзіця мацуе сувязі не толькі паміж мужам і жонкай.

Мацнее мароз. Баюся зімы. Усяго баюся. Без грошай застацца, мізэрныя зберажэнні таюць, што снег вясной. Учора пазваніў Мікола Мятліцкі, паведаміў, што Марчук круціць з кнігай дзённікаў. А мне ж абяцаў да канца года выпусціць. <...>

Між іншым, я ўзняў пытанне пра ганарар, і Лукашэнка зноў дакараў і мяне, і СП, і камітэт: «Я не бачу вашых прапаноў».

Вось такія «правакацыйныя», як сказаў Някляеў, пытанні я ўзнімаю. Якія ўзнімае ён у саюзе з Грышкам і Генам? Загадкавы чалавек. У даверы і тут і там. Каму служыць шчыра? Лукашэнку ці Еўтушэнку?

**16 снежня 1997 года**

На сустрэчы ў Прэзідэнта я сказаў, што шкадую, бо не паехаў з гасцямі ў вобласці — жонка ў бальніцы.

Лукашэнка кіўнуў Пашкевічу, не пачуў, што сказаў. Ів.Ів.Пашкевіч па завяршэнні сустрэчы спытаў, дзе ляжыць жонка. Я не знаў яшчэ, што яе выпісалі.

Учора пазваніў галоўны ўрач 9-й бальніцы: перадача ад Прэзідэнта. Пазней пазваніў начальнік Лячэбна-санаторнага ўпраўлення Піліпенка Уладзімір Дзмітрыевіч. Сёння разам з памочніцай прывёз сам перадачу. Перадача бальнічная: садавіна, пячэнне; праўда, бутэлька шампанскага і аўтаручкі для мяне, блакноты: пішы, Іван!

Але, як кажуць у народзе: галоўнае не абед, а прывет. Кранула ўвага. А каго не кранула б увага Прэзідэнта? Зацятых антыподаў тыпу Шарэцкага.

Лукашэнка мог бы наблізіць усіх пісьменнікаў, мастакоў, каб аддаваў нам больш увагі. Людзі мастацтва — што дзеці: ім трэба пернік, цукерка, асабліва ў наш час збяднення інтэлігенцыі. Ці ўяўляюць сытыя, як цяжка галодным? Чыноўнікам здаецца, што 2 млн. пенсіі — ого! Можна жыць, хоць сам атрымлівае 4—5, ды яшчэ шмат хто з іх мае «прыварак» — пада-янні, прасцей — хабары.

**18 снежня 1997 года**

Маша дома — на душы спакайней, нават спаць стаў лепш, хоць рэ-ланіум глытаю. Машу трымалі амаль месяц на вельмі строгай дыеце — дзіцячае харчаванне. Схуднела. На рукі, нядаўна яшчэ поўныя і прыгожыя нават у старасці, балюча глядзець. Ёй хочацца есці, і яна расшырае дыету. Галоўнае, што яна не падае духам — жыццядзейная па-ранейшаму. Сама варыць сабе кашы. Захацелася ёй свежага карпа, варанага, і я пайшоў у магазін і ўзрадаваўся, што ён там прадаваўся: жывыя карпы трапяталіся ў карыце. А пачалі чысціць — вырываліся з рук.

Даю навагоднія інтэрв'ю: учора прыходзіла Алена Пісьмянкова — узяла для «Культуры», сёння пазваніў Літвінаў са «Звязды», якую я чытаю пяцьдзесят гадоў і дзесятак разоў выступаў аўтарам, асабліва ў маладосці, калі многа пісаў публіцыстыкі, апавяданні, нарысы. Хоць нарысы з выездам я пісаў нячаста — шкадаваў час, бо амаль без перадыху, ва ўсялякім разе, доўгага, пісаў раманы, аповесці, п'есы. Учора Алена ўспомніла аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна», а я ўжо забыўся на яе, імёнаў іншых герояў не помню. Трэба перачытаць!

Атрымліваючы часопіс, кнігу, я часам перачытваю многія старонкі з задавальненнем ці расчараваннем. Але ўвогуле перачытваць сваё не люблю. Не магу папраўляць, рыхтуючы новае выданне, хоць і варта было б. Калісь у цэнзарскія часы прымусілі паправіць фінал аповесці «Мост» — для выдання «Школьнай бібліятэкі». І зрабіў горш. І не праверыў, якое выданне ўзяў «Аракул» для перавыдання пенталогіі. Урэшце, што для школьнікаў размова кагэбіста з Пятром у 1946 годзе? Божа мой, якая для дзяцей далёкая гісторыя! Не кожная настаўніца растлумачыць што да чаго.

Ганічаў даў мне «Роман-газету» — Юрыя Палякова «Козлёнок в молоке». Раман-эпіграма. Напісана хлёстка, дасціпна, асабліва СП, ЦДЛ, Верчанка і інш. Вострая сатыра на гарбачоўскую перабудову. Але, здаецца мне, фінал «скамечаны» — не «страляе», рэгіструе факт падзення верчанкаў. Чытач развядзе рукамі: а што далей? А далей герой, у якога няма прозвішча (аўтар?), будзе галадаць ці пойдзе прадаваць шмаццё на стадыён «Дынама». Хочацца напісаць нешта падобнае, але не здолею я так іранічна і сатырычна, залішне рэаліст. Гэта мой недахоп: я нядрэнны сюжэтчык, але сатырычныя гісторыі не магу сачыняць. Як гэта ўмеў Андрэй! З усяго мог пасмяяцца. Але смех, выходзіць, быў на «злобу дня». Глядзеў нядаўна «Зацюканы апостал». Не смешна. Сумна. Не тыя праблемы нас хвалявалі! Так, нават таленавітыя з нас адыходзяць у нябыт. Ці паставяць калі Крапіву, Макаёнка? Ставяць Дударава. Дай Бог яму ўдачы! Але небяспека яго ў тым, што ён, як і Быкаў, лічыць сябе самым-самым. А мы — не маршалы, мы — радавыя.

Сёння Валянцін Лукша прыслаў разлік за «Злую звезду»: 9 мільёнаў. Радасна, што падкінуў у такі цяжкі для мяне час, дзякуй яму, гэта са-

праўдны таварыш і аднадумец. Але і сумна: а далей што? Ці будзе такі ўважлівы Георгій? Тэрмін «Роздуму...», выдання, можна заносіць у кнігу Гінеса. Хутка тры гады, як здаў рукапіс. Хто вінаваты? Мікола? Андраюк? Марчук? На Міколу я быў узлаваўся, але цяпер астыў. <...> Урэшце, гэта яшчэ адзін сябра, які, думаю, успомніць мяне, калі я адыду ў свет іншы.

Пішу доўга і, відаць, пра дробязі. Але пісанне дае нейкі перадых ад цяжкіх і сумных думак.

Памог Машы памыцца, два месяцы не мылася. Узрадаваўся, што ў яе хапіла сілы залезці ў ванну, вылезці — я памог. Схудаласць відна не на целе — на руках і нагах. Але тут, дома, ёй хочацца есці, я нават стрымліваю ад расшырэння дыеты. Малю Бога, каб працягнуў ёй жыццё. Не ўяўляю сваё жыццё без яе. Дзеці, на жаль, патрэбнай душэўнай цеплыні не даюць.

**21 снежня 1997 года**

Учора ў гарвыканкаме сабралі Герояў Сацыялістычнай Працы. Знамянальна і прыемна, што нас не забылі. Павіншаваў Старшыня Ярмошын Ул. Вас. На сухую. Падарунак: шампанскае і каробка цукерак. Што ж, нават для мяне гэта набытак да Новага года. Трэба падарункі ўрачам, а грошай не хапае.

Найбольш мяне здзівіла і па-добраму ўразіла пісьмовае віншаванне Ярмошына. Яго тэкст: «Уважаемый Иван Петрович! Сердечно поздравляю Вас с 75-летием со дня образования СССР. Великие принципы патриотизма и интернационализма Вы пронесли сквозь годы и испытания. Искренне желаю Вам в Новом, 1998 году, исполнения желаний, крепкого здоровья, счастья и благополучия!»

Пра юбілей СССР я не ўспомніў сам — недаравальна. Думаю, гэта заслуга Віктара Чыкіна — такі тэкст, сакратар КПБ — намеснік старшыні гарвыканкама. Уяўляю, як будуць шалець ворагі Саюза, калі 75-годдзе будзе адзначана ўрачыстым пасяджэннем. Нават Саюза Беларусі і Расіі баяцца. А каб далучылася Украіна! Якая дзяржава ўтварылася б, славянская, аднародная! А калі яшчэ і Казахстан, дзе большасць рускіх!.. Але марныя мары: не дапусцяць аб'яднання. Маленькую Югаславію развалілі. І пан Клінтан ляціць у Боснію віншаваць сваіх «міратворцаў» — сваіх жандармаў. З развалам СССР свет не стаў больш трывалы — парушаны баланс, раўнавага. Амерыканскі дыктат далёка не гарантыя міру. І хутка да Ірака, Лівіі, Сірыі, Кубы, Паўночнай Карэі, Ірана далучацца іншыя краіны ў барацьбе з жандармскім дыктатам ЗША. Куба і Фідэль папсавалі нервы не аднаму амерыканскаму прэзідэнту. Аднак ні купіць, ні задушыць Кубу не ўдалося. А вялікую Расію купілі — яе палітыкаў, чубайсаў і яе рэсурсы. Балюча. Амерыку можа ўтрымаць ад новых авантур толькі Кітай. Але Кітай можа праглынуць і Далёкі Усход Расіі. Міру на Зямлі не будзе! Але мы, ветэраны Айчыннай, гэтага не пабачым. Страшна за дзяцей і ўнукаў.

Машу наведалі Вольга і Марыя Міхайлаўна Рабцава, дваюрадная сястра. Размова чатырох старых (я — чацвёрты), хоць жанчыны супакойвалі адна адну — «Усё ад Бога. Каму колькі паложана, адведзена», — мяне не супакоіла. Наадварот, нагнала смутак і страх — за іх, за ўсіх. Малю Бога прадоўжыць ім жыццё. І мне, грэшнаму.

**25 снежня 1997 года**

Маша на нагах, варыць сабе і мне кашу. З яе боку ніякай праявы страху, неспакою. Не ведае? Характар! А мяне ўсё роўна не пакідае трывога.

З'ездзіў у бальніцу, пагаварыў з Аўчыннікавым і Музыкам, яе ўрачамі. Пасля апошніх аналізаў (зрабілі 23-га) яны аптымістычна глядзяць на яе стан, лічаць, што можа пабыць дома да Раства, а там — на другі курс. Маша назірала за тымі, хто ляжаў па другім, трэцім разе, яны цяжкую хіміятэрапію пераносілі лягчэй.

Мінулую ноч прыняў толькі клафелін і валідол і спаў да 12. Прачнуўся раней, але палохала думка: чым заняцца? З Пісьмянковым знялі ўсе істотныя заўвагі, а Вараповіч усё роўна незадаволены. Хтось нацкоўвае яго? Хто? Каму я наступіў на мазоль? Ваюю за Саюз, за Дом. Але хто гэта ацэньвае? Больш некаторых закранула, што Лукашэнка на сустрэчы з рускімі пісьменнікамі аднаго мяне паставіў у адзін рад з добрымі рускімі пісьменнікамі, нябожчыкамі і жывымі. Разумею, што ў гэтым радзе павінны былі быць і Мележ, і Танк, і Чыгрынаў, і Быкаў. Але ў Прэзідэнта свае кансультанты і ні з кім з нас яны не раяцца. Ідэалагічныя кіраўнікі ЦК (Антановіч, напрыклад), ды і сам Машэраў па пытаннях літаратуры не прымалі ніводнага рашэння, не параіўшыся з кіраўнікамі Саюза пісьменнікаў. Лукашэнка многа набыў бы, каб аднавіў гэтую практыку. Чаму яму не параіцца з Шамякіным, з Быкавым, з Дударавым, з Зуёнкам, з Лукшам? Ці мае з ім размовы Скобелеў, які рэдагуе прэзідэнцкі бюлетэнь?

23-га сабраўся прэзідыум Камітэта міру. Прыйшлі амаль усе члены прэзідыума, запрошаныя члены Камітэта. Гэта мяне здзівіла і ўзрадавала: не махнулі людзі рукой на міратворчую арганізацыю. Выходзіць, патрэбна яна. А між тым, як кажуць, «дыхае на ладан» наш камітэт. Мае нейкія сто мільёнаў на рахунку і з працэнтаў можа заплаціць зарплату двум штатным супрацоўнікам — старшыні і бухгалтару. Больш ніякіх паступленняў. Жылі на дабрачынную дапамогу ад немцаў. Але і яе перакрылі нашы чыноўнікі: увялі такія ідыёцкія правілы, што грузы ляжаць нерастаможаныя месяцамі, прадукты псуюцца. Пры такіх умовах ні немцы не хочуць везці, ні нашы арганізацыі прымаць. Дурнота нейкая! Каму гэта трэба? Хіба мала ў нас галодных, раздзетых? Лукашэнка, Лінг, міністры правяраюць перадпавагодні гандаль. Іх увага заслугоўвае пахвалы. Рэпартажы паказваюць: прадукты ёсць. Але як іх купіць? За што? Я атрымаў 9 мільёнаў ад «Юнацтва», мільён даў Ліне, мільён Тані — дзяўчатам яе; каля трох расходавалі на падарункі і на харч сабе. Што засталося?

Пасля пасяджэння ў Камітэце чалавек восем актыву сабраліся ў кабінеце Івана Кірычэнкі і... выпілі: канец жа года, больш не сустрэнемся. Усе мы і раней умелі і любілі выпіць у кампаніі. Але зараз некаторыя гэта робяць з нейкай асаблівай прагнасцю. Пэўна, ад той жа душэўнай трывогі. Я часам асуджаю Жалязоўскага, Супрунчука, Лужкоўскага, але і шкадую іх па-бацькоўску: яны хворыя людзі, яны ўжо не могуць не выпіць; бяда іх, што пачынаюць рана і гэта адбіваецца на працы. Пісьменнікі кажуць: «Прапілі ДЛ». Гэта цяжкае абвінавачванне. А людзі добрыя, і пісьменнікі неблагія, добра ж пачыналі. Ці пішуць цяпер?

Мяне ўсцераглі Бог ці Маша: я ніколі не пахмяляўся, толькі ў выключных выпадках выпіваў удзень. Але ўвечары цягне ўзяць хоць грамаў 70, максімум 100. І настрой уздымаецца, адступае на нейкі час трывога, душэўны неспакой.

**28 снежня 1997 года**

Добра мець вялікую сям'ю. Але колькі трывогі за кожнага з іх! За дзяцей, за ўнукаў. Як яны будуць жыць без нас? Ліна хворая, Таццяна такса-

ма падарвала сваё здароўе непамернай працай. Муж яе, Вячаслаў, нажыў катаракту, павінен легчы на аперацыю. Зноў трывога і ў Машы, і ў мяне.

Часам думаю: як жывуць такія людзі, як Аляксей Гардзіцкі? Ні жонкі, ні дзяцей. Лягчэй яму ці цяжэй? Піша мала. Чым займаецца адзінокі, немалады ўжо чалавек? Сёння цяжкі настрой. Ад надвор'я? Ці ад усяго разам?

Пазваніў Далідовічу, Лукшу. Ні галоўнага рэдактара часопіса, ні дырэктара выдавецтва на сустрэчу з Лукашэнкам не запрасілі. Хто ж там будзе? Фінберг з аркестрам? Журналісты?

Калі прыйдзецца выступаць, аб чым сказаць? Выказаць боль за СП, за ДЛ, за жабрацкае існаванне? Але хто мяне падтрымаў, калі я гаварыў пра гэта ў адкрытых пісьмах? Ніхто! Уражанне такое, што ўсім да лямпачкі і СП і ДЛ. Хіба адзін ганарар трохі хвалюе — тых, хто спадзяецца на выданні. Маладыя проста не спадзяюцца выдацца ў бліжэйшы час. І друкуюцца ў любых газетах — абы капейка. Добры рускамоўны паэт Браніслаў Спрынчан зарабляе ў месяц ганарару трыста тысяч і таму рады. Божа мой!

Каб я сказаў пісьменніку нават з Уганды, Бурундзі, Калумбіі, што, маючы 120 выданняў на 30 мовах тыражом у 25 млн. экземпляраў, для мяне праблема бутэлька шампанскага пад Новы год, — не паверыў бы ніхто з іх, не кажучы ўжо пра еўрапейцаў. Калі я быў у Бельгіі, здаецца, у 1977 г., і сказаў, што тыраж маіх кніг 10 млн., у пісьменнікаў расшырыліся вочы, і нехта сказаў: «Дык вы ж багаты чалавек!» Тады я, па нашых мерках, быў багаты і не стаў адмаўляць гэтага.

Мой стары сябра, акадэмік І. П. Антонаў, якому сёння 75, заўтра дае банкет на 130 чалавек. Адкуль грошы? У неўрапатолага. Хто яго спонсар?



*Іван Шамякін з роднымі.*

Або той жа Улашчык... <...> А мне кажуць кампліменты, успамінаюць «Глыбокую плынь», «Сэрца на далоні», «Трывожнае шчасце», аднак ніхто не даў і капейкі. Ганебна, але я не адмовіўся б ад падаяння: мецэнаты заўсёды былі. Ах, жыццё!

**31 снежня 1997 года**

Апошні дзень года. І трагедыя. Два месяцы я жыў са страхам за смерць блізкіх. І вось яна ўдарыла неспадзявана і таго, пра каго я не думаў. Памёр пляменнік, сын маёй сястры Галі, якая трагічна загінула ў 1981 г., — Мікалай Мальцаў. Чалавеку не было і 40. Дзелавы хлопец, майстра — выдатны электрык. Быў матросам дальняга плавання — судавым электрыкам. Спісаны, безумоўна, за выпіўку. Піў многа і бесталкова. П'яны рабіўся задзірлівы. Апошнія гадоў чатыры-пяць рабіў у складзе гомельскіх майстроў у Маскве, пад Масквой — на будаўніцтве катэджаў для «новых». Зарабляў 500 і больш долараў у месяц. У Гомелі, як адсяленец з зоны, з Дубецкага, атрымаў кватэру. Але жонка пакінула яго — з-за п'янства. Расце дачка Леначка...

Улетку заязджаў да нас на дачу, парадаваў:

— Усё, дзядзя, завязаў, паўгода ў рот не бяру.

— Малайчына! Маеш сілу волі.

— Але цяжка работаць — уся брыгада п'е, а я — вадзічкай забаўляюся. Смяюцца.

Во дзікунства! Замест таго, каб падтрымаць, — правакавалі, спакушалі.

Тыдзень як пазваніў мне, сказаў, што пад Новы год будзе ехаць да Люды, сястры, завітае да нас. Паведаміў як пра дасягненне сваё:

— А я зноў патрохі выпіваю.

— Коля, не зрывайся, прашу цябе.

— Не бойцеся, я знаю, колькі трэба.

Вось табе і колька трэба!.. Выпіў у кампаніі з сябрамі, заснуў. І... не прачнуўся. Так было з Сашам.

Нам пазванілі не з Гомеля — з Пастаў, Людміла. Яны з мужам Алегам выехалі на машыне сваёй у дзесяць вечара. Я пахаладзеў ад такога паведамлення: снег выпаў, усё белае, і дарога слізкая. Ноч язды: ад Пастаў да Гомеля 500 км. І ў бяссонную ноч я больш за ўсё перажываў за Люду. Толькі што пазваніў у Гомель. Дзякуй Богу, даехалі Люда і Алег нармальна.

Заўтра пахаванне. Вось табе і Новы год! Хаваць вырашылі ў Дубецкім. Пятая магіла: бацька мой, маці, сёстры Галіна і Таццяна. І вось побач з дзедам, бабуляй, маці і цёткай ляжа і Коля. А людзей няма: зона павышанай радыяцыі, выселены пасёлак, выселены вайскоўцы з базы, хоць база засталася, афіцэраў і салдат возяць вахтавым спосабам. На амерыканскім апараце ў прысутнасці амерыканскіх наглядальнікаў рэжуць ракеты, дэмантуюць снарады. А іх там дзесяткі, а можа, і сотні тысяч.

Мне падабаліся гэтыя лясныя могілкі, калі я прыязджаў пакланіцца бацьку, маці, Галі да 1986 года, да знішчэння пасёлка, у якім вырас няшчасны Коля Мальцаў. Шкада мне яго. Ох, як шкада! Балюча. Залаты чалавек быў. «Каб не піў», — казалі некаторыя, у тым ліку і тыя, хто сам прыкладваўся. А я разумею, што гэта хвароба, і лячыць яе, на жаль, не навучыліся, хоць рэкламныя заклікі ў кожнай газеце: за дзень вылечваем ад алкагалізму. Шарлатаны! Каб гэта ўмелі, чалавецтва даўно пазбавілася б ад гэтай пакутлівай і спакуслівай хваробы.

Вось так сустракаю Новы год.

29-га Прэзідэнт прыняў работнікаў літаратуры і мастацтва — чалавек 90. Але пісьменнікаў было чалавек шэсць: я, Зуёнак, Пашкоў, Марчук, Някляеў, Дудараў — як старшыня Саюза тэатральных дзеячаў. Асобна сядзеў Скобелеў — работнік апарата адміністрацыі. Гэтак жа мала было мастакоў. Галоўная маса — акцёры, чаго ў добрыя часы не было; у цэнтры заўсёды былі пісьменнікі — летапісцы часу, ідыялагічная сіла. Гэта добра разумелі Сталін і ўсе наступныя лідэры. Якую ўвагу надавалі пісьменнікам Панамарэнка, Патолічаў (нават русак Патолічаў), Мазураў, Машэраў! Не адчувалася такая ўвага ў Слюнькова, хоць Героя Быкаву выбіў ён. На сесіі ВС СССР ён сказаў мне: «Я вас віншую». — «З чым, Мікалай Мікітавіч?» — «Я сёння дамовіўся ў ЦК, што Быкаву дадуць Героя».

Але, думаю, галоўная заслуга ў гэтым не Слюнькова — Замяціна, Шауры, якія любілі Васіля; больш за яго ніхто не ездзіў за мяжу. Пасля паездкі яго нязменна прымаў Шаура. З справаздачай? Шаура пры сустрэчах на вечарах запрашаў усіх нас, беларусаў: «Заходзьце!» Мы з Андрэем аднойчы паспрабавалі зайсці. Разы тры званілі, нас нават не звязалі з ім: памочнік адказваў: «Пазваніце пазней». Скончылася тым, што Андрэй сказаў: «Пайшоў ён у ср…у. Хто такі Шаура! І на хр…а ён нам трэба!»

Аднак пра сустрэчу. Лукашэнка зрабіў уражанне сваім выступленнем, рэплікамі на беспраблемныя выступленні краснабаяў тыпу Яроменкі. Лукашэнка валодаў праблемамі жыцця творчых саюзаў: на любое пытанне ў яго быў адказ. Зноў, як на сустрэчы з рускімі пісьменнікамі, ён успамінаў маё прозвішча, раздражняючы Някляева, які хацеў перахітраваць усіх і папрасіў Аляксандра Рыгоравіча даць для «ЛіМа» інтэрв'ю. Прэзідэнт любіць публічныя выступленні, але добра цяміць, каму даваць інтэрв'ю; «ЛіМ» падвергнуў крытыцы. Някляеў паспрабаваў даказваць, якія яны правільныя, «прэзідэнцкія», ды так, што не вытрымаў Эдуард Скобелеў — з-за стала чыноўнікаў крыкнуў: «Няпраўда гэта!»

Я рыхтаваўся, у бяссонныя ночы, выступіць — заводзіў сябе, што дурань: зноў за Саюз, за ДЛ. Ды ўбачыў, што ўсе выступленні падрыхтаваны загадзя, як у старыя часы, прамоўцаў называў сам Прэзідэнт. Здаецца, адзін Ігар Лучанок вылез экспромтам. І я змаўчаў. Зуёнак маўчыць, а я буду рваць сэрца за ДЛ, які яго намеснікі прапілі?

Са слоў кіраўніка, усё лепш, чым было пры ўладзе савецкай: усё будуецца, рамантуецца — бібліятэка, Оперны тэатр, Акадэмія музыкі. Жыві і — радуйся. Жывём і радуемся!

**1 студзеня 1998 года**

Вось і Новы год. Віншуюць. І я віншую. Жадаю здароўя, шчасця. І мне жадаюць, усім блізкім маім. А мяне не пакідае страх. Якое шчасце? Якое здароўе? Жыць бы, пражыць бы яго, гэты новы год! Дай Бог!

Толькі што пазваніў у Гомель. Пахавалі Колю. Учора ўсе былі ў трывозе: у Гомелі не маглі знайсці машыну, каб звезці нябожчыка ў Дубецкае. Я дазваніўся ў Карму — да старшыні калгаса Курпатава Вал. Іван. «Машына не праблема. Але дзе знайсці шафёра? Яны ўжо п'яныя».

Здаецца, выручыў дырэктар саўгаса «Насовічы» Лаўрыненкаў.

Пяць магіл родных на забытых лясных могілках. Адна сумная ўцеха: усе разам — бацькі мае, сёстры, пляменнік. На Радуніцу наведаюцца Таня, Люда, Саша. А я... наўрад ці дабяруся я туды.

Люда і Алег зноў хочуць ехаць уначы. Прасіў не ехаць. Ды хто паслухае старога дзязьку? Прапаршчык пагранвойск адчувае сваю моц. Машына замежная. Нястомная «чалночніца» Люда каторы год курсіруе з Пастаў у Маскву, зарабіла на машыну і на кватэру — чатыры пакоі. Усе яны шчырыя працаўнікі, Мальцавы, — і бацька, і сястра мая Галя, і дзеці іх — Таня, Коля, якога няма ўжо, Люда, яна самая дзелавая, эканамістка па адукацыі. Таццяна жыве ў Лоеве, гадуе двух сыноў, замужам за братам нашай нявесткі Таццяны, былой Сашынай жонкі. Таццяна лоеўская не ладзіць са свякроўю, хто з іх вінаваты, — не разабраць, але Валодзя, муж, на баку жонкі. А Таццяна Мікалаеўна асуджае нявестку, сваю цёзку. Між іншым, ад Сашы яна не нарадзіла дзіця, не пакінуў сын наш унука, а выйшла паўторна замуж і ў 46(!) гадоў нарадзіла хлопчыка. Маша радуецца за яе. Яны перазвоньваюцца, сустракаюцца на магіле ў Сашы. Яна не забывае першага мужа, і гэта зблiжае Машу з ёй. Такія лёсы членаў нашай сям'і. Мая найбольшая трывога за Таццяну, дачку, і яе дзяўчат, нашых унучак — Машу і Славяну. У іх хворы бацька, хворая маці, Вячаслаў цяпер беспрацоўны, у 50 гадоў з катарактай, рыхтуецца да аперацыі. І за ўсіх іх у Машы і ў мяне баляць сэрцы. Думаю, пры тым жыцці, якое мы страцілі, такой трывогі за дзяцей і ўнукаў не было б, бо існавала ўпэўненасць ў заўтрашнім дні. А ў гэтым жыцці — што чакае іх, і сталых, і маладых, і малых? Не бачу ніякага прасвету. Адгэтуль і страх, у якім жыву апошні час.

**4 студзеня 1998 года**

Фантазія — дар Божы. Для творчасці. А пры жыццёвых сітуацыях, якія перажываю зараз я, у старасці ўвогуле — гэта пакута, пакаранне. Думаю, у людзей без багатай фантазіі такіх думак не ўзнікае. Я змадэліраваў колькі варыянтаў уласнага пахавання. Даруй мне, Божа! Такой «сумазброднай» думкі не запісаў нават Л. Талстой, які столькі пісаў пра смерць і які лічыў яе «освобождением». Аднак толкам не растлумачыў — вызваленнем ад чаго? Думаю, менавіта ад такіх вось фантазій, ад якіх пакутую я. Не ад Соф'і ж Андрэеўны. Не ад дзяцей і ўнукаў хацелася яму хутчэй вызваліцца. І ўцякаў ён не ад іх — ад страху той смерці, якую лічыў вызваленнем. Ад фантазій сваіх уцякаў. Куды хацеў паехаць — у Балгарыю, на Каўказ? Але заехаў у Опціну Пустынь і не мог там застацца. Далей — далей! Куды? Да невядомай станцыі Астапава, якая праз дзень стала вядома ўсёй Расіі: на ёй паміраў Геній.

Мне ўцякаць нікуды не хочацца — ад блізкіх сваіх. Пакуль што. Я не памру на далёкай станцыі. Часам суцяшаю сябе тым, што думаю пра старэйшых за сябе: Брылю 80, Лужаніну 88, Ігнату Дуброўскаму 91, Русецкаму 86. Нельга не пазайздросціць актыўнасці Грахоўскага: ён яшчэ выступае на ўсіх вечарах, грыміць, а яму 85. Цяжкае жыццё, але доўгажыхарам мімаволі зайздросціш. Жыць усё ж хочацца!

Таццяна перадала газету «Дуэль». Цэлы разварот з 20 фатаграфіямі — артыкул Ю. Мухіна «Жив ли Ельцин?» Даказвае, што Расіяй кіруюць двайнікі. Мае — Маша, Сяргей — вераць. Я ж лічу гэта глупствам несусветным. Не бывае такіх двайнікоў! Нездарма дзікую версію «Дуэлі» і Мухіна не падтрымлівае нават «Завтра», Праханаў. Праўда, у злым памфлеце «Куриный след ноги Ельцина» ёсць радкі: «Ельцин, *как утверждают газеты* (курсіў мой. — **І. Ш.**), умер, лежит в жидком азоте, но радиобращения его, заготовленные Юмашевым на весь XXI век, продолжают звучать, словно голос на спиритическом сеансе».

Ельцын — шакал, злачынца — за развал СССР. Але пакуль ён прэзідэнт, сачыняць такія фантасмагарычныя легенды не варта. Павінна быць чалавечая тактоўнасць. А так да чаго дойдзем? Абвясціць, што тыя, хто мае ўладу, трымаюць у сакрэце смерць прэзідэнта, — значыцца, заклікаць сурова пакараць гэтых злачынцаў. Зноў — крывавая бойня. А тая ж «Завтра» дае артыкул Сяргея Кургіняна «Третья возможность» — аб мірным змяненні сацыяльнага ладу ў Расіі. Дай Бог розуму рэфарматарам!

**7 студзеня 1998 года**

Раство Хрыстова. Я раблюся набожны. Але святочнага настрою не адчуваю. 5-га ў Машы ўзялі кроў на аналіз, ён горшы, чым папярэднія: лейкацытаў 22 тысячы. Дамовіўся з гематалагічным аддзяленнем 9-й бальніцы (з Ігарам Музыкам), што 8-га раніцай я вяртаю Машу туды, дзе яна ўжо праляжала паўтара месяца. І зноў — страх, бяссонніца, дзікія фантазіі. Сёння вырашаю праблему машыны. Дарэмна не зрабіў гэтага ўчора, у рабочы дзень. Столькі іх, машын! А выручаюць мяне Лукша, Ліпскі, шафёр СП Пятро Бабло, мой зямляк, але любіць хлопец, каб яго папрасілі, і ўзгадняць трэба з Зуёнкам ці Супрунчуком. Безліч людзей запаўняюць у любові да маёй творчасці, а спонсара не маю, хто хаця б машыну даў на гадзіну—дзве. Не ўмею прасіць. І не люблю. Прыніжацца брыдка. Дажыўся народны, Герой, акадэмік!

Звычайна на Каляды мітрапаліт Філарэт рабіў прыём у сябе ў епархіі. Сёння наладжваецца шоу ў Оперным тэатры: уручэнне прэміі — за духоўнае адраджэнне і нейкіх гадавых.<...> Прэмію гадавую (чыя гэта прэмія? МК?) маюць Марчук, Луцэнка, два Смольскія, кампазітар і крытык (нарэшце ўспомнілі крытыку), Марухін, оперная спявачка, яшчэ нехта... За духоўнае адраджэнне нібыта мастаку Кузьмічу — за аднаўленне Крыжа Ефрасінні Полацкай. Гэтаму варта: працу выканаў складаную.

**8 студзеня 1998 года**

Толькі што завёз Машу ў бальніцу на паўторны курс. Трохі стала спакайней пасля дрэннага аналізу крыві 5 студзеня; да гэтага два, зробленыя дома, не выклікалі трывогі ва ўрача Ігара Музыкі, які яе лячыў.

Хваляваўся тры дні: дзе дастаць машыну, як афармляць там? Ці не будзе бюракратыі? У першы раз, пакуль афармлялі, яна ледзь не самлела, але тады лейкацытаў было за 200 тысяч. Такіх хворых трэба вазіць! Малайчына Аўчыннікаў: усё афармленне ўзяў на сябе. <...>

Учора пацягнуўся-такі на шоу. <...> Прэзідэнт уручаў прэміі за «духоўнае адраджэнне» — Дрынеўскаму, Кузьмічу, Луцэнку, кіраўніцы хора, міласэрнай сястры. Побач сядзеў Валодзя Ліпскі, разумны мой выхаванец, пытае: «Растлумачце мне, Іван Пятровіч. Выходзіць, мы давялі духоўнасць да нуля, а цяпер пачынаем адраджаць. Так?» Трапна! Дрынеўскі выконвае тыя ж песні, што хор спяваў дваццаць гадоў, Луцэнка ставіць спектаклі па п'есах класікаў і, думаю, не лепш, чым ставілі Станіслаўскі, Неміровіч, Саннікаў... Адрадзілі па малюнках і фатаграфіях Крыж Ефрасінні Полацкай? І гэта ўсё адраджэнне? Царква можа сказаць, што яна адраджаецца — гэта так. А ўся духоўная культура?.. Выходзіць, мы былі дзікунамі, бездухоўнымі. Канцэрт, які далі, нічым не адрозніваўся ад тых, што ішлі пасля ўрачыстых пасяджэнняў, прысвечаных гадавінам Кастрычніка. Хіба тыя былі больш ідэйныя, глыбокія, маляўнічыя — з большай рэжысёрскай вы-



*З дачкой Таццянай і ўнучкай Славянай.*

думкай. Тыя асобныя нумары прымушалі нас, ветэранаў, і нашых жонак плакаць. Дык што ж гэта было — бездухоўнасць? Па-мойму, пайшлі за галоўным ідыёлагам — Філарэтам, вучоным тэолагам і мудрым палітыкам. Ва ўрадавай ложы сядзела «палітбюро»: Лукашэнка, Філарэт, Лінг, Малафееў, Шыпук. З іх з адным Шыпуком я не сустракаўся блізка. У Малафеева я быў членам бюро, да Лінга звяртаўся дзесяткі разоў і ў Дзяржплане, і ў СМ; чалавек гэты і кіраўнік заўсёды выклікаў маю сімпатыю. <...>

Толькі што прынеслі пенсію за студзень. Цікава — для будучых даследчыкаў: мне 2834000 + 750000 (гэтыя тры мінімальныя пачалі дабаўляць пасля майго пісьма Прэзідэнту); Машы 881000 (у яе няпоўны стаж); Вользе Філатаўне — 1666000 (пяцьдзесят гадоў прарабіла на пошце). Што ж, на хлеб, кефір і на кавалачак масла, невялікі, хопіць. Кожны мой ці Сяргееў паход у магазін — не менш за 300000. Добра, што адзенне яшчэ не знасілася, хоць боты ў мокрае надвор'е абуваю зяцевы: мае працякаюць. Цяжкія і на нумар ці два большыя. Шлёпаю, як па балоце ў лапцях. А на двары балота — ідзе дождж.

Народ мудры, мы славім яго. Але нярэдка ён, народ, можа здзівіць сваім псіхозам, інакш не назавеш. Літоўцы ў другім туры выбараў прэзідэнта прагаласавалі за чалавека, які 50(!) гадоў пражыў у ЗША. Што ў яго засталося літоўскага? І што ўвогуле за дзеяч? Дробны фашыст, які ваяваў супраць Савецкай Арміі (колькі яму было гадоў, калі зараз 71? Лясны брат?), драпануў у Германію ў 1949 (як перайшоў?), адтуль у Амерыку. І на гэтым уся палітычная карьера, далей — камерсант дробны. І такі чалавек — прэзідэнт? Пасля зубра Бразаўскаса? Абывацелі лічаць, што Адамкус будзе грабці долары лапатай.

Рускія (апытаннем; тут патрэбна ўмець апытаць) назвалі чалавекам года Алу Пугачову і Барыса Нямцова. Рагатаць хочацца. Ці гэта навагодні жарт? Рускія не ўпершыню пальму першанства аддаюць яўрэям. Во добры народ! Але што за густ у яго, калі ён гэтак славіць старую, безгалосую, вульгарную эстрадную «зорку»? Смех дый годзе! А Нямцоў? На каго ён працуе? Хоча абскакаць рыжага барысаўскага яўрэя? О, таго не абскачаш.

Пішу сёння з паўзамі. Паспаў. Паабедаў. І зноў за дзённік. Хоць як забыць пра змрочныя думкі. Напісаць бы нешта ўедліва-сатырычнае на наш час. Не ўмею. Шкада.

Іван Бунін, седзячы галодны на поўдні Францыі ўвосень 1940 года, пачаў серыю эратычных апавяданняў (у 70 гадоў!), якія склалі пасля кнігу «Тёмные аллеи». Для каго пісаў у суровыя дні вайны? Пра якога чытача думаў? Пра французскага, які быў пад пятой у Гітлера? Пра рускага, якому праз паўгода наканавана ўступіць у трагедыю фашысцкага нашэсця? Здзіўляе тэматыка твораў старога чалавека ў такі час. З дзённікаў яго: часам на дзень было па бульбіне на чалавека. Хтось пачаставаў самаробнай гарэлкай (самагонам) — падзея, вартая ўвагі лаўрэата Нобелеўскай прэміі. Во яно якім бывае жыццё! І аднак які дух творчасці! Можа, найлепшыя апавяданні, хоць некаторыя пісаліся за адзін дзень. «Дурочка» — кароценькі эскіз, а якое ўражанне робіць сваёй суровай праўдай!

Можа, пачаць серыю апавяданняў пра калег? З'ядуць і гузікі выплюнуць.

**11 студзеня 1998 года**

Маша была дома — жыў, здаецца, трохі спакайней, хоць і тады ў бяссонніцу хапала жахлівых фантазій. Маша кажа, што яна адганяе змрочныя думкі; маўляў, у 77 да ўсяго трэба быць гатовым. Яно так, нашы дзяды загадзя рыхтавалі труны для сябе, самі майстравалі. Філосафы! А я — панікёр. Але я менш баюся ўласнай смерці, чым развітання з блізкімі. <...>

Іван! Не звяртай увагі на дробязі, не развярэджвай сябе! Навучыся мужна пераносіць усе нязгоды. Маша мае рацыю: не забывай, што табе 77. Хтось сказаў: пакуль мы маладыя, мы бессмяротныя. Пакуль маладыя... Але такія вось думкі не наведваліся ў 50 і ў 60, рэдка — пасля 70 — пасля смерці Сашы.

Многія мае калегі лічаць, што я «баловень судьбы». А я пакутнік. Як многа я пахаваў блізкіх людзей — бацьку, маці, сясцёр Галю і Таню, Клаву, Колю (сястру і брата Машыных), цесця, вось толькі што Колю. Андрэя, нарэшце, які часта мацюкаў мяне, але як хораша запаўняў маё жыццё сваім характарам, сваёй любоўю, шчырасцю. Але я занадта сляпа ішоў за ім: мне не падабалася Люба, але я нават не паспрабаваў адгаварыць яго ад жаніцьбы з ёй — баяўся яго адчужэння. І ён прывёў у дом злога дэмана. Не хачу сказаць, што яна вінаватая ў яго смерці, але радасці яна дала яму вельмі мала; пяць гадоў бязрадаснага, пад напружаннем, жыцця — гэта зламала.

У снежні пекануў мароз. А сёння зноў 5 градусаў цяпла. Растае апошні снег. Пэўна, і надвор'е не лепшым чынам спрыяе настрою. Але і марозу моцнага баюся, я мярзляк, слізкасці баюся — сляпы.

Аднак трэба жыць! Малю Бога прадоўжыць жыццё ўсім блізкім маім, родным. З імі буду і жыць, і тварыць. Пачаў чысціць «Губернатара».

Хтосьці некалі можа сказаць: залішне інтымныя запісы. А я думаю, дзённік гэтым і цікавы. І мне — аддушына: ён мой субяседнік. А з кім яшчэ пагаварыць так даверліва? З Машай. Але ў бальнічнай палаце не пагаворыш, там — бытавыя дробязі ды хвароба, ды прысутнічаюць суседзі — хворыя.

**17 студзеня 1998 года**

Страх мой — што марскі прыбой: то адхлынае, то зноў нарастае. Учора, без дай прычыны, быў вельмі цяжкі душэўны стан. З'ездзіў да Машы. Яна трымаецца бадзёра, але і спалохала: былі два прыступы галавакружэння. А ў яе ўжо двойчы былі парушэнні мазгавога кровазвароту. Не дай Бог. Цяпер яна сама абслугоўвае сябе. На нагах чалавек жыве. Маша аптымістка. Панікёр — я. Ох, як мне дрэнна бывае! А трэба быць філосафам, зміріцца з непазбежнасцю таго, што наканавана ўсім. Спрабаваў падмануць сябе, што ўласнай смерці не баюся. Дык не, баюся і ўласнай. Пакуль я ўсім памагаю — я абавязаны жыць — для блізкіх. Я стаў баяцца самога слова «смерць». Таму стараюся жыць у рабочым рэжыме. Чышчу «Губернатара». Праўдзівая гісторыя атрымалася. Але зноў пазнавальнасць герояў-прататыпаў. А гэта людзі злосныя, помслівыя.

Пайшоў на пасяджэнне рэдкалегіі часопіса «Полымя». Даўно здзіўляюся, як прысуджаюцца гадавыя прэміі, якія я некалі прабіваў. Віктару Казько, па-мойму, прысуджаюць чацвёрты раз. Апошняй аповесці я не чытаў і думкі не маю. Заўсёды галасую за ўсіх, каго прадстаўляе рэдакцыя.

«Полымю» — 75 гадоў. Адзначалі 50, 60, 70. На 75 грошай ніхто не даў, і спонсараў Сяргей не мае. Адзначылі рэдакцыяй: выпілі па чарцы. Не па адной, канешне. І мне было залішне. Вярнуўся дадому і спаў перад тэлевізарам, хоць засынаю я перад гэтай скрыняй часта. А пасля позна чытаю Буніна ці Пірандэла — і сон адыходзіць, наступае пакутлівая бяссонніца. Кажуць, хранічная хвароба старых — бяссонніца. І ва ўсіх такія страшныя фантазіі? Складаны чалавек. Магутны чалавек. І слабы. Пушынка. Чуць мацнейшы подых лёсу — і няма яго, цара прыроды. Крыўдна. Але ніхто не зменіць законы жыцця. У людзей, якія шчыра верылі, было адзінае суцяшэнне: жыццё ёсць там, душа бессмяротная. На жаль, мы такой веры не набылі. І за гэта пакараны страхамі, якія мы перажываем.

Другая палавіна студзеня, а на двары дождж. З канца снежня — плюсавая тэмпература. Ні канькоў, ні лыж. Ды і на старыя сасуды ціснe. З двух гадзін дня мушу ўключыць святло, хоць вычытваў уласны рукапіс.

Дождж барабаніць па знадворным падаконніку. За сцяной плача маленькі Ваня. Але гэта голас жыцця. Алеся адна няньчыцца з сынам. Ах, бабуля! Як цябе не хапае. Адна твая прысутнасць напаўняла хату зусім іншай атмасферай.

**22 студзеня 1998 года**

20-га пайшоў на прэзідыум СП. Думаў: забудуся на свае праблемы. Дзе там! Яшчэ адзін боль — за Саюз. Ён трашчыць, ён на грані развалу. Генадзь Бураўкін сказаў палымяную прамову перад 10—12 чалавекамі, у якой пагражаў разломам. І ён будзе. І апазіцыя ўпэўнена, што за імі пойдзе большасць — маладыя і «сярэднія». Могуць пайсці. Навуменка, Шамякін, Савіцкі, Лукша, Скобелеў — адпрацаваная ступень ракеты, аддзе-

ліцца сама па сабе. У лідэры «сярэдніх» рвуцца Бураўкін, Дудараў, Някляеў. Якую ролю яны адводзяць Быкаву і Барадуліну? Святых апосталаў? На дэмакратыю і ўсе нормы маралі плююць. Прыклад: галасаванне па вылучэнні на дзяржаўную прэмію. Ішоў Някляеў, сур'ёзны канкурэнт — Мятліцкі з кнігай «Бабчын». Выбіць! І выбілі. Бесцырымонна. Прысутнічала чалавек 14. Прагаласавала 21. Хтосьці камусьці перадаў свой голас. Хто — каму? Нават не абвясцілі. Мятліцкі набраў 11. Большасць. Не! Не ад галасаваўшых трэба лічыць — ад колькасці членаў прэзідыума — 27. Дзе гэта запісана? У якім статуце? Але на маё пытанне ніхто больш не каўкнуў. Баяцца галоўнага рэдактара двух выданняў Някляева? І грэх і смех! Во вам і дэмакратыя!

**25 студзеня 1998 года**

Уначы прыйшла нейкая думка, якую абавязкова трэба было запісаць, — так вырашыў. Успамінаю ўвесь дзень, пра што думаў, і ўспомніць не магу. Раней часам забываўся на тое, што казалі іншыя ці што вычытаў у газетах. Свае думкі не забываліся. Выходзіць, забываюцца і свае. Добрае надвор'е: сонечна і цёпла, але без снегу, як у красавіку, мароз градусы 3. Гуляў па парку. Сустрэў Юрася Свірку. Адчуваючы сябе ніякавата, сказаў, што ў апошнім «ЛіМе» ў лісце з правінцыі нехта «мудры», апляваўшы прозу апошніх гадоў, чыхнуў і на маю лысіну. Не здзівіўся. Што я мог чакаць ад рэдактараў, якія «любяць» мяне і гатовыя разам з Дубаўцом закрэсліць усю літаратуру савецкага часу. Але ж скінуў з п'едэстала многіх сваіх прыхільнікаў. Ніл Гілевіч на рэдкалегіі «Полымя» гнеўна выступіў супраць артыкула Дубаўца.

Увогуле літаратура, якой жыў, перастае хваляваць. Нічога, акрамя здароўя блізкіх.

Таццяна (віншаваў яе з Таццяніным днём) у паніцы ад падачы падатковай дэкларацыі: яна чытала лекцыі ў трох ВНУ—БДУ і двух камерцыйных, пісала артыкулы. Разрывалася, здароўе страціла. І падобна, што яе абрабуюць прагрэсіўным падаткам. А чым заплаціць? Усё заробленае даўно з'ездзена. Камерсанты, бізнесмены, тым больш іх крымінальная частка (а хто разбагацеў сумленна?), здолеюць схаваць даходы, адкупяцца. Удар будзе нанесены па такіх, як Таня, — па сумленных інтэлігентах. Штосьці тут не тое. Прагрэсіўны падатак павінен быць. Але не за кошт жабракоў трэба папаўняць казну.

Сустракаю знаёмых — былых работнікаў ЦК, СМ, міністраў, намеснікаў. Дружалюбна вітаюцца, выказваюць пажаданні. Але хто б з іх мог памагчы хоць бы ў дробязі (машыну даць), а некаторыя — у бізнесе? Ніхто. Ізаляцыя, адчужанасць людзей — прыкмета часу. Закон рынку. Так там — на Захадзе. Адтуль пераймаем усё самае брыдкае, індывідуалістычнае, эгаістычнае. Моладзь, якая ездзіць на заходнім металаломе, глядзіць на нас, старых, і на ўсіх, хто ходзіць пехатою, з паднебнай вышыні. Яны — апосталы, мы — чарвякі. Ад гэткай псіхалогіі вельмі блізка да таго, што могуць зарэзаць роднага бацьку, фактаў такіх — не злічыць, і іх СМІ смакуюць, асабліва ў Расіі. Сумна.

**29 студзеня 1998 года**

Сёння прывёз Машу дадому, выпісалі дзён на 10—15. І зноў знянацку. Учора быў у яе, гаварылі пра магчымую выпіску, але ніхто з урачоў не

назваў дату. І раптам... яе званок. Я не паспеў нават паснедаць. Добра, што Ліпскі быў на месцы і ў яго была машына. Дзякуй Валодзю, дзякуй яго шафёру Анатолю Гаўрушу. Урачы былі добрыя, Ігар Музыка памог знесці торбу ўніз. Прыемна такая павага.

Каб я прывёз Машу здаровую, якая б была радасць. А так страх і трывога не адступаюць. Асуджаны на пакуты страху. А яшчэ і Таццяна нездарова. Божа, будзь літасцівы.

**30 студзеня 1998 года**

Во і 77! Дзень нараджэння. Свята. Для маладога. А якое свята ў 77, ды яшчэ пры такіх хваробах! Адзінае задавальненне — віншаванні. Прыемна, што людзі не забываюць. <...>

Толькі што пазваніў Міхаіл Дзялец, яму праз пяць месяцаў 80, але ён трымаецца героем, хоць сёння паскардзіўся, што слабеюць вочы. Я люблю гэтага чалавека, любоў перадаў мне Андрэй. Многа змянілася старшынь камітэтаў, міністраў, якія вялі кнігавыданне, але такога дзелавога, як Міхал Дзялец, не было. З ім прыемна было працаваць. Я, галоўны рэдактар БелСЭ, не помню выпадку, каб Міхал Іванавіч не вырашыў нейкага пытання, якое мы ставілі. А як ён займаўся распаўсюджаннем кніг! Тыражы прозы (раманаў), арыгінальных — на беларускай мове, даходзілі да 50 тысяч. А цяпер на рускай — 7 тысяч («Злая звезда», 1997).

Была Таццяна. Многа гаварылі.

Абеду мне святочнага не гатуюць. Увішная сваццproperties Ліля Сцяпанаўна чамусьці сёння не праяўляе ніякай ініцыятывы. І Алеся. Як ігнаруюць. Не хочуць, каб прыходзілі госці. Я іх разумею: не патрэбны лішнія людзі, калі ў хаце малое дзіця. А ўсё ж крыўдна. Якія абеды былі на дзень нараджэння любога члена сям'і Шамякіных! Няма гаспадыні — няма абеду, хоць грошы я даваў, учора ўзяў у ашчадным банку. Усхваляваная, пакрыўджаная хворая Маша сама чысціць бульбу. Алеся, праўда, паставіла смажаніну. Самае непрыемнае (для мяне і, відаць, для Машы) даць адбой Машы (малой) і Славяне, каб не прыязджалі. А яны ж помняць, якія шыкоўныя абеды былі на дзедаў дзень нараджэння. Урач Ігар Музыка спытаў: «Будзе банкет?» — «Які банкет! Гаспадыня ў такім стане! Ды і ўвогуле...» — «Ну, свае ж сабяруцца» — «Свае сабяруцца».

Не сабраліся. Упершыню. Крыўдна. Вось такі дзень нараджэння старога пісьменніка. Бачу: Маша адчувае маю горыч. А ўвогуле ёсць прычына іранізаваць: стары як малы — захацеў шумнага застолля і пышных тостаў. Радуйся, дзед, што добрыя людзі не забываюць павіншаваць.

У 1971 годзе лятаў у складзе дэлегацыі на чале з П. М. Машэравым на 50-годдзе Савецкай Грузіі. Свята было грандыёзнае. Першы сакратар ЦК Мжаванадзе падарыў па бутэльцы каньяку 50-гадовай вытрымкі. І пляшка тая стаіць у мяне дагэтуль. Во вытрымка! Былі юбілеі — 60, 70, 75, вяселлі, радзіны. Сёння вырашыў паспрабаваць 77-гадовы каньяк. Пакуль магу выпіць. Ці змагу праз год? Праз тры — у 80? Маша ўхваліла: «Для каго беражэш?» Трэба ж хоць чым адзначыць гэты дзень.

**1 лютага 1998 год**

У дзень майго нараджэння — 30-га ў 6 вечара пазваніў Аляксандр Данілаў: «Мы павінны прывезці вам кветкі ад Прэзідэнта». Прывезлі вялізны букет руж. Прыехалі ўтраіх — Данілаў, Ніна Марчанка, Валерый Харабец. А я змог ім прапанаваць толькі па чарцы гарэлкі. Выпілі стоячы.

Прыемна ўвага. Хоць не думаю, што, вярнуўшыся ў той дзень з Югаславіі, Лукашэнка ўспомніў пра Шамякіна. Падказалі гэтыя ж людзі. Ну што ж, дзякуй ім. Чалавек аблытаны, што павуцінай, эмоцыямі, станоўчымі і адмоўнымі. Бывае баланс. Бывае перавага тых ці іншых. Вялікая перавага адмоўных — цяжкія душэўныя пакуты, якія могуць забіць. Здаралася, што чалавек паміраў ад раптоўнай вялікай радасці. Так памёр Машын дзед Азар Кротаў. Сядзеў у збожжавай яме, аббіваў яе бяростай, узняў галаву, а над ямай стаіць сын Філат, які тры гады быў на вайне (ці, можа, і чатыры — з 1914 па 1918) і вярнуўся. Не вытрымала бацькоўскае сэрца ад шчасця: сын жывы! І тое ж чалавечае сэрца можа перанесці страшнае гора, боль, пакуты.

Данілаў падарыў сваю кнігу «Переходное общество. Проблемы системной трансформации». Чытаю. Цікава. Навукова. Але, здаецца, аўтар спрашчае (ці, наадварот, ускладняе) той працэс трансфармацыі, які адбыўся ў сацыялістычных краінах. Пераспела грамадства, сістэма, як груша, — і пачалася трансфармацыя. Абыходзіць пытанне, як доўга і ўпарта працавалі знешнія і ўнутраныя варожыя сацыялізму сілы, каб даць штуршок трансфармацыі. Трэба было купіць гарбачовых, шаварднадзе, якаўлевых, каб пачалася трансфармацыя. Без гэтага любы, самы разумны, аналіз працэсу будзе няпоўным, аднабокім.

**7 лютага 1998 года**

З цікавасцю чытаю кнігу Аляксандра Данілава «Переходное общество. Проблемы системной трансформации». Памяняў думку, якая ўзнікла пры чытаніі першага раздзела, што быццам аўтар спрабуе даказаць: «пераспела» сацыялістычнае грамадства — наступае трансфармацыя. Без намаганняў знешняга заходняга свету — яго агрэсіўных сіл. Колькі яны іх патрацілі, каб разбурыць сацыялістычны лагер! Аўтар прыводзіць лічбу: у Польшчу пры Герэку было кінута і бясследна «растварылася» (словы Бжэзінскага) 30 млрд. долараў. У СССР у 80-я гады — 86 млрд. Але не бясследна раствараліся мільярды. Данілаў піша: «Разумеется, эти и не названные еще средства были израсходованы по назначению». Куплена была ледзь не ўся партыйная эліта! «Без этих «инъекций» не было бы тех перемен, о которых мы ведем речь», — заключае Данілаў. Не было б трансфармацыі сістэмы. Але працэс гэты аказаўся надзвычай складаны і супярэчлівы і шмат дзе выходзіць з-пад каманды рэжысёраў. Як у нас у Беларусі. За што ўсе бжэзінскія з дапамогай пазнякоў і шарэцкіх вешаюць сабак на Прэзідэнта? Я, дарэчы, не дапяў, хто са «спонсараў» быў зацікаўлены ў адстаўцы Тэр-Петрасяна. Турцыя? Хто хоча раздзьмуць вуглі Карабахскага пажару?

Між іншым, даўно мяне цікавіць характар навуковага мыслення. Я сам напісаў нямала артыкулаў. Аднак напісаць цэлую кнігу аб працэсах, якія адбываюцца пры трансфармацыі, — гэта подзвіг. Пішаш раман — вядзе сюжэт, героі, яны захапляюць, зачароўваюць: яшчэ адзін ход! Яшчэ адзін паварот! А што вядзе вучонага? Ідэя? Адна ідэя? Жаданне асвяціць працэсы ў грамадстве, у краіне, у свеце, у чалавечай псіхалогіі, якія яшчэ ў цені? Але што не асветлена іншымі? Аўтар цытуе дзесяткі палітолагаў, эканамістаў, якія з'яўляюцца яго аднадумцамі. Спрачаецца з апанентамі. Гэта ўжо канфлікт. Канфлікт можа захапіць.

А ўвогуле напісаць такую кнігу — гэта подзвіг і сіла волі. Думаю: а ці прачытаюць яе людзі, якія стаяць каля руля і спрабуюць уздзейнічаць

на працэсы трансфармацыі? Баюся, што мала хто з іх прачытае. Для гэтага трэба шырокая рэклама — рэцэнзіі. Будуць? Хто напіша? Антановіч не напіша. І Бабосаў — наўрад ці кінецца ўзнімаць «канкурэнта». І Лыч. Журналіст напіша? Дысертант? Мала. Вяла. Невысока. Вучоных цяжка віншаваць. Яны стаміліся ад «шторму», іх кідае, што тых маракоў, якія апынуліся ў шлюпцы пасля караблекрушэння. Я, грэшны, таксама часам думаю: а навошта я сушу мазгі над праблемамі трансфармацыі! Наўрад дажыву да таго часу, калі трансфармацыя дасць плады нашым народам. Бяда ў тым, што я не веру, што ўсе гэтыя працэсы, эканамічныя і палітычныя, ашчасліваць народы. Будуць мае ўнукі рабамі. Сумна аб такім думаць.

**7 лютага 1998 года**

Сёння Маша пачала перадрукоўваць «Губернатара». Прасіў не рабіць гэтага — хворая ж. Прасіў Алесю і Сяргея перадрукаваць. Не кінуліся. Сумна здзіўляюся, што не разумеюць, што гэта для іх трэба — каб была прыжыццёвая публікацыя.

«Роздум на апошнім перагоне» не рухаецца, без малога тры гады ў выдавецтве. Георгій Марчук у інтэрв'ю ў газеце папрасіў прабачэння, што не выпусціў кнігу. Прабачэнне кранула, але лягчэй ад гэтага не стала.

**14 лютага 1998 года**

Шырока адзначылі 80-годдзе з дня нараджэння П. М. Машэрава. Гэта робіць гонар Лукашэнку, які падпісаў указ, хоць сам на гэтыя дні паляцеў у Нагана.<...>

80-годдзе Машэрава радасна хвалявала. Радасна за народ, які не забывае свайго Нацыянальнага Героя. А Машэраў менавіта Нацыянальны Герой, яго месца ў адным радзе з Каліноўскім, Купалам, Коласам. Ён — гонар нацыі.

Я выступіў з успамінамі на канферэнцыі ў НАН, паўтарыў тое, што публікаваў, дадаў пра наш палёт у Грузію, пра размову ў самалёце. Дзіўна, чаму я не напісаў пра гэта, значны ж эпізод.

В. Чыкін прапанаваў выступіць на галоўным вечары — учора ў Доме афіцэраў. Пабаяўся: узнімаецца ціск.

Вечар прайшоў выдатна, хіба толькі даклад А. А. Малафеева быў трохі даўгаваты. Але грунтоўны. Вялікі канцэрт — песні Лучанка ў выкананні нашых акцёраў і ў заключэнне — Кабзон і Пахмутава. Што прыехалі — за гэта ім дзякуй. Але Кабзон яўна «перабіраў»: тры-чатыры песні — цікава, а не шэсць-сем — пачало раздражняць, хоць ён улічваў аўдыторыю — пераважна ветэраны, і выконваў ваенныя патрыятычныя песні Пахмутавай і Лучанка. Цікава, за што яго выдварылі з Ізраіля, не прынялі ў ЗША? За крымінал? Але калі б ён быў, наўрад ці змаўчалі б канкурэнты пры выбарах у Думу: Хакасія прагаласавала за яго ледзь не аднагалосна. Ён адмовіўся ад канцэртнай дзейнасці, але вось так спявае: учора заняў палавіну канцэртнай праграмы пад авацыю залы. Быў нават прыём — там жа ў ДА. Ні Кабзона, ні Пахмутавай на прыёме, праўда, не было. На прыёме ўсе лезлі да мікрафона — сказаць тост за Машэрава, як за жывога юбіляра. Я прапанаваў за Паліну Андрэеўну, за сям'ю — за дачок, унукаў, праўнукаў.

Сядзеў побач з Пашковым, Мікулічам, Сакаловым. Помню, што Іван адносіўся да Пятра не лепшым чынам. Змяніў сваю думку? Бог знае. Чала-


З унучкамі Машай і Славянай.

век ён па натуры добры. Яфрэм пе-ратварыў тост у палітычную прамову. Яму, здаецца, не падабалася, калі, седзячы побач, гаворачы пра развал, я абвінаваціў партыю: 18 мільёнаў камуністаў не маглі ўтрымаць уладу, ніводнага выпадку абароны абкама, райкама, ЦК. Здаліся без бою. Я не аддзяляю сябе ад іншых, але я самакрытычны. А Яфрэму, які быў першы, гэтай самакрытычнасці не хапае, у адказ ён абвінаваціў генералітэт (справядліва!), КДБ, МУС. Але ж усімі гэтымі органамі, якім належала абараняць дзяржаву, кіравалі ЦК КПСС, ЦК рэспублік, абкамы. Дагэтуль не магу зразумець такога паралічу ўлады. У час Вялікай французскай рэвалюцыі ў Людовіка не было такой партыі! У лютым 1917? Але руская армія ўтрымала фронт і не пусціла немцаў у глыбіню імперыі. Кастрычнік 1917? Бальшавікам удалося перацягнуць большасць арміі на свой бок, аднак усё роўна контррэвалюцыя арганізавалася і развязала кровапралітную грамадзянскую вайну. Арганізуюцца камуністы ў наш час ці хаця б праз дзесяць гадоў? Не веру. Старыя перамруць, моладзь падалася ў «капіталістычны рай». Іх купілі «вольвамі», «мерседэсамі», «рэно», «фордамі».

**15 лютага 1998 года**

Пазаўчора Славяне споўнілася 16. Паехаць мы не здолелі. Але Маша запрасіла сёння дзяўчат на абед. Прыемна пасядзелі, выпілі пляшку кагору, выстаўленую Сяргеем. Трохі паскандаліў з Машай (малой): ходзіць без галаўнога ўбору. Дурная мода — хадзіць пасярод зімы з непакрытай галавой. А надвор'е мартаўскае — нуль градусаў. Дзяўчаты пайшлі на канцэрт. І радасна іх бачыць, і сумна на іх глядзець: што іх чакае? Як выйдуць замуж? За каго? Як будуць жыць? Бацька пасіўны, бяздзейсны, да таго ж сляпы — катаракта, Валя Навуменка рыхтуе яго да аперацыі. Маці — працаўніца, якіх мала, але яе падводзіць здароўе. Зараз не спіць, што прыйдзецца плаціць прагрэсіўны падатак, а грошы даўно праедзены, пражыты: дзяўчат трэба было і накарміць, і прыгожа адзець. У каго спакойнае жыццё ў наш час? Адзін украў, другі ўзяў хабар, трэці даў яго, чацвёрты галодны, пяты не можа выдаць працу многіх гадоў, шосты не знаходзіць работы, сёмы... і г.д. А было ж спакойнае, мернае жыццё, небагатае, але і не галоднае — 80 рублёў пенсіі хапала на пражыццё з аплатай усіх камунальных паслуг.

Расказаў Сяргей: у нашым ЖЭКу вісіць спіс неплацельшчыкаў за кватэру, сярод іх — унучка Машэрава. Можна асудзіць, а можна і паспачуваць: калі ніхто з блізкіх не працуе ў камерцыі — ох, як нялёгка зводзіць канцы з канцамі! Дзе ж узяць мільёны сумленнаму чалавеку? Учора пай-

шоў у магазін, узяў 400000 і вярнуўся з невялікай торбачкай: 86 тысяч — лекі, малако, смятана, хлеб, танная каўбаса — паштэтная. На колькі ж дзён хопіць маёй пенсіі ў 3 мільёны? На тыдзень. Каб не было ганарараў, няхай і мізэрных, сядзеў бы на хлебе і кефіры. Адкуль жа будзе душэўны спакой і раўнавага? Кажуць: да жыцця трэба адносіцца па-філасофску. Па якой філасофіі? Хрысціянскай? Але і грэшнікі і праведнікі аднолькава баяцца смерці. Захапляюся Машынай мужнасцю: у яе стане яна друкуе «Губернатара». Сёння ўдзень не магла сесці за машынку, кляцае за сцяной зараз: у яе норма — пяць старонак у дзень.

Была рэдактарка з «Раман-газеты» — Платонава Ірына Мікалаеўна, падпісаў дагавор на выданне «Вялікай княгіні». Сяргей узяўся зрабіць пераклад. Дай Бог. Спецыяліст па рускай мове ён добры, думаю, перакладзе нядрэнна. Таццяна згадзілася б, але і Маша, і я пашкадавалі яе — з-за яе здароўя.

Сам я не бачыў, але расказвалі на вечары: ОРТ дало экран нашаму бэнээфаўцу, і ён палівоў брудам Машэрава. Дурань! Як трэба быць далёка ад народа, каб кідаць яму выклік! Я ўпэўнены: 80% беларусаў той думкі пра свайго Нацыянальнага Героя, якая прагучала ў сотні выступленняў з трыбуны і ў прэсе ў дні яго юбілею. Машэраў будзе жыць!!! Гэта не Брэжнеў, не Гарбачоў. І не Ельцын. Лукашэнка можа застацца ў памяці народнай. Калі не часта будзе лятаць у Нагана. Навошта яму трэба быў гэты палёт? Залішняй увагай збіць баявы дух хакеістаў? Што і здарылася: разграмілі немцаў (прыемна) і разгромлены канадцамі. Як адчувае сябе пасля такой ігры прэзідэнт нацыянальнага алімпійскага камітэта? Будзь, Аляксандр Рыгоравіч, і ў спорце палітыкам: спартсменам трэба грошы, а не адны апладысменты, няхай і прэзідэнцкія. І нарэшце — не спорт вызначае імідж краіны — эканоміка, навука, культура. Ідзем да з'езду СП, а ў літаратараў адбіраюць дом. І Саюзу ніякай увагі нават з боку другаснага чыноўніка прэзідэнцкай каманды. Няўжо яна не патрэбна, літаратура?

**20 лютага 1998 года**

Было 80 Янку Брылю — і ні слова, ні знаку ад улады. А ці можна нават паставіць побач Брыля і Марата Ягорава! Я нічога не маю супраць Марата: я з ім сябрую з таго часу, калі яго, звольненага з арміі ў званні капітана, узяў у СП дырэктарам бюро прапаганды літаратуры. Дырэктар ён быў добры, актыўны. Пасля я парэкамендаваў яго ў Фонд міру. І ён там 28 гадоў. 18 лютага адзначыў сваё 75-годдзе. Во трывалы! І юбілей яго здзівіў — малайчына, Марат, умее арганізаваць! Да каго пайшоў бы Русакевіч У.В.? Трэці чалавек у адміністрацыі? Да яго прыйшоў. Былі адказныя работнікі СМ, намеснікі міністраў, старшыні многіх гарадскіх арганізацый — Зуёнак, Ваніцкі, Гілеп... Марата называлі Жоліо Кюры, Луі Арагонам, не ніжэй. Смешна і сумна. А што ў наш час робіць Фонд міру? Адзіная заслуга — арганізацыя адпачынку дзяцей за мяжой. <...> Але ж Марат! Я ў захапленні ад яго ўмення арганізаваць свой юбілей! Стол пасля ўрачыстага пасяджэння быў шыкоўны. Ганаровы прэзідэнт беларускага камітэта прыхільнікаў міру чорта з два здолеў бы даць такі пачастунак!

А ўчора ў Музеі ВАВ адзначалі 85-годдзе Сяргея Прытыцкага. Напярэдадні адзначалі 95-годдзе В. І. Казлова, але Вольга Васільеўна, відаць,

забылася запрасіць мяне, хоць учора выказала крыўду — чаму не прыйшоў? Далібог, не ведаў.

Здзівіла адсутнасць адчування сённяшніх рэалій у Таццяны Іванаўны Прытыцкай. Ва ўспамінах я сказаў, што мне хацелася напісаць пра подзвіг Прытыцкага — расстрэл правакатара ў судзе, але я пабаяўся. Я сапраўды пабаяўся — маіх калег-заходнікаў. Той жа сябра мой Пестрак першы сказаў бы: «Не за сваю справу, хлопча, узяўся». Брыль змаўчаў бы, але, выявіўшы недакладныя дэталі заходнебеларускай рэчаіснасці, уедліва высмейваў бы іх.

*Успомніў я «Чырвонае лісце», абурэнне Пестрака фільмам: ён назваў* Куляшова і Кучара жулікамі (гэтага я не сказаў). Таццяна Іванаўна — адукаваны ж чалавек! — пасля за кавай просіць мяне: «Зрабіце фільм вы». Можна зарагатаць. Хто дасць грошы на такі фільм? Хто паставіць фільм пра камуніста? Пташук, які зрабіў «Палітбюро»? Такім палітыканствам не займаліся і ў савецкі час.

Мне памагла Ніна Сняжкова пераканаць удаву, што мастацкі фільм нерэальна; Ніна — жанчына разумная, ад жыцця не адрываецца.

Сёння звоніць Таццяна Іванаўна, дзякуе за ўчарашняе выступленне і просіць узяцца за дакументальны фільм. Нялёгка было даказваць, што гэта, як кажуць акцёры, не маё амплуа, гэта не па ўзросце — 78-ы. Гэта работа кінадакументаліста. Так прымітыўна ўяўляе нашу працу доктар гістарычных навук. Маўляў, дай Шамякіну заказ, і ён схопіцца за яго. А я і пра раман не думаю, аповесці баюся — страшна садзіць сябе за стол на некалькі месяцаў. Пад уплывам Івана Буніна, якога чытаю, часам у бяссонніцу «пракручваю» сюжэты кароткіх апавяданняў. Не выходзіць коротка — зноў-такі не маё амплуа.

**25 лютага 1998 года**

Учора зрабіў візіт прафесар Іваноў Яўгеній Пятровіч, галоўны гематолаг. Уважліва агледзіў Машу, напісаў назначэнне, лекі, якія ўрач-тэрапеўт, што нас лечыць, выпісаць не магла.

Іванову глыбока ўдзячны за яго ініцыятыву. Малайчына! Мы нават па чарцы каньяку выпілі. Але ён і спалохаў мяне. Маша спытала:

— Вылечваецца мая хвароба?

— Вылечваецца.

А калі яна выйшла, Яўген Пятровіч ціха сказаў мне:

— Хвароба невылечная, Іван Пятровіч. Няхай у вас не будзе ілюзій. Хоць, — назваў прозвішча прафесара лінгвістычнага універсітэта, — хварэе шосты год і працягвае працаваць.

Але прафесаршы, відаць, менш гадоў. Я ведаў, што хвароба невылечная. Тым больш у такім узросце. Але меў усё ж ілюзію, спадзяваўся на выключэнне. А прысуд Іванова ўдарыў па галаве і ў сэрца. А Маша ўпарта друкуе «Губернатара». Не даю, але яе не адарваць ад машынкі, старонак 120 прагнала. Нястомная працаўніца. Зрабіла вымову мне за Ганну, што з аповесці:

— Такому добраму чалавеку ты падсунуў такую падсцілку.

Я стаў цынічны — у творчасці, бо жыццё цынічнае, безнадзейнае: людзі лезуць у каменны век.

23-га запрасілі ветэранаў у БелСЭ, павіншавалі, пачаставалі шампанскім і далі падарунак... ажно па 200 тыс. рублёў. Каб я ў свой час даў ветэранам па 12—15 рублёў (па тры паўлітры без закусі), што пра мяне паду-

малі б? Праклялі б, анекдоты сачынілі б. А ў наш жабрацкі час і за 15 рублёў — дзякуй вам, дарагія мае калегі. «Беларусь» за артыкул пра Ціхана Кісялёва — 12 старонак — выпісала чатырыста тысяч. Адвалілі! Праўда, Валодзя Ліпскі за апавяданне ў «Вясёлцы» на тры машынапісныя старонкі заплаціў 800 тысяч. Малайчына! Я напісаў гады два назад «Промні маленства» — пяць апавяданняў на адзін аркуш. «Вясёлка» ў разбіўку друкавала іх года паўтара. Во што трэба пісаць старому. А я, дурань, яшчэ пра раман думаю. Вар'ят! Колас у 70 напісаў трэцюю частку трылогіі — выношваў гадоў сорак. І частка гэтая самая слабая: Лабановіч «адпрацаваны» ў маладосці, у першых частках.

**2 сакавіка 1998 года**

Кожны панядзелак з трывогай званю ў паліклініку Ліліі Мікалаеўне Катковай (выдатны доктар і чалавек!), каб у аўторак узялі ў Машы кроў на аналіз. Потым са страхам чакаю аналіз — ад яго залежыць, застанецца яна дома ці зноў трэба будзе класці ў рэанімацыю гематалагічнага аддзялення да Аўчыннікава і Музыкі. Маша неяк сказала, што гэтыя добрыя хлопцы радуюцца, калі адсылаюць яе дадому. Можна паверыць: каму хочацца, каб чалавек памёр у іх? Па-мойму, ёсць нават медыцынскі паказчык: смяротнасць у бальніцы. І само сабой зразумела, нікому не хочацца, каб ён быў вышэйшы, гэты трагічны паказчык. Ну, для ўрачоў — гэта статыстыка, а для блізкіх — трагедыя.

З такімі думкамі жыву — страшнымі. Праўда, сплю... з дапамогай клафеліну, рэланіуму, валакардзіну: перад сном глытаю для зніжэння ціску і лёгшы ў гадзіну ночы (раней не магу), сплю да 11 дня, гадзін па 9—10 у ложку, сну значна менш. Часам «кручу» сюжэты. Кароткія не атрымліваюцца, сюжэты на раман ганю прэч, на аповесць трымаецца ноч—дзве, да новага сюжэта. Але пакуль што ні адзін не захапіў так, каб тут жа захацелася сесці за стол. Ці сяду? Маша — во аптымістка! — друкуе «Губернатара». Канчае. За месяц, што дома.

На некаторыя мерапрыемствы іду ахвотна, як на 10-годдзе Дзіцячага фонду. І не пашкадаваў. Наплакаўся, праўда, над лёсам няшчасных дзяцей. Выйшла на сцэну маці з дзяўчынкай... Дзіця абгарэла ў 11 месяцаў, а цяпер ёй гадоў 10—11. Перанесла 27 (!) аперацый. Дабраліся да Амерыкі. За пластычную аперацыю твару патрабавалі 3,5 міл. долараў («гуманісты, такую іх!»). Маці дастукалася да Клінтана. Прэзідэнт узяў расходы на дзяржаву — тую, што патраціла ўжо мільярд на ўвод караблёў у Персідскі заліў, каб устрашыць Ірак. За дзяўчынку дзякуй яму. Дай Бог, каб аперацыя вярнула ёй нармальны воблік.

**4 сакавіка 1998 года**

Зноў завёз Машу ў бальніцу, трэці раз з 30 кастрычніка — у гематалогію, не лічачы, што перад гэтым яна ляжала ў бальніцы Лечкамісіі (старая назва прыжылася і не замяняецца нічым іншым, бо новая назва такая доўгая, што я і запомніць не магу: Рэспубліканская бальніца Галоўнага ўпраўлення лячэбна і санаторна-курортнага ўпраўлення Упраўлення справамі Прэзідэнта. Во колькі ўпраўленняў. Прасцей было б назваць «Бальніца Ціцянкова». Коратка і зразумела.)

Учарашні аналіз даў высокія лейкацыты (36 тысяч) і бласты (55%). Пазваніў загадчыку аддзялення Аўчыннікаву А. М. Больш ахвотна, чым

у мінулы раз, ён сказаў: «Прывозьце. Толькі вазьміце накіраванне. Можаце прывозіць сёння». Куды там! Было тры гадзіны дня. Пакуль схадзіў да Катковай за накіраваннем...

А Маша ... як ёй, гаротніцы, хацелася пабыць яшчэ дома! Крыўдна папракнула: «Лекі можна было б купіць за наяўныя». Лекі, якія выпісаў Іваноў, загадчыца аптэкі шукае тыдзень, знайшла адно, двух няма. «Можна купіць за наяўныя. Ды няма іх. Я плачу тыя ж грошы, толькі пералічэннем». Маша папрасіла прабачэння і расчуліла да слёз.

У тралейбусе, паўнюткім, дзе мялі мае старыя косці, дзве пажылыя жанчыны пазналі мяне, здзівіліся: «Глядзіце, хто ездзіць у тралейбусе. Такому чалавеку машыну трэба выдзяляць». І прыемна, і ніякавата. Пэўна, калі я вылез, назавуць прозвішча. Простыя жанчыны, а вунь як цэняць пісьменніка!

Учора Лукашэнка выступіў на канферэнцыі, прысвечанай 6-годдзю СНД. Падзея! Ацэнка яго тых, хто разваліў СССР, мне да сэрца. І хоць адзін з іх — Ельцын — яшчэ прэзідэнт, Лукашэнка смела ставіць пытанне аб адказнасці «белавежскіх зуброў». Аблезлых, лысых. Але... не першы раз чую яго словы аб падтрымцы навукі, вучоных (ды і мастакоў), але дзе яна, тая падтрымка? Калі яна будзе? Калі Барысевіч, Сушчэня, Хатылёва, Навуменка, Шамякін памруць? Сумна. Пры сустрэчах «старпёры» нязменна пытаюць: «Што пішаце?» Пісаў — ахвотна расказваў што. А цяпер пытанне злуе і пасылаю я, у думках, гэтых цікаўных туды, адкуль у іх, як і ў мяне, сыплецца пясок. А пасля лаю сябе. Хочацца ж пісаць. Хочацца! Але для творчасці трэба іншы настрой. Можна гарэць, абурацца, спрачацца, кахаць. Але калі чакаеш тую, з касой, — якая творчасць! Я не магу пісаць пра смерць! Я магу пісаць пра жыццё! Толькі пра жыццё! Ва ўсіх яго праявах. Акрамя адной — фінальнай. Думаць баюся, а не тое, што пісаць.

Але разам з тым варта змірыцца з непазбежнасцю... і жыць. Жыць! Ванюша маленькі расце на вачах маіх. Івана зменіць Іван. Хіба не радасць? Маша, святая душа, пры сваёй хваробе, умее цешыцца і радавацца ўнуку. Ах, Маша, падвяла ты нас. Наступае вясна. У такі час у мінулым годзе жылі дачнымі клопатамі. Хто зараз дагледзіць дачу? Баяцца буду жыць на ёй з 84-гадовай Вольгай і хворай Машай. Хоць чым я памагу ім у горадзе? Выклічу «хуткую»? І яна ўдыхне ў іх (а ў мяне, можа, у першага) жыццё? Наіўна. Жывуць жа старыя ў вёсках, у глушы, і некаторых немагчыма перацягнуць у горад. Можа, яны не баяцца смерці? Баяцца, але мудра, пафіласофску. Успамінаю просьбу маці, калі я прыехаў да яе, хворай, у лес: «Ратуй мяне, сынок». У 73 гады ёй хацелася жыць. Працягнуў бы я жыццё яе, каб забраў у Мінск? Не думаю. Але сумленне часта грызе: мог, а не зрабіў; чаму? А бацька пражыў усяго 66. Ляснік. Але быў паранены парубшчыкамі і быў зацяты курэц, ды і чарку лішнюю браў. А Сашы не стала ў 41. Можа, трагедыя, самая страшная для маці, і стала прычынай яе хваробы. Ніхто, бадай, дакладна не ведае механізму з'яўлення ракавай клеткі. Прычын, пэўна, сотня. І такі душэўны стрэс можа быць адной з іх. Праўда, ёсць больш зразумелая прычына — спадчынная: ад лейкеміі ва ўзросце 73 памёр Філат Азаравіч, Машын бацька, мой цесць, якога я глыбока паважаў, а ён мяне, мабыць, яшчэ больш; для яго я, пісьменнік, быў бог; не ведаю іншага такога шчырага і нястомнага чытача, як Філат. Няважна, што для яго вяршыняй быў Дзюма. А з сучаснікаў, можа, Шамякін:

кожны мой новы раман, аповесць ён літаральна глытаў, але ацэнкі даваў скупа, аднаскладовыя: добра! На філасофска-крытычныя развагі яго не цягнула; ён увогуле быў скупы на словы.

**10 лютага 1998 года**

Учора наведаў Машу. Трымаецца бадзёра. <...>

Выйшаў першы нумар часопіса «Крыніца». Адкрываецца гутаркай Людмілы Рублеўскай са мной. Вялікая гутарка. Кавалак маіх дзённікаў прыкладна на аркуш. А пад гутаркай і дзённікамі выступленні крытыкаў: Алеся Марціновіча, Міхася Тычыны, Пятра Васючэнкі, Ірыны Шаўляковай, Ганны Кісліцынай, Леаніда Галубовіча, Івана Афанасьева. У выступленнях іх многа нечаканага. Ірына называе артыкул: «Іван Шамякін і постмадэрн»; Кісліцына яшчэ вышэй: «Іван Шамякін — апостал мадэрнізму». Мой зямляк і цёзка Афанасьеў паказвае, як заўсёды, сваю эрудыцыю: «Загадкі дэльфійскага аракула, альбо Небяспечнае падарожжа эфіра». Вось так! Ёсць нечаканасці, ёсць, груба кажучы, выпендрыванне, суб'ектывізм. Але ўрэшце ўсе прызнаюць, што Шамякін — з'ява ў літаратуры, не зважаючы ні на што.

Кісліцына хораша піша пра Таццяну: «У беларускія энцыклапедыі наступнага стагоддзя ўвойдзе не адыёзны (?) сёння пісьменнік Іван Шамякін, а сціплая і па таленту малавядомая Таццяна Іванаўна Шамякіна, адна з лепшых культуролагаў Беларусі».

Ці варта супрацьпастаўляць бацьку і дачку і выносіць старому пісьменніку «смяротны прыгавор»? Але што ты хочаш ад крытыкаў.<...> Урэшце, у ацэнцы маёй творчасці галоўнае ваша раскаванасць: вы ні на кога не азіраецеся, і гэта добра. Я, грэшны, усё яшчэ азіраюся — на сябе, мінулага. Але гэта, відаць, заканамерна.

Здзівіла і нават моцна, што Валодзя Някляеў і яго рэдкалегія так расшчодрылася на Шамякіна. Дзякуй вам.

Я назваў крытыкаў, ацаніў. Але лепшая сярод іх — Людміла Рублеўская. Яна, як ніхто з тых, што калі-небудзь бралі ў мяне інтэрв'ю, задавала сур'ёзныя і разумныя пытанні. На такія пытанні цікава было адказваць.

Здзівіўся, што маю яшчэ самалюбства. Чытаў нумар да гадзіны ночы. Раней некаторых крытыкаў я не чытаў. Не, будзь шчыры, Іван: тых, што хвалілі, чытаў. Што ж, жыву яшчэ!

*Працяг будзе.*

*Падрыхтоўка да друку Таццяны Шамякінай.*





# ПОЛЫМЯ

**НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ**





**Уладзімір ЛОГІНАЎ,**

дырэктар Інстытута праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі НАН Беларусі, акадэмік, прафесар

# ХТО РОБІЦЬ НАДВОР'Е?

З такім пытаннем у 1936 годзе да вучоных звярнуўся Максім Горкі і дадаў: калі вучоныя не адкажуць на гэта пытанне, то пакідаюць месца Богу. І сапраўды, у гісторыі любой галіны ведаў не напаткаеш такой колькасці прымхаў, забабонаў, памылковых поглядаў і шарлатанства, як у прадказаннях надвор'я, а цяпер можна сказаць і клімату — шматгадовага рэжыму надвор'я. Ледзь не кожны філосаф старажытнасці лічыў сваім першасным абавязкам патлумачыць узнікненне хмар, ветру, ападкаў, спрагназаваць надвор'е і клімат. І рабілася тое не ад празмернай цікаўнасці... Тлумачыць і прадказваць змяненні надвор'я і клімату патрабавала практычная дзейнасць як суграмадзян, так і правадыроў.

У трохтомнай працы па метэаралогіі Арыстоцель (IV ст. да н. э.) даў правільнае вытлумачэнне многіх з'яў, якія адбываюцца ў атмасферы. Аднак ён не мог нават уявіць, што вецер з'яўляецца вынікам руху паветра, а не «эманацыяй Зямлі». Містычны туман сярэдневяковых уяўленняў спакваля рассейваўся. І гэтаму спрыялі працы шматлікіх вучоных, якіх часцяком падымалі на смех ці наогул рабілі ізгоямі грамадства.

Шматгадовы вопыт пастухоў, земляробаў і маракоў станавіўся наборам народных прыкмет, якія калі-нікалі дазвалялі прадбачыць надвор'е на заўтрашні дзень.

*Якія фактары змяняюць надвор'е і клімат?* Старажытныя грэкі ўзводзілі вежы для назіранняў за ветрам. Яны лічылі, што менавіта вецер стварае надвор'е, а вецер ствараюць багі. У грэкаў былі своеасаблівыя календары надвор'я з «прадказаннямі» на доўгія тэрміны наперад. Гэтыя календары карысталіся попытам у насельніцтва, хоць прадказанні, пададзеныя ў іх, перапляталіся з самымі бязглуздымі прымхамі і міфічнымі ўяўленнямі. Свет, сцвярджала і хрысціянская рэлігія, кіруецца толькі воляй Бога, і Бог робіць надвор'е па сваім жаданні, а непагаддзю ён карае людзей. Усё, што супярэчыла Свяшчэннаму Пісанню, аб'яўлялася ерассю. «Грэшнікі», якія наклікалі дрэннае надвор'е, залевы і град, часта спальваліся на кастры.

Каб выпрасіць спякотным летам у Бога хоць кроплю дажджу, у вёсках царскай Расіі праводзіліся хрэсныя хады. Людзі пастаянна сачылі за змяненнямі надвор'я, збіралі прыкметы і па іх імкнуліся ўгадваць яго перамены. Многія з прыкмет мелі характар прымхаў, але былі і такія, у якіх надзіва дакладна апісваўся ход метэаралагічных з'яў. Прыкмячалася, што пры аднолькавым напрамку ветру бывае рознае надвор'е, а значыць спраўджанне прагнозу надвор'я з выкарыстаннем такога «прадказальніка» (прэдыктара) было нездавальняючым.

Аднак сярэдневяковая метэаралогія мала дадала навуцы старажытных грэкаў. Вывучалася не сама па сабе прырода, а тое, што пра яе казаў Арыстоцель. Вельмі ўжо вялікім быў аўтарытэт Арыстоцеля, аднаго з першых выдатных метэаролагаў Зямлі.

Па ідэі Тарычэлі, у 1643 годзе быў створаны барометр, а ў сярэдзіне XVII стагоддзя Паскаль зрабіў сваё адкрыццё: звязаў ваганні ціску з пераменамі надвор'я. Выявілася, што перамены надвор'я сапраўды звязаны са змяненнем ціску. Значыць, ціск стварае надвор'е?

Калі тлумачыліся пагодныя і кліматычныя з'явы і іх вынікі для сельскай гаспадаркі, узнікалі і іншыя ідэі. Адзін манах выявіў сувязь паміж заплямленасцю сонечнага дыска і ўраджайнасцю збажыны. Яго думкі, аднак, не атрымалі належнага развіцця — перашкодзіла барацьба з астралогіяй.

Паступова назапашваліся статыстычныя даныя за вялікі перыяд часу. З кліматычных абагульненняў пагодных з'яў вынікала: калі нават і вецер стварае надвор'е, то чаму ў адно лета пераважае адзін напрамак ветру і ствараецца адзін тэмпературны рэжым, а ў другім летнім сезоне — іншы вецер і іншая тэмпература?

Марыёт звязаў ваганні ціску з паветранымі цячэннямі (надвор'е пераносіцца з іншых раёнаў), а Бэкан устанавіў віхравы рух ветру і сувязь надвор'я з яго напрамкам і хуткасцю.

Англійскі адмірал Роберт Фіцрой упершыню аб'яднаў такія з'явы, як вецер і ціск, і абверг супярэчанні ў тлумачэнні іх змяненняў. Цыклоны (барычныя ўтварэнні ў паўночным паўшар'і з нізкім ціскам у цэнтры і завіхрэннем ветру супраць гадзіннікавай стрэлкі) і антыцыклоны (барычныя ўтварэнні ў паўднёвым паўшар'і з высокім ціскам у цэнтры і завіхрэннем ветру па гадзіннікавай стрэлцы) ствараюць надвор'е. Аказваецца, іх рух (а ў выніку і надвор'е) можна прадказаць, калі размясціць рад метэаралагічных станцый на захадзе Еўрапейскага кантынента... Варта нагадаць, што ў 1724—1735 гадах Лонданскае каралеўскае таварыства арганізавала метэаралагічныя назіранні ў розных краінах, а першая сетка станцый створана ў Італіі (1654 г.). У час вялікіх экспедыцый на ўсход, у Сібір, былі створаны падобныя сеткі назіранняў і ў Расіі.

Дзякуючы вынаходству тэлеграфа была складзена метэаралагічная карта па назіраннях аднаго і таго ж дня. Аднак кліматолагі працягвалі сумнявацца... Яны згаджаліся, што цыклоны і антыцыклоны ствараюць надвор'е. Але чаму тады ў адзін год цыклонаў больш, чым у другі? Ды і траекторыі іх руху штогод розныя. Таму і надвор'е таксама рознае. Фарміруецца розны клімат.

Стала зразумела, што барычныя ўтварэнні недзе зараджаюцца, яны не існуюць вечна і рухаюцца па розных траекторыях. Дзе гэта адбываецца? Атлантыка? Арктыка? Адказ знойдзены: Арктыка — «кухня» надвор'я. Толькі пасля дасканалага вывучэння Арктыкі мы зможам прадказваць надвор'е. Актыўнае даследаванне Арктыкі пачынаецца ў 1930-я гады. Папанінцы і чэлюскінцы — першыя героі савецкай краіны — вывучаюць Арктыку.

Вучоныя многіх краін таксама ўважліва вывучаюць гідраметэаралогію Арктычнага басейна. Іх даследаванні істотна зрушылі наперад разуменне прычын змянення надвор'я і клімату на планеце, але яшчэ больш ускладнілі пытанні: хто стварае надвор'е і дзе яно фарміруецца? Аказваецца, клімат найбольш змяняецца ў Арктыцы.

У прадказанні надвор'я значныя поспехі былі дасягнуты нарвежцамі — Б'еркнесам, Сульбергам і Бержаронам. Яны ў 20-я гады мінулага стагоддзя распрацавалі франталагічны метад сінаптычных прагнозаў. Гэта дазволіла зазірнуць у фізічную сутнасць атмасферных працэсаў і прадказваць іх. Прадстаўнікі нарвежскай школы пры прагназаванні надвор'я смела прымянялі дасягненні гідрадынамікі. Гідрадынаміка можа ўсё! Наступіў час панавання гідрадынамікі. Яна пераможна ўваходзіла праз самалётабудаўніцтва, узвядзенне плацін... Ды прагноз надвор'я аказаўся больш складаным. Каб паспяхова прагназаваць, патрэбна была дадатковая інфармацыя аб фарміраванні надвор'я і клімату. Дайце трэцяе вымярэнне! І ў 1930 годзе ў Паўлаўску, пад Ленінградам, адбыўся першы запуск радыёзонда, вынайдзенага П. А. Малчанавым. Метэаролагі пачалі атрымліваць даклад-

ную інфармацыю пра тэмпературу, вільготнасць, рух паветра на вышыні да 30 кіламетраў. Пазней узнік адвектыўна-сінаптычны аналіз, выкарыстанне якога прывяло да паляпшэння спраўджання прагнозаў на кароткія тэрміны. Але гэта мала паспрыяла вырашэнню пытанняў прадказання надвор'я на доўгія тэрміны: прагнозы на месяц, сезон, год і больш працяглы час па-ранейшаму мелі нізкую спраўджанасць.

Найбольш адчувальныя зрухі ў павелічэнні спраўджання прагнозаў адбыліся пад уплывам паўсюднага ўкаранення гідрадынамічных метадаў. Адным з першых, хто актыўна ўкараняў матэматычныя метады пры прагназаванні надвор'я, быў І. А. Кібель. У тыя гады метэаролагі жартавалі: «Кібель — для сінаптыкаў гібель». Вядома, што на працягу многіх гадоў асноўным метадам прагназавання надвор'я з'яўляўся сінаптычны, хоць і маюцца ў ім элементы суб'ектывізму. Гэты метад не страціў свайго значэння і цяпер. Укараненне гідрадынамічных прагнозаў па Маскве, як лічыў В. А. Бугаеў, павялічыла іх спраўджанне на 8—10 працэнтаў.

Наступны крок у паляпшэнні прагназавання надвор'я звязаны з шырокім выкарыстаннем спутнікавай інфармацыі, якая займела асабліва важнае значэнне для цяжкадаступных раёнаў планеты, дзе не было метэаралагічных станцый. Спутнікавая эра ў 1970-я гады паспрыяла далейшаму росту спраўджанасці сутачных прагнозаў па Маскве на 2—3 працэнты. Сумеснае выкарыстанне звычайнай і спутнікавай інфармацыі ў схемах аналізу і кароткатэрміновага прагнозу палёў у выніку рашэння трох- і чатырохвымерных адваротных задач (асабліва для прагназавання ў рэгіёнах з рэдкай метэаралагічнай сеткай) забяспечыла, безумоўна, яшчэ большы «скачок» у павелічэнні спраўджанасці кароткатэрміновых прагнозаў. Акрамя таго, спутнікавая інфармацыя зрабіла магчымым і вырашэнне шэрага іншых найбольш цяжкіх задач. Усё ж такі самы вялікі эфект у паляпшэнні прагназавання звязаны з шырокім укараненнем у практыку ў пасляваенны час (1946—1953 гг.) карт барычнай тапаграфіі — сіноптыкі атрымалі трэцяе вымярэнне. Спраўджанне кароткатэрміновых прагнозаў па Маскве павялічылася адразу на 10 працэнтаў. Аднак у наступныя гады кожны новы працэнт павелічэння спраўджанасці прагнозаў дасягаўся ўсё большымі намаганнямі.

Такім чынам, за пяцьдзесят — шэсцьдзесят гадоў спраўджанасць кароткатэрміновых прагнозаў па Маскве і іншых гарадах узрасла на 20—25 працэнтаў. Гэта і ёсць сумарны эфект ад укаранення ў практыку карт барычнай тапаграфіі, спутнікавай інфармацыі, новых метадаў колькасных гідрадынамічных прагнозаў і хуткадзейных (з вялікай памяццю) электронна-вылічальных машын. Дарэчы, ва ўсім свеце самыя лепшыя электронна-вылічальныя машыны працуюць на метэаралогію і кліматалогію.

У цяперашні час спраўджанасць прагнозаў на адны — трое сутак складае 90 працэнтаў і больш. Гэта і ёсць паказчык поспеху, звязанага з укараненнем новых тэхналогій прагназавання.

У апошні саракагадовы перыяд вялікае значэнне надаецца буйнамаштабнаму даследаванню акіяна і сушы, а таксама ўзаемадзеяння атмасферы з акіянам, крыясферай і біясферай. Узнік новы падыход: надвор'е стварае Сусветны акіян. Падобнае сцвярджаюць акіянолагі, і з гэтым згодны метэаролагі і кліматолагі.

Грандыёзныя акіянічныя эксперыменты, выкарыстанне сучасных назіранняў на сотнях навукова-даследчых судоў, тысячах аўтаматычных станцый на буях істотна павялічылі інфармацыйныя патокі аб стане і змяненнях акіяна і паглыбілі наша разуменне працэсаў яго ўзаемадзеяння з атмасферай. Марчук Г. І. і яго калегі выяўляюць энергаактыўныя зоны ў акіяне. Крыху раней было адкрыта буйнамаштабнае ваганне ў Ціхім і Індыйскім акіянах, гэтак званая з'ява «Эль-Ніньё — Паўднёвае ваганне», а таксама — Паўночна-Атлантычнае ваганне. Гэтыя даследаванні дазволілі вызначыць ролю Сусветнага акіяна ў фарміраванні

доўгатэрміновых і звышдоўгатэрміновых змяненняў надвор'я і наблізілі нас да асноў стварэння прагнозаў на доўгія тэрміны.

Аднак шлях да поспеху аказаўся нечакана доўгім і цярністым. Ён да гэтага часу не прывёў да якасных доўгатэрміновых прагнозаў. Яшчэ тры дзесяцігоддзі назад у Англіі ўвогуле забаранялася распаўсюджваць доўгатэрміновыя прагнозы надвор'я, таму што яны мелі нізкую спраўджанасць і дэзарыентавалі карыстальнікаў. У Савецкім Саюзе, а цяпер і ў Расіі, нягледзячы на невялікую дакладнасць доўгатэрміновых прагнозаў, яны распаўсюджваліся і распаўсюджваюцца зараз для шырокага кола карыстальнікаў і могуць служыць арыенцірам пры прыняцці гаспадарчых рашэнняў.

Пакуль застаецца нізкай спраўджвальнасць доўгатэрміновых і звышдоўгатэрміновых прагнозаў на месяц, сезон, год, няма дастатковых падстаў чакаць хуткага прагрэсу, хоць пачатак такім прагнозам быў пакладзены яшчэ ў 1920-я гады савецкім вучоным Б. П. Мультаноўскім. У наступныя гады доўгатэрміновыя сінаптычныя і фізіка-статыстычныя прагнозы актыўна развівалі А. Я. Вангенгейм, А. А. Гірс, Т. В. Пакроўская, М. І. Юдзін, Л. А. Кац, М. С. Звераў і іншыя. З замежных вучоных варта адзначыць Ф. Баўра, які зрабіў вялікі ўклад у развіццё доўгатэрміновых прагнозаў з улікам геліягеафізічных фактараў. Віцельс Л. А., Пакроўская Т. В., Сазонаў Б. І. і многія іншыя таксама рабілі неаднаразовыя спробы ўлічыць сонечную актыўнасць (фазу 11- і 22-гадовага сонечнага цыкла) у доўгатэрміновых і звышдоўгатэрміновых прагнозах надвор'я і змянення клімату.

Такім чынам, магчыма, вытокі надвор'я варта шукаць у космасе? І астролагі, прадказваючы надвор'е па зорках і фазах Месяца, некалі мелі рацыю? Але вынікі доўгатэрміновага і звышдоўгатэрміновага прагназавання надвор'я з улікам касмічных і астрафізічных фактараў таксама аказаліся маласуцяшальнымі.

Сёння на вырашэнне праблемы прадказання надвор'я і клімату працуе найлепшая (па аб'ёме памяці) і самая хуткадзейная вылічальная тэхніка. З гэтай мэтай праводзяцца многія міжнародныя эксперыменты. Палепшылася істотна наша разуменне функцыянавання кліматычнай сістэмы. Прагнозы на некалькі дзён набылі высокую ступень спраўджанасці (каля 90 працэнтаў). Але доўгатэрміновыя і звышдоўгатэрміновыя прагнозы надвор'я, а таксама прагнозы змянення клімату яшчэ вельмі далёкія ад дасканаласці.

А можа, увогуле трэба зняць з парадку дня пытанне: хто робіць надвор'е? Тым больш, што пытанне надзвычай складанае. І прызнаць, што з аднаго надвор'я вынікае другое — і вынікае зусім бессістэмна.

На шчасце, сусветнае навуковае супольніцтва глядзіць на гэта зусім інакш. Дзмітрый Іванавіч Мендзялееў неяк зазначыў, што ў навукі два прызначэнні: прадбачанне і карысць. А прадбачыць выпадае толькі тады, калі вядомы прычыны таго, што адбываецца.

Сітуацыя з ацэнкай магчымых прычын змянення надвор'я яшчэ больш ускладнілася, калі чалавек, дзякуючы вялікім магчымасцям свайго часу, пачаў умешвацца ў працэсы, якія адбываюцца ў кліматычнай сістэме. Чалавек стаў мадыфікаваць надвор'е і клімат, нават падчас і ў вельмі непажаданым для самога сябе кірунку. Прагназаваць надвор'е і клімат стала яшчэ складаней.

Вучоныя заўсёды разумелі, наколькі складаная праблема прадказання надвор'я, і не заўсёды імкнуліся вырашаць гэту праблему. У пачатку XIX стагоддзя неадменны сакратар Парыжскай акадэміі навук, акадэмік Французскай акадэміі, дырэктар Парыжскай астранамічнай абсерваторыі, міністр Часовага ўрада Напалеона Дамінік Франсуа Араго іранізаваў: вучоны, які паважае сябе і даражыць сваёй рэпутацыяй, ніколі і ні пры якіх дасягненнях навукі не будзе займацца прагнозамі надвор'я. Вядомы фізік, акадэмік Барыс Сямёнавіч Якобі, калі яму ў 1865 годзе прапанавалі ўзначаліць Галоўную фізічную абсерваторыю (заснавана ў 1849 годзе, у цяперашні час — Галоўная геафізічная абсерваторыя імя

А. І. Ваейкава), заявіў, што яму непрыстойна быць дырэктарам метэаралагічнай абсерваторыі.

Гісторыя гэтай знакамітай установы звязана з імем яшчэ аднаго выдатнага вучонага, акадэміка Аляксея Мікалаевіча Крылова, матэматыка і караблебудаўніка. У сваёй кнізе ўспамінаў ён пісаў, што спосаб апрацоўкі метэаралагічных назіранняў, які шырока прымяняецца, можа лічыцца ўзорам, як не трэба яе праводзіць. За некалькі месяцаў перад тым, як пакінуць пасаду дырэктара абсерваторыі, у дасціпнай форме вучоны сказаў: «Ёсць дзве групы назіральных навук, якія называюцца «дакладнымі». Першую з іх складаюць астраномія, фізіка, хімія і г. д., а другую — белая і чорная магія, астралогія, графалогія, хірамантыя і іншыя. Да гэтай другой групы належыць і метэаралогія». Пазней А. М. Крылоў у час пасяджэння вучонага савета, дзе абмяркоўвалася кандыдацкая работа М. Швеца, прызнаў, што метэаралогія стала дакладнай навукай, і прапанаваў прысудзіць прэтэндэнту адразу доктарскую ступень.

## Роля «малых» сіл у змяненні надвор'я і клімату

У літаратуры такія знешнія сілы, як сонечная актыўнасць, якая вызначае прыток электрамагнітнага выпраменьвання і зараджаных часціц, а таксама вулканічная і антрапагенная дзейнасць, ад якой залежыць аэразольнае забруджанне атмасферы, адносяцца да «малых» кліматастваральных сіл. Ацэнкі іх ролі ў змяненні клімату, нягледзячы на вялікую колькасць навуковых прац, не з'яўляюцца агульнапрынятымі і служаць не адзін дзесятак гадоў прадметам дыскусій. Змяненне арбітальных параметраў Зямлі, доўгаперыядныя прылівы і змяненне хуткасці вярчэння Зямлі таксама адносяцца да «малых» сіл.

Разгледзім толькі некалькі фактараў, уплыў якіх на клімат не выклікае вялікіх пярэчанняў, хоць яны і з'яўляюцца прадметам вострых дыскусій.

*Сонечная актыўнасць*. Нестабільнасць электрамагнітных і карпускулярных змяненняў, якія прыходзяць ад Сонца і з космасу, устаноўлена тэарэтычна і атрымала эксперыментальнае пацвярджэнне. Высокадакладныя вымярэнні інтэгральнай астрафізічнай сонечнай пастаяннай сведчаць аб яе зменлівасці каля 0,1 працэнта пры развіцці вялікіх плям на Сонцы. У доўгаперыядным змяненні астрафізічнай сонечнай пастаяннай выяўлены трэнд (тэндэнцыя) каля 0,02 працэнта ў год. Варыяцыі метэаралагічнай сонечнай пастаяннай на парадак большыя і звязаны са змяненнем газавага і аэразольнага саставу атмасферы з прычыны ўздзеяння ультрафіялетавага і карпускулярнага выпраменьвання Сонца, касмічных прамянёў сонечнага і галактычнага паходжання, а таксама вулканічнай і антрапагеннай дзейнасці.

Амаль чатырыста гадоў таму назад вучоныя ўжо ламалі галаву над гэтай праблемай. Яшчэ ў 1611 годзе, калі святар, прафесар матэматыкі Шэйнер паказаў кіраўніку ордэна езуітаў, прыхільніку Арыстоцеля, адкрытыя ім сонечныя плямы, той заявіў: «Прачытай працы Арыстоцеля ад дошкі да дошкі, сын мой. Плямы, па ўсёй верагоднасці, былі ў тваёй трубе ці ў тваім воку». Такім чынам служкі царквы імкнуліся захаваць аблічча Сонца незаплямленым. Пазней Фабрыцыус і Галілей абнародавалі факт выяўлення імі сонечных плям. У наступныя стагоддзі з'явіліся работы, у якіх адзначалася сувязь заплямленасці Сонца з рознымі падзеямі на Зямлі (галодныя гады, цэны на ўраджай і г. д.).

Адкрыццё сонечнай цыклічнасці належыць аптэкару Швабэ (1843 г.), які на падставе дваццацігадовых назіранняў з даху сваёй хаты, разглядаючы плямы на Сонцы, выявіў цыкл сонечнай актыўнасці, роўны прыблізна дзесяці гадам. Пазней Р. Вольф шляхам абагульнення разрозненых назіранняў пацвердзіў адкрыццё Швабэ. Гэты цыкл мае працягласць каля 11 гадоў і ўвайшоў у гісторыю як

цыкл Швабэ-Вольфа. Закон Швабэ-Вольфа мае універсальны сэнс і адносіцца як да сярэдняй колькасці сонечных плям, так і да ўсёй сонечнай актыўнасці ў цэлым. Такі цыкл характэрны для змянення факелаў, сонечных успышак, інтэнсіўнасці свячэння кароны Сонца, геліяграфічнай шыраты плям і інш. Ён ярка праяўляецца ў змяненні геамагнітнай актыўнасці, параметраў іанасферы, палярных ззянняў, інтэнсіўнасці касмічных (галактычных і сонечных) прамянёў, сонечнага ветру. Пазней падобны цыкл быў выяўлены і ў многіх прыродных з'яў.

Ідэя аб уплыве Сонца на надвор'е і клімат выказана даўно. Яшчэ ў XVII стагоддзі Б. Баліані пісаў Галілею, што плямы на Сонцы можна разглядваць як «ахаладжальнікі» і пры іх вялікай колькасці можна чакаць нізкіх тэмператур на Зямлі. Гэта сапраўды так. Калі плямы маюць тэмпературу на 1500 °К ніжэй тэмпературы фотасферы (6000 °К), то іх з'яўленне змяншае свячэнне сонечнага дыска і, як вынік, сонечную пастаянную. Але гэта азначае, што сонечная пастаянная не з'яўляецца пастаяннай велічынёй і яе назва ўмоўная.

Нямала работ, прысвечаных сонечна-зямным сувязям, з'явілася ў XVII — пачатку XIX стагоддзя. Сярод іх варта згадаць работы Дж. Рычолі, Р. Вольфа і Гершэля, які ўстанавіў сувязь паміж сонечнай актыўнасцю і цэнамі на некаторыя сельскагаспадарчыя прадукты, а таксама Д. Араго, які выявіў сувязь тэмпературы ў Парыжы з сонечнай актыўнасцю. Сапраўды класічнае даследаванне праяўлення 11-гадовага сонечнага цыклу ў клімаце Зямлі было апублікавана ў 1873 годзе Кепенам. Вучоны выявіў пэўную прывязку тэмпературы ў тропіках да максімумаў і мінімумаў 11-гадовага цыкла і вызначыў амплітуду яе змяненняў. У XX стагоддзі былі створаны тысячы падобных прац. Іх агляд можна знайсці ў манаграфіях М. С. Эйгенсона, Б. М. Рубашова, Л. А. Віцельса, Т. В. Пакроўскай, Б. І. Сазонава, Дж. Р. Германа, Р. А. Гольберга і іншых вучоных.

Работы, якія з'явіліся ў другой палове XIX—XX стагоддзі, пералічыць немагчыма, колькасць публікацый вымяраецца некалькімі тысячамі. У розных абалонках Зямлі выяўлены многія сонечныя цыклы (11-, 22-гадовы і квазівекавы). Даследчык, які пазнаёміўся з іх вынікамі, не мог не зажурыцца. Ён мог канстатаваць, што сонечна-зямныя сувязі змяняюцца ў часе і прасторы нібыта без ніякіх падстаў.

Не маючы дастатковых ведаў аб працэсах, якія адбываюцца на Сонцы і ў космасе, і аб механізмах сонечна-зямных сувязей, карыстаючыся ў многіх выпадках абмежаванымі радамі гідраметэаралагічных назіранняў, цяжка даказаць невыпадковасць узаемазвязанага ходу сонечнай актыўнасці і працэсаў у атмасферы, гідрасферы, біясферы. Не здолеўшы прадбачыць часовыя прасторавыя межы змянення знака сувязі «Сонца—Зямля», некаторыя даследчыкі вырашылі разглядаць іх як выпадковыя.

Многія статыстычныя вынікі супастаўлення параметраў сонечнай актыўнасці з надвор'ем і кліматам сапраўды недастаткова абгрунтаваныя і не з'яўляюцца статыстычна значнымі. Прапанавана нямала фізічных механізмаў уплыву Сонца на Зямлю, але ні адзін з іх не выйшаў за межы гіпотэз. І на тое ёсць аб'ектыўныя прычыны. Складанасць перадачы бур ад Сонца, вялікая колькасць магчымых уздзеянняў агентаў, малая энергія ўсіх без выключэння агентаў, якія прыходзяць ад Сонца і з космасу, — гэта ў першую чаргу ўскладняе вылучэнне сонечнага «сігналу» на фоне магутных «перашкод» атмасфернага паходжання. Менавіта таму сонечныя агенты могуць быць аднесены да разраду «малых» сіл і навуковая акрэсленасць ацэнак іх уплыву на Зямлю застаецца пакуль надзвычай невыразнай, хоць факт такога ўплыву не адмаўляецца. Такім чынам, малая энергія дадатковага электрамагнітнага і карпускулярнага выпрамяньвання, зразумела, можа прыводзіць да няўстойлівасці сонечна-атмасферных сувязей. Калі-нікалі гэта акалічнасць з'яўляецца падставай для поўнага адмаўлення такіх сувязей.

Магчымыя механізмы ўздзеяння сонечнай актыўнасці на клімат найперш залежаць ад агента, які ўплывае на змяненне ўласцівасцей атмасферы. Калі сонечная пастаянная змяняецца за кошт ультрафіялетавай часткі электрамагнітнага выпраменьвання, то рэальным механізмам можа быць механізм, звязаны са змяненнем утрымання азону ў атмасферы. Калі агентам з'яўляюцца касмічныя (сонечныя і галактычныя) прамяні, то механізм можа быць звязаны з іх уздзеяннем на параметры атмасфернай электрычнасці і кандэнсацыю вадзяной пары ў атмасферы. На жаль, ні адзін з прапанаваных у 1950—1980-я гады механізмаў не атрымаў істотнага развіцця. Цікавасць да гэтай праблемы то ўзрастае, то згасае. «Залатым векам» даследавання сонечна-зямных сувязей, калі меркаваць па руска- і англамоўных публікацыях, з'яўляюцца 70-я — пачатак 80-х гадоў XX стагоддзя. Папярэдняя, больш слабая хваля цікавасці да гэтай праблемы прыпала на канец 1950-х — пачатак 1960-х гадоў.

У апошні час у сувязі з антрапагенным патанчэннем азонавага слою і, як вынік, павелічэннем прытоку ультрафіялетавай радыяцыі Сонца ўзрасла колькасць захворванняў на рак скуры. Паколькі адной антрапагеннай дзейнасцю нельга вытлумачыць увесь спектр варыяцый канцэнтрацыі азону, то зноў пачаліся шматлікія даследаванні ўплыву сонечнай актыўнасці і змянення клімату на ўтрыманне азону.

*Сонечная актыўнасць і біясфера Зямлі.* Фізічная і эмацыянальная актыўнасць людзей залежыць ад многіх фактараў хімічнага і фізічнага забруджання навакольнага асяроддзя. Менш вывучанай і таму больш дыскусійнай з'яўляецца праблема ўплыву на чалавека электрамагнітнага выпраменьвання, патокаў высокаэнергічных часціц (касмічных прамянёў), іанізацыі паветра, ультрагукавых хваль, пульсацый магнітнага поля Зямлі і іншых «малых» знешніх сіл.

Пытанні ўплыву «малых» касмічных сіл шырока абмяркоўваліся ў працах вядомага вучонага А. Л.Чыжэўскага. Заснавальнік важнага напрамку ў навуцы — геліябіялогіі, ён правёў вялікую статыстычную работу па абгрунтаванні заканамернасцей у такіх масавых бедствах чалавецтва, як эпідэміі розных інфекцыйных захворванняў, войны, галодныя гады, рэвалюцыі, і выявіў іх сувязь з сонечнай і геамагнітнай актыўнасцю.

Можна аспрэчваць статыстычную абгрунтаванасць некаторых выяўленых ім заканамернасцей, але атрыманыя вынікі і далейшыя даследаванні многіх геліябіёлагаў і медыкаў сведчаць, на думку аўтараў, аб наяўнасці ўплыву «малых» касмафізічных сіл на біясферу Зямлі.

Трэба адзначыць, што пачынаючы са старажытных астролагаў, якія вылічвалі моманты спалучэнняў і ўзаемаразмяшчэнняў планет сонечнай сістэмы і прадказвалі на гэтай аснове лёсы людзей і краін, цікавасць да праблемы ўплыву «малых» знешніх сіл на біясферу і атмасферу Зямлі не змяншаецца. Астралогія ў асобныя гістарычныя моманты лічылася лжэнавукай, а астролагі праследаваліся. У апошнія дзесяцігоддзі астралогія зноў перажывае перыяд росквіту, асабліва ў краінах былога Савецкага Саюза.

Як адзначыў Б. І. Сазонаў, «смутны час, які перажываюць у апошнія гады народы былога сацыялістычнага лагера, прымушае многіх звяртацца за тлумачэннямі і ў пошуках выхаду да рэлігіі, астралогіі, да пісанняў сярэдневяковых мудрацоў. На гэтай хісткай глебе пачынаюць рабіць прагнозы аб будучым Расіі і іншых дзяржаў».

На падставе даследаванняў А. Л. Чыжэўскага, які распрацаваў навуковыя падыходы да тлумачэння многіх прыродных катастроф і сацыяльных узрушэнняў, Б. І. Сазонаў прааналізаваў гады эмацыянальнага пад'ёму людзей, рэвалюцый, контррэвалюцый і масавых рэпрэсій ва Усходняй Еўропе і ў Расіі ў сувязі з адным з паказчыкаў сонечнай актыўнасці (адносна ліку Вольфа) і прыйшоў да вываду аб пэўнай сувязі супастаўляльных з'яў: сацыяльныя працэсы, якія патрабуюць для свайго ажыццяўлення высокай ступені эмацыянальнага напалу

людскіх мас, здараліся пераважна ў гады высокай сонечнай актыўнасці. Людзі больш пасіўныя ў час яе мінімумаў. Менавіта тады кіраўнікі краін могуць прымаць непапулярныя рашэнні. Лепшага часу для таго, каб не выплачваць заработную плату, праводзіць непапулярныя ў народзе акцыі, цяжка ўявіць.

Цяпер сонечная актыўнасць змяншаецца. 2006—2007 гады будуць перыядам мінімальнай сонечнай актыўнасці. Настае час прыняцця непапулярных рашэнняў і правядзення непапулярных рэформ. Мы не ведаем пакуль механізмаў такога ўплыву на чалавека. Гэта можа быць звязана з розным характарам зменлівасці сонечнай актыўнасці. Так, у гады высокай актыўнасці Сонца буры электрамагнітных параметраў навакольнага асяроддзя чалавека ідуць адна за другой з невялікімі інтэрваламі (пяць — дзесяць дзён), у той час калі недалёка ад мінімуму гэты інтэрвал павялічваецца. У канцы сыходнай лініі 11-гадовага сонечнага цыкла выразна праяўляюцца 27-дзённыя квазіваганні ў змяненні геамагнітнай актыўнасці. Відавочна, што сонечная актыўнасць гэта толькі адзін з фактараў, якія ўздзейнічаюць на людзей, і трэба ўлічваць іншыя фактары, магчыма, больш значныя.

Вядома, што перыяды абарачэння планет звязаны з сонечнай дзейнасцю. Напрыклад, перыяд абарачэння планеты Юпітэр блізкі да вядомага 11-гадовага цыкла сонечнай актыўнасці. Квазівекавы цыкл сонечнай актыўнасці блізкі да працягласці «года» планеты Уран і «паўгоддзя» планеты Нептун. Квазіперыядычныя змяненні касмічных прамянёў блізкія да перыядаў абарачэння бліжэйшых да Сонца планет. Дзеля справядлівасці варта сказаць, што варыяцыі касмічных прамянёў з такімі перыядамі маюць вельмі малыя амплітуды і іх уздзеянне на біясферу наўрад ці істотнае. Змяненне параметраў зямной арбіты (перыяду абарачэння Зямлі вакол Сонца, нахілу экватара да экліптыкі і эксцэнтрысітэту) адбываецца пад уплывам уздзеяння на Зямлю сіл прыцягнення планет. Другі касмічны фактар — варыяцыі свяцільнасці Сонца з прычыны з'яўлення на яго дыску плям, светлых колцаў факелаў. Згаданыя касмічныя сілы з'яўляюцца адказнымі не толькі за змяненні клімату ў геалагічных маштабах часу (каля 20, 40, 100 і 400 тысяч гадоў), але і за іх кароткаперыядныя ваганні (каля некалькіх стагоддзяў і дзесяцігоддзяў).

Змяненні клімату, абумоўленыя касмічнымі фактарамі, і розная паўтаральнасць экстрэмальных кліматычных з'яў (засух, паводак, суровых і цёплых зім), якая ўзнікае на іх фоне, вызначаюць змяненне ўзроўню Сусветнага акіяна, плошчы ледавіковага покрыва Зямлі, інтэнсіўнасць апустыньвання тэрыторый, ураджайнасць сельскагаспадарчых культур і г. д. Усе згаданыя фактары аказвалі і працягваюць аказваць вялікі ўплыў на гаспадарчую дзейнасць чалавека і, як вынік, фарміруюць у асобныя эпохі неспрыяльную эканамічную сітуацыю ў краінах, якая прыводзіць да рэвалюцый, войнаў, змены ўрадаў і г. д.

Калі выкладзеныя факты аб уплыве касмічных фактараў біясфер і атмасфер маюць пад сабой падставу, то атрымліваецца, што астролагі мелі рацыю, калі вызначалі лёсы людзей па размяшчэнні планет.

Што гэта, зварот да ўяўленняў астролагаў на новым узроўні ці новая памылковая думка? Асобныя супадзенні або нават статыстычна значныя сувязі супастаўляльных велічынь без тэорыі і механізмаў такіх уздзеянняў так і застануцца прадметам вострых дыскусій.

Разгледзім больш дэталёва пытанні ўплыву «малых» сіл на біялагічныя сістэмы і працэсы. Шмат гадоў таму назад узнікла базавая мадэль «біялагічнага гадзінніка», якая прадугледжвала «падладжванне» ваганняў біялагічных сістэм да квазіперыядычных варыяцый знешняга асяроддзя. Для большасці ваганняў біялагічных сістэм мадулятарам могуць служыць варыяцыі электрамагнітных палёў асяроддзя пражывання, якія абумоўліваюцца сонечнай і геамагнітнай актыўнасцю. Выяўлена, што магнітныя буры (глабальныя адхіленні электрамагнітнага поля) аказваюць уплыў на параметры сутачнай рытмікі арганізма чалавека.

Ацэнка ролі электрамагнітных палёў (ад радыёчастот да магнітнага і электрычнага палёў Зямлі, якія змяняюцца марудна) у аказанні ўплыву на жывую прыроду супярэчлівая. Працяглы час лічылася (многія вучоныя лічаць і цяпер), што гэта частка спектра не аказвае прыкметнага ўплыву на жывыя арганізмы, бо эфекты, звязаныя з пераўтварэннем энергіі слабых прыродных палёў у тканках жывых арганізмаў, зусім малыя.

У апошні час прынята канцэпцыя аб тым, што жывыя арганізмы эвалюцыйна прыстасаваліся да выкарыстання электрамагнітных палёў для атрымання інфармацыі пра змяненні ў знешнім асяроддзі і для інфармацыйных сувязей паміж арганізмамі і ўнутры арганізмаў.

Каля сямідзесяці гадоў таму назад У. І. Вярнадскі пісаў, што жыццядзейнасць арганізмаў не толькі звязана з уплывам электрамагнітных выпраменьванняў Сонца ў інфрачырвоным, светлавым і ультрафіялетавым дыяпазонах, але і нізкачастотныя электрамагнітныя палі біясферы аказваюць уплыў на арганізм чалавека.

Паглынанне энергіі электрамагнітных квантаў у рэчыве жывых тканак можа быць звязана з іанізацыяй і ўзбуджэннем малекул і атамаў. Энергія такіх квантаў павінна быць вышэй сярэдняй кінетычнай энергіі малекул. Да гэтай пары з'яўляецца дыскусійным пытанне аб біялагічнай значнасці вялікай часткі электрамагнітнага спектра біясферы, дзе энергія квантаў значна ніжэй за сярэднюю кінетычную энергію малекул. У гэту частку электрамагнітных палёў уваходзяць магнітныя і электрычныя палі Зямлі, якія змяняюцца марудна, а таксама нізкачастотныя і высокачастотныя палі, што ўзнікаюць пры атмасферных разрадах.

З тэарэтычных ацэнак уплыву электрамагнітных палёў на біясферу вынікае, што іх ўздзеянне павінна быць у сотні тысяч разоў большае па інтэнсіўнасці, чым уздзеянне прыродных палёў біясферы. Разам з тым у ходзе эксперыментальных даследаванняў уздзеяння электрамагнітных палёў на жывыя арганізмы выявіліся разнастайныя парушэнні фізіялагічных функцый пры ўздзеянні значна больш слабых электрамагнітных палёў, чым гэта неабходна для цеплавога эфекту.

У далейшым шматлікія эксперыментальныя даследаванні засведчылі, што любыя арганізмы здольны рэагаваць на нізкачастотныя, высокачастотныя і ультравысокачастотныя палі ў сотні тысяч і больш разоў слабейшыя, чым прадугледжана тэорыяй, якая грунтуецца на разглядзе энергетычных узаемадзеянняў электрамагнітных палёў з рэчывам жывых тканак.

Эксперыментальныя даследаванні пацвярджаюць эфект уздзеяння слабых электрамагнітных палёў на арганізм чалавека: змяняюцца рытм сардэчных скарачэнняў і ўзровень крывянога ціску, электрычная актыўнасць мозгу і ўзбуджальнасць нервовых клетак, абменныя працэсы і г. д. Пад уздзеяннем слабых электрамагнітных палёў у чалавека могуць узнікнуць зрокавыя, слыхавыя і датыкальныя адчуванні, а ў жывёл — такія розныя эмацыянальныя рэакцыі, як рэзкая ўзбуджальнасць або падаўлены стан.

Даследчыкі адзначаюць змяненне характару залежнасці жывых арганізмаў ад электрамагнітных палёў: рэакцыі арганізмаў узнікаюць пры розных знаках іх зменлівасці. Апошняя акалічнасць сведчыць аб няўстойлівасці сувязей «электрамагнітныя палі — жывы арганізм», што дазваляе некаторым вучоным ставіць пад сумненне наяўнасць такіх сувязей. Падставы для такіх сумненняў ёсць яшчэ і таму, што агульнапрызнаных тэарэтычна і эксперыментальна пацверджаных механізмаў такіх уплываў няма, а спроба абгрунтаваць абумоўленасць біялагічных эфектаў інфармацыйнымі ўзаемадзеяннямі электрамагнітных палёў з біялагічнымі сістэмамі мала што тлумачыць.

Патрабуе абгрунтавання і палажэнне гэтай гіпотэзы аб адсутнасці залежнасці эфекту ад велічыні энергіі, якая ўносіцца ў біялагічную сістэму. Лічыцца, што сігнал, які нясе інфармацыю, выклікае толькі пераразмеркаванне энергіі ў самой сістэме і кіруе працэсамі пераносу рэчыва і энергіі, якія адбываюцца ў ёй.

Таксама ёсць магчымасць назапашання інфармацыйнага сігналу ў сістэме пры яго шматразовым паўтарэнні. Гэтыя агульныя меркаванні наконт уплыву электрамагнітных палёў на жывыя арганізмы патрабуюць далейшых тэарэтычных і эксперыментальных пацвярджэнняў, напрыклад, адкрыцця якіх-небудзь спецыяльных сістэм у арганізмах для ўспрыняцця інфармацыі пры дапамозе электрамагнітных палёў.

Неабходна мець на ўвазе, што ўплыў малых электрамагнітных палёў на жывы арганізм адбываецца на фоне ўздзеяння другіх, падчас больш магутных фактараў іншай прыроды, а значыць, вылучэнне «сігналу», звязанага з дзеяннем электрамагнітных палёў, з'яўляецца надзвычай цяжкой задачай. Статыстычная дакладнасць наяўнасці такога «сігналу» ў змяненні біялагічных сістэм і працэсаў яшчэ не гарантыя магчымасці выкарыстання ўстаноўленых сувязей у практыцы прагназавання паводзін біялагічных відаў, таму што электрамагнітнае поле як прэдыктар можа вызначаць толькі некалькі працэнтаў ад агульнай зменлівасці біялагічнага працэсу.

Такім чынам, праблема ўплыву «малых» сіл на біясферу і атмасферу заўсёды мела сваіх энтузіястаў, побач з якімі пастаянна крочылі скептыкі, якія лічылі, што гэтыя вынікі ёсць не што іншае, як «пасяховыя доследы па самаўнушэнні», «плён фантазіі гарачых галоў» і г. д.

Праблема набывае пэўную «рэспектабельнасць» толькі ў тым выпадку, калі будзе распрацаваны механізм уплыву гэтых «малых» сіл на біясферу і атмасферу.

*Вулканы і клімат.* Непрадказальнасць і раптоўнасць праяўлення стыхійных бедстваў забяспечваюць іх вялікую разбуральную моц. Статыстыка многіх прыродных катастроф вядома, але людзі працягваюць жыць па берагах рэк і мораў, паблізу вулканаў у сейсмічна небяспечных раёнах. У мінулым існавалі законы, якія забаранялі пад пагрозай смерці сяліцца на берагах рэк і мораў.

Вулканы вывяргаюцца там, дзе адбываецца сутыкненне, насоўванне, зрушэнне або гарызантальнае змяшчэнне тэктанічных пліт: паток распаленай магмы выходзіць на паверхню. Аднак не ўсе вулканы кліматычна небяспечныя. Нясуць пагрозу толькі тыя, якія выкідваюць аэразолі і газ у атмасферу, да таго ж у выкідах павінна быць шмат серы, каб у далейшым змаглі ўтварыцца дробныя кропелькі сернай кіслаты, якія могуць працяглы час (іншы раз ад года да трох гадоў) знаходзіцца ў стратасферы і зніжаць прыток сонечнай радыяцыі да Зямлі. У сувязі з гэтым вулканічныя вывяржэнні дэмпфіруюць пацяпленне, звязанае з павелічэннем парніковых газаў. Вулканічныя аэразолі, выкінутыя ў ніжнюю атмасферу (трапасферу), хутка асядаюць пад уздзеяннем гравітацыйных сіл або «вымываюцца» ападкамі.

Магутныя вулканічныя вывяржэнні мелі вялікія трагічныя вынікі не толькі для народаў, якія жывуць недалёка ад вулканаў, але і ў рэгіянальных і глабальных маштабах, што праявілася моцным пахаладаннем клімату і іншымі прыроднымі з'явамі.

У кнізе Л. І. Дэвіса «Прыродныя катастрофы» (1996 г.) апавядаецца пра вынікі вывяржэння многіх вялікіх вулканаў. Спынімся толькі на некаторых з іх.

Летам 1470 года да нашай эры ў Эгейскім моры (Грэцыя) адбылося вулканічнае вывяржэнне **Сантарын**, якое стала прычынай галоўных дагістарычных падзей, апісаных Платонам і пацверджаных Бібліяй: на працягу адной ночы знікла Атлантыда; Чырвонае мора расступілася; сыны Ізраілевы пайшлі з Егіпта, таму што над імі згусцілася цемра; знікла Мінойская культура.

Пасля гіганцкага выбуху ў 1470 годзе да нашай эры вулканічным попелам пакрылася плошча ў 200 тысяч квадратных кіламетраў. Выкіды аэразолі і газаў закрылі Сонца. Егіпет і ўсходняя частка Міжземнага мора аказаліся ў цемнаце, якая працягвалася некалькі дзён або нават тыдняў. Да вывяржэння вулкана на востраве знаходзілася цывілізацыя імперыі Атлантыда, якая была знішчана.

Гісторыя Атлантыды, імперыі на востраве, што затанула на працягу адных сутак, апісана Платонам. На думку Галанапоўласа, знікненне Атлантыды і вулканічнае вывяржэнне Сантарын супадаюць па часе.

Першая рэальная цывілізацыя на тэрыторыі Міжземнамор'я — Мінойская культура, якая развівалася на востраве Крыт і прылеглых да яго астравах, таксама знікла каля 1400 года да нашай эры. Можна меркаваць, што мінойская цывілізацыя не разбурана захопнікамі, а пахавана пад пластам пемзы. Вывяржэнне Сантарын было ў 120 кіламетрах на поўнач ад вострава Крыт. Гіганцкія цунамі разбурылі большую частку мінойскай цывілізацыі, а тыя, хто застаўся ў жывых, перасяліліся ў Грэцыю, дзе і заснавалі Мікенскую культуру.

Вывяржэнне Сантарын супадае па часе з біблейскім міфам аб «расступіўшыхся водах» Чырвонага мора, што дазволіла сынам Ізраілевым уцячы ад войскаў фараона, якія гналіся за імі. «Расступілася вада», — гэта мора адступіла за паўгадзіны да ўдару цунамі. У гэты час магчыма агаленне вялікай плошчы марскога дна недалёка ад берага.

Дата 1450 года да нашай эры называецца знаўцамі Бібліі як дата выхаду яўрэяў з Егіпта. Цемра, якая спускалася, была выклікана вулканічнай хмарай попелу, што закрыла Сонца на некалькі дзён. Падлічана, што поўная цемната трымалася 22 гадзіны на адлегласці 209 кіламетраў ад вулкана Кракатаў пасля яго вывяржэння ў 1883 годзе. Гэта дазваляе меркаваць, што цемра над Егіптам магла быць на працягу не менш чым трох дзён.

**Тамбора**, 5—12 красавіка 1815 года (Інданезія, востраў Сумбава). Па прыблізных падліках было выкінута каля 150 мільёнаў тон абломкаў. Вывяржэнне выклікала «год без лета». Амаль 49 тысяч жыхароў загінулі ў час гэтага выбуху. 4 ліпеня ў Еўропе людзі апраналі паліто, бялізна замярзала на вяроўках. У Францыі падводы з зернем на рынках ахоўваліся ад галадаючых гараджан.

Адбылася унікальная з'ява — узнік гіганцкі віхор, які змёў амаль усе хаты вёскі Сагар у 40 кіламетрах ад цэнтра вывяржэння. Утварыліся вялізныя цунамі каля 3,5—9 метраў вышынёй. Вада адхлынула ад вострава, абрынулася на суседнія астравы і ўтапіла сотні людзей. Цёмная аэразольная хмара закрыла Сонца ў радыусе 650 кіламетраў і выклікала трохсутачную ноч. Амаль метровы пласт пакрыў востраў Томбак у 160 кіламетрах ад Тамбора.

**Кракатаў**, 26—27 жніўня 1883 года (Інданезія). 200 тысяч чалавек загінулі ад агню расплаўленай лавы. Аэразоль дасягнула вышыні сярэдняй стратасферы — 27 кіламетраў, а па іншых ацэнках, мезасферы — 80 кіламетраў. Узніклыя ўдарныя хвалі сем разоў абышлі вакол Зямлі. Вывяржэнне было бачна з адлегласці больш за 65 кіламетраў. 27 жніўня раніцай ад Кракатаў распаўсюдзілася некалькі вялікіх прыліўных хваль, якія выклікалі разбурэнне паўночнай часткі вострава. Гук выбуху быў зарэгістраваны на востраве Радрыгіс у Індыйскім акіяне. Апраметная цемра ўтварылася ў радыусе больш за 400 кіламетраў. На адлегласці 200 кіламетраў цемната працягвалася 22 гадзіны, на адлегласці 80 кіламетраў — 57 гадзін.

Сейсмічная прыліўная хваля ўзнікла праз паўгадзіны пасля вывяржэння. Загінула больш чым 36 тысяч чалавек (паводле іншых даных — 80 тысяч чалавек). Нямецкі ваенны карабель у раёне вострава Суматра быў падхоплены цунамі і закінуты ўглыб вострава на тры кіламетры на вышыню 9 метраў над узроўнем мора.

Дзве трэці вострава Кракатаў зніклі, утварылася вялікая ўпадзіна на дне мора глыбінёй 270 метраў. Узніклі дзіўныя аптычныя з'явы: сонца здавалася сінім, а месяц — ярка зялёным.

**Пінатуба**, 10 — 15 чэрвеня 1991 года (Філіпіны). Вулкан Пінатуба мае вышыню 1219 метраў. 12 чэрвеня вулкан выбухнуў, выкінуўшы шэра-зялёнае грыбападобнае воблака. Патокі газу, цяпла і расплаўленых горных парод хлынулі па схілах са скорасцю да 100 кіламетраў у гадзіну. Хмара і попел, які выпадаў з яе,

дасягнулі Сінгапура (2400 кіламетраў). Вулкан выкідваў попел 12 чэрвеня на вышыню 24 300 метраў, а 14 чэрвеня яшчэ восем вывяржэнняў выкінулі попел і пару на вышыню 49 кіламетраў. Тайфун, які ўзнік 14 чэрвеня, затапіў мясцовасць. Гразевыя патокі і паводкі змывалі дамы. Загінула 200 чалавек, 100 тысяч чалавек засталіся без прытулку, ураджай рысу аказаўся пад пластам попелу. У правінцыі Замбалес усё было пакрыта 90-сантыметровым слоем попелу і вулканічных абломкаў.

Пытанні ацэнкі ўплыву аэразолей вулканічнага і антрапагеннага паходжання на клімат і механізмаў іх уплыву на клімат больш распрацаваныя ў параўнанні з пытаннямі, звязанымі з уздзеяннем сонечнай актыўнасці. Разгледзім кліматычныя вынікі вулканічных вывяржэнняў.

Параўнаўчая ацэнка зніжэння прамой сонечнай радыяцыі пасля вывяржэння вулканаў, праведзеная на станцыях Садружнасці Незалежных Дзяржаў, сведчыць, што яна вагаецца ад 2—4 працэнтаў (вулканы Фуэга, Суфрыер, Сент-Хэленс, Адэлаід, Агунг) да 10—25 працэнтаў (вулканы Манпелье, Катмай, Кракатаў, Эль-Чычон, Пінатуба). У высокіх шыротах зімой пасля вывяржэння вулкана Эль-Чычон адмоўныя анамаліі прамой радыяцыі дасягалі 26,5 працэнта. Апошняе вывяржэнне вулкана Пінатуба прывяло да зніжэння прамой радыяцыі больш чым на 25 працэнтаў. Зніжэнне значэнняў сумарнай сонечнай радыяцыі пасля такіх вялікіх вулканічных вывяржэнняў, як Эль-Чычон і Пінатуба, склала 4,5—5 працэнтаў.

Эфектыўнасць уплыву вулканічнай аэразолі на клімат вызначаецца шыратой вулканічнага вывяржэння, цыркуляцыяй атмасферы, а самае галоўнае — тыпам і магутнасцю вулканічнага вывяржэння.

Сярэднія па магутнасці вулканы, якія выкідваюць у атмасферу шмат сярністай аэразолі, забяспечвалі ў першыя адзін-два гады пасля вывяржэння зніжэнне глабальнай тэмпературы на 0,05—0,2 °С у залежнасці ад месяца года. Калі браць у разлік толькі самыя вялікія вулканічныя вывяржэнні, то змяншэнне тэмпературы складзе ў сярэднім 0,2 — 0,3 °С. Зімой тэмпература пасля вулканічных вывяржэнняў узрастае. Гэта адзін з вядомых «парадоксаў» сувязі «вулканы — клімат». Адзначаюцца таксама значныя прасторавыя асаблівасці праяўлення вулканічнага «сігналу» ў змяненні клімату. Так, у субтрапічных шыротах назіраецца павышэнне ціску, а ў высокіх шыротах зімой і вясной ціск пасля вулканічных вывяржэнняў зніжаецца. Летам пасля вулканічных вывяржэнняў над акіянамі адбываецца зніжэнне ціску, а над мацерыкамі — павышэнне, што паслабляе мусонную цыркуляцыю. Вясной інтэнсіўнасць Атлантычнага мінімуму і Азорскага максімуму павышаецца, што інтэнсіфікуе заходнюю цыркуляцыю і, як вынік, рост тэмпературы. Пасля вялікіх вулканічных вывяржэнняў у Заходняй Еўропе адбываецца павелічэнне колькасці ападкаў зімой, што пацвярджае вывад аб узмацненні занальнай цыркуляцыі пасля вывяржэнняў вулканаў.

У Беларусі таксама пасля вялікіх вулканічных вывяржэнняў назіраецца зніжэнне тэмпературы ў цёплы час года і рост тэмпературы (асабліва на поўначы Беларусі) зімой.

Эксперыментальныя даныя па ацэнцы змяненняў клімату беларускіх гарадоў за кошт цеплавых выкідаў, парніковых газаў і аэразолей сведчаць, што сярэдняя інтэнсіўнасць вострава цяпла ў зімовыя месяцы меншая, чым у летнія. Большае выдзяленне антрапагеннага цяпла зімой прыводзіць да павелічэння максімальнай інтэнсіўнасці, якая можа дасягаць летніх значэнняў і нават пераўзыходзіць іх.

Тэмпература зніжаецца ў цёплы час года за кошт змяншэння прытоку радыяцыі, выкліканага павышэннем утрымання аэразолі ў вялікіх гарадах. Ноччу тэмпература ў горадзе вышэй, чым у сельскай мясцовасці, прылеглай да яго.

Амплітуда сутачнага ходу тэмпературы ў вялікіх гарадах у параўнанні з сельскай мясцовасцю і малымі гарадамі змяншаецца, гэта значыць антрапаген-

ная дзейнасць «зразае» яе ў вялікіх гарадах. Найбольш актыўна гэты працэс праяўляецца ў цёплы час года і асабліва летам.

Аналагам па ступені ўплыву на клімат можа служыць шырокамаштабная ядзерная вайна. Пры абмене ядзернымі ўдарамі ўзнікнуць пажары, якія прывядуць да выкідаў вялікай колькасці сажавых аэразолей памерам ад 0,1 да 1 мікраметра. Яны моцна паглынаюць караткахвалевую радыяцыю і з'яўляюцца амаль празрыстымі для даўгахвалевага выпраменьвання. Гэта прывядзе да таго, што зямная паверхня і ніжні слой атмасферы будуць ахаладжацца, а верхняя трапасфера і ніжняя стратасфера, дзе ў асноўным размесцяцца сажавыя аэразолі, — награвацца. Калі прыняць сцэнарый ядзернай вайны, пры якой магутнасць ядзернага ўдару будзе складаць 6500 мегатон (прыблізна палова запасаў ядзернай зброі), то гэта прывядзе да паражэння каля тысячы гарадоў, нафтасховішчаў і нафтавых промыслаў, а таксама да лясных пажараў плошчай каля аднаго мільёна квадратных кіламетраў. Па розных ацэнках, у атмасферу будзе выкінута ад 180 да 2000 мільёнаў тон аэразолей, што на 20—30 працэнтаў больш у параўнанні з сумарным выкідам вулкана Тамбора (1815 г.) і ў 5—7 разоў перавысіць выкід аэразолей вулканічнымі вывяржэннямі тыпу Агунг (1963 г.), Эль-Чычон (1982 г.), Пінатуба (1991 г.), кожнае з якіх прывяло да зніжэння глабальнай тэмпературы ў цёплы час года на велічыню каля 0,2—0,3 °С. Лічыцца, што ў час ядзернай вайны ад 5 да 10 працэнтаў часціц дыму і аэразолей будзе выкінута ў стратасферу, дзе яны могуць знаходзіцца некалькі месяцаў ці нават больш, таму што вулканічныя аэразолі могуць там захоўвацца ад аднаго да трох гадоў, пераносіцца на вялікія адлегласці і ўтвараць вялізную вулканічную хмару, якая можа распаўсюджвацца па ўсім зямным шары.

Мадэльныя ацэнкі кліматычных вынікаў ядзернай вайны сведчаць аб моцным ахаладжэнні паветра ля паверхні Зямлі і ў ніжніх слаях трапасферы, а таксама аб інтэнсіўным нагрэве верхняй трапасферы і ніжняй стратасферы. Найбольшае зніжэнне тэмпературы назіраецца паміж 14-м і 35-м днямі пасля ядзернага ўдару, гэта залежыць ад прынятых дапушчэнняў аб празрыстасці атмасферы. Больш складаныя трохмерныя мадэлі агульнай цыркуляцыі атмасферы паказваюць зніжэнне тэмпературы на 40 °К на мацерыках і 10 °К над акіянамі на чацвёрты дзень пасля ядзернага ўдару. Трэба адзначыць, што мадэльныя ацэнкі зніжэння тэмпературы, разлічаныя для розных умоў празрыстасці атмасферы пасля ядзернай вайны, могуць адрознівацца, але ўсе яны сведчаць аб магчымасці ўсталявання «ядзернай» зімы на Зямлі пры выкарыстанні толькі паловы назапашанай ядзернай зброі. Вынікі «ядзернай» зімы носяць катастрафічны характар для ўсяго чалавецтва.

*Парніковыя газы — адна з прычын змянення клімату.* Вучоныя ў большасці сваёй згодныя, што важнай прычынай змянення клімату, якое назіраецца і чакаецца ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі, з'яўляецца непастаяннасць саставу атмасферы.

Вуглякіслы газ, метан, вадзяная пара, закіс азоту, фрэоны, трапасферны азон — усё гэта парніковыя газы, якія свабодна прапускаюць да паверхні Зямлі сонечнае выпраменьванне і заўважна паглынаюць цеплавое выпраменьванне планеты і самой атмасферы. Дзякуючы парніковаму эфекту сярэдняя тэмпература зямной паверхні на 32 градусы вышэй, чым магла быць пры яго адсутнасці.

З канца XVII стагоддзя спачатку марудна, потым з паскарэннем стала расці канцэнтрацыя метану ў паветры. За трыста гадоў колькасць метану ў атмасферы ўзрасла больш чым на 150 працэнтаў.

Вуглякіслы газ пачаў інтэнсіўна паступаць у атмасферу з канца XVIII стагоддзя. Першай прычынай была высечка лясоў, якія паглынаюць яго ў працэсе фотасінтэзу. Потым усё большую ролю стала адыгрываць выкідванне вуглякіслага газу ў атмасферу ў выніку спальвання выкапнёвага паліва — вугалю, нафты і газу. Гэта і ёсць асноўная крыніца павышэння канцэнтрацыі вуглекіслаты ў ат-

масферы, якое склала за мінулыя дзвесце гадоў больш за 30 працэнтаў. Вуглякіслы газ забяспечвае каля 65 працэнтаў парніковага эфекту.

Колькасць закісу азоту ў атмасферы за мінулае стагоддзе ўзрасла прыкладна на 17 працэнтаў, што тлумачыцца інтэнсіўным выкарыстаннем азотных удабрэнняў, а таксама спальваннем выкапнёвага паліва, якое, акрамя таго, служыць і крыніцай вялікай колькасці вокіслаў серы. Вокіслы азоту і серы, уступаючы ў рэакцыю з вадзяной парай, утвараюць азотную і серную кіслоты. Адсюль кіслотныя дажджы, якія прыгнятаюць і губяць лясы, планктон і рыбу ў вадаёмах.

Вялікую небяспеку ўяўляюць і фрэоны. Гэтыя спалучэнні фтору і хлору з вугляродам выкарыстоўваюцца ў халадзільнай прамысловасці і ў аэразольных упакоўках. Фрэоны вельмі марудна разбураюцца ў прыродных умовах, што і прыводзіць да іх хуткага накаплення ў атмасферы.

Згодна з многімі ацэнкамі, пры падваенні ўтрымання вуглякіслага газу ў атмасферы сярэдняя тэмпература зямной паверхні павінна павысіцца ад 1,5 да амаль што 6 градусаў. Вялікі роскід у прадказаннях звязаны з недастатковымі ведамі працэсаў фарміравання клімату і недакладнасцю сцэнарыяў змянення колькасці парніковых газаў.

*Што адбываецца з кліматам?* Клімат змяняецца на працягу ўсёй гісторыі Зямлі, але ў апошнія дзесяцігоддзі істотна памянялася хуткасць гэтага змянення, якая дасягае 0,1—0,15 °C за дзесяцігоддзе. Устаноўлена, што за апошняе стагоддзе сярэднегадавая тэмпература зямнога шара ўзрасла на 0,6 °C. Рост сярэднегадавой тэмпературы ў Беларусі яшчэ вышэйшы — 1 °C. Варта задаць пытанне, а многа гэта ці мала? У геалагічных маштабах часу — нямнога: у гісторыі Зямлі назіраліся выпадкі, калі тэмпература была на дзесятак градусаў вышэй або ніжэй, чым цяпер. Калі ўзяць апошняе тысячагоддзе, то сучасная станоўчая флюктуацыя глабальнай тэмпературы не перавышае 1 °C, хоць і з'яўляецца самай магутнай за гэты перыяд. Больш важны аспект сучасных кліматычных змяненняў — рост флюктуіраванасці клімату. У апошнія два дзесяцігоддзі ў розных месцах зямнога шара назіраліся вялікія кліматычныя анамаліі, паўтаральнасць якіх моцна ўзрасла. Сярод іх былі засухі і паводкі, халодныя і цёплыя зімы, незвычайна працяглыя дажджы, тарнада, ураганныя ветры, якія ў многіх выпадках катастрафічна паўплывалі на эканоміку і сацыяльнае жыццё многіх краін свету. Дастаткова назваць паводку ў Еўропе ў 2003 годзе.

Некаторыя з вышэй згаданых кліматычных з'яў адзначаліся і на тэрыторыі Беларусі, дзе ў пасляваенны час узрасла колькасць засушлівых з'яў. Найбольш інтэнсіўныя і працяглыя засухі ў Беларусі за апошнія пятнаццаць гадоў зарэгістраваны ў 1990, 1992, 1994—1996, 1999, 2002 гадах, гэта значыць амаль у палове разгледжаных гадоў. Асабліва часта засушлівыя перыяды назіраліся ў ліпені — жніўні. Засухі ў 1992 і 2002 гадах вызначаліся больш значнай маштабнасцю, чым звычайна.

У перыяд актыўнай меліярацыі на поўдні Беларусі ўзрасла колькасць замаразкаў. Калі да меліярацыі на поўначы Беларусі іх было ў 2,2 раза больш, чым на поўдні, то ў перыяд меліярацыі іх колькасць стала прыблізна аднолькавай. Гэта хутчэй за ўсё звязана са змяненнем фізіка-хімічных уласцівасцей глеб і падсцілачнай паверхні ў выніку меліярацыі асушаных тарфянікаў. Як вядома, на мінеральных глебах колькасць замаразкаў істотна меншая.

Акрамя таго, меліярацыя паўднёвых раёнаў Беларусі прывяла да росту тэмпературы паветра (асабліва ў другой палове лета) на велічыню каля некалькіх дзесятых градуса.

*Чаго яшчэ трэба чакаць?* У апошнія гады сродкі масавай інфармацыі, спасылаючыся на рознага роду даклады, падрыхтаваныя падчас непрафесіяналамі, прагназуюць апакаліпсіс, звязваючы яго як з пацяпленнем, так і з пахаладаннем клімату. Узровень навуковай няпэўнасці ў адносінах да ўплыву прыродных і ант-

рапагенных фактараў спараджае супрацьлеглыя сцэнарыі змянення клімату. Падзяляючы думку большасці прафесіянальных вучоных (хоць навука — гэта не тая галіна, дзе пытанне можна вырашыць колькасцю галасоў) і ўзяўшы за аснову мадэльныя разлікі і эксперыментальныя даныя, з вялікай верагоднасцю можна гаварыць аб будучым пацяпленні, а не пахаладанні клімату. Аднак у геалагічных маштабах часу за кошт змянення арбітальных параметраў Зямлі ўсё ж развіваецца пахаладанне клімату, але яго скорасць, як мінімум, на два парадкі ніжэй, чым скорасць сучаснага пацяплення (каля 0,1 °С за дзесяцігоддзе).

Правільна і тое, што калі тэмпература на планеце будзе павялічвацца, то растануць шматгадовыя льды і цёплыя воды Гальфстрыма будуць выцясняцца з паверхні на глыбіню больш лёгкімі апрэсненымі водамі. У выніку пахаладае ў Еўропе, але гэта надзвычай марудны працэс і апакаліпсіс, звязаны з «абледзяненнем» Еўропы, у бліжэйшыя дзесяцігоддзі малаверагодны. Для таго каб ён наступіў, падзенне тэмпературы павінна скласці каля 3—5 °С, што прывядзе да скарачэння вегетацыйнага перыяду на два-тры месяцы і стане катастрофай для раслiннасці ў многіх раёнах.

Больш рэальны сцэнарый — глабальнае пацяпленне да канца стагоддзя на 2—3 °С. Павелічэнне сярэднегадавой тэмпературы на 1 °С адпавядае змяшчэнню кліматычных зон на 150—200 кіламетраў. Гэтага будзе дастаткова, каб у некаторых рэгіёнах паміж краінамі абвастрылася канкурэнцыя за рэсурсы, харчовыя прадукты і прэсную ваду.

Пацяпленне можа стаць яшчэ адной прычынай міждзяржаўных канфліктаў апрача цяпер існуючых рэлігійных, нацыянальных, ідэалагічных. Націску падвергнуцца краіны, якія валодаюць вялікімі сыравіннымі рэсурсамі (нафта, газ, вугаль, вада, лес). Жаданне многіх краін, у першую чаргу ЗША, валодаць глабальнай інфармацыяй аб сельскагаспадарчай вытворчасці, клімаце, лясных і водных рэсурсах цалкам зразумелае ў эпоху наступлення вычарпання прыродных рэсурсаў. Менавіта своечасовая інфармацыя і можа стаць адным з рычагоў кіравання рэсурсамі ў межах зямнога шара.

Ужо цяпер зразумела, што скарачэнне выкідаў парніковых газаў або нават іх стабілізацыя на нізкім узроўні наўрад ці магчымыя, таму што такія краіны-гіганты, як ЗША, Кітай, Індыя, Бразілія, Інданезія, будуць павялічваць іх выкіды ў атмасферу. Нават многія еўрапейскія краіны не выконваюць умоў Кіёцкага пратакола. Выходзіць, прадухіленне змяненняў клімату пры дапамозе мер, указаных у гэтым пратаколе, малаверагоднае. А калі так, то ўсе сілы патрэбна кінуць на адаптацыю розных галін гаспадарчай дзейнасці да зменлівага клімату. І пачынаць гэта трэба цяпер.

Чалавецтва, мабыць, яшчэ не поўнасцю ўсвядоміла катастрафічнасць экалагічнай сітуацыі. Наша мысленне працягвае дасюль заставацца далёкім ад наасфернага, а збалансаванае, каэвалюцыйнае развіццё прыроды і грамадства пакуль мала выразнае. У выніку ўсталяваных стэрэатыпаў мыслення ў бліжэйшыя дзесяць — дваццаць гадоў чалавецтва стаць на ўстойлівы шлях развіцця наўрад ці зможа, а большым часам для такой сапраўды рэвалюцыйнай трансфармацыі яно не валодае.

## Вынікі змянення клімату

У розныя гістарычныя эпохі па-рознаму трактавалася роля гістарычнага асяроддзя і, у прыватнасці, клімату ў развіцці грамадства. У асобных выпадках вядучая роля клімату выкарыстоўвалася як апраўданне памкненняў захопнікаў і расізму, падтасоўкі гістарычных фактаў. Так, Ханцінгтон у падручніку «Асновы геаграфіі чалавека» даводзіць: «Жыхары цыкланічных раёнаў... кіруюць светам». У прадмове да кнігі «Кліматы СССР» прафесар Чыкагскага універсітэта

Харыс піша: «Руская генерал-зіма дапамагла рускім перамагчы арміі Напалеона і Гітлера». Маркхем і Ханцінгтон праз асаблівасці клімату імкнуліся вытлумачыць агрэсіўнасць японскага мілітарызму і зменшыць ролю СССР у разгроме фашызму ў Другой сусветнай вайне.

У апошнія гады пытанні ўплыву клімату на гаспадарчую дзейнасць і наадварот гаспадарчай дзейнасці на клімат набылі фундаментальнае значэнне для навукі і практыкі, таму што для планавання вядзення гаспадаркі і кіравання ёю разам з прымяненнем законаў і эканамічнай інфармацыі патрабуюцца поўнае засваенне ведаў аб кліматце, яго змяненнях, а таксама карэктнае выкарыстанне гэтых ведаў на практыцы.

З прычыны няпоўнага ўліку кліматычнай інфармацыі сельская гаспадарка, энергетыка і будаўніцтва нясуць вялікія страты. Пры распрацоўцы абгрунтаваных мер абароны, стварэнні сельскагаспадарчых і энергетычных рэзерваў таксама неабходны ўлік кліматалогіі стыхійных з'яў. Ва ўмовах зменлівага клімату асабліва важнай з'яўляецца распрацоўка адпаведнай стратэгіі рэагавання прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці на гэтыя змяненні.

*Кліматычныя складальнікі харчовай бяспекі.* Згодна з апытаннем 500 вучоных з 54 краін свету, найбольш актуальнымі экалагічнымі праблемамі з'яўляюцца змяненні клімату (51 працэнт апытаных), недастатковая колькасць вод і іх забруджанне (29 працэнтаў), знікненне лясоў і апустыньванне (28 працэнтаў). Такія глабальныя праблемы сучаснасці, як скарачэнне біяразнастайнасці, знішчэнне адходаў, забруджанне паветра, і іншыя атрымалі адпаведна 15—23 працэнты галасоў апытаных. Да актуальных сацыяльных праблем 27 працэнтаў апытаных адносяць дрэннае кіраванне прыродакарыстаннем, а 11—12 працэнтаў — змяненне колькасці насельніцтва і яго арганізацыю.

Большасць названых праблем маюць прамыя адносіны і да нашай краіны. Спынімся толькі на адной з гэтых праблем, якая цесна звязана з другой, яшчэ больш важнай праблемай — праблемай харчовай бяспекі. Сёння ў свеце недаядаюць да 1,5 мільярда чалавек (штодзённы рацыён 1000 — 1800 кілакалорый). Зона, у якой недаядае адна трэць насельніцтва, распасціраецца шырокай паласой па абодва бакі экватара, ахопліваючы частку Лацінскай Амерыкі, амаль усю Афрыку і Бліжні Усход (за выключэннем багатых на нафту дзяржаў) і многія краіны Паўднёвай і Паўднёва-Усходняй Азіі. Недастатковае па каларыйнасці харчаванне спалучаецца на гэтых тэрыторыях з недахопам прадуктаў жывёльнага паходжання, а значыць неабходных амінакіслот. Прамыслова развітыя краіны вырабляюць і спажываюць звыш дзвюх трацей сусветных прадуктаў харчавання ў вартасным выражэнні, хоць у іх пражывае каля 15 працэнтаў насельніцтва Зямлі. У гэтых краінах спажываецца звыш 50 працэнтаў бялкоў жывёльнага паходжання з агульнай сутачнай колькасці бялкоў. У бедных краінах гэтыя паказчыкі прыкладна ў два разы меншыя. Лічыцца, што голад спараджаецца не столькі дэфіцытам прадуктаў харчавання, колькі адсутнасцю сродкаў для іх набыцця. Гэта тыповая з'ява для тэрыторый і груп насельніцтва, цесна звязаных з сельскай гаспадаркай.

Сусветны збор збожжа складае каля 1,9 мільярда тон. Значыць, на душу насельніцтва прыпадае каля 315 кілаграмаў, тады як дваццаць гадоў назад было каля 350 кілаграмаў. За 50 гадоў амаль у два разы зменшыўся памер ворнай зямлі на кожнага чалавека — цяпер ён складае каля 0,1 гектара. Плошча арашальных зямель таксама скарацілася.

У другой палове XX стагоддзя зборы збожжа ў свеце апярэджвалі па тэмпах павелічэння колькасць насельніцтва планеты: адпаведныя паказчыкі ў 1950-х гадах былі роўнымі 34 і 19 працэнтам, у 1960-х — 20 і 22 працэнтам, у 1970-х — 31 і 22 працэнтам. У апошнія дзесяцігоддзі сітуацыя пагоршылася: у 1980-х гадах — 17 і 21 працэнт, а ў 1990-х гадах становішча стала яшчэ больш праблемным. Цяпер

колькасць лішкаў збожжа на сусветным рынку не больш некалькіх працэнтаў. У параўнанні з 1960—1970 гадамі збор збожжа заўважна меншы.

Прагнозы пракарміць 20—35 мільярдаў чалавек не вытрымліваюць крытыкі не толькі з экалагічнага, але і з эканамічнага пункту гледжання: свабоднай прасторы для сельскагаспадарчай вытворчасці ўжо амаль не засталося, а дэградацыя (апустыньванне) зямель прыводзіць да таго, што на аднаго чалавека прыпадае ўсё менш і менш урабленай зямлі.

На міжнароднай канферэнцыі па народанасельніцтву і развіццю (Каір, 1994 г.) адзначалася, што для падтрымання ўзроўню «багатых» краін неабходна выкарыстоўваць каля 30 мільярдаў гектараў зямель, тады як плошча сушы складае 113 мільярдаў гектараў, з якіх толькі 8,8 мільярда прыдатныя для сельскай гаспадаркі ці занятыя лясамі. Акрамя таго, трэба мець на ўвазе, што сельскагаспадарчая вытворчасць на ўзроўні развітых краін прывядзе да энергетычных затрат, роўных прыблізна 2250 мільёнаў тон у нафтавым эквіваленце, якія немагчыма забяспечыць за кошт спальвання здабытай нафты і газакандэнсату.

Развітыя краіны экспартуюць дзве трэці харчовых тавараў. Спажыванне прадуктаў харчавання тут складае 3300—3400 кілакалорый на душу ў суткі, а ў краінах Сахельскай зоны — толькі каля 2000 кілакалорый. Паколькі калорыі, якія даюць сельскагаспадарчыя культуры і прадукты жывёлагадоўлі, маюць розную каштоўнасць, то француз, скажам, спажывае 11 тысяч кілакалорый у раслінным эквіваленце, у той жа час як у краінах, якія развіваюцца, чалавек спажывае ў пяць разоў менш.

Асноўнымі экспарцёрамі прадуктаў харчавання з'яўляюцца ЗША, Канада, Аўстралія, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка і некаторыя дзяржавы Еўрапейскага Саюза (Англія, Фінляндыя і інш.). Асабліва праблемнымі краінамі ў забеспячэнні ўласных патрэб прадуктамі харчавання з'яўляюцца краіны Сахельскай зоны, Егіпет, Інданезія, Філіпіны, Бангладэш, Гаіці і Сальвадор. У некаторых з гэтых краін рост насельніцтва абганяе рэсурсныя магчымасці, іншым патрабуюцца дадатковыя землі. Ёсць краіны, якія адчуваюць дэфіцыт прадуктаў харчавання, але здольныя іх купіць (Японія, дзяржавы Арганізацыі краін — экспарцёраў нафты). У гэтай сітуацыі перамагчы беднасць можна толькі ў тым выпадку, калі краіны «залатога мільярда» ўсвядомяць, што бедны свет — гэта міна запаволенага дзеяння, закладзеная пад іх дабрабыт. Першыя крокі ў гэтым напрамку зроблены: у 2005 годзе развітыя краіны, уключаючы Расію, даравалі доўг шэрагу краін, якія развіваюцца.

З праблемай харчавання цесна звязана і дэмаграфічная сітуацыя. Па словах Мальтуса, калі працэс не абмежаваць, то колькасць насельніцтва будзе павялічвацца ў геаметрычнай прагрэсіі, а сродкі для існавання толькі ў арыфметычнай. У кнізе «Досвед аб законе народанасельніцтва», апублікаванай у 1798 годзе, ён паставіў пытанні аб праблемах росту чалавецтва і аб устанаўленні дынамічнай раўнавагі паміж колькасцю чалавецтва і вытворчасцю сродкаў на пражыццё. У якасці рэгулятараў колькасці насельніцтва Мальтус называў войны, голад, эпідэміі, а не абмежаванні нараджальнасці і планаванне сям'і. Калі ў Кітаі ў канцы 1960-х гадоў дэмаграфічны рост складаў 2,8 працэнта, то да сярэдзіны 1990-х гадоў ён упаў да 1,1 працэнта. У Індыі гэтыя паказчыкі адпаведна складаюць 2,3 і 1,8 працэнта. Падобнае сведчыць аб малой эфектыўнасці ў гэтай краіне палітыкі рэгулявання колькасці сем'яў. Мальтус лічыў, што дэмаграфічны рост адбываецца тады, калі ўзровень даходаў шырокіх мас пачынае перавышаць мяжу беднасці.

*Роля клімату ў гісторыі.* Вызначэнне ролі клімату ў гісторыі чалавецтва дазваляе падысці да прагнозу палітычных, эканамічных і сацыяльных вынікаў магчымых змяненняў клімату, хоць далёка не заўсёды роля кліматычных складальнікаў у змяненні грамадства можа быць вызначана і правільна вытлумачана.

Апошняя акалічнасць дае шырокае поле для рознага роду спекуляцый пры інтэрпрэтацыі сувязей клімату і грамадства.

Можна ўявіць, што суровыя кліматычныя ўмовы жыцця паскорылі працэс эвалюцыі і прыстасавання чалавека. Зменлівыя кліматычныя ўмовы (наступленні пустыні) прымусілі чалавека пакінуць некалі ўрадлівыя і добра ўвільготненыя рэгіёны Паўночнай Афрыкі. Продкі сучасных еўрапейскіх народаў, персаў і індусаў пакінулі сваю радзіму — горы Сярэдняй Азіі або Каўказа і рассяліліся на тэрыторыі з больш мяккім кліматам. Ёсць даныя, што працяглыя і частыя паводкі і засухі выклікалі голад і масавую міграцыю людзей.

Кліматычны дэтэрмінізм Ханцінгтона і Семпле прадвызначаў клімат як галоўны кампанент развіцця культуры, здароўя і гісторыі чалавецтва. Было дэталізавана некалькі выпадкаў, калі клімат яўна з'яўляўся галоўным фактарам лакалізацыі і развіцця чалавечай цывілізацыі. Адыход рымлян з Паўночнай Афрыкі Ханцінгтон звязвае з узмацненнем засушлівасці ў гэтых раёнах. Нашэсце манголаў на Русь Ханцінгтон таксама звязвае з кліматычнымі ўмовамі ў гэты гістарычны перыяд. Знікненне пасяленняў вікінгаў у Грэнландыі ў час малога ледавіковага перыяду (XVII—XVIII стагоддзі) тлумачыцца пагаршэннем кліматычных умоў.

У гады вялікіх кліматычных анамалій, якія прыводзілі да голаду, свет падвяргаўся істотным палітычным хваляванням. Так, недабор збожжа і голад былі адным з фактараў, які аказаў уплыў на французскую рэвалюцыю (1789 г.), еўрапейскую рэвалюцыю (1848 г.) і рэвалюцыю ў Эфіопіі (1972 г.).

Засухі ў Сахельскай зоне Афрыкі з канца 60-х гадоў мінулага стагоддзя закранулі вялікую тэрыторыю (5,2 мільёна квадратных кіламетраў) з насельніцтвам каля 60 мільёнаў чалавек і выклікалі страшны голад. Паводкі ў даліне Ганга прынеслі бедствы народам Індыі, Бангладэш і іншых краін. Засуха 1976 года ў Заходняй Еўропе, засухі 1970-х і пачатку 1980-х гадоў у СССР і некаторых іншых краінах свету істотна адбіліся не толькі на ўраджаі ў гэтых краінах, але і на сусветных запасах збожжа і прадуктаў харчавання.

Значныя кліматычныя анамаліі ў Паўночнай Амерыцы (дзве суровыя зімы 1978/79 і 1980/81 гг., засухі 1977 і 1980 г. і інш.) істотна паўплывалі ў гэтыя гады на эканоміку ЗША.

З моцнымі засухамі, якія суправаджаліся масавым голадам, звязваюць пераломныя падзеі ў гісторыі Мексікі, паўстанне пад камандаваннем Ідальга ў 1810 годзе і грамадзянскую вайну 1830 года. Рэвалюцыя 1789 года ў Францыі і лютаўская рэвалюцыя 1917 года ў Расіі адбыліся ў сталіцах, жыхары якіх пакутавалі ад росту цэн і недахопу прадуктаў харчавання.

Галодныя бунты ў Аргенціне ў пачатку 1989 года і ў 2001—2002 гадах прывялі да таго, што ўрад устанавіў цэны на галоўныя харчовыя тавары і прыняў іншыя меры. Здаралася так, што нечаканыя змяненні надвор'я вырашалі зыход вайны. Раптоўная бура загубіла «вялікую армаду» Іспаніі ў англа-іспанскай вайне. Адзін з паходаў цара Івана IV на Казань у 1548 годзе быў няўдачным з прычыны цёплай і маласнежнай зімы. Абоз і людзі праваліліся пад лёд пры пераправе праз Волгу каля Ніжняга Ноўгарада. Надвор'е дапамагло Расіі ў Крымскай вайне 1854—1856 гадоў. 14 лістапада 1854 года над Крымам у Балаклаўскай бухце пранеслася бура страшэннай сілы. Вецер абрынуўся на караблі англійскай і французскай эскадры і патапіў іх. Цар Мікалай I пісаў князю Меншыкаву: «Дзякуй буры! Яна нам добра дагадзіла...».

У час грамадзянскай вайны (1920 г.) войскі пад камандаваннем М. В. Фрунзе перайшлі заліў Сіваш, скарыстаўшы вецер, які сагнаў амаль усю ваду з заліва, і нечакана з'явіліся ў тыле белагвардзейцаў Урангеля. Гэта паскорыла вызваленне Крымскага паўвострава.

Зразумела, што далёка не ўсе змяненні ў палітыцы, культуры, ва ўзроўні цывілізацыі і ў навакольным асяроддзі напрамую звязаны з кліматам, і невыпад-

кова кліматычны дэтэрмінізм сустракаў крытыку ў айчынных і замежных вучоных. І ўсё ж такі трэба аддаць належнае вучоным, якія звярнулі ўвагу на важную ролю клімату ў развіцці чалавечага грамадства.

Нават навейшая тэхніка і самая дасканалая арганізацыя вытворчасці не ў стане засцерагчы эканоміку свету ад вялікіх страт, абумоўленых кліматычнымі экстрэмальнымі з'явамі. Вядома, што залежнасць многіх галін эканомікі ад кліматычных умоў у абсалютным выражэнні не падае, а расце разам з ростам вытворчасці. Гэта тлумачыцца павелічэннем маштабаў гаспадарчай дзейнасці і колькасці аб'ектаў і вытворчых цыклаў, якія залежаць ад кліматычных уздзеянняў, а таксама большай залежнасцю ад кліматычных умоў сучасных высокапрадукцыйных сартоў злакавых, чым сартоў-абарыгенаў. Можна смела сказаць, што доўгатэрміновае планаванне і кіраванне гаспадарчай дзейнасцю патрабуюць больш шырокага і глабальнага выкарыстання ведаў аб клімаце і яго змяненнях, а таксама ўдасканалення метадаў прагназавання надвор'я на доўгія тэрміны.

*Экалагічная бяспека Беларусі.* Адна з пагроз экалагічнай бяспецы Беларусі звязана са змяненнем клімату. Сярэднегадавая тэмпература за апошнія 120 гадоў павысілася на 1 °С. Змяненні клімату аказваюць вялікі ўплыў на сельскую, лясную і водную гаспадарку краіны, будаўніцтва, транспарт, здароўе насельніцтва і г. д., спрыяюць павелічэнню колькасці шкоднікаў сельскай і лясной гаспадаркі.

Страты ўраджайнасці ад пагодных і кліматычных умоў у асобныя гады, калі параўноўваць з сярэдняй ураджайнасцю ў межах абласцей, могуць дасягаць 45—50 працэнтаў для яравога ячменю і 35—40 працэнтаў для азімага жыта. Змяненне ўраджайнасці збожжавых культур, выклікана пагаршэннем кліматычных умоў, адбылося ў канцы 1970-х гадоў. І гэта адбылося незалежна ад росту агратэхнікі ў тыя гады. Кліматычныя ўмовы з 1984 да 1992 гадоў на фоне высокага ўзроўню агратэхнікі спрыялі росту ўраджайнасці. Збор азімага жыта і яравога ячменю ў большасці абласцей перавышаў 30 цэнтнераў з гектара. Пасля 1992 года адзначана паўторнае зніжэнне ўраджайнасці, выклікана не столькі пагаршэннем кліматычных умоў, колькі эканамічнай сітуацыяй і звязаным з ёю зніжэннем узроўню агратэхнікі. Як вынікае з даследаванняў, чым вышэйшыя складальнікі зменлівасці ўраджайнасці культур, абумоўленыя ўзроўнем развіцця земляробства, тым меншы ўплыў пагодных і кліматычных умоў на велічыню ўраджаю.

Нашы эканамічныя страты ад неспрыяльных пагодных і кліматычных з'яў у абсалютным выражэнні ўзрастаюць з году ў год. У некалькі апошніх гадоў краіна выходзіла на ўзровень мінімальнай харчовай бяспекі (5500—7500 тысяч тон), затое ў папярэднія гады вытворчасць збожжа складала каля 60 працэнтаў ад запатрабаванага ўзроўню. Цана кліматычных складальнікаў у хістанні збораў збожжа не менш 120 мільёнаў долараў ЗША. Калі зыходзіць з сучасных сцэнарыяў змянення клімату, звязанага з ростам колькасці парніковых газаў і аэразоляў у атмасферы, то агракліматычныя аналагі па цеплазабяспечанасці варта шукаць у сучасным лесастэпе Украіны.

Пры вырошчванні звычайнага сучаснага набору сельскагаспадарчых культур прадукцыйнасць экстэнсіўнага земляробства будзе мець тэндэнцыю да змяншэння, а прадукцыйнасць высокаінтэнсіўнага земляробства — да росту.

Тэмпература да сярэдзіны XXI стагоддзя можа павялічыцца на 1—2 °С, а да канца стагоддзя нават на 3—4 °С. Некаторыя экасістэмы не паспяваюць прыстасоўвацца да хутказменных кліматычных і пагодных умоў. У выніку асобныя віды могуць зусім знікнуць. Гэта натуральна прывядзе да скарачэння біялагічнай разнастайнасці, і ў канчатковым выніку буйнамаштабнае змяненне клімату можа разбурыць сістэму міжнароднай экалагічнай бяспекі.

За адзінаццацігадовы перыяд з 1992 па 2003 год толькі ў 1998 і 2000 годзе ні ў адным з раёнаў Беларусі не адзначалася засухі. Асабліва буйнамаштабнымі

былі засухі ў 1992 і 2002 годзе. Тым не менш у першай палове цёплага перыяду года (май-чэрвень) на тэрыторыі Беларусі не адбылося істотных змяненняў у паўторы засушлівых з'яў.

У перыяд актыўнай меліярацыі і ў наступныя за ёю гады (1965—1995 гг.) назіралася істотнае павелічэнне колькасці замаразкаў у розныя месяцы года. Нават у чэрвені на паверхні тарфянікаў надараюцца замаразкі кожныя два-тры гады, у той час як на мінеральных глебах яны рэгістраваліся на поўдні ў сярэднім адзін раз у 20—50 гадоў, а на поўначы — адзін раз у 10 гадоў. Замаразкі на тарфяніках магчымы і ў ліпені — адзін раз у 10 гадоў. На мінеральных глебах у апошнія 50 гадоў замаразкі ў ліпені не зарэгістраваны.

Сярэдняя працягласць безмарознага перыяду над асушанымі тарфянікамі на 15—20 дзён меншая, чым над мінеральнымі глебамі на поўдні рэспублікі, і на 5 дзён меншая, чым на поўначы рэспублікі.

У асобныя гады замаразкі на глебе ў паўднёвых раёнах нават больш інтэнсіўныя, чым замаразкі ў паўночных. Такая небяспека нарастання замаразкаў у паўднёвых раёнах краіны абавязана сваім спараджэннем уключэнню ў сельскагаспадарчае абарачэнне асушаных тарфяна-балотных глеб.

На тэрыторыі рэспублікі адзначаецца істотная стракатасць у ваганнях ападкаў. Сярэднегадавая колькасць ападкаў змяншаецца ў цэнтральнай і паўднёвай частцы рэспублікі, асабліва ў другой палове цёплага часу года, тады як у паўночнай яе частцы выяўлены ў апошняе дваццацігоддзе нязначны іх рост. У цэлым па рэспубліцы за пасляваенныя гады колькасць ападкаў зменшылася на велічыню каля 60—80 міліметраў.

У паўночнай частцы Беларусі рост ападкаў прыкметна абазначыўся зімой, у пачатку вясны, а таксама ў большай частцы летняга сезона (чэрвень, ліпень).

Павышэнне сярэднегадавой тэмпературы на 1 °С прыводзіць да павелічэння вегетацыйнага перыяду на дзясяць дзён і сумы тэмператур на 200 °С, што адпавядае зруху па шыраце (на поўнач) больш паўднёвых кліматычных умоў на 150—200 кіламетраў. Тым самым зменіцца кліматычная (прыродная) занальнасць краіны, адбудзецца істотнае змяшчэнне дат фенафаз (асабліва вясной), падоўжыцца вегетацыйны перыяд. Аднак захаваецца небяспека познавясенніх (майскіх) і раннеасенніх замаразкаў, што патрабуе адпаведнай селекцыйнай работы па атрыманні замаразкаўстойлівых і засухаўстойлівых сартоў традыцыйных культур.

На фоне магчымых змяненняў клімату важным і неабходным з'яўляецца ажыццяўленне ўліку ўплыву зменлівых агракліматычных умоў. Трэба звярнуць увагу на тое, што ў выніку росту сярэднегадавой тэмпературы паветра павялічыцца паўтаральнасць экстрэмальных узроўняў цяпла і вільготнасці і гэта адмоўна адаб'ецца на развіцці сельскагаспадарчых культур. Зніжэнне ўраджайнасці асноўных сельскагаспадарчых культур з-за неспрыяльных пагодных умоў можа дасягнуць 50—60 працэнтаў, а ў асобныя гады і больш таго. Асноўнае змяншэнне ўраджаю (асабліва яравых збожжавых культур) будзе выклікана засушлівымі ўмовамі. Пры гэтым трэба ўлічваць і тое, што павелічэнне паўтаральнасці цёплых зім за апошнія гады прывяло да істотных змяненняў умоў перазімоўкі азімых культур.

Павелічэнне працягласці і цеплазабяспечанасці вегетацыйнага перыяду адкрывае магчымасці выкарыстання больш ураджайных познаспелых сартоў збожжавых культур і гародніны; перамяшчэння на поўнач зоны вырошчвання цеплалюбівых гароднінных культур — агуркоў, таматаў; пашырэння плошчаў вырошчвання яравога рапсу; змяшчэння тэрмінаў сяўбы яравых культур на значна ранейшы час. Гэта дазволіць больш эфектыўна выкарыстоўваць запасы вільгаці ў глебе пасля вясенняга сыходу снегу, прывядзе да больш ранняга выспявання ўраджаю, што павялічыць магчымасці пажніўнага земляробства. Аднак неабходна ўлічваць рызыку майскіх замаразкаў, таму культуры павінны быць замаразкаўстойлівымі.

У сувязі з павелічэннем колькасці засух наспела неабходнасць актывізаваць правядзенне работ па стварэнні новых сартоў і пашырэнні выкарыстання засухаўстойлівых культур. Неабходна забяспечыць далейшае развіццё сістэмы страхавання ад вынікаў засух, праводзіць пашырэнне рэгіёнаў арашальнага і паліўнога земляробства, а таксама пашырэнне пасяўных плошчаў кукурузы і проса. Цёплыя зімы будуць спрыяць большаму выжыванню шкоднікаў, узбуджальнікаў хвароб раслін, росту пустазелля. Усё гэта патрабуе новых мер па абароне раслін.

Верагоднае пацяпленне клімату і звязаныя з ім змены тэрытарыяльнага размеркавання атмасферных ападкаў запатрабуюць перагляду сістэмы кадастравай ацэнкі зямель. У краіне спатрэбіцца заўважная структурная перабудова сельскагаспадарчых угоддзяў і ворных зямель. Верагодна, у паўднёвай частцы Беларусі плошчы ворных зямель скароцяцца як за кошт дамінуючых мінеральных глеб лёгкага складу, так і за кошт немагчымасці выкарыстання пад ворыва асушаных тарфяных глеб. Увогуле спатрэбіцца адаптацыя сельскагаспадарчага сектара да змяненняў клімату.

Праблемы энергетычных рэсурсаў, асабліва ўзнаўляльных крыніц энергіі, таксама цесна звязаны са змяненнем клімату. За апошнія 20—25 гадоў устаноўлена змяншэнне хуткасці ветру на 15—20 працэнтаў, што памяншае магчымасці выкарыстання ветраэнергіі.

Пацяпленне клімату адаб’ецца і на ўмовах водакарыстання ў сельскай гаспадарцы. Яно прывядзе да пагаршэння ўмоў ўвільгатнення глеб і павелічэння выпаральнасці. На меліяраваных землях гэта выкліча зніжэнне водарэгулюючага эфекту арашальных сістэм меліярацыі. Для водазабеспячэння арашальных і асушальна-ўвільгатняльных сістэм давядзецца праводзіць мерапрыемствы па рэгуляванні стоку, падачы вады звонку, паўторным выкарыстанні дрэнажных вод.

Ацэнкі ўздзеяння змен клімату на водную гаспадарку зводзяцца да наступнага: змяншэнне атмасферных ападкаў на 5 працэнтаў можа прывесці да змяншэння іх выкарыстання за гідралагічны год у сярэднім на 4,5—8 працэнтаў, а змяншэнне ападкаў на 10 працэнтаў — да змяншэння стоку на 7—16 працэнтаў. Павелічэнне тэмпературы паветра пры нязменнай колькасці ападкаў прыводзіць да нязначнага змяншэння стоку (3 працэнты). Адначасовае павелічэнне тэмпературы на 2 °С і змяншэнне ападкаў на 10 працэнтаў прыводзяць да змяншэння рачнога стоку на 13—14 працэнтаў.

З разліку змянення рачнога стоку і выпарэння для розных сцэнарыяў тэмпературы і ападкаў вынікае, што рачны сток можа зменшыцца ад 10 да 45 працэнтаў (ліпень).

Прагнознае пацяпленне клімату выкліча чарговую негатыўную рэакцыю як водных экасістэм у цэлым, так і асобных іх частак, што асабліва адаб’ецца на поймах рэк — найбольш адчувальных ландшафтах.

Пры росце «тэрмічнай нагрузкі» на рэкі і вадаёмы можна чакаць паскарэння працэсаў эўтрафавання. Пацяпленне па-рознаму выявіцца на рыбных запасах у залежнасці ад таго, на якіх глыбінях жывуць рыбы. Найбольшыя змяненні могуць чакацца ў мелкаводных азёрах.

Пры зніжэнні ўзроўняў вады ў рэках і азёрах адбудзецца павелічэнне канцэнтрацый цэзію-137 і стронцыю-90 у паверхневых водных крыніцах басейнаў Дняпра і Прыпяці.

Як сведчыць аналіз уплыву змянення клімату на энергетыку, ацяпляльны перыяд ужо скараціўся на шэсць — дзевяць дзён у асноўным у сувязі з больш раннім яго заканчэннем. На 1—1,5 °С павялічылася сярэдняя тэмпература ацяпляльнага перыяду (больш на поўначы). Усё гэта прывяло да змяншэння сумы градусадзён на 9—11 працэнтаў. Адпаведным чынам гэта адлюстравалася і на расходах паліва на ацяпленне.

Пры павышэнні сярэднегадавой тэмпературы паветра на 0,5 °С ацяпляльны перыяд змяншаецца на шэсць сутак, а пры павышэнні тэмпературы на 3 °С — на трыццаць шэсць сутак.

Змяншэнне цепластрат азначае, што эканомія паліва пры павышэнні тэмпературы на 0,5 °С складзе 3,5 працэнта, а пры павышэнні тэмпературы на 3 °С — 15,3 працэнта.

*Кіёцкі пратакол. Падпісваць ці не падпісваць?* Экалагічнае здароўе Зямлі даўно хвалюе міжнародную супольнасць вучоных. А ў апошнія дзесяцігоддзі катастрафічныя наступствы кліматычных змяненняў для чалавецтва пачынаюць хваляваць і палітыкаў. Як вынік спроб спыніць згубныя для ўсіх працэсы, у 1997 годзе ў горадзе Кіёта (Японія) быў прыняты Кіёцкі пратакол, у якім для прамыслова развітых краін і краін з пераходнай эканомікай прадугледжваюцца абавязацельствы па скарачэнні выкідаў парніковых газаў у атмасферу. Удзельнікі канферэнцыі ўзялі на сябе абавязацельствы скараціць выкіды парніковых газаў да 2008—2012 гадоў у сярэднім на 5,2 працэнта ў суадносінах да аб'ёмаў выкідаў 1990 года.

На долю буйных індустрыяльных краін у той час прыпадала пераважная колькасць выкідаў. Сярод іх былі Расія (17,4 працэнта) і Злучаныя Штаты Амерыкі (каля 35 працэнтаў). ЗША ад ратыфікацыі Кіёцкага пратакола адмовіліся, матывуючы гэта пралічанымі негатыўнымі вынікамі для іх эканомікі і нацыянальнай бяспекі. Усе спробы прымусіць Кіёцкі пратакол працаваць прыводзілі да перманентна ўзнікаючых скандалаў паміж яго прыхільнікамі і праціўнікамі. Расія ў канцы 2004 года ратыфікавала Кіёцкі пратакол, і ён уступіў у сілу. Аб драматызме абмеркавання магчымасцей ратыфікацыі Расіяй Кіёцкага пратакола сведчыць вастрэйшая дыскусія ў навуковых колах і сродках масавай інфармацыі.

У канцы 2004 года прэзідэнт Расійскай акадэміі навук Ю. С. Осіпаў даручыў вучоным выказаць думку аб мэтазгоднасці ратыфікацыі Кіёцкага пратакола. Была створана камісія, у якую ўвайшлі дзевятнаццаць вядомых расійскіх вучоных. Але кансэнсус так і не быў дасягнуты. Галасы раздзяліліся: 14 супраць і 5 за ратыфікацыю. Затым па гэтым пытанні прымаецца фактычна палітычнае рашэнне — ратыфікаваць. Саветнік Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі А. Іларыёнаў назваў магчымае далучэнне да Кіёцкага пратакола «вымушаным палітычным рашэннем».

Еўрапейскі Саюз абяцае Расіі «пернік» — уступленне ў Сусветную гандлёвую арганізацыю. Палітыкі сваё рашэнне прынялі. Вядома, нельга адназначна сцвярджаць, што гэты дакумент проста шкодны той або іншай краіне. Ён, безумоўна, павінен спрыяць змяншэнню выкідаў парніковых газаў у атмасферу, а таксама павялічваць рэзервы стоку (паглынання) вуглякіслага газу пасаджанымі лясамі, адноўленымі балотамі, дзе раней здабываўся торф. Калі б усімі краінамі свету выконваліся прадугледжаныя пратаколам правілы «гульні», то гэта было б вельмі вялікім дасягненнем сусветнай супольнасці па пераадоленні дэградацыі навакольнага асяроддзя. Але ён можа аказацца і пустым гукам. У якасці аргумента можна прывесці пазіцыю ЗША (каля 25 працэнтаў сусветных выкідаў парніковых газаў у цяперашні час). Такія краіны, як Кітай, Індыя, Бразілія, Інданезія, таксама не ўзялі на сябе абавязацельстваў зменшыць выкіды парніковых газаў. А гэтыя краіны выкідваюць іх у атмасферу таксама каля адной чвэрці.

Лёгка згадзілася на ўмовы Кіёта большасць краін з ядзернай энергетыкай і высокімі тэхналогіямі. Японія выконвае ўсе ўмовы Кіёцкага пратакола. Яна дае каля 17 працэнтаў сусветнага валавога ўнутранага прадукту, а выкідвае ў атмасферу толькі каля 5 працэнтаў парніковых газаў. Да такіх краін адносяцца краіны еўрапейскага рэгіёна (Швецыя, Францыя, Англія і інш.). Чым вышэй тэхнічная ўзброенасць краін, тым меншыя ўдзельныя выкіды. Але большая частка краін Еўрапейскага Саюза пакуль не выконвае ўмовы Кіёцкага пратакола. Гэта азначае, што колькасць парніковых газаў у атмасферы будзе павялічвацца. Важна і на-

ступнае: да гэтай пары няма канчатковага пацвярджэння агульнапрынятай думкі аб антрапагенным пацяпленні клімату ў апошняе стагоддзе. Вядома, што пацяпленне клімату адбывалася на Зямлі шмат разоў, калі чалавечай дзейнасці не было. Клімат у асобныя геалагічныя эпохі быў цяплейшы, чым цяпер. Аднак нельга адмахнуцца і ад таго факта, што за апошнія дзесяцігоддзі адбылося нешта такое, чаго не назіралася раней. Хуткасць змянення тэмпературы стала істотна большай, чым гэта было дасюль. У Беларусі, напрыклад, у 1960-я гады зімы былі халаднейшымі на 3—4 градусы. Сусветныя тэндэнцыі за апошнія 140 гадоў такія: з 1860 да 1920 года клімат практычна не змяняўся і тэмпература была ніжэй нормы, потым у 1930-я гады адбылося невялікае пацяпленне, а ўжо з 1980-х гадоў крывая пацяплення рэзка пайшла ўверх. Без уліку чалавечай дзейнасці гэта вельмі цяжка вытлумачыць.

Вобразна кажучы, калі раней над Зямлёй у атмасферы была «байкавая коўдра», то цяпер людзі павесілі «ватную». Утрыманне вуглякіслага газу павялічылася больш чым на 30 працэнтаў, метану — на 155 працэнтаў і больш чым на 17 працэнтаў — вокіслаў азоту. Патрэбна дадаць да гэтага і ўплыў фрэонаў і азону.

А цяпер аб такім важным складальніку Кіёцкага пратакола, як гандаль вугляроднымі квотамі парніковых газаў. Буйнейшым донарам з'яўляецца Расія, якая валодае вялікімі масівамі лясоў і неасушаных балот, што паглынаюць парніковыя газы з атмасферы, гэта значыць з'яўляюцца іх стокамі. А гэта вось якраз і не было ўлічана пры падпісанні Кіёцкага пратакола. Расіяне кажуць: мы фактычна ратуем свет, значыць, для нас павінны быць іншыя ўмовы, чым для ўсіх астатніх. Калі глядзець у будучае, то сітуацыя для Расіі не будзе бясхмарнай. Калі ў ёй не будуць змяняцца тэхналогіі і пры гэтым павялічыцца ў два разы валавы ўнутраны прадукт, то гэтая краіна хутка выйдзе за межы абумоўленых вугляродных квот і на гарызонце праз 15—20 гадоў могуць узнікнуць штрафныя санкцыі.

Сусветнае супольніцтва пакуль не мае права патрабаваць ад краіны плаціць штраф за перавышэнне выкідаў парніковых газаў або ігнараванне выканання пунктаў пратакола. Але Кіёцкі пратакол — гэта пралаз, які дазволіць у будучым падысці да пытання «кіравання» светам праз штрафныя санкцыі: у многіх краін тады могуць узнікнуць вельмі вялікія праблемы.

Усе краіны былога Савецкага Саюза маглі лёгка падпісаць гэты пратакол. Эканамічны абвал у 1990 годзе палепшыў экалагічную сітуацыю. Выкіды ў атмасферу ў 1990 годзе і цяпер адрозніваюцца больш чым у два разы. Так, да 2008—2012 гадоў краіны не выйдуць на ўзровень 1990 года, узятага за базавы Кіёцкім пратаколам. Але трэба думаць пра будучае: краіны будуць жыць і пасля 2012 года.

Апелююючы да палітычных прыхільнікаў далучэння да Кіёцкага пратакола, варта сказаць аб беспадстаўнасці спадзяванняў на хуткае атрыманне фінансавых выгод ад гандлю квотамі. Безумоўна, Беларусь не выйдзе за ўзровень 1990 года па выкідах парніковых газаў, а значыць, умовы Кіёцкага пратакола краіна выканае. Але трэба мець на ўвазе наступнае. Структура спажывання паліва змянілася за апошнія дзесяць гадоў у бок павелічэння выкарыстання газу. Гэта было галоўнай прычынай змяншэння выкідаў парніковых газаў. Разлік на далейшае павелічэнне спажывання прыроднага газу ў нашай краіне мае вельмі мала падстаў. Ды і цэны за яго ўсё роўна будуць набліжацца да сусветных, а гэта прымусіць нас пераходзіць на менш чыстыя ў экалагічным плане крыніцы энергіі (вугаль, торф, драўніну). Тое, што ў бліжэйшыя дваццаць гадоў нам не трэба разлічваць на пераход на вадародную энергетыку, таксама відавочна. Выкарыстанне ўзнаўляльных крыніц энергіі ў нашай краіне пакуль «экзотыка». Больш чым некалькі працэнтаў павелічэння энергіі за кошт гэтых крыніц у бліжэйшыя дваццаць гадоў мы не атрымаем. Тады гэта можа азначаць, што гадоў праз пятнаццаць — дваццаць перад намі верагодна паўстане праблема штрафных санкцый за атрыманую або спажытую звыш нормы энергію, калі нам давядзецца пе-

райсці на менш экалагічна чыстыя крыніцы энергіі і аднаўляць прамысловую вытворчасць, падвоіць валавы ўнутраны прадукт. Вядома, што любыя экалагічныя праекты з'яўляюцца для эканомікі затратнымі. Умовы Кіёцкага пратакола не выключэнне. Асноўнай крыніцай энергіі ў Беларусі на бліжэйшыя некалькі дзесяцігоддзяў будзе арганічнае паліва. Калі глядзець на многія гады наперад, то спяшацца з продажам квот не варта.

Безумоўна, магчыма атрыманне некалькіх грантаў, рэальна ўкараненне новых тэхналогій за кошт інвестыцый замежных краін, але чаргі патэнцыяльных пакупнікоў вугляродных квот у Беларусі пакуль няма. Першачарговымі на продаж квот з'яўляюцца краіны Усходняй Еўропы (Польшча, Балгарыя, Румынія і інш.), а таксама Прыбалтыйскія краіны і Расія.

*Кіёцкі пратакол як элемент глабальнай палітыкі.* Напярэдадні саміта «вялікай васьмёркі», які адбыўся ў ліпені 2005 года ў Шатландыі, прэзідэнт Буш настойліва заклікаў краіны, якія ўваходзяць у гэту групу, перайсці ў ходзе абмеркавання пытанняў аб змяненні клімату ад абмежаванняў на выкіды ў атмасферу парніковых газаў да распрацоўкі і прымянення новых тэхналогій у галіне атрымання энергіі, якія паспрыялі б скарачэнню маштабаў нанясення шкоды навакольнаму асяроддзю і не аказвалі пры гэтым адмоўнага ўздзеяння на эканамічны рост. Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Тоні Блэр таксама спадзяецца, што ўдасца наладзіць супрацоўніцтва ў галіне новых тэхналогій, якія дазволяць Злучаным Штатам Амерыкі і іншым краінам пашырыць эколагабяспечнае прымяненне разнастайных відаў паліва і адысці ад выкарыстання выкапнёвага паліва. Гэта забяспечыць эканамічную і нацыянальную бяспеку краіны ад замежных паставак нафты.

Злучаныя Штаты Амерыкі па-ранейшаму лічаць, што прыняцце Кіёцкага пратакола нанесла б шкоду эканоміцы ЗША і сусветнай эканоміцы. Гэты крок быў бы эфектыўным толькі ў тым выпадку, калі б усе краіны, уключаючы і краіны, якія развіваюцца, узялі на сябе падобнае абавязацельства. Акрамя таго, неабходна правядзенне больш шырокіх даследаванняў у галіне вывучэння змяненняў клімату і ў распрацоўцы альтэрнатыўных тэхналогій атрымання энергіі.

Пакуль змяншэння выкідаў парніковых газаў у атмасферу не адбываецца, а гэта значыць, што асноўная мэта Кіёцкага пратакола не дасягнута.

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***





## ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ

## Раіса Баравікова



*Раіса Андрэеўна Баравікова нарадзілася 11 мая 1947 года ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці ў сям'і служачага.*

*У 1965 годзе скончыла Бярозаўскую школу і пачала працаваць літсупрацоўнікам у Быхаўскай раённай газеце «Маяк Прydняпроўя». У 1966—71 гадах вучылася ў Маскве ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага, пасля заканчэння працавала рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм» (1971—72), карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва» (1972—77). Некалькі гадоў кансультавала пачаткоўцаў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена».*

*З пачатку 1990-х гадоў Р. Баравікова працавала ў часопісе «Работніца і сялянка» (цяпер — «Алеся»). Прайшла цярністы шлях ад рэдактара адзела культуры і літаратуры да галоўнага рэдактара папулярнага выдання для жанчын. Цяпер Раіса Андрэеўна з'яўляецца галоўным рэдактарам літаратурна-мастацкага часопіса «Маладосць».*

*Першы верш надрукавала ў 1960 годзе. У рэспубліканскім друку выступае з 1966 года. Выдала зборнікі лірыкі «Рамонкавы бераг» (1974) «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984), «Каханне» (1987 — за яе прысуджана Літаратурная прэмія імя А. Куляшова).*

*У паэзіі Р. Баравіковай вядучае месца займаюць тэмы кахання, складаны свет думак і пачуццяў маладога сучасніка. Для яе лірычнага героя характэрны прага высокага духоўнага ідэалу, напружаны пошук сапраўдных маральна-этычных асноў і вартасцей жыцця. Творчы арыенцір паэткі выяўляецца ў разуменні таго, што «тады ў народа ёсць паэты, калі ў паэтаў ёсць народ...»*

*У 1992 годзе Р. Баравікова выдала кнігу паэзіі, у якую ўвайшла гістарычная драма «Барбара Радзівіл», — «Люстэрка для самотнай». Яна была адзначана прэміяй выдавецтва «Мастацкая літаратура» імя Максіма Багдановіча як лепшая кніга года. А ўжо ў 1994 годзе паэтэсе за гэтую ж кнігу была прысуджана Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы. У гэтым жа самым годзе па драме «Барбара Радзівіл» у тэатры-лабараторыі беларускай драматургіі рэжысёрам Валерыем Мазынскім быў пастаўлены спектакль з аднайменнай назвай, які меў аншлагі на працягу некалькіх гадоў.*

*У 1997 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга выбранай паэзіі Р. Баравіковай «Сад на капялюшыку каханай», якая была адзначана ў 1998 годзе спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.*

*Раіса Баравікова працуе і ў жанры прозы. Яе пяру належаць аповесць «Кватарантка» (1980) і кніжка арыгінальнай прозы «Вячэра манекенаў» (2002). Піша яна і для дзяцей. Выйшлі кніжкі «Галенчыны «Я», альбо Планета Цікаўных хлопчыкаў» (1990) і зборнік прыгодніцкіх казак «Дзве аповесці пра Міжпланет-*

*нага пажарніка і казка пра жабяня Квыш-Квыш», які разышоўся на працягу некалькіх месяцаў.*

*Перакладаюцца вершы паэтэсы і на іншыя мовы. У 1982 годзе ў Маскве ў выдавецтве «Советский писатель» была выдадзена кніга лірыкі «Горицвет».*

*Паэтка і сама шмат працуе ў галіне мастацкага перакладу, пераствараючы на беларускую з рускай, украінскай, літоўскай і іншых моў.*

*Актыўна займаецца і грамадскай дзейнасцю: узначальвае таварыства дружбы і культурных сувязей «Беларусь — Расія», а таксама з'яўляецца сябрам праўлення Беларускага Саюза жанчын.*

## ВЕРШЫ

### ПТУШАЧКА

*Бабіна дарога ад печы да парога.*
Прымаўка

Патопчацца на досвітку ў двары,
свяцілу ўстаць з-за лесу дапаможа...
«Ты, сонейка, дзень добры сатвары», —
ўздыхне яна дый сядзе на парожак.

І будзе доўга, ціхая, глядзець
у неба з яснатою галубінай,
і да сябе падцягне ночвы з глінай,
і стане над падатлівай карпець...

Нязвыкла пуста ў полі і ў гаях,
бяроза без лісця дрыжыць над склепам,
мінаюць дні, а цётачка ўсё лепіць:
«Хутчэй ляпіся, птушачка мая...»

Ужо напіўся ўволю луг дажджу,
акраўкі хмар з ляшчын здымае вецер...
— Што робіш, баба? — пасмяюцца дзеці.
— Ды на парожку, мілыя, сяджу...

Збанкі і чыгункі тырчаць на плоце,
прыблудны цуцык трэцца каля ног,
ды знаў бы хто, — жыццё прайшло
ў палёце,
хоць і было ў ім — печка ды парог.

***1985***

* * *

Пераплятуцца гукі «дж» і «дз»
дзівоснай нашай мовы ў песнях лета,
і страказе свавольнай на вадзе
так схочацца ў адной з іх быць апетай.

Заўваж, дрыжыць рука ў тваёй руцэ,
цень ад вярбы на цёплым парапеце, —

і ў гэтых сказах лёгенькія «ц»,
нібы званочкі ў нашым першым леце.

А ты маўчыш, хто ж навучыць пасмеў
цябе, што мова наша без дыхання,
што, як глухі, застраглы ў горле спеў,
яна даўно на грані вымірання.

О, калі б гэтак... Як дазнаўся б ты,
што тут, дзе пчолы водзяць карагоды,
між гэтай пракаветнай пекнаты
хачу твой голас вабны чуць заўсёды.

*1986*

* * *

Разлічваць на які яшчэ прыём?
За шчырасць — нечаканая адплата.
Ён ува мне пабачыў дыпламата
і ганарыцца гэтым адкрыццём.

А як жа тое, — што было спярша, —
разгубленасць і позіркаў, і рухаў...
Ці трэба строгасць, дзе пяе душа,
ды каб жа ён душу маю паслухаў!

Нібыта за шкляной стаіць сцяной, —
ад пільных спраў то ўзрушаны, то грубы...
У сны аддаў пяшчоту рук і губы,
як люба ён гаворыць там са мной.

І хоць жывём пад небам мы адным,
яму ўжо аніяк не здагадацца, —
я знаю столькі тайнага аб ім,
што нам ніколі лепш не сустракацца.

*1987*

* * *

Напэўна, мне не падалося.
З далёкай нейкай даўніны
вяртаешся, як дождж, —
у восень,
не помніш колішняй віны.

Я многа дзён жыла ў спадмане,
не ўмела ўмомант забываць,
ды ў страсці, як і ў урагане,
нічога нельга прадказаць.

Спакойна ў сэрцы, як на вежы,
дзе зноў любому рада дню,
ёсць і ў пачуццях нашых межы, —
свой час згасання і агню.

Ужо ні соладка, ні горка,
ні шкадавання, ні нуды,
як у дзяўчынкі, што з пагорка
ляціць, не знаючы куды.

***1987***

* * *

Разлуку ў хуткім часе напрароч,
да самазабыцця любі кагосьці,
ды гэта не ўспамін аб маладосці,
скажы, якая бэзавая ноч?

Пад лопухам хаваецца матыль,
у ценях адмысловых шыр квартала,
я ўсё табе ў мінулым даравала
і позіркам пытаюся: а ты?

Зноў прывыкаю да твайго імя.
Навошта?
Твой уздых цяжкі і горкі.
Мы, як працяг зацягнутай гаворкі,
сказалі ўсё, а яснасці няма.

Ды і якой жадаем яснаты?
І я ж не абяцаю быць адданай...
Схацелася прачнуцца закаханай, —
світанне,
бэз
і як калісьці... ты!

***1987***

# БАРБАРА РАДЗІВІЛ*

***Гістарычная драма ў дзвюх дзеях, пятнаццаці сцэнах***

## СЦЭНА ВОСЬМАЯ

*Спальня* Барбары *ў доме брата —* Радзівіла Мікалая Рудога. Мікалай Руды *запальвае свечкі ў цяжкіх падсвечніках.* Барбара *сядзіць у крэсле.* Мікалай Чорны *праходжваецца з кутка ў куток...*

Мікалай Руды
З дзяцінства не люблю сядзець у змроку,
у сэрцы цені нараджалі страх,
то чуўся нейкі шэпт, то раптам крокі,
то шамаценне лёгкіх апранах.
Мікалай Чорны (*спыняецца*).
Не для таго прыйшоў я, каб пачуць,
што чулася калісь табе ў дзяцінстве.

*Асобныя сцэны з драмы.

Барбару словам нельга ўжо крануць,
дык як жа думкі будуць у адзінстве?

Б а р б а р а

Ты, можа, хочаш, каб я разам з вамі
свой жар тушыла ўласнымі рукамі
пры дапамозе пашквілюсаў гнюсных?!
Цяпер маўчаць не будуць мае вусны!
Ты ўжо казаў, што я на шыі ў брата,
а зараз бачыш ты мяне брухатай?!

*Устае, вымае з невялікай скрыначкі, што стаіць на століку, згорнуты аркуш паперы.*

Вось пашквілюс! Упэўнена, што вы
абодва ў гэтым вінны нейкім чынам,
каб любы мне, і ўжо не мой мужчына
згадаў, што мае на мяне правы.
Кахаў мяне, і вось ён... плод кахання!
*(Нервова смяецца.)*
А ў нас, дарэчы, не было расстання.

М і к а л а й Ч о р н ы

Каханне ваша — цьфу! Нам трэба ўлада.
І плод кахання — добрая прынада!

Б а р б а р а *(з адчаем.)*

Дзіця?! Я памылілася!.. Здалося...
А вы? Мой боль заўсёдны скарысталі.
*(Паўза.)*
Разнеслі плёткі, нібы лісце ўвосень,
чаму ў мяне пра ўсё не распыталі?
Вар'яты! Божа, праўда, вы — вар'яты!
Якой інтрыгай дзікаю заняты!
Паддаўшыся, сама я ўсё руйную,
і разам з тым гару ўся і раўную.

*Садзіцца ў крэсла. Плача.*

М і к а л а й Р у д ы *(ніяк не можа запаліць апошнюю свечку).*

Тут зараз Мікалай сказаў пра ўладу...
Чакаем міласці з чужых уладных рук,
хоць не скажу... Ёсць права ў нас на Раду,
ды наша слова ў ёй старонні гук.
Мы на зямлі сваёй жывем сынамі,
і, як сыны, стаім мы за яе,
ды вершыць хтосьці зверху суд над намі,
улада — усё! Яе нам не стае.

М і к а л а й Ч о р н ы

Наўкола — зайздрасць! А чаму зайздросціць?

М і к а л а й Р у д ы

Заможнасць наша змучвае кагосьці.

М і к а л а й Ч о р н ы

Любыя скарбы без улады — тло!

Б а р б а р а *(усхліпвае).*

Так горка мне ніколі не было.

М і к а л а й Ч о р н ы

Мы пра Літву і пра сваю ў ёй пэўнасць,
яна ж рыдае... Душыць яе рэўнасць!

Б а р б а р а

Адзінае, што сёння ў мяне ёсць, —
мае пачуцці... Можна насміхацца,
ды ўзяць сваё жадае маладосць
і як, скажыце, ад сябе схавацца?!

М і к а л а й  Ч о р н ы (*зларадна*).

Ды нешта ж амарат твой не імчыць!
У Кракаве ён днюе і начуе.
(*Да Міколы Рудога.*)
Пайшлі адсюль! Пра што з ёй гаварыць!
Яна даўно разумных слоў не чуе.

*Р а д з і в і л ы выходзяць. Барбара ўстае з крэсла.*

Б а р б а р а

У Кракаве?.. Па Вільні ходзяць чуткі?
Другі ўжо тыдзень, як яго не бачу.
Душа гарыць і сэрца б'ецца пудка,
а радасць саступіла месца плачу.
Шлюб ладзіцца... Паверыла братам?!
(*Падыходзіць да акна.*)
Як хутка ноч. Міргае цьмяна зорка.
Сон — у мурах... Яго няма ўжо там.
У Кракаве!.. Не ведае, як горка...

*Чуецца асцярожны стук у акно.*
*Яшчэ адзін і яшчэ. Барбара ўздрыгвае.*
*Прынікае да акна.*

Хто тут? Пачуе стражнік ля варот...
(*І захлынаючыся радасцю.*)
Чакай! Адну хвіліну... Жыгімонт!

*Расчыняе акно. Ж ы г і м о н т  А ў г у с т ускоквае ў спальню.*
*Прыпадае да рук Барбары. Палка цалуе іх.*

Ж ы г і м о н т  А ў г у с т (*словы блытаюцца*).

Ты!.. Ты!.. Мне даравала неба
яшчэ адно імгненне... Вось ён міг!
А без цябе, як высахлая глеба,
я гіну... Ды нарэшце мы — удваіх!
Дай вусны мне... Хай голас твой вясёлы
развее дзён нікчэмных каламуць,
і ля ўзгалоўя нашага анёлы
на лютнях хай іграюць і пяюць.
Ты побач... Кожнай рыскаю і ўздыхам,
хутчэй мой жар сабою наталі...

Б а р б а р а

Жаданы... Я з табою... Але ціха —
хтось за дзвярыма... Там...
Ці птушаня ў галлі?

Ж ы г і м о н т  А ў г у с т

Мая!.. Мая!.. Ніхто адняць не зможа!

*Дзверы з грукатам расчыняюцца.*
*Імкліва ўваходзяць Р а д з і в і л ы. У руках — мячы.*

Мікалай Чорны
Што бачу я?! Ты, Мікалай, пазнаў
начнога госця?
Барбара
Робіцца што, Божа!
Мікалай Руды (*да Барбары*).
Нядаўна Жыгімонт нам слова даў...
Мікалай Чорны (*таксама да Барбары*).
Што ён ніколі, ні з якім намерам
у тваю спальню не адчыніць дзверы!

*Стукае мячом.*

Жыгімонт Аўгуст
Вы ашалелі... Без яе мне цяжка.
(*Прыціскае Барбару да сябе.*)
Я для яе — не госць, а абарона!
Мікалай Чорны (*гнеўна*).
Магчыма, ды з вялікаю нацяжкай.
Ты зноў прыйшоў, каб наш запляміць гонар?
Жыгімонт Аўгуст
Дарэмна гэтак... Хопіць вам шумець!
Вы будзеце, дальбог, нямала мець.
Уладу, славу...
Мікалай Руды
Гэта зноў падман!
Жыгімонт Аўгуст (*не зважаючы на яго*).
Наўкола шляхта будзе віцца роем...

*Мікалай Чорны адштурхоўвае брата.*
*Выступае наперад.*

Мікалай Чорны
О Божа міласэрны, дай нам тое!
(*Крычыць.*)
Плябан!.. Хутчэй сюды, плябан!
Мікалай Руды (*да Жыгімонта Аўгуста*).
Калі Барбару лічыш сваёй любай,
дык любасць замацуй законным шлюбам!
(*Жыгімонт Аўгуст маўчыць. Паўза.*)
Мікалай Чорны (*да Жыгімонта Аўгуста*).
Скажы, як разумець тваё маўчанне?
(*Паўза.*)
Мікалай Руды
Як згоду, несумненна, на вянчанне!

*Жыгімонт Аўгуст моцна сціскае руку Барбары.*
*Ён згодны.*

Заслона.

## СЦЭНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

*Пётрыкаў. Тут распачаўся чарговы Сейм, на якім разам з іншымі пытаннямі абмяркоўваецца і пытанне шлюбу Жыгімонта Аўгуста і Барбары Радзівіл. Службовая зала з каралеўскім тронам у цэнтры. З'яўляюцца сеймнікі. Становяцца ля трона. Бліжэй за ўсіх — польскі магнат* К м і т а. *Ён нахіляецца да* с а н о ў н і к а, *што стаіць побач.*

К м і т а

Здаецца мне, што ўспыхне хутка край,
ужо дзесь блізка выбух у ім спее.
А наш кароль адно рабіць умее...

С а н о ў н і к

Брахаць не трэба! Краю не чапай.

Г о л а с

Азвіся, Кміта! Што ты меў на ўвазе?

К м і т а

Табе скажы... Але ва ўсякім разе
не справаю дзяржаўнай ён заняты.

Г о л а с

Дык мо жанчын патрэбна ўзяць за краты,
бо, дзе жанчына, там адразу бруд!
Уцягне хоць каго, халера, ў блуд.

*Чуецца смех, які раптоўна перапыняецца.*
*Уваходзіць* м а р ш а л а к.

М а р ш а л а к

Яго вялікасць, кароль Польшчы і вялікі князь
Вялікага княства Літоўскага Жыгімонт II Аўгуст!

*Уваходзіць* Ж ы г і м о н т *Аўгуст. У кароне. Следам — світа караля.*
*Сярод іх і* Р а д з і в і л ы: М і к а л а й Р у д ы *і* М і к а л а й Ч о р н ы.
Ж ы г і м о н т А ў г у с т *садзіцца на трон,*
*абводзіць прысутных доўгім позіркам.*

Ж ы г і м о н т А ў г у с т

Ніколі не скупіўся на шчадроты,
цяпер уважце вы мае турботы.
Хачу давесці, здарылася гэтак,
што я парушыць мусіў завядзёнку.
Не палічыўся з даўнім этыкетам
і без Кароннай рады выбраў жонку.
(*Паўза.*)
З ёй павянчаўся, кляўся перад Богам,
што будзе ў нас адна цяпер дарога.
(*Лёгкі гул у зале.*)
Заняты быў апошнім часам крайне,
таму дасюль трымаў свой шлюб у тайне.
І я шчаслівы вельмі тым, што ў пару
Бог даў, каго я сам хацеў, — Барбару!
(*Паўза.*)

Г о л а с

Вушам не веру! Гэта ўсё напраўдзе?

Д р у г і г о л а с

Чакай, чакай... А хто ў Кароннай радзе?

Жыгімонт Аўгуст
Я вынес клопат свой не на разгляд!
Наступнае прымайце як загад.
Вы ўсе павінны ў радасці і ў гневе
ёй кланяцца заўжды, як каралеве!

*Усе ў зале быццам аслупянелі. Паўза.*
*З натоўпу выступае адзін з саноўнікаў.*

Саноўнік
На ўсё жыццё запомню гэты Сейм!
Адумайся, мы просім цябе ўсе!

*Позіркам звяртаецца да астатніх, просячы падтрымкі.*
*Наперад выходзіць Кміта.*

Кміта
Барбару ўзяў?! Дык для чаго мы тут?!
Сам вырашыў! Ні з кім не палічыўся.
Яе сабачым жарам атруціўся...
Мікалай Руды
О Божа мой, пазбаў гэтых пакут!
Саноўнік
Дарма не распаляйся, чуеш, Кміта?!
Кміта
Пра ўсё прывык я гаварыць адкрыта.
Яшчэ сябе пакажа прускі двор!



*Падчас сотага спектакля «Барбара Радзівіл».*

І выкажа ўсёй Польшчы свой дакор.
(*Да Жыгімонта Аўгуста*.)
Ці ж тайных не было размоў з Альбрэхтам?
Ты Монці пасылаў туды, не нехта!

*Жыгімонт Аўгуст кідае хуткі позірк на Радзівілаў.*

Ж ы г і м о н т А ў г у с т
Дык, можа, пасадзіць яго на кол?!
(*Да Кміты*.)
Бач, з Монці дыпламат не атрымаўся!
Відно, у нечым ён перастараўся...
А, зрэшты, хто тут сярод нас кароль?!
К м і т а
Народ паднімем! Хопіць у нас сілы.
На сваё месца стануць Радзівілы!

*Мікалай Чорны хутка падыходзіць да Кміты.*

М і к а л а й Ч о р н ы
Тут наша месца!
(*Паказвае на трон*.)
Ты не памыліўся.
Пра што гаворка, калі шлюб адбыўся!
(*Бярэ Кміту загрудкі*.)
Ж ы г і м о н т А ў г у с т
Не рушце! Мне не трэба зараз смуты.
С а н о ў н і к (*да Радзівілаў*).
Спыніцеся... Сказаў ён, можа, й крута,
ды ў нечым зразумець яго павінны.

*Жыгімонт Аўгуст сыходзіць з трона.*
*Падыходзіць да Радзівілаў.*

Ж ы г і м о н т А ў г у с т
Я з імі сёння ж выеду да Вільні.
С а н о ў н і к (*да прысутных*).
Сабраліся... Пасталі ўсе і енчым!
Забудзем словы зараз... Лепш укленчым!
Прад каралём, бо ён усім нам любы!

*Падае на калені перад Жыгімонтам Аўгустам.*

Адмоўся! Ахвяруй ганебным шлюбам.

*Тузае за крысо аднаго з вяльможаў, што стаіць побач.*
*Вяльможа з нерашучасцю, але асядае на калені.*
*Тое ж самае робяць і ўсе астатнія.*

Ж ы г і м о н т А ў г у с т
Прашу падняцца! Добра, што вас многа!

*У зале з'яўляецца* Ч а л а в е к у ш э р ы м *адзенні.*
*Жыгімонт Аўгуст заўважае яго, працягвае.*

Па ўсёй дзяржаве зможаце разнесці,
што я сказаў вось тут, на гэтым месцы!
Барбара — мая жонка! Перад Богам

я кляўся ў гэтым і не саступлю!
(*Паўза.*)
Яе не кіну і не разлюблю!
Барбара — гэта кажа вам кароль,
каранавана будзе на прастол!

*Усе застаюцца на каленях.*

## СЦЭНА ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ

*Ужо знаёмая гасцёўня ў каралеўскім палацы ў Варшаве. Тут усё гаворыць пра тое, што гаспадары збіраюцца ў няблізкую дарогу. Паўсюдна — карзіны, цюкі, корабы... Над адным з іх схілілася каралева Б о н а.*

Б о н а
Загадвала сюды пакласці срэбра!

*Адштурхоўвае кораб нагою.*

Вой, як кальнула тут... Проста пад рэбры.

*Хапаецца за сэрца. Уваходзіць Е ў к а.*

Е ў к а
Штось здарылася? Войкнулі нібыта...
Б о н а
Што гаварыла я? Усё забыта!
Дзе срэбра? Посуд? Дзе нажы, відэльцы?!
Е ў к а
Там!
(*Паказвае на адзін з корабаў.*)
Нядобрае штось у мяне на сэрцы.
Ўсё думаю, як будзе нам у Рыме,
ці з радасцю Італія нас прыме?!

*Бона ажно адступіла.*

Б о н а
Надумалася! Ты пра што? Мой Бог...
Калісь было... Пусціла на парог...
(*Рэзка.*)
Малі нябёсы зараз аб адным,
каб засталася тут... Забудзь пра Рым!
Е ў к а
Я зразумела... Вам я не патрэбна.

*Бона падыходзіць да кораба, на які паказвала Еўка.*

Б о н а
Ці ж добра тут ты ўпакавала срэбра?!
Е ў к а
Дальбог жа добра! Слухалася вас
(*Паўза.*)
ва ўсім... Ва ўсім была я паслухмянай.
Магчыма, штосьці сказала я не ў час!
Ды ці ж не я была, як цень адданай?!

І там, у Рыме, гэтак жа служыць
вам верна буду...
(*Усхліпвае.*)
Еўка хоча жыць...
Я тут памру.

Б о н а (*амаль мякка*).
Калі памрэш, дык з блуду.
Распусніца! А сына не змагла
адцерці...

Е ў к а (*хутка*).
Ад нягодніцы Барбары?!
(*Паўза.*)

Б о н а (*гнеўна*).
Дазволіў хто?! З Барбарай сын у пары.
Яна нявестка мне. Пайшла адсюль! Пайшла!

*Е ў к а выбягае з гасцёўні.*
*У гасцёўню ўваходзіць Л ю д в і к М о н ц і.*

(*Паўза. Бона працягвае.*)
Мо чутка ёсць? Цікава, як яна?

М о н ц і
Ляжыць! І чуткі болей аніякай.

Б о н а
Ляжыць... Ляжыць... І ў тым мая віна.

М о н ц і
Мы заязджаць не будзем, пэўна, ў Кракаў?

Б о н а
Не будзем! Як палаюць мае шчокі.
(*Позіркам паказвае на цюкі, на карабы.*)
Падумаюць яшчэ, што гэта ўцёкі.

М о н ц і
Ды глупства ўсё! Быў сведкам толькі Бог.
Я не стаяў бы тут...

Б о н а
Каб хто пабачыў!
(*Замітусілася.*)
Тут срэбра... Тут адзенне...
(*Спынілася.*)
Сын не змог
ў сабе пераадолець шал сабачы.
(*Паўза.*)

М о н ц і (*асцярожна*).
Хачу я нагадаць пра рэч адну...

Б о н а
Я ўсё ўзяла... Нічога не забыта!

М о н ц і
Пакінем некранутаю казну?
(*Паўза.*)

Б о н а
Ага, сказаў... Не ведаеш нібыта.
Я не казну бяру, а ў сына ў доўг!

М о н ц і
Каб ён паверыць толькі ў гэта змог.

Бона

Ну хопіць, ты ідзі... Я не ў гуморы.
Усім скажы, хай завяршаюць зборы.

Монці

Даўно ўжо ўсё гатова.

Бона

Адпачну.

*Монці выходзіць.*

(*Бона ўздыхае.*)
Як перажыць тут гэту ноч адну?
Ад'ехаць, дачакаўшыся світання,
без гучнага з прыслугай развітання.
(*Паўза.*)
Хай добра тут усё запомняць вочы,
сюды вярнуся ў думках неаднойчы...

*У гасцёўню ўваходзіць мастак Дамінік. Бона не заўважае яго. Дамінік адкашліваецца. Бона азіраецца.*

Ты хто?

Дамінік

Я — Дамінік. Мастак вандроўны.
(*Паўза.*)
Як рады бачыць зноўку твар чароўны!

*Падыходзіць да Боны. Паказвае на партрэт, што вісіць на сцяне.*

(*Працягвае.*)
Вось гэта палатно рукі маёй...

Бона

Пра што ж ты хочаш гаварыць са мной?

Дамінік

*Раптоўна ўкленчвае.*

Не праганяй! І выслухай мяне.
Я спадзяюся, што душу кране
адчай, які не ведае патолі.
Я не знайшоў сваёй тут шчаснай долі.
Вазьмі з сабой...
(*Паўза.*)
Цуд гэты сатвары.
У Рыме ёсць дзівосныя майстры.
Хачу вучыцца.

Бона

Жыў у Радзівілаў?
Тваё жаданне, далібог, здзівіла.

Дамінік

Літва. Айчына. Хай даруе мне.
Тугу чужое неба разамкне.

Бона

Вучыцца хочаш?

Дамінік

Прагаю гару.

Б о н а (*у задумлівасці*).
На тым і спынімся... Угаварыў. Бяру.
(*І нібыта свае думкі прамаўляе ўслых.*)
Сын не ў мяне... Ён іншы. Ён няўмольны.
(*Спахапілася.*)
Ідзі... Ідзі... Да раніцы ты вольны!

*Дамінік было памкнуўся да Боны,*
*але яна ўжо адвярнулася ад яго.*
*Д а м і н і к выходзіць.*

(*Бона працягвае.*)
Стаў непатрэбным, як і я... Барбара!
Бяжыць і гэты, што ж марудзіць кара?!

*У гасцёўню ціхенька ўваходзіць Е ў к а.*
*Бона пазнала яе па кроках.* (*Працягвае.*)

Прыйшла... Хто ў Рыме лютняй залагодзіць?
Е ў к а
Жылі заўсёды з вамі ў добрай згодзе.
Гатова за карэтай днямі бегчы...
Б о н а (*паварочваецца да Еўкі*).
Яшчэ паможаш мне сягоння легчы.
(*Паўза.*)
Не адмяняю я свайго рашэння.
Слуг пакідаю тут без выключэння!
Е ў к а (*ціха*).
Сюды мяне ўзялі за выхаванку.
Б о н а (*абыякава*).
Як хочаш, дык пабудзь ёю да ранку!

*Еўка ўся сцялася.*

Е ў к а (*з раптоўнай нянавісцю*).
Барбара Радзівіл... Нявестка? Так?!
Ды ваш ад'езд для ўсіх нядобры знак.
Яна, бы й я, для вас таксама — пута,
І для яе знайшлася ў вас атрута!

*Еўка амаль выкрыкнула апошнія словы і схамянулася.*
*Паўза. Бона рушыла да дзвярэй. Ля Еўкі прыпынілася.*
*З сілаю пляснула яе па шчацэ. Імкліва выйшла.*

(*Еўка праз паўзу.*)
Не ўлягуцца ніяк! Усе!.. Усе — пачвары!
А мо там здань?! Няўцешнае Барбары...

# «А НА ДУШЫ І СВЕТЛА, І ШЧЫМЛІВА»: ПАЭТЫЧНАЯ СЦЯЖЫНА Р. БАРАВІКОВАЙ

У сучаснай літаратуры Р. Баравікова — адна з вядомых, самабытных майстроў слова. Росквіт яе таленту супаў з 70-мі гадамі, часам «застою», меліярацыі, уціску ўсяго нацыянальнага. Аднак у гэтую эпоху з'явілася цэлая плеяда выдатных паэтаў. У беларускай літаратуры ярка заявілі аб сабе паэты А. Разанаў, У. Някляеў, Я. Янішчыц, В. Коўтун, С. Законнікаў, Т. Бондар. Творчай адметнасцю іх паэтычнага слова была ўвага да складанага ўнутранага свету чалавека, негатываў грамадскага жыцця, пошук арыгінальнага стылю. Паэтычны голас Р. Баравіковай найбольш ярка, натуральна раскрыўся ў лірыцы кахання.

Вытокі свайго паэтычныга таленту Раіса Андрэеўна бачыць найперш у радзінных каранях. «Уся паэтычная спадчына маіх сваякоў, — згадвае паэтэса, — сышлася на мне». Маме, бацьку, дзеду яна прысвяціла шэраг вершаў: «У маці трое... трое нас...», «Вечар з братам», «Хмелю расцвіўшага гронка...», «Памяці дзеда», «Трыпціх», «Жалейка», «Ты не глядзі з трывогай на мяне...» і інш... Гэта пра іх у вершы «А за вёскай дымяцца снягі!» паэтка сказала:

Без радні, з прадчуваннем тугі,
Я жыву, нібы восеньскі люцік!

Бацька Раісы Андрэеўны — Баравікоў Андрэй Мікалаевіч нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Цяхцін Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і сялян Мікалая Алімпавіча і Марыі Мікітаўны. Дзед будучай паэткі Мікола Баравікоў сярод вяскоўцаў слыў асобай паважанай, ведаў мноства цікавых казак і паданняў, быў добрым паэтам-самавукам. Развіць свой талент, аднак, не меў магчымасці: трэба было карміць вялікую сям'ю, сямёра дзяцей. На пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў дзевятнаццацігадовым узросце Андрэй Баравікоў пайшоў са зброяй у руках змагацца з ворагам, партызаніў паблізу Івацэвічаў, Бярозы-Картузскай. Пасля вайны асеў у гэтых мясцінах, на Бярозаўшчыне, працаваў служачым у райвыканкаме. Даводзілася шмат ездзіць па тутэйшых вёсках, у адной з якіх пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай.

Маці, Ніна Уладзіміраўна Баравікова, да замужжа Шыманская, родам з вёскі Пешкі Бярозаўскага раёна. Была адукаванай, скончыла польскую пачатковую школу і ў дзяцінстве нават спрабавала пісаць уласныя вершы на польскай мове. Пасля шлюбу сям'я асталявалася ў Пешках.

Маленства Раісы Баравіковай прайшло на Палессі, якое і да нашых часоў захавала сваю прыгажосць і самабытнасць. На ўсё жыццё ёй запомніліся старыя паляшуцкія хутары з маляўнічымі сядзібамі, рыбнікамі, запалі ў душу гаспадарлівыя, гасцінныя людзі. Як згадвала пазней Раіса Андрэеўна, «падобныя жывапісныя куточкі давялося бачыць толькі ў Жалязовай Волі пад Варшавай, дзе знаходзіцца парк і сядзіба Шапэна». Пазней сям'я пакінула Бярозаўшчыну, якая, аднак, на ўсё жыццё засталася любімай мясцінай паэткі, тым месцам, дзе нарадзілася, зрабіла першыя крокі, пачула матчыну калыханку, дзе пачала пісаць вершы, дзе развіталася са школьнымі сябрамі. Свой сум па сябрах-аднагодках яна выказала на паперы:

Шкада — дзяцінства стала снамі,
далёкай казкай, небыццём.
Мы разышліся, але з намі
жыве сяброўства пачуццё!

*(«Шкада — дзяцінства стала снамі...»)*

Тут, у Пешках, па словах самой Р. Баравіковай, ёй знаёмыя кожная хата, сад, кожная сям'я. Сэрца яшчэ доўга цягнула яе сюды. Не раз наведвала гэтыя мясціны

ў час летніх канікулаў і пазней, калі пачала працаваць у Мінску. Самабытнасць, прыгажосць роднага Палесся знайшлі сваё паэтычнае адлюстраванне ў многіх вершах Р. Баравіковай: «На Ясельдзе маёй зноў крыгаход...», «Шлях-пушча», «Наша вёска», «Восень на Палессі», «Знаёмцеся — саўгас «Малеч», «Вясною на бацькаўшчыне», «Мне ліпень прынясе з-пад Брэста...», «Прыеду я ў той куток зялёны...», «Аднойчы ў Давыд-Гарадку...» і інш. Сваёй прыналежнасцю да Бярозаўшчыны, краю А. Разанава, Н. Мацяш, М. Арахоўскага Раіса Андрэеўна ганарыцца і сёння.

Творчы шлях Р. Баравікова пачала рана. Першы верш напісала ў дванаццацігадовым узросце, калі вучылася ў шостым класе. Ён быў надрукаваны ў Бярозаўскай раённай газеце «Маяк камунізму». 60-я гг. не сталі часам асаблівай плённасці (першая кніга паэткі выйшла ў свет толькі ў 1974 г.), аднак аказалі вялікі ўплыў на паэтычнае сталенне Р. Баравіковай. З дзевятага класа Раіса наведвала літаб'яднанне пры бярозаўскай раёнцы, якім кіраваў цікавы, эрудыраваны журналіст, намеснік рэдактара Яўген Васільевіч Сяленя. Вакол гэтага чалавека гуртавалася таленавітая бярозаўская моладзь: А. Разанаў, Н. Мацяш, З. Дудзюк, А. Казловіч, Р. Бакіевіч... За творчым вопытам звярталіся звычайна да набыткаў больш імянітых замежных папярэднікаў, спадчыны «шасцідзесятнікаў» (У. Караткевіча, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, Е. Лось і інш.).

У 1965 годзе сям'я пераехала на радзіму бацькі ў Бялыніцкі раён. Куток гэты вядомы тым, што на ўскрайку в. Цяхцін у Крынках нарадзіўся славуты жывапісец Бялыніцкі-Біруля. З 1990 года тут штогод праводзяцца міжнародныя пленэры мастакоў. Вось як апела гэты край паэтэса ў адным вершы з цыкла «Васьмірадкоўі апошніх пацалункаў»:

Прываблiваюць пчол кусты карынкі.
Багата іх, бо дзесьці блізка вулей.
І хутка Друць. Ужо мінаем Крынкі,
дзе колісь жыў Бялыніцкі-Біруля.

Р. Баравікова прагла ведаў і зрабіла спробу паступіць на філфак БДУ, аднак не хапіла ўсяго аднаго бала. Давялося год працаваць у Быхаўскай газеце «Маяк Прыдняпроўя». Дапамог у гэтым малодшы брат бацькі Якаў Баравікоў, які працаваў інжынерам у Сельгастэхніцы. Час працы ў газеце быў перыядам творчага станаўлення, пошукаў Р. Баравіковай свайго адметнага паэтычнага голасу. Выпрацоўваліся такія важныя якасці, як сцісласць, дакладнасць, яснасць думкі. Пра карысць газетнай практыкі вядомы рускі літаратар К. А. Федзін пісаў наступнае: «Маладому пісьменніку вельмі карысна праца ў газеце. Гэта школа, замяніць якую ў літаратуры няма чым». Рэдагаваў у гэты час быхаўскую раёнку Георгій Ерамеевіч Барысаў, чалавек улюбёны ў літаратуру, да якога часта завітвалі мясцовыя пісьменнікі. Аднойчы гасцявалі А. Пысін і В. Матэвушаў, якія жылі ў Магілёве. Па прапанове Г. Барысава, знаёмага з літаратурнымі спробамі Раісы Андрэеўны, яны запрасілі маладую супрацоўніцу на літаратурны вечар у раённы Дом культуры. На ім прагучалі і ўласныя вершы паэткі, прыхільна сустрэтыя публікай. А. Пысін падтрымаў жаданне Р. Баравіковай звязаць свой лёс з літаратурай, прапанаваў даслаць вершы на творчы конкурс, параіў паступіць у літінстытут, паклапаціўся аб рэкамендацыі Саюза пісьменнікаў.

Баравікова вучылася на аддзяленні мастацкага перакладу Маскоўскага літінстытута імя М. Горкага, калі яна пасябравала з паэтамі І. Ласковым, С. Басуматравай, Л. Філімонавай, А. Кабаковіч, з якімі вучылася разам у нешматлікай беларускай групе, якая рыхтавалася для літаратурнай працы ў рэспубліцы. Тут, у Маскве, асабліва востра адчула Р. Баравікова тугу па родным краі, блізкіх. Вобраз Радзімы ў яе творах асацыіраваўся з сэрцам, кветкай рамонка, матчынай хатай:

Сумую — мой лёс — гарэза
Выносіць на хвалях хуткіх
У чысты да слёз бярэзнік,
У царства алешын гнуткіх.

Бывала, ў далонях люляла,
Тулілася целам гарачым,
Рамонкам заўсёды ўяўляла
Цябе ў летуценнях дзіцячых!
І бегла, дзе жыта радзіла,
Збожжа насіла ў вядзерцы,
Іду да цябе, Радзіма,
З матчынай песняй у сэрцы!

*(«Прыводзяць шляхі-дарогі»)*

Ужыты тут паэтычны вобраз рамонкавай Радзімы зноў прагучаў у вершы, што даў назву першаму зборніку паэткі «Рамонкавы бераг» (1974), напісанаму, бадай, у літінстытуце. Адметна, што ўжо ў ранніх вершах Р. Баравікова не абмяжоўвалася рэгіянальным. Цэнтральным матывам яе паэзіі стала любоў да Бацькаўшчыны, што акрэсліла шматграннасць і багацце духоўнага свету лірычнай гераіні, якая па-жаноцку паэтычна, эмацыйна сцвярджала: «Я — вясноваю калінай — глыбока урасла ў сваю зямлю!» («На Беларусі ціха плачуць кані...»), «у далонях тваіх так хораша, Беларусь!» («Мне не хапае тых шумных вуліц...»)

Лірычная гераіня зборніка «Рамонкавы бераг» — эмацыйна-рамантычная «дзівачка», «пушынка», «дзяўчынка на шары», для якой зямля — нібыта маленькі мячык, а жыццёвыя праблемы ўяўляліся несур'ёзнымі, дробязнымі, часовымі. Аднак сваёй трапяткой жаночай прыродай яна выразна адчула, што Сусвет — гэта стыхія, магутная і не падуладная крохкаму, пяшчотнаму сэрцу:

Бушуюць грывастыя хвалі,
хаваюць гады ў глыбіні,
і тонуць у пеністым шквале
нястройнаю музыкай дні...

*(«Прымае і шчасце і гора...»)*

Адсюль і характэрныя мастацкія тропы ранніх вершаў паэткі —«высокае бяздонне» неба, «вялікасны» вецер, «агромністае» сонца...

Аўтары рэцэнзій на першую кнігу — Т. Гаўрусёва, А. Кісліцына, В. Бечык, М. Тункель, Ф. Яфімаў — дакладна выявілі тыя рысы, якія сёння вызначаюць творчае аблічча Баравіковай-паэткі, яе таленту, тады яшчэ шмат у чым не акрэсленага: шчырасць і культуру пачуцця, імпульсіўнасць паэтычнага голасу, фальклорнасць твораў. Сімвалічна, што першае слова пра дэбют маладой паэткі сказаў В. Бечык. Моцным «бокам» яе паэзіі вядомы крытык справядліва назваў тое, што «ў характары лірычнай гераіні Р. Баравіковай выразна адчуваецца даверлівая адкрытасць жыццю, душэўная чуйнасць да прыгожага, прага шчырасці і дабраты ў чалавечых адносінах». У 1977 г. паэтэса ўступіла ў суполку Саюза пісьменнікаў СССР.

У 70-я гады выйшаў у свет яшчэ адзін зборнік Р. Баравіковай «Слухаю сэрца» (1978). У ім выразней загучалі вершы сентыментальна-тужлівай інтанацыі. Лірычная гераіня — былая рамантычна-імпульсіўная дзяўчынка («Імчу! Лячу! Лясы наўкола!.. Крычу жыццю: «Іду на «Вы»), гатовая імчаць «навыперадкі з часам, з лёсам», не задумваючыся, ці чакае гэтага прыходу Сусвет, грамадства, нечакана адчула ў сабе сталасць. Больш прывабным для яе стаў «лёгкі смутак на душы», чымсьці будзённая мітусня і турботы. «Мне цяжка зразумець, чаму на свеце // так мала адзіноты для душы» — задаецца пытаннем гераіня верша «Зіма, зіма, сыпні калючым снегам». Туга на душы ў тым ліку і ад усведамлення хуткаплыннасці, незваротнасці часу: «Каб змагла я, вечна маладая, // з жалем не лічыць апалых год». Фальклорны вобраз «вясны», увасаблення маладосці выкарыстоўвае паэтэса згадваючы мінулае, калі шчасце даводзілася «майстраваць толькі алоўкам на стосе папер, калі «імгла мяла, падмінала, круціла». Жаданне «маладосць нанова перажыць» для лірычнай гераіні — своеасаблівы стан душы.

У зборніку «Слухаю сэрца» Р. Баравікова, быццам адчуўшы настальгію па незваротна страчанай «вясковасці», актыўней пачала асэнсоўваць народна-песенныя



*З Іванам Шамякіным і Анатолем Бутэвічам.*

матывы. У гэтай сувязі У. Гніламёдаў, даследуючы асаблівасць творчага самавыяўлення Баравіковай, адзначыў, што «ў яе паэзіі добра адчуваецца сувязь з нацыянальнай традыцыяй, якая карэніцца ў глыбінях мастацкага светаадчування народа». Фальклорны, меладычна-песенны матэрыял з'яўляецца дамінантай такіх твораў, як «Барыня-сударыня», «Забывай мяне, калі поруч», «Наша вуліца каруселіца», «У мяне, любы мой, карабель» (нізкі вершаў «З бабуліных песень» і «Заброддзе»).

Найбольш ярка тэмперамент і характар паэтычнага светабачання аўтаркі зборніка «Слухаю сэрца» раскрыўся ў лірыцы кахання, асабліва ў такіх шэдэўрах, як «А на душы і светла, і шчымліва...», «Стракатасць выставачнай залы...» Між іншым, у Р. Баравіковай ёсць і творы антынамічнай інтанацыі, лірычная гераіня якіх — асоба супярэчлівая, з неакрэсленай жыццёвай пазіцыяй, з уласцівымі ёй часовымі меладраматычнымі спадамі. «Ах, не трывожце, сэрцу так балюча! // Ах, не прыходзьце прывідам у сны» — катэгарычна вызначае ўзаемастасункі з каханым гераіня верша «Зорка палявая». І ўжо ў наступным творы пярэчыць сама сабе: «А ты прыйдзі, яшчэ не позна, // ты перадумай, пазвані» («Прастора спазняецца ў руху»). Каханне для Баравіковай — гэта чысціня і святасць, узаемнасць, якая не стасуецца з абразай і прыніжэннем іншага:

Мне поруч з Вамі не ісці,
бо не ўжываецца з паклонам
каханне, што лягло праклёнам
на высмяглым маім жыцці.

*(«Якая справа да пары»)*

Аднак наступныя радкі, быццам одум пасля паспешлівых сцвярджэнняў, канстатуюць гатоўнасць лірычнай гераіні да самаахвярнасці ў каханні:

З табою не была шчаслівай,
а без цябе і жыць не варта...
І пакланюся нізка ў пояс,
нібыта ў нечым вінавата.

*(«Апошняя сустрэча»)*

Пасля вучобы Р. Баравікова трапіла на пасаду рэдактара кінастудыі «Беларусьфільм». Тут, у сталіцы, пазнаёмілася са сваім будучым мужам. Праз некаторы час сям'я папоўнілася сынам Яўгенам (1974) і дачкой Аленай (1983), якім пісьменніца прысвяціла шмат паэтычных радкоў.

Пісьменніца належыць да пакалення 70-х, якое часам называюць «страчаным», «дзецьмі застою». Відавочна, аднак, што тагачасны ідэалагічны ўціск закрануў пераважна літаратараў-кан'юнктуршчыкаў, тых, хто працаваў на кар'еру. Думаецца, сёння не зусім дарэчы распаўсюджанае азначэнне гэтага перыяду як «эпохі эгаізму». Заўважым, менавіта пачынаючы з 70-х гадоў, творчая інтэлігенцыя, асабліва кампазітары, мастакі, пачалі актыўна збірацца, ладзіць вечарыны, «тусоўкі». У гэты час Р. Баравікова пасябравала з мастакамі Яўгенам Коктышам, Аляксеем Марачкіным, кампазітарамі Леанідам Захлеўным, Эдуардам Зарыцкім, Валерыем Івановым... Асабліва цёплыя стасункі склаліся з трыма землякамі: крытыкам Алай Кабаковіч, кінарэжысёрам Міхаілам Пташуком і мастаком Міколам Селешчуком. Сёння палотны гэтага жывапісца ўпрыгожваюць лепшыя музеі Еўропы і Амерыкі, прыватныя калекцыі. Менавіта Селяшчук ілюстраваў паэтычныя кнігі Р. Баравіковай «Слухаю сэрца» і «Такое кароткае лета». Зрабіць афармленне зборніка выбраных твораў ён, на жаль, не паспеў — трагічна загінуў у падарожжы па Міжземным моры. Дбаннем аўтаркі, аднак, на вокладцы сваёй апошняй кнігі «Сад на капялюшыку каханай» з'явіўся фрагмент карціны М. Селешчука «Восень», як знак удзячнасці і памяці. Цікава, што і назва паэтычнага зборніка «Адгукнуся голасам жалейкі» — не што іншае, як радкі аднаго з вершаў аўтаркі, эпіграфам да якога з'яўляецца назва карціны М. Селешчука «З твайго саду да мяне на агеньчык». Светлай памяці сяброўкі А. Кабаковіч прысвечана цэлая нізка вершаў «Пастукайся ў акно маё галінай» са зборніка «Каханне». Асэнсаванне пачуцця «сяброўства» як жыццёвага ўзвышэння, выклікала ў паэткі элегічны настрой, адчуванне непазбежнасці смерці, вызначэнне часу як вышэйшага боскага суддзі:

Сляза не блісне радасцю з-пад вейкі,
не свеціць нават таннай славы лаўр...
З нас кожны — ад Купалавай жалейкі,
і кожны, — як апошні дыназаўр.

*(«Сябрам-паэтам»)*

Адметнае месца ў паэтычнай спадчыне Р. Баравіковай належыць зборніку «Каханне». Вершы гэтай паэтычнай кнігі не столькі ўласна пра ўзаемастасункі мужчыны і жанчыны, як гэта традыцыйна падаецца крытыкамі, колькі адлюстроўваюць адметны свет душы сучасніцы, якая сваёй прыродай здольная адчуць патаемны рух жыцця, гармонію духу. Нават трагізм пачуцця кахання, якое бачыцца лірычнай гераіні ў вобразах «салодкай тугі», «адбалелай мары», «горкай надзеі», гарманічна ўраўнаважаны аптымістычнымі нотамі:

Пад шум ракі, пад шолахі бярозы,
пад веснавую шчырасць жаўрука
ў маіх радках ты прачытаеш слёзы,
ад іх не ўздрыгне ўпартая рука.

*(«Пад шум ракі...»)*

Выключна згарманізаваны эмацыйны тонус паэтычнага радка Р. Баравіковай — ад імкнення аўтаркі спасцігнуць сутнаснае свайго жыццёвага шляху, у выніку якога яна прыходзіць да наступнай высновы: «Сказаць не магу, каб была я няшчаснай» («Зачэпіцца сонца...»). Лірычная гераіня адчувае душэўны спакой, калі ўзгадвае клапатлівага дзеда, бацьку — дбайнага гаспадара, маму-працаўніцу, вялікую верніцу («Любоў», «Дзяды», «Зіма. Дарога ў Цяхцін» і інш.). Суладдзе пачуццяў гучыць і ў урбаністычных творах паэткі. Горад, ва ўяўленні Р. Баравіковай, абавязкова «прыгажун», «у бляску электрычнае вясёлкі», у ім

«мігцяць санлівых вуліц рыцары-агні» («Зімовы вечар», «Раніцай на Камароўцы», «А давай, як у даўнішнім» і інш.).

Лірычная гераіня вершаў пра каханне пераканана, што ў інтымных міжчалавечых зносінах эпіцэнтрам пачуццяў не можа быць цвярозая логіка, прагматызм, эгаізм. На думку паэткі, каханне толькі тады здольнае перайначыць, узвысіць чалавека, калі яно асвечана душэўнай шчырасцю:

Гляджу на ўсё вачамі маладымі,
І гнеўнымі, і добрымі ўдвая...
Каханне і прынізіць, і... узніме,
пакуль у ім жыве душа мая.

*(«Казаў мудрэц: яно — і нараканне...»)*

У 1990 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў зборнік выбранай лірыкі «Пад небам першага спаткання», які аб'яднаў лепшыя творы з папярэдніх кніг. Чарговы паэтычны зборнік «Люстэрка для самотнай» азначыў творчы рост Р. Баравіковай. З'явіліся новыя рыфмы, вершы загучалі больш элегічна, спавядальна:

Такія балючыя ўскрыліся струны,
як жыць з гэтым будзем і што тварыць,
калі ёсць пакрычаць з кім з высокай трыбуны
і няма з кім пагаварыць.

*(«О не, — прамоў няма ўрачыстых...»)*

Паэтцы скрушна прызнаваць, што ў сэрцах беларусаў апошнім часам паме						нела дабрыні, спагады, чысціні. Споведзь Баравіковай — вынік перажытых расчараванняў, жыццёвых трагедый, непрымання няшчырасці, ілжы, страты духоўнасці ў грамадстве. Душа паэткі трывожыцца за лёс беларускай нацыі («Адраджэнне»), журыцца за стан нацыянальнай мовы («Чаму?», «Пераплятуцца гукі «дж» і «дз»), хвалюецца за лёс без весткі прапаўшых на Афганскай вайне («На перавале Саланг»), устурбавана наступствамі астрожнага мінулага народа («Наконт мінулага»), абураецца духоўным спусташэннем сучаснікаў («Схапіць... Купіць... І кожны ўжо бы п'яны!»). У зборніку «Люстэрка для самотнай» паэтычнае слова Р. Баравіковай загучала больш роздумна. Паэтка імкнецца асэнсаваць тонкія нюансы сваёй пачуццёвасці:

Ёсць і ў пачуццях нашых межы, —
свой час згасання і агню.

*(«Напэўна, мне не прыдалося»)*

Душа, на думку аўтаркі, — нязведаная «скарбонка пачуцця», а сэнс чалавечага існавання — адорваць духоўнасцю іншых:

Хай цела — тлен...
Ад тлену не прыбудзе,
ды вырвецца калісь на волю дух!
І што з душы аддаць паспею людзям,
яно і ёсць быццё адвечны рух.

*(«Жыву, і, дзякуй, не ў прасторы голай»)*

У свой час паэтэсу папракалі за празмернае перайманне класікаў. Мабыць, мела рацыю А. Кабаковіч, калі адзначала «недарэчнасць» у вершах пра каханне Багдановічавых вобразаў з «Пагоні» («Вось ляціць яна зоркаю ўночы, // не злавіць, не схапіць, не дагнаць!»). У зборніку «Люстэрка для самотнай» заўважны творчы падыход аўтаркі да вопыту папярэднікаў. Распрацоўваючы тэму «цяжарнай», якую паэты найчасцей увасаблялі як тэму жанчыны-пакутніцы (В. Брусаў, М. Багдановіч, М. Рудкоўскі і інш.), Р. Баравікова выявіла свой погляд на жыццё. Цяжарная жанчына ў яе — асоба сарамлівая, якая нясе ў свет «каханне — шчас-

це і працяг быцця» («Сарамлівасць юнай»). За кнігу паэтэса была ўганаравана Дзяржаўнай прэміяй імя Янкі Купалы.

У 80-я гады сярод беларускіх паэтаў стала папулярным асвойваць новыя для сябе жанры. Для адных літаратараў гэта было мастацкай модай, для іншых, да ліку якіх належыць і Р. Баравікова, — праяваю творчага росту, які не мог стрымліваць аўтара межамі «звыклага» жанру. Згадаем, падобнае фармавае пераўвасабленне некалі перажылі і П. Броўка, і Е. Лось, і Л. Дайнека... Раіса Андрэеўна таксама ў гэты час пачала спрабаваць свае сілы ў прозе, вынікам чаго з'явілася юнацкая аповесць «Кватарантка». Сама аўтарка палічыла гэты твор перанасычаным наіўным дыдактызмам, выключна няўдалым, своеасаблівай данінай часу.

У 1991 годзе была напісана драматычная паэма «Барбара Радзівіл». Хуткім часам аўтарка паказала яе тады яшчэ галоўнаму рэжысёру Віцебскага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Валерыю Мазынскаму, які набыў на сцэнічных памостках славу пастаноўкамі драматычнай спадчыны У. Караткевіча. Таленавіты рэжысёр зацікавіўся новым творам Раісы Андрэеўны і параіў перастварыць яго па ўсіх тэатральных законах. У 1994 годзе адбылася прэм'ера «Барбары Радзівіл» у тэатры-лабараторыі «Вольная сцэна». І толькі ў 1998 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» п'еса выйшла ў свет.

Акрыленая першым поспехам у драматургіі, у 1996 годзе Р. Баравікова напісала п'есы «Цётка Малання з Асаўца» і «Пятля часу». Спектакль па гэтай п'есе быў пастаўлены ў Магілёве ў народным тэатры пры Палацы чыгуначнікаў. Сама ж п'еса на конкурсе Міністэрства культуры пад дэвізам «Гісторыя і сучаснасць» была адзначана другой прэміяй.

У 90-я гады Р. Баравікова спрабавала рэалізаваць сябе і ў жанры апавядання. Творы, што выйшлі ў свет на старонках «ЛіМа», «Полымя», «Беларусі», раскрылі талент аўтаркі ў выяўленні жыццёвай фантастыкі. Гэтыя творы пазней аб'ядналіся ў кніжку «Вячэра манекенаў». Гэтую грань свайго даравання пісьменніца спрабавала раскрыць і ў творах для дзяцей. У 1990 годзе выйшла ў свет кніжка казак і апавяданняў «Галенчына «Я», альбо Планета Цікаўных хлопчыкаў», а ў 1996 годзе — кніга фантастычных аповесцей. Р. Баравікова піша рэцэнзіі, выступае ў перыёдыцы з артыкуламі. «Не ведаю, як будзе далей, — гаворыць пра творчыя перспектывы сама пісьменніца, — але пакуль я не адчуваю свайго ўзросту, думаю, што для паэта гэта важна. І па-ранейшаму адчуваю сябе рамантыкам, узнёслай «дзяўчынкай на шары».

***Вячаслаў Смаль***

***Пра творчасць Р. Баравіковай пісалі:***

Бондар Т. «Радок у сталасць», Беларусь, 1981, № 1.

Гніламёдаў У. «Сучасная беларуская паэзія», Мн. 1983 (с.245—246).

Марціновіч А. «Сэрца шматгалосая струна», Работніца і сялянка, 1978, № 10.

Шпакоўскі А. ««Гарачы подых пачуцця», Маладосць, 1979, № 8.

Кабаковіч А. «Люблю, надеюсь, ожидаю», Литературная учёба, Москва, 1984, № 1.

Куренев Г. «Слово о поэте» (Молодые поэты Белоруссии), Москва, 1979.

Чабан Т. «Традиция обязывает», Неман, 1984, № 3 і інш.



СТАРОНКІ ЛЁСУ



Зіновій ПРЫГОДЗІЧ

# ТРЫ СУСТРЭЧЫ З МІХАСЁМ САВІЦКІМ

*Іх, гэтых сустрэч, на працягу двух з паловай дзесяткаў гадоў, як мы знаёмыя з Майстрам, было, канечне ж, намнога больш. Я ўзгадаў тры з іх — найбольш важныя, ключавыя, што адбыліся на пераломе часу, у самыя адказныя, вызначальныя моманты жыцця нашай краіны.*

## СКРОЗЬ АГОНЬ, ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ

***Сустрэча першая, снежань 1986 года***

Група журналістаў-слухачоў Мінскай партыйнай школы папрасіла мяне, загадчыка кафедры, арганізаваць сустрэчу з М. А. Савіцкім, народным мастаком СССР, у нефармальнай абстаноўцы, каб можна было няспешна, душэўна пагаварыць.

М. А. Савіцкі запрасіў нас да сябе на чай у майстэрню.

— Міхаіл Андрэевіч, Вы нарадзіліся ў вёсцы, у вельмі цяжкі передваенны час. Адкуль гэтая рамантычная мара стаць мастаком? Калі Вы ім сябе адчулі?

— Так, нарадзіўся я ў самай што ні на ёсць беларускай глыбінцы. Ёсць такая чыгуначная станцыя Коханава. Гэта паміж Оршай і Талачыном. Дык вось, мая родная вёсачка Звінячы прыляпілася да гэтай станцыі, як ластаўчына гняздо.

Вёска была настолькі малой, што не мела нават пачатковай школы. І мне давялося хадзіць за некалькі кіламетраў у суседнюю. А школу канчаў ужо ў мястэчку Коханава.

Вы кажаце, час быў цяжкі. Так, цяжкі, але і шчаслівы. Ішло станаўленне савецкай улады, стваралася камсамольская арганізацыя. Мае старэйшыя браты (а іх у мяне было трое, на жаль, усе яны загінулі ў час вайны), дык вось браты мае знаходзіліся ў цэнтры падзей. Пастаянна арганізоўвалі нейкія мерапрыемствы, спектаклі, сходы. Я, вядома ж, заўсёды тырчэў побач. Гэта не магло не адбіцца на маім развіцці. І да школы, і ў школе я вельмі многа чытаў. Прычым сур’ёзную літаратуру. Я ведаў на памяць усю «Новую зямлю». Мог гадзінамі дэкламаваць Пушкіна.

---

***Прыгодзіч Зіновій Кірылавіч** нарадзіўся 15 кастрычніка 1944 года ў вёсцы Лышча, што на Піншчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў у газеце «Звязда», у ЦК КПБ, загадчыкам кафедры Мінскай ВПШ, быў галоўным рэдактарам газеты «Советская Белоруссия», першым намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку. Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня». Кандыдат філасофскіх навук, дацэнт.*

Як прыйшло жаданне стаць мастаком? Напэўна, яно нарадзілася разам са мною, таму што колькі сябе памятаю, я заўсёды нешта маляваў. А аднойчы бацька падарыў мне дзве паштоўкі — «Масленицу» Кустодзіева і «Баярыню Марозаву» Сурыкава. Я разглядваў рэпрадукцыі і здзіўляўся: як усё здорава намалявана! Людзі нібы жывыя, нібы сапраўдныя. І тады маё яшчэ неакрэсленае жаданне перарасло ў ясную і цвёрдую мару — стаць мастаком. Хоць, па праўдзе кажучы, я нават дакладна не ўяўляў сабе, што гэта такое. А вось па-сапраўднаму адчуў сябе мастаком даволі позна. Ужо пасля сарака. Калі напісаў карціну «Партызаны». Пасля яе да мяне прыйшла ўпэўненасць, што я магу нешта рабіць.

— А як складваўся Ваш жыццёвы і творчы шлях?

— Пасля заканчэння школы ў 1940 годзе мяне прызвалі ў армію. Калі пачалася вайна, я служыў на палігоне ў Чачні. У складзе 345-й стралковай дывізіі нас дэсанціравалі ў Севастопаль. Прама з караблёў мы ішлі ў бой.

Усе 250 дзён і начэй абароны горада я быў у гэтым жудасным пекле. Але сапраўднае пекла мне давялося перажыць пазней, калі пасля падзення Севастопаля я разам з нямногімі абаронцамі, хто застаўся жывы, трапіў у нямецкі палон.

Па этапе нас канваіравалі ў Румынію, а пасля ў Германію. У Дзюсельдорфе працаваў на вагонным заводзе. Старэйшыя таварышы прынялі ў дыверсійную групу. Мы рабілі вагоны так, што яны, толькі выехаўшы за прахадную завода, развальваліся.

Калі вынікі нашай «работы» сталі відавочнымі, мы вырашылі ўцякаць. Няўдала. Немцы нас злавілі, пасадзілі ў турму. Потым былі спробы яшчэ і яшчэ. Скончылася ўсё камерай смяротнікаў. Мяне павінны былі павесіць. Не паспелі, відаць, таму, што наблізіўся фронт.

Нас пагналі пехатой у Бухенвальд. Там зноў маё жыццё вісела на валаску. Я ўжо быў на чарзе ў крэматорый, калі нечакана адчыніліся вароты і немцы, адлічыўшы некалькі дзесяткаў чалавек, якія стаялі ззаду, пагрузілі ў вагоны і кудысьці павезлі.

Так я апынуўся ў Дахау. Страшны, жахлівы лагер. Выйсце адсюль было альбо ў трубу, альбо ў яму. Мяне выратавала тое, што я захварэў на тыф, а немцы да такіх хворых стараліся не падыходзіць. Заганялі ў спецыяльны барак і пакідалі паміраць.

Але мне ўсё ж суджана было выжыць. Амерыканскія войскі, якія ўварваліся ў Дахау, вызвалілі і нас, вязняў канцлагера.

Потым мяне разам з іншымі вязнямі перадалі савецкім вайскоўцам. Я быў такі знясілены, што не мог нават самастойна хадзіць. У ваенным лазарэце мяне падлячылі, трохі адкармілі і па маёй настойлівай просьбе пакінулі ў арміі, мастаком.

Вось з гэтага моманту, можна сказаць, і пачалася мая творчая біяграфія. Яна, між іншым, складвалася таксама няпроста.

Пасля дэмабілізацыі я прыехаў у Мінск, паступіў у мастацкае вучылішча. Скончыўшы яго, у 1951 годзе стаў студэнтам Маскоўскага мастацкага інстытута імя Сурыкава. З дыпломам прафесійнага мастака ў 1957 годзе вярнуўся ў Мінск.

Аднак дыплом, нават такога праслаўленага інстытута, як сурыкаўскі, ніякіх прывілей не даваў. Сваё месца пад сонцам трэба было заваёўваць. Працай. Творчасцю. Пошукам і выпрацоўкай свайго стылю, свайго слова ў мастацтве.

У тыя гады я разумеў: рэалізм і толькі рэалізм дае мастаку найшырэйшы прастор для рэалізацыі творчых задум. На жаль, адэпты сацыялістычнага рэалізму дагматычна тлумачылі асноўныя прынцыпы гэтага метаду, свядома звужаючы ягоныя магчымасці, падштурхоўваючы мастака да ролі простага фіксатара жыццёвых рэалій, песняра камуністычных будняў.

Я паспрабаваў напісаць некалькі карцін такога плана і пераканаўся, што на гэтым шляху нічога плённага мяне не чакае.

І я ўзбунтаваўся. Як жа можна зводзіць мастацтва да звычайнай фатаграфіі? Навошта пазбаўляць рэалізм канфліктнасці, драматызму? У жывапісных палотнах мне хацелася выказаць не толькі боль і крык уласнай душы, але і вострыя супярэчнасці часу.

Пяць гадоў спроб і памылак, бясконцых пошукаў сваёй тэмы, сваіх выяўленчых сродкаў, пяць гадоў катаржнай працы прынеслі нарэшце першы поспех. Карціна «Партызаны», якую я ўжо згадваў, звярнула на сябе ўвагу маіх калег. Аднак адчувалася, што яны яшчэ ўсур'ёз мяне не ўспрымалі. І толькі праз чатыры гады, калі карціна «Партызанская мадонна» зрабіла фурор на Усесаюзнай выставе ў Маскве, выклікала ўзнёслыя водгукі сталічных крытыкаў, толькі пасля гэтага пра мяне загаварылі і ў Беларусі.



*Чарнобыльская Мадонна. 1989 г.*

Не, бясхмарным мой творчы шлях не назавеш. Спачатку мяне абвінавачвалі ў сервільнасці, у казённым аптымізме, штучным пафасе. Пасля вастрыё крытыкі павярнулі на 180 градусаў, папракаючы ў фармалізме. Адзін час давялося нават сур'ёзна адбівацца ад абвінавачванняў у плагіяце. А ўжо колькі на мяне вешалі розных ідэалагічных сабак! Я стараўся звяртаць на гэта як меней увагі і як мага болей працаваць. Дзякуючы гэтаму мне, можа быць, сёе-тое і ўдалося ў сваім жыцці зрабіць.

— Міхаіл Андрэевіч, а як нараджаюцца Вашыя карціны? Гэта працэс працяглага абдумвання, карпатлівай падрыхтоўкі ці задума ўзнікае імгненна, як успышка маланкі?

— Па-рознаму бывае. Іншы раз нейкая нязначная падзея, просты эпізод дае раптам штуршок нечаканай творчай задуме. Ішоў я неяк па вуліцы Веры Харужай да сябе ў майстэрню і непадалёку ад Камароўкі ўбачыў, як дзве жанчыны нясуць да аўтобуса сумкі з хлебам. А адна — нават проста так, на выцягнутых руках, як дровы. І вось яна аб нешта спатыкнулася, і боханы хлеба пасыпаліся ў гразь. Я памог падабраць хлеб і пайшоў сваёй дарогай. Мне заставалася прайсці 100—150 метраў да майстэрні, і ў мяне ў галаве нарадзілася карціна «Хлябы». А рэалізацыя задумы — гэта ўжо справа таленту, майстэрства, тэхнікі.

А вось цыкл карцін «Лічбы на сэрцы» нараджаўся доўга, пакутліва. Ну, папершае, я думаў, што за гэту складанейшую тэму возьмецца хто-небудзь іншы, больш таленавіты. Аднак час ішоў, а твораў усё не было. У лепшым выпадку з'яўляліся карціны рэпартажнага плана. Па-другое, каб прыступіць да рэалізацыі такой мастацкай задумы, патрэбна была ўпэўненасць, што я з ёю спраўлюся, не загублю. І, па-трэцяе, каб з максімальнай паўнатой выказаць увесь трагізм, увесь жах, які давялося перажыць у фашысцкіх канцлагерах, і яшчэ нешта большае, што не давала супакою маёй душы ўсе гэтыя гады, неабходна было шукаць новыя формы, новыя мастацкія сродкі. І, калі я нарэшце «даспеў» па ўсіх гэтых пунктах, толькі тады пачаў працаваць.

— «Партызанская мадонна», пра якую Вы ўзгадвалі, стала, як нам здаецца, не толькі зорным імгненнем першага сапраўднага поспеху, але і своеасаблівай вехай у Вашай творчасці. Цікава, што паслужыла штуршком для стварэння гэтай карціны?

— Мацярынству ў мяне прысвечана нямала карцін. Чаму? Думаю, гэта зразумела і падрабязных тлумачэнняў не патрабуе.

Але «Партызанская мадонна» — выпадак асаблівы.

Напярэдадні 50-годдзя Кастрычніка мне пазванілі з Масквы і запыталі, што збіраюся паказаць на выставе, прысвечанай гэтай даце. Я адказаў, што хацеў бы напісаць карціну пра Беларусь ваенных гадоў. Але раскрыць тэму збіраюся не зусім традыцыйна, праз мацярынства. Пасля некаторай замінкі мне сказалі: «Добра».

І я стаў думаць. У мяне звычайна такі метад працы: стаўлю мальберт, бяру пэндзаль у рукі і пачынаю думаць. Раблю адну тонкую лінію, пасля другую. Задума паступова пачынае набываць пэўныя абрысы. Але да канчатковага варыянта яшчэ ой як далёка. Задума паварочваецца і так, і гэтак, карціна ўвесь час дапрацоўваецца, дапаўняецца, узбагачаецца.

Агульная задума «Партызанскай мадонны» ў мяне ў галаве склалася даўно. А вось цяпер неабходна было перанесці на палатно, удыхнуць у яе жыццё. Мне захацелася ў гэтай карціне спалучыць, здавалася б, неспалучальнае: вялікае, манументальнае і адначасова зямное, жыццёвае — гераіку вайны, патрыятызм беларускіх людзей і простае мацярынскае шчасце.

І, здаецца, мне гэта ўдалося, што прызналі нават крытыкі, якія ніколі не ставіліся да мяне прыхільна.

— Міхаіл Андрэевіч, даводзілася чытаць у газетах, што Вы пераймаеце то мастацкую манеру Пятрова-Водкіна, то вялікіх мексіканцаў Дзіега Рыверу і Хасэ Клімента Ароска. А хто на самой справе з'яўляецца Вашым настаўнікам?

— У чым толькі мяне ні папракалі. Што ж, зайздрасць чалавечая, на жаль, — звычайная з'ява ва ўсіх сферах нашага жыцця. А ў мастацтве — асабліва.

Што я магу на гэта адказаць? У нашай справе любое перайманне раўназначна смерці. Ніколі нічога людскага не створыш, падладжваючыся пад нечы стыль, пад нечую манеру. У мастацтве трэба ісці толькі сваім шляхам і гаварыць сваім голасам, выказваючы пры гэтым уласныя пачуцці, уласныя думкі, уласны боль. І, паверце, калі б я рабіў інакш, я ніколі не атрымаў бы таго прызнання, якое, дзякуй Богу, маю сёння.

А што датычыцца настаўнікаў у прамым сэнсе гэтага слова, то, вядома ж, яны ў мяне былі. На розных этапах жыцця. Да гэтага часу ўспамінаю іх з цеплынёй і ўдзячнасцю. Вось, скажам, Мачальскі Дзмітрый Канстанцінавіч. Народны мастак Расіі. Акадэмік. А самае галоўнае — цудоўны, вельмі цікавы чалавек. Ён вучыў мяне мысліць. Вы можаце сказаць: але ж жывапіс не філасофія, тут важна перадаць настрой, пачуцці і ўразіць гэтымі пачуццямі гледача. Таму куды больш важна вучыцца майстэрству, сакрэтам прафесіі. А вось Дзмітрый Канстанцінавіч лічыў, што карціна павінна пачынацца з думкі. Калі чалавек не зусім дакладна ўяўляе, што ён сабраўся рабіць, што ён хоча сказаць людзям, наўрад ці што-небудзь вартае ў яго атрымаецца. Добры мастак не той, хто спраўна малюе, а той, хто добра думае. Я гэта правіла засвоіў для сябе на ўсё жыццё.

— Ці адчуваеце Вы ўплыў на сваю творчасць іншых відаў мастацтва і, у прыватнасці, твораў літаратуры?

— Усе іншыя віды мастацтва розныя. Але яны маюць і адно агульнае — фарміруюць духоўны, маральны свет чалавека. Тым і каштоўныя. І я, вядома ж, стараюся сачыць за ўсім, што адбываецца ў мастацтве, радуюся яго поспехам, засмучаюся няўдачам. Хоць асабіста для мяне вялікую ролю ў агульным развіцці іграе літаратура. Але не як крыніца сюжэтаў, тэматыкі, а як узор мыслення, самааналізу. Творы Талстога, Дастаеўскага — гэта здзіўляючай сілы самааналіз. Лічу, што гэтаму можна і трэба вучыцца кожнаму мастаку.

— Ці спалучальныя талент і амаральнасць? Як Вы лічыце?

— Не, неспалучальныя. Бо мастацтва па сваёй сутнасці з'яўляецца агромністай сілай, якая аказвае на чалавека ўсёабдымны ўплыў. Яно выхоўвае маральны ідэал, пачуццё цудоўнага. Мяркуйце самі: ці можа мастак, нават самы таленавіты, выяўляць у сваіх творах гэтыя якасці, калі ён іх не адчувае ў сваёй душы?

Адметныя ўласцівасці сапраўднага таленту — гэта шчырасць, служэнне ісціне, дабру, святлу. Хоць на практыцы ўсялякае бывае. Таленавіты чалавек часам робіць амаральны ўчынак. І ў жыцці, і ў сваёй творчасці. Бог яму суддзя, калі гэты ўчынак адзінкавы, выпадковы. Калі ж амаральнасць становіцца нормаю паводзін, талент непазбежна пакідае чалавека.

— А якімі наогул якасцямі павінен валодаць мастак? Чаго больш у вашай прафесіі — працы ці таленту?

— Мне не зусім ёмка гаварыць пра гэта: як бы не атрымалася нейкай самапахвалы. Але калі вы ўжо задалі пытанне, пастараюся на яго адказаць.

Безумоўна, мастак пачынаецца з таленту. З таго, што даецца нам ад прыроды альбо ад Бога, як хочаце. Аднак, якім бы значным ні быў талент, — аднаго гэтага мала. Чалавек павінен усё жыццё настойліва развіваць свой прыродны дар.

Яшчэ яму неабходна глыбока ведаць жыццё. Без гэтага цяжка разлічваць на шырокае разуменне і прызнанне. Нельга мастаку і без фантазіі. Інакш праўда жыцця будзе занадта прыземленай, бяскрылай. У гэтым — адметная асаблівасць мастацтва, яно спалучае ў сабе дзве, здавалася б, узаемавыключальныя рэчы: веды і фантазію.

Што яшчэ? Я ўжо гаварыў, паўтару яшчэ раз, таму што ў гэтым заключаецца галоўнае нашага мастацтва: мастак павінен служыць не асобам, а ісціне і дабру, быць патрыётам сваёй Айчыны.

І апошняя (апошняя па ліку, але не па значэнні) якасць — працалюбства. Мы ведаем дзесяткі, сотні прыкладаў, калі лянота, п’янства, разбэшчанасць поўнасцю загубілі немалы ад прыроды дар. Нездарма ж нехта з вялікіх сказаў, што геній — гэта на 90 працэнтаў праца, а ўсё астатняе — талент.

— Міхаіл Андрэевіч, усё, пра што Вы расказваеце, не толькі цікава, пазнавальна, але і ў вышэйшай ступені павучальна, мае, так сказаць, практычную каштоўнасць. Ці не плануеце Вы напісаць кнігу пра сваё жыццё, пра свае адносіны да з’яў сённяшняй рэчаіснасці?

— Мне было шмат розных прапаноў. І ад выдавецтваў, і ад маіх сяброў пісьменнікаў, журналістаў. Хто прапаноўваў літаратурны запіс успамінаў, хто — зрабіць надыктоўкі на магнітафон. Але я адмовіўся. У мяне кепская біяграфія. Кепска і са здароўем. Усе пасляваенныя гады пакутую на язву, было нават прабадзенне, ледзь выратавалі. Перанёс інфаркт. Я ўсё жыццё спяшаўся зрабіць тое, што хацелася. Часам я шкадую, што гэтак спяшаўся. Лепей бы меней, ды лепш.

А цяпер у мяне новая творчая хваля, новыя задумкі не даюць спакою. Працую да знямогі. Так што мне не да мемуараў. Такі, напэўна, мой мастакоўскі лёс. Мяне ўжо не перайначыць.

*Мы дзякуем Міхаілу Андрэевічу за гасціннасць, за гутарку і развітваемся. А мастак застаецца ў сваёй майстэрні, і я знаю, што яшчэ доўга, да позняга вечара, ён будзе чараваць ля мальберта, давяраючы палатну свае патаемныя думкі, душэўны боль. Знаю і іншае: пра што б ні была новая карціна, яна абавязкова стане яшчэ адным сведчаннем перамогі дабра над злом.*

## СЛУЖЭННЕ ІСЦІНЕ, ДАБРУ, ХАРАСТВУ

***Сустрэча другая, сакавік 1988 года***

На гэты раз мы прыйшлі ў майстэрню М. А. Савіцкага з загадчыкам аддзела культуры Мінскага абкама партыі Яўгенам Стрыжэвічам. Пра сустрэчу дамовіліся загадзя, папярэдзіўшы Міхаіла Андрэевіча, што хацелі б з ім пагаварыць-параіцца па некаторых пытаннях грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. Ужо нават недасведчанаму ў палітыцы чалавеку было відавочна: нешта ў краіне адбываецца нядобрае, некуды хвалёная перабудова, якую мы сустрэлі

з такім уздымам і надзеяй, вядзе нас убок, у тупік. У грамадстве пачаліся хвалянні, асабліва сярод творчай інтэлігенцыі. Працэс гэты набываў не толькі малакіруемы, але і надзвычай небяспечны характар.

Адчуванне катастрофы, якая неадольна насоўваецца, вымушала кожнага неабыякавага чалавека сур’ёзна задумацца: што ж гэта навокал адбываецца? Адкуль узялося гэтулькі ярасных, раззлаваных крытыкаў усяго і ўсіх? І чаму ў рэшце рэшт так лёгка, з такім вясёлым захапленнем пайшла за імі большасць нашых людзей?

З гэтай трывогай, гэтым болем да М. А. Савіцкага мы прыйшлі не выпадкова. Міхаіл Андрэевіч — не толькі выдатны мастак, але і сапраўдны мысліцель. Слухаць яго неверагодна цікава. Па-першае, у яго заўсёды свой, арыгінальны погляд на сучасныя праблемы і працэсы жыцця; па-другое, выказваючы свой погляд, ён падмацоўвае яго, як правіла, спасылкамі на шматлікія крыніцы — літаратурныя, філасофскія, гістарычная. Здзіўляешся яго выключнай памяці, яго эрудыцыі, таму, як лёгка і свабодна арыентуецца ён у безлічы фактаў і імёнаў.

Здавалася б, навошта яму, жывапісцу, усё гэта патрэбна? Ну, гісторыя мастацтва — зразумела. Проста гісторыя — таксама можна вытлумачыць. А ён акрамя гэтага цытуе па памяці цэлыя кавалкі з «Дзяржавы» Платона, «Эстэтыкі» Арыстоцеля, сачыненняў Дзідро...

Захоплена гаворачы пра якую-небудзь чарговую ідэю, што зацікавіла, Міхаіл Андрэевіч можа раптам перапыніць сябе, дастаць з вялікага стоса на пісьмовым стале кнігу і, разгарнуўшы яе на патрэбнай старонцы, зачытаць доўгую цытату. А пасля, узняўшы вочы на субяседніка, узнёсла, як хлапчук, запытацца: «Ну што? Нібыта пра сённяшні дзень! А між тым напісана дзве тысячы гадоў таму...»

І так кожны раз. Пераступаючы парог яго майстэрні, прадчуваеш цікавую, карысную гутарку, асалоду для розуму і душы.

Аднак на гэты раз размова мелася быць аб рэчах не зусім прыемных. Тым болей, што напярэдадні ў газетах паведамілі: група тэрарыстаў захапіла самалёт «Ту-154» і загадала экіпажу ляцець у Лондан. А калі лётчыкі не выканалі гэтага патрабавання і прызямліліся ў адным з аэрапортаў пад Ленінградам, тэрарысты застрэлілі сцюардэсу, якую трымалі ў заложніках, і ўзарвалі на борце самалёта бомбу. Група захопу пяцярых бандытаў знішчыла, а шасцярых арыштавала. Імі аказаліся члены вядомага ў краіне джазавага ансамбля «Сем Сімяонаў». З сабою ў дарогу яны ўзялі і чатырох непаўналетніх дзяцей.

Натуральна, што наша гутарка пачалася з пытання:

— Міхаіл Андрэевіч, як жа так? Мы ўвесь час гаворым, што мастацтва ўзвышае, выхоўвае і гэтак далей. А тут людзі займаліся мастацтвам шмат гадоў — і такое дзікунства? Нейкая супярэчнасць...

— Ніякай супярэчнасці! Усё правільна. Я не раз казаў, што джаз — гэта не мастацтва. Гэта — квазікультура. Гэта — пераходная прыступка да маскультуры, да авангарда.

— Дарэчы, а як Вы ставіцеся да таго, што авангардызм у нас сёння поўнасцю легалізаваны?

— Што легалізаваны — гэта правільна. Гэта добра. Нельга ніякі від мастацтва заганяць у падполле, бо гэта абарочваецца для грамадства яшчэ большымі стратамі. А вось тое, што авангардызм атрымаў роўныя правы з рэалізмам і нават пацясніў яго, што авангардызму не даецца належнай ацэнкі, а наадварот, як цячэнне ўсяляк заахвочваецца, прыўзнімаецца, — гэта няправільна.

Разумееце, праблема «рэалізм—авангардызм» не з’яўляецца цалкам мастацтвазнаўчай. Мастацтва — важнейшы сродак фарміравання асобы, і плюралізм тут недапушчальны. Нельга абвяшчаць роўнасць здароўя і хваробы.

А што мы бачым на справе? Сродкі масавай інфармацыі вядуць масіраванае наступленне на рэалістычнае мастацтва.

— Але ж гэта ў асноўным маскоўскія выданні...

— Хапае і ў нас! Дзіву даешся, якія бессэнсоўныя выставы наладжваюць часам нашы «тутэйшыя» авангардысты. А прэса рэкламуе, захлёбваючыся, расхвальвае. Больш таго, іншымі мэтрамі ад крытыкі гэтыя выставы падаюцца як новае слова ў мастацтве.

— Сумна, але мы, я маю на ўвазе перш за ўсё нас, мастакоў, а не толькі мастацтвазнаўцаў, мы сталі саромецца называць рэчы сваімі імёнамі, выбачальна расшаркваемся перад апалагетамі антымастацтва.

Так, магчыма гэта прагучыць занадта рэзка, але я пераканаы, што ўсе гэтыя чужыя нам з'явы, да якіх можна аднесці і авангардызм, мадэрнізм, — усё гэта абсалютная антымастацтва.

Што ўяўляе сабой гэты феномен? Агрэсіўнасць, прымітывізм, разлічаны на самы непатрабавальны густ ці, наадварот, знарокавая ўскладнёнасць, якая выдаецца за глыбакадумнасць, сцвярджэнне непаўнацэннасці чалавека і бяссэнсоўнасці яго існавання — вось сутнасць так званага суперсучаснага мастацтва.

Вы можаце запытацца, чаму ж тады гэтыя плыні атрымалі ў нас такое шырокае распаўсюджанне. Адкажу. Па-першае, таму, што разлічаны на непатрабавальны, некрытычны густ. А недаразвітым розуму і пачуццю значна лягчэй успрымаць гэты сурагат замест сапраўднага мастацства, якое, як вядома, патрабуе неабходнай духоўнай культуры, пэўнай душэўнай працы. І, па-другое, таму, што ўсё гэта пэўнай часткай крытыкі агрэсіўна прапагандуецца, штучна навязваецца, як нейкія нябачаныя шэдэўры, як прагрэсіўная дарога ў развіцці мастацтва. Той жа, хто асмеліцца выказаць хоць невялікае сумненне, абвяшчаецца рэтраградам, кансерватарам, чалавекам з застойным мысленнем, адным словам — ворагам перабудовы.

— Міхаіл Андрэевіч, вось Вы зараз адной з прычын шырокага распаўсюджвання псеўдамастацтва, маскультуры назвалі прымітыўнасць мастацкага густу ў нашых людзей. Але ж савецкая дзяржава столькі рабіла і робіць для фарміравання гэтага густу...

— Так, робіць. Але недастаткова. А па вялікім рахунку, то часам і не тое, і не так.

Возьмем нашу школьную і дашкольную адукацыю. Гэта ж самы адказны ўзрост — дзяцінства, юнацтва, калі ў чалавеку закладваюцца асновы яго светапогляду, яго духоўнасці. І лепшым выхаваўцам гэтых якасцяў з'яўляецца мастацтва, літаратура.

А што мы маем на практыцы? Эстэтычнае выхаванне ў нашых школьных і дашкольных установах ледзь-ледзь ліпіць. Кажу пра гэта з поўнай адказнасцю, бо ў апошні час я дастаткова грунтоўна вывучыў гэту праблему і як дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, і як старшыня Мінскага абласнога аддзялення Савецкага фонду культуры.

Ды вось, скажу адназначна: эстэтычнае выхаванне — ахілесава пята нашай адукацыі. Менавіта тут, як нідзе, трывала ўкараніўся прынцып астаткавага фінансавання. Школа чамусьці не бачыць патрэбы ў тым, каб навучыць будучага грамадзяніна і працаўніка асновам мастацтва. Лічыцца, што гэта — дробязь, само сабою прыкладзецца. Вось чаму ў нашай школе маляванне, спевы, харэаграфія — другарадныя прадметы, ды і тыя заканчваюцца недзе ў класе шостым-сёмым. Факультатывы і гурткі, якія дзе-нідзе арганізаваны, становішча не выратоўваюць.

А калі падыходзіць да справы сур'ёзна, то эстэтычны цыкл павінен быць у першым шэрагу дысцыплін. Такія заняткі не толькі развіваюць пачуццё гармоніі, пачуццё прыгожага, але і даюць веды колераў, гармоніі, што, у сваю чаргу, развівае мысленне. Тое, што прайшло праз сэрца чалавека, праз яго эмоцыі, засвойваецца глыбей, паўней, эфектыўней. На жаль, у новай рэформе адукацыі такі падыход не прадугледжваецца.

— Міхаіл Андрэевіч, але многае тут ад нас не залежыць...

— Не залежыць... А ад каго, скажыце, калі ласка, залежыць той факт, што ў нашай школе роднай мове надаецца менш часу, чым матэматыцы або фізіцы?

Спасылаюцца на замежны вопыт. Але ж у тых жа капіталістаў роднай мове адводзіцца 60 працэнтаў вучэбнага часу. У старажытных грэкаў і рымлян рыторыка, акторскае майстэрства былі галоўнейшымі прадметамі. Ды што пра гэта гаварыць! Мы, як ні дзіўна, не маем часу нават на родную гісторыю, не напісалі сапраўдны падручнік. Сумна, сорамна і вельмі небяспечна, калі асобныя прадстаўнікі нават творчай інтэлігенцыі пачынаюць выракацца роднай мовы, гісторыі свайго народа, яго культуры.

— У чым, на Ваш погляд, прычыны гэтай трывожнай з'явы?

— Галоўная прычына, і ў гэтым я перакананы, заключаецца ў нізкім, недастаткова эфектыўным ідэйна-маральным выхаванні. І не толькі школьнікаў, але і дарослых. Што такое рэальны сацыялізм? Гэта — новыя, сацыялістычныя адносіны паміж людзьмі. Адносіны, заснаваныя на роўнасці, справядлівасці, дабрыні.

А што мы маем? У апошнія гады сталі губляць нават тое, што было. У грамадстве буяе хамства, чванства, крадзеж і іншыя негатыўныя з'явы. Мы ж далікатнічаем, асцярожнічаем. Замест слова «злодзей» прыдумалі ледзь не ласкавае «нясун». Занадта спагадліва ставімся да такіх заган, як зайздрасць, плёткі, інтрыганства і іншыя. Не сустракаючы належнага адпору, яны інтэнсіўна ўкараняюцца і становяцца ледзь не нормай нашага паўсядзённага жыцця.

Даўнія традыцыі маральных адносін да свету, да жыцця, да свайго бліжняга, да працы жахліва дэфармуюцца. Затое квітнее культ спажывання, ідал жывёльнага задавальнення запатрабаванняў. Прапагандуецца і ўсяляк насаджаецца абсалютная адноснасць усіх каштоўнасцей — ідэйных, маральных, эстэтычных.

Я не хачу сказаць, што партыйныя і савецкія органы нічога не робяць, каб супрацьстаяць гэтым разбуральным працэсам. У нас ёсць цудоўныя праграмы, распрацаваны дзелавыя планы, тысячы прафесійных работнікаў занятыя ў розных мерапрыемствах. Але аддача ад усяго гэтага, на жаль, невялікая.

Чаму? Асноўная бяда нашага выхавання ў тым, што мы прывыклі працаваць з масамі. А трэба працаваць індывідуальна, з кожным чалавекам паасобку.

Тут нашым інжынерам чалавечых душ не грэх было б павучыцца ў царквы. Паглядзіце, як у іх гарманічна, разумна спалучаецца калектыўнасць пропаведзі з індывідуальна інтымным таінствам споведзі.

А як умела яны выкарыстоўваюць усе сродкі ўздзеяння на чалавека — слова, спевы, жывапіс, архітэктуру! Храм спакон веку быў тым месцам, нават у самай аддаленай вёсачцы, дзе чалавечая душа далучалася да высокага, прыгожага, да боскага.

Мы большасць нашых храмаў разбурылі, зачынілі, спаскудзілі. А што далі ўзамен? Дом культуры? Але, паклаўшы руку на сэрца, скажыце, ці многа вы ведаеце такіх дамоў, якія можна было б назваць сапраўднымі асяродкамі культуры?

Вось і нясём адчувальныя страты. Вось і цярпім паразу за паразай у сённяшняй схватцы дабра і зла.

— Прабачце, Міхаіл Андрэевіч, але Вы глядзіце на сённяшнія працэсы перабудовы вельмі ж песімістычна...

— Таму і гляджу песімістычна, што многія нашы чыноўнікі ставяцца да гэтага залішне аптымістычна. У тым, што сёння адбываецца, яны альбо не бачаць нічога небяспечнага, альбо спадзяюцца на старыя, непрыдатныя метады забароны.

Неабходна зразумець адну вельмі важную рэч: адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці — працэс станоўчы. Шматгадовая міжнацыянальная ўраўнілаўка непазбежна павінна была — раней ці пазней — адысці ў нябыт. Таму імкненне беларускага народа набыць страчаную самабытнасць — жаданне натуральнае і заканамернае. На жаль, нацыянальныя праблемы пасля доўгага грэбавання імі нарадзілі вельмі няпростыя, хваравітыя працэсы. У шэрагу выпадкаў прывялі нават да нацыяналістычных усплёскаў.

У гэтых умовах улада разгубілася. Адным з прыкладаў негатоўнасці мясцовых кіраўнікоў да разумнага супрацоўніцтва, дыялога з інтэлігенцыяй і моладдзю можа служыць забарона мітынгу-рэквіема 30 кастрычніка ў Мінску. Замест падтрымкі ініцыятывы і ўдзелу ў гуманнай акцыі на вуліцы і плошчы былі выведзены сотні міліцыянераў у касках, з шчытамі і дубінкамі, з вадамётамі.

— Не ўсё так проста, Міхаіл Андрэевіч...

— А я і не кажу, што проста. І галоўная складанасць, бадай, у тым, што ідэалагічная барацьба, якая сёння набыла асаблівую вастрыню, вядзецца не ў адкрытай, чэснай палеміцы, а вытанчанымі, езуіцкімі метадамі: зло прыкідваецца дабром, сапраўдныя каштоўнасці падменьваюцца лжывымі, з дапамогаю словаблудства і цынічнай хлусні збіваюць людзей з панталыку, даюць ім падманныя арыенціры.

Так што складанасцей хапае. Але пачалася гэтая бяда не сёння. І нават не ўчора. Яна прасочвалася спакваля, паступова скрозь нашы недапрацоўкі, нашы ўпушчэнні, памылкі.

Пра школу я ўжо гаварыў. Скажу яшчэ пра адну вельмі сур'ёзную праблему. Гэта — горадабудаўніцтва. Не мне вам расказваць, які выгляд маюць многія нашы гарады, асабліва іх сучасная частка, так званыя мікрараёны. Яны ператвораны ў зборышча бетонных каробак, якія не маюць ні формы, ні зместу, ці, дакладней сказаць, маюць пачварныя і форму, і змест.

Вось самы канкрэтны прыклад. Мая майстэрня размешчана ў квадраце вуліц Някрасава, Бяды, Горкага і Сурганава. Раней у гэтым квадраце жыло не болей як сто сем'яў у сваіх прыватных дамах. Яны ведалі адно аднаго, пры сустрэчы здароўкаліся, абменьваліся навінамі. Сёння тут пабудаваны шматпавярховыя панельныя каробкі, у якія сагналі тысячы людзей. І ранейшая аўра добразычлівасці, нейкай хатняй утульнасці знікла. Людзі раз'яднаны, не ведаюць нават суседзяў па лесвічнай пляцоўцы. У двары — ні душы. Адчужанасць, поўная сацыяльная апатыя — вось сумны вынік непрадуманай, хаатычнай забудовы сучасных мікрараёнаў.

Архітэктура, як бачыце, непасрэдна ўваходзіць у жыццё людзей, і яе роля ў грамадстве настолькі вялікая, што, кажучы словамі знакамітага Ле Карбюзье, шляхам горадабудаўніцтва можна нават змяніць сацыяльны лад.

Карбюзье я прыгадаў не выпадкова. Менавіта ён быў адным з самых актыўных прапагандыстаў функцыяналізму ў архітэктуры. Менавіта ён зрабіў непатрэбным мастацтва ў дойлідстве і архітэктуры і апусціў яго да ўзроўню звычайнага будаўніцтва.

Аднак мы бачым на практыцы, што функцыяналізм губіць архітэктуру, робіць яе бессэнсоўнай. Між тым горадабудаўнічае асяроддзе павінна ўвасабляць у сваіх аб'ектах агромністы аб'ём інфармацыі — ідэалагічнай, гістарычнай, эстэтычнай. Перадаючыся з пакалення ў пакаленне, гэтая інфармацыя моцна ўплывае на інтэлектуальнае і эмацыянальнае развіццё людзей. Горад, пазбаўлены такой інфармацыі, становіцца проста жылым фондам, а народ — насельніцтвам.

Але самае страшнае тое, што функцыяналізм дабраўся ўжо і да гістарычнай часткі забудовы нашых гарадоў. Пад выглядам ачышчэння гарадскіх кварталаў ад «малакаштоўнага смецця», састарэлых будынкаў, зносяцца унікальныя помнікі архітэктуры і культуры. Не вайна, не варвары, а мы самі, у мірны час, знеслі ў Мінску домік Пятра I, ансамбль Дамініканскага манастыра, Калегіум XVIII стагоддзя. Разбураны комплекс забудовы па вуліцы Няміга, знішчана старажытная плошча Старога рынку...

У маім родным Віцебску з 15 ацалелых у вайну гістарычных помнікаў цяпер засталося толькі тры. Поўнасцю разбураны архітэктурны комплекс Мікалаеўскага сабора, былы Дамініканскі касцёл, унікальная Благавешчанская царква і шмат іншага.

У выніку гэтых неразумных, я б нават сказаў злачынных дзеянняў, мы згубілі не проста старадаўнія будынкі. Мы згубілі багацейшыя гістарычныя і культурныя



*Пушкін і Ганчарова. 1986 г.*

каштоўнасці. Каму ад гэтага стала лепш? Нікому! Хаця хто ведае...

— Цяжка не прызнаць справядлівасці Вашых папрокаў. Але, згадзіцеся, адрасаваны гэтыя папрокі павінны быць не толькі кіраўнікам рэспублікі, але і нашай інтэлігенцыі, перш за ўсё творчай інтэлігенцыі.

— Яно сапраўды так. Хоць я і не магу пагадзіцца з рэзкай ацэнкай, якую ў свой час даў інтэлігенцыі У. І. Ленін, назваўшы яе г...ном. Не магу, бо нацыя без інтэлігенцыі — творцы культуры — гіне: жывы арганізм немагчымы без мозгу, без нервовай сістэмы. Ну а тое, якая гэта інтэлігенцыя, залежыць не толькі ад яе самой, але і ад сістэмы ўлады, ад стану народа.

Наша інтэлігенцыя прайшла складаны, трагічны шлях. Яе шальмавалі, расстрэльвалі, выганялі за межы краіны ў першыя пасляваенныя гады. Яе знішчалі, гнаілі па турмах у гады сталінскіх рэпрэсій. Пра яе зневажальна гаварылі, называючы сацыяльнай праслойкай, у часы хрушчоўскага кіравання. Ды і сёння вельмі многія высокія чыноўнікі ставяцца да інтэлігенцыі вельмі і вельмі насцярожана, падзяляючы памянёную ленінскую ацэнку.

Чаму так адбывалася і адбываецца? А таму, што інтэлігенцыя — гэта носьбіт высокай культуры, а сапраўдная культура заўсёды праўдзівая. Але ж праўда небяспечная для людзей, якія жывуць дзеля ўлады і насілля. Носьбіта праўды мала хто любіць. Ісціна нярэдка трагічная, яна разбурае ілюзію дабрабыту, прымушае думаць пра сутнасць таго, што адбываецца, і падштурхоўвае шукаць шляхі да аднаўлення. Вось чаму інтэлігенцыя, якая на словах заахвочвалася, на справе нярэдка станавілася несумяшчальнай з апаратам улады.

Сцверджанне аднаго шаблона мыслення, адмаўленне самастойнасці, пазбаўленне творчасці прывялі да апатыі і бяздумнасці. Адсюль — адзін крок да нізкапаклонства перад Захадам, звяртанне да абстракцыі, авангардызму.

Гэта я кажу не ў апраўданне нашай творчай інтэлігенцыі, а для таго, каб лепш разумець, у чым яе віна і ў чым яе бяда.

Хачу нагадаць азбучную ісціну: ніводнай сур'ёзнай задачы мы не вырашым, калі не будзем клапаціцца аб росквіце творчай думкі, аб інтэлігенцыі. Калі абмяжуем яе правы і магчымасці ўплываць на грамадскае развіццё.

— Тэарэтычна ўсё правільна. Але давайце спусцімся на грэшную зямлю...

— Разумею, да чаго вы хіліце. Так, беларуская інтэлігенцыя неаднародная па сваёй сутнасці. Аднак бяда не ў тым, што на аднаго таленавітага творцу прыпадае дзесяць і болей бяздарнасцей. Бяда ў іншым. У тым, што гэтыя пасрэднасці, скарыстаўшы ўмовы галоснасці і дэмакратызацыі, усплылі сёння на паверхню і сваю творчую немач кампенсуюць бурлівай грамадскай дзейнасцю, спрабуюць зарабіць сабе капітал на крытыцы ўсяго і ўсіх. Яны адштурхнулі сапраўдных творцаў, перахапілі ў іх ініцыятыву і надаюць, згодзен з вамі, перабудовачным працэсам нямала негатыўнага, разбуральнага. Але мудрасць кіраўніка ў тым, каб умець аддзяліць адно ад аднаго, стварыць такія ўмовы, у якіх ваяўнічыя невукі адчулі б сябе няўтульна і, наадварот, сур'ёзныя, адданыя Айчыне мастакі маглі спакойна выявіць свой талент.

Мяне турбуе і другое. Тое, што ў многіх нашых творцаў вельмі нетрывалымі аказаліся іх ідэйныя перакананні. Значыць, дзяржава кепска, казённа-фармальна займалася выхаваннем творчай інтэлігенцыі.

— Міхаіл Андрэевіч, а якой Вам бачыцца ў ідэале сістэма выхавання? Маецца на ўвазе не толькі інтэлігенцыі, але і ўсяго народа.

— На мой погляд, развіццё інтэлігенцыі і ёсць развіццё ўсяго народа. Гэтыя працэсы ўзаемазвязаныя.

А якой павінна быць сістэма выхавання? Коратка і адразу на гэтае сур'ёзнае пытанне адказаць цяжка. У адным я перакананы: выхаванне людзей павінна весціся на аснове далучэння іх да ісціны, дабра і харастве. Найбольш поўна гэтай трыадзінай формуле адпавядае мастацтва. У пастаянным яднанні з мастацтвам чалавек набывае творчае мысленне, душа яго адраджаецца, вяртаецца да адвечных маральных каштоўнасцей.

Зыходзячы з гэтага, патрэбна добра прадуманая, добра арганізаваная праграма эстэтычнага выхавання народа, своеасаблівы эстэтычны ўсенавуч. У гэту праграму чалавек павінен быць уключаны з дзіцячых гадоў і да глыбокай старасці.

Канечне, для рэалізацыі такой праграмы патрэбны і падрыхтаваныя кадры, і вялікія асігнаванні. Аднак на гэта не варта шкадаваць сродкаў. Дзяржава, якая не клапоціцца пра сваю будучыню, якая лічыць выхаванне свайго народа справай другараднай, — такая дзяржава асуджана.

## АСЭНСОЎВАЦЬ ЛЁС ЧАЛАВЕКА

### Сустрэча трэцяя, снежань 2004 года

Я даўнавата ўжо не бачыў Міхаіла Андрэевіча, гадоў пяць. За гэты час Майстар знешне амаль не змяніўся. Такі ж аскетычна хударлявы, з дапытлівым позіркам, з моцным поціскам рукі. Хіба што прыбавілася сівізны ў валасах ды паходка стала больш павольная, асцярожная. Што ж, зразумець можна: Міхаілу Андрэевічу пайшоў, дзякуй Богу, восемдзесят трэці...

Але аказалася, што асцярожнасць гэтая зусім не ад узросту. Мінулай зімой Міхаіл Андрэевіч паслізнуўся і вельмі няўдала прызямліўся — зламаў шыйку бядра. Перанёс цяжкую аперацыю. Паўгода прыходзіў у сябе. Не паспеў ачуняць, як на пачатку гэтай зімы зноўку ўпаў, пашкодзіў калена. На гэты раз ужо не стаў ні да якіх урачоў звяртацца — прымусяць перайсці на пасцельны рэжым, закуюць у гіпс, і мінімум месяц, а то і два будзе згублена. А ў яго і так назбіралася ўжо з дзесятак ненапісаных, але да дробязей прадуманых карцін. І на калена махнуў рукою. Праўда, сямейнікі ўсё ж угаварылі паспрабаваць народныя лекі. Нібыта нічога, абышлося.

Але была ў 2004 годзе і прыемная падзея ў жыцці мастака — яму ўручылі прэмію Саюзнай дзяржавы. Падзея не проста прыемная, але і надзвычай важная. З гэтага і пачалася наша гаворка, у якой, дарэчы, прыняў удзел і сын Міхаіла Андрэевіча — Андрэй, таксама мастак і таксама, як і бацька, незвычайна эрудыраваны, філасофскага складу чалавек.

— Міхаіл Андрэевіч, дазвольце перш за ўсё сардэчна павіншаваць Вас з атрыманнем высокай прэміі. Што яна для Вас азначае?

— Дзякую. Што азначае? Вельмі многае. Па-першае, гэта прызнанне маіх дасягненняў у галіне жывапісу, у галіне мастацтва. А па-другое, гэта ацэнка маіх заслуг ва ўмацаванні і развіцці культурных, грамадскіх сувязей паміж Беларуссю і Расіяй. Калі мне ўручалі гэту прэмію, я так і сказаў: «Я рады, я вельмі рады, што ёсць такая Саюзная дзяржава». А яе і не можа не быць, таму што нашыя народы гістарычна, на працягу многіх стагоддзяў звязаны непарыўнымі вузамі дружбы і супрацоўніцтва. Хоць у гісторыі нашых узаемаадносін былі і непрыемныя моманты. Але ў гэтым не народы вінаватыя, а колішнія правіцелі. І я сапраўды ра-

ды, што сёння саюз Беларусі і Расіі становіцца рэальнасцю і што мой сціплы ўклад у гэты працэс заўважаны і ацэнены. Вось чаму я лічу атрыманую прэмію як вельмі ганаровую, вялікую ўзнагароду вялікай дзяржавы.

— Міхаіл Андрэевіч, але ж працэс, пра які Вы гаворыце, у апошні час прытармазіўся. Некаторыя палітыкі нават загаварылі аб тым, што такі саюз нагогул немагчымы.

— Не, не. Працэс незваротны, як бы гэтага камусьці не хацелася. На жаль, у Расіі, ды ў нейкай ступені і ў нас, ёсць сілы, скіраваныя на тое, каб перашкодзіць пазітыўным працэсам, процідзейнічаць стварэнню адзінай дзяржавы.

— Дарэчы, а як Вы лічыце, чаму так лёгка развалiўся Савецкі Саюз? I ці можна было пазбегнуць катастрофы?

— СССР развалiўся не сам. Яму ў гэтым моцна памаглі. Хто і як — пра гэта цяпер добра вядома. Але ў вашым пытанні гучыць намёк на тое, што калі б у краіне не было ўнутраных, аб'ектыўных умоў, то ніякія знешнія сілы нічога не здолелі б зрабіць. Гэта сапраўды так. Яшчэ да перабудовы ў нас у грамадстве сталі адбывацца непажаданыя з'явы. Аслабленне маральнага, патрыятычнага выхавання. Фармальныя, дагматычныя адносіны да такога дзяржаваўтваральнага элемента, як ідэалогія. Укараненне ў наша жыццё масавай і поп-культуры, дыскрэдытацыя сапраўднага, высокага мастацтва...

Я тады неаднаразова хадзіў у ЦК КПБ — у аддзел культуры, да сакратара па ідэалогіі. Спрабаваў раскрыць ім вочы на глыбінныя з'явы, біў трывогу. На жаль, не быў пачуты.

Будучы народным дэпутатам СССР, я зрабіў яшчэ адну спробу — напісаў аналітычную запіску Гарбачову, генеральнаму сакратару ЦК КПСС. Справа ў тым, што Гарбачоў і яго атачэнне меркавалі, што выйсце з крызісу — толькі праз уздым эканомікі. Я напісаў і праілюстраваў на канкрэтных гістарычных фактах, што падобны падыход — гэта не вельмі зразумелая ідэя. Адказу я, вядома ж, не атрымаў.

— Міхаіл Андрэевіч, а Вы сапраўды перакананы, што мастацтва, культура маюць такую вялікую стваральную сілу?

— Разумееце, чалавецтва ніколі не будзе дарма ўтрымліваць кульгавага каня. А без мастацтва — хто ты? Яно ж вельмі неабходнае чалавецтву. I заўсёды было запатрабавана. Хіба што ў краі непалоханых ідыётаў гэтага не разумеюць.

Я вось часта спасылаюся на Леанарда да Вінчы. Вялікі вучоны. Усебаковы талент. Геній. Дык вось ён сказаў, што з усіх навук важнейшым з'яўляецца жывапіс. Так, так, ён назваў жывапіс навукай. I гэта было несумненным адкрыццём. Найвялікшым адкрыццём, якім чалавецтва не хоча па-сапраўднаму карыстацца да гэтага часу.

Справа ў тым, што жывапіс, у цэлым мастацтва, з'яўляецца — як бы гэта сказаць? — своеасаблівым і вельмі яркім, дакладным адлюстраваннем свайго часу, людзей гэтага часу, іх жыцця, іх побыту і т.п. Акрамя таго, мастацтва памагае чалавеку заставацца чалавекам. Яно мае магутную выхаваўчую функцыю. Асабліва моцны ўплыў аказвае непасрэдна творчая праца. Праца, якая даступная любому малому, пачынаючы з дзіцячага садка, не кажучы ўжо пра школу.

Дарэчы, у нас яшчэ ў 1919 годзе спрабавалі зрабіць, каб школа магла развіваць кожнага вучня ў адпаведнасці з яго дараваннем, яго схільнасцямі. Кожнага! I гэта можна спраўдзіць з дапамогаю жывапісу, выяўленчага мастацтва. Можна, калі да тых традыцыйных дысцыплін, што вывучаюцца ў школе, дадаць яшчэ некалькі новых.

Аднак ні ў дзевяностым годзе, ні намнога пазней, калі я абіваў парогі высокіх начальніцкіх кабінетаў, гэтай, здавалася б, такой бясспрэчнай навізне дарогі не далі.

Некалькі разоў я нават спрабаваў трапіць да Машэрава. Апошні раз быў у яго за два тыдні да ягонай гібелі. Я гутарыў з ім пяць гадзін! Да гэтага ён мне

казаў: «Не ўзнімай шуму, бо, калі мы зоймемся школаю, як ты прапаноўваеш, табе не будзе з кім гаварыць». Словам, ён даў мне зразумець, што школа знаходзіцца пад асаблівым кантролем Масквы.

Але я знайшоў выхад. Прапанаваў зрабіць некалькі эксперыментальных школ. Са сваімі праграмамі, са сваёй методыкай навучання. І пачынаць з першага класа. На працягу дзесяці гадоў мы зможам пераўтварыць гэтыя школы ў патрэбным накірунку і на практыцы праверыць, навукова абгрунтаваць праграму новай школы. І пасля паступова ўкараніць гэты вопыт ва ўсе школы рэспублікі.

Машэраў, выслухаўшы мяне, сказаў: «Розумам прыняў. А цяпер пераканай мяне сэрцам». І я больш за гадзіну эмацыянальна распавядаў яму, як усё гэта будзе і што гэта дасць. «Усё! Зробім...» — сказаў Пётр Міронавіч.

А праз пару тыдняў ён загінуў...

— Міхаіл Андрэевіч, і што ж — Вы ўвесь час вось так, адзін, і змагаліся? Няўжо ніхто з вашых калег не падтрымліваў Вас, не памагаў?

— Якое там памагаў — усяляк перашкаджалі! Ва ўсіх дзеяннях бачылі нейкі асабісты, карыслівы інтарэс.

— Але гэта ў нейкай ступені пярэчыць той высокай ацэнцы, якую Вы ў свой час давалі творчай інтэлігенцыі, яе ролі ў савецкім грамадстве.

— Нічога не супярэчыць. Калі я гавару аб процідзеянні, то маю на ўвазе не ўсіх мастакоў, а толькі тых, што па сваёй бяздарнасці заўсёды зайздросцілі і зайздросцяць маёй папулярнасці і таму стараюцца ачарніць маю творчасць, дыскрэдытаваць мяне як асобу. У савецкі час такія «сябры народа» абвінавачвалі мяне ў тым, што я — мадэрніст, разбураю асновы сацрэалізму і гэтак далей. Сёння ж яны сцвярджаюць адваротнае, што я, маўляў, быў і застаўся савецкім чалавекам, стаю «ўпоперак» дэмакратыі.

Але гэта, паўтараю, датычыцца толькі часткі творчай інтэлігенцыі. І свае асабістыя адносіны да яе не хачу пераносіць на ўсю. А ўвогуле, канечне ж, інтэлігенцыя была і застаецца каталізатарам грамадска-палітычных працэсаў у краіне. На жаль, не заўсёды адназначна станоўчых. У свой час найбольш шумная, агрэсіўная частка савецкай інтэлігенцыі сыграла, на мой погляд, фатальную ролю ў лёсе СССР. Ды і сёння, у незалежнай і суверэннай Беларусі, нашы творцы не знайшлі, як мне здаецца, свайго належнага месца ў агульным страі, расходзячыся па ідэйных прынцыпах на два варожых лагеры і занятыя больш сваркамі, інтрыгамі, карыслівымі інтарэсамі, чым творчасцю.

Але здрабнела не інтэлігенцыя ў цэлым. Здрабнелі асобныя яе прадстаўнікі, калі такія могуць яшчэ называць сябе гэтым высокім імем. Бо інтэлігент, як мне ўяўляецца, не той, хто адукаваны і разумны, хто фармальна належыць да творчага альбо навуковага асяроддзя, а той, хто думае, клапоціцца пра Айчыну, робіць усё, каб яна развівалася і квітнела. Інтэлігентнасць — гэта стан душы.

— Міхаіл Андрэевіч, а вось кажуць, што мастак заўсёды павінен быць у апазіцыі да ўлады. Вы згодны з гэтым? А калі ўлада разумная і робіць усё правільна?

— Па-першае, мастак павінен быць перш за ўсё грамадзянінам. І як грамадзянін абавязаны жыць разам са сваёй краінай, са сваім народам. Я не цярплю, калі звысоку, зняважліва-адчужана кажуць: гэтая краіна, гэты народ. На мой погляд, гэта і ёсць найгоршы і самы няплённы від апазіцыі.

А па-другое, мастак павінен заўсёды заставацца мастаком. Яго галоўная задача — адлюстроўваць у сваіх працах той час, у якім ён жыве. І яны павінны быць не дэкларатыўныя, не лісліўыя, а вельмі чэсныя, аб'ектыўныя. А адукаваны чалавек прачытае па іх усё: і добрае, і кепскае.

Іншымі словамі, мастак павінен пісаць свой час. І галоўны накірунак ягонай творчасці — непрыняцце зла, абарона дабра. Вось і ўся канцэпцыя. Пры гэтым, канешне, узровень майстэрства павінен быць найвышэйшы. Пастаянна неабходна суадносіць свае работы з тымі дасягненнямі, якія ў мастацтве ўжо заваяваны.

— Ну вось мы лагічна і падышлі да аднаго з самых вострых, самых дыскусійных пытанняў: ці павінен мастак думаць пра патэнцыяльнага гледача, у нейкай меры ўлічваць яго думкі і запатрабаванні, ці пісаць без усялякай агляддкі, для сябе, так сказаць, самавыяўляцца? Бытуе меркаванне: не справа, маўляў, мастака ўзнімаць нейкія праблемы. У яго задача адна — эстэтычная. Словам, чыстае мастацтва...

— Тут усё вельмі проста. У дылетантаў адбываецца блытаніна паняццяў. Справа ў тым, што самавыяўленне — гэта вельмі харошае паняцце, гэта значыць, даваць сваю ацэнку ўсяму, што навокал адбываецца. Суб'ектыўныя адносіны творцы да таго, што ён бачыць і хоча адлюстраваць у сваёй працы, — рэч у мастацтве крайне неабходная. Але ж многія блытаюць самавыяўленне з сябевыяўленнем. Тут вельмі тонкая грань. Каму цікава, што ты сабою ўяўляеш? У гэтым сэнсе сябевыяўленне вельмі блізкае да гардыні, а яна, як вядома, з'яўляецца адным з сямі смяротных грахоў.

*У гэтым месцы Андрэй Міхайлавіч, разабраўшыся нарэшце з тэлефоннымі званкамі, якія амаль бесперапынку раздаваліся ў майстэрні, прысеў да нас бліжэй і прыняў удзел у размове.*

Андрэй:

— Я вось што хацеў бы з гэтай нагоды дадаць. Сёння ў нашым мастацтве, у процівагу рэалізму, у вялікай модзе канцэптуалізм. Гэты тэрмін у свой час прыдумалі філосафы сярэднявечча, якія адмаўлялі існаванне агульных паняццяў у рэчаіснасці, але прызнавалі іх існаванне ў свядомасці, у мысленні. У мастацтве канцэптуалізм як мастацкі напрамак мяркуе наяўнасць нейкіх ідэй, сэнсаў у творах абсурдных, складаных, абстрактных формаў.

Міхаіл Андрэевіч:

— І вось цяпер усё наша беларускае мастацтва кінулася ў канцэптуалізм. Сцвярджаюць, што гэта — новае мысленне, новы ўзровень спасціжэння рэчаіснасці. Якое новае мысленне? Якое спасціжэнне? Гэта — элементарны адыход ад усяго. Поўнае бязмежжа. Прыхільнікі гэтай плыні лічаць сябе мастакамі свету, але гэта ўсяго толькі самаапраўданне сваёй творчай немачы і дылетантызму.

Андрэй:

— Між іншым, гэта — даўняя спрэчка паміж французскімі пісьменнікамі-экзістэнцыялістамі Сартрам і Камю. Дык вось апошні ад сваёй тэорыі абсурднасці зямнога быцця прыйшоў да эстэтыкі бунту, якая адраджае колішняе, антычнае значэнне літаратуры і мастацтва, усёй духоўнай культуры, значэнне адзінства харавства, дабрыні і справядлівасці ў жыцці як асобнага чалавека, так і ўсяго грамадства.

Міхаіл Андрэевіч:

— Ды многія пра гэта пісалі — пра новае мастацтва, пра змену культур. Гэта і вядомы Сарокін, і Уладзімір Салаўёў, і Міхаіл Булгакаў. А як глыбока і правільна асэнсоўваў гэтыя з'явы ў грамадскім жыцці Леў Гумілёў! Словам, абапіраючыся на іх меркаванні, можна зрабіць вывад: канцэптуалізм — гэта не проста адыход ад рэалістычных пазіцый, гэта — разбурэнне нацыянальных культур. Сёння — гэта фронт нумар адзін.

— Вось мы ўвесь час гаворым: «мастак абавязаны», «мастак павінен», «служэнне народу»... А ці не абмяжоўваюць гэтыя своеасаблівыя катэгарычныя імператывы свабоду творчасці?

Міхаіл Андрэевіч:

— Сапраўдны мастак, які глыбока разумее сутнасць і прызначэнне мастацтва, ніякіх абмежаванняў не адчувае. Пры любых знешніх абставінах! Таму што ў яго душы жыве адна, унутраная свабода, якую ніхто не можа адмяніць. І гэтая свабода, кажучы словамі Маркса, ёсць усвядомленая неабходнасць. Неабходнасць служэння мастацтву, а праз мастацтва — служэння грамадству.

Пушкін сказаў яшчэ больш проста: прызванне. Гэта значыць, мастак прызваны служыць.

Так, свабода творчасці — гэта служэнне. Чалавеку. Дабру. Хараству. Калі хочаце, гэта пераклад на мову мастацтва вядомых Божых запаведзей. Бог стварыў чалавека свабодным і вызначыў яму мяжу свабоды. Дык вось, калі ласка, і адслужы гэту свабоду.

Андрэй:

— У Міхаіла Андрэевіча адна з першых значных работ — «Выгнанне з раю». Дык вось яна, як мне здаецца, з'яўляецца цудоўнай ілюстрацыяй таго, аб чым мы гаворым. Аб свабодзе. Аб сапраўднай і поўнай свабодзе, якая дадзена чалавеку ад яго стварэння. І адзіна варты адказ чалавека на гэты дар — удзячнае вяртанне сваёй свабоды. Таму, хто яе даў. Усведамленне сапраўднай і поўнай свабоды як прызвання і служэння, але не як усёдазволенасці.

— Вось толькі што былі сказаны словы: «Мастак, які глыбока разумее сутнасць і прызначэнне мастацтва...» А ў чым усё-такі гэтая сутнасць?

Міхаіл Андрэевіч:

— Ну, пра гэта мы ўжо згадвалі. Калі коратка паўтарыць, то можна сказаць так: сутнасцю мастацтва з'яўляецца адлюстраванне часу, увасабленне быцця. Увасабленне ў самай дасканалай форме. Задача мастака — стварыць вобраз, які здольны будзе саўдзельнічаць у самім жыцці. Вобраз, які паказвае быццё і раскрывае сутнасць быцця ў часе яго праяўлення. Можа, гэта здасца складаным, але мастацтва простым не бывае.

Андрэй:

— У розныя часы акцэнты аб прызначэнні мастацтва мяняліся, але толькі акцэнты. Само мастацтва не ставілася пад сумненне, яго «анталагічны статус» быў нязменны. Распад быцця ў наш час прывёў да распаду мастацтва, яго расколу і драбленню. Тым больш каштоўна і важна захоўваць тыя лінія развіцця, тыя традыцыі, дзе мастацтва паўстае ва ўсёй сваёй паўнаце, спалучае і дасканаласць формы, і глыбіню зместу, і звяртанне да быцця, і пранікненне ў нябачны свет ідэй.

— Калі мы ўжо закранулі такія сур'ёзныя філасофскія праблемы, хачу задаць яшчэ адно вечнае пытанне: а ў чым, на Ваш погляд, мэта і сэнс чалавечага жыцця?

Міхаіл Андрэевіч:

— Усё ў тым жа — у служэнні. Людзям, грамадству. Служыць, чым можаш... Хоць, па праўдзе кажучы, бацьку майму пытанне гэтае было б незразумелым. Ды і мне, уласна, яно не вельмі зразумелае. Проста трэба чэсна жыць, сумленна працаваць і старацца, каб вакол цябе было ўсё лепш і лепш. Так рабіў мой бацька, чалавек малапісьменны, але надзвычай мудры. Да яго нават з раёна прыязджалі раіцца, калі сеяць, як сеяць... Дык вось ён лічыў, што ўраджайнасць — гэта другараднае. А галоўнае — клопат пра зямлю.

— Міхаіл Андрэевіч, даруйце, калі ласка, за некарэктнасць майго наступнага пытання, але не задаць яго я не магу. Справа ў тым, што ў адным з артыкулаў, прысвечаных Вашай творчасці, я прачытаў, што, маўляў, Савіцкі нарадзіўся ў год утварэння СССР і як мастак памёр разам з ім...

— Можаце далей не працягваць. Я ведаю, хто гэта напісаў і ведаю, чаму напісаў. Ён, між іншым, піша такое пра мяне рэгулярна, прыкладна раз у пяць гадоў. А я, дзякуй Богу, працую сабе паціху.

Вось да майго 80-годдзя ў нашым Мастацкім музеі была арганізавана мая персанальная выстава. Я паказаў гледачам 25 работ. Своеасаблівая справаздача за пяць апошніх гадоў. Для майго ўзросту гэта, па-мойму, зусім някепскі вынік. А што я ўяўляю сабою як мастак, то памянёнаму аўтару варта было б зазірнуць у Кнігу водгукаў і пачытаць.

— Ці вядома Вам такая з'ява, як творчы крызіс?

— Не, такая з'ява мне не вядомая. Нават нягледзячы на цяжкую аперацыю, на траўму калена, я працягваю працаваць. Ну вось бачыце: на мальбертах у мяне стаяць дзве пачатыя працы. А вось чакае чыстае палатно. Ёсць толькі тэ-

ма — шэсцьдзесят гадоў Перамогі. Але як гэту падзею сёння паказаць, як яе адлюстраваць? Не ведаю. Думаю. Аднак такую карціну абавязкова напішу! Хоць яна, напэўна, далёка не ўсім спадабаецца. Ну і няхай. Мая справа напісаць, а час усё расставіць.

— Несумненна. Ёсць жа ў нас, дзякуй Богу, і аб'ектыўныя крытыкі. У аднаго з іх я, напрыклад, прачытаў, што Савіцкі — адзіны ў Беларусі, а можа, і ў свеце мастак, які здолеў адлюстраваць у эпічных палотнах усю трагедыю чалавека ў XX стагоддзі. Як бы Вы, Міхаіл Андрэевіч, выказалі гэту трагедыю ў словах?

— У словах мне зрабіць гэта цяжэй. Справа ў тым, што ў мастака зусім іншае мысленне. Не лагічнае — больш складанае. Разумовасць у фарбах.

І вось, сутыкнуўшыся з часам, з тым трагічным, што я перажыў у сваім жыцці, мне страсна захацелася адлюстраваць гэтае трагічнае на палатне, каб паказаць не толькі сучаснікам, але і перадаць наступным пакаленням. Ды як гэта зрабіць? Трэба было шукаць новыя тэмы, новыя выяўленчыя сродкі.

І я напісаў карціну «Партызаны». Паказаў суровую трагедыю таго часу. Не ўсім гэта спадабалася. Таму на выставе яе засунулі кудысьці ў куток, далей ад людскіх вачэй. Аднак карціну ўбачылі! Іду аднойчы па зале, бачу: стаіць ля маіх «Партызанаў» некалькі чалавек і плачуць. Мне нават ніякавата стала. Але я зразумеў: калі людзі плачуць — значыць, карціна іх хвалюе, значыць, я на правільным шляху. На шляху пошуку новага твора — надзвычай эмацыянальнага і экспрэсіўнага.

Пазней я паспрабаваў прымяніць гэты мастацкі прыём у эпічным жанры. Атрымалася! Тодар Паўлаў, буйнейшы балгарскі мастацтвазнаўца, напісаў пра маю работу, што гэта — узор эпічнай карціны.

— Гэта пра якую?

— «Поле. Бітва ў жыце...» Каб выказаць усю трагедыю вайны, мне давялося напісаць не адзін дзесятак карцін. А другой вялікай (і балючай!) тэмай для мяне стаў Чарнобыль.

Андрэй:

— Міхаіл Андрэевіч, можна мне?

— Ну, давай. Ты, бадай, скажаш пра гэта лепш.

— Лепш не лепш, але мне гаварыць пра гэта зручней. Дык вось, мы ўжо з вамі сышліся на тым, што адно з прызванняў мастацтва — асэнсаваць лёс чалавека, супольнасць людскіх лёсаў і стварыць вобраз быцця і часу. Але сіла інерцыі ў свядомасці людзей і ў ідэалогіі савецкай дзяржавы была гэткай вялікай, што толькі шмат пазней пасля заканчэння вайны гэтае кола тэм стала даступным для мастацтва. Але цаной найвялікшай працы, цаной пераадолення жорсткага супрацьстаяння мастака і грамадства.

Савецкае мастацтва пасляваенных гадоў — яркі прыклад такога процістаяння. З аднаго боку — мастацтва афіцыёзнае, свайго роду «ілюстрацыя» палітычных і ідэалагічных клішэ. З другога — творчасць мастакоў, якія не проста асабіста перажылі трагедыю вайны, але і спрабуюць сродкамі мастацтва асэнсаваць лёс чалавека і даць вобраз часу.

«Партызаны» была адной з першых жывапісных прац такога кшталту. І з яе пачалася жорсткая палеміка вакол творчасці Савіцкага, якая не заціхае і да гэтага часу. Менавіта звяртанне да тэмы лёсу чалавека, да праўды жыцця, якая ўвасаблялася без прыхарошвання і ўмоўнасцей, стала прычынай рэзкай крытыкі. З мастацтва выганялі саму магчымасць гаварыць аб трагізме гісторыі.

Трагізм нашага часу па-асабліваму праявіўся ў лёсе беларускага народа пасля Чарнобыльскай катастрофы. Гэтая катастрофа раптоўна і рэзка змяніла натуральны ход рэчаў: жыццё асобных людзей і само жыццё народа былі зломленыя ёю. Той свет, у якім людзі жылі стагоддзямі, нечакана стаў смяртэльна небяспечным. Гэтае «бесчалавечнае быццё», безвыходнасць пакут чалавека пасля Чарнобыля аналізуе і асэнсоўвае Савіцкі.



*У майстэрні мастака.*

Хачу падкрэсліць, што цыкл «Чорная быль» не столькі прысвечаны адлюстраванню фактаў трагедыі людзей у XX стагоддзі, колькі стварае вобраз самой эпохі — эпохі, якой людзі яшчэ не перажывалі.

Міхаіл Андрэевіч:

— А я хачу заўважыць, што звяртанне да трагедыйнага для мяне — не самамэта, а сродак. Сродак служэння дабру. І ў гэтым я бачу прызванне маёй творчасці. Сваё чалавечае прызванне.

— Міхаіл Андрэевіч, Вы пражылі доўгае, цяжкае, але і вельмі яркае, змястоўнае жыццё. Напэўна, у хвіліны роздуму Вы асэнсоўваеце, аналізуеце перажытае, зробленае ці недаробленае. Ці ахоплівае Вас часам пачуццё горычы, раскайвання або, скажам, жадання пачаць усё з пачатку?

— Не, пачуцця горычы няма. Я зрабіў усё, што мог. Укалваў па 14—16 гадзін у суткі. І пісаў пра ўсё, што мяне хвалявала, трывожыла. І крычаў пра гэта на ўвесь голас. Нешта было пачута, нешта не. Але гэта ўжо не мая віна.

А раскайванне... У чым мне раскайвацца? Я быў актыўным камсамольцам, і ніколькі не шкадую. Нікому нічога кепскага не рабіў. Наадварот. Колькім маладым людзям дапамог знайсці сваю дарогу ў жыцці.

Будучы народным дэпутатам, старшынёй абласнога фонду культуры, я таксама вельмі многа часу траціў на грамадскія клопаты. І лічу, што сёе-тое паспеў зрабіць. Памагаў сельскім бібліятэкам, арганізоўвалі выставы народных майстроў. А якія цудоўныя конкурсы праводзілі!

Я ні ў чым не раскайваюся і жадання пачаць усё з самага пачатку ў мяне няма.

— Вось Вы прыгадалі, што працавалі раней па 14—16 гадзін у суткі. А як цяпер?

— Цяпер, канешне, моцы ўжо не стае. Асабліва пасля аперацыі. Але стараюся трымацца. Інакш нельга — задум процьма!

— Міхаіл Андрэевіч, ёсць два процілеглыя творчыя прынцыпы. Першы сфармуляваў М. Горкі: калі можаш не пісаць — не пішы. І другі прынцып, якога прытрымліваўся А. Пушкін: натхненне — рэдкі госць, і неабходна, каб ён заспеў цябе за працай. А як працуеце Вы?

— Пушкінскае вызначэнне выдатнае. Я так і раблю. Натхненне — вынік набытых дасягненняў, вопыту. Усё гэта акумулюецца, захоўваецца ў памяці і аднойчы завяршаецца творчай успышкай, нейкім азарэннем. І работа працягваецца.

— А калі Вы адпачываеце? І якім чынам?

— Адпачываю, мяняючы занятак. Для мяне вялікае задавальненне — чытанне. Але не дэтэктываў, не любоўных раманаў, а сур'ёзнай, глыбокай літаратуры. Кніг па мастацтве, гісторыі. Вось і зараз на маім стале ляжаць працы выдатнага расійскага гісторыка Мікалая Кастамарава.

А яшчэ я люблю працаваць на зямлі. Гэтая любоў у мяне засталася з дзяцінства, прывіта бацькам. Сёння, праўда, у маім распараджэнні зямлі няшмат — сотак дзевяць, якія выдзеліў гарвыканкам. Але я пастараўся гэты ўчастак максімальна добраўпарадкаваць. Пасадзіў пладовыя дрэвы, кусты. Многія яблыні ўжо пладаносяць. Вельмі смачныя, прыгожыя яблычкі. Асабліва я ганаруся сваім залатым, ці, як яго раней называлі, літоўскім ранетам. О, гэта кароль яблыкаў! І, ведаеце, я ледзь-ледзь яго здабыў. Аказваецца, гэты цудоўны гатунак даўно выкраслілі з дзяржаўнага рэестру. Дык я папрасіў аднаго садавода-аматара з Гродзеншчыны, і ён мне прывёз некалькі саджанцаў.

Яшчэ ў мяне ёсць «Каваленкаўскае». Яблыкі вялікія, смачныя. А беларускае корычнае? Смак незвычайны. З летніх гатункаў аддаю перавагу даўняй, праверанай малінаўцы. Яблыкі намнога лепшыя за белы наліў — буйныя, сакавітыя, пахучыя...

*І Міхаіл Андрэевіч узяўся распавядаць мне пра тонкасці і сакрэты садовай справы з такім захапленнем, з такім веданнем, што ў гэтыя хвіліны яму пазайздросціў бы любы прафесіянал.*

*А я і не думаў выявіць у Майстра гэту нечаканую і як быццам далёкую ад мастацтва страсць. Зрэшты, чаму ж далёкую? Садоўніцтва — гэта тое ж самае прызванне: тварыць прыгожае, карыснае, патрэбнае... І ў які раз даводзіцца пераконвацца ў справядлівасці ісціны: таленавіты чалавек — таленавіты ва ўсім.*



Іван КУРБЕКА

# МУЗЕЙНЫЯ БЫЛІ

Тэлефонны званок. Бяру трубку. Адтуль:

— Паклічце, калі ласка, мне Коласа.

— Каго? Каго? — разумеючы, вядома, хто цікавіць жанчыну, усё ж перапытваю я.

— Коласа мне...

— А навошта ён вам?

— Мне з ім трэба сустрэцца.

— Рана яшчэ, — супакойваю субяседніцу і, адчуваючы па голасе параўнальна малады яе ўзрост, даю сяброўскую параду: — Паспееце сустрэцца...

— Што вы жартуеце? — разззлавалася жанчына.

Бачу, дыялог пара спыняць.

— Прабачце, каго вы просіце? — пытаюся лагодна, але ўжо афіцыйна.

— Дырэктара музея.

— Тады вам патрэбен не Колас, а Міцкевіч, — далікатна ўдакладняю і тлумачу: — Псеўданім насіць і мае на тое права толькі чалавек, што абраў гэта імя. Жонка і дзеці застаюцца на сапраўдным прозвішчы. Так і ў Якуба Коласа.

— Дзякуй! — вінавата пачулася на тым канцы, і тэлефон змоўк.

А прыходзілі часам і пісьмы ў музей, адрасаваныя дырэктару — «Данілу Коласу».

* * *

Заходзіць чалавек. Вітаемся, гамонім. Уведаўшы, што ў кабінеце дырэктар, кіруецца туды. Праз пэўны час выходзіць. Расхваляваны і пакрыўджаны. Сваю незадаволенасць візітам выказвае на ўвесь голас:

— Вось бачыце... Я добра ведаў Канстанціна Міхайлавіча. Сустракаўся з ім, бываў у яго дома. Добра ведаю і сыноў. А як холадна абышоўся са мной Даніла Канстанцінавіч! Я ўпэўнены, калі б жывы быў Канстанцін Міхайлавіч, хто-хто, а сын мой працаваў бы ў музеі!..

Смяяцца з дарослага і нават перарослага дзядзькі не выпадае, і мы толькі паспачувалі:

— Ну, вядома ж, каб жыў Колас, зусім іншае было б...

Назаўтра я амаль экспромтам напісаў верш «Каб жыў паэт...»:

Калісьці ён з самім паэтам
Купаўся ў рэчцы неяк летам
І з той пары лічыў яго
За бацьку хроснага свайго.

---

*Курбека Іван Сцяпанавіч нарадзіўся 10 лістапада 1934 года ў вёсцы Серабрышча Баранавіцкага раёна. Скончыў філфак Белдзяржуніверсітэта. Працуе навуковым супрацоўнікам у Літаратурным музеі Якуба Коласа. Аўтар зборніка гумарыстычных вершаў «Абы здароўе», кнігі для дзяцей «Хітрыя літары».*

Таму дырэктару музея
Ён прама выказаў надзею:
— Мой сын закончыў інстытут
І працаваць жадае тут. —
Дырэктар выслухаў дэтальна
І галавой гарызантальна
Яму пачціва паківаў.
Кліент такога не чакаў.
Сказаў, пакрыўджаны, тады ён:
— На свеце людзі ўжо не тыя...
Каб жыў паэт (о, гэта ж цуд!) —
Хто-хто, а сын мой быў бы тут!..

Зайшоў у «Вожык». Рэдактар Уладзімір Корбан пытаецца:

— Можа, хлопец, што новенькае прынёс?

— Калі жадаеце, Уладзімір Іванавіч, зніміце «дэгустацыю», — запрапанаваў я і прачытаў яму верш.

— А ведаеш, братка, няблага. У бліжэйшым нумары змесцім.

Прыходжу аднойчы на службу. За сталом — Даніла Канстанцінавіч. Нешта чытае. Гляджу — «Вожык». І на маім вершы запыніўся. Каб, як гавораць артылерысты, «упредить удар» (ганіш ці хваліш каго — старонкі ж сатырычна-гумарыстычнага часопіса!), апраўдваюся:

— Даніла Канстанцінавіч, я не пра Вас...

— Ведаю, ведаю, — пагадзіўся ён, — але той момант памятаю.

...Каб жыў Канстанцін Міхайлавіч... Вядома ж, каб жыў паэт, было б не тое. І ўладкаваць сына гэтага чалавека ён, відаць, змог бы. Толькі, даруйце, не ў свой музей.

* * *

Бывала, не ведаем, як зачапіць «праходчыка» залаў. У няёмкасць можам загнаць яго, а заадно і сябе.

...Пажылы дзядзька і хлопчык гадоў пяці. Набліжаюся і лагодным тонам:

— Пакажы свайму дзеду...

— Гэта мой тата! — як гукне лжэўнук!..

Я тут жа аддаліўся.

* * *

...Пахмурны чалавек, не прывітаўшыся, адразу пасунуўся ў залу. І шапкі нават не зняў. Мае саслужыўкі цішком пачалі абурацца.

— Пачакайце, — гавару, — зараз усё ўладзім.

Думаю сабе: «Якая нявыхаванасць — зайсці ў музей і хадзіць у шапцы!..»

— Ну, як вам у нас? — пытаюся.

— Добра.

— Усё зразумела?

— Усё.

— Вы самі разберацеся?

— Разбяруся.

— Ну, то аглядайце, калі ласка. Будзьце як дома, — супакойваю. — У нас і шапку скінуць можна.

* * *

Розных характараў, нораваў бываюць наведвальнікі. Знаходзячыся ў Мінску, завіталі ў музей прафесары Ленінградскага універсітэта, вядомыя знаўцы літаратур народаў СССР П. Беркаў і І. Яромін. Дзяжурная навукоўка па звычцы стала суправаджаць іх. І гэтак сумленна, падрабязна пачала апавядаць пра жыццё-быц-

цё народнага паэта, як і ў часе экскурсій. Удзячныя слухачы пратрывалі залу, палову другой... Каля фатаграфіі Эпімах-Шыпілы адбылася развязка.

— На фота вы бачыце прафесара Пецярбургскага універсітэта...

— Ды не турбуйцеся. Ужо як-небудзь ведаем, хто такі Эпімах-Шыпіла! — рэзка і трошкі фанабэрыста супыніў правадніцу Беркаў.

Слёз маладой (эмацыянальнай, уражлівай) асобе каштаваў гэты «стоп-кадр».

* * *

Навучаны горкім вопытам калег, я стаў абачлівым у абыходжанні з людзьмі. У 1971 годзе музей Якуба Коласа наведаў Іраклій Андронікаў. Прывезла яго на шыкоўнай легкавушцы работніца Белдзяржфілармоніі. Нам пра яго візіт паведамілі загадзя: заўтра ў столькі і столькі будзе Андронікаў. З жонкай. Даніла Канстанцінавіч хварэў. Вядома ж, госця такой пашаноўнасці суправаджаў бы толькі ён. А то давялося мне. Даведаўся, як завуць жонку — Вівіяна Абелеўна. І яго — па бацьку (не ў галаве раней было) — Луарсабавіч.

Зайшлі госці. Мы, хто аказаўся на месцы, ветліва сустрэлі, запрасілі агледзець экспазіцыю. Адзін наш калега, узброіўшыся ўказкаю, памкнуўся быць экскурсаводам. Я моўчкі яго адцягнуў. «Не сунь  ся, — кажу, — асарамацішся. Ён выдатны музеязнавец і даследчык літаратуры, а ты тут са сваёй клюшняй. Хай абыдуць. Пасля, калі захочуць, зададуць пытанні...» Так і зрабілі.

Не вытрымаў перад развітаннем я. Карцела пазнаёміцца бліжэй.

— Іраклій Луарсабавіч, — звяртаюся сарамліва, — я таксама, як і Вы, іншы раз гавару «не сваім голасам».

Зацікавіўся ён. Прагаварылі мы ў кабінеце дырэктара добрую гадзіну (а прывозілі госця на пятнаццаць хвілін). Маіх імітуемых, беларускіх пісьменнікаў, добра ведаў. Напрасіўся я на яго літаратурную сустрэчу (білеты былі ўжо даўно прададзены). Дазволіў мне прыйсці ў гасцініцу «Мінск». Адтуль утраіх падаліся ў актавую залу Белдзяржуніверсітэта, дзе адбывалася выступленне. Пра тую сустрэчу — цэлыя ўспаміны.

Так, пра музей, займеў я знаёмства з рэдкім, вельмі мне жаданым чалавекам.

* * *

Шляхам жыцця вялікага Купалы прайшоўся са студэнтамі бібліятэчнага тэхнікума. Пра незабыўнага песняра ім, будучым прапагандыстам кнігі, хочацца ведаць як мага больш. І я прагавітасць іхнюю імкнуўся задаволіць. Падзякавалі, развіталіся. Дзве чамусьці застаюцца. Шэпчуцца і нешта быццам вырашаюць, злёгку спрачаюцца.

— Ну, што вам муляе, дзяўчаткі? — улажу ў іх ціхмяную гамонку. Незразумела што? Пытанні ёсць?

Суціхлі. Трошкі пачакаўшы, адна адной:

— Ты спытайся.

— Ай, сама.

— Смялей! Чаго саромецца! — падбадзёрваю.

— Скажыце, — прамовіла першая і вочы ўніз, — вам не дакучае кожны дзень адно і тое ж гаварыць?

Што рабіць? Адказваць трэба.

— А вы, дзяўчаткі, — набіраюся цярпення, — не задумваліся над сваёй будучай прафесіяй? Вам не будзе надакучваць кожны дзень браць з паліцы кнігі і даваць чытачам, браць у іх і ставіць на паліцу? — і далей: — А не надакучае вадзіцелю трамвая, тралейбуса ці аўтобуса кожны дзень ездзіць адным маршрутам? А не надакучае рабочаму штодня каля таго ж самага станка выстойваць? А не надакучае нам усім кожны дзень класціся спаць і падымацца?..

І далей, далей пачаў прыводзіць прыклады. Зачырванеліся мае «пытальніцы».

— Я ж, — працягваю сваю пераможную тыраду, — з вамі гаварыў як з бібліятэчнымі работніцамі. З прадстаўнікамі іншай прафесіі гаварыў бы па-іншаму. Вы — беларускія дзяўчаты. Прыйшлі б вашы аднагодкі з іншых рэспублік — інакшай была б і экскурсія. З замежнымі наведвальнікамі ішла б іншая гаворка. З хлопцамі больш па-хлапечы гутарыў бы. Вы — моладзь. І па-маладому хацелася правесці вас. Са старэйшымі іначай хадзілася б...

Сумеліся дзяўчаты. Нават шкада іх стала.

— Падбухторыла мяне! — буркнула тая, што пыталася. — І казала ж — не трэба...

— Трэба, трэба! — умешваюся я. — Усё незразумелае павінна быць вытлумачаным. Малайцы!

Збянтэжаныя, сарамяжна развітаўшыся, пакінулі яны музей.

* * *

Вяду экскурсію. «Недасканалых» настаўнікаў-беларусаведаў адукоўваю (іх нам сяды-тады падкідваў Рэспубліканскі інстытут удасканалення настаўнікаў). «Слухабельнасць» — адмысловая. Каму-каму, а ім святыня Беларусі музей Коласа дарагі і неабходны.

Адна з маіх слухачак, бачу, вельмі ж пільны позіркам працінае мяне. Гавару, а ў думках: «Хто ж яна?» Успамінаю: «Мая былая аднакласніца». Вяду расказ, а паралельна: «Прозвішча? Імя?» Успомніць не магу.

Паход скончаны. Прабралася да мяне яна:

— Здароў, Янка! Пазнаў? Ну, як жывеш?

— Жыву. Куды падзенешся! — адказваю. А сам мазгую: «І як жа з ёю паквітацца? Яна мяне — па імені, а я?.. Стоп, браткі, стоп?..» — Таварышы! — звяртаюся да ўсёй каманды. — Якраз цяпер у сябе ў кабінеце Даніла Канстанцінавіч. Вы можаце ўзяць аўтографы. Набывайце кніжкі ў дзяжурнай і падыходзьце па чарзе да яго.

Замітусіліся мае «адукаванкі». Гуськом пасунуліся, каб здзейсніць пачутае. Я — следам за незнаёмаю знаёмкай. Як і ва ўсіх аматараў аўтографа, Даніла Канстанцінавіч пытаецца ў яе прозвішча, імя, імя па бацьку. Называе. Заганяю ў памяць і ціхенька выходжу. А неўзабаве і яна.

— Скажы, Тамара Аляксандраўна, — гучна, ціснучы на зваротак, пытаюся, — што ў цябе чуваць?

— Мяне ты нават і па бацьку ведаеш? — вылупіла вочы аднакласніца.

— А чаму і не!

— Я ж думала, ты забыў, што такая вучылася з табой. Зайздрошчу, у каго добрая памяць...

* * *

Поўным ходам ідзе падрыхтоўка першай экспазіцыі музея Янкі Купалы ў новым, цяперашнім памяшканні.

— Іван Сцяпанавіч, — звяртаецца да мяне часовы пасля Уладзіславы Францаўны дырэктар Іосіф Жыдовіч, — як пазваніць Кролю?

Гэта мастаку-афарміцелю. З ходу называю тэлефон.

Набірае акуратна нумар. Чуецца жаночы голас. «Званар» лісліва ўступае ў гутарку. Ды яна праз імгненне спыняецца.

Назаўтра дырэктар кліча мяне ў кабінет.

— Што за жартачкі?! — крычыць.

Недаўменна маўчу.

— Я — камуніст! — горда заяўляе.

— А я — камсамолец! — у адказ яму.

— Я — інвалід!

— А хто гэтага не бачыць? — не здаюся я. А сам перабіраю ў мазгах: «Што ж магло стацца?.. Чаго раз'юшыўся?.. Ой, бацюхны!.. Я ж падсунуў яму яго ўласны тэлефон...» Розніўся ад Кролевага адваротным размяшчэннем другой і трэцяй пары лічбаў.

Планавалася мне, «абразніку», суровая вымова. Заступіўся вучоны сакратар музея, пісьменнік Алесь Есакоў:

— Іосіф Карлавіч, Курбека — хлопец малады, у яго яшчэ ўсё наперадзе...

* * *

Праз год пасля Уладзіславы Францаўны да нас дырэктарам прыйшоў рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Янка Шарахоўскі, чалавек мажнога целаскладу, запаволены рухамі і думкамі. Са сваімі невялікімі дзівацтвамі. У яго мове без дай прычыны паўтараліся словы «між іншым». Гэтым выразам мы часам звалі яго завочна.

Адчыняе аднаго разу наш пакой і да мяне:

— Між іншым, зайдзіце ў мой кабінет.

І пайшоў. Я за ім. Ён — за сваім сталом, я стаю ў дзвярах.

— Між іншым, вы ўчора дзяжурылі?

— Я, — баязліва прызнаюся.

— Значыць, вы... — глыбакадумна пагаджаецца.

Я ж увесь у трывозе: «Можа, які нягоднік спёр экспанат? А, магчыма, скульптура «Янка Купала і Максім Горкі» развалілася ці ўсохлася?..»

Дырэктар пакорпаўся ў адной шуфлядзе стала, у другой... «Пэўна ж, — думаю, — шукае на мяне падрыхтаваны загад...»

Нарэшце ўтаропіўся ў акно, павярнуўся да мяне:

— Ідзіце, між іншым, і працуйце...

* * *

Некалькі разоў летнім часам замяняў я загадчыцу філіяла Купалаўскага музея ў Вязынцы, калі тая ішла ў адпачынак. Першая «вылазка» адбылася яшчэ пры цёці Уладзі — у 1959 годзе (нагадаю, што не стала яе 25 лютага 1960-га). Захапіў з сабой гармонік, фотаапарат. Ладзілі вечарынкі па суботах. Аброс сябрамі з мясцовай моладзі. Як мяне яны завочна звалі, не ведаю. Пры сустрэчы ж — Ваня, Іван, я іх — Коля, Косця, Вася... Пра сваю пасаду і не задумваўся.

Аднойчы (мне пра гэта расказалі нашы супрацоўнікі) у мінскі, галоўны музей прыйшлі два хлопцы і запатрабавалі дырэктара.

У вестыбюль выйшаў, зразумела, сам ён:

— Між іншым, я — дырэктар.

Просьбіты агледзелі ўважліва яго, пераглянуліся між сабой і заключылі:

— Вы не дырэктар. Той ніжэйшы, худзейшы і маладзейшы...

— Вы, між іншым, жартуеце? — спытаўся збянтэжаны кіраўнік музея.

Хлопцы павярнуліся і падаліся на вуліцу.

* * *

Фатаграфаваў я ўсіх, каго сам хацеў, — і маладых, і старых. Праз пэўны час аддаваў прадукцыю (вырабляў у Мінску ў добрага свайго знаёмага). За так, за дзякуй. Быў рад, што людзям прынашу прыемнасць. Паважалі, прызнацца, мяне вяскоўцы.

Адзін раз пляснуўся я перад імі тварам у гразь. Сядзім, вымочваем плёнку ў сябра. Глядзім на святло — чарнюткая-чарнюткая... І нават на кадры падзелу няма. Аж зашчымела ў грудзях.

— Косця, што гэта такое?! — ледзь не плачу.

— А вельмі проста. І ў мяне было тое ж, — супакойвае спецыяліст. — Нейкі ўмелец засвяціў усю плёнку (сам або дзеці), скруціў, засунуў у каробачку і пайшоў у аддзел фотаматэрыялаў магазіна. Там папрасіў плёнку, патрымаў у руках і аддаў назад... бракаваную. Памяняў! Ты ж яе купіў і выкарыстаў...

Мусіць, палічылі мае «аб'екты» мяне партачом?..

* * *

У выхадныя мы, навукоўцы, дзяжурылі на экспазіцыі па два чалавекі. Неяк запазніўся я на пяць хвілін. Адчыняю дзверы і таропка заходжу ў вестыбюль. Мая напарніца рэзка кідае тэлефонную трубку і, як уджаленая, нясецца ў наш агульны пакой.

— Што з ёю? — пытаюся.

— Яна званіла дырэктару, хацела параіцца, як быць: Курбекі няма, — растлумачыла наглядчыца, што сядзела за столікам.

— А дазванілася?

— Не паспела.

Разгневаны, іду ў пакой.

— Добры дзень, Ала!

Маўчанне. Галава апушчаная.

— Як там дырэктар маецца?

— Адкуль я ведаю...

— Ну, як жа, прыйсці на службу і не пацікавіцца здароўем свайго начальніка, чым ён займаецца ў выхадны дзень... Не параіцца наконт дзяжурства...

Пераходжу на прамы тэкст:

— Вы ж дарослая дзяўчына. З вышэйшай адукацыяй...

Адчуваю меру і змаўкаю. Выходжу ў вестыбюль.

* * *

— Як вам Леў Паўлавіч? — ці раз яна дапытвалася ў мяне. І я, што меў моцы, хваліў свайго добрага знаёмца, вучонага сакратара Коласаўскага музея. Дый не знаёмца-калегу, земляка.

Запытальніца прыемна чырванела і далікатна падавала канверт, адрасаваны яму:

— Перадайце, калі пойдзеце.

Я ішоў у Коласаў дом. Знарок, ахвотна.

— Як вам Ала Мікалаеўна? — цікавіўся ўладальнік пісьма.

— Ого! Такую пашукаць... — расчульваў я калегу і сыпаў, сыпаў светлыя эпітэты.

— Перадайце, калі ласка, — падаваў ён канверт, адрасаваны ёй.

...На іх вяселлі «даносчык» пісьмаў быў самым, бадай, пачэсным госцем.

* * *

Святкуецца 90-годдзе Якуба Коласа. Вырашыў я правесці тэлеперадачу «Паэт, вучоны, грамадзянін» (Колас і Акадэмія навук). Падабраў знакамітых вучоных. А гэта — акадэмікі Кандрат Крапіва, Гаўрыла Гарэцкі, Алесь Вечар, Фёдар Фёдараў (сын Янкі Маўра), Мікалай Міцкевіч (сын Коласавага «дарэктара»), член-карэспандэнт Міхась Ганчарык.

На ўсіх адводзілася паўгадзіны часу. Зрабіў прыкідку — колькі хвалін каму гаварыць і пра што прыблізна. Улічыў, вядома, і сябе, «пракладчыка». Дамовіліся выступаць па-беларуску.

Тады тэлеперадачы ішлі ў эфір у большасці «жыўцом». Наша — таксама. Паселі, падрыхтаваліся. Трансляцыя пачалася. Сказаў я колькі слоў уступных і даю слова гаспадару кабінета, віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі К. Крапіве. Прамоўца гаворыць пра сустрэчы з Якубам Коласам, пра сумесную працу ў Акадэміі. Зірнуў я на гадзіннік — дзве хвіліны перабрана. Выступае Гаўрыла Гарэцкі. Нагінаецца да мяне Ф. Фёдараў і шэпча: «Буду говорить по-русски, мне так лечге». Не абурышся, не запярэчыш — навідавоку ж у людзей. Маўчу.

Зацягваюць рэгламент патроўшку ўсе. «Сціскаюся» сам. Апошняе слова даю А. Вечару. Ён не толькі вучоны-біёлаг, але і паэт. Па маёй просьбе чытае верш, прысвечаны Якубу Коласу. «Хутчэй бы закругліўся!» Прамоўца ж — павольны, флегматычны. Не хвіліны, а секунды застаюцца... Рэм Нікіфаравіч, мой рэдактар, стаіць ля аператара і робіць круг рукою: скончыўся наш час! Камера не выключаецца. І я традыцыйна «падводжу рысу» і міла развітваюся з тэлегледачамі. Мае выступоўцы, дзякаваць Богу, не здагадваюцца, што гавару я марна. «Дзе нас Масква абарвала? На якім слове?» Нервуюся, перажываю. Такі настрой ва ўсіх — у рэдактара, аператара, у рэжысёра. А вінаваты, вядома ж, будзе вядучы.

Назаўтра чакаю «прысуду». Звоніць Рэм Нікіфаровіч і віншуе. Мая перадача прызнана тэлеаглядальнікамі лепшай за апошні час: «Іван Курбека без банальнасці закончыў гаворку, свежа, нечакана». Абрыў, аказваецца, адбыўся на лагічным «перадыху» верша. На ім, на добры лад, і аўтару канчаць свой твор не шкодзіла б...

* * *

Блізіцца 100-годдзе з дня нараджэння народных песняроў. Да гэтых падзей шмат што рыхтуецца ў рэспубліцы і за яе межамі. Сярод кніжнай прадукцыі плануецца і выданне вершаў, прысвечаных народным паэтам. Праблема — выпусціць у адным зборніку ці паасобку?

Неяк у Купалаўскім музеі разгаманіўся з пляменніцай песняра, галоўным захавальнікам Ядвігай Раманоўскай.

— Вядома ж, трэба асобна выдаваць. Заслужылі яны гэта, — разважаю. — Калі разам, то невядома, каго першым даваць.

— Пэўна ж — Купалу!

— А што раней — Ко ці Ку? — запытваю, нагадваючы алфавітны парадак.

— А што раней — Луцэвіч ці Міцкевіч?

Успамінаю славутыя словы класіка.

— А што Максім Горкі сказаў: «У Беларусі ёсць два паэты — Якуб Колас і Янка Купала...»?

— Мала што нейкі Горкі мог сказаць?! — парыруе Ядвіга Юльянаўна і зачыняе дзверы свайго фондавага пакоя знутры.

* * *

Успамінаецца адна (студыйная) тэлеперадача з часоў майго бытавання ў Купалаўскім музеі. Склікаў я сясцёр народнага песняра Марыю Дамінікаўну Аўлачынскую і Леакадзію Дамінікаўну Раманоўскую, паэтаў Пятра Глебку, Міколу Аўрамчыка і Кастуся Цвірку, першую выканаўцу ролі Паўлінкі ў Пецярбургу Паўліну Вікенцьеўну Мядзёлку (жыла ў Будславе Мядзельскага раёна).

Перадача мела ўхвальны розгалас. Праз колькі дзён на маё імя прыйшоў пісьмовы водгук ад вядомага вучонага-лінгвіста і педагога Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Вось гэты памятны для мяне дакумент:

«Літаратурны музей Янкі Купалы

Івану Курбеку

Прыміце маё дзякуй за добрую перадачу пра Янку Купалу. Хай яна будзе пачаткам несканчонай серыі перадач пра дарагога Янку.

Вельмі добра, што запрасілі Паўліну Мядзёлку.

19.1.64 *Ф. Янкоўскі*».

Запрашаў я з Любанскага раёна галоўнага героя паэмы «Над ракою Арэсай» Эмануіла Натанавіча Модзіна. Не прыехаў: відаць, не выпала.

Планавалася яшчэ адна ўдзельніца тэлеперадачы — Вера Дзегцярэнка, народная майстрыха са Жлобіна, аўтарка партрэта юнага Янкі Купалы (Івана Луцэвіча): выраб з каляровай саломкі. Ліст свой я заканчваў словамі: «Перад прыездам дайце тэлеграму. Сустрэну». Неўзабаве атрымліваю адказ:

«Уважаемый тов. Сустренев! Моя жена приехать на передачу не сможет: находится в длительной командировке».

Дата *Подпіс мужа*

Тэлеперадача з музея. Папярэдні запіс. Прыйшлі выступоўцы. Сярод іх — Максім Лужанін, Янка Брыль, Іван Шамякін. Падрыхтавана тэхніка. Пара пачынаць. Янка Брыль да мяне:

— Іване, каго мы чакаем?

Называю маладога паэта.

— І з-за яго мы тут марнеем?! — дзівіцца Іван Антонавіч і расказвае выпадак са свайго жыцця. Быў ён у адным райкаме. Разгаварыўся з маладой работніцай. Яна пажалілася пісьменніку:

— Я очень встала...

Мудры Іван Антонавіч заключае: «Цяпер маладыя людзі «очень вставшие»...

Закончаны запіс тэлеперадачы з Коласавага дома. Разыходзяцца ўдзельнікі. Уніз пайшоў з другога паверха і шаноўны госць Максім Танк. «Калі, — думаю, — выпадзе такая мажлівасць?» Даганяю.

— Яўген Іванавіч, калі ласка, пакіньце «след» у нашай кнізе водгукаў...

Глянуў на мяне ён:

— А ты думаеш, братка, разумныя словы лёгка напісаць? Я падумаю, прыйду і напішу.

Не хапіла тады ў мяне смеласці і настырнасці. А музейцу ў падобных выпадках гэтыя рысы характару варта мець...

* * *

Іду па акадэмічнай тэрыторыі. Насустрач — мернаю хадою Гаўрыла Гарэцкі. Кіўком галавы далікатна вітаюся і мінаю славутага вучонага. Не паспеў ступіць і некалькі крокаў, як чую ягоны голас:

— Ой, пачакайце! Хачу нешта спытаць у вас.

«У мяне? Цікава...»

Спыняюся і вяртаюся да яго.

— Скажыце свайму пляменніку, каб лепш у варотах стаяў.

Разумею непакой Гаўрылы Іванавіча і чаму звяртаецца да мяне. У тыя гады варатаром мінскага «Дынама» быў Юрый Курбыка. Слынны геолаг, мусіць, ведаў мяне збоку як музейца-коласаўца. І па прозвішчы. Але «бека» я ці «быка»...

— Абавязкова скажу! Як жа можна траўміраваць балельшчыкаў, нават акадэмікаў?!

— Вельмі ж многа мячоў апошнім часам прапускае, — засмучона гаворыць Гаўрыла Іванавіч і, задаволены, што свой боль выліў «дзядзьку» варатара, крочыць патрэбным шляхам далей.

* * *

На той жа дарозе сустракаюся неяк са званым літаратуразнаўцам. Вітаемся.

— А скажыце, Курбека, калі нарадзілася Марыя Дзмітрыеўна? — пытаецца даследчык.

— Яна — аднагодка цёці Уладзі.

Знаўца літаратуры ў разгубленасці: ураўненне з двума невядомымі.

Даю разумную падказку:

— Яны абедзве — і Уладзіслава Францаўна, і Марыя Дзмітрыеўна — маладзейшыя за сваіх мужоў, народных песняроў Беларусі, на дзевяць гадоў.

Зноў ураўненне, ужо з чатырма невядомымі.

«Пытальнік» пастаяў, паморшчыў лоб, злосна махнуў рукою:

— З вамі толькі звяжыся!.. — і падаўся ў сваім кірунку.

Доўга не сунімаўся ад смеху сведка «баталіі» Іван Цішчанка, навуковец Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. І кожны раз пры сустрэчы весела ўспамінаў той забаўны эпізод.

* * *

Ладзім літаратурны вечар, прысвечаны 80-годдзю Міколы Татура. Нешта за гадзіну да пачатку звоніць юбіляр.

— Іван Сцяпанавіч, я не прыйду.

Мяне як кіпенем абліло.

— Чаму?

— Жонка руку зламала.

Ведаю, што дзён дзесяць назад няшчасце адбылося. «Магчыма, зноў упала?..»

Бяру з сабой Гэлю Шакун, наглядчыцу, медсястру па адукацыі (дарэчы, яна — жонка вядомага лінгвіста Льва Міхайлавіча Шакуна, майго настаўніка па БДУ) і бегом у метро. Прыязджаем да плошчы імя Якуба Коласа, выходзім. Адсюль — «нагой» падаць кватэра Міколы Ігнатавіча па вуліцы Чырвонай.

Заходзім у хату. Гаспадар у будзённым убранні. На канапе — інвалідка, рука ў «асфальце». Бадзёры выгляд.

— Хай ідзе! Чым ён дапаможа мне?

— Я пакіну тут нашу работніцу, медычку.

— Не трэба. Мне нічога не баліць.

Хуценька даводжу да святочнага ладу юбіляра і амаль за руку вяду на вуліцу.

З'явіліся мы, калі ўся публіка была ў зборы і ў чаканні. Ледзь аддыхаўшыся, пачаў я ўрачыстасць.

* * *

Даюцца ў знакі гэтыя мерапрыемствы! То выступовец (каб жа адзін!) не прыйдзе, то «выслухоўцы» не гэтак збяруцца, як планавалася... А табе ўсё думкі, нерваванне... Памятаю, у адзін год 23 лютага ў Коласавым доме павінна была прайсці літаратурная сустрэча з вайскоўцамі. Паклікаў я паважаных пісьменнікаў — Пятра Прыходзьку, Аляксандра Дракахруста, Мікалая Кругавых. Далучыўся да іх і Даніла Канстанцінавіч. Сядзім-сядзім. Так і не дачакаліся абаронцаў. А яшчэ кажам — ваенная дысцыпліна!

* * *

Часам адзін чалавек усю «абедню сапсуе». Праводзілі мы вялікі вечар у Доме літаратара. Фатографа свайго па тым часе не мелі. Звярнуўся я да аднаго, другога. Не выпадае ім. Мой сябар, які добра валодаў гэтай тэхнікай, сам падрадзіўся: «Я прыйду!» Усцешаны, я і супакоіўся. Не прыйшоў, умелец. Назаўтра адбаярваўся рознымі прычынамі. Сказаў бы хоць напярэдадні — падшукаў бы я чалавека. А так — засталася для нас, коласаўцаў, важная падзея толькі ў паветры.

Безадказнасць і беспакаранасць. Не падасі на такога ў суд, не зробіш ніякага спагнання. Успамінаецца ў гэтай сувязі вялікі Якуб Колас. Іншы раз, калі мы выступалі з Данілам Канстанцінавічам, задавалі яму пытанне:

— Якая галоўная рыса характару была ў Вашага бацькі?

У адказ чуліся словы:

— Дысцыплінаванасць. Калі ён прызначаў каму сустрэчу, за добрых пятнаццаць хвілін чакаў кліента. Пазніўся той — гаспадар пазіраў на гадзіннік і нерваваўся.

І далей, далей прыводзіў прыклады прамоўца.

Ніяк не згасае ў памяці адна прыкрасць. 1975 год. Нам пазванілі: «Заўтра ў вас будзе Пётр Клімук, у 15 гадзін». У той дзень усе музейцы былі ў прыўзнятым настроі. Вырашылі сустрэчу абавязкова зафіксáваць. Алесь Камароўскі паехаў па свой уласны адборны магнітафон, Алесь Федарэнчык (мною запрошаны фатограф) рыхтаваў сваю «зброю». Прыходзім у палове трэцяй (а нехта і раней) — дзяжурная абухам па галаве:

— Ужо быў, у гадзіну дня.

Мілыя арганізатары! Вы ж сарвалі нам такое мерапрыемства! Праўда, у музеі была навуковы супрацоўнік, наглядчыца. Паклікалі Данілу Канстанцінавіча (жыў ён на музейнай сядзібе). А мог жа таксама перад трыма гадзінамі куды-небудзь адхіліцца...

Здымкі зрабіў іхні фатограф (пазней мы закупілі), госць перадаў кніжку-малышку твораў Якуба Коласа, якую браў у космас. Але ж гэта не той маштаб сустрэчы!.. А для нас, музейцаў, страта каштоўнага матэрыялу.

* * *

Працавала ў нас часова адна маладая асоба. Натура тонкая, паэтычная. Аднойчы вядзе групу навучэнцаў якогасьці мінскага вучылішча. Прайшла два пакоі — дарэвалюцыйны перыяд. Падалася ў трэці. Неўзабаве заходзіць у канцылярыю са слязьмі на вачах. Бяру ў яе ўказку, да «ослухаў» іду. Як ні ў чым не бывала працягваю экскурсію. Увага і цішыня. А каб стаў дакараць іх?..

* * *

Двума заходамі працаваў у нас дзіцячы пісьменнік Мікола Корзун. Забраўся аднаго дня ён на чарэшню і смакотна спажывае далёкія да спеласці плады. Падыходзіць Даніла Канстанцінавіч, галаву ўверх:

— Мікола Паўлавіч, яны ж яшчэ зялёныя!..

— А я такія і люблю! — тлумачыць з вышыні «спажывец».

* * *

Пытаецца мой «аднапакойнік» (той, што сядзіць у адным пакоі):

— Іван, колькі часу?

— А ты пазвані маёй добрай знаёмай. Нічога не гавары, і яна скажа.

Называю нумар 0-88 (ён, аказваецца, не ведаў гэтай аўтаматыкі). Набірае лічбы, адтуль (чуваць і мне): «Дванаццаць гадзін 15 хвілін».

— Дзякуй! — ветліва «разлічваецца» за паслугу з «жанчынай» калега...

* * *

Іду па музеі з першакласнікамі. На другім паверсе для іх, мусіць, самае цікавае — абстаноўка тых часоў, калі ў доме жыў пісьменнік. У вялікай зале, былой гасцёўні, фігурная мэбля, тэлевізар, раяль.

— Можна пайграць? — пытаецца адна дзяўчынка.

— Чаму ж не! Калі ласка, — гавару і падымаю накрыўку.

— Трын, трын, трын, — прабеглі пальчыкі па клавішах. Вырысоўваецца і нейкая мелодыя.

Дзяўчынка, што побач са мной:

— Мне жалко...

— Каго, чаго? — пытаюся, нагнуўшыся да яе, і гладжу па галоўцы. «Мусіць, шкадуе раяля?..»

— Мне жалко...

Зноў запытваю. А яна:

— Мне жалко, что Колас не живёт…

Ах, мілае малое стварэнне! Гэта ж у яе галоўцы не ўкладваецца — па доме ходзяць, іграюць на музычным інструменце, гаспадара ж самога няма...

* * *

Аднаго вечара едзем на тралейбусе з выступлення ў інтэрнаце Інстытута народнай гаспадаркі — Даніла Канстанцінавіч, Аляксей Слесарэнка і я. Вядома ж, з кветкамі. Яны сядзяць, я стаю. Набліжаемся да свайго прыпынку. Хлопец, што ехаў з дзяўчынай, падыходзіць да маіх старэйшых калегаў і нясмела:

— Прадайце, калі ласка, мне кветкі.

— Ніякага продажу! — выкрыкнуў Аляксей Аляксеевіч. — Гэта дарунак!

Сумеўшыся, пайшоў «пакупнік» да напарніцы. Стаяць, бедалагі, ля кабіны вадзіцеля. «Пэўна ж, — думаю, — пільна трэба маладым людзям...» А ў тыя гады кветкавы ласунак набыць было не вельмі лёгка, тым больш у вечаровы час (гандаль не вёўся, як цяпер, — на зямлі і пад зямлёй).

Наш прыпынак. Першымі прагуцца на вуліцу старэйшыя, за імі я. Апынуўшыся каля хлопца, уручаю свае кветкі:

— Вазьмі, братка, хай вам шчасціць!

Адчуваю — шаснула рука яго ў маю кішэнь. «Нічога ты не знойдзеш там», — падумаў, а крыкнуць на злодзея не паспеў: дзверы зачыніліся.

«Што ж магло быць у мяне ў кішэні?» Правяраю і вымаю... пяць рублёў. Па тым часе гэта — бутэлька гарэлкі і добрыя «заедзіны»! Смяёмся ўтрох. Аляксей Аляксеевіч як быццам і зайздросціць. Я ж ганарова заключаю:

— Дабро павінна акупляцца!

* * *

Кветкі, атрыманыя ад слухачоў, я найчасцей прэзентаваў шаноўнаму напарніку па выступленнях — Данілу Канстанцінавічу. Ён адпаведна дзякаваў, далучаў да сваіх і патоўшчаны букет акуратна вёз дадому. А там, ведаў я, чакаюць аматары і знатакі дарунка — жонка Ала Цімафееўна, дачка Вера і дачка дачкі Валя.

Некалькі разоў, назаўтра пасля выступлення, адклікаў ён мяне ўбок і падносіў бутэлечку спірытусу:

— Гэта ад нашай сям'і.

Падабаўся мне такі «бартар».

* * *

Вытворчая нарада ў дырэктара. Усе спраўляюцца з абавязкамі. Як заўсёды, адзін я цягну воз назад. Не ідуць наведвальнікі ў музей! Хоць плач. А вінаваты загадчык экскурсійна-масавага аддзела Курбека. «Трэба працаваць!» Зноў тая ж песня! І прыгадваюцца Коласавы радкі:

Завошта пан мяне так лае?
Згарыць яна няхай такая
І служба гэта, і пасада,
І гэта крыўда, й гэта здрада...

Даніла Канстанцінавіч, праўда, не лае мяне, але ж балюча ўшчувае. Раптам прыходзіць ідэя! На поўным сур'ёзе кансультуюся з дырэктарам:

— А што, Даніла Канстанцінавіч, каб звязацца з аўтаінспекцыяй? Едзе міліцэйская машына з «мігаўкай». І голас: «Внимание! Внимание! Гражданка в красном платке! Вы были в музее Якуба Коласа? Обязательно посетите! Гражданка в синем пальто! А вы не были?» І яшчэ, яшчэ. «Хаця б самому не ўсміхнуцца».

Даніла Канстанцінавіч, апусціўшы вочы, склаўшы ў замок пальцы і круцячы вялікімі адзін вакол другога, сумленна адгаворвае мяне:

— Відаць, Іван Сцяпанавіч, не варта звязвацца з міліцыяй. Будзе трошкі смешнавата...

Скончылася пасяджэнне. Выходзім. Мікола Базарэвіч на мяне: «Бяжы ў магазін! Калі б я ці хто хіхікнуў, быў бы загад нумар...»

І сапраўды, мой фокус-марокус мог бы мне бокам вылезці...

* * *

Экскурсію вядзе Алесь Камароўскі. На другім паверсе робіць разрадку — на ўвесь голас (а ён у яго моцны, узнёслы) чытае свае вершы, прысвечаныя песняру.

— Дзяўчаты! Алеся Адамавіча наведвальнікі б'юць! — спалохана бударажу наглядчыц.

Тыя мігам наверх. Стаяць слухмяна дзеці, у чытальніцкім развоі экскурсавод. Моўчкі папрасіўшы прабачэння ў калегі за недарэчнае «падслухоўванне», наглядчыцы спускаюцца ўніз.

* * *

Даўно ў нас ва ўжытку дзве літаратурныя фразы паводле вядомых твораў: «Пайсці і не вярнуцца» і «Расстаёмся ненадоўга». Калі хто ідзе з работы назусім — значыць, па-быкаўскаму. Яшчэ з'явіцца — па-кулакоўскаму.

* * *

Прыгожая, статная дзяўчына Каця адбою не мае ад «кавалерскіх» званкоў. Неяк падымаю трубку я.

— Кацю можна?

— А гэта ў яе спытацца трэба, — раю хлопцу.

* * *

Незабыўны момант, калі ў музеі працаваў вучоным сакратаром пісьменнік Алесь Савіцкі. У тыя гады ў навукоўцах нашых быў брат Сцяпана Аляксандровіча — Мечык. Тэлефонны званок. Трубку бярэ вучоны сакратар.

— Мечык ё?

— Не ё і не бу! — адказвае Алесь Ануфрыевіч і кладзе «трубу».

* * *

Збіраюся пайсці з пакоя. Нехта з калегаў:

— Куды, Іван Сцяпанавіч?

— На згрызоты...

Ім, маім сябрам, зразумелы «пароль» (згрызоты — есці, грызці...)

Сустракаю раз добрага знаёмага.

— Што з табою было? Якую і дзе табе прачуханку давалі?

Гляджу на яго няўцямна.

— Я званіў табе, адказалі: «Пайшоў на згрызоты!»

Смяюся і растлумачваю «новае» значэнне гэтага слова, далучаючы знаёмца да свайго настрою.

* * *

Я ў акадэмічнай харчэўні. Стаю ў чарзе, пасоўваю паднос. Гарнір да «другога» — бульба, грэчка, макароны.

— З якім гарнірам? — пытаецца «карміліца».

— З міністрам абароны! — голасна прашу.

У тыя гады ведамства гэтае ўзначальваў Маршал Савецкага Саюза Андрэй Антонавіч Грэчка.

Тая недаўменнымі вачыма на мяне. Па чарзе пайшоў смяшок. Здагадалася і яна.

* * *

Мы з дзядзькам Юзікам ходзім і ездзім — выступаем. Коласаў брат — выдатны чытальнік твораў песняра. Дый іншых аўтараў, і не толькі беларускіх. Ваджу яго з сабой, ганаруся такім сяброўствам. У добра знаёмых часам пытаюся:

— Што такое «вядучы і вядомы»?

Чалавек маўчыць.

— Курбека з Іосіфам Міхайлавічам ідуць выступаць. Першы — вядучы, другі — вядомы, — даю разгадку сам.

* * *

Навуковая канферэнцыя ў Коласавым доме. Першы дзень літаратурных «Каласавін», святкуецца з 1985 года. Другім днём ладзіцца паездка на радзіму песняра.

«Камандуючы» канферэнцыі — член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Міхась Мушынскі, ён жа і «пачынальнік» пасяджэнняў. У перапынку адна даследчыца, дацэнт Віцебскага педінстытута (цяпер — універсітэта) Вольга Русілка «сцялася» са знаным вучоным і не паддаецца, слушна даводзіць сваю правату. Сведка спрэчкі, я кідаю на паперу вершаваныя радкі:

Відаць, Русілка
Мае сілку,
Калі
Мушынскага Міхала
Пры ўсім народзе
Адмахала.

Паказваю сябру, таксама выдатнаму даследчыку, калегу Мушынскага па працы ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі Васілю Жураўлёву. Той прачытаў, вяла ўсміхнуўся:

— Толькі не паказвайце, Курбека, Міхасю. Можа пакрыўдзіцца...

Паслухаўся на той час. Значна пазней, пры сустрэчы, азнаёміў Міхася Іосіфавіча з экспромтам. Міла пасмяяліся мы ўдвух. Вольга ж Русілка запісала з радасцю мой «твор» сабе на памяць яшчэ ў той «спрэчны» дзень.

* * *

Адзін год у маім пакоі працавала дзяўчына па імені Наташа. Не дабрала балаў на журфак Белдзяржуніверсітэта. З ласкі тагачаснага дырэктара Коласаўскага музея Георгія Андрэевіча Ткацэвіча асела ў нашым калектыве. Каб перабытаваць і ўзяць рэванш. Паўторна паступіла, скончыла вучобу і... праз год ці два трагічна загінула.

Дык вось — аднойчы нешта зачхалася яна.

Я раблю заўвагу:

— Відаць, начхаць вам, Наташа, на музей?

— Нет, Иван Степанович, я просто простудилась...

Чамусьці захацелася ўспомніць і пра яе ўступныя экзамены.

— Наташа, трэба было б, калі бачылі, што экзаменатар меціцца ставіць не «пяцёрку», напалохаць яго: «Я пагавару з сваім дзядзькам...» (У зеніце знаходзіўся тады Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, а прозвішча такое ж мела і Наташа).

— Нет, Иван Степанович, он не дядя мне. Это совпадение... — тлумачыць дзяўчына.

Я ківаю галавой.

* * *

Тры пакоі ў памяшканні Інстытута гісторыі НАН Беларусі належаць нам, музейцам-коласаўцам. Тут мы не ў падсуседзях, а законныя тубыльцы. Помніцца дзень, калі пачынала вырашацца наша «кватэрнае» пытанне. У музей завітала ўзбекская дэлегацыя (праходзілі дні іхняй літаратуры ў Беларусі, да гэтай падзеі было прымеркавана адкрыццё філіяла музея Якуба Коласа ў Смольні — 8 чэрвеня 1967 года стужку разразаў народны паэт Узбекістана Уйгун). Экскурсію вёў наш дырэктар Даніла Канстанцінавіч. Назіркам ішлі мы, некаторыя радавыя працаўнікі. Сярод гасцей былі і беларускія дзяржаўныя дзеячы — сакратар ЦК КПБ Станіслаў Антонавіч Пілатовіч і Іван Фролавіч Клімаў (намеснік старшыні Савета Міністраў БССР).

Помню, адвёў С. А. Пілатовіч убок І. Ф. Клімава і даў наказ выдзеліць у новым, дабудаваным памяшканні Акадэміі навук пакоі для Коласаўскага музея (народны паэт 28 гадоў нёс службу віцэ-прэзідэнта АН Беларусі, і супрацоўнікі музея песняра заслужылі права мець належныя ўмовы для сваёй дзейнасці). Хоць і гэта — не раздолле. Ды ўсё ж не тая цесната, што ў самім музеі...

* * *

Мы карыстаемся двума тэлефонамі, што розняцца канцавымі лічбамі — 02 і 03. Яны ўжо звыклымі нам сталі. І кожнаму вядомыя найменні: міліцыя і «хуткая дапамога». Калі ідзе хто з музея ў нашы пакоі, адрэкамендоўваецца: «Буду ў міліцыі» або «Пайду ў «хуткую дапамогу». Часам я, называючы каму-небудзь свой службовы тэлефон, пералічваю першыя чатыры лічбы, а дзве апошнія падаю словам: «міліцыя». Большасць людзей разумее. А не — то няцяжка назваць — 02.

Пазваніў аднойчы мой знаёмы. Трапіў на 03.

— Курбеку паклічце, калі ласка!

— Прыёмшчыца «позвы» аўтарытэтна:

— Трапілі вы ў «хуткую дапамогу», а ён знаходзіцца ў «міліцыі». Жанчыне падалося, што нехта з музейцаў звоніць.

Знаёмец мой спалохана кінуў трубку. Пра гэтае непаразуменне расказаў, турбуючыся за здароўе Курбекі, у той жа дзень, трошкі пазней. Па маім тэлефоне. Я яму ўсё растлумачыў.

* * *

Марудна абжывалі мы акадэмічныя пакоі. Зжыліся з Коласавай сядзібай, з домам... Сядзім, цяснімся. Суцяшаемся, што ў цеснаце — не ў крыўдзе.

Трошкі раззлавана дакарае нас дырэктар:

— Таварышы, што ж вы сабе думаеце? Дамагаліся пашырэння плошчы, а не засяляемся. Падумаюць, не трэба яна музею, і — забяруць! Чаго вы тут седзіце?..

Кінуліся мы туды. Не з'яўляемся ў музей.

Праходзіць пэўны час — Даніла Канстанцінавіч:

— Таварышы, што ж вы сабе думаеце? Я вас па тыдні і больш не бачу... Чаго вы там седзіце?..

* * *

Даўно музей наш, як і многія дзяржаўныя аб'екты, узяты на сігналізацыю. Цяпер некаторыя жыхары і кватэры «сігналізуюць». Набіраеш неабходны тэлефон, называеш свой пароль і прозвішча — аб'ект (калі ўсё ў спраўнасці) здадзены. Такім жа макарам і здымаеш, адключаеш ад сігналізацыі. У мяне ў гэтых выпадках свая тэрміналогія: не «вазьміце на пульт», а «начапіце», не «здыміце» — «адчапіце». І дзяжурныя разумеюць.

Набіраю адзін раз тэлефон. Адтуль:

— Пульт слушает.

— Калі ласка, начапіце Курбеку...

— Какой-то пьяница звонит! — пырскаючы смехам, гаворыць (мне чуваць) суседцы «пультоўка» і кідае трубку. Пэўна ж, новая работніца.

Трошкі счакаўшы, званю «правільна» і — «начапляюся».

* * *

Сядзелі мы з Алесем Камароўскім — стол супроць стала — у адным пакоі. Вядома ж, гутаркі вяліся не толькі пра музей, пра Коласа. Часам проста жартавалі. Узбегла неяк у галаву мне — «зашыфраваць» сябра: Алесь Адамавіч Камароўскі — **Аладка**.

— Ведаеш, Алесь, хто ты?

Глядзіць падазрона на мяне. Я называю абрэвіятуру. Злёгку ўсміхнуўся і змоўк ён.

Прайшоў дзень ці два — пытаецца Алесь у мяне:

— Ведаеш, Іван, хто ты?

Падрыхтаваўся я да «здачы». Апанент выразна прамаўляе абрэвіятуру, утвораную з першых складоў майго прозвішча і імя (не Івана, а Ване).

Навучыў на сваю «галавешку»... Так і трэба ашуканцу!

А ўсур'ёз — скарочана гучу я і пішуся даволі прыстойна: ІСК — Іван Сцяпанавіч Курбека. Можна ж і так: Курбека Іван Сцяпанавіч — КІС. Мужчынскі род ад слова КІСА, што тлумачыцца — ласкавая назва кошкі. Значыць, я — кот.

* * *

На службу ў музей прыйшла дачка Данілы Канстанцінавіча Вера.
— Ну, цяпер, — кажу, — парадак будзе!
Глядзяць калегі запытальна.
— Міліцыя ўмяшалася ў наш калектыў! — тлумачу.
Спалоханыя позіркі.
— Міцкевіч Вера Данілаўна — МВД.
Усміхаюцца сябры. З часу гэтага пачалі мы новенькую зваць (за вочы) «паліцыянткай». Дачулася — не пакрыўдзілася. Зразумела жарт.
Не працуе ўжо ў нас: знайшла больш даходнае месца.

* * *

Прымаюць мяне ў Саюз пісьменнікаў. Апошняя інстанцыя. Засядаюць «радавыя» (сябры Рады). Першыя два этапы пранёсся (разгляд кніжкі на секцыі і замацаванне кандыдатуры прыёмнай — «прыемнай», як для каго! — камісіяй). Вядзе пасяджэнне Уладзімір Паўлаў, адзін з кіраўнікоў Саюза. Зачытвае адпаведныя паперы, звяртаецца да мне:
— Мы цябе, Янка, усе ведаем. Але ж падыміся і скажы пару слоў.
Падымаюся, пакручваюся ўлева, управа і гавару:
— У мяне жахлівая рэкамендацыя.
Недаўменнасць публікі.
Праясняю «загадку»:
— Рэкамендацыя ў мяне — ЖАХ!
Зноў незразумеласць.
— Жуковіч, Аўрамчык, Хвалей!
Смех у зале. Уладзімір Паўлаў доўжыць жарт:
— Жа няма. Хай адбаярваецца адзін Х.
З трох рэкамендатараў прысутнічаў Яўген Хвалей. Падняўся ён і сказаў некалькі добрых, «хвалейных» слоў у мой адрас.

* * *

Алесь Камароўскі падчас працы ў Коласавым доме (1973—1976 гады) моцна захапляўся футболам — гуляў, вёў віртуозна са стадыёна рэпартажы. Ды як — на беларускай мове! Зразумела, гэтая непаседлівасць кранала і мяне.
— Ці мог бы ты, Алесь, — пытаюся, — словам адным «забіць мяч у вароты»?
Не дадумваецца з ходу. Падказваю:
— Загаліць!
Момант гэты часам весела ўспамінаем пры сустрэчы.

* * *

Бывае, моўнае маё «жанглёрства» міжвольна пранікае і ў сферу змрочную, смяротную. Напярэдадні 13 жніўня заўсёды тэлефаную блізкім і знаёмым, клічу на ўскладанне кветак на магілу дзядзькі Якуба. Не абыходжу і адпаведныя арганізацыі, установы. Заканчваю гаворку з чалавекам на другім канцы дроту пажаданнем:
— Да сустрэчы на могілках!
— Добра, добра, — згаджаецца суразмоўца.
Адзін, памятаю, знаёмец улавіў іншасказальнасць фразы:
— Што ты, Іван! Рана яшчэ...
З таго часу пазбягаю такой «сустрэчы».

* * *

Ідзе з нас хто раней часу з работы — іншы раз смехам заўважаем (па-руску): «Ушлый (ушлая)» ці «безвременно ушедший (ушедшая)»...

* * *

Шанавалі мы, музейцы-купалаўцы, свайго дырэктара — Уладзіславу Францаўну, цёцю Уладзю. Стараліся нічым не пакрыўдзіць. Адзін раз не паслухаліся яе, падманулі. Завочна.

Блізіліся пярэбары ў новае, цяперашняе памяшканне музея, што размяшчаецца на месцы Купалавага дома, знішчанага бамбёжкай на трэці дзень фашысцкага нашэсця. А знаходзіліся мы ў падсуседзях у праўлення Саюза пісьменнікаў. У гэтым доме ў Айчынную вайну жыў гаўляйтэр Кубэ. Тут жа ён займеў і свой трагічны скон. Будынак стаяў па вуліцы Энгельса, паблізу Купалаўскага тэатра. Калі побач узвысіўся цэкаўскі гмах, быў знесены: «замінаў».

Якраз перад самым пераездам (канец 1959 года) злегла ў бальніцу Уладзіслава Францаўна. Наказвала нам падшукваць акуратных грузчыкаў (не бярвенне ці каменне перавозім — музейныя экспанаты!). Падумалі, памеркавалі. «Склаўшы ж рукі сядзець не будзем пры грузчыках-наёмніках? Перавязёмся сваімі сіламі!» Кожны з нас знайшоў для ведамасці «выканаўцу» і неўзабаве «павысіў сваё матэрыяльнае становішча».

Вяртаецца з бальніцы цёця Уладзя. Хваліць усіх за спраўныя пярэбары:

— Малайцы! Падзякуйце тым людзям ад мяне. Вы ж самі гэтак не змаглі б?..

* * *

Ох мне гэтыя бывальцы! Зачапі такога — ён і панясецца! Усіх ведае. З тым і тым сустракаўся, бываў разам у кампаніі, таго і таго выручаў з бяды. І з кожным за ручку, запанібрата...

Канец рабочага дня. Развітваюся з Аленай Міхайлаўнай, сястрой Коласа, і Міхаілам Іванавічам, яе мужам (добрых дваццаць гадоў неслі яны ахоўную службу, жывучы пры самім музеі), і выходжу з экскурсіяй, якую толькі што суправаджаў. Вучні гаманліва мераюць адлегласць паперадзе, мы — я, настаўнік і тры настаўніцы — крочым ззаду. Адчуўшы ў маёй асобе свайго чалавека, мужчына пачаў пахваляцца сустрэчамі з беларускімі пісьменнікамі. Назваў аднаго, другога.

— Калісьці я з Валодзем, — вымаўляе прозвішча вядомага майстра слова — во як! — і па-заліхвацку пстрыкае пальцам ніжэй падбародка.

Не спадабалася мне такая вольнасць балбатуна. З Валодзем... Добра, што не сказаў — з Вовам... А той Валодзя па ўзросце бацька яму.

Каб чулі каляжанкі бывальца, пытаюся, называючы пісьменніка, значна старэйшага за «Валодзю» і важнейшага:

— А з Мішам Лыньковым не даводзілася вам?.. — і паўтараю яго ж пальцавы жэст.

Рэшту дарогі адпачывалі ўсе: слова — серабро, маўчанне — золата...

* * *

Трапны жарт прыемна кожнаму пачуць. І анекдот, калі ён не вельмі «перасолены» і не абражае асобы, з якою часам звязваецца. З цікавасцю, напрыклад, мы чытаем гумарыстычныя выпадкі з жыцця вялікіх людзей у рубрыцы «Вакол славутасцей», слухаем вясёлыя здарэнні, што адбыліся з тым ці іншым чалавекам. Такое ўзвышае героя падзеі, выяўляе кемлівасць, мудрасць яго.

А бывае ж, канкрэтнай асобе прыпісваюцца неўласцівыя ягонай натуры, характару паводзіны, учынкі. Часам вярзецца яўная бязглуздзіца. У гэтым сэнсе «пашанцавала» Якубу Коласу. З лёгкай «языкатасці» ананімнага фантазёра пайшоў вандраваць праславуты ГУМаўскі анекдот. І важна, амаль кожны, хто расказвае яго, выдае сябе за сведку той «даўняй гісторыі». Калі ж не — то яму відавочца апавядаў.

Не з адным анекдотчыкам вёў я «выхаваўчую работу». Сяго-таго пераконваў, здаецца. У розных абставінах, кампаніях даводзілася чуць гэтую небыліцу і быць адрасатам запытання: «А скажыце...»

У розных абставінах... Толькі не ў музеі песняра! Прайшоўся з вучнямі па экспазіцыі. У мінорнай маўклівасці агледзелі рабочы кабінет паэта. Дзеткі дружна з другога паверха па лесвіцы пасыпаліся ўніз. Настаўнік мнецца каля мяне. Зачыняю кабінет. Бачу, нешта хоча спытаць.

— Скажыце, калі ласка, — нарэшце гаворыць ён, — праўда гэта, што ў Коласа...

Перабіваю і доўжу:

— ... у ГУМе выцягнулі...

— Ага... Во-во!, — аж засвяціўся той.

— Спадар настаўнік! — ледзь стрымліваюся, каб не ўжыць прыдатныя ў падобных момантах лексічныя адзінкі. — Спускайцеся ўніз і папрасіце прабачэння ў сваіх выхаванцаў. Скажыце: «Даруйце, мілыя дзеці, што я ў вас такі нявыхаваны. Вы ж, дарагія, не дадумаліся да такога глупства!»

У музейнага работніка, бачыце, хацеў пракансультавацца, праверыць верагоднасць выдумкі, пачуць пацвярджэнне!

Анекдотчыкам падобнага кшталту хочацца параіць: «Слухайце людзей, што мелі шчасце сустракацца з песняром!» І ў супрацоўнікаў музея можна нямала цікавага даведацца. У нас захоўваюцца рэдкія дакументы — сведчанні шырокай, чулай душы незабыўнага дзядзькі Якуба. Гэта і пісьмы ўдзячных просьбітаў, і квітанцыі да грашовых пераводаў...

А пачытайце зборнікі матэрыялаў аб жыцці і творчасці пісьменніка, выдадзеныя музеем, «Жыццё для народа» і «У сэрцы народным», унікальную кнігу Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе», выпушчаныя да 100-годдзя песняра «Успаміны пра Якуба Коласа».

Шмат даведаецеся вы пра вялікага сына зямлі Беларускай!





# МЕТРЫКА
*літаратурная*

**640**

гадоў таму нарадзіўся **Цамблак** Грыгорый (1365?—1419?), балгарскі і старажытнарускі пісьменнік, царкоўны дзеяч.

З 1409 года жыў і прапаведаваў у Кіеве. У 1414 годзе на саборы праваслаўных епіскапаў у Навагрудку быў вылучаны на пасаду мітрапаліта ВКЛ (не зацверджаны). З 1415 года з'яўляўся мітрапалітам Кіеўскім. Трохі пазней, прыкладам у 1416 годзе перанёс цэнтр мітраполіі з Кіева ў Вільню, а сваёй рэзідэнцыяй зрабіў Навагрудак.

Г. Цамблак — аўтар многіх панегірычна-дыдактычных «слоў», такіх, як «Надмагільнае слова мітрапаліту Кіпрыяну» (1409), «Пахвальнае слова патрыярху Яўфімію» (1416—17), якія былі напісаны вобразнай мовай, з метафарамі і параўнаннямі, антытэзамі... Больш за 200 зборнікаў з творамі Г. Цамблака захавалася ў бібліятэках Супрасля, Жыровіч і Вільні. Шэраг з іх беларускага паходжання. Яго казанні, «словы» і жыціі адназначна паўплывалі на развіццё беларускай аратарскай прозы.

**445**

гадоў таму у вёсцы Рысін, што на Пскоўшчыне, нарадзіўся **Рысінскі** Саламон Фёдаравіч (1560?—1625), польскі і беларускі паэт, філосаф, этнограф, педагог, вучоны-фалькларыст. Вучыўся ў Германіі ў Альтдорфскім універсітэце (1586). На пачатку XVII стагоддзя быў прыдворным паэтам князёў Радзівілаў. Выпусціў у свет «Дзве кніжкі пісьмаў Саламона Пантэра» (1587, у адным з якіх зрабіў пераклад на лацінскую мову вершаў А. Рымшы). С. Рысінскі з'яўляецца таксама аўтарам «Кароткага пераказу спраў, здзейсненых Крыштофам Радзівілам...» з вершаваным апісаннем падзей Лівонскай вайны 1558—83 гг. (Любча, 1614). Найбольш цікавае яго выданне для беларусаў — гэта зборнік «Польскія прыказкі...» (Любча, 1618, якое вытрымала восем выданняў, апошняе з якіх датуецца 1854 годам). Зборнік з'яўляецца вынікам амаль 30-гадовай збіральніцкай дзейнасці С. Рысінскага (параўнаў 1800 мясцовых беларускіх прыказак з лацінскімі, нямецкімі, італьянскімі ды іншымі выказваннямі-выслоўямі антычных і сярэдневяковых аўтараў).

**375**

гадоў таму была заснавана **Куцеінская друкарня** — цэнтр беларускага кірылічнага друкавання. Заснаваная ў 1630 годзе пры аршанскім Куцеінскім Богаяўленскім манастыры беларускім друкаром С. Собалем. З 1632 года друкарню ўзначаліў ігумен І. Труцэвіч. Друкарня карысталася падтрымкай магілёўскага і аршанскага мяшчанства. У 1655 годзе абсталяванне Куцеінскай друкарні было перавезена ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам. У ёй было выдадзена каля 20 кніг навукова-асветніцкай, царкоўна-палемічнай і свецкай літаратуры, у прыватнасці, «Буквар» (1631), «Часаслоў» (1632) Собаля, помнік перакладной беларускай літаратуры «Гісторыя пра Варлаама і Ісафа» (1637)...

Графічнае афармленне кніг Куцеінскай друкарні вылучалася (фігурныя гравюры, застаўкі) мастацкай своеасаблівасцю.

**305**

гадоў таму нарадзіўся **Ляйбовіч** Гершка (1700—1770), беларускі гравёр. Працаваў у нясвіжскай друкарні князёў Радзівілаў. Для альбома «Выява роду князёў Радзівілаў» выканаў партрэты Вайшунда (Войсцундуса І Хрысціяна), Караля Станіслава (Пане Каханку), Мікалая ІІ Радзівіла, тры экслібрысы для нясвіжскай бібліятэкі, герб Радзівілаў, а таксама награвіраваў карту Літоўскай правінцыі бернардзінцаў ды інтэр'ер Нясвіжскага касцёла езуітаў.

**210**

ці **205** гадоў таму ў Вільні нарадзіўся **Кулеша** Міхаіл (1795 або 1800—1863), беларускі графік і жывапісец. Вучыўся ў Віленскім універсітэце ў Я. Дамеля і Я. Русэма (1821—24). Быў выключаны за ўдзел у тайным таварыстве філарэтаў. Працаваў у гістарычным, батальным, пейзажным і тэатральна-дэкаратыўным мастацкіх жанрах. Яго творам уласцівы рысы рамантызму. Вызначаюцца гістарычнай дакладнасцю карціны «Атака гусараў», «Гетман», «Адпачынак салдата». Маюць сваю мастацка-пазнавальную каштоўнасць яго пейзажы, зробленыя падчас вандраванняў па Беларусі, Літве, Украіне і Расіі («Руіны замка ў Міры», «Хоцім», «Царква Барыса і Глеба на Каложы ў Гродне», «Замкі Стары і Новы ў Гродне», руіны замкаў у Троках, Крэве, Лідзе, Каўнасе, Луцку). Шэраг пейзажаў М. Кулеша выдадзены ў альбомах Лемерсье ў Парыжы і Ю. Вільчынскага ў Вільні.

**95**

гадоў таму (1910) быў створаны **Беларускі музычна-драматычны гурток** у Вільні.

Гурток праводзіў у жыццё ідэі газеты «Наша Ніва», садзейнічаў грамадска-палітычнаму адраджэнскаму руху і станаўленню прафесійнага беларускага тэатра... наладжваў вечары нацыянальнай культуры. Упершыню паставіў «Паўлінку» Я. Купалы (27.01.1913) і «Залёты» В. Дуніна-Марцінкевіча. Спектаклі ставілі Ф. Аляхновіч і А. Бурбіс. Хорам кіравалі Л. Рагоўскі, І. Шыдла, Ячыноўская. У спектаклях у розны час удзельнічалі Ян Булгак, З. Бядуля, П. Мядзёлка, Цётка, Л. і Ч. Родзевічы, С. Маркевіч...

Дзейнічаў да 1917 г.

**25**

гадоў таму (1980) быў заснаваны **Гродзенскі абласны тэатр лялек.**

У рэпертуары п'есы-казкі беларускіх аўтараў: В. і А. Вольскіх, А. Вярцінскага, С. Клімковіч. З канца 1980-х ставяцца спектаклі і для дарослых: «Як здароўе...» паводле п'есы У. Галубка «Пісаравы імяніны». Тэатр удзельнічаў у фестывалях тэатраў лялек Беларусі (1981, 1983, 1986) і міжнародным у Мінску (1993) — спектакль «Тутэйшыя» Я. Купалы.

## ЛІСТАПАД

— **100** гадоў з дня нараджэння **Падабеда** Язэпа Тодаравіча (1905—?), беларускага паэта. Нарадзіўся ён у вёсцы Ванікоўшчына пад Пухавічамі. Бацькі былі сялянамі. У 1925 годзе Я. Падабед скончыў Белпедтэхнікум. Працаваў у рэдакцыі акруговай газеты ў Клімавічах. Быў членам «Маладняка», дэлегатам яго І з'езду. Прымаў актыўны ўдзел у працы Калінінскай філіі гэтай літаратурнай арганізацыі — уваходзіў у прэзідыум філіі і рэдкалегію альманаха «Маладняк Калініншчыны». На жаль, далейшы лёс паэта не высветлены.

Паводле «маладнякоўскіх» анкет, пісаць вершы Я. Падабед пачаў у 1923 годзе. Першай яго публікацыяй лічыцца верш у газеце «Піянер Беларусі» (1924).

Нізкі вершаў Я. Падабеда з'яўляліся таксама на старонках часопісаў «Маладняк» і «Полымя». Да 1928 года выступаў у рэспубліканскім друку з рэцэнзіямі і артыкуламі. Асобнае выданне яго твораў пабачыла свет у 1926 годзе («Вершы», кніжніца «Маладняка»). Яго тэксты былі пераважна грамадзянскай тэматыкі і насілі даволі дэкларатыўны характар.

Відаць, адчуваючы набліжэнне рэпрэсій, пакінуў небяспечны літаратурны занятак і змяніў месца жыхарства. У 50—60-х гадах, верагодна, жыў у Брэсце ці Брэсцкай вобласці, бо ў 1958—61 гадах некалькі вершаў пад яго прозвішчам было змешчана ў абласной газеце «Заря».

**1**

— **80** гадоў з дня нараджэння **Каліны** (сапраўднае прозвішча Лукашэвіч) Клаўдзіі Канстанцінаўны (1925—1994), беларускай пісьменніцы.

Нарадзілася ў Брэсцкім раёне ў сям'і вясковых настаўнікаў. У 1932—39 гадах вучылася ў польскай сямігадовай школе, а пасля вызвалення Заходняй Беларусі працягвала вучобу ў Чарнаўчыцкай сярэдняй школе. У 1953 годзе скончыла Брэсцкае музычнае вучылішча. Працавала інструктарам мастацкай самадзейнасці ў Брэсцкім доме афіцэраў (1954—56), настаўніцай спеваў і выкладчыцай у музычнай школе № 1 горада Кобрына, настаўніцай спеваў у СШ № 3 горада Віцебска. З 1960 года — у Мінску. Да 1971 года працавала ў сталічных школах, пасля — на творчай рабоце.

Пісаць і друкавацца пачала з 1962 года. Першае апавяданне «Калючы госць» было змешчана ў часопісе «Вясёлка». Для дзяцей школьнага ўзросту выдала кнігі «Хлопчык-пакідайчык» і «Каляровыя месяцы». Аповесць «Забароненая песня» напісана па матывах жыцця заходнебеларускай вёскі. У яе творах найчасцей уздымаюцца маральна-этычныя праблемы сучаснасці («Маці і сын», «Світанне»).

К. Каліна таксама аўтар кніг «Бабуля Насця, дзед Адам, Петрык і каза Рагуля» (1985), «Крылаты конь» (1989).

**2**

— **75** гадоў з дня нараджэння **Баршчэўскага** Аляксандра Андрэевіча (псеўд. Андрэй Барскі), беларускага паэта, літаратуразнаўца, публіцыста, перакладчыка, фалькларыста, педагога, грамадска-культурнага дзеяча. Нарадзіўся ён у 1930 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсцы Бандары на Беласточчыне (Польшча). Вучыўся ў сельскагаспадарчай школе ў Бельску-Падляскім, а таксама на універсітэцкіх падрыхтоўчых курсах у Любліне. Скончыў Лодзінскі універсітэт (1955). Абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. З 1956 года — на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Актывіст Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Майстар публіцыстыкі. Апублікаваў цікавы нарыс пра свае вандроўкі ў СССР, ЗША і Англію.

У друку выступае з 1956 года. Адзін з вядучых прадстаўнікоў беларускай літаратуры ў Польшчы. Вершы пачаў пісаць у 1956 годзе. Аўтар паэтычных кніг «Белавежскія матывы», «Жнівень слоў», «Мой бераг», «Лірычны пульс», «Кругавая чара»... Вернасць родным караням, няпрості духоўны свет сучаснага чалавека, інтымныя пачуцці — вось найбольш адметныя тэмы яго лірыкі. Паэзія А. Барскага насычана экспрэсіўнасцю і метафарычнасцю. Ён аўтар драматычных і празаічных твораў, а таксама падручнікаў для студэнтаў. Даследуе фальклор Беласточчыны. Займаецца перакладамі з беларускай, рускай і ўкраінскай моў. Сябра Саюза беларускіх і Саюза польскіх пісьменнікаў.

**3**

— **115** гадоў з дня нараджэння **Пушкарэвіча** Канстанціна Аляксеевіча (1890—1942), беларускага гісторыка літаратуры, перакладчыка, славіста-педагога. Нарадзіўся ў Слоніме ў сям'і селяніна, які любіў і ведаў народную творчасць. У 1902 годзе паступіў у Гродзенскую гімназію і скончыў яе поўны курс са срэб-

ным медалём (1912). Удзельнічаў у працы Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. У 1912 годзе стаў студэнтам славянскага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, дзе быў адным з заснавальнікаў Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў. Скончыў універсітэт у 1917 годзе. Быў пакінуты на кафедры для падрыхтоўкі да прафесарскага звання. Выкладаў славянскую філалогію ў Томскім універсітэце (1919—22). З 1925 года выкладаў у Ленінградскім універсітэце і бесперапынна працаваў там да канца свайго жыцця. У 1940 годзе абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Чэхі ў Расіі». У 1941 годзе стаў загадчыкам кафедры славянскай філалогіі. Памёр ад дыстрафіі ў блакадным Ленінградзе. Пісаў па-руску.

У лекцыях, якія ён чытаў, было адведзена значнае месца прадстаўнікам беларускай літаратуры — Я. Купалу, творчасцю якога К. Пушкарэвіч вельмі захапляўся, Я. Коласу, Ц.Гартнаму, З. Бядулю, М. Зарэцкаму ды іншым. Працягваючы традыцыі Б. Эпімах-Шыпілы і Я. Карскага, ён з цеплынёй і ўвагай апекаваўся студэнтамі-беларусамі, утварыў з іх гурток аматараў беларускай літаратуры.

**8**

— **115** гадоў з дня нараджэння **Пачопкі** Янкі (Івана Пятровіча; 1890—1977), беларускага паэта, празаіка, фалькларыста. Нарадзіўся ў вёсцы Летнікі на Глыбоччыне ў сям'і лесніка. У 1913 годзе скончыў Варанецкую сельскагаспадарчую школу. Працаваў у дэпартаменце земляробства Віцебскай губерні. Быў рэдактарам двухтыднёвіка «Праваслаўны беларус» (1925), які выдаваўся ў Варшаве. Працаваў аграномам (1939—58). Літаратурную працу пачаў з вершаў. Першы верш «Дудар» выдрукаваны ў «Нашай ніве» (1913). Пісаў таксама прозу. Першае апавяданне «Злы лёс» было надрукавана ў газеце «Савецкая Беларусь» (1921). Я. Пачопка збіраў і запісваў народныя казкі і паданні, з якіх пасля нарадзілася кніжка «Народная казка з Дзісеншчыны». Друкаваў свае творы ў дзіцячых часопісах «Заранка» і «Пралескі», у часопісах «Маланка» і «Калоссе». У 20-х гадах выйшлі яго брашуры на сельскагаспадарчыя тэмы: «Малочная карова: як яе выбраць, карміць і даглядаць», «Гародніцтва: як трэба гаспадарыць на гародзе, каб мець добрае варыва», «Як выбраць добрага каня», «Пчолы і як вадзіць іх у рамовых вуллях». Я. Пачопка быў блізкім сябрам знакамітага мастака Я. Драздовіча, які зрабіў яго разны партрэт і малюнкі да кнігі «Пчолы...»

**11**

— **130** гадоў з дня нараджэння **Паўловіча** Альберта Францавіча (1875—1951), беларускага паэта-гумарыста, драматурга.

Нарадзіўся ў Мінску ў мяшчанскай сям'і. Скончыў Мінскае чатырохкласнае гарадское вучылішча. Працаваў канторшчыкам у бухгалтэрыі на чыгунцы, пасля бухгалтарам. З 1932 па 1941 год жыў у Маскве. Ад пачатку вайны да 1945 года — на Урале. З 1945 года да канца жыцця — у Курску, дзе і пахаваны на Маскоўскіх могілках.

Першым творам быў верш «Песня», апублікаваны ў «Нашай ніве» (1907). У 1910 годзе ў выдавецтве «Палачанін» выйшаў зборнік яго твораў «Снапок». Рукапіс другога зборніка гумарыстычных вершаў «Перавясла», які меўся выйсці ў Берліне, быў згублены і ніколі не пабачыў свету. А. Паўловіч быў у блізкіх адносінах з Я. Коласам, З. Бядулем, М. Багдановічам. Асабліва цеснае сяброўства звязвала яго з Я. Купалам.

Ён аўтар літаратуразнаўчых і мастацтвазнаўчых артыкулаў. Перакладаў з рускай, украінскай, польскай, літоўскай і кітайскай моў. Апрача літаратуры, займаўся жывапісам і вышываннем дываноў.

**11**

— **50** гадоў з дня нараджэння (1955) **Тычкі** Галіны Казіміраўны, беларускага крытыка, літаратуразнаўца.

Нарадзілася ў вёсцы Сташулі на Міёршчыне ў сялянскай сям'і. У 1973 годзе паступіла на філалагічны факультэт БДУ. Пасля яго заканчэння працавала настаўніцай на Шклоўшчыне, а ў 1979 годзе была залічана перакладчыцай польскай мовы ў Бюро міжнароднага турызму моладзі «Спутнік». З 1983 года завочна займалася ў аспірантуры. З 1987 года — супрацоўніца аддзела крытыкі штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1993 года — у рэдакцыі часопіса «Полымя». Цяпер выкладае на факультэце журналістыкі БДУ.

Пачынала з вершаў, адзін з якіх у дваццацігадовым узросце надрукавала ў газеце «Чырвоная змена». Аднак крытыка пераважыла. Аўтар шматлікіх рэцэнзій, артыкулаў і манаграфій па праблемах савецкай і сучаснай беларускай літаратуры.

**12**

— **120** гадоў з дня нараджэння **Грамыкі** Міхайлы (Міхаіла) Аляксандравіча (1885—1969), беларускага празаіка, паэта, вучонага-геолага.

Нарадзіўся ў вёсцы Чорнае пад Рэчыцай у сям'і разначынца. Пасля заканчэння гімназіі паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта, праз пэўны час перавёўшыся на прыродазнаўчае аддзяленне. Настаўнічаў у Адэсе. У 1921 годзе пераехаў у Мінск. Выкладаў геалогію і мінералогію ў Белпедтэхнікуме і БДУ, з дня заснавання працаваў у Інбелкульце. Адным з першых прымаў удзел у пошуках нафты на Палессі. У 1930 годзе быў беспадстаўна арыштаваны і сасланы на пяць гадоў у Іванава. Пасля ссылкі пераехаў з сям'ёй у Мурманскую вобласць, дзе працаваў у горным тэхнікуме, а падчас вайны ва Удмурцкім педінстытуце. Пасля вайны вярнуўся зноў у горны тэхнікум у Кіраўску, што пад Мурманскам. Апошнія гады жыў у Хімках пад Масквой.

Пісаў вершы, невялікія апавяданні і навелы, якія друкаваліся ў маскоўскім і адэскім друку. Першай паспяховай спробай пісаць па-беларуску была п'еса «Змітрок з Высокай Буды» (1918). Займаўся і фармальнымі эксперыментамі (паэма «Гвалт над формай»). Аўтар кніжак «Плынь» і «Дзве паэмы», п'ес «Скарынін сын з Полацка», «Каля тэрасы», «Над Нёманам», «Віно бушуе», «Воўк» і зборніка твораў «Выбранае» (1967).

**12**

— **85** гадоў з дня нараджэння **Макаёнка** Андрэя Ягоравіча (1920—1982), беларускага драматурга, народнага пісьменніка Беларусі.

Нарадзіўся ў вёсцы Борхаў на Рагачоўшчыне ў сялянскай сям'і. Скончыўшы Журавіцкую сярэднюю школу, паступіў у ваеннае вучылішча, але прыняць вайсковыя парадкі не здолеў і вярнуўся на радзіму. Працаваў у раённым Доме культуры, служыў на Каўказе ў радах Чырвонай Арміі. Падчас вайны ваяваў у Крыме, быў цяжка паранены. Лячыўся ў шпіталях Краснадара і Баку. Быў спісаны ў запас. Працаваў настаўнікам у Грузіі, а пасля вайны вярнуўся на бацькаўшчыну і выкладаў у Журавіцкай школе. Быў сакратаром гаркама камсамола ў Гродна. У 1947 годзе стаў слухачом Рэспубліканскай партыйнай школы пры ЦК КП(б)Б, пасля заканчэння якой быў накіраваны загадчыкам аддзела прозы ў часопіс «Вожык». Быў сакратаром партбюро і кансультантам СП БССР. У 1966 годзе ўзначаліў часопіс «Неман». Мае шмат узнагарод.

Упершыню выступіў у друку ў 1946 годзе з аднаактовай п'есай «Добра, калі добра канчаецца». Першая п'еса, якую паставіў тэатр імя Я. Купалы, называлася «На досвітку» (1951). Аўтар шматлікіх папулярных у савецкі час п'ес: «Выбачайце, калі ласка!», «Каб людзі не журыліся», «Лявоніха на арбіце», «Зацюканы апостал», «Трыбунал», «Таблетку пад язык»...

Лаўрэт Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1974) і Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1962). Народны пісьменнік Беларусі (1977). Яго імем названы вуліцы ў Гомелі і Мінску.

**14**

— **105** гадоў з дня нараджэння **Чарнушэвіча** Нічыпара Фёдаравіча (1900—1967), беларускага пісьменніка. Нарадзіўся ў Капылі ў беднай сялянскай сям'і. У 1922—28 гг. вучыўся на гістарычным факультэце БДУ. Быў членам літаратурнага аб'яднання «Маладняк». Рэдагаваў орган беларускага студэнцтва «Голас студэнта». Улетку 1930 года быў арыштаваны і асуджаны на пяць гадоў ссылкі ў Вятку. Працаваў там у мясцовай газеце. Пасля настаўнічаў у школах Масквы. Падчас вайны быў эвакуіраваны ў Цюмень, працаваў у газеце. З 1947 года жыў у Мінску. Працаваў у розных месцах, у тым ліку і ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве і на Беларускім радыё. Працяглы час хварэў (з 1930) на сухоты.

Першыя вершы надрукаваў у 1923 годзе. Друкаваўся ў часопісах «Полымя», «Маладняк», газеце «Савецкая Беларусь». Аўтар вершаваных зборнікаў «Дзіва», «Нясу надзею», «Гаворка дум», а таксама п'есаў «Шукальнік вышыні», «Сям'я доктара Чыверса» і кінааповесці «Арсенал пачуццяў». Займаўся перакладам на беларускую твораў з рускай, украінскай і яўрэйскай моў.

**14**

— **100** гадоў з дня нараджэння **Васілька** Міхася (сапр. Касцевіч Міхаіл Восіпавіч; 1905 — 1960), беларускага паэта. Нарадзіўся ў вёсцы Баброўня, што непадалёк ад Гродна, у сям'і лесніка. Да 1922 года жыў з бацькамі ў Паволжжы, хаваючыся ад сусветнай вайны. Там і скончыў школу. Вярнуўшыся на Радзіму, уступіў у Беларускую сялянска-рабочую грамаду і стаў яе актыўным прапагандыстам на Скідальшчыне. Сябраваў з мясцовым паэтам П. Сеўруком і меў добрае знаёмства з выдатнымі культурнымі дзеячамі І. Дварчанінам і Р. Шырмай, якія апекаваліся яго талентам. Арганізоўваў гурткі Таварыства беларускай школы. Служыў у польскім войску (1926—28). У 1939 годзе ўдзельнічаў у польска-нямецкай вайне. Трапіўшы ў палон, нечакана спаткаўся там з пісьменнікам Я. Брылём. У жніўні 1941 года ўцёк з палону і наладзіў падпольную антыфашысцкую работу на Скідальшчыне. Быў у партызанах. Пасля вайны працаваў у скідальскай раённай газеце, а пасля — у «Гродзенскай праўдзе».

Выступаць у друку з вершамі і карэспандэнцыямі пачаў з 1926 года ў радыкальных віленскіх выданнях. Сябраваў з В.Таўлаем і М.Танкам. Выступаў супраць эстэцкай кволасці і апалітычнасці ў заходнебеларускай паэзіі. Выдаў у Вільні зборнік грамадзянскай лірыкі «Шум баравы» (1929, канфіскаваны польскімі ўладамі). Яго вершы «Як я пана перанёс» і «У бой на акупанта» ўвайшлі ў масавы абыходак у Заходняй Беларусі як праграмныя творы вызваленчага руху. Апошняе па часе выданне — «Вершы» (1973, у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі»).

Ганаровы грамадзянін Гродна.

**16**

— **100** гадоў з дня нараджэння **Скрыгана** Яна (Івана Аляксеевіча; 1905—1992), беларускага празаіка, паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Труханавічы на Капыльшчыне. Вучыўся ў мясцовай царкоўнапрыходскай школе і ў Беларускай гімназіі, а потым сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Слуцку. Працаваў у слуцкай акруговай газеце. Пасля працаваў у Расонах і ў рэдакцыі газеты «Чырвоная Полаччына». У 1928 годзе паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ. Быў членам «Маладняка». Пасля універсітэта працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» (1932—36). У 1936 годзе Я. Скрыган быў беспадстаўна арыштаваны за «контррэвалюцыйную дзейнасць» і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Адбываў тэрмін у Сібіры. У 1946 годзе вызвалены з пяцігадовым паражэннем у правах. Працаваў бухгалтарам у Фергане і ў Эстоніі. У 1949 зноў быў арыштаваны і высланы ў Сібір. У 1954 годзе ўсе абвінавачанні былі зняты, а ён поўнасцю рэабілітаваны.

Вярнуўшыся ў Мінск, актыўна ўключыўся ў творчую работу. Працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР (1955—59), літкансультантам у СП Беларусі

(1959), намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» (1959—67), у БелСЭ, адказным сакратаром па Дзяржаўных прэміях (1975—85).

Літаратурную дзейнасць пачаў з вершаў у 1925 годзе. Першае апавяданне «Таіса» напісаў у 1927 годзе. Выдаў кнігі: «Затока ў бурах», «Сустрэчы», «Апавяданні», «Наталя», «Скажы адно слова», «Свая аповесць», «Ранішнія росы», «Некалькі хвілін чужога жыцця», «Кругі».

Пераклаў на беларускую мову паасобныя творы І. Буніна, М. Горкага, К. Федзіна, а таксама шматлікія творы ўкраінскіх, літоўскіх, латышскіх і эстонскіх аўтараў. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1985). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1976).

**16**

— **80** гадоў з дня нараджэння (1925) **Акулы** Кастуся (сапр. Качан Аляксандр Ігнатавіч), беларускага пісьменніка, журналіста. Нарадзіўся ў вёсцы Верацеі пад Докшыцамі ў вялікай сялянскай сям'і. Бацька пісьменніка ў 1951 годзе быў рэпрэсіраваны і загінуў у сталінскіх лагерах. К. Акула вучыўся ў польскай школе і савецкай дзесяцігодцы. Захапіў і восьмы клас Віленскай беларускай гімназіі. У 1943 годзе ў Мінску, трапіўшы ў аблаву, чатыры месяцы прасядзеў у турме. У жніўні 1944 года апынуўся ў Францыі і ўліўся ў рады Супраціўлення. Са снежня таго ж года ў Італіі ваяваў у 2-м польскім корпусе Брытанскай 8-й арміі. Да канца вайны ўдзельнічаў у ваенных аперацыях супраць фашыстаў, за што ўзнагароджаны медалём «За вайну» і Залатой Зоркай Італіі. У 1947 годзе выехаў на жыццё ў Канаду. Працаваў на ферме, пасля перабраўся ў Таронта. Быў першым старшынёй Згуртавання беларусаў Канады. Працаваў на вытворчых прадпрыемствах кампаніі «М. Фэргюсан». З 1990 года на пенсіі.

К. Акула — аўтар аповесці «Змагарныя дарогі», трылогіі «Гараватка», зборніка «Усякая ўсячына»... Напісаў раман на англійскай мове «Заўтра ёсць учора». Друкаваўся таксама ў рускамоўных часопісах «Современник» (Таронта) і «Континент» (Парыж).

**17**

— **110** гадоў з дня нараджэння **Платнера** Ісака (Айзіка Хаімавіча; 1895—1961), беларускага паэта, празаіка. Нарадзіўся ў польскім гарадку Сокалаў-Падляскі ў сям'і краўца. Сам таксама працаваў краўцом у розных майстэрнях гэтага ж гарадка (да 1915 года), а пасля — на швейнай фабрыцы ў Літве. У 1918 годзе эмігрыраваў у ЗША, дзе працаваў па той жа спецыяльнасці да 1923 года. Скончыў там яўрэйскую настаўніцкую семінарыю (1927). Настаўнічаў. Быў літсупрацоўнікам у нью-йоркскай камуністычнай газеце. У 1932 годзе пераехаў у СССР. Працаваў у Беларускім радыёкамітэце і ў газеце «Октобэр». У гады вайны быў у эвакуацыі ў Мардовіі. У 1944 годзе вярнуўся ў Мінск. У 1949 незаконна рэпрэсіраваны і ў 1950 годзе асуджаны на 25 гадоў лагернага рэжыму. У 1956 годзе рэабілітаваны і вярнуўся ў Мінск.

Першыя вершы з'явіліся ў яўрэйскім друку Польшчы ў 1918 годзе. У 1930 годзе ў Нью-Йорку выйшла першая кніжка «Пра што расказвае дзень». На працягу 30-х гадоў у Мінску выйшла некалькі вершаваных зборнікаў І. Платнера і кніжка прозы. У перакладзе на беларускую мову выйшлі зборнікі «Сваёй краіне», «Соль жыцця», «Дар сэрца». Пісаў таксама вершы для дзяцей і займаўся перакладам з нямецкай і англійскай моў. Асобнымі выданнямі яго творы выходзілі ў перакладах на рускую і балгарскую мовы.

Пісаў І. Платнер на яўрэйскай і беларускай мовах.

**17**

— **80** гадоў з дня нараджэння **Ясючэні** Уладзіміра Мікалаевіча (псеўд. Б. Каліна; 1925—1945), беларускага паэта. Нарадзіўся ў вёсцы Станькі на Капыль-

шчыне ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў мясцовай школе. Пасля вызвалення Беларусі быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Загінуў у баях на рацэ Одэр. На вайне загінулі і два родныя браты паэта. Узнагароджаны ордэнам Славы 3-й ступені.

У. Ясючэня пераважна пісаў для дзяцей. Першыя яго вершы былі надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі». Аднак мацнейшымі ў яго творчасці з'яўляюцца вершы лірычнага складу, прысвечаныя роднай прыродзе і юначаму каханню. Спрабаваў пісаць і прозу. Асобных выданняў яго твораў няма. Нізкі вершаў друкаваліся ў «ЛіМе» (1971) і «Дні паэзіі—80».

**18**

— **80** гадоў таму (1925) выйшла ў свет **«Беларуская ніва»**, газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, неафіцыйны орган Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выдавалася ў Вільні да канца 1926 г.

**20**

— **75** гадоў з дня нараджэння (1930) **Ігнаценкі** Рыгора Канстанцінавіча, беларускага празаіка. Нарадзіўся ў вёсцы Вусаўка Касцюковіцкага раёна ў сялянскай сям'і. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. У 1941 годзе быў эвакуіраваны ва Узбекістан. У 1945 годзе вярнуўся на Радзіму, у той самы дзіцячы дом. Вучыўся ў рамесным вучылішчы. Працаваў слесарам. Служыў у войску. Завочна скончыў у Мінску Рэспубліканскія курсы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. Працаваў у дзіцячых дамах настаўнікам музыкі і спеваў. У 1980 годзе скончыў Народны універсітэт мастацтваў у Маскве (музычны факультэт).

Друкавацца пачаў з 1961 года. У 1964 годзе выйшаў першы зборнік апавяданняў «Лясныя тынкоўшчыкі». Пазней выйшлі кніжкі «Урок у лесе», «Ластаўчына затока» ды іншыя.

**21**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Судніка** Міхаіла Раманавіча (1910—1995), беларускага мовазнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**23**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Астапенкі** Змітрака (Дзмітрыя Емяльянавіча; 1910—1944), беларускага паэта. Нарадзіўся ў вёсцы Калеснікі пад Мсціслаўлем у сям'і настаўніка. У 1929 годзе скончыў Мсціслаўскі педтэхнікум. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет. Пасля жыў у Маскве і працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў школе. У 1936 годзе быў беспадстаўна абвінавачаны і асуджаны на восем гадоў няволі. На пачатку вайны збег з лагера на фронт. Загінуў у баі ў Карпатах.

Першыя вершы надрукаваў у 1926 годзе. Выйшлі кніжкі «На ўсход сонца» (1931), «Краіне» (1931), «Абураныя» (1932) і «Трактар» (1933). Зборнік вершаў «Як шум дажджу» з друку не выйшаў, застаўся ў карэктурным адбітку. Падчас вайны напісаў найбольш значныя свае творы — цыкл вершаў «Спаленыя вёскі» і паэму «Эдэм», якую крытыкі ставяць у адзін рад з лепшымі паэмамі часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Час ад часу яго лірыка перавыдаецца («Выбранае», 1957, «Вершы і паэмы», 1968, «Бібліятэка беларускай паэзіі»).

**23**

— **95** гадоў з дня нараджэння **Міронава** Аляксандра Яўгенавіча (1910—1992), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі. Пісаў на рускай мове. Нарадзіўся ў Оршы ў сям'і чыгуначніка. Скончыўшы сямігодку, вучыўся на агульнаадукацыйных курсах у Мінску. Працаваў рабочым, а ў 1930 годзе — рэпарцёрам рэспубліканскай газеты «Звязда». Аднак цягнула да сябе мора,

і ён паехаў у Архангельск і ўладкаваўся матросам 1-га класа гандлёвага флоту. Плаваў на суднах «Малыгін», «Валадарскі», «Смідовіч», «Чэлюскін». Удзельнічаў у чэлюскінскай эпапеі (1933—34). Некаторы час працаваў у газетах «Правда Севера» і «Моряк Севера». Падчас вайны служыў на Паўночным флоце камандзірам баявога карабля. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Мінск і зноў працаваў карэспандэнтам газеты «Звязда» (1946—47). Быў таксама адказным сакратаром альманаха «Советская Отчизна» (будучы часопіс «Неман») і начальнікам сцэнарнага аддзела кінастудыі «Беларусьфільм» (1947—50).

Узнагароджаны многімі ордэнамі, медалямі і Ганаровымі граматамі.

Друкавацца пачаў з 1930 года ( у беларускім друку з 1934). Пісаў нарысы, апавяданні, раманы, аповесці і п'есы, а таксама творы для дзяцей. Выдаў кніжкі: «Крепость во льдах», «Далеко на Севере», «Сын докера», «Корабли выходят в океан», «Только море вокруг», «Ледовая Одиссея», «Коса на камень», «...Не поле перейти»... Напісаў кнігу ўспамінаў пра пісьменніка Янку Маўра «Дед Мавр».

**26**

— **75** гадоў з дня нараджэння **Караткевіча** Уладзіміра Сямёнавіча (1930—1984), беларускага паэта, празаіка, драматурга, публіцыста, перакладчыка, кінасцэнарыста.

Адзін з апошніх і найбольш выбітных класікаў нацыянальнай беларускай літаратуры нарадзіўся ў горадзе Орша ў сям'і патомных інтэлігентаў. Падчас вайны, будучы ў гасцях у сястры, згубіў бацькоў і знайшоў іх у Арэнбургу. Там скончыў шосты клас. Пасля трапіў у вызвалены Кіеў да цёткі. У 1944 годзе вярнуўся з бацькамі ў Оршу. У 1949—54 гадах вучыўся на філалагічным факультэце Кіеўскага універсітэта. На пачатку 50-х свае раннія спробы пяра даслаў для ацэнкі самому Я. Коласу. З адзнакай скончыўшы універсітэт, пачаў пісаць кандыдацкую дысертацыю пра паўстанне 1863 года. Працаваў настаўнікам, на Кіеўшчыне (1954—56). Пасля настаўнічаў у роднай Оршы (1956—58). Скончыў у Маскве Вышэйшыя літаратурныя (1960), а пасля і сцэнарныя курсы (1962). З 1963 года — у Мінску. Па натуры быў вандроўнікам, шмат падарожнічаў па Беларусі і за яе межамі, два разы быў у Польшчы, тры — у Чэхаславакіі.

Першыя вершы надрукаваў у 1951 годзе ў аршанскай раённай газеце. Найбольш значныя яго творы: паэтычныя зборнікі «Матчына душа», «Вячэрнія ветразі», «Мая Іліяда» і пасмяротны «Быў. Ёсць. Буду», а таксама празаічныя кніжкі «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенія», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Зямля пад белымі крыламі», «Вока тайфуна», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «З вякоў мінулых» (1978, Бібліятэка беларускай прозы), «Выбраныя творы» ( у двух тамах, 1980), «Збор твораў» (у васьмі тамах, 1987—91).

Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1983, раман «Нельга забыць») і Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1984, «Чорны замак Альшанскі», пасмяротна).

***Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.***



## *Паважаныя чытачы!*

*Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва», якая выпускае часопіс «Полымя», з-за аб'ектыўных прычын не пастаўляе свае выданні ў кіёскі і магазіны УП «Белсаюздрук» у абласцях. Таму раім чытачам і аўтарам афармляць падпіску ў паштовых аддзяленнях сувязі. А падпісныя цэны на «Полымя» наступныя:*

***індывідуальная (індэкс — 74985) на 1 месяц — 3500 руб., на 3 месяцы — 10500 руб.; ведамасная (індэкс — 749852) на 1 месяц — 4500 руб., на 3 месяцы – 13500 руб.; льготная (індэкс – 00727) на 1 месяц – 3700, на 6 месяцаў — 22200 руб.***

*У Мінску часопіс «Полымя» можна купіць як у кіёсках, так і ў магазінах УП «Мінгарсаюздрук». Нерэалізаваныя праз кіёскі і магазіны горада выданні пасля двух месяцаў з даты выхаду перадаюцца ў магазіны па наступных адрасах:*
*№ 3 — пр. Незалежнасці, 76, тэл. 232-46-23;*
*№ 8 — вул. Сурганава, 40, тэл. 232-45-10;*
*№ 15 — вул. М.Танка, 16, тэл. 284-31-06;*
*№ 18 — падземны пераход на пл. Перамогі, тэл.284-31-06*

*Нагадаем, што ў выпадку неабходнасці ўдакладніць наяўнасць патрэбных вам нумароў часопіса ў гандлёвых прадпрыемствах УП «Мінгарсаюздрук» або заказаць іх можна зноў жа праз магазін № 18 (тэл. 284-31-06) ці праз дыспетчара «Мінгарсаюздруку».*



***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

---

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 31.10.05 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 21,0. Ул.-выд. арк. 20,44. Тыраж 3196 экз. Зак. 2769.

---

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

*Анатоль Вялюгін*







*Настаўнік і вучні. З Якубам Коласам Іван Грамовіч, Іван Шамякін, Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Янка Брыль, Аляксей Русецкі, Мікола Аўрамчык. 1949 г.*



*Кандрат Крапіва, Анатоль Вялюгін, Пімен Панчанка.*



*На гары Чарнечай у Каневе. Анатоль Вялюгін, Янка Брыль, Рыгор Няхай. 1955 г.*

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 00141

Языкознание

# Чытайце ў наступным нумары:

Уладзімір Мазго
Віктар Ярац
Алена Багамолава
Вершы

Таіса Бондар
Гульня ў падкіднога
Раман (заканчэнне)

Іван Шамякін
З дзённікаў

Аляксей Ненадавец
Тэма палявання
ў творчасці У. Караткевіча

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068